*УДК 947.6*
*ББК 63.3(4Беи)*




*Гарадзенскі палімпсест 2012 – гэта чарговая кніга ГАРАДЗЕНСКАЙ БІБЛІЯТЭКІ. ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА – гэта яшчэ адзін напамін гарадзенцам, што лёс горада ў іх руках. Толькі агульнымі намаганнямі мы здолеем перанесці ў наступныя стагоддзі непаўторнасць гістарычнай Гародні, зберагчы яе ўнікальнасць для нашчадкаў.*

*ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА прысвячаецца той Гародні, якой мы можам ганарыцца.*

*Дзякуй усім, хто з намі.*

---

**Каардынатар кніжнай серыі**
**“ГАРАДЗЕНСКАЯ БІБЛІЯТЭКА”:**
Павал Мажэйка

**Ідэя серыі:** Эдвард Дмухоўскі

---

РЭЦЭНЗЕНТЫ:
Доктар гістарычных навук А.К.Краўцэвіч
Доктар гістарычных навук З.В.Шыбека

Гарадзенскі палімпсест 2012. Людзі даўняй Гародні. XV – XX стст. / Пад рэд. А.Ф.Смаленчука, Н.У.Сліж. - .........: ........, 2013. - ..... с. […. іл. ]

Матэрыялы чарговага зборніка “Гарадзенскі палімпсест” прысвечаныя вывучэнню мінулага Гродна як феномена лакальнай гісторыі. У цэнтры даследчай увагі апынуліся сацыяльныя адносіны ў выразным антрапалагічным кантэксце. Тэксты зборніка значна пашыраюць далягляды беларускай гістарычнай урбаністыкі.
Кніга адрасаваная ўсім, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі.

**Графічная апрацоўка і вёрстка:** Іван Паўлёнак
**Вокладка:**

ISBN

Друкарня: ZAKŁAD GRAFICZNY “COLONEL”S.A., Kraków



Памяці беларускага археолага і гісторыка
Міхася Ткачова (1942–1992) прысвячаецца

# ЗМЕСТ

**Крыніцы**



**Нататкі даследчыка**

# Прадмова

На працягу пяці гадоў (2008-2012) "Гарадзенскі палімпсест" аднаўляў знішчаныя часам і людзьмі старонкі гісторыі горада над Нёманам. Вынікам працы, якая вялася амаль цалкам на грамадскіх пачатках, сталіся штогадовыя гродзенскія лістападаўскія навуковыя канферэнцыі і зборнікі матэрыялаў, што атрымалі высокую ацэнку даследчыкаў з Беларусі, Літвы і Польшчы.

Нагадаю, што ў межах навуковага праекту "Гарадзенскі палімпсест" раней былі апублікаваныя наступныя зборнікі

• Гарадзенскі палімпсест. XII–XX стст. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Горадня. 7 лістапада 2008 г.) // Пад рэд. А.Ф.Смаленчука, Н.У.Сліж. Горадня-Беласток, 2008;

• Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV–XX стст. // Пад рэд. А.Ф.Смаленчука, Н.У.Сліж. Горадня, 2009;

• Гарадзенскі палімпсест. 2010. Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры, XVI–XX стст. // Пад рэд. А.Ф.Смаленчука, Н.У.Сліж. Мінск: Зміцер Колас, 2011.

• Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства дзяржава. XV-XX стст. // Пад рэд. А.Ф.Смаленчука, Н.У.Сліж. Мінск: Зміцер Колас, 2012

Пятая кніга "Палімпсеста"датычыць пераважна падзеяў сацыяльнай гісторыі горада. Яна складаецца ў асноўным з матэрыялаў міжнароднай навуковай канферэнцыі "Гарадзенскі палімпсест – V: людзі даўняй Гародні" (Гродна, 3–4 лістапада 2012 г.), прысвечанай памяці гісторыка і археолага Міхася Ткачова (1942-1992).

Тэксты раздзелу *Гарадзеншчына і гарадзенцы ў эпоху Вялікага Княства Літоўскага* рэдагавала Наталля Сліж (пры ўдзеле А.Смаленчука). Матэрыялы раздзелу *Горад і яго жыхары ў XIX - XX стст.* рыхтаваў да друку Алесь Смалянчук. Таксама друкуюцца гістарычныя дакументы і нататкі Збігнева Ендрыхоўскага пра даследчую працу ў Беларусі.

Межы Гарадзенскага рэгіёну ў другой палове XIII – XIV ст. атрымалі асвятленне ў артыкуле Алега Ліцкевіча (Мінск). З роляй Гародні ў палітычным жыцці ВКЛ XIV – XV стст. знаёміць чытача Ян Тэнгоўскі (Беласток). Вядомы беларускі гісторык Алег Латышонак (Беласток) паставіў пад сумніў слоган "Гродна – горад святога Губерта". Ягоны рэферат, прысвечаны культу святога Амерыка Венгерскага, ставіць праблему назвы герба "магдэбургскай" Гародні. Уладзімір Канановіч (Мінск) прааналізаваў міф пра паходжанне Гарадзенскага княства ў "Прускай хроніцы" Сімона Грунаў першай трэці XVI ст. Марыуш Савіцкі (Аполе) ахарактарызаваў інструкцыю Гарадзенскага павету сваім паслам на сейм 1681 г. Анатоль Цітоў (Мінск) засяродзіў увагу на гісторыі гарадзенскага цэху злотнікаў,

пачынаючы з XVI ст. Наталля Сліж (Гродна) распавядае пра гісторыю роду Валовічаў на Гарадзеншчыне, а Зміцер Віцько спрабуе адказаць на пытанне пра палітычную арыентацыю прадстаўнікоў роду Катовічаў напрыканцы XVIII ст. Ганна Паўлоўская (Гродна) аналізуе запісы пра смерць у гродзенскіх кляштарных хроніках XVII – XVIII стст.

Другі раздзел зборніка распачынаецца артыкулам Андрэя Вашкевіча і Андрэя Чарнякевіча (абодва Гродна), прысвечаным гісторыі Занёманскага прадмесця горада. Алесь Радзюк (Гродна) ахарактарызаваў постаці гараджанаў, якія ў першай палове XIX ст. знаходзіліся пад паліцэйскім наглядам. Таццяна Вароніч (Мінск) зацікавілася крымінальным светам горада другой паловы XIX – пачатку XX ст., засяродзіўшы сваю ўвагу на рабаўніцтве і карупцыі. Генадзь Семянчук (Гродна) зрабіў агляд канцэпцый узнікнення Городна/Гродна ў канцы XIX – XXI ст. і паспрабаваў пераглядзець радавод гарадзенскіх князёў. Іна Соркіна (Гродна) і Ежы Мілеўскі (Беласток) ахарактарызавалі ролю жанчын у жыцці горада пачатку XX ст. і міжваеннага перыяду (1919-1939). Ларыса Міхайлік (Гродна) прааналізавала сітуацыю з адукацыяй у горадзе ў “польскі перыяд” яго гісторыі. Таццяна Касатая (Гродна) звярнула ўвагу на прадпрымальніцкую дзейнасць уладальнікаў гродзенскіх кінатэатраў у 1910-1930-я гг. Вальдэмар Валканоўскі (Аполе) распавёў пра спартыўныя сувязі Гродна і Вільні ў міжваенны час. Асобе беларускага асветніка Мікалая Марцінчыка (1901-1980), якому за сваю дзейнасць давялося сядзець у польскіх турмах і савецкіх лагерах, прысвечаны артыкул Фёдара Ігнатовіча (Гродна). Алесь Смалянчук (Гродна), аналізуючы працэс трансфармацыі памяці/забыцця ў постсавецкім Гродне, заўважыў з’яўленне свайго роду роду інтэгральных “знакаў памяці”.

Вымушаны напісаць і пра тое, што вялікая праца даследчыкаў, а таксама навуковых кіраўнікоў праекта і арганізатараў канферэнцыі ў гэтым годзе сутыкнулася з сур’ёзнымі перашкодамі зусім не навуковага характару. Некаторым замежным удзельнікам канферэнцыі, у прыватнасці, др Алене Глагоўскай (Беласток) консульскія службы адмовілі ў выдачы візы для ўдзелу ў канферэнцыі. У многіх удзельнікаў праекту, што працуюць у дзяржаўных інстытуцыях, узніклі сур’ёзныя праблемы з працаўладкаваннем. Яшчэ да правядзення канферэнцыі адзін з найбольш актыўных даследчыкаў гарадской гісторыі дацэнт Гродзенскага універсітэту імя Янкі Купалы Андрэй Чарнякевіч у выніку адміністрацыйнага ціску, наогул, быў звольнены з працы..

Падобныя дзеянні не могуць не выклікаць абурэння. Праслед гісторыка за ягоныя погляды вяртае нас у сталінскія часы. Дарэчы, ліст у падтрымку А.Чарнякевіча на сайце “Нашай Нівы” падпісалі больш 400-т (!) чалавек, сярод якіх дамінавалі прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі.

Прызнаннем заслугаў гісторыкаў перад сваім горадам і ягонымі жыхарамі сталася *Узнагарода імя Юзафа Ядкоўскага*, якая была ўведзеная

па ініцыятыве Таварыства беларускай школы. Першымі яе лаўрэатамі сталі вядомы краязнаўца і педагог Алесь Госцеў і гісторык Таццяна Касатая.

* * *

Арганізацыя навуковых даследаванняў у рамках праекту “Гарадзенскі палімпсест” і правядзенне канферэнцыі “Людзі даўняй Гародні”, а таксама выданне гэтага зборніка сталі магчымымі дзякуючы супрацоўніцтву Таварыства беларускай школы, Інстытута славістыкі Польскай Акадэміі навук, Fundacji Slawistycznej і каардынатараў выдавецкай серыі “Гарадзенская бібліятэка”.

Выказваем шчырую ўдзячнасць даследчыкам і фундатарам, а таксама Генеральнаму консульству Рэспублікі Польшча ў Гродне і асабіста Генеральнаму консулу сп. Анджэю Хадкевічу за падтрымку.

*Алесь Смалянчук*

# Гарадзеншчына і гарадзенцы ў эпоху Вялікага Княства Літоўскага

*Алег Ліцкевіч (Мінск)*

## Гародня і Гарадзенскі рэгіён у другой палове XIII–XIV ст.: назва і межы

Сярэдневяковая гісторыя Гародні і Гарадзенскага рэгіёна даследавана даволі фрагментарна. Дзякуючы археалагічным даследаванням апошніх 80 гадоў найбольш вывучаным застаецца яркі старажытнарускі перыяд XII ст., звязаны з дзейнасцю гарадзенскіх князёў Усеваладкавічаў[1] і ўзнікненнем самабытнай Гарадзенскай школы дойлідства. Гісторыя горада за перыяд XIII–XIV стст. найлепей (а дакладней сказаць – найбольш сістэмна) вывучана менавіта ў археалагічным, архітэктурным і горадабудаўнічым аспектах[2]. Першыя спецыяльныя даследаванні і агляды па ваеннай і палітычнай гісторыі Гародні і Гарадзенскага рэгіёна ў XIII–XIV стст. з'явіліся яшчэ 150 гадоў таму, і з тае пары гэтая праблематыка з рознай ступенню паўнаты і прыцягнення крыніц асвятлялася ў значнай колькасці прац, з якіх асабліва трэба вылучыць кнігу Я.Ф. Арлоўскага "Гродненская старина"[3]. У абагульняльных працах гісторыя Гарадзенскага рэгіёна за згаданы перыяд звычайна асвятлялася толькі фрагментарна на фоне агульнай палітычнай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага[4]. У дадзенай працы прапануюцца некаторыя матэрыялы для комплекснага агляду пачатковага перыяду гісторыі Гародні і Гарадзенскага рэгіёна ў складзе Вялікага княства Літоўскага, – перыяду, які доўжыўся прыблізна з сярэдзіны XIII ст. па 1402 г. Верхняя храналагічная мяжа ўстаноўлена, зыходзячы з таго факту, што ў 1402 г. адбыўся апошні напад рыцараў Тэўтонскага ордэна на Гародню. Пасля гэтай даты, калі стала паступова знікаць ваенная небяспека з боку крыжакоў, развіццё горада і рэгіёна несумненна набыло новую спецыфіку[5].

Наколькі дазваляе аб'ём публікацыі, у першай частцы артыкула асвятляюцца пытанні, звязаныя з назвай і межамі Гарадзенскага рэгіёна ў разглядаемы перыяд.

### НАЗВА ГАРОДНІ І ГАРАДЗЕНСКАГА РЭГІЁНА Ў XIII–XIV СТСТ.

У старажытнарускі перыяд, паводле Галіцка-Валынскага летапіса, горад называўся "Городенъ". Спрагалася гэтая назва так: "к Городноу", "в Городнѣ"; а жыхары горада называліся "Городнѧны"[6]. Летапісныя і дакументальныя

крыніцы ВКЛ на рускай (старабеларускай) мове, створаныя у XV ст., у сваю чаргу фіксуюць наступныя варыянты спражэння (гл. табліцу).

| | **Старажытнарускі перыяд (XII–XIII стст.)** | **Перыяд ВКЛ (XIV–XV стст.)** |
|---|---|---|
| Назоўны | Городенъ | *няма дадзеных* |
| Родны | *няма дадзеных* | з (из) Городна[7]; до Городна[8]; межи Городна[9]. |
| Давальны | к Городноу | к Городноу (к Городну)[10]. |
| Вінавальны | *няма дадзеных* | *у 1503 і 1512 гг.:* Городен[11] |
| Творны | *няма дадзеных* | *за XIV–XV стст. няма дадзеных; у 1536 г.:* з Городном[12]. |
| Месны | в Городнѣ | в (у, оу) Городнѣ[13]. |

Прыметнік ад гэтай назвы ў XV ст. і пазней быў: “Городенский”[14]. Жыхары Гародні ў 1480-я гг., як і ў старажытнарускі перыяд, называліся “Городънянами”[15]. Вядомыя нам пісьмовыя крыніцы XV ст. не фіксуюць назву горада у назоўным альбо вінавальным склоне.

Пэўнае падабенства і пераемнасць паміж формамі спражэння назвы горада, а таксама паміж формамі прыметніка (“городенский”) і паміж назвамі жыхароў горада (“городняны”, “городнянин”) перыядаў Старажытнай Русі і Вялікага Княства Літоўскага, дазваляе меркаваць, што і ў XIV, і ў XV стст. горад на рускай (старабеларускай) мове працягваў называцца “Городенъ”. У падтрымку такога дапушчэння кажа і той факт, што ў рускай (старабеларускай) мове Гародня насіла назву “Городенъ” і ў XVI ст.[16], і нават у пачатку XVII ст.[17].

Форма “Городно”, якая фіксуецца ў летапісе Рачынскага (сярэдзіна XVI ст.)[18], з’явілася адносна позна і магчыма, з’яўляецца вытворнай ад польскай формы “Grodno”. Няма ніякіх падстаў экстрапаліраваць форму “Городно” на старажытную гісторыю горада ў XIV–XV стст. і нават раней, як гэта часам рабілася ў літаратуры (напрыклад, у польскіх даследаваннях – “Horodno” у дачыненні да старажытнарускага перыяда[19]).

Форма “Гародня”, ужытая ў нашым артыкуле, з’яўляецца адной з трох назваў горада, якія існуюць у сучаснай літаратурнай беларускай мове. Пры тым што “Гродна” – гэта афіцыйная назва, дзве астатнія ўжываюцца хутчэй у нефармальным дыскурсе – “Гародня” (варыянт у так званай наркамаўцы) і “Горадня” (з націскам на першым складзе – у так званай тарашкевіцы). Са стылістычнага гледзішча такая форма, як “Гародня”, мусіць, больш прыдатная да ўжывання ў беларускіх тэкстах пра сярэдневяковую гісторыю горада; да таго ж яна ўжо досыць трывала замацавалася ў гістарыяграфіі. У сэнсавым аспекце назва адсылае да старабеларускага слова “городня”, якое ў XVI ст. азначала “частку замкавай сцяны, пралёт моста”[20]. Паводле

сведчання Я.Ф. Арлоўскага, беларускае насельніцтва Гарадзеншчыны ў пачатку XX ст. называла горад “Городном”[21].

У шматлікіх крыніцах Тэўтонскага ордэна XIII–XIV стст., як нямецка-, так і лацінамоўных, звычайнай назвай горада было “Garten” (у розных арфаграфічных варыяцыях: і “Garthen”, і “Karten”, і нават “Gartha”).

У крыніцах польскага паходжання, напрыклад, у лісце мазавецкіх князёў 1325 г. і ў перакладзе “Летапісца вялікіх князёў літоўскіх” на лаціну (“Origo regis”), фіксуецца назва “Grodno”[22]. Польскім уплывам, а дакладней польскім паходжаннем пісараў, можна растлумачыць форму прыметніка “Grodnensis” (“Grothnensis”, “Hrodnensis”) у лацінамоўнай княжацкай тытулатуры Кейстута (1358) і Вітаўта (1387 і наступныя гады)[23].

Балцкую назву горада ў разглядаемы час устанавіць немагчыма за адсутнасцю крыніц. Сучасная літоўская назва горада – “Gardinas”, але мы не ведаем, як называлі яго сярэдневяковыя балты: яцвягі, прусы альбо продкі сучасных літоўцаў. Таму спробы вывесці старажытнарускую назву “Городенъ” альбо старанямецкую – “Garten”, з нейкага гіпатэтычнага старажытнага балцкага кораня не маюць пад сабой трывалай фактычнай асновы[24].

Пачынаючы з другой паловы XIII ст. Гародня была адміністратыўным цэнтрам буйнога рэгіёна, які ўваходзіў у склад Вялікага Княства Літоўскага. З 1345 па 1382 гг. гэты рэгіён, разам з Троцкім, Падляшскім, Берасцейскім і Ваўкавыскім рэгіёнамі, быў часткай паўаўтаномнага дамена Кейстута Гедымінавіча. З 1384 па 1389 гг. Гародня была, разам з Берасцем, Ваўкавыскам і падляшскімі замкамі, адным з цэнтраў дамена Вітаўта Кейстутавіча. З гэтай нагоды паўстае пытанне, як называць Гарадзенскі рэгіён гэтых перыядаў: “княствам”, “зямлёю”, “воласцю” альбо інакш?

Тэрмін “Гарадзенскае княства” у дачыненні да XIV ст. выглядае празмерным спрашчэннем, бо рэгіён тады быў толькі часткай больш буйных адміністратыўна-тэрытарыяльных утварэнняў, куды ўваходзілі таксама Трокі, Берасце, Ваўкавыск, Падляшша. Самастойнага “Гарадзенскага княства”, тэрытарыяльна альбо адміністратыўна адасобленага ад іншых зямель ВКЛ, у разгледжаны перыяд проста не існавала.

У Старажытнай Русі, на думку А.А. Горскага, “землямі” называліся, за рэдкім выключэннем, тэрыторыі самастойных удзельных княстваў. “Воласці” ж былі ўладаннямі князёў Рурыкавічаў у межах Старажытнарускай дзяржавы[25]. Разам з тым у пісьмовых крыніцах XII–XIII стст. самастойнае Гарадзенскае княства на чале з дынастыяй Рурыкавічаў ніводнага разу не было названа “землёй”[26]. Па XIV ст. мы маем вельмі сціплыя сведчанні іншамоўных крыніц, настолькі мізэрныя, што на іх падставе немагчыма прыйсці да якіх-кольвек цвёрдых высноў. Так, у літоўска-мазавецкім дагаворы 1358 г. вылучаецца Гарадзенскі “дыстрыкт” як частка Літоўскай “зямлі” і “дыстрыкты” Візненскі і Ганёндзкі як частка Мазавецкай “зямлі”[27]. Здаецца, “terra” тут дакладны аналаг старажытнарускага тэрміна “зямля” у значэнні “дзяржа-

ва”, а “districtus” – аналаг “воласці” (альбо польскага “powiat”). У літоўска-крыжацкім дагаворы 1379 г. (літоўскім экземпляры) агульны тэрмін для адміністратыўна-тэрытарыяльных адзінак як у ВКЛ, так і ў Прусіі – гэта “landt” (“зямля”), які ўжываецца таксама ў адносінах да тагачаснага Гарадзенскага рэгіёна (“das landt Garten”)[28]. Але па сваім сэнсе гэты тэрмін тут хутчэй адпавядае паняццю “асобны несамастойны рэгіён у складзе дзяржавы” (г. зн. ён бліжэй да паняцця “воласць”). У XV ст., мяркуючы па матэрыялах Літоўскай Метрыкі, Гарадзенскі рэгіён трывала называўся “воласцю”[29].

У цэлым, характарызуючы шырокі храналагічны перыяд гісторыі Гарадзеншчыны з другой паловы XIII ст. па апошняе дзесяцігоддзе XIV ст., падаецца правамерным выбраць больш нейтральны тэрмін, чым “зямля” альбо “воласць”, а менавіта Гарадзенскі “рэгіён”.

## МЕЖЫ ГАРАДЗЕНСКАГА РЭГІЁНА Ў XIV СТ.

**Мяжа з Мазовіяй да сярэдзіны XIV ст.**

Заходняя мяжа Гарадзенскага рэгіёна ў XIV ст. супадала з заходняй мяжой Вялікага Княства Літоўскага. Спачатку гэта была мяжа з уладаннямі Галіцка-Валынскага княства, якія на поўначы ўключалі ў сябе Дарагічын, Мельнік і па стану на 1287–1288 гг., частку абшару, населенага яцвягамі, з цэнтрам у г. Райгорад (цяпер мястэчка Райгруд Граеўскага павета Падляшскага ваяводства Польшчы)[30].

Пасля страты Галіцка-Валынскай дзяржавай гэтых зямель на іх пачала прэтэндаваць Мазовія, якая здолела захапіць Падляшша. У жніўні 1325 г. мазавецкія князі Земавіт і Тройдзень у лісце да папы рымскага дэкларавалі, што мяжа Мазовіі праходзіць у двух мілях (15–16 км) ад Гародні[31]. Такім чынам, яны праводзілі сваю мяжу з Вялікім Княствам Літоўскім і, адпаведна, з Гарадзенскім рэгіёнам прыблізна ў раёне вытоку ракі Бебжы. 8 лістапада 1343 г. у Брацяне мазавецкія князі заключылі з Тэўтонскім ордэнам дагавор, паводле якога ўсходні адрэзак мазавецка-прускай мяжы ішоў ад броду на рацэ Элк, уздоўж рэчышча Элка да ўпадзення гэтай ракі ў Бебжу і далей уздоўж рэчышча Бебжы да самага яе вытоку[32]. Пры гэтым дагавор складаўся без удзелу Вялікага Княства Літоўскага, таму, па сутнасці, і ён заставаўся толькі дэкларацыяй аб намерах. Дэ-факта (як лічыць, напрыклад Г. Блашчык) раён вытоку Бебжы ў той час належаў хутчэй ВКЛ, чым Мазовіі[33]. А прымаючы ва ўлік ваенную актыўнасць Вялікага Княства Літоўскага, атрады якога ў першай палове XIV ст. рэгулярна нападалі і на Мазовію, і на Прусію, без цяжкасці пранізваючы сваімі рэйдамі былыя яцвяжскія тэрыторыі ў басейне Бебжы, можна прыйсці да высновы, што мазаўшане і крыжакі ў той час не мелі дастатковай ваеннай моцы, а Літва і Русь – дастатковага эканамічнага і каланізацыйнага патэнцыялу, каб узяць гэтыя спустошаныя, бязлюдныя землі пад сур’ёзны сталы кантроль.

**Аўтэнтычнасць літоўска-мазавецкага дагавора 1358 г.**

Пасля пераходу падляшскіх замкаў Дарагічына і Мельніка пад кантроль ВКЛ, што адбылося пасля 1342 г., а значыць, прыблізна ў сярэдзіне XIV ст.[34], мазавецкі князь Земавіт III быў вымушаны заключыць з Вялікім Княствам Літоўскім пагадненне, у якім упершыню дакладна вызначалася мяжа паміж дзвюма дзяржавамі. З літоўскага боку дагавор замацаваў сваёй пячаткай князь Троцкі і Гарадзенскі Кейстут Гедымінавіч у Гародні 14 жніўня 1358 г.[35]

Палеаграфічныя дадзеныя

Выдаўцы трэцяй часткі "Новага кодэкса дыпламатычнага Мазовіі" І. Сулкоўская-Курась і С. Курась пазначылі гэты дакумент як фальсіфікат, спаслаўшыся на тое, што ён нібыта напісаны пісьмом першай паловы XV ст. Пры ўсёй шчырай павазе да вялізнага практычнага досведу знакамітых польскіх археографаў, пажадана было б усё ж каб пытанне аб сфальсіфікаванасці міждзяржаўных дакументаў такой важнасці суправаджалася разгорнутай палеаграфічнай і гістарычнай аргументацыяй. Аднак, у легендзе публікацыі такой аргументацыі чамусьці няма.

Ацэньваючы пісьмо арыгінала на прадмет аўтэнтычнасці альбо сфальсіфікаванасці, трэба адразу зрабіць агаворку, што такая ацэнка мела бы вырашальнае значэнне толькі тады, калі б мы мелі пад рукой рэлевантны матэрыял для параўнання – а менавіта іншыя лацінамоўныя дакументы з канцылярыі ВКЛ 1350-х гадоў. Але такога матэрыялу няма. Бліжэйшыя па часу ўзнікнення лаціна- і нямецкамоўныя дакументы канцылярыі ВКЛ, якія захаваліся ў арыгіналах і даступныя нам для параўнання – гэта дагавор 1367 г. з Тэўтонскім ордэнам у Лівоніі[36]; літоўска-крыжацкі дагавор 1379 г.[37]; недатаваны ліст віленскага месціча Гануля да таруньскіх радцаў; прывілей Ягайлы і Скіргайлы для люблінскіх купцоў[38]; Крэўскі акт 1385 г.[39]; прывілей караля Польшчы, в.к.л. Уладзіслава (Ягайлы) для віленскага касцёла св. Станіслава і Уладзіслава 1387 г.[40]; пагадненне паміж Вітаўтам і Скіргайлам 1389 г. у Любліне[41]; Белзскі дагавор паміж Ягайлам, Скіргайлам і Вітаўтам 1392 г.[42].

Знаёмства з электронным фотаздымкам арыгінала дагавора 1358 г., замоўленым у кракаўскай Бібліятэцы Чартарыйскіх, дазваляе нам меркаваць, што дакумент напісаны курсіўным гатычным пісьмом, даволі неахайным; літары дробныя з выразна акруглымі петлямі, напісаныя з нахілам улева і здаецца, досыць моцным націскам; інтэрвал паміж радкамі невялікі. Пісар яўна не імкнуўся да ўпрыгожвання пісьма. Прыблізна пасля восьмага радка, калі пачаўся пералік літоўскіх і мазавецкіх імёнаў, тапонімаў і гідронімаў, пісар стаў заўважна спяшацца і памер літар крыху павялічыўся; калі ж пералік скончыўся, на дзясятым радку знізу, і пайшлі стандартныя фармуліроўкі дыпламатычнага фармуляра, пісар вярнуўся да пачатковага тэмпу пісьма. Гэтую дэталь, між іншым, цяжка растлумачыць, калі прызнаць дакумент фальсіфікатам, бо пры стварэнні фальсіфікату пісар бы так не хваляваўся. Але ж калі прызнаць дакумент аўтэнтычным, ство-

раным у абстаноўцы шумнага княжацкага банкета, калі пісар працаваў у прысутнасці князёў Кейстута і Земавіта і баяўся прапусціць тыя ці іншыя малазнаёмыя яму дэталі, што дыктаваліся ўслых, такая змена тэмпу пісьма тлумачыцца зусім натуральна.

Што датычыцца неахайнасці, то не выпадае лічыць такі стыль пісьма прыкметай дакументаў XV ст., бо, напрыклад, акуратнасцю і стройнасцю вылучаецца гатычнае пісьмо Гарадзельскай прысягі, дадзенай літоўскімі баярамі 2 кастрычніка 1413 г.[43], тады як курсіў больш ранняга дакумента – Крэўскага акта 1385 г., як зазначае М. Качэрска, наадварот, адрозніваецца паспешлівасцю і нядбайнасцю[44].

Пытанне аўтэнтычнасці Крэўскага акта пасля слабааргументаваных публікацый літоўскага гісторыка Ё. Дайнаўскаса, які галаслоўна абвясціў гэты дакумент фальсіфікатам, было падрабязна высветлена ў польскай і літоўскай гістарыяграфіі трох апошніх дзесяцігоддзяў[45]. Хаця ў беларускай літаратуры, асабліва ў працах з правазнаўчым ухілам, Крэўскі акт усё роўна часам абвяшчаецца "падробкай"[46], у гэтых публікацыях бракуе аргументаў, а іх аўтары альбо незнаёмыя з замежнай навуковай літаратурай прадмета, альбо ігнаруюць яе. Па згаданых прычынах мы лічым Крэўскі акт аўтэнтычным дакументам, які можа прыцягвацца для палеаграфічнага аналізу і характарыстыкі дакументаў другой паловы XIV ст.

У напісанні асобных літар дагавор 1358 г. выяўляе найвялікшае падабенства з дакументамі 1380-х гадоў, якія напісаны польскімі пісарамі. Гаворка ідзе пра Крэўскі акт 1385 г., прывілей 1387 г. для віленскага касцёла св. Станіслава і Уладзіслава і Люблінскую ўгоду паміж Вітаўтам і Скіргайлам 1389 г. (гл. параўнальную табліцу), а таксама, з пэўнымі агаворкамі, пра ліст Гануля і прывілей для люблінскіх купцоў 1383 г. Пры тым што дагавор 1358 г., безумоўна, напісаны іншай рукой, чым Крэўскі акт, Люблінская ўгода і іншыя дакументы. Ад курсіву, якім напісаны літоўска-крыжацкія дагаворы 1367 і 1379 гг. і Белзская ўмова 1393 г., пісьмо дагавора 1358 г. адрозніваецца меншай акуратнасцю і выразнасцю ліній, засечак і выгібаў; літары дагавора 1358 г. не маюць у сабе той прыгожай каліграфічнай гульні патоўшчаных і тонкіх ліній, якая так прываблівае ў нямецкім гатычным курсіве. Разам з тым ад Крэўскага акта і Люблінскай угоды дагавор 1358 г. адрозніваецца напісаннем некаторых літар і параўнальна меншым ужываннем скарачэнняў, якімі асабліва багаты Крэўскі акт.

У табліцу ўключана параўнальнае апісанне 40 прааналізаваных знакаў. Іх можна падзяліць на чатыры катэгорыі.

Да першай катэгорыі ("вельмі падобнае", "ідэнтычнае", "аднолькавае" напісанне) мы бы аднеслі 22 знакі: вялікая A; малая a; малая b; вялікая C; малая c; малая e; малая h; вялікая J; малая i; малая k; малая l; малая m; вялікая N; малая n; малая o; малая q; малая r; малая s на канцы слова; малая s у сярэдзіне і напачатку слова; малая u; малая w; малая z.

Да другой катэгорыі належаць два знакі, якія выяўлены толькі ў адным з дакументаў: малая ą; вялікая G.

Трэцяя катэгорыя ахоплівае 10 знакаў, напісанне якіх у дагаворы 1358 г. адрозніваецца ад напісання ў Крэўскім акце і Люблінскай угодзе: малая f; малая g; вялікая M; вялікая і малая p; скарачэнне для par-, per-; скарачэнне для prae- (pre-); вялікая R; вялікая S; вялікая T; малая y.

Чацвёртая катэгорыя ўключае ў сябе знакі, якія пішуцца ў адным альбо некалькіх дакументах дваякім спосабам (пры гэтым адзін з варыянтаў у дагаворы 1358 г. мае падабенства з адным варыянтам у Крэўскім акце альбо Люблінскай угодзе, і наадварот). Такіх знакаў 6: вялікая B; малая d; скарачэнне для pro-; малая t; малая v; малая x.

Па спосабу напісання з 40 знакаў дагавора 1358 г. 28 знакаў (альбо 70%) маюць аналагі ў Крэўскім акце і Люблінскай угодзе.

У гісторыі лацінскага канцылярскага курсіва XIV стагоддзе характарызавалася ўсё большай індывідуалізацыяй манеры пісьма[47]. Мы ведаем прыклады, калі нават з адной канцылярыі на працягу параўнальна невялікага перыяду выходзілі дакументы, напісаныя ў зусім розных манерах. У параўнальнай ацэнцы пісьма двух ці трох розных дакументаў непазбежныя элементы суб’ектывізму і выпадковасці, бо ніхто не можа гарантаваць, што даследчык выкарыстаў для параўнання увесь аб’ём даступных дакументаў. Сам па сабе гэты метад можа лічыцца больш-менш надзейным толькі тады, калі паміж аналізаванымі дакументамі пралягае дастаткова вялікі адрэзак часу. Што ж датычыцца дагавора 1358 г., безумоўна, у яго пісьме можна знайсці некаторыя рысы падабенства як з дакументамі XIV ст. (прыведзеная ніжэй табліца не прэтэндуе ні на што большае, як толькі на ўказанне гэтага факту), так і з дакументамі першай паловы XV ст.[48] Магчыма, хаця мы і прадбачым пярэчанні, паўстагоддзя ў дадзеным выпадку надта невялікі тэрмін, каб асаблівасці пісьма мелі вырашальнае значэнне для дакладнага датавання дакумента – прынамсі, для таго, каб безапеляцыйна вылучыць гэты акт з агульнага шэрагу дакументаў Польшчы і ВКЛ другой паловы XIV ст. і аднесці яго да першай паловы XV ст. Асаблівасці пісьма дагавора 1358 г., найперш яго неахайнасць і спосаб напісання некаторых літар, могуць тлумачыцца індывідуальнай манерай заточвання пяра і пісьма, уласцівай пісару дагавора 1358 г., што ў сваю чаргу залежала ад яго паходжання, кваліфікацыі і прафесійнага вопыту. З правапісу асобных слоў (Grothne[nsis], Raczsąszne[nsem], Gonądze[nsem], Bebrza) можна, зрэшты, прыйсці да высновы, што пісар быў палякам.

Падсумоўваючы, мы заключаем, што пісьмо дагавора 1358 г. можа быць датавана другой паловай XIV ст.

**Параўнальная табліца напісання літар у дагаворы 1358 г., Крэўскім акце 1385 г. і Люблінскай угодзе 1389 г.**

| | |
|---|---|
| Вялікая A | Спосаб напісання вельмі падобны (слова Aykszy у дагаворы 1358 г.; словы Assupmtionis, anno у Крэўскім акце). |
| Малая a | Напісанне ідэнтычнае; дробную розніцу можна растлумачыць індывідуальнымі асаблівасцямі почыркаў. |
| Малая ą | У дагаворы 1358 г. (словы Gonądzensem, Raczsąszyen[sem]) – літара о з дзвюма вертыкальнымі рыскамі зверху і знізу. У Крэўскім акце і Люблінскай угодзе не выяўлена. |
| Вялікая B | У напісанні літары ёсць істотныя адрозненні. У дагаворы 1358 г. (словы boyaros, boyarini) літара больш шырокая, петлі больш прыплюснутыя ў напрамку зверху ўніз; ніжняя пятля мае засечку злева; верхняя рыска злева ад верхняй пятлі прамая і нахілена ўніз. Аналагічнае напісанне літары ў нямецкім канцылярскім курсіве другой паловы XIV ст. (дакументы Тэўтонскага ордэна). У Крэўскім акце (словы Borisz, baronibus) петлі больш сплюшчаныя ў напрамку злева направа (асабліва ў слове Borisz); у цэнтры яны не маюць шчыльнага злучэння з левай мачтай; рыска збоку верхняй пятлі мае выразны характэрны залом вуглом наверх. У Люблінскай угодзе 1389 г., аднак, напісанне літары аналагічна напісанню ў дагаворы 1358 г. |
| Малая b | Напісанне ідэнтычнае. Напрыклад, у слове omnibus (першы радок) дагавора 1358 г. і ў слове nobis (першы радок) Крэўскага акта. |
| Вялікая C | Спосаб напісання вельмі падобны. Напрыклад, у слове castellanos дагавора 1358 г., у словах Coribut, Crac(oviensem) Крэўскага акта, у слове ceterum Люблінскай угоды. Але ў дагаворы 1358 г. напісанне адрозніваецца меншай зграбнасцю. |
| Малая c | Спосаб напісання практычна аднолькавы. |

| | |
|---|---|
| Малая d | У першых двух дакументах пішацца двума спосабамі. Першы спосаб: верхняя пятля літары пішацца злева направа, як у нямецкім канцылярскім курсіве; яна больш шырокая і больш выразна аддзяляецца ад ніжняй (літара часам нагадвае лічбу 8). У дагаворы 1358 г. такі спосаб ужыты, напрыклад, у слове dux (першы радок), у Крэўскім акце – у слове dei (першы радок). Пры другім спосабе напісання верхняя пятля літары пішацца справа налева, яна больш сплюшчана па баках і больш шчыльна прылягае да ніжняй пятлі.<br>Ніжняя пятля літары за рэдкімі выключэннямі не мае такой засечкі злева, як у нямецкім канцылярскім курсіве.<br>У Люблінскай угодзе, а таксама ў лісце Гануля і прывілеі для люблінскіх купцоў 1383 г. ніжняя пятля мае злева засечку. |
| Малая e | Спосаб напісання практычна аднолькавы. |
| Малая f | У дагаворы 1358 г. малая перакладзіна перакрэслівае цэнтральную мачту, як у нямецкім канцылярскім курсіве. У Крэўскім акце і Люблінскай угодзе малая перакладзіна пачынаецца ад цэнтральнай мачты і ідзе направа. |
| Вялікая G | У дагаворы 1358 г. – гатычная курсіўная літара. У Крэўскім акце і Люблінскай угодзе не выяўлена. |
| Малая g | У дагаворы 1358 г. (словы Helgerdi, Raygrod) яна больш падобная да літары g нямецкага канцылярскага курсіву (напрыклад, у Белзскім дагаворы 1393 г. паміж Ягайлам, Скіргайлам і Вітаўтам), хаця і не цалкам ідэнтычная ёй, бо ў нямецкім курсіве больш выразна акцэнтаваны засечкі і выгнутасці петляў. У Крэўскім акце і Люблінскай угодзе ніжняя пятля літары больш закруглена ў напрамку знізу ўверх, у параўнанні з літарай g дагавора 1358 г. |
| Малая h | Спосаб напісання аднолькавы. У Крэўскім акце і Люблінскай угодзе ніжняя рыска правай ніжняй пятлі больш тонкая і выгнутая. |
| Вялікая J | Спосаб напісання практычна аднолькавы. |
| Малая i | Спосаб напісання практычна аднолькавы. |

| | |
|---|---|
| Малая k | Спосаб напісання практычна аднолькавы (словы Koriati, Waskonem Kerdeyeuicz у дагаворы 1358 г.; словы Skirgalonem, Kakas de Kaza у Крэўскім акце). |
| Малая l | Спосаб напісання практычна аднолькавы. У дагаворы 1358 г., як правіла, больш шырокая верхняя пятля. У Крэўскім акце ў некаторых выпадках (словы Jagalo, Litwan[orum]) лёгкая выгнутасць пасярэдзіне мачты. |
| Вялікая M | У напісанні ёсць адрозненне. У дагаворы 1358 г. левая і цэнтральная мачты не злучаны паміж сабой унізе. У Крэўскім акце (слова magnus, дзясяты радок; слова Mariae) яны злучаны ўнізе закругленнем. |
| Малая m | Спосаб напісання практычна аднолькавы. |
| Вялікая N | Спосаб напісання практычна аднолькавы – з кропкай паміж мачтамі, але ў Крэўскім акце літара больш “пузатая” і шырокая. |
| Малая n | Спосаб напісання практычна аднолькавы. |
| Малая o | Спосаб напісання практычна аднолькавы. |
| Вялікая і малая p | У дагаворы 1358 г. да мачты злева зверху далучана выгнутая рыска (словы Patriky, Popelowo); у Крэўскім акце гэтай рыскі няма (напрыклад, слова Po[loniae]); у Люблінскай угодзе мачта літары мае злева зверху невялікую засечку. |
| Скарачэнне для par-, per- | У дагаворы 1358 г. (слова parte, трэці радок) літара p з ледзь заўважнай рыскай, якая перакрэслівае мачту знізу. У Крэўскім акце (словы parte, per) і ў Люблінскай угодзе (слова per) літара p з прамой гарызантальнай рыскай, якая перакрэслівае мачту знізу. |
| Скарачэнне для prae- (pre-) | У дагаворы 1358 г. (слова predictis) літара p з закругленай рыскай зверху, якая злучана з левай верхняй засечкай мачты. У Крэўскім акце рыска над літарай p прамая гарызантальная і не злучаная з мачтай. |

| | |
|---|---|
| Скарачэнне для pro- | У дагаворы 1358 г. (слова pro) варыянт а) літара p з круглай дужкай, якая з'яўляецца працягам правай пятлі і перакрэслівае мачту знізу; варыянт б) (слова proxima) працяг пятлі літары p завяршаецца адразу злева за мачтай і больш не перакрэслівае яе. У Крэўскім акце (слова promittit) напісанне падобнае варыянту б) дагавора 1358 г. |
| Малая q | Спосаб напісання практычна аднолькавы. |
| Вялікая R | У дагаворы 1358 г. (слова Raygrod) мачта мае зверху вялікае закругленне налева, а знізу – закругленне направа; правая пятля невялікая, пад ёю мачту перакрэслівае рыска. Блізкае напісанне літары ў нямецкім курсіве другой паловы XIV ст. У Крэўскім акце мачта мае зверху кароткі прамы "хвост" налева, а знізу – закругленне направа; правая пятля, загінаючыся, даходзіць да мачты і далей ад яе ідзе злучэнне з наступнай літарай. |
| Малая r | Спосаб напісання практычна аднолькавы. |
| Вялікая S | У дагаворы 1358 г. гатычная літара пішацца больш акуратна і закруглена. Спосаб напісання ідэнтычны таму, што ўжываўся ў канцылярыі сілезскага (свідніцкага) князя Баляслава II (дакументы 1355 і 1360 гг.; слова Slezien)[49]. Аналагічна пішацца гэта літара і ў прывілеі 1387 г. для віленскага касцёла св. Станіслава і Уладзіслава. У Крэўскім акце і Люблінскай угодзе літара пішацца больш размашыста; верхняя пятля выразна менш за ніжнюю; канец ніжняй пятлі, загінаючыся ўлева, выходзіць за спінку літары. |
| Малая s на канцы слова | Спосаб напісання практычна аднолькавы. |
| Малая s у сярэдзіне і напачатку слова | Спосаб напісання практычна аднолькавы. |

| | |
|---|---|
| Вялікая T | У дагаворы 1358 г. – гатычная літара, па спосабу напісання ідэнтычная, напрыклад, літары з Гарадзельскага акта літоўскіх нобіляў 1413 г. Аналагічнае напісанне літары сустракаецца і ў крыжацкім экземпляры мірнага дагавора з ВКЛ 1382 г. У Крэўскім акце літара не выяўлена. У Люблінскай угодзе верхняя перакладзіна літары мае дзве засечкі (у дагаворы 1358 г. яна прамая гарызантальная). |
| Малая t | У дагаворы 1358 г. варыянт а) (слова directe) мачта мае зверху працяг – “хвост”, які загінаецца направа і далей уніз; варыянт б) найбольш распаўсюджаны – звычайнае напісанне літары t з кароткай рыскай, якая перакрэслівае мачту амаль каля яе верхняга канца. У Крэўскім акце напісанне блізкае да варыянта б) з дагавора 1358 г. |
| Малая u | Спосаб напісання практычна аднолькавы. |
| Малая v | У дагаворы 1358 г. варыянт а) (слова videlicet) закругленая ўнізе літара з шырокай пятлёю, якая завяршае зверху левую касую мачту; варыянт б) (таксама слова videlicet) пятлі злева зверху няма, левая мачта завяршаецца “хвастом”, які загінаецца ўлева ўніз. У Крэўскім акце напісанне блізкае да варыянта а) з дагавора 1358 г., але літара больш завостраная ўнізе.<br>Два спосабы напісання малой літары v сустракаюцца ў дакументах XIV ст., напісаных нямецкім канцылярскім курсівам (напрыклад, у крыжацкім экземпляры мірнага дагавора з ВКЛ 1382 г., заключанага на рацэ Дубісе). |
| Малая w | Спосаб напісання практычна аднолькавы. Ва ўсіх трох дакументах левая мачта літары завяршаецца зверху круглай пятлёю, якая загінаецца направа. Напрыклад, у слове Lithwaniae (першы радок) дагавора 1358 г., у слове Wlodconi (трэці радок) Крэўскага акта, у слове Wytowt Люблінскай угоды. |

| | |
|---|---|
| Малая x | У першых двух дакументах пішацца двума спосабамі. Першы спосаб: літара мае справа закругленне, якое злучае канцы дзвюх касых перакладзін (у дагаворы 1358 г. слова proxima, трэці радок знізу; у Крэўскім акце – гэта ўвогуле самы распаўсюджаны спосаб напісання). Другі спосаб: канцы перакладзін справа не злучаны паміж сабой (напрыклад, слова dux у першым радку дагавора 1358 г. і слова expedit у першым радку Крэўскага акта).<br>У Люблінскай угодзе пішацца першым спосабам. |
| Малая y | У дагаворы 1358 г. літара з тонкай, ледзь выгнутай знізу правай мачтай па спосабу напісання блізкая да нямецкага канцылярскага курсіва. У Крэўскім акце гэтая літара не выяўлена. У Люблінскай угодзе правая мачта літары знізу мае гарызантальны выгін управа. |
| Малая z | Спосаб напісання практычна аднолькавы. |



***Мал. 1. Літоўска-мазавецкі дагавор (1358)***



***Мал. 2. Крэўскі акт (1385)***



***Мал. 3. Люблінская ўгода паміж Вітаўтам і Скіргайлам (1389)***

Пячатка Кейстута была падвешана на пергаменнай стужцы, для якой у ніжняй частцы арыгінала былі зроблены два прарэзы. Пячатка не захавала-

ся, але яна апісана ў трансумпце плоцкага біскупа Станіслава (1434). На пячатцы з легендай “Sigillum Kynstuti ducis Trocensis” была выява ўзброенага чалавека, які трымаў у правай руцэ ўзняты меч, а ў левай – шчыт, завостраны унізе[50]. Аналагічныя выявы былі змешчаны на пячатках Кейстута з мірнага дагавора паміж ВКЛ і Польшчай (1366), з недатаванага прывілея таруньскім купцам і з мірнага дагавора паміж ВКЛ і Тэўтонскім ордэнам у Прусіі (1379); апошнія дзве ў цэласці дайшлі да нашых дзён, а першая вядома з апісання Т. Чацкага[51]. Легенда пячаткі з дагавора 1358 г. больш нідзе не паўтараецца, але, зрэшты, на ўсіх астатніх пячатках Кейстута легенды гучаць па-рознаму і няма дзвюх аднолькавых.

Немалаважнымі для нашай тэмы з’яўляюцца і абставіны ўзнікнення трансумпта ад 7 верасня 1434 г., якім плоцкі біскуп Станіслаў пацвердзіў тэкст літоўска-мазавецкага дагавора 1358 г. Як пераканаўча давёў Ю. Марошак, каля 1434 г. Ян Гаштаўт атрымаў маёнтак Тыкоцін на рацэ Нараў і пажадаў стварыць тут асобную каталіцкую парафію, вылучыўшы свае ўладанні са складу Візненскай парафіі. Таму візненскі плябан звярнуўся да плоцкага біскупа Станіслава, каб той дакументальна пацвердзіў межы яго парафіі[52]. Для гэтай мэты і спатрэбіўся трансумпт старога літоўска-мазавецкага пагаднення. Было б  напэўна, абсурдным перабольшаннем меркаваць, што для такой, па сутнасці, дробнай і малазначнай справы мазавецкае каталіцкае духавенства нібыта зрабіла фальсіфікат міждзяржаўнага дагавора.

На адвароце арыгінала маюцца запісы, якія сведчаць, што з XV ст. ён захоўваўся ў дзяржаўным архіве і рэгулярна праходзіў інвентарызацыю. Старэйшы запіс: Littera ducis Kinsthuti (XV ст.). Другі запіс выцвіў і на электронным фотаздымку з’яўляецца нечытэльным. Трэці запіс, верагодна, зроблены ў XVIII ст.: Ex Commissione Kinstuti du|cis Lithuaniae & Semovi|ti Ducis Masoviae Limi|tes positi inter Ducatus | Masoviae & Lithuaniae. | 1358. На падставе гэтых нататак, а таксама звестак пра копіі дакумента, сабраных І. Сулкоўскай-Курась і С. Курасем, можна прыблізна ўявіць сабе архіўную гісторыю дакумента. З моманту заключэння літоўскі экземпляр дагавора 1358 г. знаходзіўся ў архіве аднаго з мазавецкіх княстваў. У 1434 г. плоцкі біскуп Станіслаў зрабіў з яго трансумпт. Верагодна, паводле гэтага трансумпта тэкст дакумента быў запісаны ў 22-ю кнігу Кароннай Метрыкі, пасля таго як кароль Польшчы, вялікі князь літоўскі Аляксандр далучыў плоцкую і візненскую землі да Польскага каралеўства[53]. Арыгінал дагавора, магчыма, трапіў у Польшчу пасля 1525 г., калі Мазовія была канчаткова і цалкам уключана ў склад Кароны. У 1544 г. тэкст дакумента са шматлікімі памылкамі і скажэннямі перапісваўся ў Візненскую гродскую кнігу, што, напэўна, было звязана з пытаннем аб урэгуляванні польска-літоўскіх межаў, якое было пастаўлена шляхтай на берасцейскім сейме 1544 г.[54] З другой чвэрці XVI ст. па другую палову XVIII ст. арыгінал дагавора захоўваўся ў каронным архіве ў Кракаве. Яго тэкст быў двойчы (паводле арыгінала і паводле трансумпта)

скапіраваны вядомым гісторыкам Адамам Нарушэвічам і ўключаны ў склад 7-га і 15-га тамоў так званых “Тэкаў Нарушэвіча”, якія цяпер захоўваюцца ў Бібліятэцы Чартарыйскіх у Кракаве. Пасле падзелаў Рэчы Паспалітай арыгінал дагавора трапіў з кароннага архіва ў Пулаўскую бібліятэку князёў Чартарыйскіх, а адтуль – у Бібліятэку Чартарыйскіх у Кракаве.

Гістарычная аргументацыя

Для ацэнкі аўтэнтычнасці літоўска-мазавецкага дагавора 1358 г. правамерна ўлічваць не толькі яго знешнія, палеаграфічныя характарыстыкі, але і змест дакумента і гістарычныя абставіны яго ўзнікнення.

Адной з прыкмет фальсіфікатаў звычайна з’яўляецца прысутнасць у іх пэўнай колькасці анахранізмаў і неадпаведнасць гістарычным дадзеным, атрыманым з аўтэнтычных крыніц. Аднак у літоўска-мазавецкім дагаворы 1358 г. такіх анахранізмаў і неадпаведнасцей няма. Яго стварэнне вычарпальна тлумачыцца тагачаснай палітычнай сітуацыяй.

Дагавор быў заключаны на фоне агульнага паляпшэння адносін паміж ВКЛ і заходнім хрысціянскім светам, у перыяд, калі імператар Свяшчэннай Рымскай імперыі Карл IV прапаноўваў літоўскім князям прыняць каталіцтва. Гэтая прапанова была агучана ў красавіку 1358 г. у лісце, накіраваным да вялікага князя літоўскага Альгерда і ягоных братоў[55]. У ліпені таго ж года адзін з братоў Альгерда ездзіў у Нюрнберг на перамовы з Карлам IV: было вырашана, што Альгерд прыедзе хрысціцца ў бліжэйшае свята Нараджэння Хрыстовага ў Браціславу. Але гэты праект скончыўся нічым пасля таго, як Вялікае Княства Літоўскае стала патрабаваць, каб Тэўтонскі ордэн вярнуў захопленыя балцкія землі[56].

Як васал Польскага каралеўства Мазовія не магла без згоды польскага караля Казіміра Вялікага заключаць мірны дагавор з Вялікім Княствам Літоўскім. Як ужо не раз адзначалася ў літаратуры прадмета, такая згода была атрымана ў чэрвені 1358 г., калі кароль Казімір Вялікі праводзіў з літоўскім бокам перамовы на Любельшчыне. Тэмай іх было не толькі планаванае заключэнне мірнага дагавора паміж Мазовіяй і ВКЛ, але таксама падзел Галіцка-Валынскай Русі і меркаваны шлюб Кенны Альгердаўны з унукам польскага караля Казькам (шлюб быў заключаны ў 1360 г.)[57].

Апроч вызначэння літоўска-мазавецкай мяжы, афіцыйнай нагодай для сустрэчы мазавецкага князя Земавіта III з Кейстутам у Гародні ў жніўні 1358 г. мог быць праект яшчэ аднаго дынастычнага шлюбу. У цэнтральнаеўрапейскіх манархічных дынастыях заручыны паміж будучымі мужам і жонкай (“sponsalia de futuro” – заручыны дзеля будучага шлюбу) праходзілі яшчэ тады, калі яны былі малымі дзецьмі. Найбольш вядомы прыклад такога кшталту – заручыны паміж Ядзвігай Анжуйскай і аўстрыйскім прынцам Вільгельмам[58]. У гэтай сувязі не выключана, што названы ў тэксце дагавора “асаблівым сябрам і мілым

братам” Кейстута Земавіт III мог абмяркоўваць з ім у Гародні заручыны свайго сына Януша I з князёўнай Ганнай Данутай Кейстутаўнай. Шлюб іх быў заключаны каля 1370 г.[59], калі Ганна Данута перасягнула ўзрост паўналеццы па тагачасных мерках, г. зн. 12 гадоў.

У камісію па вызначэнні сумеснага адрэзка мяжы ўваходзілі па пяць чалавек з кожнага боку. Як сказана ў дакуменце, мяжу яны праводзілі, грунтуючыся на роспытах і сведчаннях старых людзей, вартых даверу. Паколькі да 1358 г. ніякай мяжы паміж ВКЛ і Мазовіяй у гэтых глухіх мясцінах ніколі не праводзілася, то гэты фрагмент дагавора мы разумеем як спасылку на старую мяжу паміж Галіцка-Валынскім княствам і Мазовіяй. Менавіта яе і мусілі прыгадваць старажылы, якія дапамагалі літоўска-мазавецкай памежнай камісіі.

На чале літоўскай групы знаходзіўся гарадзенскі намеснік князь Патрыкей (васал Кейстута). Існуе дакументальнае сведчанне, што незадоўга да 1360 г. ён меў актыўныя кантакты з Мазовіяй і разам з сынам выязджаў у Райгорад, дзе мазавецкі бок намерваўся будаваць замак[60]; магчыма, тут маюцца на ўвазе менавіта перамовы Патрыкея з мазавецкай памежнай камісіяй у 1358 г.

Войшвілт († 1370), нобіль Упіцкай зямлі, уладальнік зямель з вялікакняжацкага дамена ў Лагожаску – асоба добра вядомая з іншых крыніц, таму няма патрэбы падрабязна пра яго казаць. Нагадаем толькі, што Войшвілт таксама ўдзельнічаў у падрыхтоўцы пагаднення 1367 г., у якім рэгламентаваўся адрэзак мяжы паміж ВКЛ і Тэўтонскім ордэнам у Лівоніі[61].

Айкша (Aykszy), апроч дагавора 1358 г., згадваецца ў Рагожскім летапісцы разам з Карыятам Гедымінавічам і князем Сямёнам Свіслацкім як удзельнік няўдалага пасольства ВКЛ у Залатую Арду, якое адбылося ў 6856 г. (з 1 сакавіка 1348 па 28 лютага 1349 гг.)[62]. Ю. Пузына памылкова залічыў яго да сыноў Карыята[63].

Алізар (Olyezar) – асоба бліжэй невядомая.

Васіль Кірдзеевіч (Waskonem Kerdeyewicz) у 1366 г. фігуруе сярод бліжэйшых баяр-дарадцаў валынскага князя Любарта Гедымінавіча, а ў 1387 і 1388 гг. разам з іншымі валынскімі нобілямі ён выступіў паручнікам за Алехну Дзмітрыевіча[64]. Ён меў сына Івана Васільевіча і ўнука Перфурыя Іванавіча, які ў пачатку XV ст. даў укладны запіс Луцкаму манастыру Святога Спаса на Красным[65].

Меркаванне публікатараў дагавора 1358 г., што аўтар “фальсіфіката” нібыта азнаёміўся ў Каронным архіве ў Кракаве з тэкстам аднаго з дакументаў Любарта і белзскага князя Юрыя Нарымонтавіча і запазычыў з яго імя Васіля Кірдзеевіча[66], здаецца занадта павярхоўным. Каб быць паслядоўнымі, ім тады трэба растлумачыць, па-першае, адкуль узяты імёны іншых прадстаўнікоў ВКЛ, а па-другое, якім чынам прадстаўнік Мазовіі,

здольны чытаць кірылічныя і фальсіфікаваць лацінскія тэксты, у першай трэці XV ст. атрымаў доступ у дзяржаўны архіў Польскага каралеўства для вольнай працы з дакументамі (апошняе не тое каб зусім немагчыма, асабліва для духоўных асоб, але ўсё ж даволі нетрывіяльна, бо гаворка ідзе пра розныя дзяржавы).

У тэксце літоўска-мазавецкага дагавора асабліва падкрэсліваецца, што ён заключаны па парадзе і са згоды іншых князёў – найперш вярхоўнага князя літоўскага Альгерда, а таксама Яўнута, Карыята, Георгія (Юрыя Нарымонтавіча) і некаторых іншых "старэйшых князёў Літвы". У часы Альгерда і ў першае дзесяцігоддзе праўлення Ягайлы сістэма стасункаў паміж вялікакняжацкай уладай і ўладальнікамі буйнейшых ўдзелаў-"зямель", якія ўсе выключна былі Гедымінавічамі альбо Альгердавічамі, грунтавалася на "родавым праве дынастыі", паводле тэрміналогіі О. Бальцара. Вялікае Княства Літоўскае разглядалася як вотчына (patrimonium) пануючага роду, узначаленага вялікім князем літоўскім як старэйшынам, таму ўсе міжнародныя пагадненні, у якіх вызначаліся межы альбо рэгламентаваўся статус тых ці іншых тэрыторый ВКЛ, мусілі заключацца пры ўдзеле і са згоды прадстаўнікоў пануючага роду. Пры Альгердзе гэта былі старэйшыны родаў Гедымінавічаў – Кейстут, Яўнут, Карыят, Юрый Нарымонтавіч (старэйшы ў сваім родзе пасля смерці бацькі) і Любарт. Пры Ягайле кола звузілася да ягоных родных братоў ад шлюбу Альгерда з князёўнай Ульянай Аляксандраўнай і некаторых стрыечных братоў Нарымонтавічаў, Кейстутавічаў, Карыятавічаў, Яўнутавічаў і Любартавічаў – старэйшых у сваіх родах. У 1350–1380-х гадах прадстаўнікі пануючага роду, як правіла, удзельнічалі ў прыняцці найважнейшых знешнепалітычных дакументаў, такіх як дагаворы 1352 і 1366 гг. з Польшчай, пагадненне з Тэўтонскім ордэнам 1382 г. на рацэ Дубісе, Крэўскі акт 1385 г. і іншыя, пра што шырэй гаворыцца ў вялізнай літаратуры гэтага прадмету[67]. Літоўска-мазавецкі дагавор 1358 г. – не выключэнне, а толькі яскравае пацверджанне гэтага факту. І тады трэба прызнаць, што мазавецкі аўтар меркаванай "фальсіфікацыі" першай трацiны XV ст. дасканала ведаў і спрабаваў улічыць у сваёй падрабцы дзяржаўна-прававы лад і практыку заключэння міжнародных дагавораў былога (паўвекавой даўніны) Вялікага Княства Літоўскага, што зноў жа такі падаецца досыць незвычайным.

Адсутнасць князя Любарта на перамовах у Гародні 14 жніўня 1358 г. тлумачыцца тым, што менавіта ён і быў тым неназваным па імені Гедымінавічам, які, згодна з хронікай Генрыха Таўбе фон Зельбаха, у ліпені таго года ездзіў у Нюрнберг на перамовы з Карлам IV наконт праекта хрышчэння Літвы[68].

Праўдападобна, у літоўскай частцы памежнай камісіі гарадзенскі намеснік Патрыкей прадстаўляў Кейстута, Войшвілт – Альгерда, Айкша – Карыята, Алізар – Яўнута, Васіль Кірдзеевіч – Любарта і магчыма, белзскага князя Юрыя Нарымонтавіча.

Прадстаўнікі Мазовіі вядомыя з дакументаў другой паловы XIV ст.: чэрскі кашталян Мікаш (Мікалай; згаданы ў 1359 г.), рацёнжскі кашталян Мрочка (згадваецца ў 1345–1352 гг., жыў у 1374 г.), сахачэўскі кашталян Няміра (згадваецца ў 1357–1383 гг.), камянецкі кашталян Готард (выступае ў дакументах з 1358 па 1380 гг.), сахачэўскі суддзя Стафан (у 1359 г. ужо не займаў гэтую пасаду)[69].

Са складу двухбаковай камісіі ідэнтыфікуюцца і пацвярджаюцца іншымі дакументамі асобы 9 з 10 удзельнікаў. Можна лічыць доказаным і факт удзелу гарадзенскага намесніка князя Патрыкея ў перамовах з Мазовіяй перад 1360 г.

Самым важным аргументам гістарычнага характару пакуль застаецца адсутнасць сярод удзельнікаў камісіі візненскага кашталяна (на што паказаў К. Пацускі ў цытаванай вышэй працы). Але парадаксальным чынам гэты ж аргумент сведчыць на карысць аўтэнтычнасці дагавора: аўтары "фальшыўкі" імкнуліся б зрабіць дакумент максімальна "правільным" і ўключылі б у пералік удзельнікаў прадстаўніка Візны.

Падсумаванне

У цэлым, пры вызначэнні сваіх высноваў наконт аўтэнтычнасці дагавора 1358 г. нам бы хацелася адыйсці ад некаторай катэгарычнасці. Гэта звязана як з адсутнасцю разгорнутай аргументацыі з боку даследчыкаў, якія абвясцілі дакумент "фальсіфікатам", так і з вялікім практычным досведам гэтых даследчыкаў, што вымушае лічыцца з іх ацэнкамі. Напэўна па аналагічных разважаннях у навуковай літаратуры цяпер бярэ верх меркаванне, што хаця вядомы нам арыгінал можа быць фальсіфікатам, але ён усё ж заснаваны на нейкім зніклым аўтэнтычным літоўска-мазавецкім дагаворы 1358 г.[70] Аднак, гэта ідэя пакуль застаецца толькі на ўзроўні здагадак, бо не растлумачаны сэнс такой фальсіфікацыі, змест і прычыны магчымых інтэрпаляцый.

З гэтай агаворкай, першая наша выснова заключаецца ў тым, што "сфальсіфікаванасць" дагавора 1358 г. паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Мазовіяй даказана яўна недастаткова. Прынамсі, пажадана было б пачуць больш акрэсленую і пашыраную аргументацыю, у тым ліку па палеаграфічных характарыстыках акта.

Другая ж – і галоўная – выснова: наш аналіз знешніх характарыстык і зместу арыгінала дагавора 1358 г. не выяўляе ў ім прыкметаў падробкі альбо інтэрпаляцый.

Абвод літоўска-мазавецкай мяжы паводле дагавора 1358 г.

Дагавор 1358 г. рэгламентаваў мяжу паміж зямлёй Літоўскай і дыстрыктам Гарадзенскім, з аднаго боку, і зямлёй Мазавецкай і дыстрыктамі Візненскім і Ганёндзскім, з другога (гл. карту).




1. Сумесны адрэзак мяжы пачынаўся ад Каменнага Броду на рацэ Элк. Гэты Каменны Брод размяшчаўся на стыку трох межаў – Мазовіі, Тэўтонскага ордэна ў Прусіі і Вялікага Княства Літоўскага – вышэй азёраў Граева і Тачылава, паміж пазнейшымі населенымі пунктамі – мазавецкай вёскай Багушэ і прускай вёскай Прosткі[71].

2. Ад Каменнага Броду мяжа ішла па прамой лініі да Райгорада (“directe ad Raygrod”).

3. Ад Райгорада па прамой лініі да ракі Неты і далей уздоўж яе (“a Raygrod directe eundo per fluvium Metha”), пакідаючы на мазавецкім баку забалочаны абшар міжрэчча Элка і Неты.

4. Ад Неты прама да ракі Бебжы (“a Metha directe per fluvium Biebrza”). У літаратуры прынята згоднае меркаванне, што гэты адрэзак мяжы ішоў уздоўж рэчышча Неты да самага яе ўпадзення ў Бебжу (Нета – правы прыток Бебжы)[72].

5. Ад Бебжы прама да Таргавіска; ад Таргавіска – прама да вусця Вялікай Стругі і ідучы ўздоўж гэтай ракі, да вярхоўяў рэчкі Малая Сухолда (“a Biebrza directe ad Thargouisko et a Thargouisko directe eundo ad Vschewelikey strugy et eundo per eundem fluvium usque ad verticem rivuli seu fluminis Maleysucholdi”). Трактоўка гэтага пункта выклікае найвялікшыя цяжкасці, бо ні Таргавіска, ні Вялікая Струга не згадваюцца ў іншых крыніцах і розныя аўтары прапануюць розныя варыянты іх лакалізацыі.

На думку А. Ябланоўскага, “Таргавіска” знаходзілася дзесьці паблізу ад пазнейшага Далістова, сяла на левым беразе Бебжы; “Вялікую Стругу” ён ніяк не ідэнтыфікаваў, а “Малую Сухолду” атаясаміў з ракой Нэрэслю[73]. Апошняе прыпушчэнне яўна памылковае, бо Нэрэсль – правы прыток Нарава; тады як з дагавора 1358 г. вынікае, што “Малая Сухолда” ўпадае ў раку Супрасль. Да таго ж Нэрэсль была вядома пад сваім імём ужо ў XIV ст., паколькі фігуруе ў крыжацкім геаграфічным даведніку “Littauischen Wegeberichte” як рака “Neresna”[74].

Г. Родэ, адзначыўшы, што назва “Вялікая Струга” – гэта па сваёй этымалогіі “вялікая рака”, прапанаваў наступныя варыянты яе лакалізацыі (выбіраючы больш-менш буйныя рэкі ў рэгіёне). Першы варыянт – рака Бжозуўка, другі – рака Сідра; абедзве з’яўляюцца левымі прытокамі Бебжы. Вусце Бжозуўкі размешчана літаральна ў 4–5 км ад вусця Неты і паміж імі лясны забалочаны абшар[75], дзе здаецца немагчымым існаванне ў мінулым значнага гандлёвага пункта, якім, напэўна, было Таргавіска. Таму нямецкі даследчык схіляўся да варыянта з ракой Сідрай. Тым больш, што выток Сідры знаходзіцца ў непасрэднай блізкасці ад вытокаў ракі Саколды, якую Г. Родэ атаясаміў з “Малой Сухолдай”[76]. Гэтая версія значна адсоўвае літоўска-мазавецкую мяжу на ўсход. Але на падставе дакументаў XVI ст. ідэнтыфікацыя “Малой Сухолды” з Саколдай цяпер прызнана памылковай; да таго ж гэтая ідэнтыфікацыя прама супярэчыць зместу дакумента, паводле якога “Малая Сухолда” была невялікай рачулкай. Можна вылучыць і яшчэ адзін довад супраць гіпотэзы Г. Родэ: Ганёндз стаіць на рацэ Чарна Струга; адпаведна назва “Вялікая Струга” з’яўлялася парнай да яе. Значыць, “Вялікую Стругу” трэба шукаць у непасрэднай блізкасці ад Чарнай Стругі, і значыць, гэтай ракой была Бжозуўка.

А. Камінскі атаясаміў “Вялікую Стругу” з Бжозуўкай (у польскамоўных крыніцах XVI ст. – “Brzozowa”; у рускамоўных – “Березовая”), а “Малую Сухолду” – з цяперашняй ракой Чарнай (рака “Чорная” разам з ракой “Соколдкой” альбо “Соколдкой Лядцкой” у дакументах XVI ст.)[77].

На наш погляд, вызначэнне ў афіцыйнай дакументацыі ВКЛ першай паловы XVI ст. ракі "Соколдки" як "Лядцкой" сведчыць аб тым, што яна да гэтага – у XIV–XV стст. – некаторы час сапраўды была памежнай ракой паміж ВКЛ і Мазовіяй. Гэты факт пацвярджае звесткі дагавора 1358 г. пра памежны статус ракі "Малой Сухолды" і з'яўляецца яшчэ адным аргументам на карысць аўтэнтычнасці гэтага дакумента.

Адносна лакалізацыі "Таргавіска" здаецца правамерным вярнуцца да старой гіпотэзы А. Ябланоўскага, што гэты пункт трэба шукаць прыблізна ў раёне Далістова. Але з той папраўкай, што старажытнае неўмацаванае славянскае паселішча з могілкамі было выяўлена не ў Далістове, а ў суседняй з ім вёсцы Забеле[78]. Правільнасць такой лакалізацыі "Таргавіска" пацвярджае і той факт, што ў раёне Далістова–Забеле, паводле геаграфічных дадзеных XIX ст., пагаршаліся ўмовы суднаходства па Бебжы: рака падзялялася на некалькі неглыбокіх рукавоў, сустракаліся каменныя завалы[79]. Таму менавіта ў гэтым раёне мог існаваць памежны літоўска-мазавецкі пункт рачнога гандлю і перавалкі тавараў. У 1392 г., паводле праўдападобнай гіпотэзы Ю. Марошака, крыжакі пабудавалі на месцы "Таргавіска" (як судзіць польскі даследчык, паблізу ад Далістова) замак Метэнбург, каб кантраляваць рачны камунікацыйны вузел пры сутоках рэк Неты, Бебжы і "Вялікай Стругі" (Бжозуўкі)[80]. Неўзабаве гэты замак быў разбураны, і мы спадзяемся яшчэ вярнуцца да гэтага сюжэту пры разглядзе ваенна-палітычнай гісторыі Гарадзенскага рэгіёна за згаданы перыяд.

Такім чынам, разгледжаны адрэзак мяжы цягнуўся ад вусця Неты, далей па рэчышчы Бебжы да "Таргавіска" (раён Далістова–Забеле), дзе крута паварочваў і ішоў назад уздоўж левага берага Бебжы да вусця "Вялікай Стругі" (Бжозуўкі). Далей мяжа была праведзена ўздоўж ракі "Вялікая Струга" (Бжозуўка) да вярхоўяў ракі "Малая Сухолда" (цяперашняя Чарна).

6. Ад вярхоўяў ракі "Малая Сухолда" (Чарна) уздоўж яе рэчышча і да самага ўпадзення ў раку Супрасль ("a vertice eiusdem Maleysucholdi deorsum eundo per ipsum fluvium directe usque ad fluvium seu riwlum Sprząsla").

7. Ад вусця "Малой Сухолды" (Чарнай) уніз па рацэ Супраслі прама да "Папялова Сядліска", а ад "Папялова Сядліска" прама да вусця ракі Невадніцы ("eundo deorsum per eundem fluvium [Sprząsla] directe ad Popelowosedlisko et a Popelouosedlisko directe ad Newothniczavscze").

Месцазнаходжанне сярэдневяковага населенага пункта "Папялова Сядліска" застаецца нявысветленым. Гідронім Невадніца лакалізуецца на поўдзень ад сучаснага Беластока; гэта прыток ракі Чаплінянка, якая ў сваю чаргу ўпадае ў Нараў. Пэўным маркерам для вызначэння адрэзка літоўска-мазавецкай мяжы ў гэтым раёне можа служыць тапонім Гарадняны на рацэ

Гараднянка на паўднёвы захад ад Беластока[81]. "Гараднянамі", як мы казалі вышэй, называліся ў часы Старажытнай Русі і Вялікага Княства Літоўскага (у XII–XV стст.) жыхары Гародні. Пагэтаму правамерна, што на мяжы паміж Ганёндзкім і Гарадзенскім "дыстрыктамі" ўзнік населены пункт з такой назвай.

Такім чынам, адрэзак мяжы ішоў па рацэ Супраслі прыблізна да раёна сучасных населеных пунктаў Юроўцэ і Нове-Александрова, потым спускаўся ў паўднёвым напрамку, праходзячы на захад ад пазнейшых Гараднян, і дасягаў ракі Невадніцы.

Застаецца няясным, ці ў дагаворы 1358 г. ішла гаворка пра месца ўпадзення ракі Невадніцы ў Чаплінянку, ці мелася на ўвазе Невадніца разам з Чаплінянкай, а "Newothniczavscze" – гэта месца ўпадзення цяперашняй Чаплінянкі ў Нараў. Нам падаецца больш верагодным другі варыянт.

У 5–6 км на поўдзень ад месца, дакуль даходзіў гэты адрэзак мяжы, пачыналася ўжо лінія замкаў літоўскага Падляшша – Сараж (цяперашні Сураж), Бельск, Дарагічын, Мельнік.

**Змены мяжы паміж Гарадзенскім, Візненскім і Ганёндзкім "дыстрыктамі" ў канцы XIV – пачатку XV стст.**

Мірнае пагадненне з Вялікім Княствам Літоўскім паставіла Мазовію ў даволі непрыемнае становішча адносна Тэўтонскага ордэна. Дагавор, заключаны, па ўсёй бачнасці, у таямніцы ад крыжакоў, прама супярэчыў мазавецка-крыжацкаму пагадненню 1343 г.

У 1360 г. Мазовія пры дапамозе Польскага каралеўства пабудавала замак у раёне Райгорада. Неўзабаве туды прыбыў атрад на чале з вярхоўным маршалам Ордэна Хенінгам Шыдэнкопфам. Крыжакі запрасілі на перамовы польскіх прадстаўнікоў і настойвалі, што будаўніцтва замка незаконнае, бо мясцовасць знаходзіцца на іх землях[82]. Апроч апісання ў хроніцы Віганда[83], захаваўся пратакол гэтых перамоваў, на які мы ўжо спасылаліся вышэй, калі казалі пра ўдзел гарадзенскага намесніка князя Патрыкея ў працы літоўска-крыжацкай памежнай камісіі 1358 г. Дазволім сабе прывесці невялікую вытрымку з гэтага дакумента:

*Маршал: "Ведайце, што мы не жадаем прычыніць вам ніякага зла, і мы прыйшлі сюды не для таго, каб турбаваць вас, бо лічым вас сябрамі, а не непрыяцелямі. Мы прыйшлі сюды для знішчэння і разбурэння будынкаў, якія пабудаваны на зямлі Ордэна. Калі ж хтосьці захоча нам забараніць альбо перашкодзіць у гэтым, мы будзем вымушаны абараняцца. Вы ведаеце, што нашу зброю мы накіроўваем не супраць вас, а супраць нашых смяротных ворагаў літвінаў, якія пераследуюць нас і ўсіх хрысціян. Наконт іх мы маем звесткі, што яны былі тут у вас. Таму скажыце нам, былі яны ў вас альбо не?"*

*Палякі адказалі: "Мы хочам сказаць тое, пра што ведаем. А чаго не ведаем, таго схаваць не можам. Літвінаў тут не было, толькі Патрыкей (Patirke)".*

*Маршал: "Ад вашых людзей мы даведаліся, што і Кейстут (Kynstute) тут быў".*

*Палякі: "Не Кейстут, а Патрыкей разам са сваім сынам".*

*Маршал: "Гэта мы лічым адным і тым жа, бо яны таксама праследуюць іншых хрысціян"*[84].

Гэты ўрывак вельмі цікавы як ускосная характарыстыка асобы Патрыкея, які, зразумела, не быў ані сынам Кейстута, ані сынам Нарымонта (насуперак гіпотэзе Я. Тэнгоўскага), ані тым міфічным "Паціргам Кейстутавічам", што дагэтуль непрыкаяна блукае па старонках некаторых некрытычных твораў – у дакуменце ён выразна аднесены да праваслаўных русінаў, і таму палякі на перамовах не адмовіліся ад таго, што мелі з ім кантакты. Пра гэта, аднак, мы больш падрабязна пагаворым у іншы час. Вяртаючыся да памежных спраў, відавочна, што крыжакі, калі і ведалі пра размежаванне паміж Мазовіяй і Вялікім Княствам Літоўскім, то не прызнавалі яго. Зрыў праекта хрысціянізацыі Літвы ў 1358 г. паставіў Мазовію перад нялёгкім выбарам: альбо захоўваць знешне больш выгадны дагавор з Ордэнам, які даводзіў мяжу ажно да самай Гародні, альбо, пад пагрозай знішчальных набегаў, кіравацца літоўска-мазавецкім пагадненнем. Бясконца лавіраваць паміж магутнымі ваяўнічымі суседзямі было немагчыма. І відаць, у пэўны момант Мазовія выбрала крыжакоў, за што хутка паплацілася. У 1368 г. літоўскія войскі на чале з Кейстутам знянацку ўварваліся ў Мазовію. Захапіўшы і знішчыўшы замак Пултуск, яны таксама спустошылі мясцовасці вакол Плоньска, Чарвіньска і Ловіча. Маштаб разбурэнняў здзівіў нават тых сучаснікаў, якія яшчэ добра памяталі ранейшыя літоўскія напады[85]. Мэтай гэтага крывавага рэйду, на наш погляд, было прымушэнне Мазовіі да выканання ранейшых пагадненняў, звязаных з падзелам тэрыторый у басейне Бебжы.

Канчаткова ўрэгуляваць пытанне аб межах паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Мазовіяй, відаць, удалося толькі каля 1370 г. у выніку шлюбу мазавецкага князя Януша І і Ганны Дануты Кейстутаўны. Пры гэтым Кейстут зрабіў тонкі дыпламатычны манеўр – хросным бацькам маладой князёўны быў запрошаны комтур Астэродэ Гюнтэр фон Гоэнштайн[86], які кіраваў крыжацкім рэгіёнам, што непасрэдна выходзіў да межаў Мазовіі і Вялікага Княства Літоўскага. Хаця Гюнтэр фон Гоэнштайн у тым жа 1370 г. пакінуў пасаду астэродскага комтура (стаўшы комтурам Брандэнбурга)[87], магчыма, яго ўдзел у вясельных урачыстасцях дачкі Кейстута спрыяў таму, што крыжакі нефармальна калі не пагадзіліся, то зміряліся з новай канфігурацыяй літоўска-мазавецкай мяжы. А ад гэтага нефармальнага ўладжвання справы было ўжо рукой падаць да літоўска-крыжацкага мірнага дагавора 1379 г.

Між тым, 2 снежня 1382 г. мазавецкія князі Земавіт IV і Януш І аддалі Візну і Ганёндз Тэўтонскаму ордэну ў Прусіі пад залог 7 тыс. грыўен[88]. Таму

прасочаны вышэй адрэзак ад Каменнага Броду на рацэ Элк да вусця ракі Невадніцы часова стаў літоўска-крыжацкай мяжой.

Салінскі дагавор паміж Тэўтонскім ордэнам і Вялікім Княствам Літоўскім ад 12 кастрычніка 1398 г., заключаны без удзелу Мазовіі, змяніў канфігурацыю гэтай мяжы на карысць ВКЛ. У адпаведнасці з гэтым дагаворам, мяжа праходзіла ад возера Нецка (побач з цяперашнім Аўгустовам), далей уздоўж рэчышча Нёты да ўпадзення гэтай ракі ў Бебжу. А потым – уздоўж Бебжы, не даходзячы мілю (7–8 км) да яе ўпадзення ў Нараў, і ад гэтага пункта прама да Нарава[89]. Такім чынам, ВКЛ часова перадавала Тэўтонскаму ордэну землі на ўсход ад ракі Элк, на захад ад ракі Неты і на поўнач ад Райгорада. Узамен жа атрымлівала замак Ганёндз і землі ў трохкутніку рэк Бебжа – Бжозуўка/Чарна – Нараў, цэнтрам якіх пазней стаў Кнышын.

Паколькі такое размежаванне было нявыгадным для Мазовіі, то ў Салінскім дагаворы спецыяльна абгаворвалася, што калі мазавецкі князь Земавіт IV альбо яго пераемнікі калі-небудзь вернуць сабе замак Візну, тады вялікі князь літоўскі Вітаўт павінен будзе правесці мяжу з князем Земавітам, “распытаўшы старых людзей”. Але нават, калі князь Земавіт выкупіў Візну ў крыжакоў 15 студзеня 1399 г. (рэшткі сумы былі выплачаны 29 студзеня 1402 г.), усходняя частка Ганёндзкага рэгіёна разам з замкам Ганёндзам усё роўна засталася ў руках вялікага князя літоўскага Вітаўта[90]. Адміністратыўна Ганёндз (па-руску “Ганязь”) у праўленне Вітаўта быў далучаны да Бельскага староства: па стану на 1 студзеня 1407 г. старастам у Бельску і Ганёндзе быў нобіль Міката (Мікіта?)[91]. Паміж 1425 і 1433 гг. (на думку польскіх навукоўцаў – у 1425 г.[92]) у склад Вялікага княства Літоўскага перайшоў і Тыкоцін з прылеглай мясцовасцю, які таксама адміністратыўна стаў адным з рэгіёнаў Падляшша.

У 60-я гады XV ст. (здаецца, бліжэй да 1466 г.[93]) па загаду караля Польшчы, вялікага князя літоўскага Казіміра было праведзена новае размежаванне паміж Ганёндзкім і Гарадзенскім рэгіёнамі. Падрабязны разгляд гэтай новай мяжы не ўваходзіць у мэты нашага даследавання, таму пазначым толькі асноўныя пункты яе абводу. Яна распачыналася прыблізна ў раёне Далістова–Забеле. Уздоўж ракі Кмітаўкі, левага прытока Бебжы, яна ішла да Таўкачова балота і праваслаўных могілак, далей ад Дзяцелева (цяперашняга Дзенцёлова) да Ядзешкаў. Адтуль асноўнымі пунктамі мяжы служылі: сяло Мацешкі (цяпер Мацешэ) – Бурбічы (Гурбічэ) – выток ракі Нэрэслі – сяло Шпакова – двор Крачкова (Кшэчкова) – вусце ракі Прытулянкі пры яе ўпадзенні ў Нэрэсль – Сікоры – Багушова (раён цяперашніх населеных пунктаў Калёня-Багушова і Багушова-Маёнтак паабапал ракі Нэрэслі). У сваю чаргу, дарога Багушова – Гародня ў напрамку на ўсход да самай ракі Чорнай (цяперашняй Чарнай) служыла тагачаснай мяжой паміж Гарадзенскім і Бельскім рэгіёнамі ВКЛ[94].

У 1536 г. гэтая мяжа паміж Ганёндзкім і Гарадзенскім рэгіёнамі была па загаду караля Польшчы, вялікага князя літоўскага Жыгімонта Старо-

га, перагледжана камісіяй на чале з берасцейскім старостам, маршалкам гаспадарскім Аляксандрам Іванавічам Хадкевічам. Як можна меркаваць на падставе недатаванага пратакола рашэння камісіі, мяжа была адсунута на ўсход, на ранейшыя рубяжы, якія былі акрэслены яшчэ ў дагаворы 1358 г. і праходзілі ўздоўж рэк Бжозуўка і Малая Саколдка (Чорная). У выніку гэтага новага размежавання "к Ганязю" былі "населены" (г. зн. падпарадкаваны ў адміністратыўных адносінах) сёлы Забелле (цяперашняе Забеле), Ятвезь Вялікая (цяпер Ятвезь-Дужа), двор Тарусін, двор зямяніна Яна Слаўскага, сяло Ясвілы, сяло Рамейкі і Ятвезь Сухая, Шпакова, Калінаўка, сяло Багна, Воля, Закасцельная Калінаўка, Вялікая Нярэшля і Малая Нярэшля[95].

Пры гэтых новых размежаваннях паміж Гарадзенскім, Ганёндзкім і Бельскім рэгіёнамі, якія праводзіліся каля 1466 г. і ў 1536 г. ніколі ўжо не згадваўся кавалак тэрыторыі на поўдзень ад ракі Супраслі ("Папялова Сядліска" – вусце ракі Невадніцы), які згодна з літоўска-мазавецкім дагаворам 1358 г. уваходзіў у склад Гарадзенскага рэгіёна. Відаць, яшчэ ў першай палове XV ст. гэтая тэрыторыя стала адміністратыўна належаць да Бельскага рэгіёна. У 1510 г. частка гэтай тэрыторыі ад Хварошчы да Белага Стока была перададзена Супрасльскаму манастыру[96].

**Мяжа паміж Гарадзенскім рэгіёнам і Прусіяй (апошняя чвэрць XIV – пачатак XV ст.)**

Паўночна-заходняя мяжа Вялікага Княства Літоўскага і Гарадзенскага рэгіёна з Тэўтонскім ордэнам у Прусіі ў другой палове XIV ст. доўгі час заставалася дакладна не вызначанай. Такі стан рэчаў быў абумоўлены не толькі амаль няспыннай ваеннай канфрантацыяй паміж дзвюма дзяржавамі, але і прэтэнзіямі ВКЛ на заходнебалцкія землі, захопленыя крыжакамі. Калі ў 1358 г. літоўскія князі ставілі ўмовай каталіцкага хрышчэння вяртанне зямель, заваяваных Ордэнам, то меліся на ўвазе менавіта тыя тэрыторыі, якія ў мінулым былі заселены яцвягамі і прусамі. Нават у лютым 1413 г. падчас перамоваў з крыжакамі Вітаўт у прыступе гневу заявіў, што Прусія належала яго дзеду да самай ракі Осы (правага прытоку Віслы ў раёне Грудзёндза)[97]. Мабыць, пры некаторых адрозненнях у дэталях, такая заява адлюстроўвала агульнае стаўленне вялікіх князёў літоўскіх, пачынаючы яшчэ з Гедыміна і Альгерда, да праблемы "рэканкісты" заходнебалцкіх зямель.

Першым прававым дакументам, у якім была прыблізна акрэслена канфігурацыя паўночна-заходняй літоўска-крыжацкай мяжы, быў дагавор паміж ВКЛ і Тэўтонскім ордэнам ад 29 верасня 1379 г. Згодна з гэтым дакументам, жыхарам Гарадзенскага рэгіёна дазвалялася карыстацца пушчай толькі на адлегласці 6 міль (42–48 км) ад рэчышча Нёмана ў кірунку Прусіі, г. зн. не далей ракі Неты.

Салінскі дагавор 1398 г., як гаварылася вышэй (параграф 2.4), ужо *expressis verbis* правёў літоўска-крыжацкую мяжу па рацэ Неце. Аднак,

гэтая мяжа пратрымалася нядоўга, бо даволі хутка абодва бакі перасталі выконваць гэтае пагадненне (нягледзячы нават на ўзаемнае пацвярджэнне ўмоваў Салінскага дагавора пад Рацёнжкам 22 мая 1404 г.[98]).

Мельнскі дагавор паміж Польшчай, ВКЛ і Тэўтонскім ордэнам ад 27 верасня 1422 г. пачынаў сумесны адрэзак мяжы ад ужо знаёмага чытачам Каменнага Броду на рацэ Элк[99]. Далей яе лінія ішла праз пустынную мясцовасць да Райгародскага возера, дзелячы яго на дзве паловы – крыжацкую і літоўскую[100] (як можна рэтраспектыўна судзіць па матэрыялах XVI ст., мяжа праходзіла каля сяла Крыве, гл. ніжэй). Адтуль яна дасягала пункта пад назвай Правішча (Preywisti). Гэтае старажытнае яцвяжскае паселішча, вядомае яшчэ з Галіцка-Валынскага летапісу, на пачатку XV ст., верагодна, ляжала спустошанае; цяпер на яго месцы знаходзіцца вёска Праўдзіска, на 22°45' усходняй даўгаты, за 20 км на захад ад Аўгустава[101]. Потым літоўска-крыжацкая мяжа ішла да Мерунішак, мясцовасці на 22°35' усходняй даўгаты, побач з цяперашнім Філіпувам[102]. Адтуль да Віштынецкага возера – так што возера цалкам заставалася на баку Тэўтонскага ордэна, і далей уздоўж ракі Лепоны, ад самага яе вытоку да ўпадзення ў раку Шырвінту. Потым ракой Шырвінтай да яе ўпадзення ў Шашупе і адтуль да вусця невялічкай ракі Швянтой пры яе ўпадзенні ў Нёман (дзе цяпер знаходзіцца Смалінінкай).

Дзе быў крайні рубеж, якога дасягала на той час тэрыторыя Гарадзенскага рэгіёна на паўночным захадзе, у былым яцвяжскім абшары, сказаць можна толькі прыблізна. Мы можам гіпатэтычна вызначыць гэты рубеж па лініі Каменны Брод на рацэ Элк – Райгорад – Правішча – возера Нецка – і далей на ўсход уздоўж 53°55' паўночнай шыраты і ракі Чорнай Ганьчы да самага рэчышча Нёмана.

Пры гэтым Райгорад як цэнтр асобнага рэгіёна на чале з войтам, відаць, даволі рана адасобіўся ад Гарадзенскага рэгіёна і стаў у адміністратыўных адносінах належаць да Падляшша. У 1536 г. мяжа паміж Гарадзенскім і Райгародскім рэгіёнамі праходзіла ўздоўж ракі Неты, а мяжа паміж Райгародскім рэгіёнам і Прусіяй – у раёне прускага сяла Крыве (цяпер Кшыве каля аднайменнага возера)[103]. У XVI ст. на рацэ Неце збіралася мыта з гарадзенскіх купцоў, якія гандлявалі з Прусіяй. Было скасавана па загаду Жыгімонта Старога[104].

**Мяжа з Пераломскім рэгіёнам паводле дагавора 1379 г.**

Непасрэдна на поўнач ад Гародні мяжа Гарадзенскага рэгіёна дакладна ўстанаўліваецца паводле літоўска-крыжацкага дагавора 1379 г.: яна перасякала Нёман у адной мілі (7–8 км) на поўдзень ад Пералома (цяпер вёска на беларуска-літоўскай мяжы), у раёне цяперашняй вёскі Ятвезь[105]. Наконт прыналежнасці Гожы ў гэты перыяд цяжка сказаць штосьці пэўнае – прынамсі ў XV ст. Пералом і Гожа (Ожа) уваходзілі ў склад адной воласці[106].

Далейшы абвод мяжы ва ўсходнім напрамку дакладна невядомы. Можна толькі меркаваць, што ён пакідаў на гарадзенскім баку Белае возера і, магчыма, Парэчча і Бершты і дасягаў ракі Котры. Але прыблізна на адметцы 53º40’ паўночнай шыраты і 24º30’ усходняй даўгаты, на ўсход ад ракі Котры, дагавор 1379 г. зноў пачынаў падрабязна вызначаць мяжу паміж Гарадзенскім і Пераломскім рэгіёнамі (гл. карту): “Вось сёлы на мяжы паміж Пераломам і Гародняй: Мікуландорф (Miculandorf) Бутэнера (?) з Гародні; другое – Заблоцце (Sablocza), сяло Помена, паляка; трэцяе – Вялікае Сяло (Grosedorf), дзе сядзяць судовы (ятвягі); чацвёртае – Астрына (Astryne); пятае – Раміландорф (Ramylandorf); шостае – Кентыняны (Kentynane) і Тамяняны (Tamyanane) і Сукендорф (Sukendorf)”.

Усходняя мяжа Гарадзенскага рэгіёна ў адпаведнасці з літоўска-крыжацкім дагаворам 1379 г. і напрамкі шляхоў у басейне р. Котры паводле крыжацкага дарожнага даведніка "Die Littauischen Wegeberichte"

Перш чым прыступіць да лакалізацыі пералічаных тут сёлаў, трэба адказаць на пытанне: да якога рэгіёна яны належалі – да Гарадзенскага альбо да Пераломскага?

На жаль, мы вельмі мала ведаем пра тэрыторыю Пераломскага рэгіёна ў апошняй чвэрці XIV ст. З дагавора 1379 г. ясна вынікае, што Пераломскі рэгіён тады не ўваходзіў у склад дамена Кейстута. У сваю чаргу, з прывілея 1387 г. на Троцкую і іншыя землі для Скіргайлы Альгердавіча бачна, што Пераломскі рэгіён, які межаваў на поўначы з Мерацкай воласцю, быў спецыяльна пакінуты як пояс зямель вялікакняжацкага дамена паміж уладаннямі заклятых ворагаў Скіргайлы і Вітаўта – Троцкім і Гарадзенскім рэгіёнамі. Таму меркаванне Я. Якубоўскага, нібыта Пераломскі рэгіён у 1380-х гадах быў далучаны да Гарадзенскага рэгіёна[107], з’яўляецца, мусіць, занадта паспешлівым.

Дзеянне літоўска-крыжацкага дагавора 1379 г. распаўсюджвалася не на ўсе тэрыторыі ВКЛ, а толькі на ўладанні Кейстута: Ваўкавыск, Сараж, Дарагічын, Мельнік, Бельск, Бярэсце, Камянец і Гарадзенскую “зямлю”, якім гарантавалася з боку Тэўтонскага ордэна бяспека “ад ваенных нападаў, ад разбою, і ад усялякіх людзей, якія могуць прычыніць ім шкоду”. Лагічна дапусціць, што мясцовасці былі пералічаны ў дакуменце менавіта для таго, каб падкрэсліць іх прыналежнасць да Гарадзенскага рэгіёна і ахапіць іх нормамі мірнага дагавора. Апроч таго, Астрына ў крыжацкім дарожным даведніку канца XIV – пачатку XV ст. “Littauischen Wegeberichte” неаднаразова называецца вялікакняжацкім дваром (“koninges hof”[108]), з чаго можна зрабіць выснову, што Астрына належала вялікаму князю літоўскаму Вітаўту і як і іншыя сёлы, пералічаныя ў дагаворы 1379 г., уваходзіла ў склад Гарадзенскага рэгіёна.

1) У публікацыях XIX ст. назва сяла “Мікуландорф” транслітаравалася як “Mitulandorf” з-за таго, што паміж малымі літарамі “t” і “c” у гатычным курсіўным шрыфце існуе значнае падабенства. Нямецкі гісторык Т. Гірш першы выказаў меркаванне, што назву трэба чытаць як “Miculandorf”, і атаясаміў гэты населены пункт з сялом “Mikullendorf”, якое згадана ў “Littauwischen Wegeberichte” на шляху Пералом – Бакшты[109]. Знаёмства з фотаздымкам арыгінала дагавора 1379 г. пацвярджае ягоную правату. Такім чынам, сяло “Мікуландорф” магчыма ідэнтыфікаваць як цяперашнюю в. Мікулішкі Шчучынскага раёна, якая размешчана на мяжы лясіста-забалочанай поймы левага берага ракі Котры[110].

Адносна ўладальніка “Мікуландорфа” – “Бутэнера” з Гародні – поўнай яснасці няма. Здаецца, вялікая літара, з якой у арыгінале пададзена гэтае слова, сведчыць аб тым, што “Бутэнер” – гэта прозвішча. Таму магчымы варыянт, што гэта быў немец на службе ў князя Кейстута. Больш нічога пра гэтага чалавека невядома. З іншага боку, “Beutner” у старанямецкай мове

азначала "пасечнік, пчаляр" (паводле слоўніка братоў Грым = лац. "apiarius", нямі. "bienenwärter"). Таму ў дагаворы 1379 г. магла ісці гаворка пра тое, што сяло належала Мікуле, які быў гарадзенскім бортнікам (мабыць, плаціў мядовую даніну).

2) Непадалёк ад Мікулішак фіксуюцца два тапонімы, блізкія па гучанню і этымалогіі да назвы "Заблоцце". Па-першае, вёска Забалоцце Шчучынскага раёна, якая знаходзіцца на поўдзень ад ракі Нявішы, паміж Мікулішкамі і Новым Дварам. Па-другое, в. Забалаць Воранаўскага раёна.

Трэба адзначыць, што пошук у гэтым раёне сучасных тапонімаў, блізкіх да сярэдневяковай назвы "Заблоцце", увогуле можа быць няверным метадам. Падабенства назваў у дадзеным выпадку яшчэ нічога не даказвае, бо тапонімы, сугучныя "Заблоццю", вельмі шырока распаўсюджаны на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Тым больш у такой балоціста-азёрнай, пранізанай мноствам рачных артэрыяў, мясцовасці, якая раскінулася на ўсход ад ракі Котры.

Але ўсё ж мы хутчэй схіляемся да другога варыянта лакалізацыі – в. Забалаць Воранаўскага раёна. Прызнацца, тут узнікае шэраг пытанняў, якія немагчыма з поўнай яснасцю высветліць. Напрыклад, калі "Заблоцце" – гэта Забалаць Воранаўскага раёна, то далейшая лінія мяжы, спускаючыся да ракі Касцянёўкі, праходзіць побач з Васілішкамі – і дзіўна, што складальнікі дагавора 1379 г. абмінулі ўвагай гэты факт і не вызначылі становішча Васілішак у сістэме літоўска-крыжацкіх узаемадачыненняў. Васілішкі ў канцы XIV – пачатку XV стст. былі значным пунктам на скрыжаванні шляхоў з Гародні ў Ліду і з Ліды ў Навагарадак. З іншага боку, наўрад ці Васілішкі тады ўваходзілі ў склад Гарадзенскага рэгіёна, бо ў "Littauwischen Wegeberichte" гэты населены пункт, у адрозненне ад Астрыны і Азёраў, ні разу не названы "вялікакняжацкім"[111], а к канцу XV ст. ён паступова вылучыўся ў цэнтр асобнай воласці[112].

Вырашальным аргументам з'яўляецца тое, што звесткі пра "Заблоцце" дагавора 1379 г. добра стасуюцца з двума іншымі важнымі крыніцамі апошняй чвэрці XIV ст. "Littauischen Wegeberichte" паведамляе, што на шляху № 90 паміж Васілішкамі і Радунню знаходзіўся населены пункт "Sabalost", ад якога было дзве мілі (каля 16 км) да "Skalewo", дзе жылі балты-"скалвы", прыведзеныя ў палон з крыжацкага рэгіёна Рагніты[113]. У сваю чаргу, прывілей 1387 г. для князя Скіргайлы Альгердавіча на Троцкую і Полацкую землі кажа, што мяжа Радуньскай воласці даходзіла "по Сколву"[114]. Супастаўляючы гэту інфармацыю, можна зрабіць дастаткова трывалую выснову, што "Заблоцце" дагавора 1379 г. і "Sabalost" з крыжацкага геаграфічнага даведніка – гэта адзін і той жа населены пункт, які можна лакалізаваць на месцы сучаснай в. Забалаць Воранаўскага раёна.

Яшчэ адно вельмі цікавае пытанне звязана з уладальнікам сяла "Заблоцця" – палякам "Поменам". У вядомай манаграфіі Г. Блашчыка, прысвечанай

польска-літоўскім стасункам да 1385 г., сюжэт пра “Помена” закрануты толькі мімаходзь і інтэрпрэтаваны памылкова. Так, ён лакалізаваў сяло “Заблоцце” на поўнач ад Гародні і да таго ж лічыў, што словы “Pomenen dorf” са стараня-мецкага тэкста быццам бы могуць азначаць “сяло над Нёманам” (?)[115].

Між тым, “Pomenen dorf” – гэта выводнае ад імені нобіля, якое створана па тым жа прынцыпе, што і іншыя назвы некаторых літоўскіх сёлаў у крыжацкіх крыніцах: “імя ўладальніка + элемент -en (-an) + dorf”: пар. “Kymantendorf”, “Surwillendorf”, “Stegewillendorf” і г. д. У імені “Помен” угадваецца назва польскага шляхецкага роду герба “Помян”, які ў XIV–XV стст. меў некалькі разгалінаванняў у Куяўскай і Серадзскай землях[116]. У 1413 г. невядомы прадстаўнік гэтага роду адаптаваў у Гародле род літоўскага нобіля Станіслава Сака[117]. Асаблівай увагі заслугоўвае род серадзскіх Помянаў з мястэчка Невеш (цяпер вёска ў Паддэнбіцкім павеце Лодзкага ваяводства Польшчы)[118], назва якога вельмі сугучная з назвай ракі Нявіша, левага прытока Котры, якая цячэ паміж Мікулішкамі і Астрынай. Бліжэй да вытокаў Нявішы цяпер знаходзяцца аднайменныя населеныя пункты Вялікая Нявіша і Малая Нявіша[119]. Гіпотэза, што польскі нобіль герба “Помян” з Невеша ў другой палове XIV ст. меў у гэтым раёне зямельнае ўладанне, якому даў назву свайго родавага гнязда, выглядае не такой ужо і фантастычнай. Важным контраргументам, аднак, можа быць магчымае балцкае паходжанне назвы ракі Нявіша ў Гарадзенскім рэгіёне, бо ў дакументах XV ст. фіксуецца антрапонім “Невишис” (імя чалавека ў Расейнах, Жамойць)[120].

Нялішнім таксама будзе нагадаць, што ў некалькіх кіламетрах на поўдзень ад ракі Нявішы знаходзіцца населены пункт Лядск (цяпер вёска Шчучынскага раёна), вядомы з XV ст.[121], а мабыць і з канца XIV ст., калі з Лядскам можна атаясаміць населены пункт “Lediska”, які крыжакі згадвалі на шляху з Турыйска ў Васілішкі[122].

Так выглядае агульная, даволі стракатая карціна фактаў і дапушчэнняў.

Відавочна, што па лініі з поўначы на поўдзень: вёска Забалаць Воранаўскага раёна – вярхоўі ракі Нявішы – вёска Лядск Шчучынскага раёна, ужо ў глыбокай старажытнасці, прынамсі, пачынаючы з апошняй чвэрці XIV ст. фіксуецца прысутнасць польскага насельніцтва, мабыць, палонных, захопленых падчас аднаго з літоўскіх набегаў на Польшчу альбо Мазовію, і іх нашчадкаў. Што ж датычыцца паляка “Помяна”, то гэта адзін з найбольш ранніх выпадкаў службы польскага нобіля ў літоўскіх князёў (тым больш, у язычніка, якім быў Кейстут). У гэтай сувязі прыгадваецца невядомая нам асоба польскага пісара, які запісаў дагавор, хаця нейкія адназначныя высновы тут, вядома ж рабіць немагчыма.

3) Сяло “Grosedorf”, якое ў 1379 г. насялялі ятвягі, досыць упэўнена лакалізуецца на месцы цяперашняй вёскі Вялікае Сяло Шчучынскага ра-

ёна, побач з ракой Касцянёўкай, правым прытокам ракі Лебяды[123]. У 3 км на поўнач ад Вялікага Сяла знаходзіцца гарадзішча Касцянёва, дзе стаяла памежная драўляная крэпасць Навагародскага княства, разбураная падчас баявых дзеянняў у другой палове XIII ст.[124]

4) Астрына – цяпер гарадскі пасёлак у Шчучынскім раёне. У 3 км на паўднёвы ўсход ад Астрыны, на беразе ракі Астрынкі, знаходзіцца гарадзішча Кульбачына, дзе стаяла памежная крэпасць Гарадзенскага княства, таксама, як і Касцянёва, знішчаная ў другой палове XIII ст.[125]

Наяўнасць побач з Астрынай і Вялікім Сялом рэшткаў старых памежных старажытнарускіх крэпасцей XIII ст. дазваляе меркаваць, што на гэтым адрэзку мяжа Гарадзенскага рэгіёна ў 1379 г. паўтарала канфігурацыю старажытнай мяжы былога Гарадзенскага княства.

5) Лакалізацыя сяла "Раміландорф" не высветлена. Можна меркаваць, што нямецкая назва створана ад імя ўладальніка сяла – нобіля "Раміля" альбо "Раміліса".

6) Лакалізацыя населеных пунктаў "Кентыняны" і "Тамянаны" не высветлена.

7) Сяло "Сукендорф" мае некалькі варыянтаў лакалізацыі, якія ўсе заснаваныя на падабенстве гучання. Гэта альбо цяперашні г. Шчучын, альбо в. Шчукі Шчучынскага раёна, альбо в. Сухінічы Мастоўскага раёна. Шчучын, здаецца, можна выключыць – як на падставе геаграфічнага становішча, так і таму, што на паўднёвы захад ад яго і на захад ад Ражанкі знаходзіўся старажытны Ятвезск (паміж цяперашнімі вёскамі Будроўцы і Шніпкі[126]), які ўжо ў першай палове XV ст. стаў цэнтрам асобнай воласці; мусіць, і Шчучын, і Ражанка ўваходзілі ў склад гэтай воласці.

Варыянт, прапанаваны Т. Чэлькісам: што "Сукендорф" – гэта быццам бы "двор Жука" ("Žuko kaimas")[127], выглядае залішнім, бо для тлумачэння гэтай назвы дастаткова тапанімічнага матэрыялу, а пра існаванне нобіля "Жука" у апошняй чвэрці XIV ст. мы нічога не ведаем.

На нашу думку, найбольш верагоднай з'яўляецца лакалізацыя сяла "Сукендорф" на месцы цяперашняй вёскі Сухінічы[128]. На карысць гэтага сведчыць агульная канфігурацыя дадзенага адрэзка мяжы, які цягнуўся ад забалочанай поймы р. Котра, рабіў пятлю Мікулішкі – Забалаць – Вялікае Сяло – Астрына, даходзіў да Сухінічаў і далей спускаўся да Нёмана.

Дадаткова трэба ўзяць пад увагу, што ў сярэдзіне XV ст. у склад Гарадзенскага рэгіёна ўваходзіла і тэрыторыя ў вусці ракі Шчары[129], дзе сыходзіліся мяжы трох валасцей – Гарадзенскай, Ятвезскай і Турыйскай. Магчыма, што і ў апошняй чвэрці XIV ст. вусце Шчары было самым крайнім пунктам Гарадзенскага рэгіёна на ўсходзе.

У раёне Мікулішак – Забалаці – Вялікага Сяла – Астрыны пояс Пера-

ломскага рэгіёна аддзяляў Гарадзенскі рэгіён ад Радуньскай воласці, якая ў 1387 г. разам з іншымі валасцямі Троцкага рэгіёна была перададзена князю Скіргайле Альгердавічу.

На заканчэнне застаецца дадаць, што ў XV ст. частка тэрыторыі за ракой Котрай, якая паводле дагавора 1379 г. належала да Гарадзенскага рэгіёна, ужо ўвайшла ў склад асобнай Астрынскай воласці[130].

**Паўднёвая мяжа Гарадзенскага рэгіёна ў XIV ст.**

Мяжа паміж Гарадзенскім і Ваўкавыскім рэгіёнамі ў XIV ст. не паддаецца дэталёвай рэканструкцыі з-за адсутнасці крыніц.

Як вынікае з дагавора 1379 г., Ваўкавыскі рэгіён на поўначы ў той час даходзіў да ракі Нёман (“do si [Нёман – *Аўт.*] ruret Wilkawiczka das gebiet”). Такое ж становішча захоўвалася і ў канцы XVI ст., калі Ваўкавыскі павет выходзіў да Нёмана паміж вусцямі рэк Рось і Зельвянка[131]. Падабенства паміж гэтымі адрэзкамі мяжы канца XIV і канца XVI стст. наводзіць на думку, што і канфігурацыя астатняй мяжы паміж Гарадзенскім і Ваўкавыскім рэгіёнамі, змяняючыся ў некаторых дэталях, у цэлым заставалася больш-менш нязменнай на працягу амаль двух стагоддзяў.

Трэба, аднак, зрабіць істотную агаворку. У XVI ст. межы паветаў і валасцей часам змяняліся з-за таго, што ўплывовы кіраўнік адміністрацыі таго ці іншага рэгіёна атрымліваў у валоданне некаторыя землі ў суседнім рэгіёне. Так, у 1567 г. тры вёскі – Мялешкі, Бялевічы і Супрасль-Нацовічы – былі перададзены віленскаму кашталяну, вялікаму гетману і гарадзенскаму старасце Грыгорыю Хадкевічу. У сувязі з гэтым яны былі вылучаны са складу Ваўкавыскага павета і перададзены ў склад Гарадзенскага павета[132].

Хаця дынаміка такіх зменаў рэгіянальных межаў дагэтуль сістэмна не вывучана, мы можам меркаваць, што і некаторыя іншыя валоданні Хадкевічаў – напрыклад, землі на поўдзень ад ракі Супраслі, г. зн. Блудаўская пушча з Заблудавам – у XIV ст. яшчэ не ўваходзілі ў склад Гарадзенскага рэгіёна.

Паводле карты Гарадзенскага павета ў XVI ст., складзенай Я. Якубоўскім, і картаў Ваўкавыскага і Гарадзенскага паветаў у канцы XVI ст., падрыхтаваных М.Ф. Спірыдонавым, мяжа паміж рэгіёнамі ішла на паўднёвы захад ад Нёмана па лініі Глядневічы, Воўпа, Рэпля, Жарна – усе пералічаныя пункты заставаліся на ваўкавыскім баку (на карце Я. Якубоўскага, аднак, Жарна пазначана ў складзе Гарадзенскага павета). Вялікая Бераставіца і Малая Бераставіца заставаліся ў Гарадзенскім павеце. Яшчэ адзін населены пункт з назвай Бераставіца (цяпер пас. Пагранічны) на поўнач ад Клепачоў належаў да Ваўкавыскага павета. Каля Гарадка (цяпер Грудэк у Польшчы ля вытокаў ракі Супраслі), які заставаўся на гарадзенскім баку, мяжа рэзка ішла на поўдзень да ракі Нараў[133].

Магчыма, гісторыя зменаў ранняй мяжы паміж Гарадзенскім і Ваўкавыскім паветамі можа крыху высветліцца пасля падрыхтоўкі па-

драбязнага гістарычна-геаграфічнага каментарыя да трэцяй кнігі запісаў Літоўскай Метрыкі і некаторых іншых крыніц XIV–XV стст., якія вывучаны яшчэ яўна недастаткова.

**Сістэма аховы мяжы**

Паколькі ў XIV ст. заходняя мяжа Гарадзенскага рэгіёна была адначасова дзяржаўнай мяжой Вялікага Княства Літоўскага з Мазовіяй і Тэўтонскім ордэнам у Прусіі, уздоўж яе была створана сістэма апавяшчэння пра ваенную небяспеку.

Так, пад 1375 г. у хроніцы Віганда з Марбурга паведамляецца пра паход крыжацкага атрада з 30 чалавек праз пустынную мясцовасць паміж Прусіяй і Гарадзенскім рэгіёнам з мэтай рабавання. *"Вартаўнічыя пасты (vigiles),* – як зазначыў храніст, *– даведаўшыся пра гэта, паведамілі ў замак Гародню (Garten). Староста (capitaneus) пераследаваў іх у мясцінах, якія добра ведаў і праз якія яны вярталіся дамоў. Напаў на іх нечакана са звычайным рускім клічам…"*[134]. У выніку частка рабаўнікоў была знішчана, а частка захоплена ў палон.

У дадзеным канкрэтным выпадку звяртае на сябе эфектыўнасць сістэмы памежнай аховы ВКЛ, якая складалася са стацыянарных альбо рухомых вартаўнічых пастоў. У бяскрайніх і бязлюдных пушчах на паўночна-заходнім ускрайку Гарадзенскага рэгіёна вартаўнікі здолелі выявіць невялікі атрад і хутка паведаміць аб ім у Гародню. Высланая з Гародні дружына паспела апярэдзіць рабаўнікоў на іх зваротным шляху і арганізаваць паспяховую засаду.



Падводзячы папярэднія вынікі, можна дадаць, што ў межах паводле літоўска-мазавецкага дагавора 1358 г. і літоўска-крыжацкага дагавора 1379 г. Гарадзенскі рэгіён меў, па нашых падліках, агульную плошчу прыблізна 8260 кв. км.[135] Значную частку гэтага абшару складалі пушчы, азёры і балоты.

У XIV ст. мяжа Гарадзенскага рэгіёна на ўсходзе – з Пераломскім рэгіёнам, і мабыць, на поўдні – з Ваўкавыскім і Падляшскім рэгіёнамі, заставалася даволі стабільнай. На адным з адрэзкаў – у раёне Астрыны і Вялікага Сяла – яна паўтарала канфігурацыю старажытнай мяжы XIII ст. паміж Навагародскім і Гарадзенскім княствамі.

Іншая карціна назіралася на захадзе, дзе Вялікае Княства Літоўскае праводзіла энергічную экспансію з мэтай захопу былых ятвяжскіх зямель у басейнах рэк Элк, Нета і Бебжа. На працягу трыццаці з невялікім гадоў – з 1325 па 1358 гг. – ва ўмовах жорсткага ваеннага супрацьстаяння з Тэўтонскім ордэнам і Мазовіяй, выкарыстоўваючы як ваенныя, так і дыпламатычныя сродкі (і не ў апошнюю чаргу супярэчнасці паміж крыжакамі і мазаўшанамі), літоўскім князям удалося адсунуць фактычную заходнюю мяжу Гарадзенскага рэгіёна з вярхоўяў ракі Бебжы, у 16 км ад Гародні, да лініі Райгорад – рака Нета – вусце Бжозуўкі – рака Чарна. У далейшым, пагадненні

з Тэўтонскім ордэнам, пачынаючы з 1398 г., дазволілі ВКЛ захапіць шэраг мазавецкіх зямель, найперш Ганёндз і Тыкоцін, і трывала замацаваць за сабой Райгародскі рэгіён і землі на поўнач ад лініі Праўдзіска – возера Нецка. Але і Ганёндз і Тыкоцін, і Райгорад не ўвайшлі ў склад Гарадзенскага рэгіёна, а сталі часткай Падляшша[136].

Нельга пагадзіцца са сцвярджэннем некаторых польскіх даследчыкаў, што мяжа, вызначаная дагаворам 1358 г., нібыта стабільна захоўвалася на працягу стагоддзяў – спачатку як літоўска-мазавецкая, потым як гарадзенска-падляшская, а пасля 1569 г. як літоўска-польская. Прынамсі ў XIV–XV стст. канфігурацыя гэтай мяжы неаднаразова мянялася. У 1398 г. гэта было выклікана далучэннем да ВКЛ Ганёндза, а потым і некаторых іншых мазавецкіх зямель. Каля 1466 г. у выніку новага размежавання мяжа паміж Гарадзенскім і Ганёндзскім рэгіёнамі была перанесена крыху на захад – і да Гарадзенскай пушчы далучыліся значныя лясныя ўгоддзі. Толькі ў 1536 г. гэты адрэзак мяжы быў зноў праведзены там, дзе ён праходзіў у XIV ст., г. зн. уздоўж рэк Бжозуўка і Чарна.

Значную цікавасць прадстаўляе вывучэнне такіх пытанняў, як населеныя пункты і камунікацыі, этнічны склад насельніцтва і ваенна-палітычная гісторыя Гарадзенскага рэгіёна ў другой палове XIII – XIV ст. (паводле пісьмовых крыніц). Але гэта ўжо тэма асобнага даследавання, якое, спадзяемся, калі-небудзь будзе праведзена.

## ДАДАТКІ

### Дадатак 1. Пераклад ліста мазавецкіх князёў Земавіта, Тройдзеня і плоцкага біскупа Фларыяна да папы Іаана XXII (Плоцк, 25 жніўня 1325 г.)[137]

Свяцейшаму ў Хрысце айцу і пану высокашаноўнаму святой Рымскай і ўсяленскай царквы вярхоўнаму пантыфіку Земавіт Раўскі [Semovitus Ravensis], Тройдзень Чэрскі [Droydynus Cirnensis], князі Мазовіі, і Фларыян, Божай міласцю біскуп Плоцкай царквы, фундаванай у межах хрысціянскага свету ў правінцыі Польскай, з належнай пакорлівасцю (прыносім) маленні і прашэнні прыніжаныя і цалуем ногі святых.

Калі шаноўныя айцы – Барталамей, Божай міласцю біскуп Электэнскі [Elycensis], і Бернард, з Божай ласкі абат манастыра святога Тэафрэда, епархіі Ле-Пюі-ан-Вэле [Aniciensis], нунцыі апостальскага прастола, па волі вашага свяцейшаства заключылі паміж каралём альбо князем літвінаў [Litwanorum] і яго падданымі, з аднаго боку, і пабожнымі мужамі магістрам і братамі шпіталя святой Марыі Нямецкага ордэна Іерусалімскага ў Прускай зямлі і некаторымі хрысціянамі, у прыватнасці суседзямі зямлі літвінаў, з іншага боку, мір, які належала цвёрда трымаць і непарушна захоўваць на

працягу чатырох гадоў, яны (літвіны) абяцалі прыняць хрышчэнне і веру хрысціянскую. Але ж гэта быў падман, бо мы мяркуем, што прымусіць іх да гэтага і ўстанавіць мір надзейны і доўгі, падчас якога хрысціяне маглі б цешыцца бяспекай, можна толькі моцнай рукой і востра наточаным з абодвух бакоў мячом, калі на тое будзе Боская воля. Цяпер жа ў слязах, з жалем і сардэчнай горыччу абвяшчаем вашаму святейшаству, якая шкода была прычынена ўсё тым жа верным хрысціянам і найбольш нашым землям і згаданай Плоцкай епархіі, якія знаходзяцца непасрэдна побач з каралеўствам літвінаў.

Бо напярэдадні бліжэйшага прайшоўшага дня святой Цэцыліі[138] некаторы князь няверны імям Давід [David], падданы караля альбо князя таго ж Літвы [Litwanie], з велізарным і шматлюдным войскам, патаемна прабраўшыся ў нашы землі, разрабаваў восемдзесят паселішчаў [villas] у нашых уладаннях і трыццаць сем біскупскіх алтароў [mense] і адзін неўмацаваны горад [opidum non munitum] з многімі манастырскімі паселішчамі, канямі, быдлам і ўсімі рэчамі. І многія цэрквы разам са згаданымі паселішчамі, знеслаўляючы імя Бога нашага, ён спаліў датла, агнём і мячом кроў хрысціянскую неміласэрна праліў, аб чым з жалем і смуткам мы паведамляем, і больш як дзве тысячы хрысціян, мужчын і жанчын, у язычніцкую аблуду з сабою ўвёў, перавярнуўшы іх у вечнае нявольніцтва, за выключэннем самых малых, якія з-за галізны і моцнага холаду памерлі на шляху праз дзікія лясы і пушчы і былі пакінутыя на з’ядзенне звярам.

Гэты бязбожны князь Давід незадоўга да заключэння згаданага міру, уварваўшыся з магутным войскам літвінаў у Дабжынскую [Dobrinensem] зямлю, размешчаную ў названай Плоцкай дыяцэзіі, усю яе дашчэнту спусташыў. І яшчэ некаторы ўмацаваны горад, які па-простаму завецца Добжынь [Dobryn], узяўшы прыступам і цалкам яго ў попел пераўтварыўшы, многіх там верных хрысціян мячом знішчыў і дзесяць з лішнім тысяч чалавек, мужчын і жанчын, з сабой угнаў і вывеў. І калі ваша святейшаства не робіце ласку падаць выратаванне верным хрысціянам нашых зямель і асабліва царкве Плоцкай дыяцэзіі, а таксама роду Польскаму [Polonice], ужо поўнасцю спустошаным праз тых літвінаў, то, узбагаціўшыся ад разбурэння і рабавання нашых зямель і ўсяго народу, накапіўшы воінскі рыштунак і зброю, умацаваўшы і аднавіўшы свае фартыфікацыйныя збудаванні [municionibus ipsorum fortificatis], як нядаўна, падчас гэтага міру, мы дакладна даведаліся пра аднаўленне і ўмацаванне горада [opidi] згаданага князя, які завецца Гародняй [Grodno] і стаіць на адлегласці двух міль [ad duas leucas] ад межаў нашых зямель, гэтыя літвіны змогуць яшчэ мацней нападаць на нас і нашыя землі, а таксама на іншыя народы.

А таму пакорліва прыпадаем да ног вашага святейшаства, каб з погляду на Боскую міласць і для выратавання душ хрысціянскіх ваша святейшаства зрабіла ласку гэты мір адмяніць, даручыўшы згаданаму магістру і братам мужна ваяваць супраць гэтых літвінаў, як раней, калі іх баяліся больш за іншых

хрысціян, і землі нашыя, асабліва Плоцкую дыяцэзію, і астатніх хрысціян ад частых нападаў і ўварванняў абараняць і ахоўваць, як і дагэтуль яны звыклі рабіць.

Дадзена ў Плоцку на наступны дзень пасля дня святога апостала Варфаламея ў год Гасподні тысяча трыста дваццаць пяты.

### Дадатак 2. Пераклад дагавора аб межах паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Мазовіяй (Гародня, 14 жніўня 1358 г.)[139]

Мы, Кейстут [Kynstutus] князь літвінаў [Lithwanorum], уладальнік Троцкі (Throczensis), Гарадзенскі [Grothnensis] і г. д., даводзім да ведама усіх разам і кожнага паасобку, каму будзе патрэба гэта ведаць – як прысутных, так і тых, хто у будучым убачыць гэты ліст.

Прымаючы пад увагу, што паміж намі, з аднаго боку, і высокашаноўным панам князем Земавітам [Semouithum], сынам Тройдзеня [Troydeni], князем Мазовіі [Mazouie], нашым асаблівым сябрам і ўлюбёным братам, з іншага боку, могуць узнікнуць некаторыя спрэчкі альбо незадавальненні праз некаторыя страты, якія датычацца і прычыняюцца зямлі нашай Літоўскай [Lithwanie] і зямлі Мазавецкай князя Земавіта, а менавіта з-за таго, што паміж зямлёй нашай Літоўскай і дыстрыктам Гарадзенскім і гэтага князя зямлёй Мазавецкай і дыстрыктамі Візненскім [Wysnensem] і Ганёндзкім [Gonodzensem] мяжы і межы яшчэ не праведзены і не пазначаны, і жадаючы, у рэшце рэшт, гэтыя спрэчкі, незадавальненні і супярэчнасці суцішыць і сяброўскім прымірэннем суняць, паводле слушнай і разумнай парады, асаблівай волі і згоды найяснейшых князёў, нашых братоў даражэйшых, а менавіта Альгерда [Helgerdi], вярхоўнага князя літвінаў, і князя Яўнута [Javnutonis], князя Карыята [Koryati], князя Георгія [Georgii] і іншых старэйшых князёў Літвы, мы разам са згаданым князем Земавітам прыйшлі да пагаднення і паслалі з абодвух бакоў князёў і баяр нашых, а менавіта Патрыкея [Patryky], Войшвілта [Woyszwylt], Айкшу [Aykszy], Алізара [Olyezar] і Васку Кірдзеевіча [Waskonem Kerdeyeuycz], з нашага боку, і нобіляў Мікаша – Чэрскага [Micoszonem Czyrnensem], Мрочку – Рацёнжскага [Mroczkonem Raczsąszyensem], Няміру – Сахачэўскага [Nyemesrzam Sochaczeuiensem], Готарда – Камянецкага [Gothardum Kamenensem], кашталянаў, і Стафана [Stephanum], суддзю Сахачэўскага, з боку князя Земавіта. І адправілі іх як вярхоўных арбітраў і вартых даверу пасярэднікаў такім чынам, каб гэтыя нашы князі і баяры разам з нобілямі згаданага князя Земавіта наконт межаў паміж зямлёю Літоўскай і дыстрыктам нашым Гарадзенскім і Мазавецкай зямлёю і дыстрыктамі Візненскім і Ганёндзкім дамовіліся і правялі, і пазначылі, і ўзгаднілі гэтыя межы так, каб мы іх нязменна, цвёрда і непарушна ва ўсёй паўнаце з нашымі пераемнікамі і нашчадкамі з абодвух бакоў вечнымі часамі дзяржалі і захоўвалі ў добрай нашай веры без хітрасці і падману і без аніякай шкоды для нашага княжацкага гонару.

І гэтыя згаданыя нашы і князя Земавіта пасярэднікі, узяўшы сабе старых і дасведчаных людзей, якія ведаюць і могуць надзейна пацвердзіць межы паміж зямлёй Літоўскай і дыстрыктам нашым Гарадзенскім і зямлёй князя Земавіта Мазавецкай і дыстрыктамі яе Візненскім і Ганёндзкім, гэтыя межы правялі і праз месцы і рэкі ніжэй апісаныя прасачылі, ўстанавілі і пазначылі.

Спярша пачынаючы, калі гаварыць па-простаму, ад Каменнага Броду [Kamonybrod] прама да Райгорада [Raygrod].

І ад Райгорада прама ідучы праз раку Нету [Metha] і ад Неты прама у раку Бебжу [Biebrza].

І ад Бебжы прама да Таргавіска [Thargouisko] і ад Таргавіска прама ідучы да вусця Вялікай Стругі [Vschewelikey strugy]. І ідучы ўздоўж гэтай ракі да самых вярхоўяў рачулкі альбо ракі Малой Сухолды [Maleysucholdi].

І ад вярхоўяў гэтай Малой Сухолды ідучы ўніз уздоўж гэтай ракі прама да ракі альбо рачулкі Супраслі. І ідучы ўніз уздоўж гэтай ракі прама да Папялова Сядліска [Popelowosedlisko].

І ад Папялова Сядліска прама да вусця Невадніцы [Newothniczavscze], дзе мяжы зямель нашых і князя Земавіта Мазавецкага завяршаюцца і заключаюцца.

Як гэтае размежаванне, даследаванне і ўзгадненне належным чынам разумна канчатковым рашэннем узаемным паміж намі і князем Земавітам па аднадушнай згодзе і волі ўсіх згаданых братоў нашых князёў Літвы праз нашых і князя Земавіта пасярэднікаў, арбітраў, асоб адказных за даследаванне і ўпарадкаванне, для гэтага спецыяльна накіраваных і прызначаных намі і князем Земавітам, было зроблена і ў форме сяброўскага пагаднення безагаворачна ўпарадкавана і пастаноўлена, так мы і хочам цвёрда, нязменна, непарушна і няўхільна захоўваць яго і зацвярджаем, адабраем і безагаворачным запісам у гэтым лісце ратыфікуем, каб доўжылася вечнымі часамі.

І для пасведчання гэтага усяго, што разам і паасобку змешчана ў пагадненні, мы гэты ліст перапісаць казалі і пячаткай нашай вялікай замацавалі.

Дадзена і ўчынена ў Гародні [Grodno] у бліжэйшы аўторак падчас актавы блажэннага Лаўрэнція славутага пакутніка у год увасаблення Гасподняга тысяча трыста пяцьдзесят восьмы.

У прысутнасці братоў нашых, князёў і баяр і нобіляў князя Земавіта вышэй згаданых і іншых розных сведкаў, вартых даверу і спецыяльна запрошаных для здзяйснення вышэй згаданага.

### Дадатак 3. Пераклад мірнага дагавора паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Тэўтонскім ордэнам у Прусіі (29 верасня 1379 г.)[140]

Мы, Ягайла [Jagal], вярхоўны князь літвінаў [Littouwin], і Кейстут [Kenstutte], князь Трокаў [Tracken], паведамляем усім прысутным і потым

[17] Krzyżanowski J. Proza polska wczesnego renesansu 1510–1550. Warszawa, 1954. S. 275.

[18] Św. Emeryk // Święci Pańscy...

[19] Derwich M. Benedyktyński... S. 243–244, 543–544.

[20] Trajdos T.M. Benedyktyni na Łyścu za panowania Władysława II Jagiełły (1386–1434) // Roczniki Historyczne. 1982. R. 48. S. 1–46; Derwich M. Jeszcze o klasztorze łysogórskim w czasach Jagiełły (na marginesie pracy T.M. Trajdosa, Benedyktyni na Łyścu za panowania Władysława II Jagiełły (1386–1434) // Roczniki Historyczne. 1984. R. 50. S. 165–180; Trajdos T.M. O klasztorze świętokrzyskim. W odpowiedzi M. Derwichowi, Jeszcze o klasztorze łysogórskim w czasach Jagiełły // Roczniki Historyczne. 1986. R. 52. S. 205–212.

[21] Trajdos T.M. Benedyktyni na Łyścu... S. 13–22.

[22] Derwich M. Jeszcze o klasztorze łysogórskim... S. 173–176.

[23] Гл. Trajdos T.M. Benedyktyni na Łyścu... S. 22–32.

[24] Derwich M. Benedyktyński... S. 441.

[25] Piech Z. Monety, pieczęcie i herby w systemie symboli władzy Jagiellonów. Warszawa, 2003. S. 261–268.

[26] Trajdos T.M. Benedyktyni na Łyścu... S. 12.

[27] Derwich M. Benedyktyński... S. 246, 248.

[28] Той жа. O klasztorze świętokrzyskim... S. 209.

[29] Pociecha W. Bona Sforza // Polski Słownik Biograficzny. T. II. Kraków, 1936. S. 293.

[30] Św. Emeryk // Święci Pańscy...

[31] Імя Амерык было жывым на Беларусі яшчэ на зломе XIX і XX стст. Так называўся дзед Івана і Антона Луцкевічаў па маці Зофіі з роду Лычкоўскіх. Лычкоўскія гербу Сулім. Рэжым доступу: http://www.lyczkowski.net/be-cyr/lyckouskija/lycz_sulima.html. Дата доступу: 11.10.2012. Найбольш вядомы Амерык Гутэн-Чапскі, нумізмат і калекцыянер, родам са Станькава пад Стоўпцамі, бацька Караля, гарадскога галавы ў Мінску ў 1890–1901 гг. ды дзед Амерыка Гутэн-Чапскага, стапцоўскага старасты і пасла ў Сойм ад наваградскага ваяводства ў міжваеннай Польшчы.

[32] Pociecha W. Królowa Bona (1494–1557). Czasy i ludzie Odrodzenia. T. II. Poznań, 1949. S. 128–129.

[33] На месцы здарэння кароль загадаваў пабудаваць каплічку. Няма інфармацыі, якому святому яна была прысвечана, але ў 2005 г. на тым месцы пабудавалі новую і прысвяцілі Св. Губерту: Szpetkowski K. J. Łowiectwo w Niepołomicach. Рэжым доступу: http://www.venator.dt.pl/03_03_01_niepolomice.htm. Дата доступу: 10.10.2012. Так узнікае “новая традыцыя”, падобная гарадзенскай.

[34] Pociecha W. Bona Sforza... S. 293.

[35] Rimša E. Pieczęcie... S. 403.

[36] Тамсама. S. 403, 549.

[37] Тамсама. S. 30–31.

[38] Derwich M. Benedyktyński... S. 241.

[39] Тамсама.

[40] Dzieje Hrubieszowa. т. 1: Od pradziejów do 1918 roku. / Pod red. R. Szczygieła. Hrubieszów, 2006.

[41] Horoch E., Koprukowniak A., Szczygieł R. Dzieje Parczewa : 1401–2001. Parczew–Lublin, 2001.

[42] У гэтым месцы дзякую праф. Рышарду Шчыгелу за адмысловае пісьмо ў гэтай справе.

[43] Рэжым доступу: http://www.diecezja.radom.pl/parafia?&view=parafias&cid[]=75. Дата доступу: 22.11.2012.

[44] Konefal J. Legenda Św. Huberta. Рэжым доступу: http://www.hagard.ar.krakow.pl/content.php?id=legenda. Дата доступу: 11.10.2012.

***Уладзімір Кананові́ч,***
***кандыдат гіст. навук (Мінск)***

# Легенда пра Літфо і Гарто ў Хроніцы Сымона Грунаў або некалькі рысаў палітычнай ідэалогіі ў Прускім герцагстве ў эпоху Адраджэння

Сымон Грунаў, дамініканскі манах з Талкеміту (Tolkemit, цяпер Tolkmicko ў Рэспубліцы Польшча) з'яўляецца адным з найбольш вядомых прадстаўнікоў прускай гістарыяграфіі эпохі Адраджэння. Ягоная Пруская хроніка (*Preussische Chronik*) па праву лічыцца першай усебаковай працай па гісторыі Прусіі. У хроніцы аўтар прадставіў гісторыю краю ад старажытнасці да найноўшага часу, прыблізна да 1525 г., калі Тэўтонскі Ордэн спыніў сваё існаванне і на яго месцы паўстала свецкае Прускае герцагства. Хроніка складаецца з 24 раздзелаў, дзе падаюцца шырокія звесткі па гісторыі і культуры краю, абрадах і звычаях мясцовых жыхароў, мясцовай флоры і фаўне; да хронікі дадаецца таксама і невялічкі прускі слоўнічак – адзін з рэдкіх пісьмовых помнікаў зніклай мовы[1].

Грунаў працаваў над хронікай прыблізна каля дванаццаці год, з 1517 па 1529 гг. Хроніка была завершана літаральна перад сабой смерцю аўтара, якая наступіла ў 1530 або ў пачатку наступнага 1531 г. Пры напісанні хронікі Грунаў карыстаўся разнастайнымі гістарычнымі крыніцамі, у першую чаргу ранейшымі прускімі хронікамі, такімі як Хроніка Пятра з Дусбургу (*Peter Dusburg's Chronik von Preussenlandes*), Старэйшая хроніка вялікага магістра (*die ältere Hochmeisterchronik)*, Хроніка Ёгана Посілгэ (*Chronik von Johann von Posilge*), Старэйшая хроніка горада Аліва (*die ältere Chronik von Oliva*), Анналы горада Торн-Торунь (*die Thorner Annalen).* Звяртаўся аўтар і да польскіх крыніц, у прыватнасці да Хронікі Яна Длугаша і Хроніка Мацея Мяхоўскага. Не забыўся Грунаў і на каментары Энея Сільвія Пікаламіні, дзе апошні згадваў старажытныя звычаі і традыцыі прусаў, а таксама працу прускага гісторыка эпохі Адраджэння Эразма Стэлы (Erasmus Stella) "Аб прускіх старажытнасцях" (*De Borussiae antiquitatibus).* Абапіраўся Грунаў і на афіцыйную перапіску кіраўніцтва Ордэна[2].

Нельга абысці ўвагай і такую спрэчную крыніцу як г.зв. дзённік Дзівойніса (Diwoynis), якую большасць сучасных даследчыкаў лічыць плёнам фантазіі самога Грунаў. Як згадвае Грунаў у Хроніцы, Дзівойніс пражываў у часы імператара Актавіяна Аўгуста ў горадзе Салура (Salura)

у Брытаніі і быў надзвычай абазнаны ў астраноміі. Кіруючыся выключна прагай даведацца, наколькі далёка на поўначы пражываюць людзі, ён і двое ягоных калегаў-астронамаў прадпрынялі грандыёзнае падарожжа. Іхні шлях ішоў праз Куманію (Венгрыю?), Галіцыю (Татарыю), Раксаланію (Масковію), зямлю вянедаў і аланаў (Лівонію). Нарэшце, падарожнікі, пасля таго як пераправіліся праз паўнаводную раку (Нёман?) прыбылі ў шырокую і разлеглую краіну (ein landt weit und breitt), якая тады яшчэ не мела сталай назвы і якая пазней стала называцца Прусіяй. Падарожнікі з Брытаніі аднак доўгі час ні з кім з мясцовых жыхароў не маглі паразумецца, бо не ведалі іхняй мовы. І толькі тады, калі прыбылі суседнія сарматы або венды (Wynden), мову якіх Дзівойніс і ягоныя калегі трохі разумелі, вандроўнікі змаглі распытаць тых пра краіну, у якой яны спыніліся[3].

Размовы з сарматамі-вянедамі (sic!) і сталі асновай дзённіка Дзівойніса. Пасля ягонай смерці, як адзначае Грунаў (брытанскі падарожнік-астронам памёр на зваротным шляху ў мазавецкім Плоцку) хроніка трапіла да плоцкага пробашча Яраслава, а ужо ад яго да першага біскупа Прусіі Хрысціяна, і стала пазней асновай кнігі апошняга “Liber filorum Belial cum suis superstitionibus factionis” (“Кніга сыноў Беліяла датычна іхніх прускіх забабонаў). Цікава, што дзённік Дзівойніса быў напісаны на рускай (sic!) мове, але грэчаскімі літарамі (*welchs war in Reuscher sprach geschrieben, aber mit Grekischen buchstaben…*)[4]. У дзённіку Дзівойніс апісаў дзень за днём усё сваё падарожжа ў далёкую краіну, а таксама і падаў звесткі пра мясцовую прыроду, звычаі, традыцыйнае жытло і нават кухню жыхароў, краю. У тым ліку і з-за Дзённіка Дзівойніса Хроніка Сымона Грунаў ніколі не лічылася і нават дагэтуль не лічыцца як надзейная крыніца па старажытнай гісторыі Прусіі; бальшыня даследчыкаў, пачынаючы ад першых выдаўцоў хронікі ў XIX ст., уважала і ўважае да сённяшняга дня яе як плён багатага ўяўлення самога ўкладальніка. Аднак, як падаецца, напісанне старажытнай гісторыі Прусіі ў адпаведнасці з пазітывісцкай канцэпцыяй XIX ст., сімвалам якой сталі словы бліскучага нямецкага гісторыка Тэадора Дройзэнэ, *wie es eigentlich gewesen war* (як гэта было насамрэч), не з’яўлялася галоўнай мэтай аўтара. У першую чаргу, Грунаў імкнуўся стварыць уласную версію мінулага краю, патрэбу ў якой мела тое грамадства, у якім ён жыў. Грунаў быў прадстаўніком грамадства, якое з’яўлялася вынікам тых грандыёзных сацыяльных, палітычных і культурных пераўтварэнняў у Прусіі, якія адбываліся ў краі цягам найменей апошніх пяцісот год, ад пачатку другога тысячагоддзя да XVI ст. Тагачаснае прускае грамадства ўяўляла сабой своеасаблівы культурны палімпсест, у якім можна было адшукаць мноства розных пластоў краёвай старажытнасці.

Гэтае сучаснае прускае грамадства, якое паўставала літаральна на вачах Грунаў, уяўляла сабой сапраўдны плавільны кацёл, свайго роду *melting pot*. Карэнныя прусы, нямецкія рыцары і месцічы, польскія шляхцічы, галандскія

майстры-перасяленцы, сяляне з ВКЛ, пазней і французскія гугеноты, утварылі з цягам часу новую культурна-этнічную супольнасць, прадстаўнікі якой сталі агульна называцца прусамі або прусакамі (*Preussen*). Пасля скасавання ў 1525 г. Тэўтонскага Ордэну прускае грамадства стала свецкім, сэкулярызаваным. Змянілася нават сама назва дзяржавы: яно стала называцца Прускім герцагствам (княствам). Палітычна з 1525 года, калі ў Кракаве апошні вялікі магістр Ордэну і адначасова першы прускі герцаг Альбрых з Бранданбургу прысягнуў на вернасць Жыгімонту Старому, Прускае герцагства стала васалам Польшчы і ВКЛ. Пакуль Грунаў пісаў сваю Хроніку істотна змянілася і канфесійная прыналежнасць бальшыні жыхароў краю. З Рэфармацыяй у краі хутка стала распаўсюджвацца новая пратэстанцкая вера ў версіі лютэранства. Палітычна і культурна аднак дамінавалі ў новай супольнасці выхадцы з нямецкіх зямель: былыя рыцары Тэўтонскага Ордэну і найбольш заможныя купцы і месцічы з Паўночнай Германіі. Нядзіўна, што нямецкая мова панавала ў адміністрацыі, адукацыі Прусіі. Новае прускае грамадства моўна і культурна было нямецкім. На гэтай жа мове пісаў сваю Хроніку і Сымон Грунаў. Такім чынам, час, які настаў пасля 1525 г., ўяўляў сабой амаль поўны разрыў з папярэдняй тэўтонскай традыцыяй. І толькі асоба былога вялікага магістра, а зараз прускага герцага Альбрыхта Бранданбургскага (1511/1525–1568), з'яўлялася гарантыяй пераемнасці двух такіх розных перыядаў і традыцый у прускай гісторыі[5].

Гэта новапаўсталае прускае грамадства патрабавала і новай гісторыі краю. Ва ўмовах пасля 1525 г., а ў рэчаіснасці яшчэ нават і раней, колішняя тэўтонская версія гісторыі Прусіі стала ўжо неактуальнай. Хроніка Прускай зямлі Пятра Дусбурга, галоўны твор афіцыйнай крыжацкай гістарыяграфіі і ідэалогіі на працягу амаль двух стагоддзяў, не магла ўжо задаволіць патрэбу прускага грамадства ў гістарычных ведах, бо адлюстроўвала амаль выключна толькі ордэнскую традыцыю[6]. Галоўнай мэтай Грунаў было даць універсальную, усеагульную гісторыю краю, дзе былі бы адлюстраваныя ўсе пласты яе старажытнага і багатага на падзеі мінулага, прадстаўленыя інтарэсы ўсіх складовых групаў прускага грамадства. Але манах з Талкеміту імкнуўся стварыць не толькі новую гістарычную памяць прускага грамадства, але і ідэалагічна абгрунтаваць існаванне прускай дзяржаўнасці (якая ніяк не зводзіцца выключна да амаль трох векавога існавання Нямецкага Ордэна ў Прусіі), як у гістарычным мінулым так і ў сучаснасці. У гэтым плане Хроніка Грунаў была выключна ўдалым гістарычным творам. Яне не толькі сур'ёзна паўплывала на пазнейшую прускую гістарыяграфію (Лукас Давід, Каспар Хэненбэрг, і інш,), але і стала набыткам самых шырокіх мас насельніцтва Прусіі. Яшчэ ў дваццатым стагоддзі маладыя людзі ў Прусіі, асабліва вучні, ахвотна і з энтузіязмам распавядалі адзін другому паданні і легенды, заснаваныя на Хроніцы Сымона Грунаў[7]. За адносна кароткі адрэзак часу Хронікі Грунаў было наканавана ўвасобіцца ў гістарычную памяць

усяго прускага грамадства, чаму спрыяла, у адрозненні ад Хронікі Прускай зямлі Дусбурга, адсутнасць моўнага бар’еру: твор быў напісаны на роднай або зразумелай для большасці прускага насельніцтва нямецкай мове.

Асаблівую ўвагу дамініканскага манаха з Талкеміту прыцягваў найстаражытнейшы пласт (пласты) палімпсесту пад назвай гісторыя Прусіі. У фокусе ўвагі Грунаў быў найперш датэўтонскі, уласнапрускі перыяд гісторыі краю. Найперш укладальніка Хронікі цікавіла пытанне паходжанне жыхароў Прусіі. Спасылаючыся на папярэдніх аўтараў, перадусім на Эразма Стэлу, Грунаў сцвярджаў, што ў старажытнасці Прусія не мела сталай назвы: розныя народы адзін за другім час валодалі краем, але ніводны з іх так не пакінуў пасля сябе памяці ў тапаніміцы краю. Але ўсё мусіла змяніцца, працягвае Грунаў, з прыходам у Скандынавію готаў. Мясцовае племя скандыяны з Кімвры (так згодна Грунаў у старажытнасці называўся Готланд), не могучы супрацьстаяць готам, палічыла за лепшае пакінуць родныя наседжаныя мясціны і перасяліцца ў больш бяспечнае месца пражывання. У колькасці 46 тысяч чалавек скандыяны-кімбры на чале са сваімі каралямі, двума братамі, Брутэнам і Відавутам, рушылі на шматлікіх статках у паўднёва-усходнім накірунку, пакуль не апынуліся ў краі, які тады называўся Ульміганія. Там яны знайшлі народ, пра які раней і не чулі, і ўладарамі якога яны неўзабаве і сталі. Скандыяны ўтварылі і першае на землях Ульміганіі каралеўства, і тым самым далі ёй новую форму палітычнага кіравання, манархію ў форме дыярхіі: палітычная ўлада належала каралю Відавуту, а духоўная ягонаму брату Брутэну ў якасці крыве-кірвайта (крыва-крывейта). Край таксама атрымаў упершыню ва ўласнай гісторыі сталую назву; па імені Брутэна ўвесь край стаў называцца Брутэніяй або Прусіяй[8]. Брутэн і Відавут далі таксама мясцовым жыхарам законы і рэлігію[9]. Разам з новымі жыхарамі ў краі з’явілася і пісьмовасць[10]. Скандыяны нарэшце навучылі мясцовых жыхароў будаваць сталае жытло, дамы і замкі, а таксама вырабляць з мёду моцныя напоі (дагэтуль мясцовыя жыхары ў лепшым выпадку пілі толькі кісламалочныя напоі і спажывалі сыр)[11]. Тым самым, Брутэн і Відавут выступаюць у якасці культурных герояў, якім прускае грамадства абавязана сваімі дасягненнямі і дабрабытам.

Праўленне Брутэна і Відавута можа лічыцца першапачатковым перыядам у гісторыі Прусіі. Адначасова гэта быў і гераічны перыяд у гісторыі краю, бо ён быў адзначаны працяглымі, амаль перманентнымі войнамі з суседзямі, асабліва і ў першую чаргу з мазаўшанамі. Калі Відавуту і Брутэну было адпаведна 116 і 132 гады, паўстала пытанне пра спадчынніка караля. Найлепшым варыянтам для братоў бачыўся падзел Прусіі на 12 частак, па колькасці сыноў караля Відавута, з тым, каб пазбегнуць магчымых будучых хваляванняў і кровапраліцця ў краі. Каб агучыць гэтае ўласнае рашэнне, Брутэн і Відавут склікалі ўсю шляхту краю ў Рыкойта (Ромава, Рамовэ), свяцілішча, дзе знаходзілася рэзідэнцыя крыва-кірвайта. Спасылаючыся на

загад багоў (*von befehl der gotthin*), Брутэн агучыў аб сваім намеры з каралём Відавутам раздзяліць Прусію па справядлівасці (*in die rechten erben*), г.зн. паміж усімі 12 сынамі караля. Гэтымі сынамі Відавута былі: Літфо, Замо, Судо, Надроо, Скалаво, Натанго, Барто, Галіндо, Вармо, Хого (Погезо), Помезо, і Хелмо. Як паведамляе Грунаў, перад тым, як прыступіць да падзелу каралеўскай спадчыны, крыва-кірвайта мусіў выканаць адпаведны рытуал. Стоячы перад свяшчэнным дубам, Брутэн забіў уласнаручна прыведзенага яму цяльца, а ягонае мяса, загорнутае ў дубовае лісце, мусіў з'есці ў тым месцы свяцілішча, дзе стаялі выявы багоў. Пасля гэтага крыва-кірвайта выпіў традыцыйнага прускага напою, які называўся *poskeles von methe*, а затым пайшоў спачываць. Раніцай наступнага дня Відавут і Брутэн, седзячы насупраць выяў багоў, заклікалі да сябе аднаго за другім каралеўскіх сыноў[12].

Першай была чарга найстарэйшага сына Відавута – Літфо. Пасля таго, як Брутэн прывітаў Літфо і пахваліў таго за адданасць багам і паслушэнства крыва-кірвайта, найвышэйшы прускі жрэц загадаў найстарэйшаму каралеўскаму сыну выканаць наступны абрад: пакласці рукі на галаву бацькі-караля і дакрануцца да свяшчэннага дуба. Калі Літфа зрабіў тое, што загадаў яму крыва-кірвайта, слова ўзяў ягоны бацька, кароль Відавут, які абвясціў, што адгэтуль ягоны найстарэйшы сын мусіць быць уладаром зямель, якія ляжаць паміж Бугам і Нёманам, з аднаго боку, і лесам Танзоан (Thansoan), з другога[13].

Пазней Літфо авалодаў згаданай зямлёй, і заснаваў у ёй крэпасць, якую назваў у гонар свайго сына Гарто. Гэтая зямля ў часы Сымона Грунаў называлася Ніжняй або Малой Літвой (*Undir-aber Kleinlittaw)*. Аўтар адзначае, што першапачаткова памежжа паміж уласна Прусіяй і Ніжняй Літвой было квітнеючай зямляй, з мноствам палёў і селішчаў (*ist lautter felt und wonungk der menschin gewesen*), але пазней было ператворана ў пустку і зарасло лесам (*do itzundt grose heden und welde sein*). Віну за такі незайздросны стан памежжа Грунаў цалкам ускладвае на рыцараў Тэўтонскага Ордэну, якія сваімі шматлікімі рэйдамі літаральна спустошылі памежныя землі. Нягледзячы на спусташэнні, край аднак паступова адбудоўваўся (*vil itzundt bebauet ist*). Сталіцай краю з'яўляецца Гродна (Grottna), які па-нямецку называецца Гартц. Аповесць пра Літфо завяршаецца паведамленнем, што ягоны сын Гарто пасля смерці бацькі падпарадкаваў сваёй уладзе ўсю Ніжнюю Літву; гэта быў магутны ўладар, роўны каралям, і яму служыла мноства баяраў (*bayores*)[14].

Надзяленне землямі астатніх сыноў Відавута падаецца ў падобны спосаб. Само ж апавяданне нагадвае аповеды пра тое, як паміраючы або састарэлы бацька-уладар размяркоўвае сваю спадчыну паміж сынамі. Мадэллю для Грунаў служыла несумненна біблейская гісторыя пра размеркаванне Зямлі абяцанай паміж сынамі Ізраіля. Тым самым аўтар падкрэслівае, што для нашчадкаў Брутэна і Відавута Прусія з'яўляецца Святой зямлёй, Зямлёй абяцанай. Апавяданне пабудавана на прынцыпах народнай этымалогіі, калі

назва персанажа ўтвараецца ад назвы населенага пункта або правінцыі. Самі ж Літфо і Гарто дзейнічаюць як сапраўдныя міфічныя персанажы, якія не маюць нічога агульнага з гістарычнымі постацямі. Усе іхнія ўчынкі і дзеянні з'яўляюцца мадэльнымі, архетыпавымі.

Каб зразумець сутнасць падання пра Літфо і Гарто, неабходна прааналізаваць не толькі сам тэкст падання, але і тыя палітычныя і сацыяльныя абставіны трэцяга дзесяцігоддзя XVI ст., г.зн. таго часу, калі Сымон Грунаў пісаў сваю хроніку. Так як у паданні пра падзел Прускай зямлі часта згадваецца Wildnis, г.зн. шырокая і працяглая пустынь або пустка, што пралягала паміж Прусіяй і ВКЛ, то, думаецца, што кантэкст падання мае сэнс у святле тых памежных спрэчак паміж Нямецкім Ордэнам у Прусіі (з 1525 г. – Прускім герцагствам) і Вялікім Княствам Літоўскім, што надзвычай абвастрыліся напрыканцы XV – першай траціне XVI стст. Рэч у тым, што мяжа паміж дзвюма дзяржавамі, акрэсленая згодна мірнаму дагавору 1422 г., які быў заключаны на возеры Мельна (Жамойць), мела досыць сімвалічны, схематычны характар; яна праходзіла галоўным чынам пасярод пустыннай мясцовасці, якая ў нямецкамоўных афіцыйных дакументах атрымала ўстойлівую назву "Wildnis"[15]. Уздоўж усёй пруска-літоўскай мяжы, як, напрыклад, на адрэзку мяжы блізу нёманскай крэпасці Мемель, былі насыпаныя пагоркі, а на дрэвах, якія знаходзіліся паміж імі, былі высечаныя знакі крыжа[16]. Самі прускія памежныя камісары прызнавалі нетрывалы, недаўгавечны характар такой мяжы; яна была разлічана максімум на сярэдні век чалавека, г.зн. максімум на 50 гадоў. І сапраўды з цягам часу ад мяжы амаль нічога не засталося: насечкі на дрэвах сцёрліся, а пагоркі былі зраўнаныя. Праблема дэмаркацыі мяжы з Нямецкім Ордэнам у Прусіі, а таксама з Лівонскім Ордэнам паўстала ізноў у 70-я гады XV ст. У 1473 г. з гэтай мэтай на мяжу былі высланыя ўпаўнаважаныя прадстаўнікі ВКЛ, троцкі ваявода Людвік Осцікавіч, жамойцкі староста Ян Кяжгайлавіч, браслаўскі намеснік Багдан Андрэевіч, лідскі намеснік Ян Кучук і віленскі дзякан Андрэй Пятровіч[17]. Складаней праходзіла дэмаркацыя мяжы з Нямецкім Ордэнам у Прусіі. Тым не менш, вялікі князь літоўскі Аляксандр, як толькі сеў на бацькоўскі сталец у Вільні, адразу выслаў дэлегацыю ў Прусіі. Яе ўзначальвалі троцкі ваявода Пётр Янавіч і гарадзенскі намеснік, князь Аляксандр Юр'евіч Гальшанскі. Вялікакняскія ўпаўнаважаныя павінны былі прыбыць у мястэчка Райгарад шэсць тыдняў пасля Божага Нараджэння 1492 г., г.зн. прыблізна ў сярэдзіне лютага наступнага 1493 г.[18] На жаль, пра вынікі дзейнасці гэтай місіі нічога невядома.

Тым часам мяжа паміж ВКЛ і Нямецкім Ордэнам заставалася практычна адчыненай. Паўсюдна адбываўся нелегальны рух люду ў абодвух накірунках. Асабліва, як падаецца, інтэнсіўным і масавым было перасяленне сялян з ВКЛ, многія з якіх якраз і сяліліся ў памежных пустынных мясцовасцях на ўсходзе Прусіі. Трэба адзначыць, што прускі ўрад, нягледзячы на

пастаянныя скаргі літоўскага ўраду, не прадпрымаў дзейсных высілкаў, каб вярнуць збеглых падданых ВКЛ, бо ён быў перадусім зацікаўлены ў прытоку дадатковай працоўнай сілы з-за мяжы, так неабходнай для каланізацыі зямель на ўсходзе краю[19].

Аднак у Прусіі не толькі добра ацэньвалі эканамічныя і гаспадарчыя наступствы такой міграцыі, але там выдатна разумелі і палітычныя і сацыяльныя вынікі масавага перасялення чужароднага насельніцтва. Прускі ўрад палохала не толькі і не столькі перспектыва росту злачыннасці ў памежных раёнах; адначасова ў Кёнігсбергу не выключалі, што асобныя прускія землі, скаланізаваныя літоўскімі падданымі, маглі бы з цягам часу адысці да ўсходняга суседа. Надзвычай напружаным было становішча на пруска-жамойцкай мяжы[20]. Неспакойна было і на гарадзенскім накірунку літоўска-прускай мяжы, асабліва ў часе польска-прускай вайны 1519–1521 гг.[21].

Тым не менш, апошні вялікі магістр Ордэну (з 1525 г. – герцаг) Альбрэхт Бранданбургскі, цалкам заняты змаганнем з Польшчай і барацьбой з унутранай апазіцыяй[22], не меў магчымасцяў і нават жадання ўрэгуляваць мяжу на ўсходзе краю, бо ён разлічваў калі не падтрымку, то хаця бы нейтралітэт з боку ВКЛ у супрацьстаянні з польскімі ўладамі. У Кёнігсбергу не без падстаў меркавалі, што настойлівыя захады аб двухбаковай дэмаркацыі мяжы маглі пагоршыць адносіны з ВКЛ. І таму там упарта ўхіляліся ад падобных спробаў.

У гэты час якраз і з’яўляецца Пруская Хроніка дамініканскага манаха з Талкеміту Сымона Грунаў. Апошні быў не менш палітычна заангажаваны, чым Альбрэхт Бранданбургскі, аднак меў куды большую свабоду дзеянняў у палітыцы. Не выключана, што Грунаў мог агучваць, тое, не маглі дазволіць сабе пасля 1525 г. свецкія ўлады Прусіі. Ва ўсялякім разе, Пруская Хроніка Грунаў з’яўляецца выключным ідэалагічным творам. Ва ўмовах пасля 1525 г., калі Усходняя і Заходняя Прусія перажывалі свой мядовы месяц аб’яднання пасля амаль шасцідзесяцігадовай разлукі, ледзь не галоўнай мэтай Хронікі было легітымізаваць уладу Альбрэхта Брандарбургскага над усімі без выключэння гістарычнымі прускімі землямі. Разам з тым, у Хроніцы з вуснаў Грунаў гучаць прэтэнзіі і на асобныя суседнія, памежныя тэрыторыі.

У адпаведнасці са сваёй мэтай Сымон Грунаў выкарыстоўвае шэраг сродкаў дзеля яе дасягнення. Як вядома, адным з галоўных эпічных падмуркаў Хронікі з’яўляецца аповед пра падзел Прускай зямлі паміж сынамі Відавута. Розныя наратыўныя прыёмы, такія як, напрыклад, увод у тэкст паганскіх абрадаў і рытуалаў, зварот да пантэона старапрускіх багоў, – усё гэта павінна было служыць пастаўленай мэце, а менавіта абгрунтаваць правы на згаданыя землі. Асаблівае значэнне ў Хроніцы мае сістэма асабовых імёнаў. У тым ліку менавіта з-за гэтых імёнаў Хроніка не лічыцца большасцю даследчыкаў у якасці надзейнай гістарычнай крыніцы. Аднак рэч зусім не ў гэтым. Роля імёнаў у паданні зусім іншая. Безумоўна, імёны, якія выкарыстоўваюцца ў паданні пра падзел Прускай зямлі, не адпавядаюць

гістарычнай рэчаіснасці. Як ужо адзначалася вышэй, усе яны былі ўтвораныя ад назваў гістарычных правінцый Прускай зямлі. Яны былі вынайдзеныя галоўным чынам, каб гістарычна апраўдаць адзінства Прускай зямлі, а разам з тым, каб і абгрунтаваць прэтэнзіі асобных тагачасных прускіх абшарнікаў на слаба асвоеныя, але важныя ў гаспадарчым плане землі паміж Нёманам і Бугам. Такім чынам, можна канстатаваць, што прэтэнзіі ахоплівалі ўсе пустынныя мясцовасці, г.зн. Wildniss, паміж ВКЛ і Прускім герцагствам.

Вось менавіта з гэтай мэтай у паданні і з'яўляюцца Літфо і ягоны сын Гарто. Як адзначалася вышэй, Літфо і Гарто прадстаўлены ў легендзе сапраўднымі міфічнымі героямі; усе іхнія ўчынкі і дзеянні адносяцца да ліку мадэльных, архетыпавых. Гэта не столькі воіны-заваёўнікі, колькі гаспадарнікі, абшарнікі. Авалоданне зямлёй паміж Бугам і Нёманам і заснаванне ў ёй стратэгічнага пункта выглядае ў паданні як архетып, прызначаны выключна для прускіх феадалаў, шляхты і месцічаў, якія ўдзельнічалі ў каланізацыі памежных зямель на ўсходзе Прускага герцагства. Асвойваючы пусткі на мяжы з ВКЛ і засноўваючы там новыя паселішчы, яны як бы паўтаралі тую мадэль дзеянняў, якую ўсталявалі Літфо і Гарто[23].

Думаецца, што ў паданні пра падзел Прускай зямлі паміж 12 сынамі караля Відавута знайшлі адлюстраванне і асобныя ідэі, уласцівыя ў той ці іншай ступені Сымону Грунаў. Не выклікае сумненняў, што ён лічыў усе землі, якія з'яўляліся населенымі ў XVI ст. прусамі або былі населеныя імі ў гістарычным мінулым, складовай часткай Прускага герцагства. У першую чаргу, гаворка ішла пра суседнія землі, перадусім пра Гарадзенскае княства, якое калісьці межавала з землямі прускага племені судаваў або ятвягаў, і памежны характар якога адзначаўся яшчэ ў XV ст. прускімі афіцыйнымі ўладамі[24]. Перасяленне прусаў пад націскам крыжакаў пад Гарадно, пра што Грунаў добра ведаў з працы Пятра Дусбурга[25], магло разглядацца Грунаў як сведчанне прысутнасці значнага прускага этнічнага субстрата ў рэгіёне. У якасці натуральных межаў т.зв. Вялікай Прусіі выступаюць непасрэдна рэкі Нёман і Буг. Уяўленне пра Нёман і Буг як натуральныя межы Прусіі нарадзілася ў Сымона Грунаў пад несумненным уплывам Дусбурга, які ў сваёй Хроніцы падкрэсліваў, што Нёман аддзяляе Прусію ад Русі, Літвы і Куроніі[26].

Калі ў пытанні ўсходняй мяжы Прусіі Грунаў цалкам залежыць ад Дусбурга, то адносна паўднёвай мяжы краю ўплыў ордэнскага гісторыка больш апасрэдаваны. Дусбург падкрэслівае, што натуральныя межы Прусія мае толькі на захадзе (Вісла), на поўначы (Балтыйскае мора) і на ўсходзе (Нёман). Што да поўдня, то тут Прусія мяжуе з Мазавецкім і Добрынскім княствамі[27]. Уяўленне пра Буг як водную мяжу Прусіі на поўдні магло ўзнікнуць у Грунаў у кантэксце агульнай дыскусіі межаў краю. Магчыма, уяўленне дамініканскага манаха працавала ў наступным накірунку: калі гістарычная Прусія мае водныя межы на поўначы, захадзе і ўсходзе, то чаму яна не можа мець такую мяжу і на поўдні, дзе Буг упадае ў Віслу, утвараючы з ёю як бы

суцэльны водны пас[28]. Так паступова ў свядомасці Грунаў набывала абрысы Вялікая Прусія, якая мае выключна натуральныя, водныя межы з усіх чатырох бакоў. Тое, што гэтая ўяўная палітычная геаграфія Прусіі не адпавядала "рэальнасці" не так ужо і цікава[29]; куды важней тое, што яна адлюстроўвала палітычныя, сацыяльныя і інтэлектуальныя абставіны свайго часу[30].

Легенда пра Літфо і Гарто Грунаў яскрава засведчыла, якую важную ролю Гарадно і Гарадзенскае княства займалі ў палітычным уяўленні Сымона Грунаў. У кантэксце ўяўнай палітычнай геаграфіі дамініканскага манаха з Талкеміту Гарадзенскае княства належала непасрэдна да Прусіі, бо, на ягоную думку, яно паўстала на ўсходніх абшарах гістарычнай Прусіі. Пры гэтым, укладальнік падкрэслівае адметны характар Гарадзенскага княства і выразна адрознівае яго ад зямлі судаваў або ятвягаў. Грунаў, як, дарэчы і Дусбург, не паведамляе, кім былі першыя ўладары Гарадзенскага княства, але з кантэксту аповеду вынікае, што ў часы крыжакаў горад ужо належаў літоўскім князям, таму пазней усё тамтэйшае княства атрымала назву Малая або Ніжняя Літва.

Нядзіўна, што ў сваёй Хроніцы Грунаў неаднаразова звяртаецца да гістарычнага мінулага Гарадзенскага княства. Ён падрабязна, спасылаючыся пераважна на Пятра Дусбурга, апісвае крыжацкія выправы на Гарадно[31], адзначае вайсковы талент і асабістую мужнасць гарадзенскага кашталяна Давіда[32], паказвае выключную ролю горада над Нёманам у канфліктах паміж нашчадкамі Гедыміна[33], і г.д.

Сучаснае Грунаў Гарадно – гэта перадусім рэзідэнцыя вялікіх князёў літоўскіх і польскіх каралёў. У горадзе над Нёманам у 1492 г. памёр кароль Казімір[34], бацька караля Жыгімонта Старога, сузэрэна ўсёй Прускай зямлі. Думаецца, не застаўся незаўважаным Грунаў і даволі ўстойлівы сацыяльна-эканамічны рост Гарадна, які меў месца на мяжы XV–XVI стст. Дзякуючы выгаднаму геаграфічнаму становішчу і прывілеям вялікіх князёў літоўскіх (у 1496 годзе горад атрымаў поўнае Магдэбургскае права) гарадзенская гаспадарка і гандаль пачалі даволі імкліва развівацца[35]. У першай чвэрці XVI ст. горад ужо назапасіў ужо дастаткова вялікі пласт культурнай памяці; у гістарычнай памяці месцічаў Гарадно па-ранейшаму заставалася княствам[36]. Разам з Коўна Гарадно з'яўлялася найбуйнейшым горадам на заходняй мяжы ВКЛ, і ў гэтай якасці горад вельмі цікавіў дыпламатаў і прадпрымальнікаў не толькі з Прусіі, але і з усёй Германіі[37]. Гандлёвы рух з прускімі гарадамі[38], праўда, істотна ўскладняўся неразвітай памежнай інфраструктурай, што, у сваю чаргу, было абумоўлена існаваннем вялікіх пустак на памежжы.

Падсумоўваючы вышэйсказанае, прыходзіцца канстатаваць, што Аповесць пра падзел Прускай зямлі паміж 12 сынамі Відавута і у прыватнасці, паданне пра Літфо і Гарто, не адлюстроўвала ні гістарычныя рэаліі ў Прусіі, ні з'яўлялася плёнам гістарычнай памяці прускага насельніцтва. Аповесць адлюстроўвала перадусім тагачасныя палітычныя, сацыяльныя, культур-

ныя і ідэалагічныя абставіны ў Прусіі; яна з’явілася ва ўмовах грандыёзных пераменаў і пераўтварэнняў у краі. У кантэксце ўз’яднання прускіх зямель, гэтым разам пад скіпетрам польскага караля і вялікага князя літоўскага, а таксама сэкулярызацыі прускай дзяржавы і растучай Рэфармацыі Сымон Грунаў мусіў гістарычна легітымізаваць палітычнае адзінства Прускай зямлі, а таксама абгрунтаваць прэтэнзіі пэўнага кола прускай гаспадарчай эліты на асобныя памежныя землі. На палітычнае ідэалогію Сымона Грунаў выключны ўплыў аказала Хроніка Прускай зямлі Пятра Дусбурга, а таксама ягонае ўласнае багатае ўяўленне. Тым не менш, думаецца, што палітычная геаграфія Грунаў, ягоныя ідэі і ўяўленні адносна натуральных межаў Прусіі на ўсходзе, уключна да лініі Нёмана і Буга, не мелі якога-небудзь сур’ёзнага ўплыву на тагачасную палітычную эліту Прускага герцагства, і адпаведна не адыгралі якой-небудзь значнай ролі ў палітыцы гэтай дзяржавы. Аповесць засталася амаль выключна, прынамсі ў XVI ст., толькі плёнам палітычнага ўяўлення невялікай часткі прускай культурнай эліты. Але ў такой якасці яна якраз і ўяўляе асаблівую цікавасць для даследчыкаў. Прынамсі, легенда пра Літфо і Гарто адлюстравала растучую цікавасць прускага грамадства да ўсходніх зямель, і такім чынам задавальняла прагу да геаграфічных ведаў.




***Карта Прусіі, складзеная Каспарам Хэнэбэргам (Caspar Henneberg): другая палова XVI ст.***

[1] Jasas R. Simon Grunau // Baltu religijos ir mitologijos šaltiniai. II tomas. XVI amžius. Sudarė N. Vėlius. Vilnius, 2001. P. 35.

[2] Ibid. S. 36–37.

[3] Simon Grunau's Preussische Chronik. Bd. I. Hrsg. M. Perlbach // Verein für die Deutsche Geschichte der Provinz Preussen. Leipzig, 1876. S. 55–56.

[4] Ibid. S. 55.

[5] Пра палітычныя, сацыяльныя і культурныя пераўтварэнні ў Прусіі падрабязней гл.: Urban W. Renaissance Humanism in Prussia: the Court of Grandmasters // Jornal of Baltic Studies. Vol. XXII. No. 2. P. 95–122.

[6] Пра паўстанне ордэнскай гістарыяграфічнай традыцыі і стварэнне ордэнскай гістарычнай памяці падрабязней гл.: Матузова В. "Создание исторической памяти: Ранние исторические произведения Тевтонского Ордена в Пруссии" // Древнейшие государства Восточной Европы. 2001 год. Историческая память и формы её воплощения. Москва, 2003, С. 272–277.

[7] Bojtár E. Foreward to the Past: A Cultural History of the Baltic People. Budapest, 1999. P. 312.

[8] Simon Grunau's Preussische Chronik. Bd. I. S. 62–63.

[9] Ibid. S. 64–65.

[10] Ibid. S. 66.

[11] Ibid. S. 65.

[12] Ibid. S. 68–69.

[13] Ibid. S. 69.

[14] Ibid.

[15] Mortensen Hans und Hertruda. Die Besiedlung des nordöstlichen Ostpreussen bis zum Beginn des 17. Jahrhunderts. Teil I: Die Wildnis in östlichen Preussen, ihr Zustand um 1400 und ihre frühere Besiedlung. In: Deutschland in der Osten. Bd. 8. Leipzig, 1938. S. 223.

[16] Ibid. S. 225.

[17] Lietuvos Metrika. Kn. 5 (1427–1506): Užrašymų knyga 5 / Parengė E. Banionis. Vilnius, 1993. P. 235–238.

[18] Ibid. P. 64.

[19] Гудавичус Э. История Литвы с древнейших времён до 1569 года / Пер. на рус. язык Г. И. Ефремова. Науч. ред. Е.Л. Назарова. Москва, 2005. С. 449–450.

[20] Das virtuelle Preussische Urkundenbuch. Regesten und Texte zur Geschichte Preussens und Deutschen Ordens. Ein Projekt der Arbeitsstelle für die digitale Edition mittelalterlicher Quellen des Zentrum „Geisteswissenschaften in der digitalen Welt" an der Universität Hamburg (далей у тэксце–PrUB). PrUB, JH I, 3 20878: Станіслаў Яновіч (Кяжгайла), жамойцкі староста да тыльзіцкага пфлегера пра памежныя непаразуменні паблізу вёскі Katuken (Coadjuthen) (Вільня, 31.05.1516). Рэжым доступу: http://www1.uni-hamburg.de/Landesforschung/pub/orden1516.html; PrUB, JH I, 3 20909: польскі кароль да вялікага магістра пра ягоныя спрэчкі з жамойцкім старостам, асабліва адносна вёскі Coadjuthen (Вільня, 27.06.1516). Рэжым доступу: http://www1.uni-hamburg.de/Landesforschung/pub/orden 1516.html; PrUB, DH 209: Вялікі магістр да магістра ў Інфлянтах (Валтэра фон Плетэнбурга) пра ўзброены захоп памежнай вёскі Coadjuthen жамойцкім старостам; просьба пра дапамогу ў выпадку збройных сутыкненняў (Каралевец, 7.07.1516). Рэжым доступу: http://www1.uni-hamburg.de/Landesforschung/pub/dh/dh209.htm [27.11.2012]; PrUB, JHI, 3 21249: польскі кароль да вялікага магістра ў справе жамойцкай мяжы і незаконных лесанарыхтовак (мачтавага дрэва) ордэнскімі падданымі ў жамойцкіх лясах

(Вільня, 14.02.1517). Рэжым доступу: http://www1.uni-hamburg.de/Landesforschung/pub/orden1517.html.

[21] PrUB, JH I, 3 21079: войт (фогт) Растэнбурга Вернэр фон Драхенфельс да вялікага магістра ў справе пра мітусню (Plackereien) на мяжы блізу Ліка (Элка) (Растэнбург, 6.11.1516). Рэжым доступу: http://www1.uni-hamburg.de/Landesforschung/pub/orden1516.html<; PrUB, JHI, 3 24313: Штатгальтэр Рэйна да вялікага магістра пра небяспеку магчымага татарскага нападу на землі Ордэна (б.м., 4.11.1520). Рэжым доступу: http://www1.uni-hamburg.de/Landesforschung/pub/orden1520.html.

[22] Гл. падрабязней на тэму: Biskup, Marian und Labuda, Gerard. Die Geschichte des Deutschen Ordens in Preussen. Wirtschaft–Gesellschaft–Staat–Ideologie. Osnabrück, 2000. 527–530.

[23] У якасці прыклада прускіх прадпрымальнікаў, якія актыўна ўдзельнічалі ў гаспадарчым асваенні пруска-літоўскага памежжа, можна назваць Георга Кромэра (Крамэра), радцу (ратмана) з Кёнігсберга-Кнайпхафа. Гл.: PrUB, DH 196: Просьба Георга Кромэра пра нарыхтоўку у Рагніцкай пушчы дадатковай колькасці дрэва (Кёнігсберг-Каралевец, 19.03.1516). Рэжым доступу: http://www1.hamburg-uni.de/Landesforschung/pub/dh/dh 196.htm<[27.11.2012].

[24] Mortensen, Gertruda und Hans. Die Geschichte. P. 83–84 (асабліва спасылка №359).

[25] Dusburg von P. Chronik des Preussenlandes. Hrsg. K. Scholz, D. Wojtecki. In: Ausgewählte Quellen zur Deutschen Geschichte des Mittelalters. Bd. 25. Darmstadt, 1984. S. 308–309 (перасяленне ў Гарадзенскае княства жыхароў Пагезаніі); S. 326–327 (эміграцыя судаўскага князя Скуманда на Русь (Гарадно?)); S. 338-339 (забойства крыжакамі падчас нападу ў 1284 г. на Гарадзенскі замак нейкага барта, г. зн. жыхара Барціі, які раней уцёк з Пагезаніі); S. 340–341 (пагезанскія барты з-пад Гарадна разам з літвінамі ўдзельнічаюць у выправе на Польшчу; два барты з-пад Гарадна, Нума і Дзерска, пераходзяць на бок крыжакаў).

[26] “Memela (Нёман– У. К.) eciam est fluens aqua descendens de regno Russiae circa castrum et civitatem Memelburgk intrans mare, ipsam Russiam, Lethowiam et Curoniam dividens eciam a Prussiae”: Dusburg, Peter. Chronik des Preussenlandes. S. 98.

[27] “Terra Prussie pro terminus suis, infra quos constituta est, habet Wiselam, Mare Salsum, Memelam, terram Russie, ducatum Masovie et Ducatum Dobrinensem: Dusburg, Peter. Chronik des Preussenlandes. S. 98.

[28] Віртуальная Пруская Актавая Кніга ўтрымлівае рэестр аднаго дакументу 1237 г., згодна з якім Конрад, князь мазавецкі і куяўскі, даруе рыцарам-крыжакам Драгічын з тэрыторыяй, натуральнымі межамі якой з’яўляецца рака Буг і прытокі. Гл.: PrUB 1.1.126: Мазавецкі і куяўскі князь Конрад з сынамі Баляславам, Казімірам, Земавітам і Землмыслам перадае магістру Бруна і братам-рыцарам горад Драгічын з усёй вобласцю паміж рэкамі Буг і Нурзэк (Нужэц?), уключна да межаў Русі (Габін, 8.03.1237). Рэжым доступу: http://www1.uni-hamburg.de/pub/orden1237.html.

[29] Падрабязней пра гістарычныя межы Прусіі, асабліва Судовіі гл.: Mortensen, Gertruda und Hans. Die Besiedlung des nordöstlichen Preussens bis zum Beginn des 17. Jahrhunderts. Teil I: Die Wildnis in östlichen Preussen, ihr Zustand um 1400 und ihre frühere Besiedlung. S. 82–94; Lowmiański H. Studia nad dziejami Wielkiego Księstwa Litewskiego. Poznań, 1983. S. 63.

[30] Цікава адзначыць, што ў Дусбурга, на якога моцна абапіраецца Грунаў у сваёй Хроніцы, Прусія складаецца з 11, а не 12 частак: Dusburg von. Op.cit. S. 98–99.

[31] Simon Grunau’s Preussische Chronik. Bd. I. S. 488, 490.

[32] Ibid. Bd. I. S. 500, 520.

[33] Ibid. Bd. I. S. 645 (паланенне Вітаўта Ягайлам у часе ловаў пад Гарадно). Bd. II. S. 108 (выправа крыжацкага войска пад Гарадно ў часе міжусобнай барацьбы Жыгімонта Кейстутавіча і Свідрыгайлы Альгердавіча).

[34] “Im jar 1492 in der feste zu Gartten oder Grottna in Under-littaw ist gestorben konig Casimirus von Polen…: Simon Grunau’s Preussische Chronik. Bd. II. S. 364.

[35] Жыгімонт фон Герберштайн, які двойчы праязджаў праз Гарадно, у 1517 і 1526 гг., называе яго castrum cum civitate, г.зн. адзначае наяўнасць у ім замка і места (горада). Таксама адзначае аўстрыйскі дыпламат і ўрадлівасць тамтэйшых зямель: Герберштейн Сигизмунд. Записки о Московии. В двух томах / Ред. А.Л. Хорошкевич. Том I. Москва, 2008. С. 606.

[36] Герберштайн, у прыватнасці, называе Гарадно цэнтрам княства (principatus): Герберштейн. С. 606, 694.

[37] Герберштайн неаднаразова падкрэслівае, што Гарадно знаходзіцца на рацэ Нёман, якая цячэ таксама і па Прусіі і ў тым месцы, дзе яна ўпадае ў Балтыйскае мора, яна аддзяляе народы Прусіі ад жамайтаў: Герберштейн. С. 462, 606.

[38] PrUB, JHI, 10645: кароль і вялікі князь Казімір да вялікага магістра Людвіга фон Эрліхсгаўзэна ў справе гарадзенскага габрэя Ячка (Jaczko) з гданьскім месцічам Імбрахтам (Imbracht) і жыхаром Эльбінга Грэгарам (Gregor) (Трокі, 16.04.1451). Рэжым доступу: http://www1.uni-hamburg.de/Landesforschung/pub/jh-I/jh-I10645.htm [27.11.2012]; PrUB, JHI, 3 22591: Гарадзенская рада да вялікага магістра ў справе скаргі аднаго з месцічаў на злоўжыванні нейкага ордэнскага службоўцы (Гарадно, 16.08.1519). Рэжым доступу: http://www1.uni-hamburg.de/pub/orden1519.html.

*Mariusz Sawicki,*
*Dr (Opole)*

# Instrukcja powiatu grodzieńskiego na sejm w 1681 roku

Instrukcje poselskie dawnej Rzeczypospolitej były bez wątpienia ważnym elementem związanym z kulturą polityczną i społeczną określonego województwa, ziemi, czy powiatu. Nie inaczej było oczywiście w Wielkim Księstwie Litewskim, gdzie wymienione dokumenty odzwierciedlały aktualne nastawienie miejscowej szlachty do polityki wewnętrznej i zagranicznej. W instrukcjach sejmikowych znajdowały się również postulaty dotyczące spraw lokalnych, niemniej interesujących szlachtę niż kwestie ogólnopaństwowe. Możemy w nich także odnaleźć postulaty dotyczące zadość uczynienia lub wynagrodzenia określonych osób przez sejm wspólnej Rzeczypospolitej. Niejednokrotnie także sejmiki były również widownią ostrych strać politycznych między opozycją a stronnikami dworu w kwestiach związanych z bieżącym funkcjonowaniem państwa. Nie inaczej było w powiecie grodzieńskim, czego wyrazem są instrukcje dla posłów udających się na obrady sejmowe.

Instrukcja szlachty grodzieńskiej na sejm w 1681 roku zawierała wszystkie wymienione powyżej elementy i pod tym właśnie kątem poddana zostanie analizie, przy której nie można pominąć specyfiki powiatu oraz ogólnopaństwowej polityki wewnętrznej i zagranicznej. Badania nasze zostaną oparte na dwóch kopiach wymienionej instrukcji przechowywanych w Bibliotece im. Czartoryskich w Krakowie[1].

Okres poprzedzający powstanie analizowanego dokumentu związany jest z poważnym przesileniem w polityce zagranicznej Jana III Sobieskiego. W związku z nieukrywanym rozczarowaniem polityką francuską w Rzeczypospolitej i fiaskiem polityki bałtyckiej monarcha zmienił orientację na procesarską, co przyniosło znaczne konsekwencje w polityce zagranicznej państwa polsko-litewskiego. Nowy ambasador francuski w Warszawie markiz François Vitry de l`Hopital i oddany mu do pomocy biskup Toussaint de Forbin-Janson rozpoczęli rekonstrukcję stronnictwa opozycyjnego wobec króla, na którego czele w Koronie stanął hetman wielki koronny Stanisław Jabłonowski i podskarbi wielki koronny Andrzej Morsztyn. Na terenie Wielkiego Księstwa Litewskiego, na którym Sobieski prowadząc walkę polityczną z Pacami, popierał przeciw nim Sapiehów, którzy wzmocnieni podskarbiostwem wielkim litewskim dla Benedykta Pawła Sapiehy i w 1683 roku hetmaństwem wielkim i województwem wileńskim dla Kazimierza Jana szybko przeszli do opozycji wobec dotychczasowego protektora. Cesarz austriacki Leopold I mimo

zmiany orientacji politycznej Jana III nie kwapił się z przyspieszeniem prac nad ewentualnym sojuszem austriacko-polskim przeciw Turcji. Dodatkowo opozycję wewnętrzną podsycali przedstawiciele Brandenburgii, która w omawianym czasie stała się sprzymierzeńcem Ludwika XIV[2].

Wobec powyższych faktów 1681 rok rozpoczął się pod znakiem kolejnej wewnętrznej ofensywy opozycji, co dodatkowo podsycały doniesienia o złym stanie zdrowia monarchy, który dostał ataku apopleksji. Przeciwnicy króla w bardzo ostrym tonie napominali go i przypominali mu zobowiązania, które zawarł w paktach konwentach, że królowa Maria Kazimiera d`Arquien nie będzie się wtrącać do polityki wewnętrznej, co jednak przez monarchę nie zostało dotrzymane. Niezadowolenie szlachty budziła również polityka rozdawania wakansów i inne posunięcia Jana III Sobieskiego, które nie do końca zgodne było z obowiązującym w państwie polsko-litewskim prawem. Opozycja zarzucała także królowi, że sam przyjmuje i odprawia poselstwa od Kozaków z Mołdawii i Wołoszczyzny bez wiedzy marszałków i kanclerzy, czyli wbrew obowiązującym zasadom prawnym. Kolejnym elementem niezgody była polityka wobec Turcji i innych sąsiadów Rzeczypospolitej, w tym oczywiście Moskwy. Utrzymywano wprawdzie, że wojna z Portą jest realna, ale nie można jej podjąć przed uprzednim zawarciem sojuszu wojskowego z ostatnim z wymienionych powyżej państw[3]. W takich okolicznościach Jan III Sobieski zdecydował się na zwołanie sejmu, który miał rozpoczął obrady 15 grudnia 1681 roku w Warszawie.

Obradująca w październiku 1681 roku w Grodnie szlachta wybrała na swoich przedstawicieli na sejm w tym samym roku marszałka grodzieńskiego Jana Kazimierza Kierdeja oraz podkomorzego i wójta grodzieńskiego Stefana Eustachego Alexandrowicza[4]. Ostatni z wymienionych był skoligacony z marszałkiem omawianego powiatu przez małżeństwo z Teklą Radziwonowiczówną Kierdejówną[5], córką Jana Kazimierza[6]. Pierwszego z wymienionych zaliczyć można do klientów i członków fakcji pacowskiej[7]. Natomiast, co do przynależności politycznej drugiego z wymienionych posłów to należy przypuszczać, że pomimo małżeństwa z wymienioną wyżej Kierdejówną, związany był politycznie z Sapiehami, a dodatkowo wręcz wrogo odnosił się do Jana Kazimierza Kierdeja. Na sejmie koronacyjnym Jana III Sobieskiego wybuchła między wymienionymi kłótnia o mandaty wystawione na marszałka grodzieńskiego. Dyrektor ówczesnego sejmiku grodzieńskiego zarzucił bowiem Kierdejowi, że dopuścił się malwersacji finansowych i niezgodnego z instrukcją postępowania na sejmie elekcyjnym. Jan Kazimierz odpierał oskarżenia stanowczym twierdzeniem, że żadnych mandatów nie widział i niczym nie obraził na sejmiku Aleksandrowicza. Niewymienieni z imienia i nazwiska posłowie ujęli się za Kierdejem zarzucając z kolei Stefanowi Eustachemu, że sam *„constytucję rujnował.”* Dodatkowo wysunęli oni przeciw niemu oskarżenie, że sam jako poborca szelężnego dopuścił się malwersacji finansowych[8]. Janowi Kazimierzowi Kierdejowi zarzucono również na sejmie koronacyjnym, że jako marszałek

sejmiku grodzieńskiego krepował wolność wypowiedzi szlacheckiej, co stało się w konsekwencji powodem do zamieszek, które wybuchły w trakcie obrad wymienionego zjazdu szlacheckiego[9].

W postawie obu wymienionych osób widać wyraźnie walkę polityczną na terenie powiatu grodzieńskiego pomiędzy zwolennikami Paców, a Sapiehami, w tym czasie jeszcze współpracującymi z dworem królewskim. Spory fakcyjne na interesującym nas terenie były na tyle burzliwe, że doprowadzały do tumultów w trakcie sejmików, czego przykładem może być ten obywający się przed koronacją Jana III Sobieskiego. W przypadku sejmiku z 1681 roku widać jednak wyraźnie wpływ obu obozów politycznych na jego obrady i wybór posłów z każdej konkurującej na obradach fakcji. Być może była to próba pogodzenia zwaśnionych stron, co jednak jest mało prawdopodobne biorąc pod uwagę rosnące znaczenie fakcji sapieżyńskiej, a z drugiej strony słabnącej, pacowskiej.

Na początku posłowie grodzieńcy Jan Kazimierz Kierdej i Stefan Eustachy Alexanrowicz w imieniu całej szlachty mieli zwyczajowo podziękować królowi za *„ojcowskie starania circam bonum publicum”*. Następnie przedstawiciele grodzieńszczyzny powinni byli, według przekazanej im instrukcji, życzyć królowi Janowi III Sobieskiemu szczęścia i dobrego zdrowia, a także długiego panowania. W dalszej części posłowie powinni się upomnieć o realizacje instrukcji, która nie została *„satysfactum”* na sejmie grodzieńskim, która to *„dla przerwanych sejmików poprzeć nie przyszło osobliwie jako do instrukcji anno 1669 exactis wydanej stosować się będą podług prawa.”*[10]

W tym przypadku najprawdopodobniej osoba kopiująca instrukcję popełniła błąd i w tym przypadku chodzi o sejm grodzieński, który rozpoczął się 15 grudnia 1678 roku, a nie jak podano w 1669 roku. Wymienione obrady parlamentu zakończyły się kruchym kompromisem miedzy dworem królewskim a opozycją. Powrót Jana III do polityki proaustriackiej i antytureckiej nie uzyskał bowiem akceptacji stronników Ludwika XIV w Rzeczypospolitej, a w konsekwencji doprowadził do przejścia partii francuskiej do opozycji. Załamały się również dwa plany reform wewnętrznych zgłaszane przez monarchę, które polegały na nie poruszaniu kwestii związanych z wojna na sejmie i druga, ważniejsza, dotycząca wzmocnienia władzy królewskiej i posłuszeństwa wobec niej[11].

W dalszej części instrukcji, a w zasadzie na samym jej początku, posłowie grodzieńscy mięli stanowczo upomnieć się, również u senatorów, o rozdanie wakujących urzędów i nie pozwalać na dalsze obrady, *„aż się in justitia distributiva dosyć stanie”*[12]. Punkt ten został umieszczony w omawianym dokumencie zaraz po zwyczajowym przywitaniem króla i życzeniami pod jego adresem, co podkreśla bez wątpienia jego wagę dla szlachty grodzieńskiej, dla której niespełnienie wymienionego postulatu oznaczało zablokowanie możliwości dalszych obrad.

Wymieniony wyżej postulat nie doczekał się jednoznacznego rozpatrzenia na sejmie w 1681 roku. 17 stycznia posłów zaprzątała bowiem sprawa związana z gospodami podczas obrad parlamentu. Następnie zdecydowano o czytaniu

uznania urzędu nalezne(g)*o* nakazana y połowa do skrzynki cechowey rzemiosła szewcze(g)*o* pomienionego oddawana bydz ma iako iest w oryginalney ordinatiey wyrazono, ktorego artykuły aby w mocy y władzy swey tak iako w sobie brzmią ile prawu pospolitemu przeciwne nie są czasy wiecznemi zostawały koniecznie miec chcemy władzą listu tego naszego. Na co dla lepszey wiary list ten ręką naszą podpisany pod pieczęcią zwykłą Wielkiego Xięstwa Litewskiego wydac roskazali. Dan w Grodnie dnia szostego mca czerwca roku panskiego [379 адв.] tysiąc szescset trzydziestego trzeciego panowania naszego polskiego y szwedskiego[20] pierwszego roku.

Vladislaus Rex

Marcyan Tryzna
Referendarz y pisarz W*o*X*a*Lith*o*

---

[1] Бэрк П. Народная культура Эўропы ранняга Новага часу. Мн., 1999. С. 63–64.

[2] Копысский З.Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI – первой половине XVII вв. Мн., 1966. С. 121.

[3] Jodkowski J. Cechy grodzieńskie w wiekach dawnych. Grodno, 1926.

[4] Таксама. S. 23.

[5] Швед В.В., Госцеў А.П. Горадня. Аповяды з гісторыі горада (сярэдзіна 16 – канец 18 ст.). Гродна, 1997. С. 16.

[6] Гродназнаўства. Гісторыя еўрапейскага горада. Гародня; Wrocław, 2012. С. 96.

[7] У кнізе 106 Метрыкі ВКЛ толькі 646 аркушоў, а Ядкоўскі падае спасылку на аркуш 722: Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей – НГАБ), КМФ-18, воп. 1, адз.з. 106.

[8] Гардзееў Ю. Магдэбургская Гародня (сацыяльная тапаграфія і маёмасныя адносіны ў 16–18 ст.). Гародня; Wrocław, 2008.

[9] Тамсама. С. 297–298.

[10] Таксама. С. 298–299.

[11] НГАБ, КМФ-18, воп. 1, адз.з. 85, арк. 337–338.

[12] Копысский З.Ю. Экономическое развитие городов. С. 91.

[13] Цітоў А. Менск – места майстроў. Мінск, 2002. С. 38.

[14] Беларусы: У 8 т. Т.1: Прамысловыя і рамесныя заняткі. Мн., 1995. С. 293.

[15] НГАБ, КМФ-18, воп. 1, адз.з. 106, арк. 378 адв.–379 адв.

[16] Можна прывесці не вельмі карэктнае, але паказальнае параўнанне: на 1860 г. у Гродзенскай губерні было 1103 шаўцы ў гарадах і 1385 у вёсках: Беларусы: У 8 т. Т.1: Прамысловыя і рамесныя заняткі. С. 290.

[17] Галубовіч В. Канфірмацыйны прывілей Гародні на Магдэбургскае права 1633 г. // Гарадзенскі палімпсест. 2010. Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры, XV-XX стст. Пад рэдакцыяй А.Ф. Смаленчука, Н.У. Сліж. Мінск, 2011. С. 257.

[18] Кожны цэх меў святога: напрыклад, віленскія шаўцы шанавалі С. Крышпіяна: Котлярчук А.С. Праздничная культура в городах России и Белоруссии XVII в.: официальные церемонии и крестьянская обрядность. СПб, 2001. С. 77.

[19] Lietuvos Valstybės istorijos archyvas. F. 694, ap. 1, b. 3985, l. 5 (Інфармацыя Наталлі Сліж).

[20] Памылкова, бо па аналогіі з іншымі прывілеямі шведскае паванаванне Уладзіслава ішло ўжо другі год.

***Наталля Сліж,***
***кандыдат гіст. навук (Гродна)***

# Гісторыя роду Валовічаў на Гарадзеншчыне ў XV–XVII стст.[1]

Прадстаўнікі роду Валовічаў адыгралі важную ролю ў сацыяльным, палітычным, эканамічным, культурным і рэлігійным жыцці Гарадзеншчыны. Гістарыяграфія па гэтаму роду невялікая. У асноўным яна кранае гісторыю яго асобных прадстаўнікоў[2]. Асобнага архіву Валовічаў не захавалася. Хаця пра яго існаванне згадвае Юзаф Вольф[3]. На сённяшні дзень дакументы ўтрымліваюцца ў розных калекцыях бібліятэк і архіваў Беларусі, Літвы, Польшчы.



Xsięstwa Litewskiego. 1171.

Herb stárodawny Bogorya/ ktory był wziął Wisygen ná sie y ná Dom swoy wszytek/ od ktorego masz potomstwo zacne.

Wolowicowie Dom stárodawny y zacny. Te° Do mu Przodek Wolowicz Krolá Káźimierzá obronił/ gdy z Czechy miał potrzebe.

Ostafiy Wolowicz Kásztelan Trocki/ Podkánclerzy Wielk. X. Litewskiego. Stárostá Brzeski y Kobrynski.

Michał Wolowic Stáro. Slonimski/ człowiek zacny y mąż dobry.

Mácieiewicowie z Osmiáński[e]go Dom zacny.

Inszych Domow w tym támże Xsięstwie wiele zacn.

Włásnie im to nazwisko ci Przodkowie dáli/
Bo ie záwżdy tey cnoty y státości ználi:
Iż o miłą Oyczyznę mężnie bodli tego/
Kogo iey ieno ználi być niechetliwego/
Jákoż y tego wieku tey cnoty nie trácą/
We wszytkich sie z Przodkámi zacnych sprawách brácą.
Sławni Wolowicowie/ ták z śabla ták z piorem/
Kiedy raczysz sprobuyże rákowych sztuk z ktorym.

***Герб Валовічаў і верш на яго, выявы легендарнага Вола і падканцлера ВКЛ А. Валовіча з: Paprocki B.* Gniazdo cnoty: zkąd herby rycerstwa sławnego Krolestwa Polskiego, Wielkiego Księstwa Litewskiego, Ruskiego, Pruskiego, Mazowieckiego, Zmudzkiego y inszych Państw do tego Krolestwa nalezacych Książąt y Panow poczatek swoy maią. *Kraków,* 1578.**

У дадзенай працы ўвага засяроджана на паходжанні роду Валовічаў, біяграфіях нашчадкаў Грынькі Ходкавіча, іх удзелу ў жыцці Гарадзенскага павета. Да сярэдзіны XVII ст. прасочаны лёс нашчадкаў маршалка ВКЛ Івана Валовіча, якія найбольшым чынам паўплывалі на падзеі ў рэгіёне.

Паходжанне Валовічаў даволі цмянае. Тадэвуш Васілеўскі памылкова лічыў пратапластам Валовічаў баяра Карыбута Гірдвіда Беліка Вайловіча. Да таго ж ён прылічыў канюшага ВКЛ Грыньку Валовіча да дзеда знакамітага Астафея Валовіча[4].

Асобнае месца займае легенда пра выратаванне Волам вялікага князя літоўскага Казіміра ў бітве пад Хойніцамі 1454 г., якая была змешчана ў "Хроніцы Быхаўца"[5]. Пасля яна прагучала ў творы М. Стрыйкоўскага, але ў Вола з'явілася імя Юрый[6]. Да таго ж выпадак быў звязаны з Валовічамі[7]. Каспер Нясецкі гісторыю гэтага роду пачаў са згаданай легенды[8].

На думку беларускага даследчыка Аляксея Шаланды, у "Хроніку Быхаўца" патрапіла легенда па ініцыятыве канцлера ВКЛ Астафея Валовіча, каб надаць паходжанню Валовічаў шляхетнасць. Мы не адмаўляем такую магчымасць. Аднак, спрабуючы даказаць сваю канцэпцыю, А. Шаланда прыняў дзве асобы дзеда Грыньку Валовіча і ўнука Грыньку Ходкавіча за адну. Грынька Ходкавіч быў названы канюшым ВКЛ, хоць ён быў гарадзенскім гараднічым. Былі прыведзены спасылкі на дакументы, дзе Грынькі прозвішча Ходкавіч. У выніку летапісны Вол быў атаясамлены з Ходкавічам, што не адпавядае гістарычным фактам. Да таго ж у артыкуле А. Шаланды адсутнічае тэкставы аналіз, які б пацвярджаў пазнейшае паходжання фрагменту пра бітву[9].

Вячаслаў Чамярыцкі адзначыў пяць кароткіх уставак за другую палову XV ст. у "Хроніцы Быхаўца", аднак, аналіз апісання бітвы пад Хойніцамі не зроблены[10]. Дыскусійным застаецца месца і час узнікнення самога летапісу[11]. А. Шаланда звязвае з асобай А. Валовіча перыяд сканчэння рэдактарскай працы над яго тэкстам[12]. Аднак прамых крыніц, якія б пацвярджалі гэтую версію не выяўлена.

"Хроніка Быхаўца" польскімі даследчыкамі лічыцца як няпэўная крыніца па бітве пад Хойніцамі[13]. З імі можна пагадзіцца, бо яна не дае поўнай карціны. Пры гэтым трактоўка падзей ідзе з пункту гледжання ВКЛ. "Хроніка Быхаўца" была адзінай крыніцай, у якой згадваўся Вол. Але на колькі сам выпадак выратавання ад ворагу вялікага князя Казіміра быў рэальны? Ён, сапраўды, адзначаецца ў Яна Длугаша і ў іншых крыніцах. Некаторыя нават згадваюць пра дапамогу сяброў[14].

Але ці быў Вол рэальнай асобай? У гэты перыяд жыў Грынька Валовіч. Оскар Халецкі лічыў, што менавіта ён меў дачыненне да летапіснага Вола[15]. Аднак у тагачасных дакументах Грынька фігуруе з імям ці з прозвішчам Валовіч[16]. Да таго ж ён займаў пасаду канюшага ВКЛ. Для прыкладу, у летапіс трапляе поўнае імя і прозвішча Алехны Судымонтавіча. Чаму тады Грыньку падаюць па мінушцы? На нашу думку, Грыньку Валовіча нельга адносіць да летапіснага Вала. Аднак і гэтае сцвярджэнне не дае адказ на пытанне пра існаванне Вала. Тут можа быць тры варыянты: 1) калі існаваў Вол, то быў бацькам Грынькі Валовіча; 2) Вол існаваў, але не меў дачынення да Валовічаў; 3) ратаваў вялікага князя іншы чалавек, а апісаны выпадак – легенда. З-за недахопу дакументаў выбраць дакладны адказ не падаецца магчымым. Аднак прозвішча ў Грынькі было Валовіч, што паказвае пра існаванне Вола.

Самыя ранейшыя згадкі аб прадстаўніках Валовічаў, якія зафіксаваны ў дакументах, адносяцца да XV ст. ***Грынька Валовіч*** займаў пасаду канюшага ВКЛ[17]. Згадваўся ён у дакументах за 1451, 1459 гг. з імям Грынька ці Грынь. Вялікі князь Свідрыгайла надаў за службу яму і князю Казіміру сяло Храпіна ў Тураўскім павеце (1451)[18]. Грынька трымаў маёнтак Мышава ва Уладзімірскім павеце. Пасля ён перайшоў да пісара ВКЛ Янушкі. Гэтая выслуга стала спадчынай яго сына Фёдара Янушковіча (1496). Па меркаванню О. Халецкага Мышава было нададзена ад Свідрыгайлы прыкладна ў той жа час як і Храпіна[19].

У 1430-50-х гг. Свідрыгайла знаходзіўся ў Луцку. За гэты перыяд за службу ад яго атрымалі наданні іншым асобам[20]. Гэты быў найбольш спакойны перыяд у жыцці Свідрыгайлы. Да гэтага часу ён актыўна ўдзельнічаў у палітычных падзеях ВКЛ[21]. Якім чынам трапляе ў яго асяроддзе Грынька высветліць даволі складана. З’яўляецца ён у апошні год жыцця Свідрыгайлы, а пасля адразу фігуруе пры двары Казіміра. О. Халецкі выказаў меркаванне, што Грынька апынуўся ў Луцку з нейкай тайнай місіяй ад Казіміра[22].

У Метрыкі ВКЛ Грынька называецца з прозвішчам Валовіч. У перыяд з 1451 па 1470 гг.[23] ён атрымаў шэраг наданняў ад вялікага князя літоўскага Казіміра: землі ў Маркаве і Жаславе, Сакаву зямлю з падданымі ў Высокім двары (1455), 4 чалавекі ў Скраблічыках, 6 чалавек у Гарадзенскай воласці, пустыя землі Монгалава і Талемкова. Паводле іншага спісу яму яшчэ прызначалася ад гаспадара 4 чалавекі[24].

Грыньку была перададзена частка Трубецка. Пасля ад’езду Івана Юр’евіча Трубецкага яго частка была ўзята вялікім князем Казімірам Ягелончыкам. Спачатку маёмасць была дадзена князю Івану Чартарыйскаму (1452), а пазней – Г. Валовічу (1459)[25]. Калі Іван Юр’евіч Трубецкі вярнуся ў ВКЛ, то атрымаў ад вялікага князя Аляксандра права на гэтую частку Трубецка. У гэтым дакуменце Г. Валовіч згадваўся як нябожчык (1495)[26].

Пра сям’ю Грынькі Валовіча не атрымалася выявіць дэталёвых звестак. Невядома імя жонкі, колькасць дзяцей. Зыходзячы з імя ўнука Грынькі Ходкавіча[27] можна меркаваць, што ў яго быў сын ***Ходка***. На падставе перыяду трымання пасадаў дзеда і ўнука Ходке магло быць прыкладна 20 гадоў у 60-х гг. Асноўным спадкаемцам Ходкі быў сын Грынька, які атрымаў усю спадчыну дзеда. Але мы не выключаем наяўнасць дачок у сям’і.

Наступная інфармацыя напэўна мае дачыненне да Ходкі. На тытульнай старонцы Трыёдзі былі змешчаны звесткі, што кніга была перапісана дзякам Астафеем пры Саборнай Прачысценскай царкве ў Гародні ў 1466 г. Зроблена гэта было па загаду Фёдара Валовіча[28]. У кнізе прыведзена імя і прозвішча, імя па-бацьку адсутнічае. Па праваслаўнай традыцыі было прынята ўжываць поўныя імёны, таму напісана Фёдар, а не Ходка. Гэтая інфармацыя сведчыць, што Валовічы былі праваслаўнага веравызнання, займаліся фундатарскай дзейнасцю.

***Грынька Ходкавіч*** (?– да 1513) займаў пасады гарадзенскага гараднічага (1486–1495) і перавальскага намесніка (1499–1503)[29]. Як гарадзенскі гараднічы выдаваў ўзнагароды ад вялікага князя розным асобам (1486, 1488–1489). Яму самаму было прызначана 6 коп грошай з гарадзенскіх корчмаў і 6 коп з мыта ў Берасце (1486, 1488), два ўшаткі прэснага мёду (1488)[30].

Гарадзенскі плябан касцёла Маці Божай у Гародні (Фара Вітаўта) Мацей падаў скаргу на Грыньку Ходкавіча, што ён няпраўна трымаў двух падданых плябаніі (1503). Вялікі князь Казімір надаў на пажытак плябаніі 10 людзей з іх землямі ў Лешніцы ў Гародні навечна[31]. Два чалавекі Міхалка і Клім не захацелі служыць плябаніі і збеглі да Грынькі. Апошні адказаў, што Казімір надаў яго дзеду Грыньку Валовічу 6 чалавек[32]. У пацверджанне быў прадстаўлены ліст, але ў ім не было напісана ў якім павеце і ў якім месцы былі дадзены людзі. Ад плябана быў пададзены ліст князя Аляксандра, які пацвярджаў згарэўшыя прывілеі Вітаўта і Казіміра[33]. Копія прывілея Казіміра была зроблена пры першым плябане Андрэі, які трымаў плябанію 36 год. Мацей выказаў намер прысягнуць, што тую копію пісаў сваёй рукою. Г. Валовіч не змог нічога на гэта адказаць і людзей прысудзілі касцёлу[34].

Разам з жарослаўскім намеснікам Пуцятам, маршалкам Мілкоўскім[35] і дзякам гарадзенскага старосты Пухляком[36] Грынька быў накіраваны старостам Аляксандрам Юр’евічам Гальшанскім разгледзіць справу паміж квасоўскім людзьмі Мікулам і яго братам Дзенісовічамі з Зарубічам, Дашкам, Барысам і Радівонам. Першыя прадставілі адпаведных сведак і зямля была прысуджана ім. Вырак быў зацверджаны Жыгімонтам Старым (1506)[37].

Грынька Ходкавіч зрабіў фундацыйны запіс у Евангеллі на карысць царквы Св. Барыса і Глеба ў Гародні (1480?)[38]. З яго уладанняў штогод павінны былі даваць 20 бочак мукі, бочку пшанічнага соладу, дзве ячменнага і тры ржанога, бочку круп, 10 сыроў, дэшку масла. Акрамя таго, са свайго маёнтка Чупрук павінен даваць дзесяціну, гарадзенскі мешчанін Багдан – 10 бочак жыта, гарадзенскі мешчанін Апанас – капу грошай. Але дзеці пасля смерці бацькі занядбалі фундацыйны запіс. Таму мітрапаліт Макарый вымушаны быў нагадаць аб выкананні запавету Грынькі нашчадкам – троцкаму канюшаму Івану, Марку, Грыгору, Міхайлу, Паўлу, Грыгорыю Багдановічу, Андрэю Лукашэвічу (1546)[39]. Да таго яны абвінавачваліся ў захопе кціtарства над манастыром і царквой Св. Барыса і Глеба пасля смерці Богуша Багавіцінавіча і нанясенні шкодаў. У 1546 г. Грыньковічы былі вызвалены ад апекі[40].

Багдан, Іван, Лукаш, Марк, Грыгорый, Міхаіл, Павел Грыньковічы Валовічы па волі свайго бацькі Грынька Ходкавіча надалі фундацыю царкве Св. Спаса ў іх маёнтку Баля і адзначылі, што кожныя тры гады на Прачысценскую царкву ў Гародні будзе давацца дзесяціна Багданам з маёнтка Русота (1526)[41]. Бальская царква падтрымлівалася Валовічамі прыкладна да сярэдзіны XVII ст. пакуль яе не спустошыла жонка стольніка ВКЛ Астафея

Валовіча Барбара Сапежанка. З храма былі забраны царкоўныя рэчы, іконы Багародзіцы, дакументы, службы за фундатараў не адпраўляліся. Дадзеная сітуацыя справакавала скаргу мітрапаліта Цыпрыяна Жахоўскага супраць дзяцей Барбары. Ім прысудзілі аддаць рэчы царкве і аднавіць яе дзейнасць (1677). У судовай справе былі згаданы фундацыйныя запісы братоў Валовічаў 1526 г., запіс на шпіталь (1551), запісы ў тэстаментах гарадзенскага канюшага Багдана Валовіча, маршалка ВКЛ Івана Валовіча (1580), яго жонкі Ганна Копцеўны (1607), лісты за 1583 г. і інш.[42]

У памянніку Супрасльскага манастыра ўнесены род Грынькі Ходкавіча. Пра яго напісана як Грыгорый Валовіч, гарадзенскі гараднічы. Згадваліся Цімафей, Фядора, манашка Фекла, Грыгорый, Марына, Руфа, Лука, Іаан, Пелагея, Павел, Марына, Ермалай, Андрэй, Астафей (віленскі біскуп, пам. у 1629), Андрэй[43]. Цікава, што ў ім паміналіся нават каталікі, дзеці Івана Іванавіча, троцкага канюшага, – Андрэй і Астафей. З іх дакладна можна ідэнтыфікаваць наступных: манашка Фекла – дачка Г. Ходкавіча Зафея, якая прыняла пострыг; Лука – сын Г. Ходкавіча Лукаш; Андрэй – сын Лукаша, Павел і Марына – сын Павел і яго жонка, Грыгорый – сын Г. Ходкавіча; Іаан, троцкі канюшы і Пелагея – Іван і яго жонка Філія. Зыходзячы з парадку падачы імёнаў верагодна Цімафей, Марына, Фядора, Руфа былі дзецьмі Грынькі, а Ермалай – унукам, можа быць сынам Паўла ці Андрэя.

Паводле попісу войска ВКЛ 1528 г. Валовічы ставілі коннікаў: Багдан – 7 Іван – 10, Лукаш – 10, пасынкі Лукаша – 1 Марк – 2 Міхайла – 2 Грыгорый – 2 Павел – 2 удава Грынькі – 2[44]. Крыніца паказвае, што яны ўжо на той час кожны былі падзелены. Падзел адбыўся да 1513 г. Наруш з сынам падалі скаргу на Грыньковічаў. Як вольныя людзі яны прыйшлі з Крэва, служылі панцырную службу, а пры падзеле іх зрабілі нявольнымі. Браты аргументавалі, што гэтыя абставіны былі замоўчаны. Наруш адказаў, што на той час Грыньковічы, яшчэ не праводзілі "вячысты" падзел. Справу адкалі для апытання дзельчых Федка Храптовіча, Васкі Дарашковіча і гарадзенскага ключніка Мікалая Яновіча Клачко (1513)[45]. З іншай крыніцы вынікае, што былі складзены рэестры маёмасці для кожнага брата, у тым ліку былі рэестры і на падданых. Аб гэтых дакументах згадваецца ў справе Лукаша, які праз іх даказваў, што падданы Васінец належыць яму. Справа была адпраўлена на дагляд да вялікага князя (1539)[46].

Браты Грыньковічы разам скардзіліся на дворнага канюшага Якуба Кунцэвіча, што ён і яго людзі гвалтоўна аднялі землі і сенажаці, якія трымалі іх дзед і бацька. На што быў прадстаўлены доказ. Я. Кунцэвічу было загадана вянуць землі і кампенсаваць шкоды (1513)[47].

Каля 1526 г. Жыгімонт Стары даручыў гарадзенскаму старосце Юрыю Радзівілу, падляшскаму ваяводзе Янушу Касцевічу, пісару ВКЛ Копцю Васілевічу агледзець межы гарадзенскай пушчы ў частцы, якая належала Валовічам. Аказалася, што Лукаш, Іван і Багдан трымаюць землі ў межах

вылучаных Якубам Кунцэвічам[48], а не па наданню вялікага князя. Таму тэрыторыя была далучана да гарадзенскага замку, што выклікала пратэст братоў. Яны на той час ужо асадзілі там людзей. Радзівілу было даручана вярнуць ім уладанне. Але калі высветлілі, якія гэта наносіць шкоды дзяржаве, то рашэнне аб канфіскацыі пакінулі ў моцы[49].

З-за спадчыны Грынькі Ходкавіча паміж Валовічамі разгарнулася судовая справа ў 1592 г. Пісар ВКЛ Яраш Валовіч з братамі Астафеем і Іванам, вількамірскім падсудкам Аляксандрам, Грыгорыем Маркавічам, гарадзенскім падстоліем Крыштафам і Барысам Міхайлавічам, слонімскім старосцічам Самуэлем і Геліяшам Міхайлавічам скардзіўся на смаленскіх ваяводзічаў Рамана і Пятра Валовічаў. Вялікі князь Аляксандр надаў Грыньку Валовічу розныя маёнткі ў Гарадзенскім павеце – Балю, Ліпск, Даўспуды, Сідра, Мікелеўшчына, Русота. Пасля яго смерці ўладанні перайшлі сынам Багдану, Івану, Марку, Лукашу, Грыгорыю, Міхаілу, Паўлу. Баля, Ліпск, Мікелеўшчына, Русота былі падзелена, а Даўспуды, Сідра засталіся ў Багдана. А яго сын смаленскі ваявода Грыгорый забраў усе прывілеі, як старшы ў родзе. Пасля смерці Грыгорыя, канцлера Астафея і яго дачкі Раіны ўсё перайшло сынам Грыгорыя – Раману і Пятру. Апошнія абвінавачваліся ў нежаданні паказаць прывілеі і падзяліць Даўспуды. Аказалася, што па прывілею Жыгімонта Аўгуста Сідра і Мікелеўшчына, былі выслужаны Лукашам Грыньковічам у Жыгімонта Старога. А яго сын Андрэй Лукашэвіч памяняў іх на Горніцу ў канцлера Астафея Багданавіча. Таму позвы адносна гэтых уладання былі прызнаны як няслушныя. Пытанне аб Даўспудах засталося адкрытым, і Валовічаў накіравалі знайсці прывілеі ў Метрыцы ВКЛ. У сувязі з гэтым справа была перанесена[50]. Грынька Ходкавіч быў адзіным спадчыннікам па дзеду і бацьку, але наяўнасць шматлікіх спадчыннікаў выклікала канфліктныя сітуацыі.

Г. Ходкавіч быў жанаты двойчы. Імя першай жонкі не выяўлена. У першым шлюбе нарадзіліся сыны Багдан (?–1539), Іван, Лукаш, Марк, Грыгорый, Міхаіл, Павел і дочкі, верагодна, сын[51]. Другі раз ён ажаніўся з Надзеяй Васілеўнай Храптовічаўнай. Яна паходзіла з сям'і ўладзімірскага намесніка Васіля Багданавіча Храптовіча і Федзі, дачкі Пашкі Дахновіча[52]. Разам з сястрой Ганнай патрабавала ад удавы брата Аляхна выправу. Але справа была адкладзена да дасягнення паўналецця сына Івана, на поўгады (1522)[53].

У другім шлюбе нарадзілася дзве дачкі. Надзея скардзілася на пасынкаў, што яны забралі ўсе рухомыя рэчы і нічога не выдаюць на ўтрыманне дзяўчат (1513). Браты адказалі, што падзел маёмасці адбыўся, і дзяўчыны атрымалі рухомыя рэчы. Аб чым сведчыў дакумент. Па скарзе мачахі было прысуджана братам выплачваць 70 коп літоўскіх грошаў на ўтрыманне сясцёр, пакуль яны не выйдуць замуж, а пасля вылучыць ім пасагі[54].

Зыходзячы з Супрасльскага памяніка Фядора, Руфа, Марына маглі быць дочкамі Грынькі[55]. У якім шлюбе Грынькі нарадзілася дачка Зафея даклад-

на сказаць цяжка. Яна была замужам за Кірдзеем Грычыновічам. Пасля яго смерці стала ігуменяй жаночага манастыра ў Пінску. У яе быў сын Мікалаей Кірдзеевіч Грычыновіч. Ён прадстаўляў інтарэсы маці ў справе з Беняшам Іванавічам Валовічам, стрыечным братам. Апошні патрабаваў ад Зафеі маёнтак Ожа (Гарадзенскі павет). Шляхцянка атрымала яго ў пажыццёвае трыманне ад брата Івана, які быў бацькам Беняша. Справа была вырашана праз выплату Беняшам 20 коп літоўскіх грошаў Зафеі (1569)[56].

Пасля смерці мужа Надзея Васілеўна фігуравала ў судовых дакументах. Жыгімонт Аўгуст на падставе скаргі гарадзенскага архімандрыта Іоны забараніў ёй і каралеўскаму двараніну Мікалаю Якубавічу Кунцэвічу чыніць крыўды манастыру Св. Барыса і Глеба ў Гародні: забіраць зямлю, вырубаць гаі і дубровы (1546)[57]. У судовай справе згадваюцца некаторыя падданыя ўдавы: Амельян Пекарэц, Орцюх Шастаковіч, кухар Астапка Сытковіч (1539)[58].

Наяўнасць семярых сыноў дало вялікі патэнцыял для працягу роду па Грыньку Ходкавічу. Усе галіны Валовічаў бяруць пачатак менавіта ад яго сям'і. Сыны Грынькі назапашваюць моцны палітычны патэнцыял пры Боне Сфорцы. Іх нашчадкі змаглі выкарыстаць яго для далейшага развіцця роду.

Паводле імя бацькі дзеці ў дакументах пісаліся як Грыньковічы. У 20–30-х гг. XVI ст. сустракаліся два варыянты Грыньковічы і Валовічы. Напрыклад, троцкі канюшы Іван пісаўся як Грынковіч і як Валовіч (1525, 1527, 1538, 1540)[59]. Адзначым, што пры ўсталяванні прозвішча імя дзеда станавілася прозвішчам. У Валовічаў яно павінна было стаць Ходкавічы ці Хадкевічы. Але на той момант яно было ўжо распаўсюджана, ды і існаваў вядомы на Гарадзеншчы род Хадкевічаў. Таксама часта сустракалася прозвішча Грыньковіч. Таму прозвішча продкаў Валовіч як адметнае стала родавым. Гэта стала адметнасцю ў самаідэнтыфікацыі Валовічаў, якія не ўзялі імя дзеда за прозвішча, а прапрадзеда.

*Галіна Грынькі Валовіча*



***Багдану*** (?–1539) было пацверджана права на пажыццёвае трыманне пасады гарадзенскага канюшага (1508), да таго ж займаў пасаду гарадзенскага войскага[60]. Пра хібы ў Багдана пры выкананні абавязкаў канюшага выявілася падчас разбору скаргі гаспадарскага конюха Федка Есковіча на гарадзенскага мешчаніна Грышка Андрэевіча Пераломца аб рабаўніцтве. Аказалася, што Багдан загадваў Грышку рабаваць конюхаў. Але так як гэта адбывалася 8 год назад, то з-за даўніны мешчанін быў вызвалены ад адказнасці (1540)[61].

Багдан атрымаў пяць пустых зямель у сяле Путрошын (Гарадзенскі павет) у 1508 г.[62] Было пацверджана наданне мілі ў Гарадзенскай пушчы каля Нямецкай мяжы ў 1513 г., дазволілі пабудаваць там двор, асадзіць людзей, насыпаць ставы і пабудаваць млыны. У пушчы пры маёнтку Даўспуды (Гарадзенскі павет) Жыгімонт Стары дазволіў Багдану паліць попел, рабіць клёпкі, ванчос і дрэва і прадаваць тавар купцам (1529). Таксама было дадзена пацверджанне на куплю зямель і сенажацей у гарадзенскага мешчаніна Сцяпана Кудаеўскага, гарадзенскага жыда Якава Аграновіча, гаспадарскіх людзей, на пяць службаў ад княгіні Глазынінай (1522)[63]. Пасля смерці Багдана па загаду Боны Сфорцы камісары Войцех Кімбар, гарадзенскі наместнік, Ян Талачковіч, гарадзенскі харужы, Сымон Гец, наместнік каралевы ў Новым двары, праўджвалі межы наданай мілі ў Гарадзенскай пушчы ў Даўспудзе. Межавыя капцы былі пастаўлены на падставе сведчанняў 30 асочнікаў і сторажаў пушчы, так як раней яны былі праведзены Якубам Кунцэвічам. Сына Багдана – Іван, Астафей і Грыгорый прадставілі дакументы камісарам, але паказваць межы адмовіліся[64].

Багдан фігураваў у якасці аднаго з суддзяў пры вызначэнні межаў паміж уладаннямі Яна Юр’евіча Глябовіча і Хоцяна Шэмбеля (1522)[65]. Ён быў адным з камісараў пры разглядзе спрэчкі з-за памежных зямель Жараслаўкі, якая належала Боне Сфорцы, і Котры, якая была ва ўласнасці гарадзенскага старосты Юрыя Радзівіла (1533)[66]. Багдан быў суддзёй у замкавым судзе, пазней быў прызначаны Бонай Сфорцай гарадзенскім спраўцам, быў яе скідзельскім, крынскім, азёрскім наместнікам[67]. Багдан адстойваў інтарэсы Скідзельскага двара ў спрэчцы з падкаморыем і лоўчым ВКЛ Мікалаем Юр’евічам Пацэвічам (Пацам) з-за памежных тэрыторый паміж Скідзелям і Ражанкай. У выніку былі праведзены новыя межы (1537)[68].

Багдан часова трымаў манастыр Св. Барыса і Глеба ў Гародні. У 1538 г. ён перайшоў да маршалка ВКЛ Івана Гарнастая[69]. Пра аднаго з падданых Багдана Грынька вядома, што ён прадаў ігумену манастыра Св. Барыса і Глеба дварышча каля царкоўнай ніўкі за 20 грошаў[70].

Багдан ажаніўся з Тамілай, дачкой Міцуты і Марыны. Яе маці і брат Пётр запісалі Багдану дворац на Русоце з прыналежнымі тэрыторыямі да 1509 г.[71] У сям’і Багдана і Тамілы нарадзілася сыны Іван, Васілей, Астафей і Грыгорый.

*Іван* быў скідзельскім і крынскімураднікам двароў Боны Сфорцы, удзельнічаў у пасяджэннях замкавага суда (1539, 1540). Ён прыняў бок

дзядзькі Лукаша ў яго справе з Засідранскімі падданымі (1539). 1 мая 1541 г. было праведзена абмежаванне яго маёнтка Даўспуды. Асабіста Іван не прысутнічаў з-за хваробы. Былі яго браты Астафей і Грыгорый. Камісія вывучыла дакументы: прывілей Багдану Грыньковічу на пушчу, увязчыя лісты Якуба Кунцэвіча, гаспадарскі прывілей, які пацвярджаў увядзенне ў пушчу. На падставе іх былі ўсталяваны новыя межы[72].

На пачатку чэрвеня Іван памёр, бо ўжо 6 чэрвеня 1541 г. яго брат Астафей падаў скаргу на служэбніка азёрскага дзяржаўцы Каспера Кунцэвіча – Андрэя. Апошні 3 чэрвеня наехаў са сваімі людзьмі на маёнтак Валовічаў Даўспуды, забраў рэчы Івана, збіў намесніка Мікалайца, падданых, свяшчэнніка Барыса. Пасля смерці Івана былі складзены рэестры рэчаў, якія захоўваліся ў яго братоў Астафея і Грыгорыя і ў Мікалая Кунцэвіча. Удава Івана Альжбета сведчыла 14 чэрвеня ў гарадзенскім замкавым судзе, што ў прызначаны дзень Валовічы рэчы не вярнулі[73].

*Васіль* быў забіты мячом. У злачынстве абвінавачваўся Матыс Кунцэвіч. Да разгляду справы ён сядзеў у замку. 19 лютага 1540 г. яго прывялі на замкавы суд. Ён не апраўдваў сваё злачынства, а з плачам упаў крыжом перад яго братамі Іванам і Астафеем, сваякамі Лукашам і Маркам, прасіў у іх літасці. Па рашэнню суда Матыс Кунцэвіч быў аддадзены на суд братам Васіля, яны мелі права пакараць яго па свайму меркаванню[74].

*Астафей* (?–1587) зрабіў выдатную кар’еру, стаў падканцлерам і канцлерам, пісарам ВКЛ, мядніцкім дзяржаўцам, гарадзенскім гараднічым[75]. Астафей быў выбітным палітычным дзеячам свайго часу. Сваю палітычную кар’еру ён пачаў пры Боне Сфорце. Быў адным са стваральнікам Уставы аб валочнай памеры (Устава на валокі)[76]. Астафей удзельнічаў у падрыхтоўцы Статута 1566 г.[77] і 1588 г.[78], меў непасрэднае дачыненне да правядзення знешняй палітыкі адносна Маскоўскага княства, быў у складзе дэлегацыі па прыёму маскоўскага пасольства ў Вільне (1560) і Гародні (1567)[79]. Ён выступаў супраць Люблінскай уніі[80], быў дасведчаны ва ўнутраных і знешніх справах ВКЛ, уплываў на падзеі ў краіне[81]. Астафей меў моцны ўплыў у Гарадзенскі павеце. Пры яго ўдзеле здзяйснялася прызначэнні на пасады[82].

Астафей Валовіч трымаў Рэчыцкае староства ў 5 000 коп літоўскіх грошаў. Права было нададзена ад Жыгімонта Аўгуста пажыццёва. Астафей сам перадаў староства князю Ярашу Жыжэмскаму[83] і прасіў Стэфана Баторыя дазволіць перадачу (1576)[84].

У тыпаграфіі Мамонічаў выйшаў “Дыялог канстанцінопальскага патрыярха Генадзія”. У кнізе былі змешчаны верш на герб Астафея і прысвячэнне канцлеру (1585)[85]. З праваслаўя ён перайшоў у пратэстантызм і актыўна падтрымліваў гэтую рэлігійную плыню. У 1582 г. Астафей падараваў збору на шпіталь і пахаванне людзей свой двор у Вільні, які знаходзіўся недалёка ад бернардзінскага касцёла[86].

*Подпіс падканцлера ВКЛ Астафея Валовіча і яго роднага брата Грыгорыя Валовіча, лоўчага ВКЛ, 1572. AGAD. AR, dz. II, sygn. 84*

Астафей быў жанаты з Фядорай Сапежанкай. Першы раз яна была замужам за Адамам Львовічам Чыжом. Ён за пасаг (500 коп у грошах і 500 коп у рэчах) запісаў ёй на 1/3 маёнткаў Берастравіца, Горніца (Гарадзенскі павет), Машэвічы, Гарадзея і Здзітава (Навагарадскі павет), дварышчы ў Навагарадку і Гародні 2 000 коп, а пазней падараваў гэтую частку. Акрамя таго пазычыў у яе 1 400 коп пад заставу 2/3 згаданай маёмасці. У шлюбе дзяцей не было, і пасля смерці Адама яго браты Сямён і Леў выклікалі Фядору ў суд з-за запісаў мужа. Пасля смерці братоў права ўладання перайшло на іх стрыечнага брата Станіслава Андрэевіча Чыжа. Ён прызнаў запісы Адама слушнымі, сплаціў пазыку брата, падараваў 1/3 гэтых уладанняў Фядоры і яе мужу Астафею, а астатнія часткі прадаў за 2 000 коп (1556)[87].

Фядора Сапежанка падаравала згаданую суму 1 400 коп мужу за прыхільнае да сябе стаўленне, а таксама рухомыя рэчы (1552)[88]. Верагодна шляхцянка часам суправаджала мужа ў вандроўках. Разам з ім яна была ў верасні 1570 г. у Варшаве, але там захварэла[89].

Падканцлер падтрымліваў свой род і яго інтарэсы. Ад свайго імя і імя сваіх сваякоў ён звярнуўся да Жыгімонта Аўгуста як уладальнікаў зямель у Гарадзенскай пушчы каля рэк Бобра і Даўспуда. Ён прасіў пацвердзіць іх права ўладальнікаў на вызначаных тэрыторыях, каб ім не перашкаджалі трымаць землі (1569)[90].

Астафей Валовіч быў заможным землеўладальнікам. Аб гэтым сведчаць розныя аперацыі з маёмасцю. Сцяпан Яновіч Сапега разам з жонкай Багданай прадалі яму 1/3 частку фальварка па Гародняй над Маркоўскім перавозам за 12 коп літоўскіх грошаў (1555)[91]. За 50 коп літоўскіх грошаў была прададзена зямля і бортнае дрэва ў Гарадзенскай Засідэрэнскай пушчы гарадзенскімі баярам Астафеем і Зяновіем Грындзічамі (1559)[92]. Быў зроблены абмен дварамі з гарадзенскім войтам Пятром Шаматулам (1555). Астафей атрымаў Квачоўскі двор над Баляй, а войт – Сапежынскі каля Гародні[93].

Кацярына Глебаўна, удава жамойцкага старосты Мацея Міхайлавіча Клочкі, пасля смерці мужа не захацела запісаць яго роднаму брату Яну маёмасць. Запіс быў зроблены на карысць Астафея Валовіча. Будучы ва ўзросце Ян адмовіўся судзіцца і аддаў права на ўладанні сваякам Кацярыны (1553)[94]. Станіслаў Станіслававіч Шэмет і Ян і Мельхер

Андрэевічы Завішычы падаравалі Астафею Рэкуцеўскі дом у Гародні, які яны атрымалі як спадчыну па падчашаму ВКЛ Станіславу Мікалаевічу Кежгайле (1556)[95]. За добрае стаўленне і фінансавую дапамогу Астафею Валовічу падараваў навечна 1/3 частку ўсіх маёнткаў Фёдар Сідаравіч Копаць (1559)[96]. Ад Яна Клюкоўскага і яго жонкі Паланеі Паўлаўны Валовічаўны падканцлер атрымаў уваходы ў Гарадзенскую пушчу ў іх маёнтку Ліпск (1569)[97].

Паводле валочнай памеры ў Гародні Астафею належала два пляцы на Залатарскай і Дзям'янаўскай вуліцах. Акрамя іх, ён быў уладальнікам вялікай юрыдыкі ў раёне Рынка[98]. Не атрымалася выявіць якім чынам патрапілі да канцлера маёнткі Куранец і Верхняе (Ашмянскі павет). Захаваліся толькі згадкі ў інвентарах пра ўладанне імі Астафеем (1573, 1578, 1582). Раней маёнткамі валодаў сваяк Езаф Валовіч. Верагодна праз куплю была набыта Панямунь у кіеўскага кашталяна Паўла Іванавіча Сапегі (1580). На тэрыторыі маёнтка знаходзіліся дом, піўніца, кухня, свіран, лазня, стайня, сырнік, пякарня, абора, гумно і інш.[99]

Стэфан Баторый дазволіў Астафею выкупіць дзяржавы Юрборк і Новая Воля з заставы ва ўдавы Крыштафа Конарскага – Кацярыны Локаўны і трымаць пажыццёва (1583)[100]. Астафей прадаў свайму служэбніку Фёдару Грыгор'евічу Воўку маёнтак Станькаў (Менскі павет) за 700 коп літоўскіх грошаў (1584)[101]. Канцлер атрымаў права на вечнае валоданне пляцам ў Берасце, які знаходзіўся каля Рынка. Там ён ужо пачаў будаваць мураваны дом, чым падаў прыклад іншым мяшчанам, бо такія дамы ў выпадку пажару не такія небяспечныя як драўляныя. А. Валовіч не хацеў заканчваць будаўніцтва з-за таго, што гэта дорага каштавала. Таму С. Баторый аддаў пляц навечна (1584)[102].

У Астафея і Фядоры была толькі адна дачка Раіна (?–1591), якая выйшла замуж за рабштынскага, юрборскага, тарновецкага старосту Севярына Бонара. Ён паходзіў з сям'і кракаўскага мешчаніна Севярына. Прыбыўшы з Нямеччы Бонары ў XV ст. хуткім часе занялі высокі статус у грамадстве. Яны мелі дачыненні з каралеўскім асобамі. Карысталіся падтрымкай Жыгімонта Старога, падзялялі яго інтарэсы ў сферы культуры[103]. Шлюб дачкі з вядомай у асобай значна падымаў прэстыж А. Валовіча. Вяселле адбылося ў 1570 г.[104]

Раіна стала асноўнай спадчыннніцай бацькоўскай маёмасці: Кармалоўскае Месца (Ковенскі павет), Гальшаны (Ашмянскі павет), Сідра (Гарадзенскі павет), Воін, Ломажы, Кодзенец, Мілейчыцы, Полаўцы (Берасцейскае ваяводства), дамы ў Вільні, Гародні і Берасце і інш. У сваім тэстаменце Астафей прасіў пахаваць у зборы ў Сідры, які сам і заснаваў разам са школай і шпіталем у 1585 г.[105] Прызначаны былі выдаткі на збор і на шпіталі (1587)[106]. У дакуменце прызначалася 500 коп літоўскіх грошаў на пасагі для дачок Пятра Весялоўскага. Грошы Валовічы не выдалі, што справакавала судовую справу супраць іх (1592)[107]. Пінскі харужы Канстанцін Фядзюшка

і яго жонка Ганна Валовічаўна таксама падалі скаргу на Северына Бонара і яго жонку за адмову аддаць па тэстаменту Астафея Валовіча рухомыя рэчы на суму 2 000 злотых. Але выявілася, што аб гэтым не было гаворкі ў дакуменце. Фядзюшка яшчэ патрабаваў юргельт на 280 коп літоўскіх грошаў, якія быў яму вінен А. Валовіч (1591)[108].

Амаль да апошніх дзён Астафей быў у рэчышчы палітычных падзей ВКЛ. Паводле звестак пастыра Станіслава Тучуса канцлер памёр па дарозе у Сандамір 13 лістапада 1587 г. Але з гэтай датай не карэлюецца датай напісання тэстаменту 1 снежня 1587 г. Багдан Сапега ў лісце да віленскага ваяводы Крыштафа Радзівіла напісаў пра смерць Астафея ў Сандаміры 20 лістапада[109]. Дадзеныя з двух крыніц сведчаць на карысць лістапада з разыходжаннем у датах (13 і 20) і месцам (па дарозе і ў Сандаміры). Мы схільныя лічыць, што памылка ў тэстаменце, тым больш што гэта копія. Верагодней за ўсё там была дата 1 лістапада. Пахаваны быў Астафей 16 сакавіка 1588 г. у Сідры, у пратэстанцкім зборы, які быў ім закладзены ў 1585 г. Пахаванне было ўрачыстае: у прысутнасці сваякоў і дзяржаўных асобаў. На памяць аб Астафею пастыр С. Тучус напісаў верш [гл. дадатак 1][110].

Заслугі Астафея Багданавіч цяжка пераацаніць. Ён адыграў важную ролю ў дзяржаўным кіраванні. Пры гэтым ён не забываў пра месца свайго паходжання. Астафей стаў апорай не толькі для ўласнай сям’і  але і для ўсяго роду. Сваякі часта звярталіся да яго дапамогай у розных справах. Гэта быў самы выбітны прадстаўнік Валовічаў.

Другі сын *Грыгорый*[111] (?–1577) таксама зрабіў яскравую кар’еру. Ён займаў розныя пасады: спраўца канцылярыі ВКЛ, гарадзенскі гараднічы, эйшышскі, вараньскі, конеўскі, зельвенскі і дубіцкі дзяржаўца, мсцібагоўскі староста, лоўчы ВКЛ, смаленскі ваявода[112].

Захавалася некаторая інфармацыя пра дзейнасць Грыгорыя як мсцібагоўскага старосты. Ён атрымаў ад Жыгімонта Аўгуста дазвол пабудаваць бровар, саладоўню і васкабойню ў мястэчку Мсцібагова (1558). У той час існавалі прыватныя корчмы ў мяшчан, з якіх не ішоў прыбытак на скарб. Па дакументу карчма, бровар і саладоўня атрымлівалі прывілеяваны статус. Пажытак з іх ішоў на замак Мсцібагова без выплаты падаткаў да 1563 г. Мяшчане не мелі права мець саладоўню і васкабойню ў мястэчку і на прадмесці, маглі браць солад з замкавай саладоўні, а калі самі варылі піва, то з кожнай бочкі плацілі 16 пенязей літоўскіх, ад медніцы мёду – 8 пенязей, ад збівання воску ад кожнага каменя 4 пенязі[113]. Па загаду Жыгімонта Аўгуста Грыгорый увёў у валоданне сяла Грынькі віленскага кашталяна, жамойцкага старосту Гераніма Хадкевіча. Сяло было пададзена яго свіслачскаму ўрадніку Васілю Гігіну (1559). Пасля смерці Г. Хадкевіча яго сыны стольнік ВКЛ Ян і Яраш прасілі ў вялікага князя землі гаспадарскага кухара Сыча, якія былі ў сяле Грынькі. Грыгорый увёў іх у валоданне (1563)[114].

Г. Валовічам была праведзена рэвізія пушчаў у 1559 г.[115] Па загаду вялікага князя літоўскага ён вылучыў Васілю Копцю ўваходы ў пушчы ў Вярховічах (1572)[116]. Грыгорый асадзіў места Васількава[117].

Грыгорый за сваю службу атрымаў навечна Вараб'еўскі дварэц у Ваўкавыскім павеце (1560)[118]. Ад Жыгімонта Аўгуста яму было дадзена Мерэцкае староства ў пажыццёвае карыстанне. Аказалася, што на яго атрымаў ліст віленскі ваявода Мікалай Мікалаевіч Радзівіл. Справа вырашалася прыяцелямі з двух бакоў, якія пацвердзілі, што прывілей Грыгорыя ранейшы. Але, за добрае стаўленне ваяводы і яго сына Мікалая, Грыгорый аддаў Радзівілу Мерацкае староства з мястэчкам Лаздзея і фальваркамі (1574)[119].

З гаспадарчай дзейнасці вядома, што у сваім маёнтку Ліпск (Гарадзенскі павет) Грыгорый вырашыў зрабіць грэблю і стаў. Але пасля пачатку працы аказалася, што стаў будзе залiваць сенажаці гаспадарскіх падданых і балота. Рэвізоры валочнай памеры – спраўца гарадзенскіх двароў, новадворскі і острынскі дзяржаўца С. Дыбоўскі і гаспадарскі дваранін Л. Война памералі маёнтак і правялі абмен землямі. Абмен быў пацверджаны Жыгімонтам Аўгустам, таксама як і дазвол браць там маставое мыта (1558)[120].

Грыгорый быў жанаты тройчы. Яго жонкамі былі: Ганна Хадкевічаўна (дакладна вядома, што іх дочкой была Паланея[121]), Зафея Іванаўна Сапежанка (дачка Дарота)[122], Кацярына Юрлоўна. Аднак дакладны парадак першых двух шлюбаў усталяваць не атрымалася, трэці быў з К. Юрлоўнай. Яна была першы раз замужам за Мацвеем Багданавічам Агінскім[123]. Грыгорый падараваў жонцы за добрае да сябе стаўленне маёнтак Мікалаеўшчына ў Троцкім павеце (1574)[124]. Кацярыну судзілася з Лукашам Беліцкім з-за кухарскага падвор'я ў Гародні, а пасля яго саступіла. Яе рашэнне прыняў і пацвердзіў сын Багдан Агінскі, троцкі падкаморы (1592)[125].

Пра дачок захавалася наступная інфармацыя. Паланея (?–1636) першы раз выйшла замуж за Васіля Копця, дваранiна Жыгімонта Аўгуста. У іх было трое сыноў: берасцейскі кашталян Лукаш, лідскі маршалак Філон, берасцейскі падкаморы і навагарадскі кашталян Васіль. Паланея абвінавачвала Каспера Дэмбіцкага і яго жонку Марыну Іванаўну Копцеўну, пляменніцу мужа, у нападзе на маёнтак Вярховічы (Берасцейскі павет) у 1577 г.[126] Другі шлюб быў з Грыгорыем Войнам, берасцейскім кашталянам. У казанні на смерць адзначаецца рэлігійнасць Паланеі. Яна як і сёстры была праваслаўная, займалася дабрачыннасцю. Паланея з сынам Васілём заснавала манастыр у Купяцічах, дзе быў цудатворны абраз. Яна падтрымлівала манастыр у Вільні, які быў пабудаваны на зямлі Валовічаў. Там была ўжо пахавана сястра Дарота, а нявестка Барбара Хадкевічаўна, жонка Васіля пахаванне зрабіла тамсама, згодна з тэстаментам. Апошнія гадзіны пры шляхцянцы знаходзілася пляменніца Алена Пятроўна Валовічаўна, жонка Яна Галаўчынскага. Пахавана ў царкве Св. Духа ў Вільні[127].


AR, dz. II

Jasnie Oswiecone Xiąże
Miłościwy Panie

Jaki ucisk bracia nassa miesczanie wilenscy Starożytney Religij Greckiey ludzie od odstępnych wiary nasszey potczasy cierpią, i mnimam nietylko W. X. M. memu M. Panu, który ich zawsze podskrzydłem Panskiey obrony swoiey chronić raczyss, ale y wszytkiemu swiatu wiadomo, iako ich Mandatami o wiary, o sumnienie, pozywaiąc Decretami Assessorskiemi y mieyskiemi potysiącu kop skazuią, iako to temi niedawnemi czasy nadiednym miesczaninem Bratem Religij nassey Siemionie Krasowskim exequowano, Jestem pewney nadziei że W. X. M. yna tym (day Boże) sczęsliwym Seymie wedlug zwykley Panskiey łaskawosci swoiey, o ich utrapienie Mściwie zastawiacsie będziess raczył. A w którym iesliby (czego Boże obroń) Religia nassa Grecka gruntownego uspokoienia nieodniosła, ptenby niebowas Siemion Krasowski miesczanin wilenski od wskazu decretow zadwornych y mieyskich otysiąc kop litewskich ktora nanim iuż exequowana iest wolen niebył, Unizenie W. X. M. swego M. Pana zanim prosse, abyś go W. X. M. wsiąwszy pod obronę swoię Panskim listem swoim iako ręko dayneyo sługę od sromotnego więzienia (gdyż mu tylko tego od urzędnikow miasta Wilenskie° niedostaie) warowac raczył. Co ie doznawssy, ustawicznemi do Pana Boga modłami memi przedobre zdrowie y sczęsliwe a długoletne W. X. M. Panowanie Compensowac ustawicznie będę, oddaiącsie z powolnosciami memi do Mściwey łaski W. X. M. mego Mściwego Pana. Dan z Wilna A° 1615 13 Maia

Waszei X M° mo° M° pana
nanisza sługa
Janowa Chodkiewiczowa
Dorota Wołowiczowna
woiewodzina smolenska
Ręką swą

*Ліст Дароты Валовічаўны Я. Радзівілу,*
*1615. AGAD. AR, dz. II, sygn. 626a.*

Дарота стала жонкай смаленскага ваяводы Яна Абрамовіча, пратэстанта. Ён быў прыхільнікам ідэі супрацоўніцтва пратэстантаў і праваслаўных. Муж спрыяльна і з разуменнем ставіўся да веравызнання жонкі і яе ўдзелу ў абароне праваслаўя. У канфлікце па прычыне прымусовага забрання праваслаўных храмаў у Вільні падтрымлівала віленскіх мяшчан, якія аказалі супраціў. У прыватнасці пісала ліст да Януша Радзівіла, каб ён узяў пад сваю абарону С. Красоўскага. Дароту пахавалі ў царкве Св. Духа ў Вільні 10 сакавіка 1636 г.[128]

Фядора выйшла замуж за берасцейскага ваяводу Крыштафа Зяновіча. Ён быў пратэстанцкага веравызнання[129]. Фядора захавала прыналежнасць да праваслаўя. Разам з сястрой Даротай падаравала зямлю ў Вільні новай царкве Св. Духа. Пасля забрання храмаў гэта была адзіная праваслаўная царква, будаўніцтву якой перашкаджаў Іпацій Пацей[130].

Раіна выйшла замуж за сына К. Юрлоўны – Багдана Агінскага, значыць нарадзілася ў першым ці другім шлюбу. Разам з мужам займаліся фундатарскай дзейнасцю на карысць праваслаўнай царквы[131]. Сёстры Дарота, Раіна, Фядора, Паланея вызначыліся актыўнай падтрымкай праваслаўя ў неспрыяльных умовах наступу з боку каталікоў і уніятаў. Пры чым актыўнымі паборнікамі Контррэфармацыі сталі іх сваякі Яраш Валовіч, жамойцкі староста, і Астафей, віленскі біскуп (пра іх гл. далей).

Кацярына першы раз выйшла замуж за Мікалая Бакаляровіча. У іх была толькі адна дачка Альжбета, якая стала жонкай гаспадарскага двараніна Мікалая Вольскага. Другім мужам Кацярыны стаў абозны ВКЛ, мсцібагоўскі староста, больніцкі і сімненскі дзяржаўца Пётр Весялоўскі. Ён памёр, пакінуўшы жонку з непаўналетнімі дзецьмі Пятром і Янам. Будучы хворай Кацярына прасіла прыехаць да сябе дзяржаўныхураднікаў маршалка ВКЛ Яна Шымковіча і гарадзенскага канюшага Яна Мікалаевіча Гайко 29 сакавіка 1560 г., каб занатаваць распараджэнні аб сваёй маёмасці. Дачка не магла прадстаўляць яе інтарэсы, бо была на той момант цяжарнай. Ад першага мужа Кацярыне было запісана ў вечнае валоданне 1/3 усіх яго маёнткаў. Маёнтак Белый Сток[132], якім валодаў Бакаляровіч, Кацярына падаравала сынам Пятру і Яну. Дачка атрымала маёнткі Ліпое, Шыловічы, Дзядковічы, якія былі запісаны Пятру Весялоўскаму ў заставе 800 коп літоўскіх грошаў ад жамойцкага біскупа Яна Здаманова. У выпадку адсутнасці нашчадкаў у сыноў Белый Сток пераходзіў дачцэ. Апекунамі Кацярына прызначыла на той час пісара ВКЛ Астафея Валовіча і мядзельскага і маркоўскага дзяржаўцу Мікалая Нарушэвіча (1560)[133].

Вядома, што ў Грыгорыя было яшчэ чатыры сыны: рагачэўскі староста Раман (?–пасля 1620), чашнік ВКЛ Пётр (1567–1624), Грыгорый і даўгоўскі і пералайскі староста Езаф (?–1581)[134]. Але хто з іх і ў якім шлюбе нарадзіўся ўсталяваць не атрымалася. Асноўнымі спадкаемцамі сталі першыя два сыны. Ім таксама перайшла маёмасць канцлера Астафея Валовіча пасля

смерці яго дачкі Раіны. Раман быў жанаты з Аленай Мікалаеўнай Сапежанкай (?–1645)[135]. Пётр вучыўся ў ВКЛ і за мяжой, служыў у Венгрыі. Пасля вятрання ён ажаніўся з Зафеяй з Уляшэвіч Пакошаўнай у 1602 г.[136] У іх нарадзілася два сыны, якія памерлі ў дзяцінстве. Яшчэ было дзве дачкі Ганна[137] і Алена[138]. Пётр быў пратэстантам. 28 сакавіка 1624 г. быў пахаваны ў зборы ў Сідры[139], які быў заснаваны А. Валовічам.

Грыгорый хацеў ажаніць сына Грыгорыя з Багданай Васілеўнай Сямашкаўнай. Ён заключыў перадшлюбную дамову з яе стрыечным братам Аляксандрам Сямашкам, уладзімірскім падкаморыем (1566). Вяселле прызначалася праз пяць год. А. Сямашка пасля шлюбу абавязаўся перадаць маёмасць сястры, якую на той час трымаў у апецы. Зарука вызначана была ў 1 000 коп літоўскіх грошаў гаспадару і 1 000 коп – Валовічу. Але маці Багданы і апекуны планавалі выдаць дзяўчыну за Януша Чацвярцінскага, а А. Сямашка не меў права заручаць яе з Г. Валовічам. Багдана сама была супраць шлюбу з ім, бо ні разу не бачыла будучага мужа. У выніку яна стала жонкай Я. Чацвярцінскага. Аданк пасля яго смерці яна выйшла другі раз замуж за Г. Валовіча і за добрае да сябе стаўленне падаравала яму вена ад першага мужа (1571)[140].

Езаф ажаніўся з дачкой Лукаша Янавіча Куранецкага і Зафеі Сапежанкі – Ганнай[141]. Яе бацька валодаў маёнткамі Куранец і Высокае, якія пасля перайшлі да дачкі. Лукаш быў каталіком. Ён памёр да 1573 г. Як сведчыць інвентар яго труна знаходзілася пасярэдзіне касцёла Панны Марыі ў Куранцы[142].

Са справаздачы куранецкага ўрадніка Івана Яцковіча вынікае, што Езаф удзельнічаў у выправе пад Пскоў 1581 г. Для гэтага было закуплена 5 мяднiц прэснага мёду (8 коп і 20 грошай), 3 бочкі пшанічнага соладу (3 капы і 30 грошай), 5 бочак расходнага соладу (3 капы і 46 грошай), 3 ялавіцы (4 капы), вол для бужаніны (3 капы), 5 бараноў і 5 авечак (2 капы і 30 грошай), свіное мяса (1 капа 12 грошай), 3 камяні солі (21 грош), 46 рыб, палова бочкі белага гароху (26 грошай), 2 бочкі пшаніцы (2 капы і 2 грошай). Усяго было выдаткавана 30 коп і 9 грошай. Разам з Езафам выпраўляліся Аўгуштын Кобылінскі і машталеры. Пакуль яны чакалі прыезду пана на іх было выдаткавана свіное мяса, 6 бараноў, рыбы, селядцы, авёс для каней. Жонка чакала вяртання Езафа ў Куранцы. Хутка пасля прыезду ён памёр у 1581 г.[143]

З сыноў Багдана род меў працяг толькі па Грыгорыю, смаленскаму ваяводзе, Астафей, Васіль, Іван памерлі не пакінуўшы нашчадкаў. Пры гэтым у сям’і склалася тэндэнцыя жаніць дзяцей з дзецьмі жонак ад папярэдніх шлюбаў. Гэта не адпавядала кананічнаму праву.




Інфармацыя пра ***Паўла*** прадстаўлена даволі абмежавана ў крыніцах. Ён падаў скаргу на Махаіла Макаровіча, што апошні не хацеў прадставіць на суд сваіх падданых у справе галаўшчызны слугі Паўла Пілецкага і раненні Петака і Пракопца. М. Макаровіч адказаў, што дамовіліся яны аб судзе на заўтра (1539). Павел удзельнічаў у пасяджэннях гарадзенскага замкавага суда (1540)[144].

Сваю бортную зямлю Мошык Яцкоўшчына з сенажацямі Павел перадаў у валоданне да Мосевіцкага двара. За гэта ён ад Боны Сфорцы атрымаў дзве пустыя зямлі Кахоўшчыну і Новасадаўшчыну над р. Баля ў Гарадзенскай воласці, у адным месцы – валока і 4 моргі і ў другім – 2,5 моргі. Валокі былі вымераны спраўцам гарадзенскіх двароў каралевы Андрэем Няпрэцкім (1550). Павел судзіўся з-за памежных тэрыторый, Даўгініцкага гаю, з гаспадарскімі падданымі. Камісарскі суд у складзе гарадзенскага намесніка Войцеха Кімбара і Яна Мікалаевіча Талачковіча ўсталявалі межы ў Даўгінічах (1550)[145].

Павел быў жанаты з Марынай Кумпеўнай. Яна была дачкой пісара гарадзенскага староста Аляксандра Гальшанскага – Лявона Грыгор’евіча Кумпя. Першы раз Марына выйшла замуж за Яцку Мікулініча. Разам яны падзялілі маёмасць па бацьку з сястрой Ганнай і яе мужам Кучам Андрэевічам: дворац Наліўскі – Ганне, а дворац Мелешкоўскі – Марыне, дом у Гародні на Нямецкай вуліцы – у агульнае гаспадаранне[146]. Пасля

смерці Паўла Марына перадала маёнтак Мелешкоўскі над Нёманам і дзяцей ў апеку яго брату Грыгорыю Валовічу (1554)[147]. Трэці раз Марына выйшла замуж за Івана Тарусу[148]. Вядома, што ў другім шлюбе была дачка Паланея выйшла першы замуж за Кузьму Клікоўскага. Яны разам згадваліся ў скарзе ў 1568 г.[149] Другім мужам стаў Ян Клюкоўскі, гарадзенскі староста. Паланея атрымала спадчыну па маці. Дворац Наліўскі перайшоў Углікам. Шчасны Углік заставіў яго Паланеі ў суме 1 000 коп літоўскіх грошаў[150].

З нешматлікіх крыніц выяўлены звесткі пра судовыя спрэчкі, шлюб з М. Кумпеўнай. Пра нашчадкаў інфармацыя вельмі абмежаваная.

***Грыгорый*** спачатку быў дваранінам гаспадарскім. У 1525 г. ён праводзіў перапіс маскоўскіх вязняў у замках ВКЛ[151]. Жыгімонт Стары накіраваў яго быць сведкам пры выплаце пазыкі гарадзенскаму жыду Ігудзе Багдановічу ад удавы Міхайлы Павшына Людмілы (1526)[152]. Грыгорый прадаў І. Гарнастаю двор у Берасце, які знаходзіўся напрыканцы Гарадавога моста, каля пусташы, дзе былі каралеўскія стайні (1538)[153].

Грыгорый займаў пасады навагарадскага кашталяна і слонімскага старосты. Аб яго дзейнасці на другой пасадзе захавалася шэраг дакументаў. Дарсунішскі намеснік Іван Іванавіч Гарнастай абвінавачваў Грыгорыя ў дрэнным выкананні абавязкаў старосты. Ён не хацеў пакараць слонімскіх падданых і падданых Гарнастая з маёнткаў Азярніца і Блізнае (Слонімскі павет) за забойства, гвалты, рабаўніцтва на дарогах[154].

Як слонімскі староста Грыгорый удзельнічаў ва ўвязанні ў валоданне Азярніцай і Блізнай Астафея і Гаўрылы Гарнастаеў. Пасля смерці мужа Івана Ульяна Багавіцінавічаўна зноў стала валодаць гэтымі маёнткамі. Астафей і Гаўрыла падалі на яе скаргу. Па гаспадарскаму выраку ўладанні павінны былі перайсці братам. Першую выправу ўзначалілі слонімскія ўраднікі. З сакавіка 1570 г. шляхта Слонімскага павету спрабавала ўвязаць у валоданне Гарнастаяў. Амаль з кожнага маёнтка, як на вайну, былі выстаўлены людзі са зброяй. Але яны сустрэлі моцны супраціў. 2 верасня 1571 г. пад замак рушыла шляхта ўжо з трох паветаў: Ваўкавыскага, Слонімскага і Навагарадскага. У складзе войска знаходзіліся ўраднікі трох паветаў. Увязаць Гарнастаяў павінен быў навагарадскі кашталян і слонімскі староста Грыгорый Валовіч. Шляхту сустрэла “густая стральба з гакаўніцы і ручніц”. З верасня Г. Валовіч напісаў аб падзеях ліст вялікаму князю[155].

Як сведчыць ліст Жыгімонта Аўгуста ад 10 снежня 1568 г. Грыгорый з маладых год служыў яшчэ Жыгімонту Старому, жыў пры двары Жыгімонта Аўгуста, пасля быў адпраўлены ў пасольства ў Маскву ў 1563 г., выконваў земскую і ваенную службы[156]. За гэта ён атрымаў 20 аселых валок і 10 пустых ва Упіцкам павеце на ўласны выбар. Браслаўскі падкаморы, упіцкі дзяржаўца Іван Цімафеевіч Крошынскі ўвёў у валоданне ў землі ў Біржелях. Пазней[157] гэтыя 30 валок Грыгорый падараваў другой жонцы Магдалене Васілеўне Сангушкаўне[158].

Першы раз Г. Валовіч быў жанаты з Зафеяй Іванаўнай Сапежанкай. У іх нарадзіліся дзеці Міхайла, Фядора і Раіна (?–да 1584). Сын як і бацька займаў пасаду слонімскага старосты. Фядора выйшла замуж за берасцейскага ваяводу Юрыя Васілевіча Тышкевіча. Раіна была замужам двойчы. Першым мужам стаў дарсунішскі староста Марцін Яновіч Хршчановіч[159]. Пасаг Раіны склаў 1 600 коп літоўскіх грошаў. Муж пазычыў у яе 400 коп пад заставу маёнткаў Камарова, Оржвета і Струнна. Ужо ў 1569 г. Раіна фігуруе як жонка віцебскага кашталяна Паўла Паца. У іх сям'і нарадзіліся дзеці: Мікалай, Пётр, Зафея, Барбара[160].

Верагодна, што ў Грыгорыя было тры шлюбы. У судовай справе згадваецца Грыгорый Валовіч як муж дачкі слонімскага войскага Грынькі Міхайлавіча, які прадстаўляў інтарэсы цесця ў судовай справе з Янам Мікалаевічам Іллінічам у 1540 г.[161] Галіна Грыгорыя пайшла далей па сыну Міхаілу, але яна была звязана з іншымі рэгіёнамі ВКЛ.

*Галіна Грыгорыя Грыньковіча Валовіча*




***Лукаш*** (?–1552) займаў пасаду гарадзенскага ключніка, прысутнічаў на пасяджэннях замкавага суда (1540)[162]. Яму былі дадзены тры пустыя землі ў сяле Верцялішкі (Гарадзенскі павет), пацверджана купля Лыскоўшчыны ў Лук'яна Лысковіча ў 1514 г.[163] З трох пустых зямель ўвялі ў валоданне толькі адной, а дзве іншыя замянілі, што было пацверджана вялікім князем (1518)[164]. Гарадзенскі ключнік атрымаў ад Боны Сфорцы прывілей на права валодання землямі каля Малявіц у Гарадзенскім павеце (1532)[165].

Лукашу было загадана апісаць усе ўваходы ў Гарадзенскую пушчы і бортнае дрэва, што і было зроблена. На падставе гэтага былі ўсталяваны платы Бонай Сфорцай на карыстанне дрэвам і пушчай (1536). Выкананне распараджэння ўскладалася на Лукаша і асочнікаў. Парушальнікаў чакала турэмнае зняволенне ў гарадзенскім замку[166].

Лукаш фігураваў у розных судовых справах. Ён абвінавачваў гаспадарскіх падданых у тым, што яны лавілі рыбу ў яго сажалцы на рацэ Сідра. Справу выехалі разглядаць камісары ад Боны Сфорцы: гарадзенскі войскі Мікалай Шымковіч, гарадзенскі канюшы Андрэй Сцецковіч Сапоцька, гарадзенскі ха-

ружы Ян Мікалаевіч Талачковіч і іншыя. Пры вывучэнні фактаў высветлілася, што раней на месцы сажалкі былі лазні і сенажаці падданых. Гэта было пацверджана 35 сведкамі з боку гаспадарскіх людзей. Яны былі гатовы прыняць за гэта цялесную прысягу. Сведкі Лукаша на прысягу не пайшлі. Ключніку прысудзілі вызваліць землі на працягу 12 тыдняў (1539)[167].

На Лукаша скардзіўся князь Мулкуман Міскевіч, татарын. Гарадзенскі ключнік рамантаваў дарогу праз яго двор, пры гэтым яшчэ абрабаваў падданых (1541). Лукаша несправядліва абвінаваціў гаспадарскі асочнік Дэх з сынамі, быццам бы ён забраў іх сена (1541)[168]. У судовых кнігах фігуруюць падданыя Лукаша. Якубавая Ульяна і Макаравая Настасся падалі скаргу на Сцяпана Федцовіча, які збіў іх на дарозе, калі яны вярталіся да дому (1540)[169].

Вядома пра сына Лукаша – *Андрэя*, які нарадзіўся ў шлюбе з удавой Юрыя Катовіча[170]. Як жонка Лукаша жанчына фігуравала ў справе паміж Бонай Сфорцай і Юрыем Радзівілам (1533). Апошні, каб пацвердзіць свае правы на маёнтак Котра прадставіў ліст продажу Котры з царквой Св. Спаса, корчмамі і перавозам. Яе сын Багдан сведчыў, што продажу не было[171]. З пазнейшых дакументаў вядома, што Котра належала Катовічам[172]. У першым шлюбе ва ўдавы былі сыны Багдан, Януш, Васіль і Павел. Апошняму Андрэй разам з жонкай Аўдоццяй Іванаўнай Кунцэвічаўнай падараваў Новы дворац на рацэ Ожа (Гожа), які атрымаў ад бацькі (1555)[173].

Андрэй згадваецца ў дакументах як каралеўскі дваранін. Ён запісаў жонцы Аўдоцці за ўнясенне 1 100 коп літоўскіх грошаў вена на 1/3 Мікелеўшчыны у памеры 1 100 коп (1552)[174]. Пасля смерці мужа Аўдоцця была ў апецы Астафея Валовіча. Другі раз выйшла замуж за рэвізора Грыгорыя Дзяльніцкага. Разам яны падалі скаргу на Рамана і Пятра Валовічаў, як на спадчыннікаў Андрэя, за нявыплату вена (1 100 коп). Справа разбіралася ў гарадзенскім земскім судзе (1592), а пасля на варшаўскім сойме[175]. Вена Аўдоцця так і не атрымала[176].

Андрэй фігураваў у судовых справах. Ён абвінавачваў гарадзенскага земскага пісара Фёдара Кунцэвіча і яго брата Канстанціна, што яны яго ўдарылі і збілі яго служэбніка Матку ў доме гарадзенскага мешчаніна Войцеха Дробышэвіча. Віж пацвердзіў гэты факт. Праз некаторы час мешчанін падаў скаргу на Андрэя з-за пабояў ва ўласным доме (1555)[177]. Гарадзенскі мешчанін Станіслаў Канароўскі абвінавачваў шляхціча ў непрадстаўленні на суд свайго служэбніка, які наехаў на дом мешчаніна і збіў яго жонку (1559)[178].

Пасля смерці бацькі Андрэй трымаў яго выслугу – маёнтак Сідра ў Гарадзенскім павеце. Ён абмяняўся з Астафеем Валовічам маёнткамі: Сідру з пазыкамі аддаў за Горніцу. Астафей абавязаўся выплаціць за Андрэя заставу за палову Сідры – 400 коп літоўскіх грошаў у троцкага цівуна і гараднічага Андрэя Няпрэцкага[179], аддаць пазыкі: 220 коп – жыду Авраму Гудзічу, 100 – Хацнелу жыду, 40 – Мошку, 30 – Ганускопу, 30 – Мікалаю Камароўскаму, выкупіць людзей ва ўдавы троцкага канюшага Івана Грыньковіча Валовіча і яе сына Івана – 180 коп, Есіфа Халецкага службу людзей – 20 коп. Андрэй быў

яшчэ вінен Астафею 250 коп. Пазыкі, якія ён браў у жонкі Аўдоцці, на Астафея не ўскладаліся. Абмен быў пацверджаны Жыгімонтам Аўгустам (1558)[180].

З даравальных запісаў вядома, што за добрае да сябе стаўленне шляхцянка Таміла Богушаўна запісала Андрэю вена на маёнтку Горніца, якое яна атрымала ад мужа Багдана Чашэйкі (1558)[181]. Андрэй памёр без нашчадкаў, яго маёмасць перайшла да сваякоў.

*Галіна Лукаша Грыньковіча Валовіча*

Лукаш, ?–1552
гарадзенскі ключнік
х удава Юрыя Катовіча
|
Андрэй
гаспадарскі дваранін
х Аўдоцця Кунцэвічаўна

***Марк*** атрымаў ад вялікага князя чатыры пустыя зямлі ў Гарадзенскім павеце (1514)[182]. У 1522 г. ён атрымаў яшчэ дзве пустыя зямлі[183]. У дакуменце Марк згадваецца як гаспадарскі дваранін, пазней ужо – як перстунскі дзяржаўца (1541)[184]. Ён удзельнічаў у пасяджэннях замкавага суда (1541)[185], пры адсутнасці суддзяў вёў судовыя справы ў гарадзенскім земскім судзе (1556, 1557)[186]. У 1523 г. Марк быў вызвалены ад нясення вайсковай службы ў сувязі з хваробай. Гэта пацвердзіў гетман ВКЛ К.Астрожскі. Марку было дазволена адправіць замест сябе слуг[187].

14 чэрвеня 1526 г. атрымаў прывілей на пасаду гарадзенскага харужага. Але гарадзенская шляхта не захацела яго бачыць у гэтай ролі. Па гэтай прычыне 9 снежня 1526 г. харужым стаў Ян Мікалаевіч Талачковіч[188].

М. Валовіч звярнуўся да І. Гарнастая з просьбай перадаць яму манастыр Св. Барыса і Глеба, які ён трымаў пасля смерці ігумена Місайлы. Спрыяў перадачы Астафей Валовіч, на той час маршалак ВКЛ. Жыгімонт Аўгуст выдаў адпаведны ліст (1554). І. Гарнастай аддаў манастыр ў 1554 г. М. Валовіч выгнаў адзінага манаха за сваявольства і паставіў свецкага свяшчэнніка. Праз год (1555) па просьбе Марка, за заслугі роду Валовічаў, была зацверджана перадача пасля смерці Марка яго сыну Сямёну. Адзначалася, што Марк ужо ва ўзросце і згубіў зрок. Яму дазвалялася жыць пры манастыры да канца жыцця[189]. Але пэўны час яшчэ Марк застаўся кіраваць маёмасцю манастыра. Ён падаў скаргу на Андрэя Сіргуцевіча, які трымаў у сябе манастырскага падданага Грышко Мацкевіча Середка з Чашчыцаў (1556). Сіргуцевіч настойваў, што ён гаспадарскі падданы. Аднак калі спраўдзілі рэестры падданых, якія былі складзены падчас уводу ў валоданне манастыром Марка, высветлілася, што Грышко і яго браты былі зафіксаваны ў дакуменце[190].

У Марка былі сыны Юрый, Сямён, Грыгорый, Фрэдэрык і дочкі Паланея, Кацярына і Фядора. *Юрый* выступаў у ролі сведкі ў 1558 г. і быў адзначаны як карэнтагскі староста[191].

*Сямён* трымаў манастыр Св. Барыса і Глеба ў Гародні з 1555 г. да 1568 г. У 1568 г. па прывілею Жыгімонта Аўгуста ён з усімі ўладаннямі (с. Чашчыцы, царква і маёмасць ў ёй) перададзены гарадзенскаму падкаморыю Паўлу Юр'евічу Катовічу. Ён трымаў манастыр да 1580 г. А пасля яго зноў там уладарыў С. Валовіч. У 1591 г. гарадзенскім архімандрытам стаў гарадзенскі падкаморы Багдан Годкінскі. Ён прыняў пострыг і ўзяў імя Клімант[192]. Пры перадачы Б. Годкінскаму Каложскай царквы і манастыра ад падскарбія ВКЛ Дземетрыя Халецкага пасля смерці Сямёна Валовіча была праведзена інвентарызацыя ўладанняў (1591). У ёй адзначалася, што манастыр быў занядбаны пры Валовічы[193]. Аб гэтым жа пісалася ў лісце Д. Халецкага каралеўскаму сакратару Грыгорыю Дзяльніцкаму, што пры папярэднім уладальніку была пракладзена новая дарога праз манастырскую тэрыторыю пад цэрквамі Св. Тройцы і Св. Барыса і Глеба. Гэтым была нанесена шкода пабудовам. Падскарбі ВКЛ загадаў Г. Дзяльніцкаму агледзіць тыя тэрыторыі, аднавіць межы, ліквідаваць новую дарогу, а старую – паправіць[194]. Па гэтым фактам была прызначана камісія, якая аднавіла межы (1593). У Сямёна была дачка Марына, якая выйшла замуж за Грыгорыя Эйсіманта[195].

*Грыгорый* фігураваў у кнігах гарадзенскага земскага суда. Яму быў вінен грошы за нявольніцу Іван Стардубец і абавязаўся выплаціць (1555)[196]. Грыгорый быў апекуном дачкі Андрэя Скіпара – Марыны, выдаў яе замуж за Васіля Андрэевіча Сапоцьку (1556). Марына даручыла яму абараняць яе інтарэсы ў выпадку няслушнага вяноўнага запісу ад мужа. Яна не мела права запісаць вена і заставу мужа на 2/3 маёнтка Ласосна без дазволу апекуна. Іван Багушэвіч Таруса абвінавачваў ракоцінскага, ліпскага, бальскага ўрадніка Грыгорыя Валовіча ў нападзе на маёнтак Мялешкаўскі і нанясенні пабояў яму і яго жонцы Марыне Лявонаўне Кумпеўне (1557). Грыгорый намовіў апошнюю развесціся, а сам яе маёмасць забраў[197].

Грыгорый быў жанаты з Ганнай Багданаўнай Агінскай. Верагодна ён развёўся, каб стаць полацкім архіепіскапам. Памёр у 1562 г.[198]

Ганна падаравала сыну Геранiму пазыку, якую ёй быў вінен Фёдар Валовіч, а таксама спагнанне з яго за нанесеныя шкоды (1579)[199]. З-за гэтай пазыкі Ганна судзілася ў 1571 г.[200] Геранім пасля згадваецца як каралеўскі ротмістр (1582) і гарадзенскі земскі падсудак (1593)[201]. Ён падараваў жонцы Зафеі Богушаўне Бярадзянцы рухомую маёмасць (1582)[202].

У 1583 г. спадчына Грыгорыя, маёнткі Балі і Ліпск, была падзелена паміж сынамі Янам, Аляксандрам, Ярашам. Іх дзядзька Сямён Маркавіч Валовіч за добрае да сябе стаўленне пляменнікаў падараваў ім маёнтак Балю, які атрымаў па бацьку Марку і брату Фрыдэрыку. 2/3 уладання знаходзілася ў заставе ў суме 300 коп у Астафея Валовіча. Але грошай у яго не было на выплату пазыкі (1572). А. Валовіч вызваліў братоў ад выплаты грошай (1584)[203].

Аляксандр падараваў брату Яну частку маёнтка Баля, якую атрымаў

пры падзеле з братамі (1591). Ян памёр у 1591 г. Рэчы і маёнтак Ліпск былі апісаны пасля яго смерці 12 чэрвеня[204].

Аляксандр атрымаў дазвол ад Жыгімонта Вазы заснаваць мястэчка на грунце жонкі Ганны Мікалаўны Ляўдуці у фальварку Заручай і праводзіць там таргі. Яшчэ Жыгімонт Аўгуст дазволіў там мець мястэчка. Гэтым прывілеям было яшчэ атрымана права на пабудову карчмы для гандлю гарэлкай, віном і мёдам дазволены (1589)[205].

Аляксандр, вількамірскі падсудак, разам з жонкай Г. Лаўдуцяй[206] прадаў Гераніму, гарадзенскаму падсудку, маёнтак Баля за 800 коп літоўскіх грошаў (1591), а праз год – 1/3 частку Маркоўскага парому і корчмаў (1592). Геранім і яго жонка Зафея Богушэўна Бардчанка пазычылі 100 коп літоўскіх грошаў пад маёнтак Баля ў Аляксандра Валовіча (1591)[207]. Аляксандр і Геранім канчаткова падзялілі маёнткі Ліпск і Баля ў 1600 г.[208]

*Паланея* стала жонкай Івана Цімафеевіча Жыжэмскага. Муж падараваў ёй за добрае да сябе стаўленне 1/3 маёнткаў Жыжма і Чэрніцы (Лідскі павет). Астатнія часткі гэтых маёнткаў заставіў ёй у 500 коп літоўскіх грошаў. Акрамя таго, муж падараваў Паланеі ўсе рухомыя рэчы (1565). У іх нарадзіліся дзеці Сільвестр, Яраш, Міраслава і Зафея[209]. Апошнюю выдаў замуж Астафей Валовіч за знакамітага дзеяча Рэфармацыі Васіля Цяпінскага[210].

*Кацярына* выйшла замуж за гарадзенскага маршалка і падкаморыя Паўла Юр'евіча Катовіча. Напэўна на іх шлюб быў патрэбны дазвол, бо маці Паўла была замужам за дзядзькам Кацярыны – Лукашам. У Паўла і Кацярыны нарадзілася дзве дачкі – Паланея і Багдана. Першая стала жонкай Крыштафа Ілоўскага, а другая – Льва Масальскага. Так як у іх не было сыноў, то ўся маёмасць Паўла была падзелена паміж дочкамі: маёнткі Свіслач, Русота, Ожа, пляцы ў Гародні (1573)[211].

*Фядора* стала жонкай Васіля Фёдаравіча Быкоўскага. Ён падараваў ёй палову маёнтка Балічы з умовай, што пасля яе смерці маёмасць пераходзіць дзецям (1581). Фядора была ўладальніцай пляца каля Нямецкага Рынку ў Гародні, які прадала Івану Міхайлавічу Жуку[212].

Галіна Марка пайшла далей па сыну Грыгорыю. Яго дзеці займалі пасада ў Вількамірскім і Гарадзенскіх паветах. Кацярына і Фядора былі выдадзены замуж за прадстаўнікоў гарадзенскай шляхты, а Паланея за князя І. Жыжэмскага.

*Галіна Марка Грынськовіча Валовіча*



***Міхайла*** (?–1569) фігураваў у дакументах як гаспадарскі дваранін (1525, 1547, 1555). Ён удзельнічаў у паседжанні гарадзенскага замкавага суда (1539). Яму кампенсаваў шкоды з-за пчол Юрка Барановіч, слуга Войцеха Трэбскага (1540). Бойкі паміж падданымі сталі прычынай канфлікту з братам Лукашам. З-за дакументаў Міхайла скардзіўся на брата Марка (1541). На Міхайлу скардзіўся Марцін Паўлавіч Бяніцкі пра прычыне збіцця і абразаў (1541). На замкавым судзе ён аргументаваў, што не называў яго халопам, але пабіў падчас гульні ў карты, калі той не так здаў[213].

Міхайла падаў скаргу на ліпскага ўрадніка падканцлера ВКЛ Грыгорыя Багданавіча Валовіча – Лясецкага з-за нападу на яго падданых у Бензоўцы (1555). Віж Станіслаў Станчыковіч зрабіў агляд пашкоджаных пабудоў і пабітых падданых. Міхайла абвінавачваўся жыдом Іллёй Ігудзічам па прычыне збору жыта ў Аліжковічах. Маёмасць была аддадзена ў заставу шляхцічу, і ва ўмовах не была агаворана забарона жаць там жыта[214]. Са скаргі Яна Васілевіча вынікала, што Міхайла быў вінаваты ў нападзе на ўласнасць, псаванні межаў. Уладанне Ян набыў у брата Міхайлы – Лукаша і ўжо трымаў больш за 10 год. Прычыны наезду былі незразумелыя (1556). Да таго ж падданы Міхайлы Фёдарэц Рагачовіч падпаліў хлеў Яна Васілевіча ў Понерліцы. Пабудова згарэла разам з жывёлай (1556)[215].

Міхайла пазычыў 30 коп літоўскіх грошаў у Багдана Макаровіча пад заставу Ярашкаўшчыны і пацвердзіў папярэднюю пазыку ў яго бацькі Міхайлы (1566)[216].

Міхайла ажаніўся з дачкой Васіля Варатынца – Ганнай. Аб шлюбе яны змовіліся яшчэ да смерці яе бацькі. На 1525 г. яны знаходзіліся яшчэ ў статусе жаніха і нявесты, бо маці Мар’я звярнулася да вялікага князя з просьбай пацвердзіць заручыны. Пасля шлюбу маёмасць Варатынца пераходзіла Міхайлу, а жанчына заставалася на ўдовінай частцы. Ганна была адзінай дачкой. Таму Міхайла атрымаў дазвол трымаць па цесцю людзей у Пераломскім і Ожскім паветах, а таксама пустыя землі Буцеўшчына і Мацеўшчына (Гарадзенскі павет) у 1547 г.[217]

У сям’і Міхайлы і Ганны нарадзіліся дзеці: Барыс, Крыштаф, Фёдар, Багдан, Іван, Таміла. Дачка выйшла замуж за князя Міхайлу Богушэвіча Масальскага[218]. Калі бацька выдаваў яе замуж, то вылучыў ёй і зяцю 1/5 Свяцка, мацярыстай маёмасці. Ён угаварыў іх саступіць сынам Свяцк і замест гэтага заставіў ім Понерліцу ў суме 500 коп літоўскіх грошаў (1567)[219].

Разам з сынамі Фёдарам, Багданам і Барысам Міхайла саступіў сенажаці, азёры і бортнае дрэва ў маёнтку Балі і Свяцк падканцлеру ВКЛ Астафею Валовічу (1569). Дакумент актыкавалі ў гарадзенскі гродскі суд. Пры пераносе ў земскі суд адзначана, што Міхайла ўжо быў нябожчыкам. У той жа год браты падзялілі паміж сабой маёнткі Свяцк і Балі. Двор у якім жыў бацька, з агародам, ставам, карчмой і царквой Св. Спаса ў Балі, атрымаў Багдан. На частку Івана прыйшлася палова Балі і Ліпска. Ён быў вінен 140 коп

літоўскіх грошаў маршалку ВКЛ, пісару украінскіх замкаў Івану Іванавічу Валовічу. Грошы былі ўзяты на земскую службу. Івана Іванавіч пра пазыку ніколі не нагадваў. Іван Міхайлавіч вырашыў за гэтую суму запісаць 5 валок са сваёй часткі (1569)[220]. Праз год ён прадаў Івану Іванавічу зямлю ў Балі[221].

Пра сыноў захавалася яшчэ іншая інфармацыя. На *Барыса*[222] скардзіўся поп царквы Св. Спаса ў Балі за пабоі і рабаванне рэчаў (1555)[223].

*Крыштаф* (?–1594) спачатку згадваецца як гаспадарскі дваранін, а пазней як гарадзенскі падкаморы, падстолі. Ён разам з жонкай княжной Марынай Богушаўнай Масальскай прадаў за 20 коп літоўскіх грошаў Гераніму Валовічу Мазялевшчыну, якая знаходзілася каля маёнтка Басарабы (Гарадзенскі павет)[224]. Верагодна Крыштаф другі раз ажаніўся з шляхцянкай з роду Друцкіх Сакалінскіх[225]. Памёр у 1594 г.[226]

У Крыштафа было дзве дачкі – Ганна і Паланея. Ганна выйшла замуж за пінскага харужага Канстанціна Фядзюшку. Бацька Ганны прадаў ім зямлю Галоўчыцкую. Паланея выхоўвалася ў Раіны Валовічаўны да яе смерці ў 1591 г.[227] Яна стала жонкай Станіслава Лясоцкага. Разам яны арэндавалі двора і фальварак Масты ў Фёдара Скуміна Тышкевіча, навагарадскага ваяводы і гарадзенскага старосты (1600). С. Лясоцкі быў яго служэбнікам. Дочкі былі адзінымі спадчынніцамі па бацьку. Ганна з мужам выраклася ад маёнтка Баля на карысць Паланеі (1600). У 1601 г. канчаткова падзялілі Ліпск і Понерліцу[228].

*Фёдар* ажаніўся з Паланеяй, дачкой харужага ВКЛ Богуша Міцуты. За ёй атрымаў пасаг 150 коп літоўскіх грошаў, за які запісаў вена з прывенкам 300 коп на 1/3 Свяцка. У выпадку яго смерці браты абавязаны выплаціць грошы. Пад зарукай 400 коп вялікаму князю літоўскаму і абавязкам кампенсаваць наклады Міцуце павінен быў актыкаваць вяноўны запіс на першых земскіх рочках (1569). У суме 400 коп Фёдар заставіў жонцы 2 часткі маёнтка Свяцк[229].

Памёр Фёдар у 1581 г. Пасля сябе ён пакінуў непаўналетніх дзяцей: сына Філона і дачку Раіну. Іх апекуном быў прызначаны цесць Богуш Міцута. Ён павінен быў аддаць сына на вучобу, а дачку выдаць замуж[230]. Тэстамент Фёдара справакаваў судовую справу. Родны брат Барыс прыўласціў права апекі, забраў маёнтак і дзяцей да сябе. Яго дзеянні падтрымалі браты Крыштаф і Іван. Барыс перашкодзіў Фёдару скласці тэстамент у адпаведнасці з заканадаўствам. 16 лістапада 1580 г. ён напісаў яго ў Свяцку. Барыс выняў дакумент з-пад падушкі брата, калі ён быў яшчэ жывы, і не даў паставіць пячаткі сведкам. Гэта было засведчана возным, а таксама, асобамі, якія згадваліся як сведкі. Так як тэстамент быў актыкаваны ў гродскі, а пасля земскі суды, то яго прызналі законным. Апека была прысуджана Міцуце[231]. Апошні ў сваім тэстамеце загадаў сынам Яну і Янушу перадаць рэчы па рээстру Філону і Раіне (1590)[232].

*Іван* фігураваў у дакументах як гаспадарскі дваранін. Ён ажаніўся з Ганнай, дачкой Андрэя Свірскагая, які быў ужо нябожчыкам на той час. Замуж

выдала маці Галена Хацянаўна Шамбелеўна і браты Мікалай, Ян, Аўгуштын і Андрэй. Пасаг Ганны склаў 100 коп літоўскіх грошаў. Вена за яго было прызначана з прывенкам 200 коп на 1/3 маёнтка Баля (Гарадзенскі павет). У вяноўным запісы І. Валовіч абавязаўся актыкаваць дакумент на першых земскі рочках пад зарукай 100 коп вялікаму князю літоўскаму і 100 – Свірскім (1570). У той жа год Іван падараваў жонцы рухомыя рэчы[233].

Міхайла, а пасля яго сыны валодалі Баляй і Свяцкам. Шлюбныя стратэгіі гэтай галіны былі звязаны са шляхтай Гарадзенскага павету.




Троцкі канюшы ***Іван*** атрымаў права ад Жыгімонта Старога выбіраць куніцы з усіх валасцей Жамойці (1527)[234]. Яму быў дадзены лес на пабудову двара каля ракі Сідра, побач з уладаннямі Міхаіла Халецкага і віленскага біскупа Войцеха (1514)[235]. Разам з братам Лукашам ён атрымаў дазвол засыпаць на Сідры ставы і пабудаваць млыны (1524)[236]. Яму была дадзена Угольніцкая пустая зямля ў Конеўскім павеце (1524)[237].

У валоданне Івана перайшла пустая зямля Ганусоўшчына Цівуноўшчына ў Гарадзенскім павеце[238], якой валодаў гарадзенскі плябан Венцлаў, але не плаціў з яе даніны. Плябан перад Жыгімонтам Старым прадставіў справу ў выгодным для сябе свеце і спрабаваў пераканацб аб выплаце даніны. Аднак яго словы не мелі пацверджання. Было прынята рашэнне на карысць Івана, Ганусоўшчына цалкам стала яго ўладаннем, а плябана абавязалі знесці двор (1525)[239]. Справа яшчэ разглядалася ў 1547 г. і была перанесена. У ёй адзначалася, што Іван бясправўна трымае зямлю, якая была дадзена гарадзенскай плябаніі[240].

Праблемы ўзніклі ў Фалімера Дарашковіча пры вяртанні Івану, пазычаных грошай. Апошні адмовіўся іх браць перад замкавым урадам. Аргументаваў тым, што Фалімер браў у яго не перад урадам і аддаваць будзе не перад ім. Дарашковіч падаў скаргу на канюшага, але адказваць перад замкавым судом Іван адмовіўся і ўзяў ліст да вялікага князя (1539)[241].

У судовых справах фігуравалі падданыя і служэбнікі троцкага канюшага. Служэбнік Сенька Міхайлавіч патрабаваў ад гаспадарскіх падданых выплаціць пазыкі (1539).Ураднік Балі Аляксей Іванавіч падаў скаргу на падданых жамойцкага біскупа з Русоты з-за збіццё падданых Валовіча. Адпаведна і тыя паскардзіліся на нанясенне пабояў (1539). Жонка баярына Марка

Матруна падала скаргу на баяр Юргеля і Мацея Васюкевічаў, якія забілі да смерці яе мужа (1540). Служэбнік Шчасны сведчыў, што абмяняў каня на 8 локцяў сукна з жыдом Аўрамам Ігудзічам (1540)[242].

Іван быў жанаты з Філіяй Паўлаўнай. Яе маці Пашкова Марына пакінула ёй і сёстрам мураваны дом у Вільні каля Рынка. Сястра Зафея, жонка віленскага гараднічага Шымкі Мацкавіча, выкупіла за 50 коп літоўскіх грошаў часткі кожнай сястры: у Філіі; Ганны, жонкі Станіслава Якубовіча Скопава; Багумілы, жонкі князя Багдана Дзміравіча Агінскага. З гэтага ж дакумента вядома, што Зафея Паўлаўна купіла пляц у сваячніц, дачок Багдана Онкавіча Дар'і і Ганкі, які знаходзіўся ў Вільні на Вялікай вуліцы насупраць царквы Св. Тройцы[243]. Багдан Онкавіч вядомы падтрымкай выдавецкай дзейнасці Францыска Скарыны[244]. Аб чым сведчаць надпісы на тытульных старонках у выданнях[245]. Калі Зафея прыходзілася яго дочкам сваячніцай, то адпаведна ў такіх жа дачыненнях былі і іншыя сёстры. Але ў якіх ступенях сваяцтва яны знаходзіліся, у дакуменце не адзначана.

На Філію скардзіўся жамойцкі біскуп Венцлаў з-за нападу на яго маёнтак Баля (Гарадзенскі павет), які належаў Фары Вітаўта, і вывазу адтуль рэчаў. Пры вывучэнні абставінаў выявілася, што Філія прыехала з віжам ў двор і наезду не было. Аднак шкоды неабходна было выплаціць (1540)[246]. Новадворскія падданыя абвінавачвалі Філію ў насланні сідранскага ўрадніка Безушку на іх валоданні (1555)[247].

Былі скаргі і ад імя Філіі. Яна абвінаваціла падданых Андрэя Няпэрцкага ў забойстве яе цівуна Каленіка з маёнтка Рагожынец (1555). Філія падала скаргу на падданых Боны Сфорцы за напад на яе воз і службнікаў на дарозе недалёка ад маёнтка Сідра (1556). У тым жа годзе на Філію напалі гаспадарскія падданыя з Сідры, збілі служэбнікаў. Адзін з іх памёр. Яе падданыя былі збіты новадворскімі падданымі, калі ўвечары вярталіся з карчмы (1556). Філія і новадворскі ўраднік Якуб Жэлігоўскі ўзаемна абвінавацілі падданых у нанясенні пабояў, што было засведчана возным (1558)[248]. Шляхцянка скардзіліся на служэбніка Івана Мялешкі Себасцяна Фёдаровіча за забойства і абрабавання падданага Яскі Ранковіча каля мястэчка Кузніца (1559)[249].

Міхайла Макаровіч заставіў маёнтак Рагожынец Філіі за 66 коп грошаў. У гэтай суме яна падаравала трыманне маёнтка сыну Івану, а ён перазаставіў Астафею Валовічу (1556)[250].

У гарадзенскай валочнай памеры адзначалася, Філія была ўладальніцай двара на вул. Залатарскай у Гародні[251]. Яна падаравала дачцэ *Раіне* і зяцю Астафею Міхайлавічу Халецкаму два пляцы ў Гародні. Адзін яна набыла ў гарадзенскага мешчаніна Грышкі Салаўя і яго жонкі Меланні, а другі – ва Ульяны Іваноўны, пападдзі царквы Чэснага Крыжа. Пляцы канцом знаходзіліся да вуліцы Вялікая, якая ішла да Рынку, бокам каля двара мужа, а другім канцом да варот таго ж двара. Пра другі падворак адзначалася, што ён знаходзіўся насупраць Прачысценскай царквы (1567)[252].

Філія яшчэ пры жыцці актыкавала тэстамент у гарадзенскія гродскія кнігі 25 жніўня 1567 г. А 13 лістапада 1570 г. ён быў перанесены ў земскія кнігі. Жанчына прасіла, каб яе пахавалі ў Прачысценскай царкве ў Вільне, дзе знаходзіліся магілы яе бацькоў. На ўспамін душы царкве прызначалася 10 коп літоўскіх грошаў, столькі ж – Св. Тройцы. Сыны былі спадчыннікамі 5 валок у маёнтку Баля, землі ў Сідры, якія былі забраны ў мужа, карчмы пры Ганецкай дарозе, става на рацэ Сідра. На ўсё былі атрыманы прывілеі ад вялікага князя. Дачцэ Раіне, жонцы Астафея Халецкага[253], было падаравана вена ў памеры 300 коп літоўскіх грошаў на маёнтку Сідра, якое Філіі запісаў муж Іван. Сярэбраны кубак, пад які пазычыў маршалак і пісар ВКЛ Ян Шымковіч 30 талераў і 10 чырвоных залатых прызначаўся унучцы Марыне Халецкай. У выпадку вяртання пазычаных грошай, яны ішлі на пасаг[254]. У тэстаменце дачка і яе сям’я фігуруе значна часцей чым сыны[255]. Прасочваюцца даволі блізкія адносіны маці з дачкой.

Вядома, што акрамя дачкі Раіны ў Івана і Філіі былі сыны Беняш (?–да 1582) і Іван (?–1582). *Беняш* судзіўся са сваёй цёткай Зафеяй з-за маёнтка Ожа (1568, 1569)[256]. У дакументах згадваецца як маршалак ЯКМ. Ён быў жанаты з Альжбетай Станіславаўнай Кашчоўнай. Запісаў ёй вена 600 коп на маёнтку Сідры. Дзяцей у шлюбе не было[257]. Маёмасць перайшла дзецям Івана.

*Іван* займаў шэраг пасадаў: маршалак ВКЛ, гарадзенскі маршалак[258], рэвізор і пісар украінскіх замкаў. У 1566 г. у Петрыкаве ён знаходзіўся пры двары Жыгімонта Аўгуста, атрымаў за сваю службу грошы. У дакуменце адзначаны як струкцас[259]. І. Валовіч разам з Іванам Карпам і Іванам Трызнам сустракаў маскоўскае пасольства ў Гародні ў 1567 г. Гэта сустрэча прадстаўлена на гравюры Адэльгаўзера-Цюндта 1567–1568 гг. Іван і Астафей Валовічы ўдзельнічалі ў перамовах. Іван суправаджаў прыкладна вярсту выезд пасольства з Гародні ад пасаду 19 жніўня[260]. Ён прымаў удзел у гарадзенскім з’ездзе 1576 г.[261]

Іван абмяняўся землямі ў Балі з Астафеем Валовічам (1569). У тым жа маёнтку адбыўся абмен з варшаўскім пробашчам, гарадзенскім плябанам, каралеўскім сакратаром і рэферэндатарам Адамам Піліхоўскім (1570)[262]. Іван трымаў у заставе ад крайчага ВКЛ Яна Кішкі вайтоўства Стана Купра ва Упіцкай воласці ў суме 1 700 коп літоўскіх грошаў (1570). Выкуплена яно было ў сына Яраша Валовіча ў 1588 г. Станіславам Кішкам[263]. І. Валовічу заставіў Базыль Дрэвінскі ў Кобрынскім павеце Астрамеча, Быховічы, Закросніцы за 1 000 коп[264].

Іван быў жанаты двойчы. Першай яго жонкай была Марына, дачка гарадзенскага падкаморыя Івана Фёдаравіча Мялешкі і Тамілы Сапоцькаўны. Перад тым як выдаць замуж Марыну за Івана Валовіча яе бацька падараваў будучаму зяцю 1/3 маёнтка Кузніца (Гарадзенскі павет), а палову заставіў у 500 коп літоўскіх грошаў. За пасаг І. Валовіч запісаў на маёнтку Кузніца ёй 1 000 коп літоўскіх грошаў, і на маёнтку Балі 250 коп. У сваім тэстаменце

яе маці Таміла сваё вена 600 коп, якое запісаў ёй муж на маёнтку Горніца, падаравала дочкам Настассі, Кацярыне і Марыне, кожнай па 200 коп. Марына за добрае стаўленне мужа да сябе запісала яму грошы на Кузніцы, Балі і Горніцы (1558)[265]. Маёнтак Кузніца быў прададзены Івану Валовічу за 1 000 коп, Івану Мялешку спатрэбіліся грошы для "гаспадарскіх паслуг" і на іншыя выдаткі. У дакуменце было адзначана, што Кузніца была застаўлена Валовічу, бо не было чым даць пасаг па дачцэ. Застава была аформлена на 500 коп (1567). Продаж быў пацверджаны Жыгімонтам Аўгустам[266].

Паміж Мялешкамі і Валовічамі быў пэўны час канфлікт. Іван Фёдаравіч падаў скаргу на зяця і дачку, што яны пабілі яго жонку Дароту Міклашоўну[267] і забралі рэчы 29 чэрвеня 1558 г. А 12 ліпеня ўжо сведчыў, што нападу не было, абвінавачанне было сфальсіфікаваны з намовы людзей[268].

Другі раз І. Валовіч ажаніўся з Ганнай Копцеўнай (?– пл. 1607). Ён запісаў жонцы вена спачатку на маёнтку Мялешкаўскім 1 200 коп літоўскіх грошаў (1567)[269], а пасля перапісаў на Балі (1571). У гэтым жа годзе І. Валовіч падараваў жонцы рухомыя рэчы[270].

4 красавіка 1580 быў напісаны тэстамент І. Валовіча, а актыкаваны 11 чэрвеня 1582 г. Для непаўналетніх дзяцей былі прызначаны апекуны: канцлер ВКЛ Астафей Валовіч, лідскі падсудак Ян Сіруць, гарадзенскі гараднічы Ян Клюкоўскі. Нерухомая маёмасць прызначалася сынам. А падвор'е ў Гародні на Падоле за царквой Чэснага Крыжа прызначалася сыну Ярашу, бо атрымаў ад яго дзеда Івана Фёдаравіча Мялешкі. Дочкі Ганна, Раіна і Філія пры выдачы замуж павінны атрымаць пасаг кожная па 400 коп літоўскіх грошаў. Вена, 1 200 коп на маёнтку Баля, павінны былі выплаціць сыны жонцы. Пахаваць цела – ў Мялешкаўскім маёнтку, у капліцы, будаўніцтва якой на той момант пачалося, там склеп змураваць. На шпіталь пры Прачысценскай царкве ў Гародні прызначалася 50 коп на ўбогіх. Грошы павінны ісці на закупку дроў, ежу і іншае[271]. Яраш Валовіч у сваім лісце засведчыў, што атрымаў ад мачыхі ўсе паперы, якія прыходзіліся яму па тэстаменту. Таксама было адзначана, што на той момант бацька ўжо быў пахаваны, яго тэстамент быў прачытаны, ён адпавядаў закону – замацаваны пячаткамі і подпісамі (7 чэрвеня 1582 г.)[272].

Ганна Копцеўна ўжо ў 1585 г. была замужам за Львом Сапегам, будучым гарадзенскім земскім суддзёй[273]. У сувязі са шлюбам шляхцянка перадала апеку над маёмасцю да дасягнення паўналецця дзяцей канцлеру ВКЛ Астафею Валовічу і гарадзенскаму старосце Яну Клюкоўскаму, якія былі прызначаны апекунамі ў тэстаменце І. Валовіча. Будучы дарослымі сыны абавязаны выхоўваць сясцёр Раіну і Філію ў Балі, пасля выдаць замуж з пасагам для кожнай 1 000 коп. На той час яшчэ была жыва маці Ганны Марына Сцецковічаўна Заверская, удава па Барысу Копцю. На дзяцей укладаўся абавязак даглядаць яе ў старасці ў выпадку ранейшай смерці Ганны[274].

Шлюб Ганны Барысаўны Копцеўны і Льва Сапегі, віцебскага войскага, быў скасаваны кіеўскім мітрапалітам Анісіфарам Пятровічам Дзевачкам

у Навагарадку. Прычынай стала блізкае сваяцтва. Пры разглядзе справы спасылаліся на правілы Св. Апосталаў. Абодвум было дазволена ўзяць новы шлюб (1588). Аднак у разводным лісце Ганна адзначыла, што яе хвароба справакавала праблемы і спрэчкі, якія давялі да разводу. У дакуменце жанчына вызваляла Сапегу ад шлюбу, адзначала, што ні яна, ні іх дзеці не будуць турбаваць віцебскага войскага пад зарукай 2 000 коп літоўскіх грошаў (1588)[275].

Праз сына Андрэя Ганна Копцеўна заставіла сяло Баршчова маёнтка Харошчскага ў 500 коп Венцлаву Уданоўскаму (1592)[276]. Свой тэстамент яна склала ў 1607 г.[277]

Альжбета Станіславаўна Кошчаўна, жонка Беняша Валовіча маршалка ЯКМ, перадала дзецям Івана Іванавіча маёнтак Сідра. Беняш Валовіч перад смерцю за добрае стаўленне запісаў ёй 600 коп літоўскіх грошаў на ім з умовай, што яна перадасць яго пляменнікам праз год і 6 тыдняў. Пры спрыянні апекуна Астафея Валовіча Альжбета атрымала ад Яраша 120 коп, а ад Ганны Валовічавай за іншых сыноў – 480 коп (1583)[278].

У першым шлюбе нарадзіўся сын Яраш (?–1643), а Астафей (1572–1630), Павел (?–1630), Андрэй (?–кл.1614) – у другім. Акрамя сыноў было тры дачкі Ганна, Раіна і Філія. Адна з дзяўчын выйшла замуж у 1591 г.[279]

Першы шлюб *Раіны* (?–1631) быў з падляшскім харужым Паўлам Лявіцкім. У іх была дачка Зафея і сын Станіслаў[280]. Раіна другі раз выйшла замуж за Астафея Курча, які фундаваў францысканскі кляштар у Гародні[281]. Яна памерла ў 1631 г. Ёй прысвяціў казанне Марэк Карона, якое было прамоўлены ў бернардзінскім касцёле ў Гародні. У ім было адзначана рэлігійнасць жанчыны[282].

*Філія* стала жонкай Фёдара Пятровіча Кердзея. Так як у іх не было дзяцей, то яны адпісалі маёнтак Радзівонаўшчына ў Гарадзенскім павеце на Дзяніса Паўлавіча Ясанавіцкага і яго жонку Ганну Хойніцкую (1573)[283]. Другім мужам Філіі быў Сасін Пуцята[284]. Трэці шлюб быў заключаны з Ваўжынцам Рудамінам. У іх нарадзілася дачка Ганна і сын Станіслаў[285]. Апошні шлюб быў з ломжыцкім старостам Францішкам Нікадэмам Касакоўскім. У іх было трое дзяцей: Альжбета, Зафея і Ян Астафей[286].

Усе сыны гарадзенскага маршалка змянілі веравызнанне і сталі каталікамі[287]. Валовічы валодалі цудатворным абразам Маці Божай Студэнцкай, які зараз знаходзіцца ў касцёле Св. Францыска Ксаверыя ў Гародні[288]. Андрэй, Астафей і Яраш былі службе ў Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі[289], што дало магчымасць зрабіць добрую палітычную кар'еру.

У 1593–1594 гг. *Яраш (Геранім)* здзейсніў вандроўку ў Італію. Быў у Падве, Венецыі, Рыме, наведаў святыя мясціны[290]. Яраш быў сярод тых, хто суправаджаў Жыгімонта Вазу ў вандроўцы ў Швецыю (1598)[291], якую характарызаваў як небяспечную для жыцця і здароўя[292].

Яраш вызначыўся актыўнай грамадскай, палітычнай і рэлігійнай дзейнасцю: выдаткоўваў грошы на патрэбы Айчыны, засноўваў касцёлы і новат, пабудаваў мост праз Нёман[293]. Пасля смерці Марціна Ставінскага ён атрымаў прывілей на магілёўскае вайтоўства 20 кастрычніка 1594 г.[294], пазней пасля смерці кундзінскага дзяржаўцы Войцеха Бесенірскага на двор Кундзін (1596)[295].

Кар'ера Яраша была яскравай: віцебскі кашталян, пісар ВКЛ (1589)[296], надворны падскарбі (1600)[297], паюрскі цівун (1600), падскарбі ВКЛ (1606), падканцлер ВКЛ (1618), жамойцкі староста (1619)[298]. З ліставання Яраша вынікае, што дзяржаўная дзейнасць займала ў яго значную частку жыцця. Ён сачыў за зборам падаткаў, кантраляваў сітуацыю ў Жамойцкім старостве. Уся неабходная інфармацыя, копіі дакументаў адпраўляліся Радзівілам[299].

Яраш дбаў пра сваё асяроддзя. Дзякуючы яго спрыянню пасады атрымалі пісар скарбу ВКЛ Юзэф Кланоўскі, Станіслаў Раманавіч Бейнарт (1618), а Павел Сжэдзінскі, скарбовы слуга, – юргель на 100 злотых[300].

У 1599 г. Жыгімонт Ваза даў Ярашу прывілей на пабудову гуты для вырабу шкла ў Гародні. Было загадана навагарадскаму ваяводзе Фёдару Скуміну Тышкевічу вылучыць пляц у добрым месцу, каля вады[301].

Жамойцкі староста меў нерухомую маёмасць у Гародні[302]. Рагачэўскі староста Раман Валовіч падраваў Ярашу Валовічу сваю частку дома на Падоле, які знаходзіўся на вул. Маставая (1591)[303].

Да Яраша звярнуліся манахі Каложскага гарадзенскага манастыра са скаргай на бернардзінцаў аб забранні грунтоў і цагельні, якая здаўна належала манастыру. Падскарбі ВКЛ напісаў ліст рэвізорам Гарадзенскага павета – гарадзенскаму земскаму пісару Стэфану Няшкоўскаму і Юрыю Сцыпіёну Кампа, каб яны высветлілі сітуацыю. Такі ж ліст быў накіраваны Ф. Тышкевічу. Разгляд справы быў адтэрмінаваны. Тышкевіч звярнуся да Валовіча з просьбай перанесці яе на іншы тэрмін па прычыне знаходжання ў Вільні (1611)[304]. Справа не была вырашана, бо па ініцыятыве архімандрыта К. Годкінскага быў накіраваны ліст Жыгімонта Вазы Я. Валовічу і Ф. Тышкевічу для канчатковага выраку (1615)[305].

Нунцый Польшчы Ганорыя Вісконці характарызаваў Яраша як шчырага каталіка (1636)[306]. Аб гэтым сведчыць яго дабрачынная дзейнасць. Фундатарскі партрэт жамойцкага старосты захаваўся ў касцёле Панны Марыі ў Цітавянах (Жамойцкае староства)[307]. Яраш прызначыў грошы на будаванне бернардзінскага касцёла ў Гародні[308]. Пабудаваў у сваім маёнтку Залессе касцёл і зрабіў яго цэнтрам парафіі. Па просьбе сваёй жонкі Гальшкі Гаслаўскай і дачкі Тэклі і са згоды брата віленскага біскупа Астафея Валовіча і дазволу Жыгімонта Вазы ён перанёс свой фундуш Залескай плябаніі гарадзенскім бернардзінкам маёнтак Залессе з 24 падданымі для ўтрымання свецкага ксяндза ці ксяндза-манаха (1618). Ён павінен быў адпраўляць імшы за фундатараў у два разы ў тыдзень, а за парафіян – кожны тыдзень і па свя-

там. Бернардынкі павінны былі прымаць без пасагу да сябе ў кляштар тых паненак, якія мелі рэкамендацыю фундатараў[309].

Фундацыйны запіс Прачысценскай царкве ў Гародні быў зроблены Я. Валовічам, дзе была пахавана маці Марыны Мялешкаўны (прытворы, перад парогам у вялікіх царкоўных варот). Ён падараваў пляцы з пабудовамі, дзе жыло 16 мяшчан, а пасля эпідэміі 4 ці 5 з іх памерла. Яны знаходзіліся за царквой Св. Крыжа (Чэснахрэсцкая) над Нёманам на Падоле ў Гародні. Раней яны былі падараваны бернардынцам яго дзедам па мацярынскай лініі гарадзенскім падкаморыям Іванам Мялешкам. Але ім нельга трымаць нерухомасць, таму Я. Валовіч выкупіў пляцы. Умовай фундацыі стала абедня ці літургія што тыдзень за ўспамін душы М. Мялешкаўны (1626)[310].

У дакументах Яраш фігураваў як сіндык бернардзінскіх кляштараў. Так, ад яго імя выступаў Мікалай Кандзіда Вішнявецкі ў справе супраць Фёдара Юрэвіча, гарадзенскага лаўніка аб адданні бернардзінцам 15 злотых за 3 гады (1637–1639) з паловы дому паводле фундацыі нябожчыкаў Мікалая Ціска і яго жонкі Кацярыны жонкі, гарадзенскіх мяшчан (1639)[311].

Яраш быў жанаты двойчы. Першай яго жонкай стала дачка саноцкага кашталяна Яна Гербурта[312] – Барбара. Яна ў хуткім часе памерла, пасля таго як нарадзілася сына. Ён пражыў толькі 18 месяцаў пасля смерці маці[313].

Другі раз[314] Яраш ажаніўся з каталічкай Гальшкай Гаслаўскай (?–1635)[315]. Яна паходзіла з роду Гаслаўскіх, якія пражывалі ў Кракаўскім ваяводстве[316]. Першы раз шляхцянка выйшла замуж за Мацея Войну (?–1606), сына надворнага падскарбія ВКЛ Лаўрына (?–1580) і княжны Друцкай. Мацей займаў шэраг пасадаў: пісар ВКЛ, надворны падскарбі ВКЛ, усвяцкі, паюрскі, горздаўскі староста. У іх сям'і нарадзіліся тры сыны: жамойцкі харужы, паюрскі староста, каралеўскі ротмістр Міхаіл (?–1634), кухмістр ВКЛ, палангоўскі староста, гандынскі цівун, каралеўскі пакаёвы Станіслаў (?–1649), горздаўскі староста, узвенскі цівун Уладзіслаў (?–пасля 1649) і дзве дачкі: Кацярына, муж – неманойцкі староста Казімір Сапега, і Ядвіга Ганна, муж – харужы ВКЛ, менскі і берасцейскі ваявода, віленскі кашталян Мікалай Сапега[317] (каля 1581–1644)[318]. З штодзённага жыцця Г. Гаслаўскай захаваліся яе прыватныя дакументы: квіты ураднікаў і служкаў, лісты, рэестры лекаў. Большасць прадстаўленых дакументаў была складзена ў маёнтку і мястэчку Высокае (Камянецкі павет, Берасцейскае ваяводства)[319]. Біяграфічныя звесткі з жыцця шляхцянкі, апісанне яе апошніх дзён утрымліваюцца ў казанні на смерць[320].

У Яраша і Гальшкі нарадзілася двое дзяцей. Сын Станіслаў памёр у маладым узросце, а дачка Тэкля выйшла замуж за сына Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі, маршалка ВКЛ Аляксандра Людвіка (1594–1654)[321]. Вяселле адбылося 10 мая 1626 г. у Гародні[322]. На іх вяселлі аддаваў Тэклю жаніху маршалак ВКЛ Крыштаф Весялоўскі[323].



*Партрэт Тэклі Валовічаўны, дачкі Я. Валовіча*

Тэкля склала свой тэстамент у 1637 г. Шляхцянка прасіла, каб яе цела пахавалі ў Бельскім касцёле каля сына Юрасенькі. Яна запісала грошы розным касцёлам на ўспамін сваёй душы, а сваю маёмасць размеркавала паміж мужам і дзецьмі[324]. Яе партрэт ёсць у галерэі Радзівілаў[325]. Яраш вельмі моцна перажываў смерць адзінай дачкі. Пад старасць ён пакутаваў ад хваробаў, што адзначаў у сваіх лістах (1637, 1640)[326].

*Астафей* (1572–1629) зрабіў кар'еру як каталіцкі дзеяч, дасягнуўшы пасады віленскага біскупа. Захавалася шэраг партрэтаў А. Валовіча: адзін за XVII ст. аўтар невядомы знаходзіцца ў Мастацкім музеі Летувы; другі, аўтарства Лукаша Каліны (1579–1637), – у Нацыянальным музеі ў Варшаве, трэці – у яго панегірыку на яго смерць[327].

Астафей вывучаў тэалагічныя навукі ў Рыме, вучыўся ў Нямеччыне, вучыўся ў кардынала Юрыя Радзівіла[328]. Ведаў старабеларускую мову. Як пісар і рэферэндатар быў пры канцэлярыі ВКЛ. Меў мастацкія здольнасці. На прывілеі 1611 г. для Віленскага Свята-Троцкага манастыра вельмі прыгожа намаляваны загалоўныя літары, а таксама ёсць яго ўласны подпіс[329]. З перапіскі віленскага біскупа вынікае, што Астафей займаўся не толькі рэлігійнымі справамі, але меў дачыненне да міжнароднай і ўнутранай палітыкі ВКЛ. Ён кантактаваў са сваімі братамі па сямейным і дзяржаўным справам[330].

Пры Астафеі значна ўзмацніўся каталіцкі касцёл у ВКЛ. Астафей заснаваў капліцу пры кафедральным касцёле, якая стала назвацца Валовічаўская, шпіталі ў Вільні, з свой кошт набыў начынне для касцёла Св. Станілава ў Вільні і рабіў іншыя фундацыі. Дзякуючы яму ў Вільню было за-

прошана шэраг манаскіх законаў. Астафей перадаў шмат кніг для Віленскай езуіцкай акадэміі. На думку Якуба Альшэўскага Астафей быў сапраўдным біскупам, які дбаў пра царкву. Ён валодаў дарам красамоўства, быў шчырым у сваіх малітвах, вельмі рэлігійным. У вялікі чацвер мыў ногі ўбогім, кожны тыдзень цела ў ланцугах трымаў[331].

Аб выкананні функцый біскупа Астафеем Валовічам сведчаць розныя дакументы. Напрыклад, наданне прыпазітуры капітулы кафедральнай віленскай віленскаму і геранёнскаму пробашчу, рэферэндару ВКЛ Станіславу Кішцы пасля смерці Марціна Кладзінскага (1616). У гэтым жа годзе ён дазволіў яму праводзіць прыватныя імшы ў новым доме на Антоклі ў Вільні[332].

Астафей кансэкраваў 13 мая 1618 г. бернардзінскі касцёл у Гародна. Аб гэтай падзеі сведчыць мармуровая пліта ў касцёле з выявай герба А. Валовіча[333].

A.M. D. O. M. G.
Anno Salutis MDCXVIII
DIE XIII MENSIS MAII
TEMPLUM HOC SvB TITuLO INVENTIONIS
SANCTaE CRUCIS ERECTUM UNACuM ALTaRi
MAIORI ILLuSTrISSIMUS AC REVERENDISImus
DOMINUS EuSTaCHIUS WOLLoWICZ DEI Et
APOSTOLICaE SEDIS GRATIA EPISCOPUS VIL
NENSIS PROTECToR AC PATRONUS ORD[um]
FR[atr]UM MIN[orum] DE OBS[ervantia] CONSECRAVIT
ANNIVERSARIA DEDICATiONIS DIES INCIDIT IN
DOMINICAM QUARTAM PoS[t]-PaSCHA INQUA
VISITaNTIBUS TeMPLUM HOC ILLUSTriSSiMUS
CONCESSIt INDULGENTiARUM DIES XXXX

*Год асвяшчэння 1618/ 13 дня месяц май/ гэты касцёл. Бога і апосталаў месца знаходжання, пад назвай Адшукання/ Святога крыжа асвяціў разам з алтаром/ галоўным найвялікшы і найсвяцейшы/ пан Астафей Валовіч, біскуп/ Віленскі, фундатар і ахоўнік ордэну/ братоў меншых / штогод дзень асвяшчэння касцёлу прыпадае на/ чацвёртую нядзелю пасля Вялікдню, у якую/ вернікам гэтага касцёла найсвяцейшы/ дараваў выбачэнне грахоў[334].*

А. Валовіч як троцкі пробашч прызначыў Бездзецкай уніяцкай царкве 3 валокі грунты, якія былі прызначаны царкве яшчэ ад продкаў Астафея. Загадвалася наступным пробашчам не парушаць прывілей (1622)[335]. У 1627 г. выйграў судовы працэс з гетманам ВКЛ Крыштафам Радзівілам: мураваны храм у Кейданах быў перададзены віленскаму біскупству[336].

Андрэй і Яраш Валовічы падаравалі брату ў 1610 і 1612 гг. свае часткі двара з карчмой, пабудовамі і агародамі у Гародні на Падоле, якія атрымалі пры

падзеле бацькоўскай маёмасці. Двор знаходзіўся на вуліцы, якая ішла з Рынку да Мосту, каля дому цырульніка Каспара Княбоўскага, насупраць двара Яраша з аднаго боку, а з другога – насупраць двара Крыштафа Ілоўскага, і двара Масальскіх[337]. У 1629 г. А. Валовіч памяняўся землямі ў маёнтку Майшаголі з віленскімі езуітамі. Былі складзены рэестры ўладанняў і графічная схема[338].



***Партрэт віленскага біскупа А. Валовіча з Olszewski J. Kazanie na pogrzebie prześwietego y przewielebnego w Chrystu sie Oyca y Pana IMX Eustachego Wołłowicza Biskupa Wileńskiego, Primasa WKL. Wilna, 1630.***

Астафей рыхтаваўся да сканчэння свайго жыцця. Для яго стала знакам смерць спаведніка Андрэя Новака. За некалькі дзён да смерці прасіў вынесці на ганак, каб паразмаўляць са слугамі[339]. Паводле Супрасльскага памяніка біскуп памёр у 1629 г.[340] Пахаваны біскуп быў у Валовічаўскай капліцы 7 лютага 1630 г.[341], дзе склеп быў прыгатаваны зарання. Пліта там захавалася да сённяшняга дня. Яго браты Яраш і Павел, якія атрымалі розныя рэчы ў спадчыну, падаравалі іх кафедральнаму касцёлу[342].

*Андрэй* займаў наступныя пасады: жамойцкі падстароста, земскі суддзя, платэльскі староста, дэрвянскі цівун. Ён быў прызначаны камісарам па межам паміж Жамойціяй і Курляндыяй, паміж Жамойціяй і Прусамі (1613). Андрэй вылучыўся вайсковай дзейнасцю, быў таленавітым і мужным кіраўніком, сам вадзіў войскі на Інфлянты[343]. Разам з братм Яраша фундаваў бернардзінскі касцёл у Цітавянах, дзе знаходзіцца яго фундатарскі партрэт[344].

Андрэя выклікалі ў Трыбунал ВКЛ берасцейскі ваявода Крыштаф Зяновіч з жонкай Фядорай Валовічаўнай і мсціслаўскі ваявода Андрэй Іванавіч Сапега з жонкай Зафеяй Міхайлаўнай Вішнявецкай (1609)[345].

Андрэй пасля падзелу маёмасці па бацьку і дзядзьку Беняшу Валовічу з братамі атрымаў частку Сідру, якая называлася Стары двор. Ён прадаў яе Паўлу за 6 709 коп літоўскіх грошаў (1597)[346].

Гэтая лінія Валовічаў пайшла па *Паўлу* (?–1630), гарадзенскаму падкаморыю (1600)[347] і старосце (1615) і падскарбію ВКЛ (1619)[348]. Ён быў паслом ад Гарадзенскага павета на варшаўскі сойм у 1590–1591 гг.[349] Быў у складзе пасольства ў Рым да Папы ў 1598 г.[350] Павел быў прызначаны

камісарам па межам паміж Жамойціяй і Прусамі (1613)[351]. Падкаморы правёў валочную памеру ў вёсцы Грушца Пераломскага лясніцтва Пераломскай дзяржавы, якая была ім заселена (1604)[352]. За паслугі перад айчынай Павел атрымаў у пажыццёвае карыстанне сёлы Хвастовічы, Лучычы і Хвойна ў Мазырскім павеце (1606)[353]. Быў абраны паслом ад Гарадзенскага павету ў 1608, 1619 гг. Падтрымліваў у палітычным жыцці контррэфармацыйны рух[354].

Павел быў жанаты з Зафеяй Хадкевічаўнай, дачкой віленскага кашталяна Гераніма Хадкевіча і Багданы Палубінскай. Павел і Зафея далі квіт бацьку Г. Хадкевічу аб атрыманні пасагу з айчыстых і мацярыстых маёнткаў (1604)[355]. П. Валовіч засведчыў, што атрымаў ад навагарадскага кашталяна Аляксандра Палубінскага дакументы на маёнтак Перевалока, які заставіў яму Раман Валовіч у 3 300 коп літоўскіх грошаў. За гэта ён абавязаўся вярнуць і скасаваць яго запіс жонцы Зафеі Хадкевічаўне, якая прыходзілася ўнучкай А. Палубінскаму на 10 000 злотых (1604)[356].

Аб кантактах гарадзенскага падкаморыя з Радзівіламі сведчыць перапіска. Так, у лісце да Лавінні Карэцкай ён пісаў, што не змог прыехаць на пахаванне яе мужа Яна Альбрэхта Радзівіла па прычыне сваёй працяглай хваробы (1626)[357].

У 1605 г. Павел Валовіч атрымаў у падарунак ад лідскага падкаморыя Аляксандра Палубенскага ўваходы ў Перстуньскую пушчу Дуляны. Ён іх па падараваў брату Івану Іванавічу Валовічу ў 1609 г.[358].

У сям’і Паўла Валовіча і Зафеі Хадкевічаўны нарадзіўся сын Астафей Казімір. Ён быў адзіным нашчадкам мужчынскага полу, што прымусіла зрабіць сумеснае распараджэнне аб маёмасці на выпадак яго смерці. Апекунамі прызначаліся дзядзькі Астафей і Яраш Валовічы, а калі яны памруць, то канюшы ВКЛ Крыштаф Хадкевіч. Спадчына Астафея размяркоўвалася наступным чынам. Маёнткі ў Гарадзенскім павеце – Андрэева, Сідра, Мялешкава адыходзілі гарадзенскім езуітам. Яны прызначаліся на навуку для 5 студэнтаў з дому Валовічаў ці Хадкевічаў. А калі такіх не будзе, тады па 100 коп літоўскіх грошаў пяці бедным шляхцічам. 25 000 злотых, якія былі запісаны Зафеі на платэльскай дзяржаве, ішлі на жаночы кляштар бернардзінак у Гародні. На гэтыя грошы павінны былі набыць маёмасць і прымаць штогод без пасагу па тры манашкі з дамоў Валовічаў ці Хадкевічаў. На кожную – па 200 коп. А калі нікога не знойдзецца, то грошы прызначаюцца для трох паненак з беднай шляхты. Сума на Уцяне, 20 000 злотых, ахвяравалася на капліцу Св. Панны ў Вільне ў кафедральным касцёле (1626)[359]. Сын дажыў да паўналецця і фундацыі былі не запатрабаваны. З 1622 г. Астафей быў на службе ў гетмана польнага ВКЛ Крыштафа Радзівіла[360]. Яшчэ да гэтага запісу П. Валовіч вылучыў грошы на будаванне бернардзінскага касцёла ў Гародні[361].

*Астафей Казімір* займаў пасады падстолія (1656) і стольніка (1658) ВКЛ[362]. У канцы 1645 г. ён змовіў Барбару Сапежанку. Вяселле прызначалася на апошнія тры дні перад вялікім пастом у 1646 г. Месцам праведзення была абрана Вільня. Сярод запрошаных гасцей быў маршалак ВКЛ Альбрэхт Станіслаў Радзівіл з жонкай[363]. На іх вяселле быў напісаны панегірык Уладзіславам Геройцям[364].

У 1655 г. Астафей Казімір патрапіў у маскоўскі палон і прыняў прысягу на вернасць цару[365], але пазней выйшаў на волю. Свой тэстамент склаў у вайсковым абозе пад Вільняй 20 кастрычніка 1658 г., а памёр ён у канцы лістапада, бо 1 снежня тэстамент быў актыкаваны ў кнігі ваўкавыскага гродскага суда[366]. Як каталік прасіў жонку Барбару Сапежанку, каб яна пахавала яго цела ў Валовічаўскай капліцы пры кафедральным касцёле ў Вільні[367], якая была фундавана яго дзядзькам віленскім біскупам Астафеем Валовічам. А таксама Барбара павінна была штогод выплачваць грошы касцёлам у Вільні і Гародні. Жонка прызначалася асноўным апекуном дзецям і маёмасці. Дапамагаць жонцы ў апякунскай справе А.Валовіч папрасіў караля Рэчы Паспалітай Яна Казіміра, віленскага ваяводу і гетмана ВКЛ Паўла Сапегу (?–1665), жамойцкага старосту Юрыя Глябовіча (?–1669), канцлера ВКЛ Крыштафа Паца (?–1684), падканцлера ВКЛ Аляксандра Нарушэвіча (?–1668), польнага пісара ВКЛ Аляксандра Гілары Палубенскага (?–1679). У дакуменце згаданы дзеці: Ян Павел (15.09.1649–?), Аляксандр Геранім (04.06.1653–?), Ганна і Тэкля. У спадчыну дзецям засталіся маёнткі ў Гарадзенскім павеце: Паўловічы, Балі, Галынка; камяніцы ў Вільні, пляцы Гародні[368].

Пасля смерці мужа Барбара на Гальшанах Сапежанка Валовічава стольнікава ВКЛ (?–да 1676) выступала ў дакументах самастойна. Яна падала скаргу на капітана Якуба Унароўскага, які зруйнаваў яе камяніцу ў Вільні (1660)[369]. Свяшчэнніку Гальшанскай царквы Нараджэння Панны Марыі, якая знаходзілася каля Рынку ў Альшанах, Міхалу Кэчатовічу Барбар прызначыла пляц гальшанскага мешчаніна Мікалая Кумпецкага на 15 прутоў і палову валокі Івана Аноскавіча. Землі былі каля царквы (1665)[370].

Вядомы факт цудоўнага вылячэння Барбары. Калі яна хварэла на ліхаманку, то звярнулася да цудатворнага абраза Маці Божай Студэнцкай у Гародні ў 1662 г. Гэта адлюстравалася на лаве ў капліцы[371]. У гэтым жа годзе яе капелан, францысканін Максім Рабенскі звярнуўся за дапамогай да абраза Маці Божай Ружанастоцкай[372].

Барбара выплаціла пазыку 6 000 злотых Аляксандру Білевічу жамойцкаму стольніку і яго жонцы Уршулі Кульмінскай (1668)[373]. Падчас вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1654–1667 гг. з уладанняў Барбары Багданава (Ашмянскі павет) зышоў падданы Марцін Дудчэнко ці Слабодзенка ў Граўжышкі (Ашмянскі павет), якія належалі Зафеі Храпавіцкай. У 1665 г. Зафея вярнула падданага, што засведчыла Б. Сапежанка асобным лістом[374].

[348] Lulewicz H., Rachuba A. Urzędnicy centralni i dostojnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. S. 250.

[349] Ліст Я.Валовіча М.К. Радзівілу, 3.04. 1591 г. AGAD. AR, dz. V, sygn. 17966/I, k. 42. У гістарыяграфіі факт прадстаўніцтва Паўла Валовіча ад Гарадзенскага павету невядомы. Галубовіч В. Соймік Гарадзенскага павета ў XVI–XVI стст. // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV–XX стст. / Пад рэд. А.Ф.Смаленчука, Н.У.Сліж. Горадня, 2009. С. 167. Падалінскі У. Павятовая палітычная эліта. С. 180.

[350] AGAD. AR, dz. V, sygn. 17957.

[351] Niesiecki K. Herbasz polski. T. IX. Lipsk, 1842. S. 418.

[352] НГАБ. Ф. 1761, воп. 1, адз.з. 1, арк. 61адв.–63.

[353] LVIA. F. 1519, b. 85, l. 450–451.

[354] Kempa T. Wobec kontrreformacji. S. 250, 311.

[355] НГАБ. Ф.1755, воп.1, адз.з. 19, арк. 44 адв.–46 адв.

[356] AGAD. AR, dz. X, sygn. 21, k. 4–5.

[357] Ліст Паўла Валовіча да Л. Карэцкай, 29.05. 1626 г. AGAD. AR, dz. V, sygn. 17985, k.5–6.

[358] НГАБ. Ф. 1755, воп.1, адз.з. 20, арк.190–191.

[359] НГАБ. Ф. 1755, воп.1, адз.з. 31, арк. 162–164.

[360] Ліст Астафея Валовіча К. Радзівілу, 1.05.1622 г. AGAD. AR, dz. V, sygn. 17961/I, k. 152.

[361] Kuty D. Etapy budowania pobernardyńskiego kościoła w Grodnie. S. 399.

[362] Lulewicz H., Rachuba A. Urzędnicy centralni i dostojnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego. S. 250.

[363] Інфармацыя вынікае з ліста А. Валовіча А. Радзівілу ад 21.12. 1645 г. AGAD. AR, dz. V, sygn. 17960, k. 1.

[364] Giedroic V. Maiestas pompae nuptailis inter nuptialis Eustachii Casimiri Wollowicz, Untenen[sis], Plotelen[sis] etc. capitanei et Barbarae Sapieżanka, capitaneidis Nemonoice[sis], stylo adumrata et e publico Academiae voto isdem sponsis a Vilnae, 1646; Liškevičenė J. XVI-XVIII knygų grafika: herbai senuosiuose lietuvos spadinoiose. Vilnaus, 1998. P. 75.

[365] Памятники истории Восточной Европы. Т. IV. Крестоприводная книга шляхты Великого княжества Литовского 1655 г. Москва; Варшава, 1999. С. 88.

[366] АВАК. Т. 1. Вильна, 1865. С. 131–135.

[367] Капліца мела важнае значэнне для А. Валовіча. Аб гэтым ён пісаў у лісце да крайчага ВКЛ Мікалаю Казіміру Радзівілу, 6.10.1654 г. AGAD. AR, dz. V, sygn. 17960, k.3.

[368] НГАБ. Ф.1755, воп.1, адз.з. 44, арк.180–198.

[369] VUMBRS, f. 7-3/5957, l. 248–248v.

[370] LMABRS, f. 264-40.

[371] Sumariusz cudow i łask znakomitszych... S. 62; Сьліж Н. Лава ў капліцы Маці Божай Студэнцкай у фарным касьцёле Гародні // Arche. Другая Гародня. 2010. № 1, 2. С. 76, 87–88.

[372] Cudowny Obraz Bogorodzicy w Różanymstoku. Wilno, 1857. S. 58.

[373] LVIA. SA, b. 7, l. 1318–1321v.

[374] LMABRS, f. 273-2568.

[375] Uruski S. Rodzina. T. 7. Warszawa, 1910. S. 112.

[376] Uruski S. Rodzina. T. 8. Warszawa, 1911. S. 200; Wolff J. Pacowie. S. 203–209.

[377] LVIA. F. 1177, ap. 1, b. 2636, 4529.

[378] Męgolin M. Kres strzał Wołłowiczowskich Zięmią y Niebem ograniczony; przy szczęsliwym na Starostwo Żmudzkie IW Imsci P. Piotra Michała Paca. Wilna, 1685.

***Дзмітры Віцько,***
***кандыдат гіст. навук (Мінск)***

# Да пытання пра палітычную арыентацыю Катовічаў у канцы XVII ст.

У канцы XVII – пачатку XVIII адным з найбольш уплывовых родаў у Гарадзенскім павеце былі Катовічы. У гэтым няцяжка пераканацца, мяркуючы ўжо па тым, якія ўрады займалі два асноўныя прадстаўнікі гэтага роду. Так, Ян Францішак Катовіч з 1676 да 1704 гг. (а фактычна да 1706 г.) з'яўляўся гарадзенскім судовым старостам, пераняўшы гэты ўрад ад бацькі, Андрэя Францішка, віленскага кашталяна з 1672 г. (памёр у 1682 г.)[1]. Другі ўплывовы прадстаўнік, Грыгорый Юзаф Катовіч, займаў урады гарадзенскага судовага падстаросты (прынамсі з 1698 г.) і адначасова, з 1699 г., гарадзенскага харужага – абодва да павышэння на старосту ў 1706 г., якім і з'яўляўся да сваёй смерці ў 1724 г. (з 1710 г. – таксама лоўчы ВКЛ, хаця з урадам спарадычна выступае з 1706 г.)[2]. Быў сынам Пятра Катовіча, брата Андрэя Францішка[3].

У літаратуры прысутнічае думка, што Катовічы ўмацаваліся ў канцы XVII ст. дзякуючы палітыцы Яна III Сабескага, скіраванай на падтрымку родаў, якія не адыгрывалі раней вялікай ролі, з мэтай падарваць гегемонію Сапегаў, што прывяло ўжо пасля смерці караля да паўстання групоўкі рэспубліканцаў[4]. Намі выказвалася меркаванне, што Катовічы сталі яе лідэрамі ў Гарадзенскім павеце[5]. Ніжэй паспрабуем гэтыя меркаванні крыху ўдакладніць. Пры Яне III, ужо пасля прыходу да ўлады ў ВКЛ Сапегаў, працягвалі кар'еру і дасягнулі яе вяршынь, але выключна ў касцёльнай сферы, двое прадстаўнікоў роду: Аляксандр Катовіч, віленскі біскуп з 1684/85 г., і яго брат Яўстахій Станіслаў Катовіч, біскуп смаленскі з 1687/88 г.[6] (абодва – сыны Яна Казіміра Катовіча, аршанскага стольніка і гарадзенскага падстаросты ў 1671–1692 гг., брата Андрэя Францішка)[7]. Сказанае вышэй, відавочна, не датычыць прадстаўнікоў роду, якія працягвалі дзейнічаць у Гарадзенскім павеце, паколькі высокія ўрады яны атрымалі або ўвогуле яшчэ да Яна III, як Андрэй Францішак, або яшчэ да ўстанаўлення гегемоніі Сапегаў у ВКЛ, якое адбылося ў 80-х гг. XVII ст. (а г.зн., наўрад ці насуперак ім), як староста Ян Францішак, або ўжо пасля смерці Яна III, як Грыгорый Юзаф.

У 90-я гг. XVII ст. лідэрам роду на Гарадзеншчыне фактычна з'яўляўся судовы староста Ян Францішак. У сярэдзіне гэтага дзесяцігоддзя, у канцы панавання Яна III Сабескага, не падобна на тое, каб ён мог знаходзіцца ў апазіцыі да Сапегаў, хутчэй, наадварот. Відаць, пэўную ролю тут маглі ады-

грываць яго родавыя сувязі, у прыватнасці, набытыя праз жаніцьбу на Тэрэзе з Бокумаў, дачцэ чашніка, потым стольніка ВКЛ Яна Генрыка Бокума, звязанага з Браніцкімі, Любамірскімі, і трэба думаць, з Сапегамі[8]. У Гарадзенскім павеце Ян Францішак валодаў маёнткам Свяцк (адной з асноўных частак – маёнтак быў моцна раздроблены) і юрыдыкай у Горадні[9]. Яго стрыечны брат Грыгорый Юзаф валодаў маёнткам Русота (палова маёнтка была ў Яна Казіміра Тымінскага) і таксама юрыдыкай у Горадні[10].

Ротмістр Грыгорый Катовіч разам з гарадзенскім войскім і гродскім суддзёй Тамашам Уладзіславам Лазовым падчас апошняй пры жыцці Яна ІІІ соймавай кампаніі былі абраныя пасламі да караля на гарадзенскім паслясоймавым сойміку 9 чэрвеня 1695 г., які сабраўся пад дырэкцыяй павятовага маршалка, сапежынца Стафана Яўстахія Александровіча. Соймік, паводле А. Рахубы, заняў вельмі памяркоўнае становішча, а яго ўдзельнікі фактычна ніяк не выказаліся ў справе канфлікту паміж дварам і віленскім біскупам Бжастоўскім з аднаго боку, і Сапегамі з другога. Інструкцыю паслам падпісалі 54 асобы, але звяртае на сябе ўвагу, што сярод іх адсутнічаюць заўважныя ў будучым дзеячы гарадзенскіх рэспубліканцаў (Масальскія, Рукевічы, Валовічы і інш.)[11]. З увагі на гэта і асобу дырэктара, соймік варта прызнаць хутчэй сапежынскім.

Наступны раз ротмістра Грыгорыя Катовіча сустракаем падчас бескаралеўя пасля смерці Яна ІІІ на рэляцыйным з канвакацыі гарадзенскім сойміку 23 лістапада 1696 г. (прайшоў пад кіраўніцтвам маршалка Стафана Александровіча), адкуль ён разам са старадубскім харужычам Андрэем Храптовічам былі накіраваныя ў пасольстве да кардынала-прымаса Міхала Радзяёўскага. Інструкцыя ім была вытрымана ў рэзка антыдворскім тоне (каралева-ўдава Марыя Казіміра была абвінавачана ў зрыве канвакацыйнага сойма і арганізацыі канфедэрацыі войска ВКЛ). Свае подпісы пад ёй паставілі як сапежынцы, так і будучыя лідэры рэспубліканцаў (харужыч Ян Масальскі, інстыгатар ВКЛ і гарадзенскі войскі Станіслаў Рукевіч); азначала гэта, несумненна, перамогу тут, хаця і часовую, Сапегаў[12].

Катовічаў не было сярод паслоў і шляхты Гарадзенскага павета, якія падпісалі элекцыю саксонскага курфюрста Фрыдрыха Аўгуста ў 1697 г. Першымі з павета як найбольш значныя прадстаўнікі падпісаліся Рукевічы, гарадзенскі войскі і інстрыгатар ВКЛ Станіслаў і гарадзенскі падчашы Ігнацый[13]. Можна меркаваць, што менавіта яны ў гэты час стаялі на чале мясцовых рэспубліканцаў. Катовічы ж верагодна, падтрымалі дэ Канты. Хаця гарадзенская шляхта была расколата ў гэты час на два лагеры, рэспубліканцы тут былі ў відавочнай меншасці, як па значэнню, так, верагодна, і па колькасці. Нягледзячы на гэта, яны паспрабавалі ажыццявіць тут прынятую на элекцыйным сойме пастанову наконт ураўнавання правоў (каэквацыі). На рэляцыйным з каранацыі сойміку (дата невядомая; прызначаныя на 4 лістапада 1697 г., але маглі лімітавацца) імі была прынятая пастанова сабраць падаткі

ў адпаведнасці з канстытуцыяй аб каэквацыі. Адміністратарам чопавага і шэлежнага быў абраны гарадзенскі войскі і інстыгатар ВКЛ Станіслаў Рукевіч, былі абраныя таксама зборшчыкі, а сам збор падаткаў стартаваў 5 снежня 1697 г. Захаваўся складзены ім рэестр уладанняў, з якіх гэтыя падаткі выплачаны не былі (недатаваны, упісаны ў кнігі Трыбуналу ВКЛ 6 жніўня 1698 г.). Сярод іншых, у ім прысутнічаюць прозвішчы старосты Яна Катовіча, які не выплаціў падаткаў са свайго маёнтка Свяцк, і ротмістра Грыгорыя Катовіча, які не зрабіў гэтага з уладанняў Русота, Шудзялова і "іншых корчмаў". Рэестр дастаткова вялікі, уключае ў сябе дзяржаўныя, царкоўныя і прыватныя ўладанні, пералічана ў ім шмат прозвішчаў як сапежынцаў, так і іншых уладальнікаў (між іншым, не выплацілі г. Горадня і Гарадзенская эканомія; ёсць і некаторыя рэспубліканцы, але пераважна з іншых паветаў)[14], наогул, падобна, са спробы ўвесці на Гарадзеншчыне сістэму збору падаткаў, заснаваную на каэквацыі, з першага заходу ў рэспубліканцаў нічога не атрымалася. Аднак Катовічы разам з іншымі сапежынцамі не проста не выплацілі падаткі, але і актыўна супраціўляліся ўвядзенню ў павеце новай сістэмы і наогул каэквацыі. 18 чэрвеня 1698 г. па гэтаму поваду ў Галоўным Трыбунале ВКЛ разглядалася справа Станіслава Рукевіча з гарадзенскім старостам Янам Катовічам, маршалкам Стафанам Александровічам, падкаморыем Крыштафам Міцутам, падсудкам Віктарыянам (звычайна – Крыштаф Віктарыян) Юндзілам, земскім пісарам Казімірам Александровічам, падстаростам Альбрэхтам Храптовічам, гродскім суддзёй Тамашам Уладзіславам Лазовым, гродскім пісарам Янам Тымінскім, саноцкім чашнікам Зыгмунтам Стрыенскім (адміністратарам Гарадзенскай эканоміі), шэрагам трымальнікаў лясніцтваў і старостваў (у рээстры праходзяць, як трымальнікі ключоў Гарадзенскай эканоміі) і "іншымі іх міласцямі, маючымі духоўныя і земскія ўладанні". Яшчэ раней, 5 траўня 1698 г., па гэтаму поваду была занесена пратэстацыя ў віленскі гродскі суд, якая была далучана да справы. Абскарджаныя асобы не толькі не выдалі падаткаў, але і спрабавалі хапаць і вязаць "субкалектараў" (прадстаўнікоў зборшчыкаў). Апанаваны праз рэспубліканцаў Трыбунал прысудзіў усіх іх да баніцыі і інфаміі, а таксама пастанавіў, што зборшчыкі з дапамогай павятовых ротмістраў павінны выбраць з іх уладанняў падаткі ў падвойным памеры[15].

На грамнічным сойміку 3 лютага 1698 г. у Горадні адбыўся раскол: сапежынцы сабраліся на замку, а рэспубліканцы (прыхільнікі харужыча Яна Масальскага) у кляштары францысканцаў за Нёманам. Абодва бакі абралі дэпутатаў на Трыбунал і паслоў да караля. Паводле гарадзенскага эканома Зыгмунта Стрыенскага, сапежынцы меліся скардзіцца каралю на злоўжыванні войска пад кіраўніцтвам вялікага харужага Грыгорыя Агінскага, а рэспубліканцы – запэўніць Аўгуста II у сваёй вернасці і прасіць у яго падтрымкі[16] (паводле надворнага падскарбія Мікалая Агінскага – прасіць таксама склікання коннага сойма[17]). З сапежынскага сойміка да

Аўгуста II быў накіраваны ротмістр Грыгорый Катовіч. Кароль у сваім адказе на дадзеную Катовічу інструкцыю ўхіліўся ад прызнання аднаго з соймікаў за легітымны, а таксама паведаміў, што працуе над дасягненнем у ВКЛ міру і выслаў дзеля гэтага пасрэднікаў[18].

Перадсоймавы соймік у Горадні 5 сакавіка 1698 г. зноў аказаўся раздвоеным. Падканцлер Караль Станіслаў Радзівіл выслаў каралеўскую інструкцыю на рукі рэспубліканцаў, якія правялі свой соймік пад дырэкцыяй гарадзенскага падчашага Ігнацыя Рукевіча (у плане падзякі ўлічыўшы ў інструкцыі паслам інтарэсы Радзівіла)[19]. Сапежынцы, сабраўшыся на соймік асобна, замест абрання паслоў на сойм маглі толькі накіраваць з пратэстам да караля старадубскага харужыча Андрэя Храбтовіча і люблінскага стольніка Паўла Станіслава Стрыенскага. Сапежынцы сабраліся на падставе першых ўніверсалаў, выдадзеных у кароннай канцылярыі (пра выдадзеныя пазней у канцылярыі ВКЛ, падобна, не ведалі), а каралеўскі пасол з інструкцыяй на іх соймік не з'явіўся. 24 сакавіка ў адказе паслам Аўгуст II абараняў свае права выдання ўніверсалаў у кароннай канцылярыі ў адсутнасць канцлера і падканцлера ВКЛ, аднак паведаміў, што загадаў яшчэ раз выдаць новыя ўніверсалы і інструкцыю, каб у выніку шляхта не засталася на сойме без паслоў[20]. Верагодна, легітымнасць рэспубліканскага сойміка была пад сумненнем, і не выключана, што праз слабую прадстаўнічасць, паколькі ўсе асноўныя павятовыя ўраднікі заставаліся на баку Сапегаў. На паўторным сойміку сапежынцы абралі пасламі на сойм старосту Яна Францішка Катовіча з маршалкам Стафанам Александровічам[21].

Што датычыцца Грыгорыя Юзафа Катовіча, то сустракаем яго ў гэты час як ротмістра венгерскай пешай харугвы ў складзе войска канюшага ВКЛ Міхала Францішка Сапегі, які па даручэнню вялікага гетмана пераняў 30 красавіка 1698 г. Грыгорыя Антонія Агінскага пад Жыжморамі і змусіў яго харугвы да капітуляцыі. 28 траўня гэтага ж года апанаваны рэспубліканцамі Трыбунал ВКЛ па скарзе Агінскага асудзіў яго ў ліку іншых афіцэраў-сапежынцаў разам з самім гетманам і яго сынамі Юрыем Станіславам і Міхалам Францішкам на інфамію і пакаранне смерцю, а з іх уладанняў планавалася выбраць два мільёны злотых за абрабаваныя пад Жыжморамі вазы і іншыя шкоды, нанесеныя шляхце[22].

У канцы 1698 г. Грыгорый Юзаф Катовіч узяў удзел у паспалітым рушанні супраць Сапегаў, як ротмістр другой гарадзенскай павятовай харугвы. Пад яго харугву запісалася 124 асобы (пераважна дробная шляхта), без уліку двух асобных почтаў па аднаму і двух па два чалавекі. Першай павятовай харугвай (110 шляхціцаў) камандаваў харужыч Ян Масальскі, як павятовы палкоўнік, тут жа мы знаходзім ўсіх актыўных рэспубліканцаў. Старосты Яна Францішка ў спісах няма (аднак пад харугвай Масальскага знаходзім рэгента гродскай канцылярыі Фларыяна Чарнеўскага). У паспалітым рушанні, асабліва ў заходніх паветах ВКЛ, часта бралі ўдзел і сапежынцы, нават выму-

шаныя былі гэта рабіць іх павятовыя лідэры, але ў дадзеным выпадку можам меркаваць, што меў месца менавіта пераход на бок рэспубліканцаў, паколькі іншыя асноўныя фігуры сапежынскай групоўкі ў Гарадзенскім павеце ў паспалітым рушанні ўдзелу не бралі. Акрамя Катовіча, знаходзім таксама некалькі іншых ураднікаў, якія раней падтрымлівалі на сойміках Сапегаў. Гэта гарадзенскія падсудак Крыштаф Юндзіл, гродскі пісар і скарбнік Ян Казімір Тымінскі, дорпацкі скарбнік Станіслаў Гадачэўскі і мазырскі стольнік Юзаф Ельскі[23]. Зрэшты, цяжка сказаць, ці былі яны неяк звязаныя менавіта з Катовічамі, але ў адносінах да гродскіх ураднікаў гэта дастаткова верагодна. Праўда, што тычыцца фігураў Юндзіла і Гадачэўскага, то ўжо праз год яны зноў перакінуліся на бок Сапегаў.

Магчыма, нейкія рухі ў бок рэспубліканцаў мелі месца ўжо раней, у сярэдзіне гэтага ж году. Так, у якасці гарадзенскага падстаросты прынамсі з пачатку ліпеня 1698 г. выступае згаданы Грыгорый Юзаф Катовіч, які замяніў на гэтым урадзе гарадзенскага стольніка Альбрэхта Міхала Літавора-Храптовіча, гарадзенскага падстаросту з 1692 г. Апошні, верагодна, гэтага не прызнаў, паколькі працягваў так падпісвацца да траўня наступнага году[24]. Магчыма, гэта неяк звязана з сапежынскай арыентацыяй Храптовічаў, якая захоўвалася і надалей. Застаецца дадаць, што месца гродскага суддзі пасля Тамаша Уладзіслава Лазовага заняў у канцы 1698 г. рэспубліканец Ігнацый Антоній Рукевіч, гарадзенскі падчашы. Такім чынам, на мяжы 1698/1699 гг. гарадзенскі гродскі суд апынуўся пад поўным кантролем рэспубліканцаў[25].

Далейшы этап адкрытага супрацоўніцтва Катовічаў з рэспубліканцамі, у прынцыпе, асабліва шмат удакладненняў не патрабуе[26]. Староста Ян Францішак Катовіч кіруе пасяджэннямі гарадзенскага грамнічнага сойміка 9 лютага 1699 г., праведзенага рэспубліканцамі асобна (у сапежынцаў кіруе Александровіч), а адным з дэпутатаў на ім быў абраны Грыгорый Юзаф Катовіч (другім – Жыгімонт Аляксей Бухавецкі)[27]. Актыўна спрыяў гарадзенскім рэспубліканцам Аўгуст II. Соймікі ў 1699 г. праходзілі на гарадзенскім замку пад аховай саксонскіх войскаў. Гэта датычыць грамнічнага, наступных за ім элекцыйных на ўрады, а таксама перадсоймавага соймікаў[28]. Адносна элекцыйных соймікаў на ўрады маршалка (11 лютага), харужага (12 лютага) і земскага суддзі (13 лютага), складзеных нібыта самавольна Янам Масальскім і Грыгорыем Катовічам[29] (па версіі сапежынцаў), можам толькі ўдакладніць, што рэспубліканцы ўсё ж грунтаваліся на каралеўскіх універсалах, праўда, выдадзеных з "акенцамі" для датаў правядзення соймікаў. Аўгуст II падпісаў іх падчас свайго побыту ў Горадні (3 студзеня 1699 г. на элекцыю земскага суддзі і 4 студзеня на два астатнія ўрады), па просьбе, як указана ў тэксце, гарадзенскіх ураднікаў у адсутнасць троцкага ваяводы[30] (хаця на самой справе, трэба думаць, усё было праведзена наўмысна ў яго абыход). Як яны былі абвешчаны, ці ў адпаведнасці з правам, – асобнае пытанне. На другім з гэтых соймікаў, 12 лютага, былі абра-

ныя, як звычайна, кандыдаты на ўрад, першым сярод якіх ішоў Грыгорый Юзаф Катовіч. Паколькі відавочна ўсё рабілася пад яго, таму не дзіўна, што кароль падпісаў яму прывілей ужо 18 лютага[31].

Будучы дэпутатам Галоўнага Трыбунала ВКЛ Катовіч адзначыўся, у прыватнасці, бойкай з гарадзенскім падкаморычам Казімірам Міцутам. Па версіі Катовіча, 26 траўня Міцута напаў каля замкавага цэйхгаўза ў Вільні на Стафана Странкоўскага, які ехаў з Гарадзенскага павета да падстаросты, параніў яго з пісталета ў лоб і выпаліў па слугах Катовіча, якія выскачылі яго ратаваць[32]. Паводле ж Міцуты, гэта адбывалася назаўтра, 27 траўня, калі Катовіч і Странкоўскі разам з мазырскім старостам Міхалам Халецкім падпільнавалі яго каля замка і ганяліся за ім, б’ючы і зневажаючы, па ўсім Зарэцкім прадмесці і далей, па “равах і гарах”[33].

На 1699 год Грыгорый Катовіч быў абраны таксама адным з павятовых скарбовых суддзяў. У красавіку ён дапамог мінулагоднім рэспубліканскім адміністратарам і зборшчыкам падаткаў пазбегнуць разлікаў з жаўнерамі швадрону канюшага ВКЛ Міхала Францішка Сапегі, у выніку чаго заробак ім цалкам выплачаны так і не быў[34].

Сапежынцы не прызналі праведзеных рэспубліканцамі элекцый і склалі ў канцы года (16, 17 і 18 лістапада) пад дырэкцыяй вялікага гетмана Казіміра Яна Сапегі свае ўласныя элекцыйныя соймікі на ўрады адпаведна маршалка, харужага і земскага суддзі. Напярэдадні, 13 лістапада, рэспубліканцы на чале з Янам Масальскім і Грыгорыем Катовічам спрабавалі дамовіцца са сваімі праціўнікамі, але перамовы былі сарваныя. На сойміку 17 лістапада першым сярод кандыдатаў на ўрад харужага, нягледзячы на пратэсты, быў абраны каняўскі староста Станіслаў Паплаўскі. Аднак паколькі Аўгуст ІІ быў на баку рэспубліканцаў, Катовіч утрымаўся на ўрадзе, хаця сапежынцы і працягвалі не прызнаваць яго за харужага[35]. Катовіч з Масальскім, верагодна, яшчэ пасля рэляцыйнага сойміка, выехалі ў Навагародак на Трыбунал ВКЛ, дзе 29 кастрычніка выступілі з пратэстацыяй супраць Сапегаў, а 27 лістапада, пасля праведзеных імі элекцый на ўрады, занеслі яе там жа паўторна[36].

У пачатку 1700 г., падчас раздвоенага грамнічнага сойміка, Катовічы па-ранейшаму трымалі бок рэспубліканцаў. Малаверагодна, каб пад падстаростам, абраным тады адным з дэпутатаў на сапежынскім сойміку, меўся на ўвазе Грыгорый Катовіч[37]. Больш праўдападобна, што ім мог быць папярэдні падстароста Альбрыхт Храптовіч, які яшчэ пэўны час працягваў так тытулавацца. У той жа час сярод подпісаў пад інструкцыяй паслам да караля, абраным, верагодна, тады ж на рэспубліканскім сойміку пад кіраўніцтвам маршалка Яна Масальскага, фігуруе, між іншым, подпіс старосты Яна Францішка Катовіча. У інструкцыі шляхта вельмі актыўна адстойвала яго інтарэсы: патрабавала кампенсацыі за адыход Перстуня ад староства да Гарадзенскай эканоміі, вяртання захопленага полацкім ваяво-

дам Дамінікам Міхалам Слушкам віленскага дзераўніцтва, а таксама прасіла выдаць універсалы з дазволам яму склікаць паспалітае рушанне, каб разагнаць рэшткі войска ВКЛ, якія стаялі ў каралеўскіх і кляштарных уладаннях на тэрыторыі павета[38]. Віленскае дзераўніцтва Катовіч атрымаў ад маці, Барбары Цэцыліі (якая мела яго ад мужа, гарадзенскага старосты Андрэя Францішка), але прайграў у сутыкненні са Слушкам, які 26 жніўня 1699 г. таксама атрымаў на яго прывілей і карыстаючыся падтрымкай Сапегаў, ужо 14 верасня быў афіцыйна ўведзены ў валоданне, што рэспубліканцы расцанілі як заезд[39].

Катовічы актыўна ўдзельнічалі ў паспалітым рушанні ў 1700 г. Грыгорый Юзаф быў сярод гарадзенскіх рэспубліканцаў, якія пад кіраўніцтвам Яна Масальскага прыбылі ў Вільню на рэасумпцыю Галоўнага Трыбунала ВКЛ, і падпісаў прынятую ў гэты дзень (26 красавіка) пастанову складзенага рэспубліканцамі з’езда шляхты ВКЛ[40]. Староста Ян Францішак Катовіч, маршалак Ян Масальскі і харужы Грыгорый Юзаф Катовіч узначальвалі паспалітае рушанне гарадзенскай шляхты падчас фінальнай развязкі ў бітве з Сапегамі пад Алькенікамі 18 лістапада 1700 г.[41]

Пасля Алькенікаў Грыгорый Юзаф аднаўляе вайсковую кар’еру ў створаным наноў рэспубліканцамі войску ВКЛ. У 1702 г. як палкоўнік прымае ўдзел у баявых дзеяннях супраць шведаў і Сапегаў, у прыватнасці камандуе пярэдняй стражай у бітве пад Каменнай 26 ліпеня 1702 г.[42], у канцы гэтага ж года – рэгіментар дывізіі (12 харугваў), размешчанай у Заблудаве, адкуль пагражаў Стафану Мікалаю Браніцкаму штурмам Тыкоціна[43]. У кампуце рэспубліканскага войска ВКЛ да Люблінскага сойма 1703 г. меў дзве харугвы: панцырную і казацкую[44].

У 1701–1703 гг. Грыгорый Катовіч як гарадзенскі камісар бярэ ўдзел ва ўсіх складзеных рэспубліканцамі з’ездах шляхты ВКЛ: у Ружане (адкуль едзе паслом да караля разам з Юзафам Краеўскім), двух з’ездах у Вільні і з’ездзе Горадні ў 1701 г., у Ружане ў 1702 г., а таксама ў Вільні ў 1703 г., падпісвае ўтвораную на апошнім з іх канфедэрацыю[45]. У 1703 г. абіраецца паслом на сойм ад Гарадзенскага павета[46].

Тандэм Грыгорыя Юзафа са стрыечным братам Янам Францішкам паспяхова трываў да 1704 г., калі, паводле харужага, Ян Францішак менавіта яму за каралеўскім дазволам перадаў спачатку гарадзенскае староства[47], але затым перадумаў і прадаў яго маршалку Яну Антонію Масальскаму. Масальскі атрымаў намінацыю, аднак Ян Францішак не прызнаў фармальна гэтай перадачы і працягваў тытулавацца старостам да 1706 г.[48] Канчатковы разрыў Грыгорыя Юзафа з Янам Францішкам адбыўся ў 1705 г., пасля яго сапраўды скандальнай жаніцьбы на дачцэ апошняга. Калі ў сакавіку гэтага года староста са сваёй адзінай дачкой Барбарай Канстанцыяй прыехаў да яго ў госці ў Русоту, адкуль назаўтра, неабачліва яе там пакінуўшы, ад’ехаў да сябе дадому ў Свяцк, Грыгорый Юзаф сілай нібыта затрымаў

у сябе Барбару, узяў з ёй “шлюб без каплана” (!), а праз тры тыдні аддаў да гарадзенскага кляштара бернардзінак. Далейшыя падрабязнасці невядомыя, аднак нягледзячы ні на што, Барбара Канстанцыя (або часцей у гэты час – як Канстанцыя Барбара) усё ж засталася жонкай Грыгорыя Катовіча. У 1710 г. у іх нарадзілася адзіная дачка Тэрэза[49]. Маці 30 ліпеня гэтага ж году склала тэстамент, у якім завяшчала нованароджанай дачцэ Дамбровагару, Свяцк і камяніцу ў Варшаве. Гарадзенскім кармелітам босым адыходзіла юрыдыка ў Горадні, “на якой былі драўляны двор і карчма”. Ім жа былі пацверджаны правы на палац у Горадні, падараваны кляштару яе ба́цькам Янам Францішкам. Выканаўцамі тэстаменту і апекунамі дачкі прызначаліся перамышльскі біскуп Ян Казімір Бокум (дзядзька па маці), мальтыйскі кавалер і надворны маршалак ВКЛ Казімір Міхал Пац, падляшскі ваяводзіч і бранскі староста Ян Клеменс Браніцкі (траюрадны брат па маці)[50]. Тэстамент быў актыкаваны назаўтра, 31 ліпеня, з чаго можа быць зроблена выснова пра яе смерць у гэты час[51]. Паводле ж Ю. Гяроўскага, яна разышлася з Грыгорыем Юзафам у 1714 г.[52] Крыху раней, у 1713 г., паводле А. Банецкага, прадала камяніцу ў Варшаве на вул. Езуіцкай у прысутнасці дзядзькі, перамышльскага біскупа Яна Казіміра Бокума, і стрыечнага брата Антонія Катовіча[53]. Таму, відаць, у 1710 г. яна не памерла. Аднак у любым выпадку пра іншых дзяцей, акрамя дачкі, ад гэтага шлюбу невядома.

Пасля смерці ў 1706 г. Масальскага ўрад гарадзенскага старосты ўсё ж такі атрымлівае Грыгорый Юзаф Катовіч. Фактычна ён становіцца лідэрам свайго, нешматлікага ўжо, роду (у 1704 г. памірае смаленскі біскуп Яўстахій Катовіч), хаця тэндэнцыя да гэтага дзякуючы яго палітычнай актыўнасці заўважная была і раней, а таксама адным з найбольш уплывовых людзей у сябе ў павеце. Другі шлюб бярэ з Альжбетай з Ажэшкаў (Арэшкаў), дачкой пінскага войскага[54].

У XVII ст. Катовічы ўзнесліся да сенатарскіх вяршынь, але невялікія памеры ўладанняў і не асабліва прадуманая родавая палітыка не дазволілі ім замацавацца ў першых шэрагах палітычнай эліты ВКЛ. Касцёльная кар’ера адных і адсутнасць мужчынскіх нашчадкаў у другіх мелі вынікам практычна поўны сыход роду з палітычнай арэны ВКЛ у XVIII ст. Найбольш уплывовыя прадстаўнікі роду, якія дзейнічалі ў Гарадзенскім павеце, былі фактычна звычайнымі прадстаўнікамі сярэдняй шляхты, хаця і дастаткова актыўнымі ў палітычным плане, асабліва што тычыцца Грыгорыя Юзафа. Прынамсі да першай паловы 1698 г. захоўвалася іх прыхільнае стаўленне да Сапегаў. Напярэдадні чарговага масавага выступлення рэспубліканцаў у другой палове гэтага году Катовічы вырашылі зрабіць стаўку на апошніх і перакінуліся на іх бок. Гэта кардынальна змяніла расклад сіл у павеце. Пад кантролем рэспубліканцаў аказаўся гродскі суд, і ў многім дзякуючы Катовічам яны здолелі апанаваць урады маршалка, харужага і (часова) земскага суддзі. У выніку ўсталяваўся прыблізны парытэт сяродураднікаў. Дзякуючы сва-

ёй вазé практычна адразу ж Катовічы, побач з маршалкам Масальскім, апанавалі ў павеце лідэрства сярод рэспубліканцаў, адціснуўшы на другі план Рукевічаў. Пасля паразы Сапегаў, у пачатку XVIII ст. Катовічы фактычна выходзяць на першыя ролі ў павеце. Але асноў для захавання і павелічэння ўплываў, як было сказана вышэй, закласці ў іх не атрымалася. У выніку пасля смерці Грыгорыя Юзафа ў 1724 г. род фактычна заняпаў. У сярэдзіне стагоддзя ў Гарадзенскім павеце толькі адзін прадстаўнік Катовічаў валодаў дробным урадам (павятовага крайчага)[55].

---

[1] Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewkiego. T. II. Województwo trockie. XIV–XVIII wiek / pod red A. Rachuby; oprac. H. Lulewicz, A. Rachuba, P.P. Romaniuk, A. Haratym; przy współpracy A. Macuka i J. Aniszczanki. Warszawa, 2009. S. 338–339, 606. Wasilewski T. Andrzej Franciszek Kotowicz // Polski Słownik Biograficzny (далей – PSB). T. XIV. S. 480.

[2] Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewkiego. T. II. Województwo trockie... S. 243, 307, 339; Urzędnicy centralni i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego XIV–XVIII wieku: spisy / oprac. H. Lulewicz i A. Rachuba. Kórnik, 1994. S. 68. Гл. таксама: Gierowski J. Kotowicz Hrehory Józef // PSB. T. XIV. S. 482–483 (аднак сцісла і не заўсёды дакладна).

[3] Lietuvos Valstybės istorijos archyvas (далей – LVIA), SA 4720, k. 745. Выказваю падзяку прафесару А. Рахубу за дапамогу ва ўстанаўленні сваяцтва.

[4] Рахуба А. Палітычныя групоўкі ў ВКЛ // Спадчына. 2000. № 5–6. С. 45.

[5] Віцько З. Супрацьстаянне палітычных груповак у Гарадзенскім павеце ў 1696–1700 гг. (падчас грамадзянскай вайны ў ВКЛ) // Гарадзенскі палімпсест. 2009. Дзяржаўныя ўстановы і палітычнае жыццё. XV–XX ст. / пад рэд. А.Ф. Смаленчука, Н.У. Сліж. Гародня, 2009. С. 201.

[6] Urzędnicy centralni i dygnitarze Wielkiego Księstwa Litewskiego... S. 217; Рахуба А. Палітычныя групоўкі... С. 45.

[7] Wasilewski T. Kotowicz Aleksander // PSB. T. XIV. S. 479; Wasilewski T. Kotowicz Eustachy Stanisław Kazimierz // PSB. T. XIV. S. 482.

[8] Piwarski K. Bokum ab Alten Jan Henryk // PSB. T. II. S. 246; Сліж Н. Цудатворны абраз Маці Божай Студэнцкай і гарадзенская шляхта: ідэнтыфікацыя, радаводы, сувязі // Герольд Litherland. № 18. 2011. С. 79.

[9] Metryka Litewska: Rejestry podymnego Wielkiego Księstwa Litewskiego. Województwo trockie 1690 r. / oprac. H. Lulewicz. Warszawa, 2000. S. 94, 100.

[10] Tamże. S. 98. Так, прынамсі, паводле рэестраў падымнага з 90-х гг. XVII ст.; аднак яшчэ ў 1690 г. прысягу з гэтай часткі Русоты склаў дэкрэтавы пісар Казімір Юллян Пухальскі (памёр у 1692 г.).

[11] Rachuba A. Litwa wobec projektu zwołania sejmu konnego w 1695 r. i walki Sapiehów z biskupem Brzostowskim // Zapiski Historyczne. 1986. T. LI. Z. 1. S. 74; Российская национальная библиотека в Санкт-Петербурге. Рукописное отделение (РНБ. Рук. отд.). Ф. 971, оп. 2, д. 156 (авт. 127), лл. 143–145 (інструкцыя паслам Гарадзенскага павета да караля, 9 чэрвеня 1695 г., за подпісамі гарадзенскіх маршалка Стафана Александровіча, падкаморыя Крыштафа Міцуты, стольніка і падстаросты Альбрэхта Храптовіча, скарбніка і гродскага пісара Яна Казіміра Тымінскага і інш.); гл. таксама: Там же. Ф. 957 (Pol. F. IV), д. 130, л. 128 (адказ караля на інструкцыю паслам Гарадзенскага павета, 15 ліпеня 1695 г.; Катовіч – як ротмістр яго каралеўскай міласці).

[12] Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie (далей – AGAD), Archiwum Radziwiłłów (далей – AR), dz. II, ks. 35, s. 416–419 (інструкцыя паслам Гарадзенскага павета

да кардынала-прымаса М. Радзяёўскага, 23 лістапада 1695 г.); Biblioteka Zakładu Narodowego im. Ossolińskich we Wrocławiu, rkps. 260/II, k. 370–372 (тое ж); Biblioteka Muzeum Narodowego im. Czartoryskich w Krakowie (далей – BCzart.), rkps. 186, nr 64 (тое ж). З больш значных гарадзенскіхураднікаў падпісаліся, як і мінулы раз, маршалак Александровіч, падкаморый Міцута, стольнік і падстароста Храптовіч, скарбнік і гродскі пісара Тымінскі.

[13] Volumina legum. T. 5. Petersburg, 1860. S. 429.

[14] LVIA, SA, b. 43, l. 1493–1496 (дэлятавы рэестр чопавага і шэлежнага Гарадзенскага павета, б.д.).

[15] Ibidem, b. 380, l. 1511v–1514v (дэкрэт Галоўнага Трыбунала ВКЛ, 18 чэрвеня 1698 г.).

[16] AGAD, Archiwum Publiczne Potockich (далей – APP), sygn. 163a, t. 26, k. 763 (З. Стрыенскі да С.А. Шчукі, Горадня, 4 лютага 1698 г.; *памылкова 1699 – Д.В.*).

[17] AGAD, AR, dz. V, sygn. 10714, k. 2 (М.Ф. Агінскі да К.С. Радзівіла, Варшава, 19 лютага 1698 г.).

[18] BCzart., rkps. 1668, s. 67–68 (адказ Аўгуста II на інструкцыю гарадзенскай шляхты, дадзеную Г. Катовічу, б.д.); Lietuvos Nacionalinė Martyno Mažvydo Biblioteka, F. 130, b. 728, l. 97–98 (тое ж, б.д., 1698 г.). Адказ дадзены ў кароннай канцылярыі ў адсутнасць падканцлера К.С. Радзівіла – адзін з такіх перыядаў меў месца ў лютым 1698 г.; у копіях з кароннай Метрыкі ў Бібліятэцы Чартарыйскіх таксама знаходзіцца сярод іншых матэрыялаў за люты гэтага года, што ў суме можа сведчыць на карысць пасольства Катовіча менавіта з грамнічнага сойміка.

[19] РНБ. Рук. отд. Ф. 971, оп. 2, д. 154 (авт. 125), л. 222 (231) (І. Рукевіч да К.С. Радзівіла, Горадня, 5 сакавіка 1698 г.).

[20] Biblioteka Narodowa w Warszawie, rkps. III 9085, k. 109–111 (адказ Аўгуста II на інструкцыю паслам Гарадзенскага павета, 24 сакавіка 1698 г.). Інструкцыя была вытрымана, хутчэй за ўсё ў прымірэнчым тоне – шляхта прасіла знайсці спосабы аднаўлення ў ВКЛ спакою, – што ў той момант было на руку Сапегам.

[21] Pamiętniki Krzysztofa Zawiszy, wojewody mińskiego (1666–1721) / wyd. J. Bartoszewicz. Warszawa, 1862. S. 195.

[22] LVIA, SA, b. 380, l. 767–780v. (дэкрэт Трыбунала ВКЛ, 28 траўня 1698 г.).

[23] Acta stanów Wielkiego Xięstwa Litewskiego na pospolite ruszenie vigore laudum wileńskiego 14 Augusti 1698 postanowionego między Ławnem a Puzewiczami w powiecie grodzieńskim zgromadzonych. Anno Domini 1698. Dnia 21 Decembris. Wilno, 1699. K. i–$i_1$.

[24] Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewkiego. T. II. Województwo trockie... S. 307.

[25] Tamże. S. 317.

[26] Гл. пра гэты час падрабязней: Віцько З. Супрацьстаянне палітычных груповак … С. 205–211.

[27] Deputaci Trybunału Głównego Wielkiego Księstwa Litewskiego (1697–1794): spis / pod red. A. Rachuby; oprac. A. Rachuba i P.P. Romaniuk przy współpr. A. Macuka i J. Aniszczenki. Warszawa, 2004. S. 33.

[28] Віцько З. Супрацьстаянне палітычных груповак… С. 206–207.

[29] Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewkiego. T. II. Województwo trockie... S. 269, 243, 323; Віцько З. Супрацьстаянне палітычных груповак… С. 206.

[30] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей – НГАБ). КМФ-18, воп. 1, адз.з. 149, арк. 308 адв. (універсал Аўгуста II на элекцыю гарадзенскага земскага суддзі пасля павышэння К. Міцуты на падкаморыя, Горадня, 3 студзеня 1699 г.); Тамсама, арк. 338 адв.–339 (універсал Аўгуста II на элекцыю гарадзенскага маршалка пасля павышэння С. Александровіча на наваградскага кашталяна, Горадня, 4 студзеня 1699 г.); Тамсама,

арк. 339–339 адв. (універсал Аўгуста II на элекцыю гарадзенскага харужага пасля смерці У. Кірдзея, Горадня, 4 студзеня 1699 г.).

[31] Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewkiego. T. II. Województwo trockie... S. 243.

[32] LVIA, SA, b. 215, l. 46–47v (скарга Г. Катовіча і С. Странкоўскага ў Галоўны Трыбунал ВКЛ на К. Міцуту, 30 траўня 1699 г.).

[33] Ibidem, b. 4714, l. 759–760 (скарга К. Міцуты з нагоды збіцця ў віленскі гродскі суд, б.д.); Ibidem, b. 387, l. 672–673v (дэкрэт Галоўнага Трыбунала ВКЛ у справе К. Міцуты з Г. Катовічам, М. Халецкім і С. Странкоўскім, 30 ліпеня 1700 г.; справа была адкладзена).

[34] Ibidem, b. 383, l. 1418–1419v (дэкрэт Галоўнага Трыбунала ВКЛ у справе капітан-лейтэнанта Яна Палемана, прадстаўніка швадрону М.Ф. Сапегі, з гарадзенскімі зборшчыкамі і адміністратарамі падаткаў, якія не выплацілі грошай па асігнацыі Коцела ні на грамнічным сойміку, ні падчас скарбовых судоў у красавіку, а Катовіч, будучы скарбовым суддзёй, яго яшчэ і знясlавіў, 31 жніўня 1699 г.; справа была адкладзена).

[35] Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewkiego. T. II. Województwo trockie... S. 243; Віцько З. Супрацьстаянне палітычных груповак… С. 208.

[36] LVIA, SA, b. 4715, l. 292–293v; Віцько З. Супрацьстаянне палітычных груповак… С. 209.

[37] Deputaci Trybunału Głównego Wielkiego Księstwa Litewskiego (1697–1794): spis / pod red. A. Rachuby; oprac. A. Rachuba i P.P. Romaniuk przy współpr. A. Macuka i J. Aniszczenki. Warszawa, 2004. S. 37.

[38] AGAD, APP, sygn. 133, k. 784–787 (інструкцыя гарадзенскай шляхты паслам да караля, фрагмент б. д., за подпісамі гарадзенскіх маршалка Яна Масальскага, войскага і інстыгатара ВКЛ Станіслава Рукевіча, старосты Яна Францішка Катовіча, стольніка Аляксандра Казіміра Валовіча, падчашага і гродскага суддзі Ігнацыя Рукевіча, скарбніка Яна Тымінскага і інш.).

[39] Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: spisy. T. I: Województwo wileńskie, XIV–XVIII wiek / pod red. A. Rachuby; oprac. H. Lulewicz, A. Rachuba, P.P. Romaniuk; przy współpr. U. Jemialianczyka i A. Macuka. Warszawa, 2004. S. 100.

[40] Vilniaus universiteto biblioteka Rankraščių skyrius, F. 7, b. 20/5974, l. 254v.

[41] Ibidem, b. 32/13909, l. 153v; Korytyński O. Olkinicka potyczka // Źródła do dziejów polskich / wyd. przez M. Grabowskiego i A. Przezdzieckiego. T. I. Wilno, 1845. S. 192.

[42] Віцько Д. Шведскае наступленне 1702 г. у Вялікім Княстве Літоўскім і спроба рэстаўрацыі Сапегаў // Arche. 2011. № 6. С. 52.

[43] Gierowski J. Kotowicz Hrehory Józef // PSB. T. XIV. S. 482; AGAD, APP, sygn. 57, k. 258 (Урывак ліста з Тыкоціна, 6 снежня 1702 г.).

[44] НГАБ. Ф. 1733, воп. 1, адз.з. 17, арк. 254, 256.

[45] BCzart., rkps. 567, nr 3, k. 25; Manifest stanów Wielkiego Xięstwa Liewskiego na zieździe walnym wileńskim po limitacyey z Rożany na dniu dziewiątym miesiąca maia w roku 1701 przeciwko contumacij ichmościów panów Sapiehów uczyniony. [b. m., 1701]; Biblioteka Naukowa Polskiej Akademii Umiejętności i Polskiej Akademii Nauk w Krakowie, rkps. 6122, k. 133; Віцько Д. Рэспубліканска-сапежынскія перамовы на з’ездзе ў Горадні восенню 1701 г. // Беларускі гістарычны агляд. Т. 18. Сш. 1–2. 2011. С. 95; AGAD, AR, dz. II, sygn. 1978, k. 7; LVIA, SA, b. 4718, l. 160 і інш.

[46] Poraziński J. Sejm Lubelski w 1703 roku i jego miejsce w konfliktach wewnętrznych na początku XVIII wieku. Warszawa; Poznań; Toruń, 1988. S. 125.

[47] AGAD, AR, dz. V, sygn. 7553, k. 8 (Г.Ю. Катовіч да К.С. Радзівіла, Берасце, 26 чэрвеня 1704 г.). Акрамя гэтага, меў таксама ў дадзены час прывілей на Чачэрскае староства, але прайграў мечніку ВКЛ К. Сеніцкаму, нягледзячы на тое, што той, хутчэй за ўсё, атрымаў свой прывілей пазней.

[48] Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewkiego. T. II. Województwo trockie... S. 339.

[49] LVIA, SA, b. 4720, l. 745–746 (скарга Я.Ф. Катовіча на Г.Ю. Катовіча, 20 чэрвеня 1705 г.); AGAD, AR, dz. V, sygn. 15677, 12 траўня 1710 г.). Выказваю вялікую падзяку за гэту інфармацыю праф. А. Рахубе.

[50] НГАБ, Ф. 1711, воп. 1, адз.з. 3, арк. 664–665 (тэстамент Канстанцыі Катовічавай, 30 ліпеня 1710 г.). Складаючы тэстамент, яго аўтарка была, як сама адзначыла, “пры слабым здароўі”, але ўвесь час па тэксце рабіла агаворкі на выпадак “калі б Бог даў яшчэ дзетак”. Палац, пра які размова (раней згадваецца таксама як камяніца), знаходзіўся на вуліцы Маставой і належаў яшчэ яе дзеду Андрэю Францішку. Яго сын Ян Францішак падараваў яго кармелітам У 1705 г., гл.: Сліж Н. Цудатворны абраз... С. 78–79.

[51] Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewkiego. T. II. Województwo trockie... S. 243.

[52] Gierowski J. Kotowicz Hrehory Józef // PSB. T. XIV. S. 483.

[53] Boniecki A. Herbarz Polski. T. XI. S. 389–390. Магчыма, Антоній Катовіч, гарадзенскі лоўчы з 1713 г. (Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewkiego. T. II. Województwo trockie... S. 266). А. Банецкі, падаючы гэту інфармацыю, спасылаецца на варшаўскія гродскія акты, праверыць яе ўжо немагчыма, але выглядае ўсё вельмі праўдападобна.

[54] Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewkiego. T. II. Województwo trockie... S. 339. Далейшы лёс гл.: Gierowski J. Kotowicz Hrehory Józef // PSB. T. XIV. S. 482–483.

[55] Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewkiego. T. II. Województwo trockie... S. 261. Міхал (Мікалай) Катовіч, гарадзенскі крайчы прынамсі ў 1739 (памёр да 1765 г.).

*Ганна Паўлоўская,*
*кандыдат гіст. навук (Гродна)*

# Вобразы гарадзенцаў у апісаннях смерці ў кляштарных хроніках (XVII–XVIII стст.)

Первый тогда Антилох поразил у троян браноносца
Храброго, между передних, Фализия ветвь, Эхепола.
Быстро его поражает он в бляху косматого шлема
И пронзает чело: пробежало глубоко внутрь кости
Медное жало, и тьма Эхеполовы очи покрыла;
Грянулся он, как великая, башня средь бурного боя (Il. IV: 457–462).

Так пачынаецца апісанне першай бітвы “Іліяды”, у якой на сцэну выходзяць многія героі, пераважна дзеля таго, каб гераічна загінуць перад слухачом. Большасць наступных 252 апісанняў смерцяў “Іліяды” не паўтарае іншага. Герой называецца па імя і мае прывілей індывідуальнай смерці. Такім чынам ён можа заіснаваць у тэксце паэмы і застацца ў памяці патомных на векі.

Гамераўская паэма дала пачатак прадстаўлення героя праз смерць ці выявіла тэндэнцыю агульную для эпасаў розных народаў.

Іншым славутым выразам гэтай тэндэнцыі з’яўляюцца сярэднявечны шансон дэ жэст. Самая знакамітая смерць рыцарскага эпасу – гэта, напэўна, смерць самога Раланда.

Почуял граф, что смерть его близка,
Что мозг ушами начал вытекать.
За пэров молит бога он сперва,
А после, Гавриила за себя.
Чтоб не покрыл его посмертно срам,
Схватил он Олифан и Дюрандаль
И углубился в землю басурман
Намного дальше, чем летит стрела.
Два дерева там вниз глядят с холма,
Четыре глыбы мраморных лежат.
Граф на траву, недвижимый, упал,
Лишился чувств, встречает смертный час (Песнь о Роланде: CLXVII).

Апісанне смерці доўжыцца на працягу васьмі наступных строфаў, у якіх смерць падыходзіць усё бліжэй, Раланд развітваецца з мячом Дзюрандалем, папярэдне адабраўшы яго ў маўра, развітваецца са светам, моліцца Богу і ўрэшце памірае і трапляе ў рай (Песнь о Роланде: CLXVII–CLXXVI).

Гарадзенскія кляштарныя хронікі напісаныя значна пазней і не з’яўляюцца эпічнымі творамі. Тым не менш смерці, як саміх манахаў, асабліва найбольш выбітных з іх, так і свецкіх асобаў, стала з’яўляюцца на старонках хронік. Апісанні смерцяў у хроніках выконваюць цалкам іншую функцыю і маюць адрозны характар, аднак галоўнай іх мэтай з’яўляецца захаванне памяці пра чалавека і яны “ажыўляюць” апісаных асобаў пры кожным прачытанні твораў.

Выкарыстоўваючы апісанні смерцяў гарадзенцаў у хроніках, я б хацела паказаць, якога тыпу асобы прадстаўлены ў тэкстах падобным чынам, якую мэту выконвалі гэтыя апісанні, што было іх непасрэдным аб’ектам. Пры нагодзе хацелася б таксама прадставіць самых гарадзенцаў, якія ўзнікаюць на старонках хронік, каб далучыцца да працэсу захавання памяці пра іх.

Можна вылучыць наступныя групы асобаў, якія прадстаўлены ў хроніках у момант смерці. У першую чаргу гэта манахі, асабліва тыя, хто адрозніваўся святасцю ці заслугамі перад кляштарам, і дабрадзеі манаскіх ордэнаў. У сувязі са значэннем матыву смерці героя ў эпасе ў асобную групу варта вылучыць воінаў. Іншай групай з’яўляюцца мяшчане. У кляштарных хроніках апісанні іх смерцяў з’яўляюцца ў сувязі з нязвыкласцю апошняй, якая магла быць выклікана злачынствам, няшчасным выпадкам ці кур’ёзным здарэннем. Асобна выдзяляюцца смерці злачынцаў падчас экзекуцый, выканаых у Горадні, што ўжо было прадстаўлена на адной з ранейшых канферэнцый “Палімпсесту”, таму не будзе прадметам дадзенага артыкула.

## МАНАХІ

Падрабязныя апісанні манахаў з пазначэннем іх выключных рысаў і ўчынкаў прадстаўлены ў “Храналогіі” Томаша Дыганя. Асобны падраздзел хронікі называецца “Memoria patrum vita celebrium in hac ecclesia sepultorum”[1].

Гэтыя апісанні з’явіліся ў хроніцы ў адпаведнасці з распараджэннем ордэна бернардзінцаў аб зменах у вядзенні правінцыяльных архіваў і прадстаўлення справаздач на генеральных капітулах. У 1651 г., калі генералам ордэна быў Пётр Манэра, у статуце з’явіліся параграфы, прысвечаныя пытанням падрыхтоўкі справаздач і вядзення гісторый правінцый[2]. Адзін з пунктаў гэтых распараджэнняў акрэсліваў таксама, якім чынам павінны занатоўвацца звесткі пра памерлых асоб:

> Informationes fratrum morientium cum opinione sanctitais, debent incipere hoc modo. In provincia... tali die, tali anno, in tali conventu, mortuus est talis frater vel monialis, cuius vita, post informationes factas ab ordinario, adducitur fideliter scripta in hoc libello isto modo...[3]

Вылучэнне дадзенага распараджэння ў статуце ў асобны пункт падкрэслівае яго значнасць. Паводле статуту павінны дакладна занатоўваць

час смерці асобы, кляштар, у якім жыў і памёр манах ці манашка. Звяртаецца ўвага на дакладнасць запісаных звестак.

Хроніка Т. Дыганя, складзеная ў адказ на названае распараджэнне капітула, прыводзіць звесткі пра пяць асоб, памерлых у гарадзенскім кляштары: а. Крыштафа Сцыпіёна дэль Кампа (к. 1578–1649), а. Гіераніма Какоўскага (1584–1653), а. Лукаша Грудзінскага (пам. кл. 1620), а. Томаша Парцэвіту (Парчэўскага), а. Кляменса Абрэмбскага (пам. 1650).

Апрача выканання распараджэння падобныя звесткі спрычыняліся да выпрацоўкі супольнай тоеснасці ў манахаў гарадзенскага кляштара. Захаванне памяці пра выбітных папярэднікаў выклікае пачуццё гонару за прыналежнасць да той жа супольнасці, сведчыць пра даўнасць яе існавання. Падобная функцыя памяці ўласціва розным сацыяльным групам – перад усім сям'і ці роду, але таксама іншым супольнасцям[4]. Найбольш выразна яна выяўляецца ў арыстакратычных ці каралеўскіх сем'ях, дзе памяць пра яе гісторыю легітымізуе палажэнне роду ў сучаснасці. Асабліва важнае значэнне для падобнай *memoriae* мае фігура пачынальніка роду ці супольнасці. Таксама захоўваецца памяць пра выключныя здарэнні і подзвігі выбітных прадстаўнікоў.

З іншага боку памяць пра памерлых з'яўляецца выразам веры ў дагматы аб "супольнасці святых" (*communio sanctorum*) і адлюстроўвае ўключэнне памерлых братоў у супольнасць жывых. О.Г. Эксле ўвёў тэрмін "рэальнай прысутнасці" (*Realpräsenz, die Gegenwart der Toten*)[5], якая ажыццяўлялася пры кожнай згадцы аб асобе памерлага ў супольнасці (падчас літургій ці памінак). Асаблівае значэнне мелі падобныя згадкі падчас эўхарыстыі, якая сама азначае памяць пра ахвяру Ісуса Хрыста. Згадкі пра жывых і памерлых сяброў супольнасці падчас літургіі азначалі адзінства гэтай супольнасці і дзейсную прысутнасць усіх яе членаў. Наступствам гэтага было сярэднявечнае разуменне памерлых заснавальнікаў і фундатараў як дзейсных суб'ектаў права.

> Мертвые принадлежат не только прошлому, они имеют и "настоящее", т.е. их "присутствие" в "настоящем" – *die Gegenwart der Toten* – вполне реально и, следовательно, "настоящее мертвых" подразумеваетих правовой и общественный статус. Подобно тому, как называние имени поминаемого делало его субъектом общественных отношений, вычеркивание имени из поминальной книги означало полное уничтожение личности[6].

Культ памерлых мае агульныя карані з культам святых і ўспамінам пра іх у дні іх святаў[7]. Гэтае падабенства адлюстроўваецца таксама ў тэкстах гарадзенскіх хронік. Жыццяпісы братоў з "Храналогіі" ў стылістычным плане нагадваюць жыцці святых. Яны імкнуцца падкрэсліць заслугі братоў у служэнні Богу, адзначаюць толькі станоўчыя іх рысы.

Нягледзячы на жанравае падабенства апісанні хронікі розняцца паміж сабой, таксама як лёсы і характары іх герояў. Напрыклад, у апісанні першых двух братоў – а. Кр. Сцыпіёна дэль Кампа і а. Гіеарніма Какоўскага –

падкрэсліваецца іх значэнне і знакамітасць у ордэне і заслугі перад Бацькаўшчынай (царкоўны і грамадска-палітычны аспекты)[8].

Крыштаф Сцыпіё дэль Кампа[9] займаў высокія пазіцыі ў ордэне, быў некалі генеральным дэфінітарам ордэна і тройчы правінцыялам польскай правінцыі. Падкрэсліваецца яго выключнае веданне тэалогіі, знакамітасць ў ордэне ў Італіі, Гішпаніі і Польшчы, добрая слава сярод сенатараў і магнатаў Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага.

Гіеранім Какоўскі[10] акрэсліваецца як асоба знакамітая чэснасцю сярод святароў і магнатаў. Адзначаецца яго роля як архівіста, выкананне іншых функцый у ордэне, служэнне тэолагам каралю Уладзіславу IV у час паходу супраць Масковіі. Абодва айцы памерлі ў гарадзенскім кляштары (у 1649 і 1653 гг.).

Падабенства першых жыццяпісаў цікава яшчэ і тым, што лёсы абодвух айцоў былі звязанымі паміж сабой, хоць гэта і не занатавана ў хроніцы. Знакаміты Сцыпіё дэль Кампа апынуўся ў кляштары ў Горадні не па сваёй волі, а ў выніку рашэння капітула, на якім разглядалася абвінавачванне яго ў фінансавых махінацыях. Асобай, якая вяла працэс і прыняла канчатковае рашэнне, быў менавіта а. Гіеранім Какоўскі:

> [Hieronim Kakowski] prezydował na kapitule w Radomiu w lutym 1645 r., gdzie wydał dekret skazujący definitora zakonu i byłego prowincjała Krzysztofa Scipio del Campo za nadużycia władzy i przywłaszczenie pieniędzy klasztornych na pozbawienie praw zakonnych na lat 6 i zamknięcie na pokucie w ustronnym klasztorze. Mimo apelacji do generała prowincji uczynionej przez oskarżonego dekret ten został utrzymany. Sprawa ta stała się głośna w świecie zakonnym. W t[ym] r[oku] zaczął się K[akowski] ubiegać o przeniesienie do prowincji małopolskiej i wówczas wyszła na jaw niechęć dygnitarzy zakonnych do tego energicznego i rygorystycznego przełożonego. […] Pod koniec życia przeniósł się do Grodna. Po raz ostatni uczestniczył w kongregacji w Grodnie 31.05.1653, wkrótce potem zmarł[11].

Такім чынам, “далёкім” кляштарам, у які быў сасланы засуджаны а. дэль Кампа, быў менавіта кляштар у Горадні. Цікава, што некалькі год пасля яго смерці, а. Какоўскі просіць скіраваць сябе ў той жа кляштар. Манахі ж гарадзенскай супольнасці захоўваюць (прынамсі на афіцыйным узроўні) толькі станоўчую памяць пра абодвух айцоў. Знаходзяць пазітыўныя рысы ў характарах і дзеяннях абодвух з іх.

Памяць пра тое, што ў гарадзенскім кляштары нейкі час жыў а. Сцыпіё дэль Кампа захоўвалася ў гарадзенскім кляштары, пра што сведчыць нататка ў хроніцы бернардзінцаў, зробленая каля 30 год пасля яго смерці[12].

Наступным апісаным у “Храналогіі” святаром быў а. Лукаш Грудзінскі, выбітны сваёй святасцю, адданасцю Богу, чыненнем цудаў. Звесткі пра гэтага брата, на жаль, не захаваліся ў пазнейшых біяграфічных слоўніках. Апісанне ж хронікі вельмі яскравае. Адзначаецца, што ён мог выганяць

з людзей чортаў, лячыць немачы і цяжкія хваробы. Гэтае апісанне найбольш падобна да звыклага, “кананічнага” вобразу святой асобы. Памёр а. Грудзінскі ў пінскім кляштары.

> A Daemonibus multoties varias molestias passus: paucis dormiebat horis, maximam noctis partem in ecclesia consumpsit. Carnem suam flagellis, ieiuniis etiam ferreo circulo et aliis mortificationibus macerans. Quarta hora post mediam noctem semper cum summa devotione Missam absoluebat, qua absoluta egressus de conuentu variis infirmitatibus infectos, homines visitabat[13].

Томаш Парцэвіта (Парчэўскі)[14] жыў у гарадзенскім кляштары да старасці. У час выканання ім функцыі гвардыяна была збудавана большая частка царквы і мураванага кляштара. У апісанні адзначаюцца яго высілкі для здабыцця фінансавання на будову. Такім чынам падкрэсліваюцца яго “bona opera” (добрыя ўчынкі), напамінам пра якія з’яўляюцца самыя кляштарныя будынкі. Аўтар кажа пра “вялікі сум усіх гарадзенскіх жыхароў”, пачуўшых навіну аб яго смерці.

Апошняе апісанне хронікі прысвечана а. Кляменсу Абрэмбскаму. Падкрэсліваецца яго “прастата, пакорнасць, любоў”. Асабліва адзначаецца, што, правёўшы апошнія гады ў хваробе (7 гадоў паводле сведчання хронікі), Кляменс Абрэмбскі не паддаўся ёй, а пераносіў боль у цярпенні і благаслаўленні Бога. Першы і апошні з апісаных айцоў памерлі ў дзень Усіх Святых і Дзяды з розніцай у адзін год (1649 і 1650 гг.).

Таксама ў той жа хроніцы апісваецца пакутніцкая смерць бр. Людовіка Алексія падчас нападзення на горад маскоўскага войска ў 1656 г., калі былі спалены кляштар, касцёл і забітыя многія браты[15].

Згадкі пра выбітных манахаў з’яўляюцца таксама ў пазнейшых тэкстах, хоць не так часта[16]. Напрыклад, 1 студзеня 1785 г. у “Дамавой гісторыі” апісваецца смерць а. Францішка Пшылэнцкага, які раней быў дэфінітарам генеральным, правінцыялам і камісарам правінцыі. Адзначаецца дакладны час, калі ён адышоў з жыцця (9 гадзіна), яго любоў да Бога, павага братоў і агульны сум з-за яго смерці. Таксама занатоўваюцца адпраўленыя за яго душу службы[17].

Усе хронікі змяшчаюць кароткія нататкі пра смерці братоў без дадаткаў жыццяпісаў. Гэта згадкі пра смерці “звычайных” братоў, што не вылучаліся асаблівай святасцю. Яны не падобныя да “жыццяў” святых, а выконваюць біяграфічныя функцыі і захоўваюць памяць пра былых сяброў супольнасці.

Акрамя таго смерці ўсіх братоў адзначаліся ў асаблівых “некралогах” – каталогах, якія служылі таксама спісамі для малітвы за памерлых братоў. Адзін з такіх каталогаў змяшчаецца таксама ў хроніцы гарадзенскага бернардзінскага кляштара[18].

## ДАБРАДЗЕІ

Блізкімі да спісаў братоў з'яўляюцца спісы памерлых кляштарных дабрадзеяў, уласцівыя для ўсіх кляштарных хронік. У канстытуцыях і статутах розных ордэнаў пазначаецца неабходнасць занатоўвання падобных звестак[19].

У пачатку хронікі кармелітаў босых, дзе значная частка тэксту была прысвечана зямельным наданням і данацыям, дакладна зазначаюцца сумы дараванняў і імёны дабрачынцаў, таксама запісваюцца смерці гэтых дабрадзеяў: Кацярыны Забакліцкай Гажубінай[20], Яна Гажубы[21], Кацярыны Каўнацкай з Бокеяў[22] і г.д. Дакладна адзначаюцца імёны дабрачынцаў і іх пасады, роля, якую яны адыгралі для кляштара. Звычайна гэтыя асобы былі пахаваныя ў касцёлах адпаведных кляштараў. Іх сем'і мелі магчымасць паставіць помнік ці пахавальную харугву, што таксама спрыяла захаванню памяці пра гэтых асоб.

Захоўваюць звесткі пра дабрадзеяў і іншыя хронікі[23]. Згадкі пра смерці дабрадзеяў важныя тым больш, што звычайнай формай афармлення перадачы ўласнасці былі тастаментальныя запісы. У адказ манахі павінны былі маліцца за душы памерлых на працягу акрэсленага часу або вечна. Такім чынам, памяць пра дабрадзеяў была выразам "дамовы" паміж жывымі і памерлымі[24], а захаванне і выкананне гэтага абавязку было вельмі важнай задачай супольнасці. Для выканання яе яшчэ ў раннім сярэднявеччы былі створаны *Libri memoriales*, у якія ўносіліся спісы памерлых асоб для малітвы.

> Из значения называния имени в литургической *memoria* можно также заключить, какую ответственность накладывала опасность забвения (*oblivio*) на тех, чьей обязанностью было сохранение *memoria*. Чтобы обеспечить соблюдение литургического регулярного поминовения, имена успопших и здравствующих записывали на хорошо видном месте в самой церкви, на апсидной стене, например, или на алтарной плите. В монастырях взятые обязательства вносились в книгу с монашсеким уством, поскольку эту книгу особенно часто брали в руки и читали[25].

Такім чынам, кнігі кляштарных хронік былі чарговым месцам для занатоўвання гэтых імён. Гэта было не адзінае і нават не першаснае месца для падобных запісаў, аднак важнасць выканання абавязацельстваў прымушала рабіць мноства дублюючых запісаў у розных кнігах.

Пры апісанні некаторых з дараванняў у хроніках адзначаюцца самыя абавязацельствы, прынятыя манастыром. Так, за душу Яна Турчына і яго жонкі кармеліты павінны былі вечна адпраўляць адну імшу ў месяц[26]. За душу пані Шварцавай манахі таго ж кляштара служылі адну імшу ў тыдзень[27] і г.д.

Часта манастыры мелі праблемы з даўнопрынятымі абавязацельствамі. Так гарадзенскі кляштар брыгідак быў абавязаны ўтрымліваць значную колькасць святароў – шэсць, якія б стала служылі імшы за душы фундатараў. У сувязі з тым, што на працягу доўгага часу з-за фінансавых цяжкасцей колькасць святароў была значна меншая, сума неадпраўленых імшаў вырас-

ла і сталася доўгам кляштара брыгідак. Пра сур'ёзнасць гэтага доўгу сведчыць тое, што мясцовы біскуп падчас візітацыі 1763 г. не мог звольніць ад яго кляштар, а раіў адаслаць справу ў Рым[28].

У згадках пра смерці дабрадзеяў часта адзначаюцца сумы даравanняў і заслугі перад ордэнам. Часамі прыводзяцца таксама “цікавыя” звесткі пра асоб. Напрыклад, у 1740 г. хроніка кармелітаў згадвае смерць дабрадзея кляштара Лукаша Барановіча, каравульнага ВКЛ, які не толькі даў значную суму на прадукцыю цэглы на касцёл (у тастаменце запісана было 15 000 злотых, хоць кляштар атрымаў 3 000), але і сам удзельнічаў у будаўніцтве святыні – адвозіў камяні і цэглу на будову, называючы сябе “вазнічым св. Юзэфа”[29].

Згадкі пра дабрадзеяў у хроніках і іншых тэкстах (інскрыпцыях, літургічных кнігах) выконвалі амаль усе тыя ж функцыі, што і згадкі пра памерлых манахаў. У меншай меры распаўсюджвалася на іх функцыя будавання супольнай тоеснасці, хоць фігуры фундатараў кляштараў памяталіся не менш, чым першых манахаў. Функцыя ж захоўвання памяці для малітваў за душы памерлых і злучэння з імі ў агульнай супольнасці Царквы выконвалася ў поўнай меры.

## ЖАЎНЕРЫ

Кляштарныя хронікі не былі прызначаныя для апісання бітваў і смерці жаўнераў. Яны амаль не захоўваць звестак пра ваенныя падзеі ў горадзе. Аднак часамі згадваюць пра смерці жаўнераў у горадзе ў мірны ці ваенны час, хоць і не звязаную з баявымі дзеямі.

Так, напрыклад, “Дамавая гісторыя бернардзінцаў” 18 жніўня 1770 г. згадвае пра смерць у мурах кляштара Міхала Дэвіча, маёра каралеўскага войска, які знаходзіўся ў ім зняволены за злачынства. Прычынай смерці была цяжкая хвароба. У апісанні смерці манах падкрэслівае, што хвароба выклікала шмат болю і амаль давяла М. Дэвіча да шаленства. Далей зазначаецца, што па волі нябожчыка было быць пахаваным у бернардзінцаў, аднак умяшаліся дамініканцы, і цела было пахавана ў іх кляштары[30]. Такім чынам, нягледзячы на судовую справу і зняволенне, гэты чалавек разумеўся перад усім як вяльможны пан і маёр войска Рэчы Паспалітай і быў пахаваным у адпаведнасці са статусам[31].

Іншым прыкладам можа служыць смерць жаўнера расейскага войска, званага Аляксандрам (“Alexander nomine”), які блюзніў у святыні езуітаў і скакаў на магільных плітах. Аднак ён атрымаў заплату ад Нэмезіды. Калі на наступны дзень ён прыйшоў у святыню і паводзіў сябе такім жа чынам, то, паслізнуўшыся, упаў са сходаў. Падзенне аказалася няўдалым і скончылася смерцю[32].

Іншае апісанне смерці ворагаў звязана з тым, што ў верасні 1770 г. войскі маскавітаў, якія стаялі ў 9 мілях ад Горадні, пачуўшы чуткі пра канфедэрантаў, вырашылі вярнуцца ў горад. Аднак у дарозе да горада яны

захварэлі нейкай інфекцыйнай хваробай, і частка атраду ў 200 чалавек памерла ў дарозе, іншыя – у горадзе. Ніхто ж з мяшчан не захварэў[33].

Такім чынам, апісанні смерці варожых жаўнераў з'яўляюцца свайго роду ваеннымі апісаннямі, хоць сілай, якая змагалася з варожымі войскамі, былі не войскі Рэчы Паспалітай, а справядлівасць ці помста Госпада. Гэта цалкам адпавядае характару аналізаваных хронік. Апісанні гэтыя не маюць нічога агульнага з эпічнасцю. У іх не выяўляюцца рысы ваяўнічасці ці мужнасці. Акцэнты ставяцца на стаўленне да Бога ці беззаконныя дзеянні вяроў і помсту Бога за сваё імя і "свой" народ.

## МЯШЧАНЕ

Звычайныя гараджане, якія не былі дабрадзеямі кляштараў, з'яўляюцца на старонках хронік толькі ў аспекце нязвыкласці іх смерцяў.

Так, 14 красавіка 1788 г. у аптэцы на Рынку, што належала прэзідэнту горада Андрэю Сталінскаму[34], паміраюць "яго таварыш, хлопчык і слуга" ("sodalis eius, puer ac famulus"), якія пілі "poncz" (пунш) да позняй ночы, а пазней атруціліся чадным паветрам[35].

Гэтае здарэнне здавалася настолькі дзіўным, што не толькі было апісана ў хроніцы, але і суправаджалася каментаром пра яго нязвыкласць: "Non minus tragica, quam etiam stupenda omnibus contigit scaena[36]". Цікава, што выклікала такое здзіўленне аўтара і гараджан. Магчыма, прычына была ў тым, што гэтае здарэнне адбылося менавіта ў будынку аптэкі, у асяроддзі фармацэўтаў, што здавалася тым больш недарэчным. Ці здзіўленне выклікаў той выпіты алкаголь. У кожным выпадку яно трапіла ў гарадзенскую хроніку кляштарнага характару.

Знаходзяцца на старонках хронік таксама апісанні смерці, якая была вынікам злачынстваў – нападаў, разбояў, забойстваў. Прыкладам можа быць разбойнае нападзенне масквіцінаў не "нейкага рамесніка, званага Сямёнам", ноччу 1 траўня 1759 г.[37] Масквіціны напалі на гэтага рамесніка, выцягнулі яго з ложка, "не падаўшы ніякіх прычын", вывелі на плошчу і збілі. Пазней яны спрабавалі ўцячы, забраўшы жонку рамесніка, але былі схоплены і зачынены пад вартай. Пакараннем для злачынцаў было бічаванне, адразанне носа і вушэй, пасля чаго іх адпусцілі. "Названы ж рамеснік праз некалькі гадзін аддаў душу Богу".

Іншым занатаваным здарэннем было забойства нейкай удавой свайго трохгадовага дзіцяці ў тым жа 1759 г. у прыгарадзе Горадні[38]. Жанчына пазней тлумачыла, што думала, што забівае гусака. Апісанне забойства ў хроніцы паказвае, што аўтар лічыў удаву апантанай д'яблам. Ён падкрэслівае, што падчас суду жанчына не прызналася, "з чыёй намовы яна зрабіла гэтае злачынства". Удава была асуджана на смерць 4 траўня таго ж года.

Гэтыя смерці былі занатаваныя не для захавання памяці пра асобаў, якія сталіся іх ахвярамі, а пра самыя здарэнні. Гарадзенскія “кур’ёзныя смерці” складаюць толькі частку падобных згадак у хроніках. Тэксты занатоўваюць здарэнні такога плану, якія адбываліся як у іншых гарадах Рэчы Паспалітай[39], так і за яе межамі[40]. Аўтары хронік выступаюць тут як збірацелі дзіўнага і кур’ёзнага, што было ўласціва цікаўнасці чалавека ў Еўропе з канца XV ст. і да часоў Асветніцтва[41]. Такое стаўленне характэрна газетным паведамленнямі літаратуры таго часу, выяўлялася ў папулярнасці кабінетаў рэдкасцяў, якія, паводле сведчання хронік, знаходзіліся таксама ў гарадзенскіх кляштарах[42].

Такім чынам, асобы, смерці якіх адзначаныя ў хроніках, і функцыі гэтых апісанняў вельмі адрозніваюцца. Мемаратыўную функцыю выконвалі перад усім згадкі пра смерці манахаў і дабрадзеяў. Запіс імёнаў, характарыстык, апісанні смерці і пахаванняў павінны былі быць памяткай аб гэтых асобах для патомных, а таксама напамінам аб малітвах за іх. Успамін пра памерлых падчас літургіі служыў стварэнню “супольнасці святых”, аб’яднанню царквы зямной і Нябеснай. Згадкі пра знакамітых асоб, якія былі звязаныя з кляштарам – манахаў і свецкіх – служылі выпрацаванню агульнай тоеснасці групы і захаванню памяці супольнасці.

Згадкі пра смерці жаўнераў войска Рэчы Паспалітай маглі быць падобнымі да згадак пра дабрадзеяў. Аднак варта вылучыць асобна запісы пра смерці варожых ваяроў, якія былі пераможныя магутнасцю Бога. Гэтыя запісы служылі ўсхваленню Хрыста і па жанравым характарыстыкам нагадваюць апісанні цудаў.

Смерці “звычайных” мяшчан з’яўляюцца на старонках хронік, калі сам момант ці абставіны смерці былі выключнымі. Падобныя запісы адлюстроўваюць цікаўнасць да нязвыклага і кур’ёзнага. Запісы хронік служаць выразам гэтай цікаўнасці, а не інтарэсу да самых асоб, якія згадваліся ў тэксце.

---

[1] “Памяць аб айцах, якія мелі знакамітае жыццё і былі пахаваныя ў гэтай царкве” (Digon T. Chronologia // Архіў правінцыі бернардзінцаў у Кракаве (АРВКr). Ф. М, адз.з. 25, с. 327–329).

[2] Statuta generalia ordinis fratrum minorum regularis obseruantiae seraphici patris nostri Francisci: Edita in Capitulo Generalissimo celebrato Romae in conventu S. Mariae de Aracaeli die 27 Maij 1651. Roma: Ex Typographia R. Cam. Apost., 1651, §V: 1–26.

[3] “Звесткі пра братоў, якія памерлі з пункту гледжання святасці, павінны пачынацца наступным чынам. У правінцыі … у такі дзень, такі год, у такім кляштары, памёр такі брат ці сястра. Пасля вестак прыведзеных па парадку дадаецца яго/яе жыццё, верна запісанае ў гэтай кнізе наступным чынам …” (Statuta generalia OFM… § V: 5).

[4] Арнаутова Ю.Е. *Memoria*: “Тотальный социальный феномен” и объект исследования // Образы прошлого и коллективная идентичность в Европе до начала Нового времени. М., 2003. С. 27–30.

[5] Эксле О.Г. *Memoria* и мемориальная традиция в раннем средневековье // Эксле О.Г. Действительность и знание: очерки социальной истории средневековья / Пер. с нем. и пред. Ю. Арнаутовой. Москва, 2007. С. 233–269.

[6] Арнаутова Ю.Е. *Memoria*… С. 24.

[7] Эксле О.Г. *Memoria* и мемориальная традиция… С. 239.

[8] Digon T. Chronologia… P. 327

[9] Крыштоф Сцыпіё дэль Кампа (каля 1578 – 2.11.1649) – бернардзінец, тройчы правінцыял Польскай правінцыі ордэна. Уступіў у ордэн бернардзінцаў, вучыўся ў Віленскай акадэміі, Рыме, Саламанцы. Правінцыял у 1611–1614, 1620–1623, 1640–1645. Вялікае княства Літоўскае: Энцыклапедыя: у 2 т. Т. 2. Мн., 2006. С. 647–648.

[10] Гіеранім Какоўскі (1584–1653) – бернардзінец, дэфінітар польскай правінцыі, архівіст і гісторык ордэна, гвардыян пшэворскі і радамскі, надворны тэолаг караля Уладзіслава IV. (Cynarski St. Hieronim Kakowski // Polski Słownik Biograficzny (PSB). T. XI. S. 428–429; Kachel J. Bernardyni 1453–2003: kapłani i bracia zakonni prowincji polskich oraz kustodii św. Michała na Ukrainie: wydanie jubileuszowe. Cz. 3. S. 24).

[11] Cynarski St. Hieronim... S. 428–429.

[12] Kronika zakonu Bernardynów grodzieńskich z lat 1677–1783 // Dział rękopisów, Biblioteka naukowa Polskiej Akademii Umiejętności i Polskiej Akademii Nauk w Krakowie (Аддзел рукапісаў Навуковай бібліятэкі Польскай акадэміі ўменняў і Польскай акадэміі навук у Кракаве), спр. 369, арк. 11.

[13] “Многа перацярпеў розных уціскаў ад дэманаў: спаў мала гадзін, большую частку ночы праводзіў у царкве, мучыў цела сваё бічамі, пастамі, жалезным абручом і іншымі мучэннямі. А чацвёртай гадзіне пасля поўначы заўсёды з вялікай адданасцю служыў імшу, скончыўшы якую, выходзіў з кляштара і наведваў хворых, заражаных рознымі хворасцямі” (Digon T. Chronologia… P. 328).

[14] Парчэўскі Томаш (пам. у 1650), бернардзінец, гвардыян у Быдгашчы ў 1605 (?) г. Kachel J. Bernardyni 1453–2003… Cz. 4. S. 235.

[15] Digon T. Chronologia… P. 332.

[16] Kronika Bernardynów grodzieńskich… Арк. 26; Гадавыя лісты і гісторыі езуітаў // Archivum Romanum Societatis Iesu (Рымскі архіў Таварыства Ісуса). Ф. Lithuanica, адз.з. 44, арк. 333.

[17] Historia domowa klasztoru Grodzieńskiego XX Bernardynów ... od roku 1776 d. 1 Stycznia zaczęta. Księga II: 1776–1792 // Rankraščių skyriaus rinkiniai, Vilniaus Universiteto Biblioteka (Аддзел рукапісаў Бібліятэкі Віленскага універсітэта). Ф. 4, адз.з. А-391, арк. 22v.

[18] Kronika zakonu bernardynów…, арк. 223–225.

[19] Statuta generalia OFM… § V: 5.

[20] Кацярына Забакліцкая Гажубіна (Zaboklicka Gaszubina, Gażubina), жонка Яна Казіміра, гродскага суддзі, памерла 24 ліпеня 1675 г. Хроніка кляштара кармелітаў босых у Горадні // Vilnau Universiteto Mokslines Bibliotekos rankrašštų skyrius (Аддзел рукапісаў Бібліятэкі Віленскага універсітэта). F. 3–2337, арк. 9.

[21] Гажуба Ян Казімір Рымгайла (Gażuba, Gazuba, Gaszuba, Kaszuba), гербу “Порай”, гродзенскі лоўчы (1661–1679), гродскі суддзя (1677–1679), памёр 4 лютага 1679 г. Хроніка кармелітаў…, арк. 21; Boniecki A. Herbarz Polski. Warszawa, 1899–1913. T. 5. S. 396; Niesiecki K. Herbarz Polski. Lipsk, 1839. T. 4. S. 84; Urzędnicy Wielkiego Księstwa Litewskiego: spisy. Warszawa, 2003–2009. T. 2. S. 317, № 2184; S. 583.

[22] Кацярыны Каўнацкай з Бокеяў (Kownacka Bokiejówna), жонка Станіслава Каўнацкага, пам. у 1677 г. Хроніка кармелітаў…, арк. 14–14адв.

[23] Напрыклад, Historia domowa klasztoru Grodzieńskiego XX Bernardynów ... od roku 1763 D. 2 Lipca zaczęta. – Księga I: 1763–1775 // Dział rękopisów, Biblioteka Narodowa (Аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі РП). Ф. BOZ, адз.з. 1798, арк. 10адв., 37адв.; Historia

domowa… Кн. 2, арк. 14, 31адв.; Kronika zakonu bernardynów… арк. 22; Гадавыя лісты і гісторыі езуітаў…, адз.з. 49, арк. 32, 34.

[24] Арнаутова Ю.Е. *Memoria*… С. 24.

[25] Эксле О.Г. *Memoria* и мемориальная традиция… С. 255.

[26] Хроніка кармелітаў…, арк. 33.

[27] Тамсама, арк. 36адв.

[28] Dzieje kapitularne zakonnic świętej matki Brygitty konwentu grodzieńskiego / opr. M. Borkowska, K. Obremski. Toruń, 2001. S. 254–256.

[29] Хроніка кармелітаў…, арк. 28адв.–29.

[30] Historia domowa… Кн. 1, арк. 49адв.

[31] Падобна ў "Дамавой гісторыі" адзначаецца, што на бернардзінскіх могілках у 1776 г. былі пахаваныя два шляхціцы (Ян Грабскі і Вінцэнт Бараноўскі), асуджаныя на смерць Трыбуналам ВКЛ (Historia domowa… Кн. 2, арк. 4адв.).

[32] Гадавыя лісты езуітаў…, адз.з. 49, арк. 34.

[33] Historia domowa… Кн. 1, арк. 22.

[34] Андрэй Сталінскі быў уладальнікам аптэкі з 1751 г., у 1786 перапісаў яе Зузане Сталінскай (Гардзееў Ю. Магдэбургская Гародня. Гародня; Вроцлаў, 2008. С. 314). Хоць падзеі адбываюцца ў 1788 г. пасля гэтай перадачы, аднак у хроніцы яна называецца па-ранейшаму "аптэкай пана Сталінскага" ("Apotheca Domini Stolinski"). Хроніка кармелітаў…, арк. 114.

[35] Historia domowa… Кн. 1, арк. 114.

[36] "Адбылася не менш трагічная, чым дзіўная для ўсіх сцэна".

[37] Хроніка кармелітаў…, арк. 39адв.–40.

[38] Тамсама, арк. 39адв.

[39] Тамсама, арк. 48адв., 92, 99адв.

[40] Тамсама, арк. 60.

[41] Markowski M. P. Anatomia ciekawości. Kraków, 1999. S. 14–15.

[42] Historia domowa… Кн. 1, арк. 21адв.

# Горад і яго жыхары ў XIX – XX стст.

*Андрэй Вашкевіч (Гродна), Андрэй Чарнякевіч,*
*кандыдат гіст. навук (Гродна)*

## Занёманскі Фарштат Гродна ў XIX – першай палове XX ст.: эвалюцыя гарадской прасторы

*На том баку я бачу зоркі -*
*У заціўшнай, беднай нізіне*
*Уляпілі цёмныя прыгоркі*
*Раем фориітадскіе агне...*
Макар Краўцоў. Паварот да Горадна[1]

Засяленне левага берага Нёмана, які складаў частку г.зв. Занёманскага пасада Гродна, адбывалася яшчэ ў Сярэднявеччы. У крыніцах Занёманскае прадмесце неаднаразова сустракаецца як вёска Занямонне/Панямонне ці Рылаўцы. Тут валодалі пляцамі Агінскія, Патоцкія, Радзівілы, горад і Гродзенская эканомія.Аднак, фактычна, асноўная планіроўка гэтай часткі горада была закладзена толькі падчас валочнай памеры ў другой палове XVI ст.[2]

Левабярэжны Гродна першапачаткова складаўся з Рынку і шасці вуліц: Горніцкай – на паўднёвы ўсход, “маставой дарогі” – з Рынку на Нёман, Навадворскай – на паўночны захад, Адэльскай – на поўдзень, Кузніцкай – на паўднёвы захад і Лабенскай. На поўнач ад тагачаснай вул. Лабенскай знаходзіўся вялікакняскі Звярынец (цяпер частка ўзбярэжжа ніжэй Францысканскага касцёла). Акрамя таго, уздоўж Нёмана ішла вуліца Рабяёўская[3] (дарэчы, яе планіроўка прадстаўлена дастаткова дакладна ўжо на знакамітай гравюры Гродна Адэльгаўзера і Цюндта канца XVI ст.

Хутчэй за ўсё, занёманскі Рынак (зараз пляцоўка паміж былым Францысканскім кляштарам і Абласным Інстытутам павышэння кваліфікацыі настаўнікаў) у гэты час функцыянаваў у якасці галоўнай планіровачнай дамінанты. Першыя ўзгадкі пра яго сустракаюцца ў валочнай памеры Гродна 1560 – 1561 гг. Тут былі вымераны “пляцы панскія, зямянскія і раменнікаў паспалітых замкавага прысуду... для лепшага парадку на роўныя часткі... таксама каторыя здаўна пасяліліся, а са сваіх месцаў з забудовай не рушыліся”. Непасрэдна каля рынка мясціліся некалькі гарадскіх участкаў, палац вялікага літоўскага гетмана Міхала Казіміра Агінскага і фальварак айцоў-францысканцаў[4].

Калі ў сярэдзіне XVI ст. крыніцы ўзгадваюць на Занёманскім прадмесці толькі аднаго габрэя (Абрам Тудзіц, які “даўно ўжо тут жыў”), дык на 1794 г. габрэі ўжо складалі дзве траціны жыхароў Занёмання. Прыкладна тады ж тут была пабудавана г.зв.драўляная сінагога на Фарштаце (па некаторых крыніцах, сінагогу пабудаваў каля 1760 г. Бэйсам Хохесасам)[5].

Аднак, толькі тапаграфічны і дэмаграфічны аналіз левабярэжнай часткі не дае нам поўнага прадстаўлення пра яе ролю ў развіцці горада. У гістарыяграфіі яна, фактычна, апынулася па-за межамі Гродна, у баку ад галоўных падзеяў. Тым часам, дастаткова нават павярхоўнага погляду, каб зразумець, што гэта не так. Магчыма, якраз тут, на левым беразе Нёмана збудаваў свой замак Вітаўт, каб падтрымаць гродзенскі гарнізон, які знаходзіўся ў аблозе, а ўжо пазней, каля 1392 г. паўстаў крыжацкі замак Naugarden – “Новы Гродна”, які той жа Вітаўт, дарэчы, і спаліў. Верагодна, якраз адсюль, з уладанняў Яна Забярэзінскага пачынаўся мяцеж князя Глінскага. У рэшце рэшт, тая ж згаданая гравюра Адэльгаўзера і Цюнда вельмі красамоўна адлюстроўвае сапраўднае месца левабярэжнага горада ў гістарычнай прасторы[6].

Своеасаблівай мяжой у гісторыі левабярэжнага Гродна стаў канец XVIII ст., калі ўпершыню за доўгі час паўстала рэальная пагроза захавання агульнай цэласнасці горада. Гэтак, у студзені-лютым 1796 г. пасля апошняга падзела Рэчы Паспалітай распачала працу пруска-расійская дэмаркацыйная камісія. Менавіта падчас яе пасяджэнняў нямецкі бок запатрабаваў правесці новую дзяржаўную мяжу па левым беразе Нёмана да ракі Свіслач (пазней – да Панямуні), што фактычна азначала падзел Гродна. У адказ расійская дэлегацыя прапанавала правесці мяжу па Нёмане да ракі Ласосна, спасылаючыся на прывілей вялікага князя Аляксандра з 1496 г., паводле якога да Гродна належала таксама левабярэжная частка горада. У выніку ў спецыяльным мемарыяле прускія дыпламаты паведамілі пра тое, што іх урад у сувязі з добрымі адносінамі да Расіі, фармальна адмаўляецца на яе карысць ад Занёманскага прадмесця Гродна, і што мяжа павінна прайсці ад вёскі Грыбоўцы да Гродна, аднак, абыходзячы прадмесце. На гэта расійскі бок заявіў, што “прускі кароль не можа адмовіцца ад прадмесця, паколькі ён усё адно не мае на яго правоў”. У рэшце рэшт справа вырашылася шляхам асабістай перапіскі паміж М. Рэпніным і прускім каралём[7].

Прыкладна з гэтага моманту ў гістарычных крыніцах у дачыненні да левабярэжнай часткі горада пачынае сустракацца назва “Гродзенскі фарштат”, што ў перакладзе з нямецкай мовы азначала – гарадское прадмесце або слабаду. Тады ж адбываюцца значныя змены ў структуры Фарштата, а яго абшар паступова змяшчаецца на поўдзень ад старога рынка ў раён г.зв. Хлебнай прыстані. Менавіта тут, на перасячэнні шляхоў з Беластока, Лунна, Тыкоціна і Ласосна, якое стала месцам скрыжавання вуліц Ізвозчыцкай, Беластоцкай, Аўгустоўскай, Ласасянскай, Казачай, Леванабярэжнай, Індурскай і паўстае новы планіровачны цэнтр[8].



***Мост праз Нёман у раёне Францысканскага касцёла на плане 1706 г.***



***Знёманская частка горада ў 1797 г. Разам з пераносам мосту яе цэнтр змясціўся ў раён сучаснай п. Савецкіх пагранічнікаў.***

Своеасаблівай артэрыяй, якая спалучыла два Рынкі (стары Рынак каля Францысканскага кляштара, і новы – побач з прыстанню на Нёмане) стала вул. Варшаўская. Упершыню яна трапіла на план Гродна ў 1793 г. Вуліца пачыналася непадалёку ад нёманскай пераправы ў раёне Францысканскага касцёла, а яе паўночны пункт замыкала скарбовая аўстэрыя (карчма), што знаходзілася ў раёне новапаўсталай плошчы[9].

Варта яшчэ ўзгадаць пра вайсковае значэнне гэтай часткі Гродна, якое, не ў апошнюю чаргу было звязана з стратэгічнай ролю пераправы праз Нёман. Невыпадкова менавіта тут на працягу ўсяго XIX ст. і пазней знаходзіліся летнія вайсковыя лагеры расійскай арміі, будаваліся лінія земляных фартоў ды цэлая сетка вайсковых казармаў. Дарэчы, гэтае своеасаблівае "спаборніцтва" паміж дзвюма рознымі па сваёй сутнасці канцэпцыямі развіцця гэтай часткі горада – эканамічнай і вайсковай – пакінула на Фарштаце найбольшы адбітак…

Аднак, планы расійскіх уладаў па будаўніцтву ў Гродне напрыканцы XIX ст. ледзь не змянілі лёс Фарштата. Справа ў тым, што на супрацьлеглым правым беразе Нёмана ўжо напрыканцы XIX ст. стаў моцна адчувацца недахоп вольных тэрыторый для далейшага развіцця, што ў значнай ступені было абумоўлена існаваннем вялікіх прыватных зямельных абшараў (перш за ўсё уладанні князёў Друцкіх-Любецкіх). Якраз таму пры распрацоўцы планаў будаўніцтва ў Гродне ў другой палове XIX ст. галоўная роля адводзілася менавіта Фарштату. Так, у 1882 г. у Пецярбургу быў зацверджаны "План праектаванага размяшчэння губернскага горада Гродна", падпісаны міністрам унутраных спраў А.Талстым. Паводле гэтага плана, пашырэнне горада планавалася ў бок сучаснага Каложскага парка на правым беразе, а левабярэжжа павінна было цалкам змяніць сваё аблічча.

Усю гарадскую прастору планавалася пакрыць сеткай строга акрэсленых квадратных і прамавугольных кварталаў з двума плошчамі – безымennай у раёне цяперашняй плошчы Савецкіх пагранічнікаў (на ёй планавалася размясціць гандлёвыя рады) і Гур'еўскай плошчай (на поўдзень ад Францысканскага кляштара). Архітэктурнай дамінантай Фарштата павінна была стаць праваслаўная царква прыкладна ў пачатку сучаснай вул. Міра. Размешчаная ў адным квартале ад касцёла і кляштара францысканцаў яна, безумоўна, павінна была стаць ідэалагічным канкурэнтам каталіцкай святыні. Гэты план, аднак, ніколі не быў рэалізаваны, думаецца, што найперш у сувязі з тымі праблемамі, якія стварыў для горада грандыёзны пажар 1885 г.[10]

Пазней ўлады ўжо не вярнуліся да ідэі сістэмнага планавання Занёманскага фарштата. Гэты раён горада развіваўся стыхійна. Працягвалася забудова ўжо існаваўшых вуліцаў, якія паступова пераходзілі ў загарадныя тракты. Амаль што адзіным выключэннем стала пабудова ў сярэдзіне 1890-х гг. Свята-Уладзімірскай царквы. З пункту гледжання сучаснай тапаграфіі Свята-Уладзімірская царква знаходзіцца ў надзвычай няўдалым месцы – каля чыгункі, паміж двума прадпрыемствамі, амаль пад велізарным пуцеправодам. Аднак, у момант будаўніцтва царквы гэтае месца было вельмі добрым, бо запланаваны храм быў бачны з чыгункі на шляху ў Царства Польскага, і ў да таго ж знаходзіўся значна бліжэй да тагачаснага цэнтра Занёманскага фарштата, чым Францысканскі кляштар. Адначасова з новым храмам каля яго з'явілася плошча Святога Уладзіміра, якая знаходзілася ўсяго толькі ў ад-

ным квартале ад галоўнага скрыжавання вуліц Фарштата. Зразумела, што будаўніцтва Свята-Уладзімірскай царквы менавіта там, дзе яна паўстала, з тагачаснага пункту гледжання ставіла яе ў досыць добрае канкурэнтнае становішча з галоўнай рымска-каталіцкай дамінантай гэтай часткі Гродна.

Паводле “Распісання дамоў Гродны з указаннем колькасці дворнікаў”, у 1907 г. у правабярэжнай частцы горада больш чым на 60-ці вуліцах, завулках і плошчах мелі ўласнасць каля 1 тысячы чал., а на 5-ці занёманскіх вуліцах знаходзіліся землі 132 уласнікаў (пры гэтым 13 з іх мелі прозвішча Любіч)[11]. Такім чынам, на левым беразе Нёмана знаходзілася каля 11% гарадской забудовы. Калі адзначыць, што ў пералік вуліц на Фарштаце чамусьці не трапілі Хлебная прыстань, а таксама Млынарская і Леванабярэжная вуліцы, то можна дапусціць, што колькасць гродзенцаў, якія ў пачатку XX ст. жылі ў занёманскай частцы горада, складала прыблізна 15–20% ад усіх яго жыхароў.



***Забудова нёманскага ўзбярэжжа.***

Паступова занёманскі Фарштат атрымаў свой асабісты “твар”. У 1880-х – пач. XX ст. тут паўсталі некалькі вельмі цікавых узораў г.зв. “цаглянай эклектыкі”. Гэта найперш Уладзімірская царква і казарменна-складскі комплекс у раёне Хлебнай прыстані (цяпер пад пагрозай разбурэння). У 1913 – 1914 гг. на скрыжаванні сучасных вул. Савецкіх пагранічнікаў

і Гарнавых (дзе цяпер знаходзіцца транспартнае кальцо з боку будынку былой Абласной філармоніі) быў пабудаваны двухпавярховы гатэль “Надзея”, які належаў Любічам. Можна сцвярджаць, што гэты будынак быў самым завершаным і яскравым прыкладам архітэктуры мадэрну з усіх, што будаваліся ў Гродне. Ён перажыў дзве сусветныя вайны, але быў разбураны ў 1970-х гг.



***Гатэль Надзея.***

Прамысловае развіццё Фарштата было шчыльна звязана з перапрацоўкай сельскагаспадарчай прадукцыі. Магчыма, гаворка ідзе пра тую яе частку, якая першапачаткова павінна была трапіць на прычалы Хлебнай прыстані. Напрыклад, у 1869 г. 5 з 7 гродзенскіх бровараў знаходзіліся ў занёманскай частцы горада. Гэта былі бровары Міхала Роберта Турка і Лейбы Шарашэўскага на Млынарскай вуліцы, Саламона Лапіна, Янкеля Лапідуса і Яфэ ў раёне Хлебнай прыстані. Бровар Яфэ, таксама як, дарэчы, і ягоная вінакурня (таксама на Хлебнай прыстані) існавалі як мінімум да канца 1920-х гг. У тым самым 1869 г. на Занёманскім фарштаце працаваў і адзін з трох медаварных заводаў горада, які належаў Берку Лабенскаму і размяшчаўся па на вул. Беластоцкай, 28.

Самыя магутныя прадпрыемствы дрэваапрацоўчай прамысловасці Гродна таксама знаходзіліся на левым беразе ракі. Цікава, што некаторыя з іх перажылі своеасаблівую эвалюцыю, пераўтварыўшыся ў тартакі са звычайных невялічкіх млыноў. Напрыклад, на адным з малюнкаў Напалеона Орды на левым беразе ракі насупраць замкаў бачны невялікі белы будынак вадзянога млына, які належаў гродзенскім кармелітам. Каля 1884 г. на млыне быў

усталяваны паравы рухавік і апрача памолу мукі была распачатая апрацоўка дрэва. Пасля Першай сусветнай вайны прадпрыемства функцыянавала выключна як тартак аж да 1970 г., калі стары будынак згарэў, а на яго месцы быў закладзены невялікі парк[12].

Такая вялікая колькасць тартакаў у Гродне тлумачылася тым, што пачынаючы з красавіка да канца верасня па Нёмане бесперапынна сплаўлялі дрэвы з Белавежскай пушчы ва Усходнюю Прусію або нават Кранштат. Пасля таго, як праз горад прайшла чыгунка, лес стала выгодна часткова апрацоўваць тут і адпраўляць яго ў бліжнія прамысловыя гарады, напрыклад, Беласток. Паколькі ў Беластоку не было сплаўной ракі, то кубічная сажань дрэва ў Гродне каштавала на 30% танней, чым у Беластоку[13]. Існавала яшчэ асобная Лясная прыстань (для таварнага дрэва), якая, аднак, лічылася не самай лепшай, з-за вельмі крутых берагоў ракі[14].

Цікавая гісторыя звязаная з абставінамі пераносу на Занёманскі фарштат іншага прадпрыемства – гродзенскай тытунёвай фабрыкі. Яшчэ ў 1911 г. на Занёманскім прадмесці пачала дзейнічаць тытунёвая фабрыка “Нёман”, уласнікамі якой былі Рып, Франк і Маркусевіч, якая павінна была стаць канкурэнтам тытунёвага гіганта Гродна, а менавіта фабрыкі Шарашэўскага. Аднак, канкурэнцыі яна не вытрымала, і ўжо ў 1912 або 1913 гг. была прададзена таму ж Шарашэўскаму.

Двухпавярховы будынак гэтай фабрыкі ў канцы 1920-х гг. стаў асновай для развіцця тытунёвай вытворчасці ў занёманскай частцы горада. У пачатку 1920-х гг. Польская дзяржава ўвяла ў краіне манаполію на тытунёвую, спіртавую і запалкавую вытворчасць. Усе прыватныя прадпрыемствы тытунёвай галіны вытворчасці павінны былі быць выкуплены з дапамогай спецыяльна для гэтага створанай Дзяржаўнай тытунёвай манаполіі. У выніку, у 1924 г. фабрыка Шарашэўскіх была выкуплена ўрадам за 2,7 мільёнаў злотых[15].

Паколькі існаванне ў самым цэнтры горада вялікай тытунёвай вытворчасці ўжо ў тыя гады лічылася неэкалагічным, яе вырашана было перанесці за раку, дабудаваўшы новыя карпусы да будынка былой фабрыкі “Нёман”. У канцы 1920-х гг. там была ўзнесена новая Махарчарня. Праз некалькі гадоў каля Махарчарні на былым Занёманскім рынку пабудавалі склад для тытуню (такі ж самы будынак складу захаваўся на тэрыторыі марскога порта ў Гдыні).

Дарэчы, перанос тытунёвай вытворчасці паспрыяў з’яўленню ў левабярэжным Гродне электрычнага асвятлення. У 1928 г. тытунёвая фабрыка атрымала першы ток з электрастанцыі на вул. Ягелонскай (сёння вул. Будзёнага). Паралельна былі пабудаваныя дзве падстанцыі (адна непасрэдна каля фабрыкі і другая каля сучаснага басейна “Лазурны”, дзе яна яшчэ захавалася)[16].



*Будынак падстанцыі міжваеннага часу.*

Адсутнасць агульнага плана будаўніцтва ў левабярэжнай частцы горада ўжо на пачатку XX ст. прывяла да значных дыспрапорцый у ягонай структуры. Нягледзячы на тое, што прамысловасць занёманскага Фарштата была ў параўнанні з прабярэжным Гроднам не такой ужо і малой, гарадская інфраструктура тут развівалася вельмі марудна. Так, у 1882 г. на Фарштаце была толькі адна аптэка, а аптэчная крама з'явілася тут напачатку XX ст. Толькі каля 1904 г. за Нёманам пасяліўся першы вольнапрактыкуючы ўрач. Каля 1912 г. на Беластоцкай вул. з'явілася першая фотамайстэрня (належала Краўзэлю), а прыкладна праз год – першы гатэль, ужо згаданая вышэй "Надзея".

Вось, як узгадваў Фарштат адзін з ягоных тагачасных жыхароў Баляслаў Грабінскі: "Касьцёл з кляштарам, як і цэлы Фартштат, месьціліся на высокім беразе, за выняткам малой вулічкі, якая нанізе на поўнач ад Францішканаў вяла ўздоўж Нёмана да фальварка Хлявінскага. Кляштар быў абведзены высокім мурам разам з садам, гаспадарчым будынкам і вялікім падворышчам. Францішканы былі ўласьнікамі фальварку ў некалькі вёрстаў на захад ад Горадні пры Асавецкай шашы. Фартштат у тым часе меў, за выняткам успомненай вулічкі нанізе, толькі адну вуліцу — нагарэ, раўналежную, ад Нёмана на поўдзень ад Францішканаў з мастом над дарогаю з Асавецкае шашы на мост праз Нёман. Пры гэтай вуліцы стаяла сынагога... дзераўляная, з асаблівай архітэктурай. Фартштат розьніўся ад гораду, быў падобны да малых мястэчкаў на Беларусі. Тады як у Горадні каталіцкая інтэлігенцыя гаварыла па-польску, праваслаўная — па-расейску, жыды — ламанаю расейскаю моваю, Фартштат гаварыў па-беларуску. Было там пару жыдоўскіх хатаў, дзе гаварылі па-жыдоўску й па-беларуску тож"[17].

Такім чынам, напярэдадні Першай сусветнай вайны на Фарштаце знаходзілася адна з 17-ці гасцініц, тры з амаль сарака вольнапрактыкуючых урачоў, адна з шасці аптэк і адна з 16-ці аптэкарскіх крамаў. З навучальных устаноў функцыянавала царкоўна-прыходское вучылішча пры Уладзімірскай царкве. Ніякіх дзяржаўных устаноў, кнігарняў, лячэбных установаў або

банкаў тут не было. Адзіным грамадскім інстытутам, размешчаным на левабярэжжы, было Таварыства дапамогі бедным габрэям на Фарштаце “Ахіезэр”. Таварыствам кіравалі багацейшыя жыхары Фарштата. Старшынём з’яўляўся ўладальнік млыноў на Ласосне і дома на вул. Беластоцкай Ашэр Касоўскі[18].

Пашырэнне Фарштата можна прасачыць праз павялічэнне колькасці вуліц. У 1860 г. тут знаходзіліся Беластоцкая, Луненская, Рэзніцкая (або Мясніцкая), Францысканская і Лабенская вуліцы[19]. У 1915 г. вуліцы Занеманскага фарштата мелі наступныя назвы: Леванабярэжная, Аўгустоўская, Ласасянская, Індурская, Казачая, Беластоцкая, Мясніцкая, Аўгустоўскі 1-ы і 2-і завулкі, Свята-Уладзімірская плошча, Возчыцкая вуліца, Казачы завулак, Млынарская вуліца, Папоўка, Хлебная прыстань, Фарштацкая слабодка, Францысканскі завулак.

Забудова Фарштата амаль не пацярпела падчас баявых дзеянняў Першай сусветнай вайны. Затое падчас савецка-польскай вайны баявыя дзеянні двойчы пракаціліся праз Гродна летам-восенню 1920 года. Як бачна на тагачасных фотаздымках, падчас баёў згарэла частка шараговай забудовы Фарштата і, што аказалася найбольш балюча для горада, былі знішчаны ўсе гужавыя і адноўлены немцамі ў 1916 г. чыгуначны мост. Фарштат ізноў аддзяліўся ад асноўнай часткі горада вялікай ракой.

Часам найбольш імклівага развіцця Фарштата сталіся 1920 – 1930-я гг. У гэты час ён выйшаў па-за свае сярэднявечныя межы і пачаў хутка развівацца ва ўсе бакі. У 1928 г. Занёманскае прадмесце (так у афіцыйных дакументах міжваеннага часу пачаў называцца Фарштат) яшчэ функцыянавала галоўным чынам у межах перадваеннага часу. Галоўнымі вуліцамі былі Ліповая (Гарнавых), Аўгустоўская, Беластоцкая, Ласасянская і Млынарская, аднак, цэнтр Прадмесця эвалюцыянаваў у бок Занёманскага рынка і тытунёвай фабрыкі каля яго. Ужо з’явіліся перпендыкулярна вул. Ласасянскай г.зв.“Новыя Валоданні” (*Nowa Posiadłość*) на поўдзень ад школы імя Стэфана Жэромскага[20].

На плане 1932 г.упершыню пазначаныя вуліцы, якія прымыкалі да вул. Эканамічнай (цяпер Нікалаева) – Мігоўская, Мазавецкая, Вігерская, Адэльская і інш. У гэтым накірунку горад даходзіў да фанернай фабрыкі Браўна (цяпер на вул. Суворава). З’яўляюцца некалькі вуліцаў, што падыходзяць да чыгункі, напрыклад вул. Скосная[21].

Да 1937 г. горад ужо злучаецца з станцыяй Ласосна (каля дзесяці невялікіх вуліц), утвараючы суцэльную з ёй агламерацыю. Трэба адзначыць, што значэнне станцыі Ласосна ў міжваенны час было значна большае, чым цяпер, паколькі да 1925 г. чыгуначны мост яшчэ не быў адноўлены і пасажырскія цягнікі ў Гродна (і далей на Вільню), хадзілі толькі да Ласосны. Пасажырам, каб працягнуць падарожжа, трэба было ехаць праз увесь горад дарожкай.

Фактычна, толькі пасля аднаўлення моста, ужо бліжэй да сярэдзіны 1930-х гг. на Ліповай вуліцы пачалі з’яўляцца мясныя крамы, пякарні, крамы з гароднінай, шынкі і цырульні, што паспрыяла яе ператварэнню ў галоўную артэрыю гродзенскага левабярэжжа[22].

Паводле плану 1937 г., новымі вуліцамі злучыліся Эканамічная і Ласасянская, утварыўшы раён “Агароды” (*Osiedle Ogrody*). Тут з’явіліся вуліцы Лелявеля, Райгарадская, Глогера, Падляская, якія існуюць дасюль амаль не змяніўшы характару сваёй прыватнай забудовы і толькі ў некаторых выпадках змяніўшы назвы[23]. Напярэдадні Другой сусветнай вайны з’явілася г.зв. калонія Палестына (пазначана на карце 1943 г.) і некалькі вулачак за чыгункай у бок францысканскіх могілак[24].

Значна ўзрасла роля Занёманскага прадмесця і як прамысловага цэнтра. У дадатак да згаданых прадпрыемстваў у міжваенны час тут з’явіліся малаказавод, гарбарня, з 1922 г. дзейнічала невялікая шкляная гута. Увесну 1939 г. у раёне вул. Беластоцкай было запланавана будаўніцтва вялікага шклозавода[25]. Для пабудовы шклозавода быў нават выдзелены кавалак зямлі плошчай у 1 га. У 1938 г. на закупленым у войска кавалку зямлі па вул. Індурскай пачалося будаўніцтва элеватара, які мог змяшчаць да тысячы тон збожжа[26].

Паколькі абшар прадмесця імкліва павялічваўся, то расла і колькасць школьнікаў. У 1938 г. у школе імя С. Жэромскага вучылася ўжо 1280 дзяцей, і яе нават прыйшлося падзяліць на дзве. Абедзве ўстановы размяшчаліся ў адным будынку, што зусім не задавальняла бацькоў. У кастрычніку 1938 г. жыхары левабярэжжа звярнуліся да гарадскіх уладаў з просьбай пабудаваць на прадмесці яшчэ адну школу[27]. У мемарыяле адзначалася, што насельніцтва прадмесця складае бадай што 1/3 усяго насельніцтва горада, а школа там толькі адна, з-за чаго больш за 500 дзяцей вымушаны хадзіць у школу праз



***Школа імя Стэфана Жэромскага.***

Нёман. Літаральна праз некалькі дзён уладальнік часткі маёнтка Аўгустова Маўрыцый О'Брыен дэ Ласі выдзяліў пад будаўніцтва новай школы 1 гектар зямлі на вуліцы Ласасянскай[28]. Школу планавалася ўзвесці ў 1939 – 1940 гг. Ці паспелі пачаць будаўніцтва,невядома.

Усе міжваенныя гады на прадмесці функцыянавала Занёманскае дабрачыннае таварыства, якое цягам 1930-х гг. вяло будаўніцтва дзіцячага дома на рагу вуліц Лелявеля і Аб'яздной[29].

Імклівае развіццё Занёманскага прадмесця як суцэльнай часткі Гродна было перарвана 22 чэрвеня 1941 г., калі ў выніку нямецкай бамбардзіроўкі поўнасцю згарэла тэрыторыя навокал сучаснай плошчы Савецкіх пагранічнікаў.

Пасля 1944 г. левабярэжжа горада развівалася ўжо па зусім іншых законах. Ніводная частка былога Занёманскага фарштата не ўваходзіць сёння ў фармальныя межы гістарычнага цэнтра Гродна і не знаходзіцца пад аховай ні ў плане археалагічным, ні ў плане архітэктурным. У рэспубліканскім спісе гісторыка-культурных каштоўнасцей на занёманскую частку горада прыходзіцца ўсяго некалькі аб'ектаў (Свята-Уладзімірская царква, Францысканскі касцёл і кляштар, карчма і капліца ў Аўгустоўку). Не выклікае, аднак, сумнення, што багатая гісторыя Занёманскага фарштата заслугоўвае на тое, каб "пачаць прысутнічаць" не толькі ў свядомасці гісторыкаў, але таксама стаць асновай для развіцця турыстычнага і рэкрэацыйнага патэнцыялу нашага горада.

---

[1] Звон. 19 кастрычніка 1919. № 27.

[2] Больш падрабязна на тэму левабярэжнай часцы Гродна ў познім Сярэднявеччы і Новым часе гл. артыкул П.Баровіка // P.Borowik. Lewobrzeżne Grodno w XIV-XVIII w. Stan wiedzy i postulaty badawcze // Gryfita. 1999.№ 20/21.

[3] Писцовая книга Гродненской экономии. Вильно, 1882. С. 56–64.

[4] Гардзееў Ю. Магдэбургская Гародня. Гародня-Вроцлаў, 2008. С. 207–211.

[5] Сінагога знаходзілася на ўзвышшы на сучаснай вул. Дарвіна і мела традыцыйную прамавугольную форму. Асноўны аб'ём завяршаўся г.зв "ламаным" дахам у некалькі ярусаў. Галоўны фасад фланкіравалі дзве вежачкі з чатырохскатнымі купаламі. Сінагога згарэла 22 чэрвеня 1941 г.

[6] Відавочна таксама, што далейшы разгляд гэтага пытання патрабуе больш грунтоўнага аналіза гісторыі гродзенскіх мастоў, прычым у сацыяльна-тапаграфічным вымярэнні.

[7] Żytkowicz L. Rządy Repnina na Litwie w latach 1794-1797. Wilno, 1938. str. 29-31.

[8] Скрыжаванне сённяшніх вуліц Савецкіх Пагранічнікаў, Курбатава, Шчаснага ды Новакастрычніцкай.

[9] План горада 1795 г. паказвае рэгулярную, шчыльную забудову абодвух вулічных бакоў. Наогул, для вуліцаў Занёманскага прадмесця была характэрнай драўляная забудова. У 1790 г. на прадмесці стаяла 70 габрэйскіх дамоў, 65 дамоў хрысціянскага насельніцтва, 11 заезных дамоў і 6 дворыкаў: вялікага літоўскага гетмана Міхала Казіміра Агінскага на Рынку, рэчыцкага харунжага Тадэвуша Даўнаровіча на Лабенскай вул., ксяндза Кажанецкага, ваўкавыскага скарбніка Дзяконскага і Яна Фрыдрыха на Рабяёўскай вул.

[10] Копія плана 1882 г. знаходзіцца ў архіве аўтараў.

[11] Росписание домов города Гродны с указанием числа дворников, должных быть в них. Гродна: Губернская типография, 1907.

[12] Згаданы тартак спачатку быў уласнасцю Ландаў, пасля перайшоў да Калецкага. У 1920-х гг. на левабярэжжы знаходзіліся тры з шасці тартакаў Гродна: тартак “Сасна” (у раёне сучаснай мэблевай фабрыкі), тартак “Гершуны” на Збажовай вул. і тартак “Лес”, які належаў акцыянернаму таварыству Калецкага.

[13] Диков П. О лесах Гродненской губернии // Памятная книжка Гродненской губернии на 1883 год. Гродно, 1882. С.13.

[14] Тамже. С. 20.

[15] Гэтаксама былі выкуплены яшчэ тры тытунёвыя фабрыкі, якія размяшчаліся ў Гродне – фабрыка „Стамбул” на Баніфратэрскай вул. і фабрыкі Кагана і Стралецкага на вул. Ерусалімскай і Парахавой. Усе яны былі аб’яднаныя пад назвай „Дзяржаўная фабрыка тытунёвых вырабаў у Гродне”.

[16] Tomaszewicz Z. Rozwój elektrowni miejskiej w Grodnie // Niemen. 1939. №1. S. 23 – 24.

[17] Грабінскі Б. Сакольшчына-Горадня-Вільня // ARCHE. 2000. № 5. С. 198.

[18] Адрес-календарь и справочная книжка Гродненской губернии на 1912 год. Гродна, 1911. С. 153.

[19] Памятная книжка Гродненской губернии на 1860 год. Гродно, б.г.в. С. 127

[20] Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей (далей – ГДГАМ). Адзінка захоўвання КП – 29753.

[21] ГДГАМ. Адзінка захоўвання КП – 87185.

[22] Kalendarz Informacyjno Prapagandowy Polskiego Stanu Posiadania w Grodnie i Grodzienszczyźnie. Grodno, 1938.

[23] Копія плана Гродна 1937 г. знаходзіцца ў архіве аўтараў.

[24] У гады вайны працягвалі ўзмацняцца сувязі новых вуліц занёманскай часткі горада з асноўнай часткай Занёманскага фарштата. Напрыклад, быў зроблены падземны пераезд пад чыгункай у раёне сучасных вуліц Скоснай і Матросава, цяпер засыпаны зямлёю (гл. Заросла народная тропа // Вечерний Гродно. 2012. 28 марта).

[25] Dziennik Kresowy. 1939. 18 marca.

[26] Budowa wielkiego elewatora zbożowego w Grodnie // Dziennik Kresowy. 1938. 25 sierpnia.

[27] Staranie Przedmieścia o budowę nowego gmachu szkolnego // Dziennik Kresowy. 1938. 21 października.

[28] Hojny dar Pana Maurycego O’Brien de Lacy // Dziennik Kresowy. 1938. 3 listopada.

[29] Budowa Domu Dziecka przez Zaniemeńskie Towarzystwo Dobroczynnośći // Dziennik Kresowy. 1938. 16 lipca.

***Аляксандр Радзюк,***
***кандыдат гіст. навук (Гродна)***

# Гарадзенцы пад наглядам паліцыі ў першай палове XIX ст.

У першай палове XIX ст. у прававой сістэме Расейскай імперыі досыць шырокае распаўсюджанне атрымаў інстытут персаніфікаванага паліцэйскага нагляду. Аб гэтым, між іншым, сведчаць шматлікія ведамасці паднаглядных асобаў, якія досыць шырока прадстаўленыя ў архівах. У сувязі з гэтым узнікаюць пытанні аб тым, што ўяўляў сабой інстытут паліцэйскага нагляду ў тыя часы? У якіх выпадках і ў адносінах да якіх катэгорый грамадзян ён выкарыстоўваўся? Хто з гарадзенцаў і за што трапіў пад гэты нагляд? Ці вылучаюцца нейкія асаблівасці і заканамернасці практыкі нагляду ў Горадні? На гэтыя і іншыя пытанні паспрабуем адказаць у дадзеным артыкуле.

Энцыклапедыя Бракгаўза і Эфрона дае дуалістычнае вызначэнне паліцэйскага нагляду. Па-першае, гэта дадатковая карная мера, якая стасавалася ў адносінах да віноўных у некаторых злачынствах, пераважна палітычных. Па-другое, гэта адміністрацыйная мера ў дачыненні да асобаў, нядобранадзейных у палітычных адносінах[1]. Гэты інстытут першапачаткова актыўна распрацоўваўся прававымі сістэмамі розных краін Заходняй Еўропы, адкуль ён і быў запазычаны. Калі на Захадзе дадзеная мера выкарыстоўвалася ў асноўным у дачыненні да асобаў, якія ўжо адбылі пакаранне за здзяйсненне крымінальнага злачынства[2], то ў Расейскай імперыі дадзены від спагнання атрымаў новае напаўненне. Аналіз спісаў асобаў, што знаходзіліся пад кантролем з боку паліцэйскіх уладаў на тэрыторыі Гарадзеншчыны (як, дарэчы, Міншчыны і Віленшчыны) сведчыць, што ў большасці выпадках яны траплялі туды па пэўных палітычных падставах.

Менавіта ў першай палове XIX ст., больш дакладна ў часы праўлення Мікалая I інстытут паліцэйскага нагляду набыў функцыю абароны існаваўшага палітычнага рэжыму ад розных сацыяльна-палітычных праціўнікаў як унутры, так і па-за межамі імперыі. Гэтая мера з’яўлялася складовай працэсаў бюракратызацыі, цэнтралізацыі і ваенізацыі, якія разглядаліся царызмам у той час у якасці эфектыўных сродкаў па барацьбе з іншадумствам і нацыянальна-вызваленчым рухам дзеля ўмацавання самадзяржаўя[3].

Аналіз разнастайных распараджэнняў і цыркуляраў сведчыць аб пэўнай эвалюцыі інстытута паліцэйскага нагляду ў першай палове XIX ст. і яго спецыфіцы ў нашым рэгіёне. Пачаць варта з таго, што паводле Указа ад 29 чэрвеня 1822 г. Аляксандр I перадаў пад вярхоўнае кіраванне

вялікага князя Канстанціна Паўлавіча 5 заходніх губерняў (у тым ліку Гарадзенскую, Віленскую і Менскую)[4]. У сувязі з гэтым у 20-я гады XIX ст. менавіта цэсарэвіч быў той інстанцыяй, ад імя якой дадзены від спагнання прызначаўся тым ці іншым асобам. Таксама неабходна падкрэсліць ролю, якую адыгрываў у гэтай справе тагачасны куратар Віленскай навучальнай акругі сенатар Мікалай Навасільцаў. Меркаванне апошняга з'яўлялася абавязковым элементам у справе вызвалення з-пад нагляду асобаў, якія праходзілі па справах аб тайных таварыствах. А менавіта яны складалі значны адсотак тых, каго пільнавала паліцыя.

Акрамя Канстанціна Паўлавіча правам прызначаць паліцэйскі нагляд валодалі сам імператар (як непасрэдна асабістым рашэннем, так і праз зацвярджэнне канфірмацыі той ці іншай следчай камісіі), галоўнакамандуючы дзеючай і рэзервовай арміяй, генерал-губернатар, Сенат і некаторыя іншыя вышэйшыя асобы і органы імперыі. Дыскусійным застаецца пытанне аб паўнамоцтвах мясцовых губернатараў. З аднаго боку, у спісах асобаў, што знаходзіліся пад наглядам, досыць часта можна сустрэць фармулёўку "па прадпісанні начальніка губерні". Але разам з тым, гэты факт не з'яўляецца сведчаннем таго, што яны трапілі ў лік паднаглядных з яго ініцыятывы. У большасці падобных выпадкаў губернатар выступаў пасрэднікам паміж ніжэйшымі паліцэйскімі інстанцыямі і воляй вышэйшага начальства. З іншага боку, вядомы прыклад таго як гарадзенскі губернатар Міхаіл Мураўёў выступіў ініцыятарам тайнага нагляду паліцыі над стацкім саветнікам і буйным латыфундыстам Войцахам Пуслоўскім. Рэзананс гэтага загаду дайшоў нават да імператара. Ніякія апраўданні М. Мураўёва не былі ўзятыя пад увагу, і ён з адабрэння шэфа жандараў А. Бенкендорфа атрымаў вымову ад віленскага генерал-губернатара[5].

Таксама пад нагляд паліцыі ў той час можна было патрапіць па распараджэнні судовых органаў. Ва "Улажэнні аб пакараннях крымінальных і выпраўляючых" 1845 г. гэтая мера была замацавана ў якасці дадатковай за здзяйсненне шэрагу злачынстваў крымінальнага характару. Асаблівасцю Горадні ў параўнанні з іншымі гарадамі і ўездамі губерні, быў вельмі малы адсотак асобаў, якія трапілі пад паліцэйскі кантроль падобным чынам. У тым жа Бельскім альбо Беластоцкім уездах дадзеная катэгорыя паднаглядных выразна дамінавала. Згодна з пастановай органа, які разглядаў тую ці іншую справу, нагляд у падобных выпадках вызначаўся на пэўны тэрмін (звычайна да пяці год). У тым жа выпадку, калі азначаная мера прызначалася непасрэдным распараджэннем начальства, яна не мела нейкіх часовых рамак.

Дадзены інстытут прадугледжваў персаніфікаваны нагляд за той ці іншай асобай, але патрапіць пад яго дзеянне можна было і за прыналежнасць да пэўнай сацыяльнай, прафесійнай, рэлігійнай ці нацыянальнай супольнасці людзей. Справа ў тым, што ва ўмовах паступовага ўзмацнення сістэмы ўсебаковага дзяржаўнага кантролю за жыццём грамадзян, улады

ў залежнасці ад палітычнай сітуацыі выдавалі загады аб пашырэнні дадзенай паліцэйскай меры на цэлыя групы людзей. Так было, напрыклад, напрыканцы 1830 г., калі ў сувязі з пачаткам паўстання ў суседнім Каралеўстве Польскім галоўнакамандуючы дзеючай арміяй Дзібіч-Забалканскі прасіў гарадзенскага губернатара ў прэвентыўных мэтах узяць пад паліцэйскі нагляд усіх студэнтаў Віленскага універсітэта, якія выехалі дахаты на калядныя вакацыі[6]. Дарэчы, пазней падобным чынам пастипаў кіеўскі генерал-губернатар Дз. Бібікаў, суправаджаючы кожны дазвол паездкі студэнту ці вучню Кіеўскай навучальнай акругі на вакацыі распараджэннем сачыць за яго паводзінамі і ладам жыцця[7].

У розныя часы азначаная мера на нашых землях стасавалася таксама ў адносінах да афіцэраў, што звальняліся з вайсковай службы[8], а таксама вайскоўцаў у адпачынку[9], замежнікаў[10], раскольнікаў, усіх тых, хто вяртаўся з ссылкі адпаведна царскаму маніфесту 1856 г. Цікава, але на асобаў, якія ў адпаведнасці з гэтай жа царскай ласкай атрымалі дазвол прыехаць на радзіму з эміграцыі, падобны інстытут кантролю не распаўсюджваўся. І тут даходзіла да парадаксальных рэчаў. Напрыклад, Напалеон Орда пасля вяртання з Францыі не быў падвергнуты нейкім абмежаванням, а яго маці да самой смерці знаходзілася ў полі зроку паліцыі за выкрытую яшчэ ў 30-я гады “перапіску са злачынным сынам сваім”.

Але найчасцей паліцэйскі нагляд на беларускіх землях быў выкарыстаны супраць медыкаў і ветэрынараў. Так, у сувязі з следствам па справе тайнага “Дэмакратычнага таварыства” ў сценах Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі ўсе выпускнікі гэтай навучальнай установы (з 1835 па 1840 г. уключна), паводле рашэння адмысловай камісіі Кавеліна і па канфірмацыі імператара былі аддадзены пад тайны паліцэйскі нагляд[11]. Агульная лічба былых студэнтаў за гэты прамежак часу складала некалькі соцень чалавек.

Для асоб, што траплялі пад дзеянне азначанай меры, гэта ў першую чаргу азначала абмежаванні ў свабодзе перамяшчэння. У розныя часы тут дзейнічалі розныя правілы, але сутнасці самога інстытута гэта не змяняла. Так, у 20-я гады XIX ст. ні губернатар, ні нейкія іншыя чыны царскай адміністрацыі не мелі права выдаваць пашпарты на праезд нават у суседні ўезд асобам, якія былі ў спісе паднаглядных. Прэрагатыва ў гэтым пытанні належала выключна цэсарэвічу Канстанціну Паўлавічу, які ў сваіх рашэннях адносна той ці іншай асобы цалкам давяраў меркаванню Мікалая Навасільцава[12]. А каб выехаць у адну з дзвюх сталіц імперыі падобная асоба павінна была мець дазвол самога імператара[13].

У 30-40-я гады XIX ст. бюракратычны ланцужок працэдуры выдачы пашпартоў паднаглядной катэгорыі грамадзян зведаў некаторыя змены. У 1844 г. ён выглядаў ужо наступным чынам: для кожнай паездкі ў іншы ўезд губерні патрэбны быў дазвол губернатара, а для вандроўкі ў іншую губерню – Віленскага генерал-губернатара. Пры гэтым усе асобы дадзенай

катэгорыі павінны былі пісьмовымі падпіскамі запэўніць, што без адпаведнага дазволу ўладаў яны не будуць пакідаць месца свайго сталага жыхарства[14]. За парушэнне азначаных абавязацельстваў, такі чалавек мог быць прыцягнуты да крымінальнай адказнасці ў выглядзе кароткатэрміновага турэмнага зняволення[15].

Асобна ў гэтым пераліку распараджэнняў стаяць імператарскія ўказы па гэтым прадмеце, што датуюцца 1849 г. Як вынікае са зместу адпаведнай справы, у ліпені месяцы гэтага года Мікалай І сваім указам забараніў паднаглядным асобам пераязджаць з адной губерні ў іншую ў межах усёй імперыі. Праўда, ужо ў кастрычніку ён адступіўся ад свайго рашэння, дазволіўшы ўсім тым, “хто знаходзяцца ў імперыі пад наглядам паліцыі карыстацца даравнымі правамі вольнага праезду з адной губерні ў іншую па ранейшых правілах”. Адзінае выключэнне з гэтай ласкі складалі жыхары нашага краю: “акрамя тых толькі, якія знаходзяцца на жыхарстве ў Заходніх губернях”[16] (*падкрэслена ў тэксце – А.Р.*). Калі была адменена гэтая дыскрымінацыя на нашых землях, выявіць не ўдалося.

Аналіз прававой практыкі ўжывання дадзенай меры пакарання выявіў пэўныя супярэчнасці ў пытанні дазволу паднаглядным прымаць удзел у дваранскіх выбарах, а таксама рэалізацыі свайго права на службу ў органах дзяржаўнага і мясцовага кіравання. Аўтар тэксту ў энцыклапедыі Бракгаўза і Эфрона, характарызуючы гэты інстытут, сцвярджаў, што адной з яго праяваў з’яўляюцца разнастайныя абмежаванні, у тым ліку і недапушчэнне да дзяржаўнай альбо грамадскай службы, забарона ўдзельнічаць у розных таварыствах і г.д.[17] І сапраўды, у справах за розныя гады гэтаму сцвярджэнню можна знайсці не адно пацверджанне. Так, згодна з распараджэннем вялікага князя Канстанціна ад 11 сакавіка 1828 г. усе выкрытыя ўдзельнікі тайных таварыстваў, што знаходзіліся пад наглядам паліцыі, павінны былі быць адхілены ад сваіх пасадаў[18]. У розных дакументах за той перыяд можна знайсці шмат прашэнняў з просьбамі аб вызваленні ад азначанай меры у сувязі з жаданнем паднаглядных паступіць на службу, альбо скаргі на тое, што нехта ўжо пасля абрання на нейкую пасаду не быў на ёй зацверджаны начальствам. Таксама ў прысудах па справах эмісараў 1833 г. можна сустрэць фармулёўкі аб аддачы той ці іншай асобы “пад паліцэйскі нагляд, з тым каб, не яна была дапушчана да дзяржаўнай службы аж да пазітыўнага рашэння мясцовага начальства”[19]. У 1848 г. у Гарадзенскай губ. у спісе тых, каму забаранялася паступаць як на дзяржаўную так і на службу па выбарах дваранства па палітычных прычынах, фігуравала 56 чалавек. Усе яны знаходзіліся пад паліцэйскім наглядам[20]. Акрамя таго, усім падобным людзям забаранялася прымаць удзел у дваранскіх выбарах, што наносіла балючы ўдар па гонару некаторых з іх.

З іншага боку, вывучэнне шматлікіх спісаў паднаглядных, а таксама іх фармуляраў па службе сведчыць аб тым, што пераважная іх большасць

працягвалі сваю чыноўніцкую кар'еру, а іх паднаглядны стан не перашкаджаў прасоўванню па службовай лесвіцы, атрыманню чарговых чыноў і ўзнагародаў. Відавочна, што праблема патрабуе далейшага вывучэння.

Таксама варта зазначыць, што ў тыя часы існавалі два віды паліцэйскага нагляду: сакрэтны (*секретное, неофициальное наблюдение*) і ўласна паліцэйскі нагляд (*официальный надзор*). Несумненна, найбольш пашыраным з'яўляўся апошні. Нягледзячы на тое, што згадкі аб сакрэтным наглядзе сустракаюцца ўжо ў 20-я гады, фактычна, да пачатку 40-х гадоў XIX ст. органы адказныя за яго ажыццяўленне, а таксама вышэйшыя ўлады, якія давалі распараджэнні па гэтым пытанні, досыць часта іх блыталі, не робячы паміж імі ніякай розніцы. Толькі генерал-губернатар Фёдар Мірковіч паспрабаваў увесці пэўную аднастайнасць (хоць і сам не вылучаўся тут паслядоўнасцю). Адразу пасля заняцця гэтай пасады ён напісаў губернатарам падуладнай яму тэрыторыі, што ў спісах, якія накіроўваліся на яго імя, памылкова разам падаюцца прозвішчы тых, хто знаходзіўся, як пад афіцыйным, так і пад сакрэтным наглядам. Закранутая праблема напэўна выклікала шмат непаразуменняў і пытанняў, таму што ў далейшым яму неаднаразова даводзілася тлумачыць, у чым крыецца розніцца паміж імі.

Як вынікае з прадпісанняў Ф. Мірковіча сутнасць неафіцыйнага нагляду заключалася ў тым, каб паліцэйскія і "давераныя тайныя агенты" сачылі за паднагляднымі так, каб тыя "ніякім чынам не маглі даведацца аб прынятай супраць іх па волі ўраду меры перасцярогі". Дзеля захавання поўнай канспіратыўнасці генерал-губернатар нават раіў усю перапіску аб падобных асобах весці ўласнаручна паліцмайстрам, а не перадаручаць каму-небудзь[21].

Разам з тым, нягледзячы на праведзеную вышэйшым начальствам тлумачальную работу, мясцовыя чыноўнікі і надалей працягвалі блытаць азначаныя віды нагляду. У якасці прыкладу тут можна прывесці выпадак, калі ў 1844 г. гарадзенскія ўлады абавязалі ўсіх тых, хто знаходзіўся пад сакрэтным наглядам, даць падпіскі, якія забаранялі ім выезд без дазволу паліцыі[22]. У сувязі з падобнымі непаразуменнямі, даследчыкам даволі складана выявіць, пад якім відам нагляду знаходзілася тая ці іншая асоба. Напрыклад, выпускнікі Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі звычайна ўносіліся ў агульную ведамасць паднаглядных, хаця імператарскім прадпісаннем было загадана мець за імі сакрэтны нагляд. Таксама былі выпадкі, калі ўлады даючы згоду на вызваленне з-пад афіцыйнага нагляду, загадвалі паліцыі працягваць трымаць у полі зроку тую ці іншую асобу, але ўжо сакрэтным (неафіцыйным) чынам[23].

Пры ажыццяўленні абодвух відаў паліцэйскага нагляду яго выкананне ўскладвалася на тыя ж самыя органы ўлады. У гарадах гэта былі паліцмайстры ці гараднічыя, у сельскай мясцовасці – земскія спраўнікі. Апошнія частку сваіх абавязкаў перакладалі на сваіх падначаленых – квартальных і станавых. Менавіта ад імя гэтых асобаў вышэйшыя органы ўлады атрымлівалі

інфармацыю аб паводзінах і перамяшчэннях паднаглядных. Ад меркавання гэтых чыноўнікаў, шмат што залежала. Напрыклад, калі такой асобе неабходна было атрымаць пашпарт на выезд у іншую губерню ці ў Царства Польскае, першай інстанцыяй, куды яна звярталася быў земскі спраўнік ці паліцмайстар (у невялікіх гарадах – гараднічы). Апошні перасылаў просьбу губернатару, пры гэтым дадаючы да азначанага прашэння свае асабістае меркаванне, якое тычылася паводзінаў і добранадзейнасці паднаглядного. І нарэшце, канчатковай інстанцыяй у вырашэнні гэтага пытання з'яўляўся генерал-губернатар, які грунтуючыся на пададзеных звестках, даваў сваю згоду (ці нязгоду) на выдачу пашпарта[24]. Меркаванне паліцыі, звычайна, з'яўлялася вырашальным у справе вызвалення асобы ад нагляду.

Паўстае таксама пытанне аб якасці нагляду з боку паліцыі ў рэальным штодзённым жыцці. У большасці выпадкаў усё залежала ад канкрэтнага паліцэйскага служачага, на якога быў ускладзены гэты абавязак. Знаёмства з архіўнымі матэрыяламі дае падставу сцвярджаць, што ў цэлым паліцэйскія органы падыходзілі да гэтых абавязкаў досыць фармальна. Можна прывесці шмат прыкладаў таго, як падапечныя без іх ведама пакідалі месцы свайго сталага жыхарства і наведвалі сумежныя і больш далёкія тэрытарыяльныя адзінкі. Аб якасці кантролю за паводзінамі паднаглядных яскрава сведчыць прыклад Караля Нямцэвіча. Западозраны ўладамі ў 1830 г. у падрыхтоўцы паўстання на Берасцейшчыне, ён быў перамешчаны ў Горадню пад паліцэйскі нагляд. Тут ён, фактычна, узначаліў тайны паўстанцкі камітэт, які неаднаразова ладзіў патаемныя сходкі і падтрымліваў сувязь з іншымі рэгіёнамі. А ў красавіку 1831 г. Караль Нямцэвіч без усялякіх перашкодаў ўцёк з Горадні і стаў на чале паўстанцаў у Белавежскай пушчы.

Можна прывесці таксама іншыя прыклады. Так, паднаглядны Пётр Цэхановіч даваў прытулак на сваёй кватэры эмісару М. Шыманскаму. Удзельнік паўстання 1831 г. Феафіл Петрашэўскі быў пад следствам, але яго пакінулі на волі, абмежаваўшыся толькі паліцэйскім наглядам. Аднак, калі ўлады вырашылі перадаць яго справу ў ваенна-палявы суд, ён уцёк з горада за мяжу. Таксама звяртае на сябе ўвагу той факт, што перад паўстаннем 1863 г. пад наглядам гарадзенскай паліцыі не было ніводнага сябра мясцовай рэвалюцыйнай арганізацыі[25].

На фармальны характар ажыццяўлення паліцэйскага нагляду ўказваюць таксама іншыя факты. Так, напрыклад, прагляд адпаведных ведамасцей сведчыць, што даволі часта там фігуруюць "мёртвыя душы" – г. зн. асобы, якія даўно выбылі ці яшчэ нават не прыбылі ў зону адказнасці таго ці іншага паліцэйскага чыноўніка. Усё той жа Караль Нямцэвіч працягваў значыцца ў спісах паднаглядных Берасцейскай земскай паліцыі да 1839 г., хаця даўно знаходзіўся ў Францыі. Сярод гарадзенскіх паднаглядных у гэтым плане паказальным з'яўляецца прыклад Восіпа Пукінскага, які два гады ўносіўся

ў адпаведныя спісы, але ўсе высілкі мясцовай паліцыі па росшуку гэтай асобы як у горадзе, так нават і ў губерні плёну не мелі[26].

Можна пагадзіцца з гродзенскім губернатарам М.Мураўёвым, які ў 1833 г. адзначаў, што гэтыя паліцэйскія органы “слаба назіраюць за асобамі аддадзенымі пад нагляд паліцыі і галаслоўна […] адзначаюць у ведамасцях добранадзейнасць іх паводзінаў, ніколькі не звяртаючы ўвагі на іх паводзіны і зносіны з іншымі жыхарамі; у хатах дапускаюць розныя сходкі і супрацьзаконныя размовы […]”[27]

Такім чынам, можна адзначыць, што гэтая мера выкарыстоўвалася пераважна адносна “палітычных” злачынцаў. Як адзначыў сучасны расейскі даследчык гэтага пытання А. Бекетаў, “з’яўляючыся па сваіх мэтах прэвентыўнай, па метадах – прымусовай, а па зместу, пераважна, адміністратыўна-палітычнай паліцэйскай мерай [нагляд], безумоўна, меў рэпрэсіўны характар”[28].

Асноўнай крыніцай для напісання дадзенага даследавання сталі спісы асобаў, якія знаходзіліся пад наглядам паліцыі ў Горадні ў першай палове XIX ст. Падобныя ведамасці складаліся па кожнай губерні Расейскай імперыі і пасля накіроўваліся ў вышэйшыя органы дзяржаўнага кіравання. На працягу ўсяго вызначанага перыяду ў гарадзенскіх спісаў былі тры адрасаты: імператар, Трэцяе аддзяленне, якое ў 1826 – 1844 г. узначальваў Аляксандр Бенкендорф, і віленскі генерал-губернатар.

Першыя выяўленыя намі спісы асобаў, што знаходзіліся пад наглядам паліцыі ў Гарадзенскай губ. датуюцца 1826 г. Але гэтая дата не можа лічыцца ніжэйшай храналагічнай планкай існавання дадзенага паліцэйскага інстытута на нашых землях. Справа ў тым, што некаторыя асобы, унесеныя ў тую ведамасць ужо даволі працяглы час знаходзіліся пад наглядам паліцыі. У 1826 г. збор і падача звестак па гэтым пытанні набывала арганізаваны і цэнтралізаваны характар. Хутчэй за ўсё пераход да падобнага фармату быў звязаны з заснаваннем у тым жа 1826 г. Трэцяга аддзялення. Тым больш, што адной з непасрэдных задач яго дзейнасці з’яўляліся падрабязныя звесткі аб асобах, што знаходзіліся пад наглядам паліцыі.

Перыядычнасць падачы спісаў у вызначаны перыяд змянялася. На працягу 1826 – 1839 гг.) яны складаліся тры разы на год – у студзені, траўні і верасні. Пазней з 1839 г. губернатары прадстаўлялі азначаныя ведамасці ўжо два разы на год[29], а з 1852 г. яны набылі ўжо гадавы характар. Як адзначалася вышэй, спісы асобаў, што знаходзіліся пад наглядам паліцыі ў губерні складаліся на падставе рапартаў земскіх спраўнікаў і паліцмайстраў. У канцылярыі губернатара яны апрацоўваліся і карэктаваліся, у выніку чаго канчатковыя агульныя спісы часцяком даволі значна адрозніваліся ад тых, што паступалі ад ніжэйшых органаў.

Што тычыцца той інфармацыі, якая змяшчалася адносна кожнай асобы ў ведамасцях, то яна, фактычна, заставалася нязменнай на працягу ўсяго гэ-

тага часу. Асноўныя звесткі аб паднаглядных змяшчаліся ў выглядзе табліцы, якая складалася з 5-6 слупкоў: “Імя, прозвішча, чын (званне)”, “колькі гадоў”, “па чыім загадзе, за што і з якога часу знаходзіцца пад наглядам”, “дзе жыве, чым займаецца, ці мае ад казны ўтрыманне”, “ці мае сям’ю і дзе яна знаходзіцца, “што па нагляду высветлена?” Найбольшую цікавасць уяўляе апошняя графа, у якой можна сустрэць інфармацыю адносна той ці іншай паднаглядной асобы. На жаль, паліцэйскія чыноўнікі не часта рабілі запісы ў гэтым слупку. Нягледзячы на тое, што ў сярэдзіне 50-х гадоў XIX ст. колькасць граф у табліцы павялічылася да 10, інфармацыйнае напаўненне засталося па-сутнасці ранейшым.

Звяртае на сябе ўвагу розная якасць гэтых ведамасцей у залежнасці ад іх храналагічнай прыналежнасці. Найбольшай інфармацыйнай насычанасцю адрозніваліся дакументы 20-х – сяр. 30-х гадоў XIX ст. А ўжо ў 50-я гады іх запаўненне набыло выразна фармальны характар. У 1855 – 1856 гг. спісы паднаглядных змянілі сваю структуру. Дадзеныя без усялякіх дапаўненняў ці карэкціровак папросту перапісваліся з года ў год, некаторыя звесткі зусім не ўносіліся ў дакументы. Усё гэта несумненна зніжае іх каштоўнасць як крыніцы гарадской гісторыі таго перыяду. За некаторыя перыяды ведамасці адсутнічаюць зусім.

Пры падрыхтоўцы дадзенага артыкула намі былі выяўлены і апрацаваны больш за 60(!) спісаў гарадзенцаў, што знаходзіліся пад наглядам паліцыі ў 1826 – 1 859 г. На жаль, не выяўлены за студзень і травень 1839 г. і 1858 г. Але дадзеныя за іншыя гады даюць магчымасць кампенсаваць гэты прабел.

Статыстычная апрацоўка дадзеных усіх спісаў паднаглядных выявіла, што ў 1826 – 1859 гг. падобнай меры ў Горадні былі падвергнуты 84 чалавекі. Найбольш “прадукцыйнымі” ў гэтым плане былі 20 – 30-я гады XIX ст., калі праз паліцэйскі нагляд прайшло 49 гарадзенцаў. Яно і не дзіўна, бо гэта быў досыць неспакойны ў палітычным плане час. Тайныя таварыствы, паўстанне, эмісары – усё гэта не магло не адбіцца на колькасці паднаглядных. У 40-я гады ў гэтых ведамасцях фігуравала 20 чалавек, а ў 50-я гады – толькі 15. Апошняй лічбе таксама ёсць тлумачэнне. Справа ў тым, што паводле каранацыйнага маніфеста Аляксандра II (1856), усе паднаглядныя “амнісціраваліся” і вызваляліся з-пад нагляду. У далейшым пад нагляд траплялі пераважна былыя ссыльныя і розныя асобы па адпаведна прысудам.

Найбольшая колькасць асобаў, што былі адначасова ахоплены гэтай паліцэйскай мерай у Горадні зафіксаваная ў 1855 г. і першай трэці 1833 г. – 18 і 17 чалавек адпаведна. “Рэкардсменамі” па працягласці знаходжання пад наглядам з’яўляліся адстаўны падпалкоўнік польскіх войскаў Ігнат Сухадольскі, які з невялікімі перапынкамі быў падвергнуты гэтай меры на працягу 17 гадоў і доктар Павал Забела – 15 гадоў. У прафесійным плане выразна пераважалі канцылярскія служачыя. Медыкі складалі 14%, навучэнцы і студэнты – 18%, вайскоўцы – каля 16%.

На жаль, нядбайнасць гарадзенскіх паліцмайстраў у складанні спісаў не дае магчымасці дакладна вызначыць сацыяльны склад азначаных асоб. Але нават зыходзячы з наяўных дадзеных можна сцвярджаць, што пераважная іх большасць належала да шляхецкага (дваранскага) саслоўя. Таксама звяртае на сябе ўвагу і той факт, што гарадзенцы складалі невялікі адсотак ад іх агульнай колькасці. У асноўным гэта былі жыхары правінцыі, якія трапілі ў горад альбо былі тут затрыманы.

Таксама даволі складана вылічыць дакладны адсотак у адпаведнасці з тымі супрацьпраўнымі дзеяннямі ці парушэннямі, за якія яны трапілі пад кантроль органаў правапарадку. Справа ў тым, што ў прававой сістэме Расейскай імперыі не існавала падзелу на крымінальныя і палітычныя злачынствы. Напрыклад, злачынства супраць асобы імператара ці існуючага парадку кваліфікаваліся тагачаснымі юрыдычнымі нормамі як “грамадскае небяспечнае дзеянне крымінальнага характару”. Акрамя таго, у многіх выпадках, падчас аналізу тагачасных спісаў паднаглядных асобаў нават сёння даволі цяжка вызначыць крытэрыі таго, што можа лічыцца палітычным злачынствам. Тым больш, што ў адпаведных спісах не заўсёды ўказаная прычына, па якой тая ці іншая асоба трапіла ў поле зроку паліцыі.

Пачаць аналіз спісаў паднаглядных можна з таго, што некаторыя з іх даюць уяўленне аб матэрыяльным становішчы паднаглядных. У многіх яно было досыць цяжкім, асабліва ў тых, хто апынуўся ў Горадні не па сваёй волі, ці знаходзіўся тут пад следствам або да высвятлення нейкіх абставінаў. Некаторыя з гэтай катэгорыі грамадзянаў былі пазбаўлены магчымасці працаваць. Праўда, частка паднаглядных мела права на атрыманне грашовай дапамогі ад казны. Але ў Горадні падобная з’ява назіралася толькі ў канцы 20-х – самым пачатку 30-х гадоў XIX ст. Сярод тых, хто меў фінансавую падтрымку з гарадскога бюджэту пераважалі вайскоўцы: адстаўны капітан Ігнат Янкоўскі, адстаўны ротмістр Цімафей Дабравольскі, адстаўны падпаручнік Іван Якштэйн, адстаўны сяржант Іван Ляшчынскі. Выключэннем тут быў былы студэнт Віленскага універсітэта Іван Беран(д)с. Сума кармавых для большасці з іх складала 25 кап. меддзю на суткі, плюс некалькі рублёў на арэнду жылля.

Пры гэтым улады ішлі на розныя хітрыкі, каб скараціць выдаткі з мясцовага бюджэту па гэтым артыкуле. Напрыклад, Ц.Дабравольскі, які знаходзіўся пад наглядам з 1826 г., першапачаткова быў на ўтрыманні казны. Але гарадская адміністрацыя мусіць палічыла гэта досыць накладным і прапанавала яму працаўладкавацца. Звесткі аб гэтай асобе за 1828 г. сведчаць, што ён даглядаў пераправы праз Нёман, за што горад плаціў яму 5 руб. срэбрам у месяц. Але, відаць, супаставіўшы свае ранейшыя і цяперашнія даходы, Ц.Дабравольскі ў хуткім часе вярнуўся да ранейшай практыкі[30].

Аб тым, што вылучаных грошай не заўсёды хапала на жыццё сведчыць прыклад І.Беран(д)са, які знаходзіўся ў Горадні ў сувязі з следствам па справе аб тайных таварыствах і займаўся тут “працаю па сваіх здольнасцях у на-

вуках". У 1829 г. ён дабіўся таго, каб яму аказвалася грашовая дапамога, але ў гэты ж год паспрабаваў паступіць на вайсковую службу. Спроба аказалася няўдалай, у выніку чаго былы студэнт апынуўся ў Беластоку[31].

Акрамя вышэй прыведзенай катэгорыі, існавала яшчэ адна група паднаглядных, на харчаванне якой таксама выдзяляліся казённыя сродкі. Але ў дачыненні да іх утрыманне адбывалася па арыштанцкім палажэнні. Гэта было звязана з тым, што ў адносінах да пэўных асобаў царызм адначасова выкарыстоўваў дзве прэвентыўныя меры – паліцэйскі нагляд і заняволенне. Вось чаму насупраць прозвішчаў некаторых гарадзенцаў можна сустрэць запісы, што яны пэўны час знаходзіліся пад арыштам у астрозе, арданасгаўзе (калі такая асоба аддавалася пад ваенна-палявы суд) ці пры гарадской паліцыі (Забароўскі Караль, Цэхановіч Пётр, Жамойцель Франц, Рачынскі Іван, Шымкоўскі Лейзер, Сырыйскі Іцка і інш.). Больш дэталёвае азнаямленне са справамі гэтай катэгорыі паднаглядных сведчыць, што некаторыя вызваляліся з-за кратаў пры ўмове парукі за іх каго-небудзь з гарадзенскіх мяшчан. І тут можна сустрэць досыць цікавыя выпадкі, якія характарызуюць суіснаванне розных нацыянальных супольнасцяў у Гародні у той час. Гэта выяўлялася ў тым, што гарантамі некаторых асобаў хрысціянскага веравызнання выступалі мясцовыя габрэі[32].

Па-рознаму гарадзенцы, што трапілі пад нагляд паліцыі шукалі выйсце з складанага становішча. Некаторыя спадзяваліся выключна на свае ўласныя сілы. Яны знаходзілі працу, засвойвалі новую прафесію і г.д. Паказальным з'яўляецца прыклад Ігната Качальскага, які праходзіў па справе аб тайных таварыствах. Заўвагі паліцмайстра насупраць яго прозвішча за розны час, сведчаць, што першапачаткова ў 1826 – 1827 гг. ён знаходзіўся ў навучанні ў адваката Караля Эйсманта, а ў далейшым ужо самастойна займаўся падобнай дзейнасцю.

Іншыя рабілі стаўку на атрыманне пэўнай дапамогі ад ўладаў і бясконца звярталіся з просьбамі аб прызначэнні іх на нейкую пасаду ці аказанні матэрыяльнай дапамогі. Яскравы прыклад апошняй мадэлі паводзінаў дэманструе іншы студэнт Віленскага універсітэта Пётр Цэхановіч. Ён трапіў пад следства ў Гародні ў 1829 г. у сувязі з следствам па справе Ігната Анацэвіча. Пасля вызвалення з-за кратаў апынуўся ў складаных жыццёвых абставінах, што знайшло сваё адлюстраванне ў прашэнні да мясцовых уладаў, у якім падкрэслівалася, што "працаю рук жонкі сваёй маю на хлеб". Спасылаючыся на адпаведную пастанову Камітэта Міністраў, ён хадайнічаў пра грашовае ўтрыманне ў памеры 50 кап. на суткі, якое належала студэнтам, што знаходзяцца пад судом. Калі гэтыя намаганні аказаліся марнымі, прасіў прызначыць яго на нейкую пасаду[33]. Справа П.Цэхановіча скончылася тым, што ён быў зноў арыштаваны (на гэты раз за сувязь з эмісарамі) і высланы ў глыб Расіі. Там ён, дарэчы, пазнаёміўся з Аляксандрам Герцэнам, які з цеплынёй узгадаў яго ў кнізе "Былое і думы"[34].

У рэдкіх выпадках паднаглядны мог спадзявацца на дапамогу дабрачынных арганізацый. З выяўленых 84 паднаглядных асобаў толькі адна скарысталася з такой магчымасці. Гэта быў Іван Ляшчынскі, які апынуўся пад наглядам за напісанне шматлікіх даносаў і прашэнняў. На час прыняцця яго пад апеку гарадзенскім Дабрачынным таварыствам у 1827 г. ён меў больш за 70 год і быў інвалідам. Яго памясцілі ў пабудаваны для інвалідаў дом. Асоба І.Ляшчынскага ўнікальная яшчэ і тым, што ён у свой час быў звольнены з пасады чыноўніка без атэстата і з фармулёўкай “за ляноту да службы” (1802)[35]...

Яшчэ адзін аспект штодзённасці гарадзенцаў, які адлюстраваны ў спісах паднаглядных асобаў таксама датычыць фінансавай праблематыкі. Вышэй згаданыя ведамасці ў некаторых выпадках давалі звесткі аб заработнай плаце жыхароў Горадні. Яна адносілася пераважна канца 40-х – 50-х гг. XIX ст. і тычылася выключна канцылярскіх служачых. Напрыклад, гадавое жалаванне калежскага рэгістратара мясцовай Грамадзянскай палаты ў гэты час складала толькі 78 руб., у той час як аналагічны чын у палаце Дзяржаўных маёмасцяў даваў 97 руб. 80 кап. даходу. Губернскі сакратар у той жа Грамадзянскай палаце атрымоўваў толькі 108 руб., а ў іншых месцах службы яго заработная плата вагалася ад 171 да 286 руб. Паколькі жалаванне з’яўлялася асноўнай крыніцай існавання гэтых людзей і іх сямей, супастаўляючы прыведзеныя лічбы з цэнамі на асноўныя віды тавараў і паслуг, можна рабіць высновы аб узроўні іх жыцця, аб магчымасці карыстання нематэрыяльнымі каштоўнасцямі, нарэшце, аб гарадской службовай іерархіі і прэстыжнасці тых ці іншых месцаў службы.

Вялікі патэнцыял для даследавання элементаў штодзённага жыцця ў Горадні мае апошняя калонка спісаў паднаглядных, у якой паліцыя павінна была пакідаць запісы аб паводзінах тых, за кім яны сачылі. На жаль, чыноўнікі дадзенага ведамства падыходзілі да гэтага абавязку ў большасці сваёй фармальна, робячы не вартыя ўвагі запісы аб тым, што “па нагляду нічога не высветлена”. Але ў некаторых выпадках тут можна знайсці досыць цікавыя характарыстыкі, якія тычацца таго ці іншага гарадзенца. Так, з гэтых запісаў можна даведацца, што доктар П. Забела меў беззаганную рэпутацыю ў горадзе (ці ў паліцыі?). Ягоныя паводзіны ў розныя гады ацэньваліся як “добрыя”, “выдатныя”, “выдатныя ва ўсіх адносінах”.

П’янства – яшчэ адзін элемент штодзённага побыту, які знаходзіў сваё адлюстраванне ў запісах паліцмайстра ў адпаведнай графе ведамасцей. У большасці выпадках запісы аб прыхільнасці той ці іншай асобы да моцных напояў суправаджаліся паведамленнямі пра яго паводзіны. Так, адстаўны падпаручнік І.Якштэйн “займаўся п’янствам і непрыстойнымі ўчынкамі”, а таксама “аказаўся ў выпраўленні яго благіх паводзінаў безнадзейным”. Былы вайсковец Васіль Куц “меў прыхільнасць да моцных напояў, быў нецвярозых паводзінаў і займаўся пісаннем пасквільных просьбаў”. Паручнік

Паліткоўскі па прычыне п'янства быў звольнены са службы. Адстаўны прапаршчык Леймінг, якога характарызавалі як "паводзінаў нецвярозых і ўвогуле блага сябе паводзіць", знаходзіўся пад следствам па справе аб забойстве ў Горадні ксяндза Любавіцкага, а таксама аб "распусным жыцці" на Каўказе, куды ён быў высланы. Падобны тып паводзінаў быў у першую чаргу адметнай рысай былых вайскоўцаў. Адзінае выключэнне ў дадзеным выпадку складае адстаўны губернскі сакратар і былы палітычны ссыльны Вікенці Ежэўскі, які паводле мясцовага паліцмайстра "аддаецца п'янству, але спакойнага характару"[36].

Сярод вышэй прадстаўленых гарадзенцаў найбольш вартым увагі з прычыны яго адметнасці і той інфармацыі, якую ён дае для лепшага разумення штодзённасці тагачаснага горада, на нашу думку, з'яўляецца постаць Васіля Куца. Яго жыццёвы шлях быў багаты на падзеі. Паходзячы з обер-афіцэрскіх дзяцей Санкт-Пецярбурга, ён распачаў сваю цывільную кар'еру ў Сенаце ў 1804 г., адкуль звольніўся ў 1809 г. У гэтым жа годзе распачаў ваенную службу ў арміі графа Вітгенштэйна і прымаў удзел у кампаніі 1812 г. Пасля адстаўкі ў 1826 г. ён пасяліўся ў Горадні, дзе атрымаў пасаду засядацеля ў Ніжнім земскім судзе. Але чыноўніцкая кар'ера ў горадзе над Нёманам у яго не зладзілася. У 1831 г. ён быў звольнены з-за невыкананне службовых абавязкаў. Паколькі яго праступак быў звязаны з вядзеннем следства аб рабаванні паўстанцамі Старадварэцкай паштовай станцыі, ён, як і большасць фігурантаў той справы, трапіў пад паліцэйскі нагляд.

Паводле ягоных паказанняў, у траўні 1831 г. ён быў цяжка хворы на халеру і таму не мог прысутнічаць на службе падчас рэвізіі прысутных месцаў губернатарам М.Мураўёвым, за што, нібыта, і быў звольнены. Акрамя таго, у 1830 – 1832 г. былы засядацель гродзенскага суда В.Куц знаходзіўся пад следствам па справе аб нанясенні пабояў жонцы шынкара ў в. Масаляны, за тое, што яна, нібыта, адмовілася адпусціць яму без грошай гарнец мёду. Сам В.Куц сцвярджаў, што ён выкрыў у гэтай карчме фальшывыя піцейныя меры і пры спробе канфіскаваць іх, жонка шынкара з "азардностью" кінулася на яго.

Чым мог займацца адукаваны чалавек, які страціў працу ў Горадні ў першай палове XIX ст.? Адказ на гэтае пытанне дае паліцэйская ведамасць: "займаецца прыватнай (партыкулярнай) працай", ці інакш кажучы "складаннем пасквільных прашэнняў розным асобам". Дарэчы, падобны від дзейнасці зыходзячы з тых жа самых спісаў паднаглядных, быў досыць папулярны ў той час. Некаторыя асобы дабіваліся ў гэтым такіх поспехаў, што з гэтае прычыны траплялі пад паліцэйскі нагляд. Так было, напрыклад, у выпадку з адстаўным калежскім рэгістратарам Іванам Паўлоўскім, які знаходзіўся ў ліку паднаглядных у 1845-1856 г. за "турбаванне імператара найпадданейшымі просьбамі"[37]. Памешчык Берасцейскага уезду канцылярыст Іван Швыкоўскі апынуўся пад паліцэйскім

кантролем за датычнасць да справы “аб даносах на памешчыкаў Берасцейскага уезду прыналежных нібыта да злачыннага таварыства”[38]. Згаданаму вышэй І.Ляшчынскаму напісанне даносаў і прашэнняў забаранялася адмысловым судзейскім рашэннем. Гэты спіс можна падоўжыць, але вернемся да В. Куца.

Яскравую характарыстыку як самому В.Куцу, так і тым парадкам, якія панавалі прынамсі сярод часткі чыноўніцкага асяроддзя Горадні, дае скарга па справе акцёра Т.Енджыеўскага. У ёй пацярпелы бок скардзіўся на тое, што “нейкі падсудны чыноўнік Куц у п’яным выглядзе вазіў па горадзе гэтую справу і патрабаваў 3 руб., абяцаючы за гэта пратэкцыю”[39]. Дарэчы, шляхам бацькі пайшоў і ягоны сын Мікалай. Тыя ж спісы паднаглядных паведамляюць, што ў першай палове 1839 г. Мікалай Куц утрымліваўся ў Віленскім астрозе за крадзеж[40].

Справа Тадэвуша Енджыеўскага дае некаторае ўяўленне аб норавах, што існавалі ў асяроддзі трупы Гарадзенскага тэатра. Актрыса Яўгенія Пузыня, якая прадстаўлялася “княгіняй”, паскардзілася на свайго калегу, акцёра Т. Енджыеўскага. Паводле яе заявы, апошні 12 снежня 1835 г. збіў яе, абрабаваў і аблаяў “апошнімі словамі”, у выніку чаго яна нават не мела пасцелі. Гэтую карціну дапоўнілі паліцэйскія чыноўнікі: “Я.Пузыня падчас далучэння да Т.Енджыеўскага знаходзілася ў беднасці, але той апрануў яе ўласным сваім адзеннем”, і “так званая княгіня Пузыня займаецца распусным жыццём і зусім непрыстойных паводзінаў”[41]. Што тычыцца непасрэдна асобы Т. Енджыеўскага, які з-за гэтай гісторыі апынуўся пад паліцэйскім наглядам, то ён, паводле звестак паліцыі, знаходзіўся ў горадзе без пашпарта, а таксама быў заўважаны нецвярозым[42].

Яшчэ адзін досыць цікавы аспект, які пераклікаецца з тэмай злачных мясцінаў Горадні, тычыцца наяўнасці ў паліцэйскіх ведамасцях асобаў, якія трапілі туды за картачную гульню. З 84 чалавек – гэта толькі тры гарадзенцы. Але сам факт з’яўляецца сведчаннем таго, што гарадскія ўлады імкнуліся выкараніць гэтую з’яву. У ліку гэтых асобаў мы, дарэчы, сустракаем яшчэ аднаго прафесійнага акцёра і ў дадатак антрэпрэнёра Юльяна Кацюцэвіча[43]. Акрамя яго, спіс паднаглядных з гэтае прычыны папоўніў канцылярыст Гарадзенскай казённай палаты Жан(д)лоўскі (імя не паказана), які знаходзіўся пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1837 – 1838 г. Мусіць гэтая мера пайшла яму на карысць, бо паліцэйскія чыноўнікі ў ведамасцях надалей адзначалі, што яны не заўважылі, каб той працягваў гуляць[44]. Іншы фігурант гэтага спісу дваранін Кобрынскага ўезду Іван Хабжынскі яшчэ ў 1848 г. быў абвінавачаны шэфам гарадзенскіх жандараў баронам Бістромам у тым, што займаецца картачным махлярствам. Але пад нагляд паліцыі ён трапіў толькі ў 1854 г. і знаходзіўся пад ім непрацяглы час[45]. У далейшым ён быў высланы ў Беласток у распараджэнне адмысловай следчай камісіі. Але з якім эпізодам яго супрацьпраўнай дзейнасці (ён знаходзіўся за кратамі таксама па

падазрэнні ў крадзяжы пасылак на пошце) было звязана гэтае расследаванне, на жаль, высвятліць не атрымалася.

Акрамя згаданых асобаў у спісе паднаглядных налічвалася яшчэ 11 чалавек, чые дзеянні можна кваліфікаваць як крымінальныя. Такім чынам, адсотак злачынстваў гэтай катэгорыі складае каля 17% ад агульнай колькасці тых, хто ў першай палове XIX ст. знаходзіўся пад наглядам паліцыі ў Горадні. Віды супрацьпраўных дзеянняў, што былі імі здзейснены, з'яўляліся характэрнымі для рэгіёна: кантрабанда, хабар, фальшаванне дакументаў, падлог, грашовыя растраты, увоз фальшывых грошай з-за мяжы і г.д.

У пераліку гэтых злачынцаў варта звярнуць увагу на асобы, так ці інакш звязаныя з адным з найбольш распаўсюджаных відаў падпольных рамёстваў на Гарадзеншчыне, а менавіта з кантрабандай. У іх ліку былі жыхары м. Сапоцкін габрэі Лейзер Шымкоўскі і яго рамізнік Іцка Сырыйскі. Арыштаваныя падчас перасячэння мяжы ў канцы 1831 г., яны пэўны час знаходзіліся пад арыштам у гарадзенскім астрозе, бо "моцна і справядліва" падазраваліся шэфам мясцовых жандараў палкоўнікам Уласавым у тым, што з'яўляліся ледзьве не ключавымі фігурамі ў арганізацыі каналаў нелегальнай перакідкі тавараў з-за мяжы ў Горадню і ў адваротным напрамку. Аднак, нягледзячы на падобную ўпэўненасць афіцэра Трэцяга аддзялення, Л.Шымкоўскі і яго памочнік рашэннем Гарадзенскай палаты крымінальнага суда былі вызваленыя ад адказнасці[46].

Таксама кантрабанда прычынілася да знаходжання пад наглядам гарадзенскай паліцыі ў 1821 – 1826 гг. губернскага сакратара Пятра Букінскага. Дарэчы, гэта самы ранні з выяўленых выпадкаў прымянення азначанай меры ў Горадні. Важную ролю ў яго справе адыграў данос. У лютым 1819 г. сусед па кватэры шляхціц Васілеўскі паведаміў начальству, што палюбоўніца (на самой справе, жонка) губернскага сакратара досыць часта прывозіць яму з м. Галынкі (Царства Польскае) кантрабанднае сукно, які апошні рэалізуе сярод жыхароў горада. Ператрус у пакоі і куфры П.Букінскага даў станоўчыя вынікі, і ён ужо тады быў узяты пад паліцэйскі нагляд. Але гэтая мера не паспрыяла яго "выпраўленню". У ліпені 1819 г. на яго паступіў новы данос, які зноў пацвердзіўся. На гэты раз чыноўнік "пагарэў" на тым, што, выконваючы свае прафесійныя абавязкі, ён разам зназіральнікам Мушынскім затрымаў у Верцялішках габрэяў, якія перавозілі буйную партыю кантрабанды. Атрымаўшы хабар (420 талераў срэбрам), чыноўнікі адпусцілі кантрабандыстаў. П.Букінскага чакала звальненне, следства і турма[47].

Вялікую ролю ў лёсе паднаглядных адыгрывала пазіцыя кіраўніка губерні. Асабліва выразна гэта відаць у дзейнасці М.Мураўёва на пасадзе гарадзенскага губернатара. Акрамя вышэй прыведзеных прыкладаў з Война Пуслоўскім і Васілём Куцам, трэба прыгадаць забарону Мураўёвым выезду ў Санкт-Пецярбург Ігнату Анацэвічу, перадачу пад ваенна-палявы суд у абыход існуючых нормаў Феафіла Петрашэўскага, а таксама з унясен-

нем у спіс паднаглядных студэнта былога Віленскага універсітэта Ф.Гартца. Гэты “рускі” і “свята шануючы ўрад” чалавек здолеў раззлаваць М.Мураўёва тым, што прыйшоў да губернатара ў мундзіры ўжо ліквідаванага на той час універсітэта. (Тут варта прыгадаць, што М.Мураўёў быў адным з ініцыятараў закрыцця гэтай навучальнай установы). Гарадзенскі губернатар прыватным чынам адправіў маскоўскаму обер-паліцмайстру ліст з просьбай прыглядаць за Ф.Гарцам падчас яго вучобы ў мясцовым універсітэце. У выніку ў Маскве за студэнтам быў наладжаны паўнавартасны нагляд паліцыі, які працягваўся нават і пасля заканчэння вучобы[48].

Аналіз асабовых дадзеных паднаглядных Горадні ў першай палове XIX ст. раскрывае многія аспекты царскай палітыкі ў Беларусі, а таксама закранае праблему стаўлення мясцовага насельніцтва да ўлады. Як ўжо падкрэслівалася, асобы, датычныя да палітычных справаў, складалі найвялікшую групу паднаглядных у горадзе над Нёманам. Іх знаходжанне ў гэтых спісах было звязана з трымя значнымі падзеямі палітычнага жыцця той эпохі, а менавіта раскрыццём тайных таварыстваў, паўстаннем 1831 г. і дзейнасцю эмісараў.

У Горадні ў сувязі з прыналежнасцю да розных тайных палітычных арганізацый у 20-30-я гады XIX ст. пад наглядам знаходзілася 5 асобаў (6% ад агульнай колькасці). Гэтая катэгорыя паднаглядных дае нам магчымасць пазнаёміцца з даволі цікавым элементам царскай палітыкі на нашых землях, а менавіта з прэвентыўнай ссылкай. Справа ў тым, што пасля выбуху паўстання ў Царстве Польскім у 1830 г. некаторыя з гэтых асобаў (Ігнат Сержпутоўскі, Міхайла Радавіцкі) па ініцыятыве, верагодна, шэфа жандараў А.Бенкендорфа былі высланыя ўглыб Расіі. Рабілася гэта, дзеля таго, каб “адхіліць ад іх непрыемныя наступствы цяперашніх абставінаў, якія асабліва ім могуць быць шкодныя”[49].

У сувязі з падзеямі паўстання 1831 г. пад нагляд паліцыі ў Горадні трапілі 9 чалавек (11% ад агульнай колькасці). Гэта былі людзі, чыя віна аказалася не даказанай альбо была вельмі нязначнай. Сярод асобаў гэтай катэгорыі ўжо неаднаразова згаданы Феафіл Петрашэўскі. Постаць, сапраўды, каларытная, якая нават пасля эміграцыі не давала спакою мясцовым уладам. Апошняе было звязана з пошукамі паўстанцкага “скарбу”, які, паводле Ф.Петрашэўскага, складаўся з 4 гармат, 5500 стрэльбаў, 1700 шабель і 800 пар пісталетаў[50].

Ссылкі, расстрэлы, рэкрутчына, канфіскацыя маёмасці і іншыя элементы рэпрэсіўнай палітыкі, што ажыццяўляліся царызмам падчас і пасля задушэння паўстання 1831 г. не напалохалі гарадзенцаў. Значная іх частка і надалей працягвала знаходзіцца ў апазіцыі да царызму. Доказам гэтаму з’яўляюцца падзеі звязаныя з раскрыццём уладамі разгалінаваных эмісарскіх сетак на Гарадзеншчыне ў 1833 і 1838 г. Агульная колькасць паднаглядных гэтай катэгорыі склала 12 чалавек (14% ад агульнай колькасці).

Большая іх частка трапіла пад паліцэйскі нагляд за сувязь з эмісарам М.Шыманскім, які дзейнічаў непасрэдна ў Горадні. Сярод іх быў і Іван Фіжан – знакавая постаць у сістэме гарадзенскай адукацыі XIX ст., які ў 20-30-я г. трымаў прыватны пансіён для дзяўчынак. Менавіта выкрытая ўладамі сувязь яго і некаторых іншых выкладчыкаў з удзельнікамі экспедыцыі Заліўскага стала фармальнай падставай для правядзення маштабных пераўтварэнняў у сістэме адукацыі ў Горадні. У выніку былі зачыненыя мясцовая Дамініканская гімназія і пансіён Івана Фіжана, а замест іх адчыніліся Губернская гімназія і Шляхетны пансіён.

Спісы паднаглядных сведчаць таксама пра распаўсюд у Горадні нелегальнай літаратуры. Так, Антон Урублеўскі і Юльян Гарбачэўскі (Гарбашэўскі?), якія трапілі пад нагляд за дачыненне да справы эмісара Шымона Канарскага, насамрэч, былі пакараныя за чытанне забароненай літаратуры. Яе дастаўляў у горад сябра нелегальнай арганізацыі Людовік Орда (стрыечны брат мастака Напалеона Орды). Падчас перарусу ў губернскага сакратара Феафіла Янкоўскага, якога падазравалі ў распаўсюджванні “нядобранадзейных чутак супраць ураду”, былі выкрыты “крамольныя” паперы, сярод якіх была справаздача польскага эміграцыйнага камітэта ў Парыжы за 1832 г.

Як адзначалася вышэй, медыкі складалі 14% усіх паднаглядных гарадзенцаў. Звяртае на сябе ўвагі той факт, што ўсе яны былі “палітычнымі”. Праўда, некаторых з іх да гэтай групы можна аднесці толькі ўмоўна, бо трапілі яны туды адпаведна прынцыпу калектыўнай адказнасці як выпускнікі Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі. Сярод іх былі адстаўны штаб-лекар Даменік Тамашэўскі (займаўся вольнай практыкай), лекар Мурамскага пяхотнага палка Караль Жэляўскі, а таксама Павал Сцяпанавіч Забела.

Лёс апошняга з’яўляецца прыкладам існаваўшай у нашым горадзе сістэмы пратэкцыянізму сярод чыноўнікаў. Справа ў тым, што ў Горадні ў гэты час працаваў яго родны брат Казімір, які ў 1840 – 50-я гг. займаў пасаду інспектара Урачэбнай управы. Зразумела, што без дапамогі брата Паўлу Забеле, які пасля заканчэння Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі апынуўся на пасадзе уезднага лекара недзе ў Смаленскай губ., перабрацца ў Горадню было вельмі складана.

Дарэчы, Забелы адыгрывалі значную ролю ў грамадскім жыцці горада ў той час і карысталіся сапраўднай павагай як з боку гараджан, так і ўладаў. Аб тым, што іх імя было вядома па-за межамі гарадзенскага рэгіёна сведчыць і той факт, што вядомы вандроўнік сярэдзіны XIX ст. (дарэчы, медык па адукацыі) Тэадор Трыплін не хацеў пакідаць горад, не сустрэўшыся з кімсьці з Забелаў[51].

Сярод іншых медыкаў, што ў вызначаны перыяд знаходзіліся пад наглядам паліцыі ў Горадні, варта асобнай увагі і постаць Ізыдора Нагумовіча. З’яўляючыся таксама выпускніком Віленскай акадэміі ён пасля яе завяршэння пэўны час займаўся вольнай лекарскай практыкай у Ваўкавыскім уездзе.

Менавіта там ён сустрэўся і пазнаёміўся з эмісарам Міхалам Валовічам. За аказанне яму медычнай дапамогі, а таксама неданясенне І.Нагумовіч быў аддадзены пад ваенна-палявы суд у Горадні. З ссылкі ў 1839 г. ён вярнуўся ў Горадню. Быў адным з найбольш актыўных прапагандыстаў курорта ў Друскеніках. У 1841 г. у Горадні выдаў кнігу “Способы лечения минеральными водами в Друсгениках” на рускай і польскай мовах[52].

Завяршаючы даследаванне жыцця паднагляднай Горадні, нельга абмінуць увагай постаць прафесара Віленскага універсітэта Ігната Анацэвіча (псеўданім “Жэгота з Малой Бераставіцы”). Яго жыццёвы шлях і навуковая дзейнасць досыць падрабязна даследаваны ў кнізе Святланы Марозавай і Сяргея Габрусевіча “Прафесар Ігнат Анацэвіч. Жыццё. Спадчына” (Гродна, 2005). Але варта больш падрабязна спыніцца на тых абставінах, якія прывялі І.Анацэвіча пад нагляд паліцыі, а таксама на яго жыццё ў Горадні.

Западозраны ў сувязях з тайнай студэнцкай арганізацыяй, Ігнат Анацэвіч у лютым 1828 г. быў арыштаваны ў Вільне, а яго паперы канфіскаваны. Сярод апошніх аказаліся дакументы, якія выкрывалі злоўжыванні універсітэцкага кіраўніцтва. Акрамя таго, пасля свайго вызвалення праф. Анацэвіч надаў публічны розгалас частцы з гэтых фактаў. У адказ па ініцыятыве кіраўніцтва быў скліканы Савет (той самы, што за некалькі месяцаў да гэтага зацвердзіў яго ў званні прафесара), які пад націскам рэктара Пелікана адхіліў Анацэвіча ад выкладчыцкай дзейнасці і даў падставу вялікаму князю Канстанціну распарадзіцца пра высылку Анацэвіча на радзіму. Сярод абвінавачванняў, што прагучалі з боку Савета былі такія, што закраналі яго прафесійную годнасць (нібыта яго гістарычныя працы былі толькі кампіляцыяй ненадрукаваных тэкстаў епіскапа Альбентрандзі) і маральныя якасці (вядзе “распуснае жыццё”).

Адначасова ў справе былога прафесара з’явіліся новыя абставіны. У красавіку 1828 г. Якаў Лісоўскі, бацька былога студэнта Віленскага універсітэта, які быў прысуджаны да салдацкай службы за прыналежнасць да тайнага таварыства, падаў на імя цэсарэвіча ліст, у якім выкрываліся злоўжыванні з боку азначаных вышэй асобаў. Канстанцін Паўлавіч у сваю чаргу загадаў правесці следства, але не па праверцы выкладзеных там фактаў (яны адразу характарызаваліся як “паклёп”), а дзеля таго каб даведацца, хто дапамагаў Я.Лісоўскаму ў складанні гэтага ліста. На допытах у сенатара М.Навасільцава ён прызнаўся, што ў падрыхтоўцы скаргі ўдзельнічалі студэнт П.Цэхановіч, сакратар віленскай уніяцкай кансісторыі К. Забароўскі, шляхціц К. Жамойцель, і ўсё гэтае рабілася па ініцыятыве І. Анацэвіча. Усе гэтыя асобы былі арыштаваныя і адпраўленыя ў Горадню, дзе іх чакаў суд.

Падчас следства Ігнат Анацэвіч у асноўным жыў у свайго роднага брата уніяцкага святара ў Малой Бераставіцы. Умовы знаходжання там былі вельмі цяжкія, паколькі той меў 12 дзяцей і толькі два пакоі. Следства зацягнулася на гады. Адной з прычын гэтага было тое, што І.Анацэвіч прадстаўляў

суду, а таксама дасылаў розным вышэйшым асобам імперыі (у тым ліку і А. Бенкендорфу) новыя факты злоўжыванняў і карупцыі ў вышэйшых колах універсітэта. Урэшце, першы дэпартамент Гарадзенскага галоўнага суда пастанавіў адправіць выкладзеныя былым прафесарам факты для далейшай іх праверкі ў Міністэрства народнай асветы. Такое рашэнне выклікала моцнае незадавальненне цэсарэвіча Канстанціна, які сваім прадпісаннем фактычна, адмяніў яго, даўшы суду інструкцыі, што рабіць далей. Тут, дарэчы, будзе тая характарыстыка, якую дало Трэцяе аддзяленне прававой сітуацыі ў Беларуска-Літоўскім краі: “Правінцыі гэтыя кіруюцца кааліцыяй хабарнікаў. Незразумела, якім чынам адміністрацыя універсітэта ў Вільне здолела захапіць у свае рукі кіраванне ўсіх гэтых губерняў. Галоўныя сябры гэтай кааліцыі: сп. Навасільцаў, рэктар Пелікан, пракурор [?] Батвінка і варшаўская канцылярыя [цэсарэвіча Канстанціна – *А.Р.*]. Жыхары правінцыі дрыжаць перад гэтай кааліцыяй”[53].

Нягледзячы на ціск вышэйшых уладаў, гарадзенскі суд, фактычна, апраўдаў Ігната Анацэвіча і іншых фігурантаў гэтай справы[54]. Яна была накіраваная на рэвізію па інстанцыях у Вільню і Санкт-Пецярбург. У сувязі з гэтым былы прафесар у 1832 г. пакінуў Горадню. Мясцовы губернатар М.Мураўёў адмовіў яму ў просьбе аб выдачы пашпарта на праезд у Санкт-Пецярбург. Але гэтая забарона ўжо не мела вялікага значэння[55].

Нельга пакінуць па-за межамі даследавання асобу гарадзенскага віцэ-губернатара Канстанціна Максімовіча. Гэта постаць варта ўвагі ўжо таму, што не кожны чыноўнік, у фармулярным спісе якога прысутнічаў запіс, што ён быў “у паходах супраць расейскіх войскаў”, здолеў бы зрабіць такую ж бліскучую кар’еру на службе імперыі.

У 1819 – 1826 гг. калежскі саветнік К.Максімовіч займаў пасаду гарадзенскага віцэ-губернатара і адпаведна ачольваў Губернскую казённую палату. У 1826 г. у гэтай установе рэвізія выкрыла недахопы вялікіх грашовых сум. Была створана адмысловая камісія для праверкі рахункаў Казённай палаты, якая падчас папярэдняга следства выявіла, што казначэй палаты Заха ў 1816 – 1823 гг. утойваў і не запісваў грошы (разам 15 824 руб. срэбрам і 188 715 руб. асігнацыямі), што паступалі ў казначэйства. Дзеля спагнання нястачы былі канфіскаваныя ўсе каштоўныя паперы фігурантаў гэтай справы, а на іх нерухомую маёмасць накладзены секвестр. У К.Максімовіча быў секвестраваны маёнтак Каменная Русота разам з вёскай Пальніца (112 душ), а таксама двухпавярховая камяніца з прыбудовамі ў Горадні (дом віцэ-губернатара), якая папярэдне была ацэнена ў 120 тыс. руб. асігнацыямі. У 1827 г. губернскі маршалак дваранства кн. Чацвярцінскі звярнуўся да Канстанціна Паўлавіча з просьбай дазволіць набыць азначаную камяніцу для патрэбаў дваранскага сходу за 120 тыс. руб. Цэсарэвіч звярнуўся за кансультацыяй па гэтым пытанні да сенатара М.Навасільцава, які выказаўся супраць таго, каб дом прадаваўся ў абыход існуючых правілаў, г.зн. без правядзення аукцыёна.

У 1833 г. жонка былога віцэ-губернатара Вікторыя Максімовіч звярталася да А.Бенкендорфа з просьбай пасадзейнічаць у найхутчэйшым вырашэнні судовай справы, якая цягнулася ўжо 6 год, што “давяло іх да поўнага жабрацтва”. Яна таксама прасіла імператарскага дазволу на тое, каб хоць частка даходаў з іх маёнтка паступала на іх утрыманне[56]. Сам К.Максімовіч быў пазбаўлены чыноў і дваранства. У 1837 – 1846 гг. ён пражываў у сваякоў у маёнтку Русота і знаходзіўся пад наглядам земскай паліцыі. У 1846 – 1851 гг. пражываў у Горадні, дзе і памёр.

Не ўсе імёны і справы паднаглядных удалося “расшыфраваць”. На жаль, застаўся не разгаданы адзін з найбольш інтрыгуючых эпізодаў, які быў звязаны з арганізацыяй уцёкаў трох гарадзенцаў у 1848 г. за мяжу. Сёння вядомы толькі імёны гэтых ўцекачоў – Кавалеўскі Аўгусцін, Александровіч Антон, Курневіч Казімір. Але хацелася б ведаць значна больш. Як рыхтаваліся і ажыццяўляліся гэтыя ўцёкі? Ці былі яны звязаныя з “вясной народаў”? Як склаўся лёс гэтых асобаў? З дадатковых крыніц вынікае, што як мінімум двое з гэтых уцекачоў замест Еўропы апынуліся на Каўказе ў расейскай арміі[57].

Яшчэ адзін такі выпадак звязаны з удзелам капітана польскіх войскаў Ігната Янкоўскага ў нацыянальна-вызваленчай барацьбе грэчаскага народа. Адзінае, што нам вядома сёння з тлумачэння самога І.Янкоўскага, гэта тое, што ён “прыняў рашэнне далучыцца да грэчаскіх войскаў у 1820 г., а пасля іх паразы вярнуўся ў 1824 г.” Пасля вяртання ён быў узяты пад паліцэйскі нагляд[58]. Пра абставіны ўдзелу гарадзенца ў змаганні грэкаў пакуль нічога невядома.

Такім чынам, паліцэйскі нагляд досыць актыўна выкарыстоўваўся царызмам у дачыненні да розных катэгорый грамадзянаў. Аналіз спісаў паднаглядных выявіў досыць стракаты сацыяльны і прафесійны партрэт гарадзенцаў, што былі падвергнуты гэтай меры. Найбольш шматлікай групай былі “палітычныя”, што досыць яскрава сведчыць аб палітычнай і грамадскай актыўнасці жыхароў Горадні ў той час і іх настроях. Нягледзячы на тое, што адпаведныя спісы гарадзенцаў утрымліваюць мінімальную колькасць асабовых звестак, іх аналіз, супастаўленне дадзеных за розныя гады, а таксама прыцягненне дадатковай інфармацыі, дае магчымасць лепей пазнаёміцца з жыхарамі горада, выявіць малавядомыя ці забытыя імёны і прозвішчы гараджанаў, паглыбіцца ў атмасферу тагачаснай штодзённасці, выявіць невядомыя эпізоды з гісторыі Горадні.

---

[1] Надзор полицейский // Энциклопедический словарь. Издатели Ф. Брокгауз, И. Ефрон. Т. XX. Спб, 1897. С. 434-435.

[2] Редько Н. Персонифицированный полицейский надзор // Автореф. диссерт. на соискание ученой степени канд. юрид. наук. Омск, 2009. С. 10

[3] Романов В. Местные органы политической полиции Российской империи: структура, компетенция, основные направления деятельности 1826-1860 гг. (на материалах

узнікнення гарадоў, а вынікам арганізацыі сіламі цэнтральнай ўлады лакальных асяродкаў палітычнага нагляду.

Такія цэнтры палітычнага кіравання дзяржаўнымі тэрыторыямі са спецыфічнай тапаграфічнай і планіровачнай структурамі, у якіх знаходзяцца сляды далёкасяжнага гандлю і высокаспецыялізаванай прадукцыі, прынятае лічыць першымі гарадамі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, якая не была ў зоне непасрэдных уплываў рымскай цывілізацыі[46]. Набыццё шматфункцыянальнага аблічча гэтымі ўмацаванымі асяродкамі было адным з важнейшых элементаў працэсу трансфармацыі традыцыйных грамадскіх структур у дзяржаўную арганізацыю.

Раннебеларускія “гарады” былі плацдармамі еўрапейскай цывілізацыі з яе рэлігійнымі, мастацкімі, праўнымі і літаратурнымі традыцыямі. Больш таго, яны з’явіліся ў пэўным сэнсе зонай кантактаў паміж візантыйскай і заходнееўрапейскай культурамі. Палітычныя практыкі, хрысціянізацыя і фіскальныя патрабаванні стваралі ўмовы для развіцця пісьменнасці сярод гарадскога насельніцтва, спрыялі фармаванню новых накірункаў аздобы і моды. Шматлікія пацверджанні вышэй сказанаму знаходзяцца ў разнастайных археалагічных матэрыялах, а таксама ўнікальных і неразгаданых да канца рэштках каменных цэркваў XII ст. у Гродне.

Хочацца падтрымаць галоўныя высновы Аляксандра Назаранкі адносна гарадзенскай княжай дынастыі[47]. Гэты расійскі аўтар першым заявіў, што гродзенскія князі паходзяць з іншай, чым было прынята лічыць амаль 250 гадоў, дынастыі[48].

Раней ніхто не сумняваўся, што інфармацыя аб шлюбе ў 1116/1117 г. князя Усеваладкі з дачкой Уладзіміра Манамаха Агафьяй была доказам з’яўлення асобнага Гарадзенскага княства. Таксама панавала аднадушша пазіцый адносна генеалогіі Усеваладкі. З лёгкай рукі Васіля Тацішчава[49], ён лічыўся сынам князя тмутараканскага (1082-1083), валынскага (1086-1098), дарагабужскага (1084-1085, 1100-1112) Давыда Ігаравіча. А.Назаранка ж прыйшоў да высновы, што Усеваладка не мог быць сынам Давыда Ігаравіча, бо тады яго і жонку Агату звязвала бы сваяцтва 6-й ступені, як праўнукаў Яраслава Мудрага. А тагачасная царква забараняла падобныя шлюбы. Успомнім, што ініцыятар гэтага дынастычнага саюзу Уладзімір Манамах у крыніцах ухваляецца як пабожны і прыстойны. Ён не меў прычынаў ісці супраць царквы, выдаючы дачку за невядомага князя з сям’і ізгоя.

Расійскі даследчык прапанаваў разглядаць пачаткі Гродна, Гарадзенскага княства і княжай дынастыі ў шчыльнай сувязі з Тураўскай зямлёў (і нават вужэй, з Бярасцейскім княствам)[50]. Гарадзенскіх князёў трэба шукаць сярод нашчадкаў іншага сына Яраслава – Ізяслава (кіеўскі князь з 1054 г., з перапынкамі да 1075 г.), якія былі моцна звязаны з Тураўшчынай.

А.Назаранка звярнуў увагу на двух ўнукаў Ізяслава – Мсціслава Святаполкавіча (памёр ў 1097 г.) і Яраслава Яраполкавіча. Вядома, што

ў 1144 г. кіеўскі князь Усевалад Алегавіч (з чарнігаўскай галіны Рурыкавічаў) выдаў замуж двух дачок Усеваладкі Гарадзенскага. Адну выдаў за Уладзіміра Давыдавіча (з лініі чарнігаўскай), а другую – за Юрыя Яраславіча, сына Яраслава Святаполкавіча[51]. У гэтым выпадку зноў маем сітуацыю, якая не дазвалялася кананічным правам, калі б бацькам Усеваладкі быў Мсціслаў Святаполкавіч, брат Яраслава.

Падаецца больш верагодным, што Усеваладка Гарадзенскі паходзіў з бакавой галіны старэйшай лініі Яраславічаў, прадстаўнікі якой займалі ў свой час “кіеўскі стол”, але згубілі ўплыў у выніку ўзмацнення канкуруючых сем’яў. У гэтым выпадку яго прадзедам быў Ізяслаў Яраславіч, які быў жанаты з дачкой польскага князя Мешка II Гертрудай, змагаўся за Кіеў з Усяславам Полацкім і ўласнымі братамі Святаславам і Усеваладам. Дзед Яраполк, намаляваны на мініяцюры XI ст. у г.зв. “Кодэксе Гертруды”[52], быў тураўскім, валынскім князем, сватам Усяслава Брачыславіча Полацкага, сустракаўся ў 1075 г. у Рыме з папам Грыгорыем VII, ад якога атрымаў выключныя правы на “Рускае каралеўства”, але загінуў ў 1086 г.[53] Бацька Яраслаў Яраполкавіч, намагаючыся атрымаць у валоданне частку вотчыны, у 1101 г. зрабіў спробу авалодаць Бярэсцем, але ў выніку быў схоплены на р. Нур у Пабужжы, і ў 1102 г. памёр у няволі[54]. Бярэсце і Тураў былі перададзены яго стрыечнаму брату, валынскаму князю Яраславу (сыну кіеўскага князя Святаполка Ізяславіча).

Перагляд генеалогіі гарадзенскіх князёў дазваляе растлумачыць ініцыятыву Уладзіміра Манамаха ажаніць дачку з мала вядомым прадстаўніком Рурыкавічаў і звязаную з гэтым палітычную карысць для кіеўскага князя. У 1116/1117 г. адбылося вылучэнне асобнага Гарадзенскага ўдзельнага княства. Дадзены факт трэба разглядаць у кантэксце новага агульнага падзелу валасцей пасля смерці ў 1113 г. Святаполка Ізяславіча. Гэта быў перыяд актыўнай барацьбы Манамаха з сынам Святаполка Яраславам (які мог дзейнічаць у саюзе з Глебам Усяславічам Мінскім. Нам вядомыя паходы Глеба ў 1116 г. на дрыгавічоў і спаленне Слуцка і Клецка, “адказы” Уладзіміра Манамаха і гвалтоўная смерць Усяславіча ў Кіеве ў 1119 г.)[55].

Аляксандр Назаранка лічыў, што адной з умоваў падпісання міру паміж Манамахам і Яраславам Святаполкавічам было выдзяленне з воласці апошняга Гарадзенскага княства для сына Яраслава Яраполкавіча Усеваладкі[56]. Вось чаму тыя нешматлікія летапісныя згадкі пра Усеваладку Гарадзенскага характарызуюць яго як вернага васала Уладзіміра Манамаха і яго сына Мсціслава Уладзіміравіча (напр., удзел у паходзе на Полацк у 1127/1128 г. і на Літву ў 1132 г.).

На гэтым варта спыніцца, бо грунтоўны аналіз палітычнай гісторыі Гарадзенскага княства ў XII ст. – тэма асобнага навуковага артыкула, таксама, як і пошукі шляхоў высвятлення таямніцаў гарадзенскіх мураваных храмаў.

[1] Орловский Е.Ф. Основание г.Гродно и его история до 1241 г. // Труды IX Археологического съезда. М., 1987. С.197-201.

[2] Jodkowski J. Grodno wczesnośredniowieczne w świetle prac wykopaliskowych dokonanych na Królewskim Zamku Starym w Grodnie w latach 1932 i 1933 // Przegląd Historyczno-Wojskowy. 1934. Tom 7. S.99-117; ibidem. Świątynia warowna na Kołoży w Grodnie w świetle badań archiwalnych i archeologicznych dokonanych w 1935 r. // Prace i Sprawozdania Muzeum w Grodnie. Nr 1. Grodno 1936; Durczeski Zd. Stary Zamek w Grodnie w świetle wykopalisk dokonanych w latach 1937-1938 // Niemen. Grodno. Rok 1939. Nr 1. S.2-15; Воронин Н. Н. Древнее Гродно (по материалам археологических раскопок 1932-1949 гг.) // Материалы и исследования по археологии СССР. № 41. М., 1954.

[3] Ермаловіч М. Старажытная Беларусь. Полацкі і Новагародскі перыяды. Мн., 1990. С. 176, 188-189, 257-259; Плахонин А. Г. “История Российская” В. Н. Татищева и исследование генеалогии Рюриковичей // Средневековая Русь. Вып. 4. М., 2004. С. 321–330; Климчук Ф. Д. Некоторые дискуссионные вопросы средневековой истории Надъясельдья и Погорынья (окончание) // Palaeoslavica. T. XIII. Cambridge (Massachusetts), 2005. No 1. С. 8.

[4] Полное собрание русских летописей. Том 2. Ипатьевская летопись. М., 1962. Стб. 634.

[5] Прапануем увазе апошнія цікавыя даследаванні, прысвечаныя Гарадзенскаму княству і дынастыі: Гостев А. П. О возникновении удельного Городенского княжества и князьях городенских // Наш радавод: матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі “Царква і культура народаў Вялікага княства Літоўскага і Беларусі XIII–пач. XX стст.” (Гродна, 28 верасня – 1 кастрычніка 1993 г. Кн. 5. Ч. 1. Гродна, 1993. С. 107–109; Назаренко А. В. Городенское княжество и городенские князья в XII в. // Древнейшие государства Восточной Европы. 1998 г.: Памяти чл.-корр. РАН А. П. Новосельцева. М., 2000. С. 169-188; Плахонин А. Г. “История Российская” В. Н. Татищева и исследование генеалогии Рюриковичей // Средневековая Русь. Вып. 4. М., 2004. С. 299–330; Łatyszonek O. Wczesnośredniowieczne księstwo grodzieńskie w historiografii ostatniego dwudziestolecia // Białoruskie zeszyty historyczne. Białystok, 2010. Nr 37. S.7-22.

[6] Wenskus R. Randbemerkungen zum Verhaltnis von Historie und Archaologie, insbesondere mittelalterlicher Geschichte und Mittelalterarcaologie // Geschichtswissenschaft und Archaologie. Untersuchungen zur Siedlungs-, Wirtschafts- und Kirchengeschichte / Vortrage und Forschungen. Nr 22. Sigmaringen, 1979. S.637-657.

[7] Семенчук Г.Н. Раннесредневековой археологический комплекс Дрисвяты // Lietuvos Archeologija. Vilnius, 2001. Tom 21. S.299-310.

[8] Jakimowicz R. Dawidgródek. Pińsk, 1939.

[9] Булкин В.А. Археология и вопросы генезиса древнерусского города: трудности и перспективы // Старожитності Русі-Украіны. Київ, 1994. С. 109-112.

[10] Гістарыяграфію пытання гл.: Семянчук Г. Генезіс беларускіх гарадоў у раннім сярэднявеччы (IX-XIII стст.) // Гістарыяграфія і крыніцы па гісторыі гарадоў і працэсаў урбанізацыі ў Беларусі: зборнік навуковых артыкулаў. Гродна, 2009. С. 14-15.

[11] Воронин Н.Н. К итогам и задачам археологического изучения древнерусского города // Краткие сообщения Института истории материальной культуры АН СССР. 1951. Вып. XLI. С. 11-12.

[12] Штыхов Г.В. Города Полоцкой земли (IX-XIII вв). Минск., 1978. С. 14, 18; Загарульскі Э.М. Заходняй Русь: IX-XIII стст. Мінск, 1998. С. 146, 150, 160, 170-171; Ляўко В.М. Гарады // Гісторыя Беларусі ў 6-ці тамах. Т.1: Старажытная Беларусь. Ад першапачатковага засялення да сяр. XIII ст. Мінск, 2000. С. 250;

Краўцэвіч А. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Rzeszów, 2000. С. 85; Тарасаў С. Археалагічнае вывучэнне беларускіх гарадоў. Праблема захавання археалагічнай спадчыны // Wspólnota dziedzictwa kulturowego ziem Białorusi i Polski. Warszawa, 2004. S. 346; Дук Дз. Полацк у сістэме станаўлення і развіцця сацыятапаграфічнай структуры старажытнарускіх гарадоў IX-XIII стст. // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мінск, 2008. Вып. 24. С. 28, 30.

[13] Urbańczyk P. Trudne początki Polski. Wrocław, 2009. S. 130-131.

[14] The Origins of Towns in Temperate Europe. Warszawa, 1994 (надрукавана як том № 32 часопіса „Archeologia Polona”).

[15] Urbańczyk P. Trudne początki Polski. S. 109.

[16] Posiern-Zieliński A., Kairski M. Początki państwa w ujęciu antropologicznym // Kołory i struktury średniowiecza. Warszawa, 2004. S.318-337; Kara M. Najstarsze państwo Piastów – rezultat przełomu czy kontynuacji? // Studium archeologiczne. Poznań, 2009. S. 11-39, 317-321.

[17] Henning J., Heussner K.-U. Zur Burgengeschichte im 10. Jahrhundert. Neue archeologische und dendrochronologische Daten zu Anlagen vom Typ Tornow // Ausgrabungen und Funden. 1992. Tom 37. Z. 6. S.314-324; Henning J. Neues zum Tornower Typ. Keramische Formen und Formenspekteren des Fruhmittelalteres im Licht dendrochronologischer Daten zum westslawischen Siedlungsraum // Kraje słowiańskie w wiekach średnich. Profanum i sacrum. Poznań, 1998. S.392-408.

[18] Kara M., Krąpiec M. Możliwości datowania metodą dendrochronologiczną oraz stan badań dendrochronologicznych wczesnosredniowiecznych grodzisk z terenu Wielkopolski, Dolnego Śląsku i Małopolski // Ziemie Polskie w X wieku i ich znaczenie w kształtowaniu się nowej mapy Europy. Kraków, 2000. S.303-327; Dulinicz M. The first dendrological dating of the strongholds in northern Masovia // Origins of Central Europe. Warszawa, 1997. S.137-141; Dulinicz M. Załążki miast na wczesnośredniowiecznym Mazowszu (X-XII w.) // Rocznik Mazowiecki. 2001. T. 13. S.11-24; Kara M. Najstarsze państwo Piastów. S.53-61

[19] Існуючые агляды гісторыі археалагічнага вывучэння Гродна пазбаўляюць нас ад падрабязнага инфармавання: Ткачоў М. Археалагічныя помнікі г. Гродна // Археалагічныя помнікі Гродзеншчыны. Гродна, 1992. С. 5-30; Трусаў А. А., Собаль В. Е., Здановіч Н. І. Стары замак у *Гродне* XI–XVIII стст.: Гісторыка-археалагічны нарыс. Мн., 1993. С. 8-16; Siemianczuk H. Grodno w średniowieczu i w czasach nowożytnych (w świetlie żródeł archeologicznych) // Archeologia Historica Polona. N 3. Toruń, 1996. S. 259-272.

[20] Jodkowski J. Grodno. Wilno, 1923. S. 2.

[21] Соловьев А. В. Новыя раскопки в Гродно и их значение для русской истории // Записки Русского научного института в Белграде. 1935. Вып. 13. С. 86.

[22] Трусаў А. А. Вынікі археалагічных даследаванняў на старым замку ў Гродне ў 1985–1989 гадах // Матэрыялы навукова-практычнай канферэнцыі “Музей і развіццё гістарычнага краязнаўства”. Гродна, 1990. С. 23–24 ; Трусаў А.А., Собаль В.Е., Здановіч Н.І. Стары Замак у Гродне XI-XVIII стст. Гісторыка-археалагічны нарыс. Мн., 1993. С. 6, 18.

[23] Ткачоў М. А. Археалагічныя помнікі г. Гродна // Археалагічныя помнікі Гродзеншчыны. Гродна, 1992. С. 5

[24] А.Краўцэвіч. Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV-XVIII стст. (планіроўка, культурны слой). Мн., 1991. С. 60-61, 70; ён жа. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. Rzeszów, 2000. C. 85.

[25] Алексеев Л.В. Западные земли домонгольской Руси. Очерки истории, археологии, культуры. В 2-х книгах. М., 2006. Книга 1. С. 246-247.

[26] Трусаў А.А., Собаль В.Е., Здановіч Н.І. Стары Замак у Гродне XI-XVIII стст. С. 18.

[27] Заяц Ю.А. Новае даследаваньне па археалёгіі Старога Замка ў Горадні // Kryuja: Crivica. Baltica. Indogermanica. Менск, 1996. № 1. С.111.

[28] Durczewski Zd. Stary Zamek w Grodnie w świetle wykopalisk dokonanych w latach 1937-1938. S. 11-15.

[29] Гл.: Воронин Н. Н. Древнее Гродно (по материалам археологических раскопок 1932-1949 гг.). С. 24. У выніку сапраўды гераічнай працы ў Гродзенскім музеі Гэлены Цэгак-Галубовіч і Уладзіміра Галубовіча былі адноўлены пашпарты амаль 70% знаходак з раскопак 1932-1939 гг. (ад агульнай колькасці 11 тыс.), якія падчас вайны 1941-1944 былі звалены ў кучу, часткова разрабаваныя і дэпашпартызаваныя. Імі быў таксама падрыхтаваны рукапіс кнігі "Новые материалы по истории Гродно в раннефеодальную эпоху", які захоўваецца ў Архіве Інстытута гісторыі НАН Беларусі пад нумарам 352. Калі параўнаць рукапіс Галубовічаў з манаграфіяй Мікалая Вароніна, выяўляецца значная колькасць запазычанняў з тэксту віленскіх археолагаў.

[30] Воронин Н. Н. Древнее Гродно (по материалам археологических раскопок 1932-1949 гг.). С. 197. Мушу заўважыць, што М.Варонін быў ідэалагічна заангажаваны ў сваіх інтэрпрытацыях археалагічнага матэрыялу з Старога Замку. Ён атрымаў "дзяржзаказ" даказаць "древнерусскость" Гродна, што ў рэшце рэшт і зрабіў. Праўда, зрабіць гэта было нецяжка. Рэшткі Ніжняй царквы і княжаскага цераму, іншыя матэрыялы пераканаўча даказваюць, што знаходкі XI-XIII стст. укладаюцца ў кантэкст гарадской культуры. Тым больш здзіўляе канчатковая выснова Вароніна аб шэраговасці і правінцыйнасці нашага горада: "Гродно – типичный древнерусский город, сохраняющий в трудных условиях пограничья тесные и активные связи с остальной Русью, в особенности с Поднепровьем и Волынью. Его культура, конечно, уступает в блеске и многообразии культуре крупных и богатых городов Южной Руси. Нужно признать, что это культура рядового, "провинциального" русского города, отмеченная некоторыми местными особенностями" (С. 202).

[31] Гуревич Ф.Д. Древние города Белорусcского Понеманья. Мн, 1982. С. 6-7.

[32] Зверуго Я.Г. Верхнее Понеманье в IX-XIII вв. С. 63

[33] Загарульскі Э. Заходняя Русь: IX-XIII стст. Мн., 1998. С. 167.

[34] Заяц Ю.А. К вопросу о времени зарождения и первоначальной топографической структуре г.Гродно (летописного Городна) // Матэрыялы па археалогіі Беларусі. Мн., 2003. № 7. С. 21.

[35] Тамсама.

[36] Тамсама. С. 21.

[37] Зваруга Я. Даследаванні на Каложскім плато ў Гродне // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 2006. № 21. С. 137-147.

[38] Зваруга Я. Даследаванні на Каложскім плато ў Гродне. С. 141.

[39] Семянчук Г., Дабрыян А., Ляўсік Н., Піваварчык С., Юркавец Ю. Археалагічныя даследаванні ў Гродна ў 2002 г. // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 2003. № 18. С. 283.

[40] Воронин Н. Н. Древнее Гродно (по материалам археологических раскопок 1932-1949 гг.). С. 197.

[41] Тамсама. С. 198-200.

[42] Краўцэвіч А. Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV-XVIII стст. С. 60-61; ён жа. Стварэнне Вялікага Княства Літоўскага. С. 85.

[43] Семянчук Г. Генезіс беларускіх гарадоў у раннім сярэднявеччы (IX-XIII стст.). С. 19-20.

[44] Тамсама. С. 18. Табліца.

[45] Bieniak J. Państwo Miecława. Warszawa, 1963. S. 134–136; Tyszkiewicz J. Mazowsze północno-wschodnie we wczesnym średniowieczu. Historia pogranicza nad górną Narwią do połowy XIII w. Warszawa, 1974. S. 143-157; Головко А. Б. Древняя Русь и Польша в политических взаимоотношениях X – первой трети XIII вв. Киев, 1988. С. 44, 65-

67; Ермаловіч М. Старажытная Беларусь. Полацкі і Новагародскі перыяды. Мн., 1990. С. 99-105.

[46] Urbańczyk P. Trudne początki Polski. S. 123-124.

[47] Назаренко А. В. Городенское княжество и городенские князья в XII в. С. 169–188. У 2009 г. з'явіўся перапрацаваны тэкст гэтага артыкула ў кнізе А.Назаранкі "Древняя Русь и славяне (историко-филологические исследования)". (Москва, 2009. С. 124-161).

[48] Łatyszonek O. Wczesnośredniowieczne księstwo grodzieńskie w historiografii ostatniego dwudziestolecia. S. 10.

[49] Татищев В.Н. История Российская. М.; Л., 1962. С. 154, 160, 267. Заўвага 398.

[50] Назаренко А. В. Городенское княжество и городенские князья в XII в. С. 177-179.

[51] ПСРЛ. Т.2. Ипатьевская летопись. Стб. 317. "6652 (1144 г.). Тои же зиме Всеволодъ отда две Всеволодковне Володимери вноуце, единоу за Володимира за Давыдовича, а другоу за Ярослалича за Дюрдя обе одинои неделе".

[52] Smorąg Różycka M. Bizantyńsko-ruskie miniatury Kodeksu Gertrudy. O kontekstach ideowych i artystycznych sztuki Rusi Kijowskiej w XI wieku. Kraków, 2003. S. 74-76.

[53] Древняя Русь в свете зарубежных источников. Москва, 2000. С. 363-364.

[54] ПСРЛ. Т.2. Іпатьевская летопісь. Стб. 250-252.

[55] ПСРЛ. Т.2. Ипатьевская летопись. Стб. 282-283, 286.

[56] Назаренко А. В. Городенское княжество и городенские князья в XII в. С. 179-181.

*Іна Соркіна,*
*кандыдат гіст. навук (Гродна)*

# ЖАНЧЫНЫ ГОРАДНІ НА МЯЖЫ XIX – XX СТ.




***Фотаздымак невядомай жанчыны. Майстэрня М.Заблуды.***

У гісторыі шматкультурнай Горадні ёсць мноства імёнаў славутых палітычных, грамадскіх і культурных дзеячаў, у тым ліку і жаночых. Сярод знакамітых жанчын Горадні мяжы XIX – XX ст. зоркамі першай велічыні ззяюць імёны Элізы Ажэшкі і Зоські Верас (Людвікі Сівіцкай). Аднак сёння ў кантэксце "антрапалагізацыі" гістарычнай навукі ўзрастае цікавасць да так званых "людзей без архіваў", каго часта называюць "маўклівай большасцю гісторыі"[1]. У сувязі з гэтым падаецца актуальным звярнуць увагу на звычайных гараджанак, аднавіўшы тым самым яшчэ адну старонку гісторыі гарадской супольнасці Горадні

Мэта дадзенага даследавання – дэмаграфічная характарыстыка жанчын Горадні на мяжы XIX – XX ст. (колькасць, нацыянальная, канфесійная, саслоўная структура, сямейнае становішча і інш.), апісанне іх прафесійнай дзейнасці, узроўню адукацыі.

Крыніцамі даследавання сталі апублікаваныя матэрыялы Першага перапісу насельніцтва Расійскай імперыі 1897 г. па Гарадзенскай губ[2], а таксама дакументы Нацыянальнага Гістарычнага архіва Беларусі ў Горадні, а менавіта перапісныя лісты 1897 г. (ф. 100), матэрыялы з фондаў канцылярыі гарадзенскага губернатара (ф. 1), гарадзенскай губернскай установы па гарадскіх справах (ф. 17). Для параўнання гарадзенак з жыхаркамі Вільні, Менску, Магілёва, Віцебска выкарыстаныя апублікаваныя зборнікі перапісу 1897 г. па адпаведных губернях[3]. Ілюстрацыйны матэрыял (фотаздымкі) узяты з калекцый Алеся Госцева.

Зразумела, што на падставе сухіх статыстычных звестак цяжка ўявіць сабе жывую гісторыю людзей. Але ў нейкай ступені гэта кампенсуецца наяўнасцю часткова захаваных перапісных лістоў 1897 г. са шматлікімі жаночымі імёнамі на фоне іх сем'яў, гаспадарчых заняткаў (што дазваляе ўявіць штодзённыя клопаты). "Ажыўляюць" сабраныя матэрыялы і фотаздымкі гарадзенак, асабліва тыя з іх, якія маюць даравальныя надпісы (што дапамагае зазірнуць ва ўнутраны свет жанчын той далёкай эпохі, паспрабаваць зразумець іх пачуцці).

У 1897 г. у Горадні пражывала 46919 чалавек, з іх 26889 мужчын і 20030 жанчын ці (42,7 %). У Вільні, Менску і Віцебску жанчыны складалі 49 % насельніцтва, а ў Магілёве – 50 %. Гендэрныя суадносіны скажаліся ў выніку знаходжання ў гарадах вялікай колькасці вайскоўцаў і членаў іх сем'яў. Калі гэтую групу не ўлічваць, то атрымліваецца, што колькасць мужчын у Горадні складала 17 190 чал., жанчын – 19498 (каля 53 %). Падобная сітуацыя існавала і ў іншых губернскіх цэнтрах Беларусі: без уліку вайскоўцаў удзельная вага жанчын складала 52 – 53 %.

Асноўныя нацыянальныя (паводле роднай мовы) групы* насельніцтва Горадні мелі свае гендэрныя асаблівасці (табліца 1). Колькасная перавага мужчын над жанчынамі была асабліва значнай у татараў (у 88 разоў!), а таксама у рускіх (амаль у 3 разы), беларусаў (амаль у 2 разы). Адваротная сітуацыя была ў габрэяў і палякаў, тут жанчын было больш за мужчын. У цэлым жа, у Горадні мужчыны колькасна перавышалі жанчын у 1,3 разоў.

***Табліца 1***
***Размеркаванне насельніцтва Горадні ў 1897 г. па роднай мове***

| **Родная мова** | **муж** | **жан** | **усяго** | **%** |
|---|---|---|---|---|
| Габрэйская | 10820 | 11564 | 22384 | 47,70775 |
| Руская | 7828 | 2687 | 10515 | 22,41096 |
| Польская | 3169 | 3645 | 6814 | 14,5229 |
| Беларуская | 3600 | 1834 | 5434 | 11,58166 |
| Татарская | 795 | 9 | 804 | 1,713592 |
| Нямецкая | 177 | 198 | 375 | 0,79925 |
| Чувашская | 151 | | 151 | 0,321831 |
| Ераміская | 128 | | 128 | 0,272811 |

* Крытэрый роднай мовы, які быў скарыстаны ў перапісе 1897 г., далёка не заўсёды дакладны ідэнтыфікаваў прадстаўнікоў той ці іншай нацыянальнасці. У ранейшай публікацыі мы ўжо звярталі ўвагу на адноснасць лінгвістычнага крытэрыю вызначэння нацыянальнай прыналежнасці: Насельніцтва Гародні паводле апублікаваных матэрыялаў Першага ўсеагульнага перапісу насельніцтва Расейскай імперыі 1897 г. // Гарадзенскі палімпсест. XII – XX стст. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Горадня, 7 лістапада 2008 г.). Горадня-Беласток, 2008. С. 115-118.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Украінская | 66 | 13 | 79 | 0,168375 |
| Жмудская | 36 | 2 | 38 | 0,080991 |
| Цыганская | 31 | 7 | 38 | 0,080991 |
| Латышская | 24 | 5 | 29 | 0,061809 |
| Французская | 5 | 23 | 28 | 0,059677 |
| Літоўская | 16 | 11 | 27 | 0,057546 |
| Не ўказалі мову | 9 | 5 | 14 | 0,029839 |
| Вацяцкая | 13 | | 13 | 0,027707 |
| Армянская | | 10 | 10 | 0,021313 |
| Чэшская | 6 | | 6 | 0,012788 |
| Грэчаская | | 6 | 6 | 0,012788 |
| Картвельская | 2 | 4 | 6 | 0,012788 |
| Эстонская | 5 | | 5 | 0,010657 |
| Фінская | 1 | 3 | 4 | 0,008525 |
| Балгарская | | 3 | 3 | 0,006394 |
| Мардоўская | 3 | | 3 | 0,006394 |
| Лапарская | 2 | | 2 | 0,004263 |
| Італьянская | 1 | | 1 | 0,002131 |
| Англійская | | 1 | 1 | 0,002131 |
| Турэцкая | 1 | | 1 | 0,002131 |
| Усяго | 26889 | 20030 | 46919 | 100 |

Крыніца: Первая всеобщая перепись населения Росийской империи 1897 г. СПб., 1903. T.XI. Гродненская губерния. С. 102 – 105.

Калі прааналізаваць суадносіны полаў ва ўзроставых групах, то колькасная перавага мужчын стваралася коштам моладзі ва ўзросце 20 – 29 гадоў (12257 муж. / 3874 жан.): у рускіх амаль у 10 разоў, у беларусаў у 5 разоў (менавіта з-за ўліку вайскоўцаў). Сярод дзяцей (да 10 гадоў) суадносіны хлопчыкаў і дзяўчынак былі, прыкладна роўнымі ва ўсіх групах насельніцтва. Самымі шматдзетнымі сем’ямі з’яўляліся габрэйскія (дзеці да 10 гадоў складалі 26,5 % ад усёй колькасці чалавек у сем’ях), самыя маладзетныя – беларускія (адпаведны паказчык складаў каля 11,7%). Палавы склад узроставай групы 10 – 19 гадоў паказвае перавагу тут дзяўчат (3558/4639). Гэта было характэрна не толькі для Горадні, але і для ўсіх гарадоў Беларусі. У цэлым па Еўрапейскай Расеі гэты паказчык быў на карысць хлопцаў. Такую дэмаграфічную асаблівасць мясцовых гарадоў можна патлумачыць шырокім выкарыстоўваннем працы дзяўчат на гарадскіх тытунёвых фабрыках і ў хатняй гаспадарцы гараджан, а таксама наяўнасцю сеткі публічных дамоў[4]. Старажылаў было болей сярод жанчын: ва ўзроставай

групе 80 – 89 гадоў налічвалася 90 мужчын і 124 жанчыны; 90 – 99 гадоў – 9 мужчын і 20 жанчын[5].

Жанчыны нашага горада паводле крытэрыю **роднай мовы** падзяляліся на 18 групаў (табліца 2).

***Табліца 2***
***Размеркаванне жанчын Горадні ў 1897 г. па роднай мове***

| **Родная мова** | **жан** | **%** |
|---|---|---|
| Габрэйская | 11564 | 57,7 |
| Польская | 3645 | 18,2 |
| Руская | 2687 | 13,4 |
| Беларуская | 1834 | 9,2 |
| Нямецкая | 198 | 1 |
| Французская | 23 | |
| Украінская | 13 | |
| Літоўская | 11 | |
| Армянская | 10 | |
| Татарская | 9 | |
| Цыганская | 7 | |
| Грэчаская | 6 | |
| Латышская | 5 | |
| Не указалі мову | 5 | |
| Картвельская | 4 | |
| Фінская | 3 | |
| Балгарская | 3 | |
| Жмудская | 2 | |
| Англійская | 1 | |
| Усяго | 20030 | 100 |

Крыніца: Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. СПб., 1903. Т.XI. Гродненская губерния. С. 102 – 105.

У Вільні найбольш было габрэек (43,2 %), шмат – полек (35,4 %), трэцяе месца займалі рускія (14 %), чацвёртае – беларускі (3,7 %), пятае – літоўкі (1,9 %). У Менску пасля габрэек (53,9 %) ішлі рускія (22 %), затым полькі (13 %) і беларускі (8,6 %). У Віцебску ўдзельная вага габрэйскіх жанчын складала 54,1 %, рускамоўных жанчын – 26,5 %, беларускамоўных – 11,8 %, польскамоўных – 5,1 %. Магілёўчанкі на 52,5 % былі габрэйкамі, на 30 % – беларускамі, на 13,5 % – рускімі, на 3,2 % – полькамі. Горадня вылучалася, як бачна з прыведзеных лічбаў, найбольшай (у параўнанні

з іншымі губернскімі цэнтрамі Беларусі) удзельнай вагай габрэйскіх жанчын і найменшай – рускіх.

Аналіз звестак перапісных лістоў (Дадатак А) паказвае, што беларуская была роднай мовай, як правіла, для незамужніх дзяўчат, якія паходзілі з вёскі, а ў Горадні былі прыслугаю (пакаёўкі, кухаркі, няні). Напрыклад, беларуска Кацярына Корнікава (26 гадоў, незамужам, мяшчанка, ураджэнка в. Бернікі Сакольскага ў., праваслаўная) выконвала ролю “мамкі” для дзіцяці адваката Льва Абрамскага[6].

Аднак былі і выключэнні. Так, беларуская мова была названая роднай у сям’і патомнай дваранкі Атыліі Мікалаеўны Баранавай (40 гадоў, замужам, ураджэнка Рагачова, каталічка, хатняя адукацыя, пры мужы, які на дзяржаўнай пенсіі, жылі на зав. Дравяным у доме Гардона). Беларускай (паводле роднай мовы) была сям’я асабістай дваранкі Веры Нікіфараўны Няздзюравай (42 гады, замужам, ураджэнка Магілёва, жонка калежскага саветніка, праваслаўная, адукацыя – Маскоўскі Мікалаеўскі Інстытут, пры мужы (муж на пенсіі), 16-цігадовы сын-гімназіст, жылі на Паліцэйскай вул.). Роднай мовай беларускую назвала патомная дваранка ўдава Міхаліна Каэтанаўна Мокрская (55 год), мясцовая ўраджэнка, каталічка, адукацыя хатняя, мела прыбыткі ад землеўладання і дзяржаўную пенсію (жыла на Дравяным зав.).

Прывядзём яшчэ некалькі не зусім тыповых прыкладаў. Варвара Матвееўна Лявіцкая, 36 гадоў, сялянка з Малаберастравіцкай воласці (Гольнінская сельская грамада), замужам (муж – Філіп Іванавіч, 38 гадоў, паходзіў з той жа вёскі, дворнік і пільшчык), займалася праннем бялізны. Сям’я Лявіцкіх жыла на Гараднічанскай вул. у доме Зальцмана, мела трох сыноў і дзве дачкі (усе праваслаўныя, для ўсіх роднай мовай была беларуская)[7]. Беларускай (па роднай мове) была і сям’я з шасці чалавек мяшчанкі Мар’і Іванаўны Сінюты (25 гадоў, ураджэнка Бельска, праваслаўная, муж – наглядальнік у гарадзенскім Доме працавітасці)[8].

**Канфесійная структура** гарадзенскіх жанчын паводле перапісу насельніцтва 1897 г. прадстаўленая ў табліцы 3.

***Табліца 3***
***Размеркаванне жанчын Горадні ў 1897 г. па веравызнанню***

| **Веравызнанне** | **жан** | **%** |
|---|---|---|
| Іудаізм | 11718 | 58,5 |
| Каталіцызм | 4470 | 22,3 |
| Праваслаўе | 3522 | 17,6 |
| Лютэранства | 226 | 1,1 |
| Мусульманства | 72 | 0,4 |
| Стараабрадства | 15 | 0,07 |

| | | |
|---|---|---|
| Рэфармацтва | 4 | 0,02 |
| Усяго | 20030 | 100 |

Крыніца: Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. СПб., 1903. Т.XI. Гродненская губерния. С. 106 – 117.

З сямі канфесійных груп, на якія падзяляліся гарадзенкі, самай шматлікай была група іудзеек (58,5%), затым ішлі каталічкі (22,3%) і праваслаўныя (17,6 %). У Вільні гэтыя суадносіны наступныя: іудзейкі (44,4 %), каталічкі (41,3 %), праваслаўныя (11,5 %); у Менску – іудзейкі (55 %), праваслаўныя (25,8 %), каталічкі (16,9 %); Віцебску – іудзейкі (55,7 %), праваслаўныя (33,3 %), каталічкі (6,5 %); Магілёве – іудзейкі (52,7 %), праваслаўныя (41,7 %), каталічкі (4,8 %). Горадня сярод губернскіх цэнтраў беларускага рэгіёна была на першым месцы па ўдзельнай вазе іудзеек, на другім (пасля Вільні) – каталічак.

**Суадносіны паміж групамі гарадзенак паводле роднай мовы і веравызнання** адлюстроўваюць дадзеныя табліцы 4.

***Табліца 4***

***Размеркаванне жанчын Горадні па роднай мове (габрэйская, руская, польская, беларуская) і веравызнанню***

| | Габрэйская мова | | Руская мова | | Польская мова | | Беларуская мова | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | жан. | у т.л. пісьмен. | жан. | у т.л. пісьмен. | жан. | у т.л. пісьмен. | жан. | у т.л. пісьмен. |
| Праваслаўе | | | 2355 | 1146 | 51 | 15 | 1063 | 676 |
| Каталіцызм | | | 115 | 90 | 3579 | 2044 | 733 | 200 |
| Стараабрадства | | | 6 | 4 | | | 9 | 3 |
| Лютэранства | | | 31 | 28 | 8 | 6 | 3 | 2 |
| Рэфармацтва | | | | | | | 2 | 2 |
| Іудаізм | 11564 | 4380 | 126 | 104 | 3 | 1 | 17 | 3 |
| Мусульманства | | | | | | | 7 | |

Крыніца: Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. СПб., 1903. Т. XI. Гродненская губерния. С. 106 – 117.

Цікава, што не ўсе гарадзенскія іудзейкі назвалі роднай мовай габрэйскую (для 126 з іх роднай была руская, для 17 – беларуская, для 3 – польская), што сведчыць аб наяўнасці ў некаторых з іх арыентацыі на асіміляцыю і эмансіпацыю. Натуральна, што абсалютная большасць тых, хто назваў роднай мовай польскую, былі каталіцкага веравызнання, а рускую – праваслаўнага. Беларускі (па роднай мове) былі прадстаўнікамі сямі канфесій, але найбольш іх было сярод праваслаўных.

**Па саслоўнаму складу** (табліца 5) гарадзенкі былі пераважна мяшчанкамі (71,9 %), сялянкамі (13,7 %) і дваранкамі (10,3 %).

***Табліца 5***
***Размеркаванне жанчын Горадні ў 1897 г. па саслоўям***

| **Саслоўе** | **жан** | **%** |
|---|---|---|
| Мяшчанства | 14395 | 71,9 |
| Сялянства | 2744 | 13,7 |
| Дваранства патомнае | 1135 | 5,7 |
| Дваранства асабістае, чыноўніцтва не з дваранаў | 923 | 4,6 |
| Купецтва | 258 | 1,3 |
| Ган. грамадзяне | 124 | 0,6 |
| Духавенства хрысц. | 80 | 0,4 |
| Замежныя паданыя | 83 | 0,4 |
| Не указалі саслоўя | 43 | 0,2 |
| Не належаць да да гэтых саслоўяў | 44 | 0,2 |
| Ураджэнкі Фінляндыі | 1 | 0,005 |
| Усяго | 20030 | 100 |

Крыніца: Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. СПб., 1903. Т. XI. Гродненская губерния. С. 290 – 291.

Звання патомных ганаровых грамадзян дабілася для сваёй сям'і ў 1882 – 1883 гг. Лея Фрумкіна, удава купца 1-й гільдыі Янкеля. Для гэтага ёй спатрэбілася прадставіць дакументы аб тым, што яе муж на працягу 10 гадоў быў купцом 1-й гільдыі і ніколі не абвяшчаўся “банкрутам”, што ўсе яе дзеці (8 сыноў) былі законныя і першашлюбныя, што яны не належаць да “шкодных сектаў і ерасяў”, пад судом і следствам ніколі не былі[9].

Матэрыялы перапісу 1897 г. утрымліваюць звесткі аб **месцы нараджэння** насельніцтва. Абсалютная большасць жанчын – ураджэнкі Гарадзеншчыны (табліца 6).

***Табліца 6***
***Размеркаванне жанчын Горадні ў 1897 г. па месцу нараджэння***

| | |
|---|---|
| Ураджэнкі Гарадзенскага ўезда | 12741 |
| Ураджэнкі іншых уездаў Гарадзенскай губерні | 3812 |
| Ураджэнкі іншых губерняў | 3357 |
| Ураджэнкі іншых дзяржаў | 120 |

Крыніца: Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. СПб., 1903. Т.XI. Гродненская губерния. С. 42 – 45.

У Горадні падчас перапісу жылі 2104 жан., якія былі ўраджэнкамі шэрагу губерняў Еўрапейскай Расеі, у тым ліку Віленскай губерні – 641 жан., Віцебскай – 125 жан., Мінскай – 199 жан., Магілёўскай – 53 жан., Валагодскай – 99 жан., Казанскай губерні – 8 жан. Перапіс зафіксаваў у Горадні 1171 жан., якія паходзяць з 10-ці г. зв. “Прывіслінскіх” губерняў; 25 жан. – з Каўказа; 11 жан. – Сібіры; 9 жан. – Сярэдняй Азіі; 4 жан. – Фінляндыі; 26 жан. – Аўстра-Венгрыі; 47 жан. – Прусіі і г.д[10].

**Сямейнае становішча** жыхароў Горадні ў 1897 г. было наступным:

- халастыя і незамужнія: 19116 муж. / 11700 жан. (ва ўзроставай групе 20 – 29 гадоў: 10260 муж. / 1887 жан., што тлумачыцца ўлікам тут вайскоўцаў);
- у шлюбе: 7329 муж. / 6506 жан. (27% усяго мужчынскага і 32% жаночага насельніцтва);
- удовыя: 410 муж. / 1750 жан.;
- разведзеныя: 20 муж. / 68 жан.[11]



***Фотаздымак невядомай шлюбнай пары. Майстэрня Мікалая Рубінштэйна.***

Калі не ўлічваць вайскоўцаў і членаў іх сем’яў, то ў шлюбе былі 42% мужчынскага насельніцтва Горадні і 33% жаночага. Падлікі удзельнай вагі жанчын і мужчын, якія былі ў шлюбе, з выключэннем не толькі вайскоўцаў, але і ўзроставых групаў да 17 гадоў, паказваюць, што ва ўзросце 17 – 60 і болей гадоў у шлюбе былі 73% сталага мужчынскага насельніцтва і 54% сталага жаночага насельніцтва Горадні. Такую сітуацыю можна патлумачыць значнай перавагай незамужніх дзяўчат ва ўзроставай групе 17 – 19 (занятых у сферы паслуг і на тытунёвых прадпрыемствах), а таксама вялікай колькасцю ўдовых сярод жанчын. Дзяўчаты раней выходзілі замуж: ва ўзроставай групе 15 – 16 гадоў не было ніводнага

жанатага мужчыны, але тры жанчыны былі ўжо замужам; сярод 17–19-гадовых гарадзенцаў у шлюбе былі 4 мужчыны і 64 жанчыны. Ва ўсіх астатніх узроставых групах колькасць жанатых мужчын перавышала колькасць замужніх жанчын (табліца 7).

***Табліца 7***
***Сямейнае становішча гарадзенцаў па ўзроставых групах. 1897 г.***

| Узрост | Халастыя і незамужнія | | У шлюбе | | Удовыя | | Разведзеныя | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | муж. | жан. | муж. | жан. | муж. | жан. | муж. | жан. |
| 15-16 | 719 | 948 | - | 3 | | | | |
| 17-19 | 992 | 1651 | 4 | 64 | | | | |
| 20-29 | 10260 | 1887 | 1968 | 1924 | 18 | 40 | 6 | 21 |
| 30-39 | 385 | 314 | 2039 | 1968 | 17 | 151 | 4 | 21 |
| 40-49 | 99 | 125 | 1283 | 1237 | 33 | 243 | 5 | 13 |
| 50-59 | 53 | 91 | 1065 | 863 | 51 | 458 | 3 | 7 |
| 60 і болей | 50 | 96 | 970 | 447 | 291 | 856 | 2 | 6 |

Крыніца: Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. СПб., 1903. Т.XI. Гродненская губерния. С. 33.

Апублікаваныя дадзеныя перапісу 1897 г. паказваюць сямейнае становішча асноўных моўных групаў гарадзенцаў. Найбольшы працэнт халастых і незамужніх быў у рускамоўнага насельніцтва горада (асабліва мужчын – з-за ўліку вайскоўцаў); удовых – у польскамоўнага (асабліва жанчын); тых, хто быў у шлюбе – у габрэяў і беларусак, разведзеных – у габрэяў і габрэек[12]. Адзначаныя асаблівасці хутчэй за ўсё выцякаюць з рэлігійных прадпісанняў. Так, сітуацыю з сямейным становішчам габрэяў можна патлумачыць тым, што нягледзячы на тое, што традыцыя арыентуе габрэяў на абавязковасць шлюбу, іудаізм дазваляе разводы, прычынамі якіх могуць быць: адмова мужа ці жонкі выконваць шлюбныя абавязкі на працягу года, абраза бацькоў супрацьлеглага боку, брыдкаслоўе ў адносінах паміж мужам і жонкаю і інш.[13]. Дастаткова простай была і цырымонія разводу: муж уручаў жонцы гет – дакумент, у якім прызнавалася, што яна свабодная і можа ўступаць у новы шлюб[14].

На жаль, перапіс 1897 г. не фіксаваў жанчын, якія атрымалі права асобнага ад мужа пражывання. А такая практыка, ва ўмовах цяжкасцей з афармленнем разводу была даволі пашыранай, што адлюстравалася ў матэрыялах фонду канцылярыі гарадзенскага губернатара.

Возьмем для прыкладу сямейную драму Стэфаніды Іаакімаўны Пода (у дзявоцтве Ваўрушэвіч). У 1885 – 1886 гг. разглядалася справа аб наданні ёй

права асобнага пражывання ад мужа Акіма Дзмітрыевіча, былога сакратара Гродзенскай губернскай установы па сялянскіх справах. У сваім прашэнні на імя губернатара яна пісала, што яе муж “вел жизнь развратную, со мной обращался жестоко, оскорблял меня словами и действием, неоднократно прогонял меня, так что приходилось уезжать к родителям в м.Скидель, и даже наносил побои… Зимой 1884 г. избил меня и ночью выгнал из дому на улицу в одном легком платье…”.

У канцы 1884 г. Акім Пода выехаў у Камянец-Падольск, забраўшы з сабою траіх дзяцей і пакінуўшы жонку без усялякіх сродкаў для існавання. Стэфаніда адзначала, што “вести процесс с мужем о разводе и об отдаче мне детей я не имею достаточных средств, а только хочу ходатайствовать в Канцелярии по принятии прошений на Высочайшее Имя о выдаче мне вида для жительства отдельно от мужа, так как без этого вида я не могу приискать для себя или каких либо занятий или должности”[15].

У сакрэтным рапарце начальніка гарадзенскага жандармскага ўпраўлення ад 6 сакавіка 1886 г.адзначалася: “По сведениям, полученным негласным образом, отношения супругов Пода были нехорошие. Сама ли она подала к тому повод или оскорбительное к ней отношение мужа происходило от его личных недостатков, узнать трудно. Дознано только, что Пода вел жизнь далеко не нравственную, любил выпить, играл в карты, имел любовницу, поздно возвращался домой, что подавало повод к семейным сценам…”[16]

Для канчатковага вырашэння пытання аб задавальненні просьбы Стэфаніды спатрэбілася даведка аб яе добранадзейнасці. У выніку яна атрымала асобны ад мужа дазвол на жыхарства ва ўсіх месцах Расейскай імперыі тэрмінам на тры гады.

А вось Антаніне Матыска, якая пражывала па вул. Садовай у доме Шапіры, не ўдалося атрымаць такога дазволу, бо яна і яе муж Ігнат былі каталікамі, а таму “все дела о семейных несогласиях супругов католиков подлежат непосредственному ведению Римско-Католической Духовной Консистории, в каковое учреждение она и имеет обратиться с просьбой о сепарации”[17]. Такім чынам, статыстыка разведзеных (20 муж. / 68 жан.) не адлюстроўвае рэальнай колькасці распадаў гарадзенскіх сем’яў.

Тым больш цяжка знайсці статыстыку і ўвогуле гістарычныя крыніцы наконт разбітых няшчасным каханнем жаночых сэрцаў. Пэўную фантазію на гэтую тэму выклікае фотаздымак гарадзенкі Алены з даравальным надпісам (верагодна, развітальным): “На вечную память дорогому другу Мусе от горячо любящей подруги Лены. Не забудь меня Мусик. 1911 года 26 августа”.




***Фотаздымак Спадарыні Алены з надпісам на адвароце.***
***Майстэрня Лейбы Гельгора.***

Больш стрыманай у даравальным надпісу на сваім фотаздымку была Спадарыня Л.С.: “На добрую память Александру Андреевичу от Л.С.” (Іл. 4).

Звернемся да разгляду праблемы **занятасці** гарадзенскіх жанчын. Па традыцыі ўсе клопаты аб сямейным дастатку павінны былі ўскладацца на мужчын. А як было ў рэальнасці? У 1897 г. у горадзе налічвалася самастойных (што мелі свой заробак і сродкі да існавання) 19454 мужчын (72% ад усяго мужчынскага насельніцтва) і 5875 жанчын (альбо 29%). Занятасць мужчын у 2,4 разоў перавышала занятасць жанчын. Такая ж самая сітуацыя была і ў іншых губернскіх цэнтрах нашага краю.

Колькасць і ўдзельная вага самастойнага жаночага насельніцтва Горадні па асноўных этнічных (паводле роднай мовы) групах насельніцтва прадстаўленыя ў табліцы 8.

***Табліца 8***
***Самастойныя жанчыны Горадні ў 1897 г.***

| Родная мова | колькасць самастойных жан. | % самастойных жанчын |
|---|---|---|
| Габрэйская | 2912 | 49,5 |






***Фотаздымак спадарыні Л.С. з надпісам на адвароце. Майстэрня Зэльмана Карасіка.***

| | | |
|---|---|---|
| Польская | 1488 | 25,3 |
| Руская | 742 | 12,6 |
| Беларуская | 614 | 10,4 |
| Іншыя | 119 | 2 |
| Разам | 5875 | 100 |

Крыніца: Первая всеобщая перепись населения Росийской империи 1897 г. СПб., 1903. Т.XI. Гродненская губерния. С. 194 – 195, 222 – 223.

Па колькасці самастойных жанчын лідзіравалі габрэйкі. Галоўным заняткам мужчын-габрэяў па традыцыі лічылася вывучэнне рэлігійнага Закону. Яны часта знаходзіліся ў ад’ездах з-за імкнення да ведаў і неабходнасці звароту да вядомых рэлігійных аўтарытэтаў з іншых мясцінаў альбо з-за пошуку заробкаў. Жанчынам прыходзілася не толькі займацца хатняй гаспадаркай і выхоўваць дзяцей, але і зарабляць на жыццё. Габрэйкі часта ўзначальвалі гандлёвыя і прамысловыя прадпрыемствы.

У 1900 г. Хая-Лея Яфэ – уласніца вінакурнага завода і піваварні на Фарштаце; Хана Вайнштэйн валодала лесапілкай на вул. Падольнай разам з мужам; Хана Гадас і Дзіна Лабенская валодалі медаварнямі на Замкавай і Беластоцкай; Баша Любіч – бакалейнай крамай на Беластоцкай; Лея Рашвам – галантарэйнай крамай на Гасцінным двары; Брайна Яшунская – галантарэйнай крамай на Параднай пл.; Пеша Іонес – крамай прыладаў для пісьма на Саборнай вул.; Малка Каўфман і Мірка Кусман – каланіяльнымі крамамі на Базарнай пл.; Сора Эберштэйн – мучной крамай на вул. Беластоцкай; Нэха Бурда – гандлем гатовай верхняй вопраткі ў Гасцінным двары; Лея Пазняк – тое ж на Параднай пл.; Эта Хазан – тое ж на Новым радзе; Двора Закгейм – атэлье і продаж тканін на Саборнай вул.; Ента Курляндская – крама па продажу посуду на Гасцінным радзе; Левен Шэйна-Неха – продаж сукна на Мяшчанскай вул [18].

Габрэйкі ў Горадні былі ўладальніцамі гатэляў, рэстаранаў, друкарняў, фотамайстэрняў. Так, у 1910 г. Лізавета Ашкеназі валодала гатэлем “Метраполь”, Ліба Сыркіна – гатэлем “Бель-Вю”, Эстэр Федэр – гатэлем “Камерцыйная”, Флора Лапіна – тыпа-літаграфіяй[19]. У 1894 г. уласную фотамайстэрню адчыніла Ента (Яўгенія) Аўсееўна Райхштэйн, якая была вучаніцай свайго бацькі[20].

Паводле спісу гандлёвых і прамысловых прадпрыемстваў Горадні за 1910 г., са 106 іх уладальнікаў 36 былі прадстаўнікамі жаночага габрэйскага насельніцтва горада[21]. Часта гаспадары крамаў даручалі функцыі прыказчыкаў сваім дочкам, якія скончылі курс гімназіі і добра валодалі матэматыкай.

**Прафесійную структуру** гараджанак Горадні дапамагаюць уявіць дадзеныя XXI табліцы з апублікаваных матэрыялаў перапісу 1897 г., дзе гарадзенцы, якія мелі самастойныя заняткі размеркаваныя па 65-ці групах (Дадатак B), а таксама звесткі з архіўных перапісных лістоў (Дадатак C). Жанчыны Горадні былі занятыя ў 47 з 65 групаў. Вось “дзесятка” самых папулярных заняткаў:

2033 – прыватная прыслуга;
794 – тытунь і вырабы з яго;
640 – выраб адзення;
534 – прыбытак з капіталу і нерухомасці, сродкі сваякоў;
326 – гандаль іншай сельскай прадукцыяй (апроч зерневых);
320 – чысціня і гігіена цела;
318 – сродкі ад дзяржаўнаг скарбу, грамадскіх установаў і прыватных асоб;
93 – вучэбная і выхаваўчая праца;
61– урачэбная і санітарная дзейнасць;
56 – прастытуцыя.

Самым распаўсюджаным заняткам самастойных жанчын Горадні з’яўлялася прыватнае прыслужванне (2033 жан.). Такая сітуацыя была таксама ў Вільні, Менску, Магілёве і Віцебску. У хатніх гаспадарках за-

можных гараджан запатрабаванымі былі кухаркі, няні, прыбіральшчыцы, прачкі. Жаночая праца актыўна выкарыстоўвалася ў тытунёвай вытворчасці: 794 гарадзенскіх жанчын, з якіх 790 – габрэйкі (Дадатак B). Менавіта Горадня спецыялізавалася на тытунёвай вытворчасці. Цікава адзначыць, што калі ў 1906 г. было створанае акцыянернае таварыства тытунёвай фабрыкі “І.Л.Шарашэўскі”, то сярод 17 акцыянераў было 6 жанчын[22].

Пашыраным заняткам гараджанак быў выраб адзення (640 чал., у тым ліку 454 габрэйкі), прычым розных узроставых групаў. Так, на Занёманскім фарштаце 70-гадовая мяшчанка ўдава Цыпа Гінзбург займалася вязаннем панчохаў, а 13-гадовая сялянка Альбіна Цюшкевіч – пляценнем карункаў; мяшчанка Міня Шламсер (25 гадоў), жонка механіка паравога млына, была ўладальніцай панчошнай майстэрні. Швачкай была дваранка Пелагея Аляксейчык (34 гады, удава, утрымлівала трох сыноў) (Дадатак С).

Рамеснаму майстэрству вучыліся з дзяцінства. Многія дзяўчынкі ў 10 – 14 гадоў былі швачкамі-вучаніцамі, некаторыя – падмайстрамі. Напрыклад, кравецтва было сродкам існавання сям’і Шмуклер на вул. Замкавай: муж быў краўцом-майстрам, жонка – утрымлівала каток для прасавання бялізны, старэйшыя сын (22 гады) і дачка (20 гадоў) былі краўцамі-падмайстрамі, а малодшая дачка (12 гадоў) – швачкай-вучаніцай. Блюля Мазер у свае 11 гадоў была швачкай-падмайстрам, а 13-гадовая Хайка Куфман – швачкай жаночых сукенак[23].

Пасведчанні на званне майстра выдавала Гарадзенская рамесная ўправа. У 1894 – 1902 гг. разглядалася справа аб злоўжываннях яе сяброў. Аказалася, што многія пасведчанні былі выдадзеныя з парушэннямі правілаў (без іспытаў, альбо без наяўнасці пасведчання аб статусе падмайстра). Сярод такіх незаконных атрымальнікаў звання майстраў кравецтва ў 1893 г. было 10 жанчын, у тым ліку Марыя Зэльманава Шапіра, Луцыя Яўгенія Эдуардава Кондрат, Хая Лейбава Безенштэйн, Адэлія Пятрова Гейман, Ева Рыгорава Каўфман і іншыя. Захаваўся атэстат на званне жаночага краўца Луцыі Яўгеніі Кондрат, якая Гарадзенскай кравецка-жаночай цэхавай управай прызнаная “достойною мастерицею портно-женского ремесла”. Цікава, што ў пасведчанні прыводзілася і апісанне знешнасці: “Приметы: лета 20, рост выше среднего, волосы светло-русые, брови тёмно-русые, глаза серые, нос и рот умеренные, подбородок круглый, лицо чистое, особые приметы: нет”[24].

У групе тых, хто жыў з прыбыткаў з капіталу і нерухомасці, а таксама на сродкі сваякоў, найбольш было польскамоўных гарадзенак (218 з 534 жан.). Так, за кошт прыбыткаў ад валодання домам жыла патомная дваранка каталіцкага веравызнання, удава Юлія Марыя Жуў (77 гадоў, скончыла Смольны інстытут) з 37-гадовай дачкой, якая, што цікава, назвала роднай мовай французскую).

У гандлёвым прадпрымальніцтве бясспрэчнымі лідэрамі былі габрэйкі. Прывядзём яшчэ некалькі прыкладаў. На Параднай пл. у доме Мураўёвых утрымлівала буйную краму змешаных мануфактурных тавараў купчыха 2-й гільдыі Франк (пад фірмаю “Франк Ш.А., удава і сын”), гадавы прыбытак якой за 1909 г. складаў 62252 руб. (найбольшы сярод усіх гандлёвых і прамысловых устаноў Параднай пл.)[25]. Мяшчанка Бейла Ліпшыц (38 гадоў, жыла з сям’ёй на Паліцэйскай вул.) была ўладальніцай трох дамоў, крамы з мукой, на яе ўтрыманні былі муж (Янкель, 42 гады, наконт яго заняткаў у перапісным лісце было пазначана – пры жонцы), а таксама трое дзяцей (5, 7, 10 гадоў)[26]. Пецярых дзяцей (тры сына і дзве дачкі) утрымлівала ўладальніца дома і піўной крамы на Паліцэйскай вул. удава Багіева Гершуна (Дадатак С).

Даволі рэдкі прыклад гандлёвага прадпрымальніцтва сялянкі – заснаванне ў 1909 г. Марыяй Заморскай крамы кніг і паперы пад фірмаю “Знание” на куце вуліц Паштовай і Мураўёўскай у доме Кузняцова[27].

Вучэбнай і выхаваўчай дзейнасцю ў горадзе сярод асобаў, што маюць самастойныя заняткі, займаліся 93 жанчыны.

***Табліца 9***
***Склад педагогаў-жанчын Горадні паводле роднай мовы:***

| Назвалі падчас перапісу 1897 г. роднай мовай: | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| рускую | украінскую | беларускую | польскую | нямецкую | габрэйскую | іншыя |
| 27 | 1 | 15 | 21 | 6 | 13 | 10 |

Крыніца: Первая всеобщая перепись населения Росийской империи 1897 г. СПб., 1903. Т.XI. Гродненская губерния. С. 222 – 223.

Як бачна, большасць гарадзенскіх настаўніц назвалі сваёй роднай мовай рускую (27). Нядрэнную пазіцыю (з улікам атмасферы татальнай русіфікацыі) займала беларуская мова ў асяроддзі гарадзенскіх настаўніц: яе назвалі роднай 15 настаўніц нашага горада. У перапісных лістах, што захаваліся ў архіве ёсць інфармацыя пра некаторых жанчын, прадстаўніц педагагічнай сферы дзейнасці: выкладчыцы Гарадзенскай жаночай гімназіі Юлія Цімафеева, Ганна Ахноўская і Лізавета Куцэвіч, гувернантка Антуанэта Швейф, прыватныя настаўніцы Людвіка Квяткоўская, Марыя Каменская, Вольга Шпеер, Фані Орман, Сафія Гальперн і Неха Шварц, настаўніца музыкі, французскай і нямецкай моваў Алена Аржавіна, гаспадыня прыватнага габрэйскага вучылішча Лізавета Тамарына і інш. (Дадатак С). Сярод іх ёсць тыя, хто назваў падчас перапісу роднай мовай рускую, украінскую, польскую, нямецкую, французскую. На жаль, перапісныя лісты з інфармацыяй пра беларускамоўных настаўніц не захаваліся.

Вядомай у горадзе была Тэафанія Астрагорская, якая з 1876 г. загадвала габрэйскім прыватным жаночым вучылішчы, якое ў 1906 г. было






***Фотаздымак настаўніцы Веры Красюк з надпісам на адвароце. Майстэрня Лейбы Гельгора.***

пераўтворанае ў 4-класную прагімназію, а ў 1907 г. – 7 класную гімназію (колькасць вучаніц у 1906/1907 г. складала 240)[28].

Кацярына Баркоўская заснавала восенню 1904 г. жаночае вучылішча, якое ў 1906 г. пераўтварылася ў 7-класную гімназію з падрыхтоўчым класам і дзіцячым садком (колькасць вучняў у 1908/1909 г. – 311)[29]. У 1910 – 1912 гг. тут вучылася беларуская пісьменніца, грамадска-культурная дзеячка Людвіка Сівіцкая, вядомая як Зоська Верас (1892 – 1991). У гэты час адной з настаўніц гімназіі была Вера Красюк, якая з 1912 г. выкладала таксама ў 8-класнай прыватнай жаночай гімназіі Марыі Шмеман. У калекцыі Алеся Госцева ёсць фатаграфія Веры Красюк з цудоўным подпісам для адной са сваіх вучаніц: "Моей милой бывшей ученице Леночке Зинковой. Будьте всегда таким ласковым, шаловливым взрослым ребенком, каким я знала Вас в продолжение нашего двухлетнего знакомства. Мне бы хотелось, чтобы Вы сохранили обо мне воспоминание не только как о преподавательнице математики, но и о искренне любящем, отзывчивом и преданном Вам друге. Минуты проведенныя мною вне уроков (22 апр.) в Вашем обществе и обществе Вашей подруги Лены Киселевой останутся для меня всегда светлым воспоминанием моего пребывания в гимназии Е.Н.Барковской. Вспоминайте же хоть изредка всей душой к Вам расположенную … Гродно. 9 мая 1911 г."

На 9-м месцы сярод найбольш распаўсюджаных заняткаў гарадзенак была урачэбная і санітарная дзейнасць (61 жан.). Так, павівальнымі бабкамі ў 1897 г. былі 23 жанчыны[30], сярод іх мяшчанка Гінда Хая Вольгель (31 год), 27-гадовая дваранка Меляціна Аблонская (Дадатак С). Мяшчанка Сара Віленская (27 гадоў, замужам) была акушэркаю і давала прыватныя ўрокі па жаночай гігіене. Яна скончыла Гарадзенскую жаночую гімназію і Варшаўскі павівальны інстытут. Цікава, што роднай мовай яна назвала ідыш (у перапісным лісце пазначана “габрэйскі жаргон”), а для яе чатырох дачок роднай мовай запісаная руская[31]. Жанчыны-дантысткі Горадні ў 1897 г. – Сара Лапіна[32], у 1907 г. – Рэйхля Андрэс і Паўліна Крынская[33].

З усіх губернскіх цэнтраў беларускага краю толькі ў Горадні ў “дзесятку” найбольш пашыраных заняткаў самастойных жанчын увaходзіла прастытуцыя (56 жан.: 1 рускамоўная, 6 беларускамоўных, 29 польскамоўных, 18 габрэек). У архіўных перапісных лістах захавалася інфармацыя пра 11 прастытутак (з іх 2 габрэйкі, 9 полек), якія жылі на Скідзельскай заставе ў доме Абрамава. Усе яны былі не мясцовымі ўраджэнкамі (з Варшавы, Беластоку, Ломжы, Горак, Азёраў, Коўна, Тыкоцына, Вільні), мелі ўзрост ад 16 да 23 гадоў, былі мяшчанкамі па саслоўнаму стану. Пісьменнай была толькі адна з іх – Кацярына Ямаліта, пазначаная ў перапісным лісце як гаспадыня[34].

У галіне навукі, літаратуры і мастацтва былі занятыя 9 гарадзенак: 1 полька, 4 рускія, 4 беларусак. У перапісных лістах удалося выявіць толькі адну з іх – драматычную артыстку Лізавету Чыракову (24 гады, праваслаўная), спадчынную дваранку, ураджэнку Саратава (Дадатак С). Сваю літаратурную дзейнасць у якасці асноўнага занятку магла ўказаць падчас перапісу 1897 г. Эліза Ажэшка (1841–1910). У гэты час жыла ў Горадні і польская пісьменніца Вільгельміна Касцялкоўская (1844–1926).

**Узровень пісьменнасці** сярод жанчын Горадні складаў 44,8 % (сярод мужчын – 60,7 %). Сярод 20 030 гарадзенак пісьменных было 8965. Адукацыю вышэй за пачатковую атрымалі 1384 жан., у тым ліку вышэйшая адукацыя была ў 20 жан.; спецыяльная сярэдняя – 36 жан.; сярэдняя – 1328 жан. З адукаваных гараджанак закончылі універсітэты 0,1 %; тэхнічныя ВНУ – 0,1 %; спецыяльныя сярэднія навучальныя ўстановы – 0,4 %; сярэднія навучальныя ўстановы – 14,8 %. З пісьменных мужчынаў гораду закончылі універсітэты 1,1 %; тэхнічныя ВНУ – 0,1 %; спецыяльныя сярэднія навучальныя ўстановы – 0,7 %; сярэднія навучальныя ўстановы – 6,5 %; вышэйшыя ваенныя вучылішчы – 0,1 %; сярэднія ваенныя вучылішчы – 2,3 % [35]. Звяртае на сябе ўвагу той факт, што сярод жанчын быў значна большы адсотак асобаў з сярэдняй адукацыяй, чым сярод мужчын (6,5 %). У цэлым, сярод жанчын працэнт асобаў з адукацыяй, вышэй за пачатковую, было 15,4 %, а сярод мужчын – 10,8 %.

Па агульнаму ўзроўню пісьменнасці сярод жанчын асноўных нацыянальных (паводле роднай мовы) групаў лідзіравалі полькі – 1820 жан.

(49,9 %); а па колькасці жанчын з адукацыяй, вышэйшай за пачатковую, на першым месцы былі беларускі – 346 жан. (ці 64 %). У параўнанні з узроўнем пісьменнасці жанчын Вільні (40%), Менска (41,5%), Магілёва (39 %) і Віцебска (40 %) гарадзенкі былі найбольш адукаванымі. Многія змаглі выкарыстаць атрыманую адукацыю ў сваёй прафесійнай дзейнасці, а значыць, паспрыялі пераадольванню гендэрнага стэрэатыпу аб тым, што вучыць дзяўчат – справа пустая і бескарысная: “І так выйдуць замуж!”[36]

Удзел жанчын Горадні ў грамадскім жыцці праяўляўся, найперш,у **дабрачыннай дзейнасці**. Па звестках на 1897 г. кіраўніком Гродзенскага дабрачыннага таварыства была Кацярына Бацюшкава (жонка губернатара)[37]. Пры Гарадзенскім праваслаўным Сафійскім брацтве дзейнічаў жаночы дабрачынны гурток (з 1888 г.). Старшынёй гуртка доўгі час з’яўлялася Лізавета Савіцкая, у пачатку 1900 г. яе змяніла М.П.Шлегель, затым В.Д.Дабравольская, а з 14 красавіка 1900 г. жонка гарадзенскага губернатара В.М.Лішына (яна адзіная з жанчын уваходзіла ў праўленне Гарадзенскага праваслаўнага Сафійскага брацтва)[38].

Гарадзенскае габрэйскае жаночае таварыства “Сеймех-нефлім” узначальвала ў 1899 г. жонка купца 1-й гільдыі Міна Фрумкіна. У склад праўлення гэтай установы ўваходзілі Берта Яноўская, Яха Грынберг (на разбураных габрэйскіх могілках на яе магіле быў пастаўлены помнік ад імя суполкі); Двейра Шарашэўская, Агата Ландау, Дзіна Вільнер, Яха Кнаразоўская, Ф.Фукс, Соша Тарлоўская, Малка-Брайна Гольдберг, М. Геллер[39].

Паводле інфармацыі пецярбургскага часопіса “Шахматный вестник” за 1886 г. у Горадні ў тым годзе паспяхова выступіла на турніры першая вядомая на беларускіх землях шахматыстка Багародская (надзвычай рэдкі феномен для таго часу, калі жанчын у шахматныя гурткі дапускалі вельмі неахвотна). Яна заняла 3-е месца сярод 10-ці ўдзельнікаў, прапусціўшы наперад толькі прызнаных лідэраў Н.П.Татліна і М.М.Шэпелева[40].

Некаторыя выяўленыя архіўныя дакументы засведчылі факты змагання жанчын за свае парушаныя правы. Так, дваранка Антаніна Невяроўская ў 1897 – 1899 гг. спрабавала, але безвынікова, атрымаць ад гарадскіх уладаў грашовую кампенсацыю за паласу зямлі (24,5 кв. сажняў), якая адышла пад пашырэнне Сафійскай вуліцы[41]. Купчыха Малка Каўфман у 1892 г. скардзілася на Гарадзенскую габрэйскую абшчыну за незаконнае спагнанне з яе свечнага збору ў памеры 50 руб. (бо ён датычыў толькі мужчын). Але ні Гарадская дума, ні Гарадская ўправа, ні Гарадзенская губернская ўстанова па гарадскіх справах, ні Гарадзенскае губернскае праўленне не дапамаглі, бо не мелі права ўмешвацца ў раскладку каробачнага і свечнага збораў[42]. Мяшчанка Горадні ўдава Вікторыя Антонаўна Зінава ў 1894 г. заявіла, што гарадзенскі мяшчанскі стараста Явароўскі вымагаў у яе 15 руб. за хадайніцтва па справе ільготаў па воінскай павіннасці для яе сына, але даказаць гэтага не здолела[43].

Такім чынам, аналіз прыведзеных статыстычных матэрыялаў паказвае, што найбольшымі па колькасці сярод этнамоўных груп гарадзенскіх жанчын былі габрэйкі (57,7 %), канфесійных – іудзейкі (58,5 %), саслоўных – мяшчанкі (71,9 %), прафесійных – прыватныя прыслужніцы (34,6 % сярод самастойных жанчын). У шлюбе былі толькі 54% сталага жаночага насельніцтва Горадні ва ўзросце старэйшым за 17 гадоў (сярод мужчын гэты паказчык значна большы – 73%). Хоць агульны ўзровень пісьменнасці гарадзенак (44,8 %) меншы за адпаведны паказчык у мужчын (60,7 %), затое жанчыны перавышалі мужчын па ўдзельнай вазе асобаў з адукацыяй, вышэйшай за пачатковую (адпаведна 15,4 % і 10,8 %).

Вывучаныя крыніцы дазволілі не толькі паказаць этнамоўную, канфесійную, саслоўную, прафесійную структуру, сямейнае становішча, узровень адукаванасці жаночай часткі гарадской супольнасці Горадні, але і выявіць праявы імкнення гарадзенак да самастойнасці і актыўнасці. Амаль кожная трэцяя жанчына Горадні была самастойнай (мела свой заробак і сродкі да існавання). Гэта разбурае гендэрны стэрэатып жаночых паводзінаў, характэрны для традыцыйнага грамадства, з ягоным успрыняццем жанчыны як цалкам залежнай ад мужчыны. Рэальныя ролевыя функцыі жанчыны ва ўмовах мадэрнізацыі істотна змяніліся. Прадстаўніцы прыгожага полу Горадні на мяжы XIX – XX ст. жылі не толькі сямейнымі клопатамі, яны занялі пэўную нішу ў эканамічным і грамадскім жыцці горада. Некаторыя з іх дасягнулі значных поспехаў у сферы прадпрымальніцтва (асабліва актыўнымі тут былі габрэйкі), а таксама на культурніцкім полі.

Параўнанні дэмаграфічных характарыстык жанчын Горадні, Вільні, Менска, Магілёва, Віцебска выявілі пэўныя лакальныя асаблівасці (напрыклад, у Горадні быў найбольшы працэнт габрэек, найменшы рускіх, гарадзенкі былі больш адукаваныя), аднак засведчылі прыналежнасць поліэтнічных, поліканфесійных гарадоў Беларусі канца XIX – пачатку XX ст. да цывілізацыйна-культурнай прасторы Цэнтральна-Усходняй Еўропы, выявілі агульнаеўрапейскую тэндэнцыю фемінізацыі гарадскога жыцця ва ўмовах мадэрнізацыі грамадства.

# ДАДАТКІ

## *Дадатак А*
## *Гарадзенскія жанчыны-беларускі (паводле роднай мовы) у перапісных лістах 1897 г.*

| Імя | Узрост, сям. стан. | Саслоўе, мясцовасць | Веравызнанне | Адукацыя | Занятак |
|---|---|---|---|---|---|
| Ганна Восіпаўна Яраш | 17, незам. | Сял., з Сакольск. у. | Р-кат. | Хатняя | Няня |
| Міхаліна Канстанаўна Шок | 35, зам. | Сял., з Сакольск. у. | Р-кат. | | Пры мужы (гаспадар дробязнай крамы) |
| Варвара Матвееўна Лявіцкая | 36, зам. | Сял., з Малабераставіцк. Воласці | Прав. | | Пры мужы (дворнік і пільшчык), Прачка |
| Ганна Якаўлеўна Федакевіч | 19, незам. | Сял., з м.Крынкі | Прав. | | Пакаёўка |
| Юлія Іванаўна Гаўрых | 29, незам. | Мяшч., з г.Сувалкі | Р-кат. | Хатняя | Пакаёўка |
| Вікторыя Напалеонаўна Мержвінская | 21, незам. | Мяшч. з г. Бельска | Р-кат. | Хатняя | Кухарка |
| Ганна Якаўлеўна Шахава | 32, незам. | Сял., з Сакольск.у. | Р-кат. | Хатняя | Кухарка |
| Эмілія Антонаўна Дабравольская | 14, незам. | Сял., з Сакольск.у. | Р-кат. | | Пакаёўка |
| Марыя Фамінічна Самайловіч | 7 | | Прав. | Народнае вуч. | Дачка каўбасніка Фамы Самайловіч |
| Магдалена Восіпаўна Заруба | 66, удава | Мяшч., з Вялікай Бераставіцы | Р-кат. | | Пры сыне Марціне (перапісчык) |
| Агаф'я Феліксаўна Жукоўская | 19, незам. | Сял., з м.Краснаполе Сувалкаўскай губ. | Р-кат. | Хатняя | Пакаёўка |
| Марыя Восіпаўна Сянкевіч | 28, зам. | Сял., з Сувалкаўскага ў. | Р-кат. | | пры мужы (стораж) |
| Міхаліна Каэтанаўна Мокрская | 55, удава | Патомн. дваранка, мясцовая | Р-кат. | Хатняя | Дзяржаўная пенсія + землеўладальніца |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Ядвіга Феадосьеўна Лапіцкая | 34, зам. | Патомн. дваранка, з Аўгустоўскага ў., с.Лабна | Прав. | 6-класнае вучыл. В.Імпер. Марыі | Пад апекаю М.К.Мокрскай |
| Марья Ільіна Войцік | 19, незам. | Сял., з Гродз.у. | Прав. | | Кухарка |
| Лізавета Кандрацьеўна Сапоцька | 18, незам. | Сял., з Гродз.у. | Прав. | | Кухарка |
| Антаніна Станіславаўна Палуянаўская | 36, незам. | Мяшч., з Гродз.у. | Р-кат. | Хатняя | Кухарка |
| Атылія Мікалаеўна Баранава | 40, зам. | Патомн. двар., з Рагачова | Р-кат. | Хатняя | Пры мужы |
| Ядзвіга Фомаўна Бутвілоўская | 23, незам. | Сял., з маёнтка Котра Скідзельскай воласці | Р-кат. | Хатняя | Кухарка |
| Вікторыя Матвееўна Нарэль | 24, незам. | Сял., з в. Чарвонка Сакольскага ў. | Р-кат. | Хатняя | Пакаёўка |
| Марыя Казіміраўна Каліноўская | 29, зам. | Сял., з Сакольск. у. | Р-кат. | Хатняя | Прачка |
| Лізавета Францаўна Змітровіч | 20, незам. | Сял., з в.Цядовічы Гродз.у. | Р-кат. | Хатняя | Кухарка |
| Ганна Міхайлаўна Хітрушка | 24, незам. | Сял., з Гродз.у. | Р-кат. | Хатняя | Кухарка |
| Ганна Восіпаўна Шырская | 25, незам. | Сял., з Гродз.у. | Прав. | Хатняя | Пакаёўка |
| Алена Казіміраўна Маргігіева | 15, незам. | Сял., з Гродз.у. | Р-кат. | | Нянька |
| Алена Фёдараўна Сайко | 39, зам. | Сял., з Гродз.у. | Прав. | Хатняя | Пры мужы (лакей) |
| Анастасія Канопка | 36, зам. | Сял., з Сакольск.у. | Прав. | Хатняя | Пры мужы (дворнік), прачка |
| Ірына Цярэшка | 14, незам. | Сял., з Ваўкав. у. | Прав. | | Нянька |
| Вера Нікіфараўна Няздзюрава | 42, зам. | Асаб. дваранка, з Магілёва (жонка калеж. саветніка) | Прав. | Маскоўскі Мікалаеўскі Інстытут | Пры мужы |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Кацярына Корнікава | 26, незам. | Мяшч., з в. Бернікі Сакольскага ў. | Прав. | | “Мамка” (карміліца) для 10-цімесячнай дачкі адваката Льва Абрамскага |
| Марья Іванаўна Сінюта | 25, зам. | Мяшч., з Бельска | Прав. | | Пры мужы |

Крыніца: НГАБ у Гродне. Ф. 100, воп. 1 адз. зах. 196, 197.

***Дадатак В***

***Прафесійная структура жыхароў Горадні, што мелі самастойныя заняткі. 1897 г.***

| | **Групы заняткаў** | **Муж.** | **Жан, у т.л.** | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | **усіх** | **руск.м.** | **бел.м.** | **пол.м.** | **габр.м.** |
| 1 | Адміністрацыя, суд, паліцыя | 733 | | | | | |
| 2 | Грамадская і саслоўная служба | 58 | | | | | |
| 3 | Прыватная юрыд. дзейнасць | 61 | | | | | |
| 4 | Узброеныя сілы | 9471 (члены сем’яў: 228/532) | | | | | |
| 5 | Багаслужэнне правасл. веравызнання | 36 | 49 | 38 | 11 | | |
| 6 | Багаслужэнне інш. хрысц. веравызн. | 19 | 6 | | | | |
| 7 | Багаслужэнне нехрысц. веравызн. | 46 | | | | | |
| 8 | Асобы пры цэрквах, могілках | 44 | 3 | | | | |
| 9 | Вучэбная і выхаваўчая праца | 256 | 93 | 27 | 15 | 21 | 13 |
| 10 | Навука, літаратура і мастацтва | 56 | 9 | 4 | 4 | 1 | |
| 11 | Урачэбная і санітарная дзейнасць | 146 | 61 | 19 | 10 | 19 | 13 |
| 12 | Служба пры дабрачынных установах | 10 | 11 | 2 | | 8 | 1 |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 13 | Прыватная прыслуга, падзёншчыкі | 960 | 2033 | 296 | 285 | 714 | 692 |
| 14 | Прыбытак з капіталу і нерухомасці, сродкі сваякоў | 467 | 534 | 116 | 74 | 218 | 108 |
| 15 | Сродкі ад дзярж. скарбу, грамадскіх устаноў і прыватных асоб | 735 | 318 | 87 | 46 | 94 | 84 |
| 16 | Пазбаўленыя свабоды і адбываючыя пакаранне | 209 | 39 | 5 | 21 | 8 | 4 |
| 17 | Земляробства | 126 | 23 | 3 | 8 | 7 | 4 |
| 18 | Пчалярства і шаўкоўніцтва | | | | | | |
| 19 | Жывёлагадоўля | 7 | 5 | 1 | 2 | 1 | 1 |
| 20 | Лесаводства і лясныя промыслы | 79 | | | | | |
| 21 | Рыбалоўства і паляванне | 33 | | | | | |
| 22 | Здабыча руды | 2 | 1 | | 1 | | |
| 23 | Выплаўка мяталаў | | | | | | |
| 24 | Апрацоўка валокнавых рэчываў | 27 | 56 | 5 | 8 | 18 | 23 |
| 25 | Апрацоўка жывёлінных прадуктаў | 71 | 3 | | 1 | | 2 |
| 26 | Апрацоўка дрэва | 498 | 35 | 6 | 5 | 4 | 20 |
| 27 | Апрацоўка мяталаў | 244 | | | | | |
| 28 | Апрацоўка мін-х рэчываў (кераміка) | 137 | 3 | | | 1 | 2 |
| 29 | Хімічная вытворчасць | 34 | 2 | | | | 2 |
| 30 | Вінакурэнне, піва- і мёда-варэнне | 76 | 3 | | | | 3 |
| 31 | Іншыя напоі і брадзільныя рэчывы | 15 | 4 | | | | 4 |
| 32 | Апрацоўка раслінных і жывёлінных харчовых прадуктаў | 263 | 47 | 1 | 2 | 3 | 41 |
| 33 | Тытунь і вырабы з яго | 326 | 794 | 3 | | 1 | 790 |
| 34 | Паліграфічная вытворчасць | 233 | 38 | 6 | 3 | 4 | 25 |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 35 | Інструменты фіз., аптычн., хірургічн., гадзіннікі, цацкі | 38 | | | | | |
| 36 | Ювелірная справа, прадметы культу, раскошы і т.п. | 28 | | | | | |
| 37 | Выраб адзення | 1035 | 640 | 52 | 16 | 114 | 454 |
| 38 | Будаўніцтва, рамонт, утрыманне жылля | 725 | | | | | |
| 39 | Вытворчасць экіпажаў, драўляных суднаў | 10 | | | | | |
| 40 | Нявызначаныя | 62 | | | | | |
| 41 | Водныя камунікацыі | 35 | | | | | |
| 42 | Чыгункі | 89 | | | | | |
| 43 | Рамізніцтва | 377 | 1 | | | | 1 |
| 44 | Іншыя сухапутныя шляхі і сродкі зносінаў | 39 | | | | | |
| 45 | Пошта, тэлеграф, тэлефон | 114 | 6 | 1 | 5 | | |
| 46 | Крэдытныя і грамадскія камерцыйныя ўстановы | 85 | 4 | | | 1 | 3 |
| 47 | Гандлёвае пасрэдніцтва | 66 | 8 | | | | 8 |
| 48 | Гандаль увогуле | 28 | 24 | | 1 | 1 | 22 |
| 49 | Гандаль жывой жывёлай | 3 | 2 | | | 2 | |
| 50 | Гандаль зерневымі | 80 | 14 | | | | 14 |
| 51 | Гандаль іншай сельскай прадукцыяй | 409 | 326 | 2 | 2 | 7 | 314 |
| 52 | Гандаль будаўнічымі матэрыяламі і палівам | 89 | 7 | | | 1 | 6 |
| 53 | Гандаль прадметамі хатняга ўжытку | 24 | 12 | | | | 12 |
| 54 | Гандаль металічнымі таварамі, машынамі і зброяй | 30 | 4 | | | | 3 |
| 55 | Гандаль тканінамі і прадметамі адзення | 121 | 51 | | | 2 | 49 |
| 56 | Гандаль скурамі, пушнінай | 35 | 7 | | | | 7 |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 57 | Гандаль прадметамі раскошы, навукі, мастацтва, культа і т.п. | 25 | 9 | 1 | 1 | 2 | 5 |
| 58 | Гандаль астатнімі прадметамі | 44 | 12 | | | | 11 |
| 59 | Гандаль разносны і развозны | 33 | 44 | 1 | 1 | 2 | 40 |
| 60 | Тракціры, гатэлі, мэбляваныя пакоі, клубы | 97 | 50 | 3 | 6 | 25 | 14 |
| 61 | Гандаль піцейны | 57 | 18 | | | 1 | 17 |
| 62 | Чысціня і гігіена цела | 58 | 320 | 55 | 70 | 150 | 34 |
| 63 | Асобы нявызначаных заняткаў | 114 | 70 | 2 | 8 | 23 | 34 |
| 64 | Прастытуцыя | 1 | 56 | 1 | 6 | 29 | 18 |
| 65 | Асобы, не ўказаўшыя заняткаў | 25 | 20 | 5 | 2 | 11 | |
| | Разам | 19454 | 5875 | 742 | 614 | 1488 | 2912 |

Крыніца: Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. СПб., 1903. Т. XI. Гродненская губерния. С. 194 – 195, 222 – 223.

## *Дадатак С*
## *Самастойныя жанчыны Горадні ў перапісных лістах 1897 г.*

| **Імя, прозвішча** | **Узрост, саслоўнае і сямейнае стан.** | **Месца жыхарства** | **Родная мова, вера-вызнанне** | **Адукацыя** | **Галоўны і пабочны заняткі** |
|---|---|---|---|---|---|
| Цыпа Гінзбург | 70, мяшч., удава | Занёманскі фарштад | Габр., іуд. | Хатняя | Вяжа панчохі |
| Паўліна Цюшкевіч | 40, сял., замуж. | Занёманскі фарштад | Польск., р-к. | Нар. вуч. | Прачка |
| Альбіна Цюшкевіч | 13, сял., незам. | Занёманскі фарштад | Польск., р-к. | | Пляце карункі |
| Міня Шламсер | 25, мяшч., замуж. | Занёманскі фарштад | Габр., іуд. | | Гаспадыня панчошнай майстэрні |
| Рыўка Рубінштэйн | 25, мяшч., незам. | Занёманскі фарштад | Габр., іуд. | Прыват. габр. вуч. | Швачка ў кравецкай майстэрні |
| Крэйна Вольф | 60, мяшч., удава | Занёманскі фарштад | Габр., іуд. | Хатняя | % ад капіталу |
| Хося Мітлоўская | 45, мяшч., разведзена | Занёманскі фарштад | Габр., іуд. | | Гаспадыня мучной і крупяной крамы |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Фані Орман | 23, мяшч., незам. | Гарадні-чанская | Габр., іуд. | Гімназія | Хатняя настаўніца, дае ўрокі |
| Ганна Пятровіч | 23, мяшч., зам. | Гарадні-чанская | Польск., р-к. | Хатняя | Домаўладальніца |
| Рэвека Бароўская | 50, мяшч., удава | Гарадні-чанская | Габр., іуд. | | % ад капіталу |
| Двейра Чахоўская | 58, мяшч., удава | Гарадні-чанская | Габр., іуд. | | Домаўладальніца |
| Іаанна Блажэеўская | 50, патомн. двар., удава | Гарадні-чанская | Польск., р-к. | Хатняя | % ад капіталу, трымае сталоўнікаў |
| Вольга Сасноўская | 42, патомн. двар., развед. | Гарадні-чанская | Руск., прав. | Хатняя | % ад капіталу |
| Юлія-Марыя Жуў | 77, патомн. двар., удава | Гарадні-чанская | Польск., р-к. | Смольны інстытут | Домаўладальніца |
| Карнелія Сянкевіч | 55, патомн. двар., удава | Гарадні-чанская | Польск., р-к. | Жан. пансіён | Домаўладальніца |
| Юлія Цімафеева | 33, асаб.двар., незам. | Гарадні-чанская | Руск., прав. | Выш. жан. курсы ў СПб. | Выкладчык Гродз. жан. гімн. |
| Ганна Ахноўская | 37, асаб.двар., незам. | Гарадні-чанская | Украін., прав. | Выш. жан. курсы ў СПб. | Выкладчык Гродз. жан. гімн. |
| Сафія Гальперн | 33, дачка купца, незам. | Гарадні-чанская | Габр., іуд. | Жан.гімн. | Дае ўрокі |
| Аляксандра Лявіцкая | 70, духоўнага звання, удава | Гарадні-чанская | Укр., прав. | | Выпякае просфары |
| Цыпа Велер | 55, мяшч., замуж. | Гарадні-чанская | Габр., іуд. | | Гандаль булкамі |
| Шэйна Велер | 23, мяшч., замуж. | Гарадні-чанская | Габр., іуд. | | На тытунёвай фабрыцы |
| Алена Дзікава | 48, патомн. двар., замуж. | Гарадні-чанская | Руск., прав. | Міка-лаеўскі інстытут | % з капіталу |
| Буня Каплан | 36, мяшч., зам. | Гарадні-чанская | Габр., іуд. | | Гандаль садавінай |
| Лізавета Чыракова | 24, патомн. двар., зам. | Гарадні-чанская | Руск., прав. | Жаночая гімназія | Драматычная артыстка |
| Юлія Панамарова | 65, удава, патомн. двар. | Дравяны завулак | Польск., р-к. | Хатняя | Дзяржаўная пенсія, домаўладальніца |
| Міхаліна Мокрская | 55, патомн. двар., удава | Дравяны завулак | Бел., р-к. | Хатняя | Дзяржаўная пенсія, землеўладальніца |
| Варвара Кавальская | 19, мяшч. Феадосіі, незам. | Дравяны завулак | Руск., прав. | Хатняя | Швачка-адзіночка |
| Клара Дыбоўская | 45, патомн. двар., незам. | Дравяны завулак | Польск., р-к. | Хатняя | Настаўніца кройкі |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Надзея Дзюбют | 54, патомн. двар., незам. | Дравяны завулак | Руск., прав. | Хатняя | Арэнда з дамоў |
| Марыя Брайбіш | 60, асаб. двар., зам. | Дравяны завулак | Польск., р-к. | Хатняя | Домаўладальніца |
| Антаніна Жапоўская | 27, мяшч., незам. | Дравяны завулак | Польск., р-к. | Хатняя | Швачка-адзіночка |
| Сара-Роха Стралей | 35, мяшч., зам. | Замкавая | Габр., іуд. | Хатняя | Утрымальніца мясной крамы |
| Ента Флята | 57, мяшч., удава | Замкавая | Габр., іуд. | Хатняя | Гаспадыня крамы (дробязнай) |
| Хая-Фэйга Шапіра | 37, мяшч., зам. | Замкавая | Габр., іуд. | Хатняя | Гандаль старой адзежай |
| Марыя Хлюдневіч | 33, мяшч., зам. | Замкавая | Габр., іуд. | Гродз. жаночая гімн. | Домаўладальніца |
| Хана Рахель Захарый | 26, мяшч., зам. | Замкавая | Габр., іуд. | Хатняя | Прыказчыца ў краме харчовых прадуктаў |
| Вольга Шпеер | 30, дачка палкоўніка, незам. | Замкавая | Руск., прав. | Хатняя | Дае ўрокі |
| Вольга Лабкоўская | 53, жонка чыноўніка не з дваран, зам. | Іеруса-лімская | Руск., прав. | | Домаўладальніца (прыбытак з кватэр) |
| Эня Прывальская | 24, мяшч., зам. | Іеруса-лімская | Габр., іуд. | | Гандлюе хлебам |
| Мнуха Горніцкая | 65, мяшч., удава | Іеруса-лімская | Габр., іуд. | | Домаўладальніца (прыбытак з кватэр) |
| Ліба Длугасельская | 24, мяшч., зам. | Іеруса-лімская | Габр., іуд. | Хатняя | Утрымальніца дробязнай крамы |
| Ганна Плявінская | 53, патомн. двар., удава | Лапенская | Польск., р-к. | Прыв. жан. вуч. | Домаўладальніца |
| Марыя Каменская | 38, патомн. двар., зам. | Лапенская | Польск., р-к. | Вілен. жан. гімн. | Дае прыватныя ўрокі |
| Антуанэта Швейф | 25, французская грамадзянка, незам. | Лапенская | Франц., пратэст. | Пансіянат у Францыі | Гувернантка, дае ўрокі |
| Вольга Дзем'яновіч | 52, удава стат. саветніка | Лапенская | Руск., прав. | Хатняя | Домаўладальніца, дзяржаўная пенсія |
| Сафія Санькоўская | 43, мяшч., незам. | Лапенская | Польск., р-к. | Хатняя | Кватэра для вучняў, дае ўрокі |
| Ганна Пракопаўна Берзін | 50, мяшч., удава | Падольная | Руск., прав. | Хатняя | Прыбыткі з маёнтка |
| Марыя Зінкова | 44, мяшч., зам. | Падольная | Руск., прав. | Хатняя | Выраб крупаў |
| Аляксандра Шумілеўская | 42, мяшч., зам. | Падольная | Руск., прав. | | Домаўладальніца, пранне бялізны |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Мар'я Мароз | 46, мяшч., зам. | Падольная | Руск., прав. | | Мясніцтва |
| Мар'я Анелюксціс | 30, мяшч., зам. | Падольная | Польск., р-к. | Хатняя | Каток для бялізны |
| Пелагея Аляксейчык | 34, двар., удава | Падольная | Руск., прав. | Хатняя | Швачка |
| Ядзвіга Ярыга | 40, мяшч., удава | Падольная | Польск., р-к. | Хатняя | Пранне бялізны, работніца-падзёншчыца |
| Людвіка Квяткоўская | 39, патомн. двар., зам. | Паліцэйская | Польск., р-к. | Віл. Мар. выш. жан. вуч. | Прыватная настаўніца |
| Алена Аржавіна | 31, двар., зам. | Паліцэйская | Ням., р-к. | Выш. жан. школа ў Мітаве | Настаўніца музыкі, франц. і ням. моваў |
| Сафія Шагідзевіч | 40, патомн. двар., зам. | Паліцэйская | Польск., р-к. | Хатняя | Утрымлівае кватэры для вучняў (5 гімназістаў), мае дом |
| Гершуна Багіева | 48, мяшч., удава | Паліцэйская | Габр., іуд. | Хатняя | Мае дом, піўную краму |
| Сара Віленская | 27, мяшч., зам. | Паліцэйская вул. | Габр. жаргон, іуд. | Гродз. жан. гімн., Варшаўскі паві-вальны інстытут | Акушэрка, прыватныя ўрокі па жаночай гігіене |
| Марыя Чэрнікава | 25, мяшч., незам. | Паліцэйская вул. | Руск., прав. | Гімназія | Утрымлівае сталовую, кватэранта |
| Леакадзія Пастаўшчынская | 26, мяшч., незам. | Паліцэйская вул. | Польск., р-к. | Хатняя | Швачка |
| Гінда Хая Вольгель | 31, мяшч., зам. | Паліцэйская вул. | Габр., іуд. | Курсы пры СПб мед.-хір. акад. | Павівальная бабка, |
| Хвеся Айзенман | 20, мяшч., незам. | Паліцэйская вул. | Габр., іуд. | Хатняя | Выраб цукерак |
| Неха Шварц | 21, мяшч., незам. | Паліцэйская вул. | Руск., іуд. | Гродз. жан. гімн. | Прыватная настаўніца |
| Блюма Вольгель | 21, мяшч., незам. | Паліцэйская вул. | Габр., іуд. | Пач. габр. вуч. | Мадыстка, арэнда з дамоў |
| Буня Малка Шапіра | 32, мяшч., зам. | Паліцэйская вул. | Габр., іуд. | Хатняя | % з капіталу (ліхвярства) |
| Бейла Ліпшыц | 38, мяшч., зам. | Паліцэйская вул. | Габр., іуд. | Хатняя | Мае тры дома, краму з мукою |
| Меляціна Аблонская | 27, патомн. двар., незам. | Паліцэйская вул. | Руск., прав. | Гродз. паві-вальная школа | Павівальная бабка |
| Лізавета Тамарына | 30, жонка настаўніка, зам. | Паліцэйская вул. | Руск., іуд. | Гродз. жан. гімн. | Утрымлівае прыватнае габр. вуч. |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Рахель Мусаў-Крынская | 52, мяшч., зам. | Паліцэйская вул. | Габр., іуд. | | Мае дом і дробязную краму ў ім |
| Адэлаіда Капанская | 37, патомн. двар., удава | Паліцэйская вул. | Руск., лютэр. | Кіеўскі інстытут шляхетных паненак | Пенсія па мужу, урокі спеваў і музыкі |
| Валянціна Карпачова | 36, мяшч., зам. | Паліцэйская вул. | Руск., прав. | Гродз. жан. гімн. | Мадыстка, закройшчыца |
| Лізавета Куцэвіч | 25, патомн. двар., незам. | Паліцэйская вул. | Руск., прав. | Гродз. жан. гімн. | Выкладчыца жан. гімн. |
| Яўгенія Альшэўская | 56, мяшч., удава | Скідзельская застава | Польск., р-к. | | Домаўладальніца, прыбытак з кватэр |
| Юзэфа Філонава | 34, мяшч., удава | Скідзельская застава | Польск., р-к. | | Дробязная гаспадарка |
| Кацярына Ямаліта | 21, мяшч., незам. | Скідзельская застава | Польск., р-к. | Хатняя | Прастытуцыя |

Крыніца: НГАБ у Гродне. Ф. 100, воп. 1 адз. зах. 196, 197.

---

[1] Смалянчук А. Антрапалагічная гісторыя і беларуская гістарыяграфія // Homo historicus 2008. Гадавік антрапалагічнай гісторыі / Пад рэд. А.Ф.Смаленчука з удзелам І.М.Дубянецкай. Вільня: ЕГУ, 2008. С. 12.

[2] Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. СПб., 1903. Т. XI. Гродненская губерния.

[3] Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. СПб., 1901. Т. IV. Виленская губерния; СПб., 1903. Т. V; Витебская губерния; Т. XXII; Минская губерния; Т. XXIII. Могилевская губерния.

[4] Шыбека З.В. Гарады Беларусі (60-я г. XIX – пачатак XX ст.). Мінск, 1997. С. 166.

[5] Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. СПб., 1903. Т. XI. Гродненская губерния. С. 10 – 11.

[6] НГАБ у Гродне. Ф. 100, воп. 1, адз. зах. 197. Арк. 525.

[7] Тамсама. Адз. зах. 196. Арк. 116 – 117.

[8] Тамсама. Адз. зах. 197. Арк. 527.

[9] Тамсама. Воп. 8, адз. зах. 825а. Дело по прошению Фрумкиной о присвоении ёй и её семейству звания потомственных почетных граждан. 1882 – 1883.

[10] Первая всеобщая перепись населения Российской империи 1897 г. СПб., 1903. Т. XI. Гродненская губерния. С.46 – 54.

[11] Тамсама. С. 177.

[12] Соркіна І. Насельніцтва Гародні паводле апублікаваных матэрыялаў Першага ўсеагульнага перапісу насельніцтва Расейскай імперыі 1897 г. // Гарадзенскі палімпсест. XII – XX стст. Матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі (Горадня, 7 лістапада 2008 г.). Горадня-Беласток, 2008. С. 127.

[13] Соболевская О., Гончаров В. Евреи Гродненщины: жизнь до Катастрофы. Донецк, 2005. С. 287.

[14] Соболевская О.А. Из истории еврейской женщины на Беларуси в XIX веке [электронны рэсурс]. – Рэжым доступа:http://www.genderstudies.info/sbornik/vozmoj/8.htm. Дата доступа: 2 лістапада 2012 г.

[15] НГАБ у Гродне. Ф.1, воп. 8, адз. зах. 1638. Дело по прошению Стефаниды Иаакимовны Поды о выдаче ей свидетельства о благонадежности с целью получения отдельного от мужа вида на жительство. 1885 – 1886 гг. Арк. 1 – 3.

[16] Тамсама. Арк. 12.

[17] Тамсама. Воп. 9, адз. зах. 951. Дело по прошению дворянки Яголковской и других о расторжении браков с мужьями и др.вопросам. 1898 г. Арк. 19, 31.

[18] Вся Россия: Русская книга промышленности, сельского хозяйства и администрации. Адрес-календарь Российской империи / Изд. А.С.Суворина. Т. 1.СПб., 1900.

[19] НГАБ у Гродне, Ф.305, воп. 1, адз. зах.70. Список гостиниц, ресторанов, типографий и контор сельскохозяйственных обществ в Гродненском уезде. Арк. 1 – 4.

[20] Сабалеўская В.А. Спрадвечныя іншаземцы: старонкі гісторыі гарадзенскіх яўрэяў. Гародня, 2000. С. 13, 19, 55 – 56.

[21] Коженевская М. Женское еврейское образование в Гродненской губернии во второй половине 19 – начале 20 в. Дипломная работа. Гродно: ГрГУ, 2012. С. 24.

[22] НГАБ у Гродне. Ф. 27, воп. 1, адз. зах. 232. Дело об открытии торгового кредита акционерному обществу табачной фабрики "И.Л. Шерешевский". Арк. 9.

[23] Тамсама. Ф. 100, воп. 1, адз. зах. 197. Арк. 75, 215.

[24] Тамсама. Ф. 17, воп. 1, адз. зах. 128. Дело о противозаконной выдаче Гродненской ремесленной управой аттестата на звание женского портного жительнице г.Гродно Луции Евгении Кондрат. 1894 – 1902 гг. Арк. 37 – 38, 14.

[25] Соркіна І. Сацыяльная тапаграфія Параднай (Саборнай) плошчы ў канцы XIX – пачатку XX ст. // Гарадзенскі гадавік. № 1. 2012. С. 65.

[26] НГАБ у Гродне. Ф. 100, воп. 1, адз. зах. 197. Арк. 455.

[27] Тамсама. Ф. 1, воп. 18, адз. зах. 1358. Дело по прошению мещ. Заморской Марии о разрешении открыть книжный магазин в г.Гродно. 1909 г. Арк. 1, 7.

[28] Памятная книжка Виленского учебного округа на 1906/1907 г. Вильно, 1906. С. 181.

[29] Памятная книжка Виленского учебного округа на 1908/1909 г. Вильно, 1908. С. 137.

[30] Памятная книжка Гродненской губернии на 1897 г. Издание Гродненского губернского статистического комитета. — Гродна : Губ. тип., 1896. – V. С. 26.

[31] НГАБ у Гродне. Ф. 100, воп. 1, адз. зах. 197. Арк. 349.

[32] Памятная книжка Гродненской губернии на 1897 г. Гродна : Губ. тип., 1896. – V. С. 26.

[33] Сабалеўская В. Аматары лячыцца: санітарыя, хваробы і медыцына ў габрэйскай Гародні XIX – пачатку XX ст. // Гарадзенскі палімпсест. 2011. Асоба, грамадства, дзяржава. XV – XX стст. / Пад рэд. А.Ф.Смаленчука, Н.У.Сліж. Мінск: Зміцер Колас, 2012. С. 220.

[34] НГАБ у Гродне. Ф. 100, воп. 1, адз. зах. 197. Арк. 600 адв. – 601, 603.

[35] Падлічана па: Первая всеобщая перепись населения Росийской империи 1897 г. Гродненская губерния… – С. 63, 113.

[36] Луцкевіч А. Жанчыны ў беларускім адраджэнскім руху // Луцкевіч А. Барацьба за вызваленне. Вільня-Беласток, 2009. С. 312.

[37] Памятная книжка Гродненской губернии на 1897 г. Гродна : Губ. тип., 1896. – I. С. 49

[38] Сілава С. Праваслаўныя брацтвы Гродна XIX – пачатку XX ст.: праблемы метадалогіі вывучэння // Гістарычная ўрбаністыка: асновы метадалогіі і крыніцазнаўчая база:зб. навук. арт. / ГрДУ імя Я.Купалы ; рэдкал. І.В. Соркіна (гал. рэд.) [і інш.]. Гродна: ГрДУ, 2011. С. 114.

[39] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 18, адз. зах. 731.

[40] Дзякую сп. Вольфу Рубінчыку за цікавую інфармацыю.

[41] Тамсама. Ф. 17, воп. 1, адз. зах. 189. Дело по жалобе дворянки жительницы г.Гродно о невыдаче ей денежного вознаграждения за землю, отошедшую под расширение Софийской улицы. 1897 – 1899 гг.

[42] Тамсама. Ф. 17, воп. 1, адз. зах. 54. Дело об обложении свечным сбором жительницы г.Гродно. 1892 г.

[43] Тамсама. Адз. зах. 124. Дело о вымогательстве денег Гродненским старостой у мещанки г.Гродно за предоставление льгот ее сыну по отбытию воинской повинности. 1894 – 1895 гг.

*Jan Jerzy Milewski,*
*Dr (Białystok)*

# Kobiety w życiu społeczno-politycznym i kulturalnym międzywojennego Grodna

Jak wykazał pierwszy powszechny spis ludności w Polsce w roku 1921, większość mieszkańców Grodna stanowiły kobiety (53% przy średniej krajowej 52,3%). Przewaga ta zawsze rosła po wojnach, o czym świadczą proporcje w grupie wiekowej 19 – 29 lat, w której na 100 mężczyzn przypadało aż 164 kobiety.

Zaskakujące, ale po kolejnych dziesięciu latach odsetek kobiet wśród mieszkańców Grodna jeszcze zwiększył się (do 53,8%), co z kolei tłumaczy się napływem kobiet samotnych z okolicy, które podejmowały pracę jako służba domowa. W tym charakterze było zatrudnionych w 1931 r. 1590 osób[1]. I to zapewne powodowało, że największa przewaga kobiet występowała w grupie osób wyznania prawosławnego -55,4%.

Kobiety były też mniej aktywne zawodowo, w 1931 r. stanowiły tylko jedną trzecią część zatrudnionych. Zdecydowanie więc dominował model rodziny, gdzie mężczyzna był nie tylko głównym ale i jedynym jej żywicielem[2]. Było to konsekwencją nie tylko tradycji, trudności na rynku pracy, ale i słabszego przygotowania zawodowego kobiet. Jak wykazał II spis powszechny wśród mieszkańców powyżej 10 lat nie umiejących czytać i pisać kobiety stanowiły prawie 74%[3]. Kobiety najlepiej prezentowały się w grupie osób o średnim wykształceniu, razem takich osób było w mieście w końcu 1921 r. 3684, w tym prawie 57% kobiet. Jednak już w grupie osób o wykształceniu wyższym proporcje te były zdecydowanie złe i przedstawiały się następująco: 348 mężczyzn wobec tylko 67 kobiet[4].

Po odzyskaniu przez Polskę niepodległości w 1918 r. już w pierwszych aktach prawnych, jak ordynacja wyborcza do Sejmu Ustawodawczego, kobiety uzyskały prawa polityczne na równi z mężczyznami. Potwierdzone to zostało później w konstytucji marcowej.

W większości dotychczasowych publikacji analizując wyniki wyborów parlamentarnych, a także samorządowych, w zasadzie nie zwracano uwagi na kwestie płci. Wyniki te interpretowano głównie pod kątem politycznym, narodowościowym lub społecznym. Dopiero w ostatnich kilkunastu latach problem udziału kobiet w życiu politycznym i społecznym w Polsce międzywojennej stał się ważnym tematem[5]. W publikacjach tych zwracano uwagę na fakt, że obydwie płcie miały równe prawa, ale nierówne szanse. Pierwszą sędziną w Polsce została kobieta dopiero w 1929 r., a w 1937 r. w całym kraju na tym stanowisku

było siedem kobiet. Parlamentarzystkami w Polsce w latach 1919 – 1939 było 50 kobiet, choć niektóre wielokrotnie. Najwięcej kobiet reprezentowało obóz polityczny Józefa Piłsudskiego, dalej była narodowa demokracja i ruch ludowy. Z mniejszości narodowych było jedynie dwie posłanki i senatorka Ukrainka oraz jedna posłanka narodowości żydowskiej.

Z ziem północno-wschodnich warto przypomnieć dwie parlamentarzystki: Aleksandrę Karnicką i Janinę Prystorową. Pierwsza, działaczka Polskiego Stronnictwa Ludowego „Wyzwolenie" w latach 1922-1927 była senatorką, a następnie w latach 1928-1930 – posłanką z okręgu Wilno i powiat wileńsko-trocki. Janina Prystorowa, związana z obozem sanacyjnym (mąż był premierem), w latach 1935-1938 sprawowała mandat poselski z okręgu obejmującego powiaty wileński i święciański. Obydwie posiadały wyższe wykształcenie. Charakterystyczne jest właśnie to, że kobiety uczestniczące w życiu publicznym zdecydowanie przewyższały wykształceniem mężczyzn.

Jedyną kobietą w Grodnie, przed którą pojawiła się szansa zdobycia mandatu poselskiego w ostatnich w okresie międzywojennym wyborach była Władysława Grażyna Lipińska, dyrektorka tamtejszego Gimnazjum Krawieckiego Żeńskiego. Urodzona w Warszawie w 1902 r., posiadała wyższe wykształcenie (inżynier-chemik), była członkiem Obozu Zjednoczenia Narodowego i działała w Związku Pracy Obywatelskiej Kobiet. W zdominowanym przez mężczyzn okręgowym zgromadzeniu wyborczym (kobiety stanowiły w nim zaledwie kilka procent) zdołała zdobyć 39 głosów i znalazła się na liście kandydatów (mogło być tylko dwóch kandydatów do jednego mandatu). Urząd Wojewódzki w Białymstoku, informując Ministerstwo Spraw Wewnętrznych o ustalonej liście kandydatów, przy Lipińskiej dodawał: „Posiada dość duże szanse wyboru ze względu na poparcie większości kobiet"[6].

Zdobycie mandatu poselskiego przez Lipińską byłoby wielką sensacją, skoro wcześniej żadna kobieta w Grodnie nie została wybrana nawet do Rady Miejskiej. W końcu 1918 r. na żądanie władz okupacyjnych niemieckich zorganizowano Tymczasowy Komitet Miejski, który 27 lutego następnego roku zorganizował wybory do Rady Miejskiej. Ani w Tymczasowym Komitecie, ani w wybranej wówczas Radzie Miejskiej nie było żadnej kobiety[7]. Rada Miejska w Grodnie, choć miała być wybrana tylko na rok, po wkroczeniu wojsk polskich została uznana przez polskie władze i rozwiązano ją dopiero 5 września 1927 r.

Właśnie w trakcie kampanii wyborczej w 1927 r. możemy dokładnie prześledzić rolę jaką odgrywały kobiety w życiu politycznym miasta. Były one bardzo nielicznie reprezentowane już w samych obwodowych komisjach wyborczych. W dwudziestu takich komisjach, liczących łącznie 100 członków, znalazły się zaledwie cztery kobiety: Stanisława Denkierowa (właścicielka domu), Jadwiga Jackiewiczowa (urzędniczka), Tatiana Kowalewska (brak danych) i Maria Kantorówna (urzędniczka). Żadna z nich nie została przewodniczącą komisji.

Rzadko pojawiały się również kobiety na listach kandydatów. Na kilku listach w ogóle nie było kobiet: nr 4 (Bund), nr 11 (Rosyjsko-Białoruska Bezpartyjna), nr 12 (Białorusko-Rosyjski Blok) i nr 15 (Zjednoczenie Ludności Polskiej na Przedmieściu). Na pozostałych listach kobiety pojawiały się nielicznie i tylko na dalszych miejscach, co było bardzo ważne, bo głosowano na listy i przydzielano mandaty według ustalonej wcześniej kolejności. Najwyżej, bo na czwartym miejscu (na dwudziestu kandydatów), znalazła się robotnica Małka Atłas na liście komunizującego Zjednoczonego Bloku Robotniczego (nr 6), dziewiąta – ale jednocześnie ostatnia – była Teresa Chazan (lat 59, gospodyni domowa) na liście Bezpartyjnego Żydowskiego Zjednoczenia Radykalno-Demokratycznego. Daleko były też kobiety na innych listach lewicowych: Żydowska Socjalistyczna Partia Robotnicza Poale Sjon dopiero na jedenastym miejscu (na 17 kandydatów) umieściła Soszę Jelin (lat 30, gospodyni domowa), zaś na dwunastym miejscu znalazła się Aniela Rudzińska (lat 40, akuszerka) na liście nr 2 (Polska Partia Socjalistyczna i Rada Klasowych Związków Zawodowych).

Na listach ugrupowań prawicowych kobiety były jeszcze dalej, choć akurat w Chrześcijańskim Bloku Polskim (nr 14) były najliczniej reprezentowane. Na 50 kandydatów było ich cztery: 23. Stanisława Mościcka (lat 57, dyrektor Żeńskiej Szkoły Zawodowej), 26. Eleonora Jundziłowa (lat 31, działaczka Narodowej Organizacji Kobiet), 29. Konstancja Komornicka (lat 40, robotnica), 32. Wiktoria Czapówna (lat 40, dyrektorka Seminarium).

Z listy Żydowskiego Bloku Narodowego (nr 7) kandydowała tylko jedna kobieta i to z 35. miejsca: Sarra Sołowiejczyk (lat 33, lekarka)[8].

Rzecz jasna, że kandydując z tak odległych miejsc, żadna z kobiet nie mogła realnie liczyć na zdobycie mandatu radnej, ani też, aby w czasie kadencji wejść do rady na miejsce tych, którzy zrezygnowali, wyjechali itp. I tak na liście PPS, która zdobyła cztery mandaty, Aniela Rudzińska jako rezerwowa (zastępca radnego) zajmowała ósmą lokatę.

Przy braku możliwości działania na niwie samorządowej, a tym bardziej parlamentarnej, kobietom pozostawała aktywność w dziedzinie kulturalno-oświatowej i dobroczynnej. I nazwiska kobiet-aktywistek w tych dziedzinach pojawiają się w pracach dotyczących historii Grodna w okresie międzywojennym. W wydanej ostatnio popularnej monografii Grodna w serii „Grodzieńska Biblioteka”[9] autor rozdziału dotyczącego lat 1921-1939 wymienia nazwiska pięciu kobiet, w tym dwóch Białorusinek nauczycielki Pauliny Miadziołki i kierowniczki Białoruskiego Przytułku Dziecięcego Stanisławy Bujno (zmarła w 1922 r.). Pozostałe trzy kobiety to Zofia Nałkowska, wybitna polska pisarka, mieszkająca w Grodnie zaledwie kilka lat; Wilhelmina Zyndram-Kościałkowska, przedstawiana jest jako znana polska tłumaczka oraz Nadzieja z Druckich O`Brien de Lacy, pisarka, inicjatorka i prezes Towarzystwa Przyjaciół Literatury i Sztuki (1925-1937).

Wanda Renikowa w bardzo obszernym informatorze wystawy z 1999 r. poświęconym międzywojennemu Grodnu[10] wymienia nazwiska około dwudziestu

kobiet działających w tym okresie w mieście Batorego i są to wyłącznie Polki, w większości nauczycielki i w różnych typach szkół, zaangażowane w działalność kulturalną. Najwięcej znanych przedwojennych mieszkańców Grodna wspomina ks. Ludwik Sawoniewski w wierszowanej „Sadze o Grodnie”[11]. Utwór ten, choć wierszowany, nie ma większych wartości literackich, ale jest swego rodzaju mini-słownikiem biograficznym Grodna. Ks. Sawoniewski w „Sadze o Grodnie” wymienia przeszło 80 Grodnian-mężczyzn i tylko kilkanaście kobiet. Wśród mężczyzn byli głównie Polacy, ale też kilkunastu Żydów, jeden Rosjanin i jeden Gruzin, natomiast wspominane przez niego kobiety to wyłącznie Polki.

Jeżeli porównamy trzy wymienione publikacje, to we wszystkich występują jedynie pisarki Nadzieja O`Brien de Lacy i Zofia Nałkowska. Pierwsza z nich w zasadzie mieszkała w majątku Augustówek pod Grodnem, zaś druga przebywała w mieście zaledwie kilka lat (1923-1926). Nadzieja O`Brien de Lacy (1898–1986), pochodząca z książęcej rodziny rosyjskich arystokratów Druckich, była żoną polskiego hrabiego irlandzkiego pochodzenia Maurycego, który posiadał pod Grodnem majątek, a w latach 1930-1933 był prezydentem miasta, co niewątpliwie ułatwiało jej działalność społeczną i pisarską. Zofia Nałkowska przybyła do Grodna za sprawą męża, który został dowódcą 3 dywizjonu żandarmerii. Poza udziałem w życiu kulturalnym, a szczególnie literackim, działała w Towarzystwie Opieki nad Więźniami „Patronat”.

Wśród trzech kuratorów powołanych przez prezesa Sądu Okręgowego w Grodnie były dwie kobiety: obok Nałkowskiej Florentyna de Virion – miejscowa działaczka społeczna[12].Warto też wspomnieć Stefanię Nostitz-Jackowską (przybyła do Grodna po sprzedaniu majątku w Płockiem). O jej wielkiej aktywności świadczyć może samo wymienienie pełnionych przez nią funkcji: przewodnicząca oddziału Polskiego Czerwonego Krzyża, wiceprzewodnicząca Związku Pracy Obywatelskiej Kobiet, wiceprzewodnicząca Towarzystwa im. Elizy Orzeszkowej oraz Towarzystwa Przyjaciół Literatury i Sztuki. Ponadto, a może przede wszystkim, redagowała „Echo Grodzieńskie”, a potem „Kurier Grodzieński”.

Jednak niewątpliwie najbardziej zasłużoną działaczką w Grodnie, a jednocześnie kobietą zajmującą ważne stanowisko była Janina Kozłowska–Studnicka, która przez cały okres międzywojenny była kierowniczką miejscowego Archiwum Państwowego, trzeciego archiwum w kraju pod względem ilości jednostek archiwalnych[13]. Kozłowska–Studnicka dążyła do tego, aby kierowana przez nią placówka stała się ważnym ośrodkiem naukowym i kulturalnym. W 1935 r. doprowadziła do utworzenia w mieście oddziału Polskiego Towarzystwa Historycznego, a w roku następnym – Biblioteki Historycznej miasta Grodna, która w przyszłości mogłaby stać się podstawą wyższej uczelni. Działała także w Związku Zaścianków Polskich – była członkiem Rady Głównej, a we współpracy z Dowództwem Okręgu Korpusu nr III utworzyła Studium Narodowościowe. Nic dziwnego, że ks. Sawoniewski w swojej „Sadze o Grodnie” napisał o trójce „dzieci” Studnickiej:

Studnicka to osoba nader wyjątkowa
Człowiek wielkiej kultury – pani twórczej siły
I słusznie o niej mówią – druga Orzeszkowa.
To charakter wspaniały i osobnik miły (…)
Studnicka, pani dzielna, Janina z Archiwum,
Musi teraz na szpaltach *Sagi* figurować
Jej praca bowiem godna wielkiego podziwu,
Toteż trzeba ją w piękne barwy podmalować.
Zobaczcie więc człowieczki, co człowiek może,
Patrzcie, czego Studnicka w Grodnie dokonała.
Na polu archiwalnym ona orze i orze (…)
A oto drugi potomek, syn Studnickiej pani,
Nie, to raczej jej córka i to bardzo śliczna,
Zrodzona na książkowej, przepięknej przystani.
Jest to biblioteka wielka, historyczna (…)
I znowu Towarzystwo Historyczne w Grodnie
Dziecię trzecie Studnickiej, piękne i wspaniałe,
I ono pracowało dobrze i dorodnie,
Dając pani Studnickiej sukcesy niemałe[14].

Być może dzięki Kozłowskiej–Studnickiej w grodzieńskim oddziale Polskiego Towarzystwa Historycznego bardzo widoczna była grupa kobiet: Wiktoria Czapow (dyrektorka Państwowego Seminarium Żeńskiego, wchodziła w skład kolejnych zarządów), nauczycielki Ludmiła Bajdzińska, E.[?] Krzywonosowa, Janina Niedźwiecka oraz dentystka Eugenia Gutowska[15].

Domeną działalności kobiet były organizacje dobroczynne. Na ogół pochodziły one z rodzin dobrze sytuowanych. Dosyć dokładnego bilansu w tej dziedzinie dokonała Larysa Michajlik. W Farnym Towarzystwie Dobroczynnym działały Maria Światopełk-Czartoryska, hr. Maria Potocka, ks. Maria Sapieha, Alina Wróblewska, w Rosyjskim Towarzystwie Dobroczynnym Klaudia Stańska-Atowicz, Weronika Radczanka i Wiera Grygiel. Z działalności dobroczynnej znane były też wymieniane wcześniej Nadzieja O`Brien de Lacy, Florentyna de Virion i Stefania Nostitz-Jackowska. W Ewangelickim Towarzystwie Dobroczynnym udzielała się żona lekarza-okulisty Jana Rupa[16].

Jak wynika z ostatniego przykładu, w działalność społeczną na niwie kulturalnej, bądź dobroczynnej, często były zaangażowane kobiety wykształcone, które miały dobrą sytuację materialną lub mężów „na stanowiskach” (do plejady nazwisk dodać też można Czesławę Rączaszkową, sekretarza Towarzystwa Przyjaciół Literatury i Sztuki im. Elizy Orzeszkowej, żonę prezydenta miasta w latach 1929 – 1930). Czasami działały razem z mężami. Ilustracją mogą być małżeństwa Jadwigi i Tadeusza Korulskich oraz Marii i Stanisława Ziemaków z branży dziennikarsko – wydawniczej.

I na koniec wymieńmy najbardziej znaną grodzieńską sportsmenkę Irena Kieskiewicz. W latach 1932 – 1933 dwukrotnie zdobywała wicemistrzostwo Polski w wioślarstwie w jedynkach[17].

Na tle nikłej obecności kobiet w aparacie władzy, nawet na najniższych stanowiskach w administracji, bardzo okazale wygląda ich udział w organizacji życia kulturalno-oświatowego, a także działalności dobroczynnej. Na ogół angażowały się kobiety wykształcone i często mające mężów pełniących ważne funkcje publiczne. Wbrew oczekiwaniom, nawet w partiach lewicowych we władzach była bardzo słaba reprezentacja kobiet. Jeden z nielicznych wyjątków to początki działalności chadecji w Grodnie. W komitecie organizacyjnym Chrześcijańskiego Związku Demokratycznego znalazły się Julia Żongołłowiczowa (wiceprezes) i polonistka Antonina Galska (sekretarz)[18].

---

[1] Drugi powszechny spis ludności z dn. 9 XII 1931 r. Województwo białostockie // Statystyka Polski, ser. C. z. 83, Warszawa 1938, s. 271 (dalej: Drugi powszechny spis…).

[2] Nawet bezrobotni mężczyźni byli w lepszej sytuacji, gdyż w większości należeli do grupy ubezpieczonych i w związku z tym pobierali ustawowe zasiłki. I tak w 1927 r. na 2585 osób pobierających takie zasiłki 80% stanowili mężczyźni.

[3] Drugi powszechny spis… , s.68.

[4] Statystyka Polski, t. XIX, Warszawa 1927.

[5] Zob.: Kobieta i świat polityki w niepodległej Polsce. 1918-1939, red. A. Żarnowska, A. Szwarc. Warszawa, 1996; Działaczki społeczne, feministki, obywatelki. Samoorganizowanie się kobiet po 1918 roku (na tle porównawczym), red. A. Janiak-Jasińska, K. Sierakowska, A. Szwarc. Warszawa, 2009; Równe prawa i nierówne szanse: kobiety w Polsce międzywojennej, red. A. Żarnowska, A. Szwarc. Warszawa, 2000.

[6] Państwowe Archiwum Obwodowe w Grodnie, sygn. 68/1/2, k.19.

[7] Kronika m. Grodna, z. 1, 20 IV 1928, s. 12, 18, 20. W pierwszych wyborach do Rady Miejskiej w Białymstoku została wybrana jedna kobieta – Jadwiga Klimkiewiczowa, właścicielka księgarni, ale chyba ważniejsze było to, że była ona córką znanego działacza polskiego w Białymstoku Feliksa Filipowicza.

[8] Ibidem, s. 37-42.

[9] Гродназнаўства. Гісторыя еўрапейскага горада. Гародня-Вроцлаў, 2012.

[10] Pamięć Grodna 1919-1939. Informator wystawy luty – kwiecień 1999. Warszawa, 1999.

[11] Sawoniewski L. Saga o Grodnie. Białystok, 1994.

[12] Nałkowska Z. Dzienniki, t. 3, 1918-1929. Warszawa, 1980, s. 129-130.

[13] Państwowe Archiwum Obwodowe w Grodnie, z. 104, op.1, t. 233, k. 77, 162.

[14] Sawoniewski L., op. cit., s. 59.

[15] . Milewski J. J. Powstanie i działalność Oddziału Polskiego Towarzystwa Historycznego w Grodnie // Biuletyn Historii Pogranicza. 2006, nr 7, s. 61.

[16] Міхайлік Л. Праблема сацыяльнага забеспячэння ў Гродне ў 1921-1939 гг. // Гарадзенскі палімпсест. Асоба, грамадства, дзяржава. Пад рэд. А.Смаленчука, Н.Сліж. Мінск: Зміцер Колас, 2011, s. 359, 363, 364, 367.

[17] Górko J. Sprintem przez historię. Białystok, 1996, s. 317.

[18] Nowe Życie. 18 XII 1918.

*Ларыса Міхайлік,*
*Phd (Гродна)*

# Адукацыя ў міжваенным Гродне ў 1921-1939 гг.

У артыкуле разглядаюцца прынцыпы дзейнасці ўстаноў адукацыі ў Гродне міжваеннага перыяду. У разглядаемы перыяд у горадзе не існавала вышэйшых навучальных устаноў, яго жыхары маглі на месцы атрымліваць толькі базавую і сярэднюю адукацыю рознага профілю, якая пры гэтым адрознівалася ўзроўнем. Падставай тагачаснай сістэмы асветы было абавязковае базавае навучанне дзяцей у бясплатнай школе, даступнай для ўсіх, г. зв. “паўшэхнай” *(powszechna – польск.)* і спалучэнне яго з іншымі формамі, якія адкрывалі магчымасць атрымання далейшай адукацыі ў гімназіях, рамесных і педагагічных вучылішчах, ліцэях і ВНУ.

## “ПАЎШЭХНЫЯ” ШКОЛЫ

Школы “паўшэхныя” і публічная пазашкольная адукацыя (тыпу народных школ ці курсаў) фінансаваліся са сродкаў дзяржавы і органаў самакіравання, прычым удзел дзяржавы ў фінансаванні базавай адукацыі перавышаў удзел органаў тэрытарыяльнага самакіравання[1].

Гродзенскі магістрат штогод выдзяляў субсідыі на асвету, але памер іх мяняўся. Найбольшыя субсідыі прыпалі на 1920-я гг. Так, у праекце бюджэту на 1927/1928 г. прадугледжвалася выдзяленне 202870 зл., а ў 1928/1929 г. – 243465 зл. Гэтая сума размяркоўвалася наступным чынам: “паўшэхныя” школы – 110151 зл. (45,2%), спецыяльныя школы – 80813 зл. (33,2%), пазашкольная асвета – 5500 (2,3%), фізічнае выхаванне і адпачынак – 47000 (19,3%)[2]. Пры гэтым да “спецыяльных” адносіліся рамесныя і прыватныя школы, а пазашкольная асвета ахоплівала курсы для непісьменных і г.зв. Рабочыя універсітэты, як хрысціянскі, так і габрэйскі.

У пачатку 1930-х гг. прапорцыі змяніліся. У 1931/1932 г. было выдадзена на асвету 176,6 тыс. зл. (10,2% бюджэту), з якіх 105 тыс. зл. пайшло на ўтрыманне “паўшэхных” школ. Гэта было больш, чым на бяспеку (9,1%), але менш, чым на ахову здароўя (15,4%)[3]. У год найцяжэйшага эканамічнага крызісу (пачатак 1934 г.) субсідыі магістрату для школ зменшыліся, але не так відавочна, як для іншых установаў. Датацыі для іх вагаліся ў межах 75-80% ад запланаванай квоты[4]. Напрыканцы 30-х выдаткі на асвету заставаліся прыкладна на адным узроўні[5].

***Табліца 1. Выдаткі на асвету, адукацыі і публічную бяспеку з гарадскога бюджэту.***

| Бюджэт | Асвета | Ахова здароўя | Публ. бяспека | Гады |
|---|---|---|---|---|
| 1812012 | 147960 | 70364 | 136610 | 1933/1934 |
| 1522504 | 127319 | 95759 | 142497 | 1936/1937 |
| 1513163 | 137102 | 99018 | 134627 | 1938/1939 |

Крыніцы: Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобл. (далей ДАГВ). Ф. 46, воп. 1 адз. зах. 281, арк. 1; адз. зах. 305, арк. 4; адз. зах. 287, арк. 54.

Паводле дадзеных з 1926/1927 г. у горадзе базавае навучанне ажыццяўлялася ў 7 публічных "паўшэхных" і ў 8 прыватных школах. Існавала таксама школа падрыхтоўкі *(ćwiczeniówka – пол.)* пры жаночай настаўніцкай семінарыі з падобнай праграмай (вул. Ажэшка, 22)[6].

***Табліца 2. Публічныя "паўшэхныя" школы ў 1926/1927 г.***

| № | Назва | Тып | Класаў | Адрас | Дырэктар |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Імя Адама Міцкевіча | мужчынская | 6 | вул. Паўночная, 1 | М. Верушэўскі |
| 2 | Імя Стэфана Баторыя | мужчынская | 7 | вул. Пілсудскага, 2 | Э. Глухоўскі |
| 3 | Бернардынская | жаночая | 7 | вул. Бернардынская, 1 | кс. А. Курыловіч |
| 4 | Беларуская | Змешаная | 6 | пл. Тэатральная, 6 | М. Федарук |
| 5 | Евангеліцкая | Змешаная | 6 | вул. Лістоўскага, 4 | М. Навіцкая |
| 6 | Імя Каралевы Ядвігі | жаночая | 7 | вул. Дзельная, 2 | М. Пятроўскі |
| 7 | Занёманская | Змешаная | 2 | вул. Ліповая, 39 | Г. Цыдзікоўна |

Крыніца: Informator miasta Grodna i Grodzieńszczyzny, Grodno 1926 r., s. 57.

Ва ўсіх шасці школах, акрамя Беларускай, мовай выкладання была польская. У Беларускай школе некаторыя прадметы таксама выкладаліся па-польску – акрамя польскай мовы і літаратуры, таксама гісторыя і геаграфія Польшчы.

У гродзенскіх "паўшэхных" школах вучылася ад 132 (Занёманская) да 487 (Бернардынская) дзяцей. Большасць складалі каталікі – 67-84%, выключэннем была Беларуская, у якой дамінавалі праваслаўныя (на 256 вучняў прыходзілася два каталікі)[7]. Беларуская школа ў разглядаемы перыяд працавала нядоўга, да 1928 г., потым яна стала 7-мі гадовай і мела статус "прагімназіі". У гэты час у ёй працавалі: М. Андрушэвіч, М. Гаўрылюк, М. Жэжнеўская, З. Зеленьская, Я. Ярашэвіч, М. Ярмаловіч, У. Федарук[8]. Ліквідацыя школы была звязаная з агульнай палітыкай абмежавання беларускай асветы. Спосабы, якія ўжывала для гэтага лакальная адміністрацыя, пералічыў у сваім

пратэстацыйным лісце ў Міністэрства рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы (МРВПА)ад 4 снежня 1926 г. намеснік старшыні Таварыства беларускай школы сенатар Аляксандр. Уласаў: адмова прыняцця заяваў ад бацькоў, адсутнасць установаў падрыхтоўкі настаўнікаў, суровыя патрабаванні для настаўнікаў-беларусаў у веданні польскай мовы, высокія патрабаванні пры арганізацыі прыватных школ і г.д.[9]

З цягам часу колькасць польскіх публічных "паўшэхных" школ павялічвалася, змяняліся іх назвы, адрасы і колькасць класаў. У красавіку 1930 г. была скончана будова ўласнага будынку школы на Занёманскім прадмесці, якая атрымала назву "Школа им. Стэфана Жаромскага"[10]. У снежні 1935 г. "паўшэхнай" школе № 3 была нададзена афіцыйная назва "Бернардынская". У пастанове магістрату падкрэслівалася, што за гады існавання (з 1915 г.) школа "здабыла сабе давер грамадзян усіх веравызнанняў і нацыянальнасцяў", а таксама ўзгадвалася пра дасягненні школы ў развіцці культуры[11]. У 1936/1937 г. была ўведзена ў строй паўшэхная школа № 9[12], а ў апошнім перадваенным 1938/1939 вучэбным годзе ў горадзе налічвалася 11 "паўшэхных" школ. Школа № 1 перамясцілася на вул. Харцэрскую 4 школы № 4 і № 6 на вул. Ліонскую 6 на вул. Базіліянскай 31 была пабудавана школа № 8.



***Вучні і настаўніца школы № 8***

Вучэбны год у гродзенскіх школах доўжыўся з 1 верасня па 22 чэрвеня і быў падзелены на два паўгоддзі. Акрамя летніх і зімовых канікулаў вучні мелі 7- дзённыя канікулы з нагоды Вялікадня. Пры гэтым школьнікі павінны былі ўдзельнічаць ва ўсіх дзяржаўных святах. Акрамя 11 лістапада (Дзень

незалежнасці) і 3 мая (Дзень Канстытуцыі) яны ўдзельнічалі ва ўрачыстасцях з нагоды імянінаў прэзідэнта і прэм'ера, а таксама ў жалобным набажэнстве з нагоды імянінаў Ю. Пілсудскага[13].

У пераліку абавязковых прадметаў акрамя традыцыйных арыфметыкі, польскай мовы, геаграфіі, гісторыі, прыродазнаўства і інш. былі рамяство і маляванне. Належная ўвага ўдзялялася і фізічнаму выхаванню. Пры большасці школ існавалі невялікія спартыўныя пляцоўкі, а акрамя абавязковых заняткаў па гімнастыцы арганізоўваліся гарадскія спаборніцтвы. У 1938 г. 10- гадовая вучаніца падрыхтоўчай школы пры настаўніцкім ліцэі ім. Элізы Ажэшкі Крыстына Ніжынская выйграла спаборніцтвы па плаванні (на Нёмане), перамагаючы нават старэйшых дзяўчат з клуба "Крэсовія"[14].

Абавязковым у "паўшэхных" школах было навучанне рэлігіі, якая выкладалася святарамі розных веравызнанняў у асобных памяшканнях. Заняткі дзяцей ўсіх веравызнанняў распачыналіся і заканчваліся супольнай малітвай, у кожным класе побач з гербам Польшчы вісеў каталіцкі круцыфікс. Да сярэдзіны 1930-х гадоў малітву па-польску адмаўлялі толькі каталікі, іншыя ў гэты момант стаялі моўчкі. Прыкладна з 1937 г. пачалася актыўная паланізацыя рэлігійнага жыцця, і ўсе вучні незалежна ад канфесіі павінны былі чытаць малітву па-польску. Супраць паланізацыі катэхізацыі пратэставала большасць гродзенскіх праваслаўных, у тым ліку заможная іх частка, як, напрыклад, уладальніца маёнтку Капцёўшчына Ганна Трусава[15], а таксама частка мясцовага духавенства на чале айцом А. Сагайдакоўскім.

Паводле ўспамінаў Ганны Сабалеўскай, якая з 1935 г. вучылася ў школе імя Каралевы Ядвігі, урокі рэлігіі адбываліся 2 разы на тыдзень, да каталікоў прыходзіў ксёндз  а да праваслаўных поп а. Сергій[16]. Аарон Эпштэйн, які таксама вучыўся ў звычайнай "паўшэхнай" школе, прыгадаў, што іудзейскую рэлігію выкладаў у яго не равін, а свецкі прадстаўнік габрэйскай супольнасці[17].

Веравызнаўчая і маёмасная розніца істотна не ўплывала на ўзаемаадносіны паміж дзецьмі. Асобныя праявы яе маглі быць справакаваныя ідэалагічным уздзеяннем сям'і або пазашкольных арганізацый. Пры гэтым, як і ў дарослых, сціслыя сяброўскія сувязі ўзнікалі, як правіла,у аднолькавым культурным і сацыяльным асяроддзі. Напрыклад, "руская супольнасць", якая аб'ядноўвала сем'і былых расійскіх чыноўнікаў і вайскоўцаў, святароў і іншых праваслаўных, трымалася вакол "Рускага дабрачыннага таварыства" пры Архірэйскім доме. Там рэгулярна ладзіліся рускамоўныя вечарыны і святы для дзяцей, злучаныя з падзеямі айчыннай культуры, існавала Дружына рускіх скаўтаў пад кіраўніцтвам Мікалая Седлярэвіча. Габрэйскіх моладзевых арганізацый было больш, і яны адрозніваліся палітычна. Паводле ўспамінаўРыгора Хасіда, яго сястра належала да "HatshomerHatzair", арганізацыі сіяністкага накірунку, якая ставіла мэту выезд ў Палестыну, а ў сям'і падтрымлівалася ідэя габрэйскай дзяржаўнасці.

Сям’я Рахілі Столер (нар. 1925 г.) сімпатызавала сацыялістычнаму “Бунду”, таму дзяўчынка вучылася ў 7-гадовай школе, якая знаходзілася пад уплывам гэтай арганізацыі, і дзе выкладанне вялося на ідыш[18].

Наогул “паўшэхная” асвета была бясплатнай[19], але Г. Сабалеўская ўспамінала, што за яе навучанне бацькі павінны былі штомесяц ўносіць 2 зл.[20] Квота нібыта невялікая, але для шматдзетнай і беднай сям’і яна была істотным выдаткам і здаралася так, што маці Г. Сабалеўскай спазнялася з унясеннем аплаты. За гэта ёй у вострай і нават абразлівай форме рабіла заўвагі дырэктарка школы, указваючы пры гэтым на дрэннае валоданне ёю польскай мовай[21].

У адносінах да мясцовых дзяцей прыезджыя настаўнікі захоўваліся па-рознаму. Шмат што залежала ад характару і поглядаў канкрэтнай асобы, ўзроўня яе агульнай культуры. Гарадзенец Віктар Гойдзь успамінаў, што адчуў гэта падчас вучобы ў “паўшэхнай” школе ў Наваградку. Так, настаўніка фізікі з Познані раздражнялі мясцовыя парадкі і дзеці, а паланістка Дужынская добразычліва шукала спосабаў дапамагчы вучню, які выхоўваўся ў змешаным моўным асяроддзі[22]. Аб гэтым пісала таксама Г. Сабалеўская, успамінаючы шляхетнае і добразычлівае захаванне настаўніцы Антаніны Гальскай, у доме якой на вул. Ягелонскай жыла іх сям’я[23].

Вучні “паўшэхных” школ не мелі аднолькавага адзення. Такі строй быў абавязковым у дзяржаўных сярэдніх навучальных установах, настаўніцкіх семінарыях і рамесных вучылішчах[24]. Затое ўсе вучні публічных школ і курсаў мелі “вучнёўскую” зніжку на праезд цягніком, а дзеці з незаможных і беспрацоўных сем’яў атрымлівалі ў “паўшэхных” школах бясплатнае снеданне.

Сродкі на гэта знаходзіліся пераважна з грамадскіх ахвяраванняў (42,1%) і датацый магістрату (25,8%)[25]. Найбольш актыўна справай апекі над беднымі дзецьмі ў Гродне займаліся Жаночы саюз грамадзянскай працы (ЖСГП), таварыства “Прыстань” і габрэйскае ТАЗ. Гэтыя ж арганізацыі арганізоўвалі для дзяцей летні адпачынак. Асяродкаў адпачынку ў ваяводстве было 33, у т.л. некалькі каля Гродна ва ўрочышчы Пышкі і прынамсі ў двух блізкіх маёнтках[26]. Паводле справаздачы ЖСГП за 1936 г., школьнае снеданне складалася з 0,25 л салодкай кавы з малаком і кавалка белага хлеба. Такое снеданне каштавала 1,2 зл./мес. і выдзялялася 1,5 тыс. дзяцей, прычым 2/3 дзяцей атрымлівалі яго бясплатна, а астатнія аплачвалі поўны кошт ці яго палову[27].

У школе кожнага ўзроўню працаваў тэхнічны персанал і існавала педагагічная рада, у якую уваходзіў дырэктар, настаўнікі і ўрач. Утрыманне публічных “паўшэхных” школ уключала выдаткі на ацяпленне (з разліку 10 кг вугалю і 0,5 м куб. дроў на адну печку), асвятленне (0,3 зл./квт. час), падтрыманне чысціні, рамонт і пакупку інвентару, функцыянаванне бібліятэк і г.д.[28] Кошты, злучаныя з пабудовай і ўтрыманнем школ пакрыва-

ла лакальная ўлада (магістрат), зарплаты настаўнікам выплачваліся з фонду Міністэрства, а зарплаты школьнай абслузе (медпрацаўнікам, вартаўнікам і прыбіральшчыцам) з дзяржаўнага бюджэту (2/3) і з бюджэту горада (1/3)[29]. У 1937/1938 г. вартаўнікі-швейцары “паўшэхных” школ у Гродне атрымлівалі ад 70 да 160 зл./мес., а школьны медперсанал – ад 180 да 360 зл./мес. (што было вышэй за зарплату ўрача гарадскога шпіталя)[30]. На працягу вучэбнага году дзеці перыядычна праходзілі медыцынскі агляд школьным урачом, а Жаночы Саюз і ТАЗ дадаткова аплачвалі паслугі стаматолагаў. Напрыклад, нанятая ЖСГП др Гутоўская абслугоўвала каля 80 дзяцей у месяц[31].

Зарплаты гродзенскім настаўнікам, якія лічыліся дзяржаўнымі служачымі, выплачваліся згодна з існуючым у Польшчы падзелам на групы. Настаўнік “паўшэхнай” школы ў першы год працы атрымліваў 130 зл. (XI група). Па меры павелічэння стажу працы зарплата павышалася. Напрыклад, пасля 3 гадоў і здачы кваліфікацыйнага экзамену настаўнік атрымліваў 160 зл. (X група) і г.д. Пры стажы 30 гадоў мог атрымаць 450 зл. (VI група)[32]. Акрамя асноўнай зарплаты настаўнік мог атрымліваць “прафесійны дадатак”. У Гродне дадатак кіраўніка “паўшэхнай” школы вагаўся ў межах 5-50 зл., а дырэктара сярэдняй школы – 100-150 зл.[33] Калі настаўнік належаў да веравызнання іншага, чым каталіцкае, ён меў права адсутнічаць на працы ў галоўныя рэлігійныя святы сваёй канфесіі.

Пасады настаўнікаў і дырэктараў школ запаўняліся, як правіла, на конкурснай падставе. Конкурс абвяшчала тэрытарыяльная школьная акруга, паведамляючы пра бытавыя ўмовы і ільготы, якімі будзе карыстацца настаўнік (наяўнасць і памеры кватэры, у вёсках магла дадавацца зямля)[34]. У Гродне мясцовых настаўнікаў было няшмат, і часта здаралася, што прыбыўшыя з цэнтральных ваяводстваў дырэктары і настаўнікі “паўшэхных” школ жылі ў службовых кватэрах. У 1937 г. у школах № 4 і № 6 (вул. Ліёнская, 6) жыло 11 настаўнікаў, у школе № 1 (вул. Харцэрская, 4) жыў дырэктар школы Мацей Філь, які займаў чатыры пакоі з кухняй. У школе “паўшэхнай” № 2 (вул. Пілсудскага, 4) жыў Пётр Багуцкі (тры пакоі з кухняй), у школе № 7 (вул. Ліповая, 39) жыў Мар’ян Буда, у школе № 8 (вул. Базіліянская, 31) жыў Юзаф Вевюрскі (тры пакоі з кухняй)[35].

Да 1938 г. за кватэры настаўнікаў “паўшэхных” публічных школ плаціў магістрат, але з прыняццем уставы з 29.03.1938 г. яны пачалі атрымліваць адмысловы “кватэрны” дадатак і плацілі ўжо самастойна[36].

## ПРЫВАТНЫЯ БАЗАВЫЯ ШКОЛЫ

Прыватныя школы ўтрымліваліся грамадскімі, дабрачыннымі, рэлігійнымі і іншымі арганізацыямі, што, аднак, не выключала датацый у для іх з боку лакальнай улады. У Гродне ў 1926/1927 г. з 8 прыватных школ 7 належалі габрэйскай супольнасці[37].

***Табліца 3. Прыватныя базавыя школы ў Гродне ў 1926-1927 навучальным годзе***

| Назва школы | Мова выкл. | Класаў | Тып | Вучняў | Катал. | Прав. | Юдзеі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| сс. Назаратанак | польская | 3 | Змешаная | 149 | 141 | 8 | - |
| "Тарбут" | іўрыт | 7 | Змешаная | 487 | - | - | 487 |
| Талмуд Тора I | ідыш | 5 | Змешаная | 307 | - | - | 307 |
| Талмуд Тора II | ідыш | 3 | Змешаная | 80 | - | - | 80 |
| Торат Хаім | поль./ідыш | 3 | мужчын. | 76 | - | - | 76 |
| Торат Эмес | поль./ідыш | 3 | мужчын. | 172 | - | - | 172 |
| "Ябнэ" | польская | 6 | мужчын. | 260 | - | - | 260 |
| "Тушыя" | поль./ідыш | 3 | мужчын. | 75 | - | - | 75 |

Крыніца: Kronika miasta Grodna /Pod red. Sawickiego R. Grodno, 1928, s. 32-33.

Школы размяшчаліся па наступных адрасах: сс. Назаратанак – вул. Брыгіцкая, кляштар; "Тарбут" – вул. Лістоўскага, 6; Талмуд Тора I – пл. Вызвалення, 4; Талмуд Тора II – вул. Уланская, 12; Торат Хаім – вул. Лістоўскага, 16; Торат Эмес – вул. Школьны Двор, 2; "Ябнэ" – вул. Замкавая, 5; "Тушыя" – вул. Гараднічанская, 19[38].

Кожная прыватная школа павінна была даваць адукацыю згодна з праграмай, зацверджанай Міністэрствам, але мела права на ўласную спецыфіку, абумоўленую характарам той арганізацыі, якая яе заснавала і ўтрымлівала. Напрыклад, "Тарбут" лічыўся школай свецкай, сіяністцкага накірунку і рэлігія выкладалася тут не толькі ў тэалагічным, але і ў культуралагічным кантэсце[39]. "Тарбут" пасля рэформы 1932 г. даваў права выпускнікам паступаць у сярэднія навучальныя ўстановы ліцэйскага ўзроўню, у т.л.у настаўніцкія семінарыі.

Жыхар Гродна Рыгор Хасід успамінаў, што пасля некалькі класаў "паўшэхнай" школы паступіў у "Тарбут". Першыя два гады ён вучыўся ў будынку на вул. Паштовай[40], а наступныя 4 гады – у будынку па вул. Лістоўскага, 34. У "Тарбуце" ўсе прадметы (у т.л. матэматыка) выкладаліся на іўрыце, і ў кантактах паміж сабою настаўнікі і вучні ўжывалі іўрыт. Папольску выкладаліся мова, геаграфія і гісторыя Польшчы, а таксама рамесныя працы, бо настаўнікам быў паляк. Дырэктар "Тарбута" Давід Бравер, як і большасць настаўнікаў, паходзіў з Галіцыі, бо ў часы падзелаў Польшчы там існавалі больш шырокія магчымасці для габрэяў у атрыманні вышэйшай адукацыі. У школе вучыліся хлопцы і дзяўчаты, у класе было каля 25 чалавек. Аплата ў школе "Тарбут", якая лічылася дарагой, складала напярэдадні вайны 35 зл./мес. Кошт навучання ў гэтай школе залежаў ад поспехаў вучня. Р. Хасід вучыўся добра, таму за яго бацькі плацілі толькі 7 зл./мес. (20% агульнай сумы). З прычыны недахопу сродкаў сястра Р. Хасіда Ноэмі не змагла атрымаць 7-мі гадовай адукацыі. Ёй прыйшлося абмежавацца школай "паўшэхнай"[41].

Школа сс. Назаратанак паўстала з былой жаночай назаратанскай гімназіі ў 1920 г.[42] Гэта была змешаная каталіцкая школа даволі высокага ўзроўню, якая прышчэплівала асноўны прынцып назаратанскай духоўнасці, а менавіта ўмацаванне хрысціянства ў сем'ях. У Назаратанскай школе вучыліся дзеці многіх гродзенскіх чыноўнікаў, між іншым, дачка суддзі акруговага суда Рэната Шышкоўская і дачка банкаўскага служачага Здзіслава Траяноўская. Паводле ўспамінаў Р. Шышкоўскай і З. Траяноўскай, якая стала законніцай-назаратанкай, у школе панавала вельмі прыязная атмасфера, дзеці нават не хацелі разыходзіцца пасля заняткаў. Шмат дабрыні ўносіла выхавацельніца с. Тэкля Таргоньская. Гэта была жанчына сталага ўзросту, якая для кожнага дзіцяці знаходзіла добрае слова ці хвіліну ўвагі[43]. У 1928 г. у школе навучалася 86 хлопчыкаў (3 праваслаўных) і 63 дзяўчынкі (5 праваслаўных), выкладалі 4 настаўніцы[44]. У 1937/1938 г. школа набыла правы "публічнай". Яна стала 7-гадовай, і ў гэтым жа годзе ў ёй налічвалася 168 вучняў[45].

Гродзенскія настаўнікі ўдзельнічалі ў грамадскім жыцці, уваходзілі ў склад розных дарадчых камісій на гарадскім і павятовым узроўні, былі членамі камісій па выбарах. У горадзе існаваў настаўніцкі хор з 49 чалавек пад кіраўніцтвам Станіслава Франчака, які ўдзельнічаў у конкурсах спеваў і іншых мерапрыемствах.

Другая сусветная вайна радыкальна змяніла лёс настаўнікаў. У першыя дні і месяцы на гэта ўплывала іх пазіцыя ў міжваенны перыяд, роля ў былым палітычным жыцці, узаемаадносіны з жыхарамі і вучнямі, але галоўным чынам заангажаванасць ў падзеі абароны горада 20-22 верасня 1939 г. У гэтым быў абвінавачаны і потым расстраляны дырэктар "паўшэхнай" школы № 2 Пётр Багуцкі, які кіраваў групай моладзі, што аказвала збройны супраціў наступаючай Чырвонай Арміі.

З вясны 1940 г., калі пачаўся працэс "саветызацыі" школы, настаўнікі, якія раней былі грамадскімі дзеячамі ці не прымалі палітычных пераменаў, былі вымушаныя ўкрывацца. Удзельнікі супраціву былі арыштаваныя, і далейшы іх лёс быў трагічным. Значная колькасць настаўнікаў гродзенскіх школ праследавалася і загінула падчас нямецкай акупацыі. Дырэктар школы Апалонія Канапацкая за ўдзел у польскім руху супраціву трапіла ў лагер Равенсбрук, а потым Берген-Бельцэн, але здолела выжыць[46]. Падчас двух карных акцый у 1942 і 1943 гг. разам з сем'ямі былі расстраляныя каля в. Навумавічы школьныя інспектары Станіслаў Бароўскі, Люцыян Краеўскі і Юзаф Мрачкоўскі; дырэктары "паўшэхных" школ Мацей Філь (№ 1), Юзаф Вевюрскі (№ 8), Юльян Лінк (№ 10). Загінулі ў гета дырэктар "Тарбута" Давід Бравер і дырэктар школы № 5 Шмерэль Бадылькес, былі расстраляныя настаўніцы гэтай жа школы Эстэра Дэмава, Малка Фенстэрава, Сара Даневіч.

## ГІМНАЗІІ

У міжваенным Гродне існавалі гімназіі дзяржаўныя і прыватныя, мужчынскія і жаночая з польскай мовай навучання. Да рэформы 1927 г. гімназіі падзяляліся па праграмным накірунку на класічныя, неакласічныя, гуманітарныя, прыродазнаўча-матэматычныя і ліцэйскія.

Найбольш распаўсюджанымі ў першы перыяд незалежнасці былі гуманітарныя. Так, у Віленскай акрузе, да якой у 1919 г. адносіўся Гродзенскі павет, іх было каля 80%, прычым 67% з іх прыватныя[47]. У 1926 г. у Гродне існавалі тры гімназіі, дзве дзяржаўныя: мужчынская імя Адама Міцкевіча (вул. Касцельная,6) і жаночая імя Эміліі Плятэр (вул Даміліканская, 10), а таксама прыватная (належала да Польскаймацежы школьнай) імя Генрыка Сянкевіча (вул. Бернардынская, 1). Дырэктарам мужчынскай быў Ф. Дамброўскі, жаночай – Б. Вілкашэўскі, прыватнай – Р. Пул’ян[48].

Беларуская гімназія існавала ў Гродне вельмі кароткі час, усяго каля года (1920-1921). Потым ёй адмовілі ў дзяржаўным фінансаванні. Створаная па ініцыятыве Беларускага нацыянальнага камітэту і пры асабістых намаганнях Браніслава Тарашкевіча і Вацлава Іваноўскага, гімназія працавала спачатку на месцы сучаснага драмтэатра, а потым ў Арыхірэйскім доме па вул. Грандзіцкай. Выкладалі ў ёй П. Тамашчык, В. Кулікоўскі, С. Баран ды інш.[49]

Усе гімназіі таго часу былі 8-класнымі “класічнага” тыпу з польскай мовай выкладання. У іх вывучаліся наступныя дысцыпліны: польская, нямецкая і французская і лацінская мовы, матэматыка, фізіка, геаграфія, гісторыя, прыродазнаўства. У гімназіі прымалася моладзь па заканчэнні мінімум 5 класа “паўшэхнай” школы, а вучоба ў іх дзялілася на два ўзроўні: першыя 3 класы – агульная адукацыя, наступныя 5 класаў – частковая спецыялізацыя і заключны экзамен *(matura- польск.)*, які даваў права паступлення ва універсітэт. Вучань мог здаваць экзамены пяці накірункаў: матэматычна-прыродазнаўчы, гуманітарны, класічны, старакласічны, неагуманітарны. У класічным прысутнічалі грэчаская і лацінская мовы, у гуманітарным – лацінская, у неагуманітарным – некалькі замежных моў[50]. Ацэнка ведаў дзялілася на 4 узроўні: недастатковая, дастатковая, добрая, вельмі добрая.

Пасля рэформы 1932 г. гродзенскія гімназіі пераўтварыліся ў 4-х гадовыя агульнаадукацыйныя і паступіць у іх можна было толькі пасля заканчэння 6 класа “паўшэхнай” школы III ступені або шляхам экзамену “экстэрнам” з дазволу школьнага інспектара. Выпускнікі пасля здачы экзамену на атэстат сталасці ніжэйшага ўзроўню (*małamatura – польск.*) маглі працягваць вучобу ў 2-х гадовым агульнаадукацыйным або спецыялізаваным ліцэі ці ў 3-х гадовай настаўніцкай семінарыі. Усе гэтыя ўстановы давалі магчымасць пасля здачы экзамену на атэстат сталасці вышэйшага ўзроўню (*dużamatura – польск.*) паступаць ва універсітэт ці працаваць чыноўнікам у некаторых аддзелах дзяржапарата.

Рэформа 1932 г. уводзіла адзіную праграму ў гімназіях з абавязковым навучаннем лаціны, а спецыялізацыя мела месца ўжо на ўзроўні ліцэяў, якія

падзяляліся на класічныя (з вывучэннем старажытных моваў), гуманітарныя (з вывучэннем замежных моваў і лаціны), фізіка-матэматычныя, прыродазнаўчыя ці рамесныя. Пад канец 1930-х гг. амаль пры кожнай дзяржаўным гімназіі паўстаў ліцэй.

У 1933 г. у Гродне існавалі чатыры гімназіі: дзве дзяржаўныя (мужчынская імя А. Міцкевіча і жаночая імя Э. Плятэр) і дзве прыватныя (мужчынская імя Г. Сянкевіча Польскай мацежы школьнай і змешаная Грамадская Таварыства па ўтрыманні гімназіі)[51]. Яны размяшчаліся па адрасах: мужчынская імя А. Міцкевіча – вул. Акадэмічная, 6; жаночая імя Э. Плятэр – вул. Дамініканская, 10; мужчынская імя Г. Сянкевіча – вул. Нарутовіча, 6; змешаная – вул. Баніфратарская, 7.



***Святкаванне 10-годдзя незалежнасці Польшчы ў гімназіі імя Адама Міцкевіча. 1928 г.***

Ва ўсіх гімназіях, апрача змешанай, якая лічылася габрэйскай, вучылася моладзь розных веравызнанняў, хаця заўсёды дамінавалі каталікі. Так, у гімназіі імя А. Міцкевіча ў 1927/1928 г. сярод 407 вучняў было 305 каталікоў, 50 праваслаўных, 36 габрэяў, 10 евангелікаў і 3 мусульманаў[52]. У 1937 г. у гімназіі ім. Г. Сянкевіча вучылася 136 вучняў розных веравызнанняў[53]. Паводле дадзеных з 1933/1934 г., прыватныя гімназіі імя Сянкевіча и змешаная не былі прыроўнены (па праграме) да дзяржаўных, і іх выпускнікі пры паступленні ў ліцэй, павінны былі здаваць “пашыраны” выпускны экзамен. У 1937 г. змешаная гімназія набыла правы дзяржаўнай і стала называцца Прыватная змешаная гімназія Тавары-

ства сярэдняй школы, а гімназія імя Сянкевіча заставалася з “няпоўнымі правамі дзяржаўнай”[54].

Навучанне ў гімназіях было платнае, але аплаты ў дзяржаўных і прыватных гімназіях адрозніваліся. У 1926 г. у дзяржаўных гімназіях за ўступны экзамен уносілася 10 зл., і 64 зл. у год плацілі за карыстанне вучэбнымі прыладамі. За выпускны экзамен уносілася асобная плата[55]. Дзеці інвалідаў вайны і сіроты загінуўшых на фронце мелі ільготы пры паступленні ў сярэднія навучальныя ўстановы і вызваленнеадаплаты за навучанне[56].

Гімназісты насілі форму акрэсленага ўзору. Паводле успамінаў З. Вільчынскай, вучаніцы гімназіі імя Э. Плятэр, дзяўчыны паўсядзённа апраналіся ў чорны сацінавы фартук і туфлі на нізкім абцасе, а параднымі строем лічылася цёмна-сіняя спадніца і белая блузка з бардовай эмблемай на рукаве, на якой быў нумар гімназіі. На галаве вучаніцы насілі цёмна-сіні берэт з арлом.

Гімназісты не мелі права без дарослых наведваць кіно, тэатры, выходзіць вечарам на вуліцы горада ці ў парк[57]. Удзел у танцавальных вечарынах дазваляўся толькі вучням старэйшых класаў у памяшканні гімназій у прысутнасці дарослых. Пры гэтым нельга было ўжываць алкаголю, танцаваць “недазволеныя” танцы, а 22-й гадзіне належала вярнуцца да дому (дзяўчынам абавязкова ў суправаджэнні дарослых апекуноў)[58].

Вялікая ўвага ўдзялялася г.зв. “патрыятычнаму выхаванню”. Націск рабіўся на дапамогу арміі і розным акцыям, якія ініцыяваў урад. Пры гродзенскіх гімназіях (а таксама пры некаторых “паўшэхных” і рамесных школах) існавалі “харцэрскія” (скаўцкія) дружыны і атрады пачатковай вайсковай падрыхтоўкі (жаночыя і мужчынскія) пад камандаваннем каменданта, які прызначаўся са згоды камандавання акругі III Корпусу. Члены гэтых атрадаў удзельнічалі ў палявых зборах у в. Кашэўнікі. Хлопцы



*Гарадзенскі харцар. 1930-я гг.*

вучыліся страляць, дзяўчаты – аказваць першую медычную дапамогу. Апеку над імі ажыццяўлялі арганізацыі Чырвонага і Белага Крыжа. Выпускнікі гродзенскіх гімназій (імя А. Міцкевіча, імя Г. Сянкевіча і змешанай) на падставе распараджэння Міністра вайсковых справаў з 4.09.1936 г. мелі права на скарочаную тэрміновую вайсковую службу[59].

Харцэрскія дружыны гродзенскіх гімназій уваходзілі ў склад гродзенскага атрада *(hufec – пол.)*, які падпарадкоўваўся каменданту Беластоцкай харцэрскай акругі. На чале атрада ў 1922 г. стаяў Вацлаў Лятошак, у1935 г. Стэфан Вальчак, у 1937 г. Тэадор Марціняк. Жаночы атрад узначальвала з 1933 г. Марта Вільмус[60]. Харцэрскія дружыны існавалі не толькі пры гімназіях, але і пры Гандлёвай школе Польскай мацежы школьнай, жаночай настаўніцкай семінарыі і інш. Перад вайной у Гродне іх было ўсяго 13[61].

Гімназічная адукацыя прадугледжвала ўсебаковае развіццё вучняў. Дзяржаўныя гімназіі мелі фізічныя і хімічныя кабінеты, спартыўныя залы, працоўныя майстэрні і "святліцы" для пазашкольных заняткаў. Акрамя вывучэння двух замежных моваў удзялялася ўвага развіццю мастацкага густу. Напрыклад, у праграме музыкі вывучалася класічная (1 год), народная, танцавальная, сімфанічная і рэлігійная (2 год), а таксама музыка розных народаў (3 год) і розных эпохаў (4 год)[62]. У гімназіях існавалі гурткі музыкі, спеваў, філалогіі, прыродазнаўства ці мадэліравання. Так, у гімназіі імя А. Міцкевіча існаваў між іншым гурток польскай філалогіі, які ў 1937 г. налічваў 23 сябра пад кіраўніцтвам Тадэвуша Будзаноўскага і выдаваў ўласны часопіс[63]. Часам адбываліся мерапрыемствы культурнага характару, напрыклад, у жаночай гімназіі 22 студзеня 1935 г. даваў фартэп'янны канцэрт лаўрэат Першага конкурсу ім. Ф. Шапэна Станіслаў Шпінальскі[64].

Трэба заўважыць, што за "душы" моладзі актыўна змагаліся ўсе ўплывовыя палітычныя плыні таго часу: хрысціянскія і нацыянальныя дэмакраты, камуністы, Касцёл ды іншыя. Яны дзейнічалі, як непасрэдна праз педагогаў, так і праз шэраг моладзевых арганізацый. Кіраўнік беластоцкага следчага ўпраўлення Лабяк рапартаваў ў студзені 1931 г. аб прапагандзе камуністычных ідэй актывістамі КСМЗБ у асяроддзі гродзенскіх вучняў і дасягненні імі "пэўных вынікаў у мужчынскай і габрэйскай гімназіях". Паводле інфармацыі паліцыі, у жаночай і мужчынскай гімназіях існавалі пракамуністычныя групоўкі агульнай колькасцю каля 80 чал.[65]

Кіраўнік гродзенскага следчага аддзялення Я. Віткоўскі пісаў, што у студзені 1935 г.: "Узмацнілася камуністычная агітацыя сярод беларускай школьнай моладзі з мэтай пратэстаў супраць польскай школы"[66]. У справаздачы беластоцкага ваяводы ў МУС аб дзейнасці польскіх саюзаў і таварыстваў (1.04.1937-1.10.1937) паведамлялася, што Каталіцкае таварыства моладзі, якое знаходзілася пад уплывам "нарадоўцаў" *(Stronnictwo Narodowe – пол.)*, "з фанатызмам вядзе акцыю байкоту габрэйскага гандлю з мэтай замены яго гандлем хрысціянскім", і што гэтую акцыю характарызуе "нервовасць

і напружанне, якое часта перараджаецца ў акты тэрору і фізічнага ўздзеяння”[67]. У Гродне між іншым ініцыятарам антыгабрэйскіх акцый у горадзе (пікетаванне гандлёвых кропак, надпісы антысеміцкага зместу на вуліцах, распаўсюджванне ўлётак і газет тыпу “Фаланга”) быў папулярны сярод гімназістаў Бруна Глябовіч, з 1935 г. камендант гродзенскага павятовага харцэрскага атрада, а з 1938 г. кіраўнік гродзенскай падакругі Саюзу польскай моладзі (моладзевага крыла ОЗН – *Obóz Zjednoczenia Narodowego*[68])[69].

У гімназіях, як правіла, выкладалі настаўнікі з вышэйшай адукацыяй, некаторыя, як, напрыклад, гісторык Міхал Кап з гімназіі імя Міцкевіча, мелі доктарскі тытул. Паколькі такіх спецыялістаў, асабліва ў 1920-я гг., не хапала, то летам арганізоўваліся 6-тыднёвыя курсы падрыхтоўкі для асобаў з вышэйшай адукацыяй. Па іх заканчэнні здаваўся г. зв. “настаўніцкі” экзамен па адным з 10 прадметаў (фізіка, хімія, прыродазнаўства, матэматыка, гісторыя, геаграфія, класічная філалогія, польская філалогія, французская або нямецкая мова)[70].

У 1926 г. курсы падрыхтоўкі настаўнікаў праходзілі ў Гродне, Лідзе, Ваўкавыску і Слоніме[71]. Настаўнікі забяспечваліся кватэрамі і палівам коштам органаў мясцовага самакіравання, а з усяго школьнага персаналу дзяржаўных сярэдніх навучальных установаў не вылічваўся 2% падаходны падатак[72]. Выкладчыкі гімназій і іншых сярэдніх навучальных установаў атрымлівалі адразу 210 зл. (IX група), а пры стажы 27 гадоў іх зарплата магла дасягнуць 700 зл. (V група)[73]. Асоба настаўніка ацэньвалася паводле г.зв. “Кваліфікацыйнай характарыстыкі”, якая складалася з 8 пунктаў. Ацэньваліся ўзровень этычны і прафесійны, паводзіны, грамадзянская пазіцыя, здольнасці і г.д.[74]

У розныя часы ў гродзенскіх гімназіях выкладалі між іншымі Мар’ян Кендзерскі і Вацлаў Контрым (матэматыка), Фрыдрых Дамброўскі, Чэслаў Гасеўскі і Люцыян Брыльскі (польская мова), Юлія Немчынавічова і Наталля Беклемішава (французская мова), Соф’я Мадзалеўская (матэматыка, фізіка), Браніслава Амільяновіч. Шмат цёплых слоў можна прачытаць пра выкладчыцу жаночай гімназіі імя Плятэр Аляксандру Янаў (1886 – 1972). Дачка царскага афіцэра высокага рангу Паўла Ляшкевіча і яго жонкі Пелагеі, удавы нямецкага барона фон Янаў Аляксандра Янаў была дасканалым педагогам і выкладала нямецкую французскую і рускую мовы. Пра яе казалі “дама высокага класа”. Заўсёды строга апранутая і старанна прычасаная, з арыстакратычнымі манерамі, яна была ўзорам элегантнасці і вучаніцы называлі яе “наша мадам”[75].

Сярод выкладчыкаў гродзенскіх гімназій нельга не ўспомніць Юзафа Ядкоўскага, вядомага гісторыка, археолага і нумізмата, аўтара шматлікіх даследаванняў рэгіянальнай гісторыі, у т.л. манаграфіі аб Гродне 1923 г., заснавальніка краязнаўчага музея. Таксама варта назваць імя Яна Каханоўскага, біёлага, заснавальніка гродзенскага заапарка, які гераічна загінуў у кастрычніку



***Ян Каханоўскі (1894-1942), выкладчык гімназіі, стваральнік заапарку***

1942 г. Ён добраахвотна замяніў у шэрагах закладнікаў дырэктара школы № 8 Ю. Вевюрскага, які меў шасцёра дзяцей.

Шмат выкладчыкаў удзельнічалі ў руху супраціву. Выкладчыца гімназіі імя Плятэр Браніслава Амільяновіч падчас нямецкай акупацыі была кіраўнічкай выведкі Вайсковай службы жанчын АК у Гродне (псеўданім “Чарна”). У АК дзейнічалі настаўнікі Стэфанія Александроўская, Марыя Чапліцкая, Аляксандра Гашкоўская, Анна Керсноўская, Галіна Відаўская, Тытус Бянецкі, Лявон Маласіньскі[76]. Некаторыя з настаўнікаў, як Францішак Данька (лаціна), Юзаф Ванатоўскі (маляванне), Зыгмунт Мразоўскі (гімнастыка) былі растраляныя ў кастрычніку 1942 г. каля форта ў в. Навумавічы.

Асаблівыя патрабаванні прад’яўляліся дырэктарам гімназій, галоўным з якіх была палітычная лаяльнасць і грамадская актыўнасць. У кастрычніку 1933 г. у Гродне адбылася канферэнцыя дырэктараў сярэдніх школ Беласточчыны, што належалі Віленскай школьнай акрузе. На ёй выступіла з уводным дакладам дырэктар жаночай гімназіі Яана Нядзведзкая[77]. Адна з вучаніц гімназіі Зоф’я Вільчынская ўспамінала, што гэта была “немаладая высокая чорнавалосая жанчына, якая трохі кульгала на адну нагу. Гімназісткам падавалася вельмі строгай. Заўсёды раніцай стаяла пры ўваходзе ў гімназію і суровым позіркам аглядала кожную дзяўчыну, ці яе знешні выгляд адпавядае норме”[78]. Гражына Ліпіньская, былая дырэктарка жаночых рамесных школ у Гродне, характарызавала дырэктарку гімназіі як “дасканалага педагога і выхаваццеля”. Паводле Ліпіньскай, Яанна Нядзвецкая была арыштаваная ў 1940 г. і памерла падчас следства ў Мінску ад хваробы нырак[79].

Гімназіяй ім. А. Міцкевіча з 1937 г. кіраваў кс. Віктар Патшэбскі (1880-1944), які быў гарачым польскім патрыётам, і ў 1907 г. за гэта быў нават выдалены з Расійскай імперыі. Пасля заканчэння семінарыі ў Влацлаўку прайшоў пэўную педагагічную падрыхтоўку. Ён наведваў лекцыі па псіхалогіі і гісторыі ў Ягелонскім універсітэце, а з 1928 г. на праягу дзевяці гадоў настаўнічаў у педагагічнай семінарыі ў Троках. Кс. В. Патшэбскі ўдзельнічаў у баях

за Гродна ў верасні 1939 г. і загінуў у 1944 г. у Варшаўскім паўстанні.

Дырэктарам гімназіі імя Сянкевіча з 1930 г. быў Вацлаў Мысліцкі, былы добраахвотнік 1920 г., удзельнік польска-савецкай вайны і баёў за горад 1939 г. Арыштаваны НКУС ў 1940 г. ён загінуў і быў пахаваны на гродзенскіх каталіцкіх могілках.



***Магіла ксяндза Ф.Грынкевіча на Фарных каталіцкіх могілках Гродна.***

У гімназіях, як і ва ўсіх навучальных установах, акрамя універсітэтаў, абавязковым прадметам была рэлігія. Канкардат з 1925 г. (арт. 13) патрабаваў, каб у сярэдніх навучальных установах яе выкладалі толькі асобы з вышэйшай тэалагічнай адукацыяй або святары па дэкрэту лакальнага біскупа[80]. Паводле дадзеных 1926 г., каталіцкую рэлігію выкладалі кс. Францішак Грынкевіч у гімназіі імя А. Міцкевіча і кс. Людвік Саванеўскі у гімназіі імя Э. Плятэр. У абодвух гэтых гімназіях выкладалі таксама праваслаўны айцец Васіль Майсееў і евангеліцкі пастар Адольф Плямш[81]. У гімназіі імя Г. Сянкевіча рэлігію выкладаў кс. А. Курыловіч, у змешанай гімназіі – іудзейскія равіны. У 1938/1939 г. у гродзенскіх дзяржаўных гімназіях былі выкладчыкамі каталіцкай рэлігіі кс. Вацлаў Лукша, кс. Станіслаў Смялоўскі, кс. Юльян Стэфановіч, кс. Людвік Саванеўскі[82]; праваслаўнай – а. Барыс Барысевіч[83]. У гімназіі імя Г. Сянкевіча выкладаў кс. Нікадзім Зажэцкі.

Гродзенскія катэхеты ў большасці былі асобамі выдатнымі, не пазбаўленымі таленту. Прыхільнікамі беларускай культуры былі Францішак Грынкевіч і кс. Вацлаў Лукша. Першы заснаваў на пачатку XX ст. Гурток беларускай моладзі, а другі ўваходзіў у гурток беларусаў-семінарыстаў падчас вучобы ў Вільні. Людвік Саванеўскі быў рэдактарам папулярнай у горадзе каталіцкай газеты “Новае Жыццё” *(„Nowe Życie” – пол.)* і друкаваў пад псеўданімам “Ян Стаська” артыкулы, у т.л. палітычнага характару, якія выклікалі палеміку і часам незадавальненне ўладаў. Ён жа вядомы, як аўтар “Сагі аб Гродне”, дзе ў вершаванай форме апісаны асобы і эпізоды міжваеннага жыцця.

Школьныя набажэнствы адбываліся ў гімназіі імя Адама Міцкевіча ва ўласнай капліцы св. Станіслава Косткі, а ў іншых гімназіях уласных храмаў не было. Евангелікі хадзілі на набажэнствы ў кірху, праваслаўныя – ў сабор, іудзеі – ў адну з сінагогаў, а мусульмане маліліся ў прыватным доме.

## РАМЕСНЫЯ ВУЧЫЛІШЧЫ

Рамесная адукацыя знаходзілася пад асаблівай апекай дзяржаўнай улады, паколькі гэта быў сродак забеспячэння кваліфікаваным працоўным рэзервам. Як і базавая ("паўшэхная"), рамесная адукацыя фінансавалася дзяржавай і органамі мясцовага самакіравання, што не выключала пэўнай аплаты навучання. Дзяржаўнае фінансаванне было сціплым, напрыклад, на 1927/1928 год у краіне планаваліся наступныя датацыі школам рамесным – 7,2%, сярэднім – 15,8%, вышэйшым – 15,1% ад узроўню датацый школам "паўшэхным"[84]. Прыватныя рамесныя школы шукалі ўласныя сродкі і бралі плату за навучанне. Напрыклад, мужчынская габрэйская Рамесная школа імя Е. Брэгмана ў 1933/1934 г. атрымлівала 5054,45 зл. (31%) ад габрэйскай арганізацыі *J.C.A.*, 626,51 зл. (3,8%) ад магістрату, 8563,06 зл. (52,5%) за вырабы вучняў, 1975 зл. (12,1%) аплаты за навучанне і 78 зл. (0,6%) ахвяраванняў[85].

У бюджэце Гродна субсідыі рамесным вучылішчам усіх форм уласнасці і ўсіх профіляў былі абавязковымі, прычым хрысціянскія і габрэйскія атрымлівалі аднолькавыя квоты. У перыяд адноснай эканамічнай стабільнасці (1927/1928 г.) гэтыя школы атрымалі па 6000 зл., а ў першым паслякрызісным годзе (1936/1937 г.) па 3240 зл.[86] Значна меншая сума рэгулярна выдзялялася на г.зв. "пазашкольную асвету", як хрысціянскую, так і габрэйскую, то бок на курсы для непісьменных, Рабочыя універсітэты, настаўніцкія курсы і семінарыі.

Паводле дадзеных 1926 г., у Гродне дзейнічала мужчынскае рамеснае вучылішча будаўнікоў (вул. Парахавая, 4), дырэктарам якога быў З. Карчэўскі, і жаночая кравецкая школа Польскай мацежы школьнай (вул. Пілсудскага, 28), дырэктарам якой была С. Масціцкая. Школа была 3-гадовай і ў яе прымаліся дзяўчаты, што скончылі мінімум 5 класаў "паўшэхнай" школы. Акрамя гэтага Польская мацеж школьная ўтрымлівала сярэднюю Гандлёвую школу і Школу рамёстваў (вул. Ажэшка, 15), якімі кіраваў інжынер Радзеваноўскі[87]. Двума рамеснымі вучылішчамі (жаночым і мужчынскім) валодала ў той час і габрэйская гміна. З мастацкіх школ існавала толькі адна – музычная прыватная А. Урублеўскай (вул. Ажэшка, 10)[88].

Установы рамеснай адукацыі з цягам часу развіваліся і павялічвалі набор вучняў, бо гэта было ўмовай паспяховага развіцця краіны. Але не толькі дзяржаўныя ўлады і прадпрымальнікі былі зацікаўлены падрыхтоўкай прафесійных рабочых кадраў. Рамесныя школы часта заставаліся адзіным выхадам для вясковай і незаможнай моладзі, выпускнікоў "паўшэхных"

школ I і II ступені, якім школьная рэформа 1932 г. абмежавала доступ да адукацыі вышэйшага ўзроўню.

Калі ў 1931 г. у Гандлёвай школе вучылася 40 чалавек (34 каталіка, 5 праваслаўных, 1 евангелік), то ў 1937 г. ўжо 73 вучні[89]. Акрамя інжынера Радзеваноўскага, у школе галоўныя прадметы выкладалі настаўнікі Горта (арыфметыка), Тымчак (бухгалтэрыя), Немцэвічова, Эрдман (нямецкая мова), Чарняўская (машынапіс), Перуцкі (гісторыя), Міхалькова (стэнаграфія), Загурскі (польская мова), кс. Лапата (рэлігія каталіцкая), а. Барысевіч (рэлігія праваслаўная). У 1931 г. Гандлёвая і Рамесная школы Польскай мацежы школьнайзнаходзіліся на вул. Лістоўскага, 31, а бурса Польскай мацежы на вул. Ерусалімскай, 31[90]. У мужчынскай Школе рамёстваў паводле дадзеных з 1937 г. вучылася 92 вучня. Да 1931 г. у Гродне існавала яшчэ прыватная 2-класная Гандлёвая школа інж. Маркуса і адв. Лейнвандхёнлера. Яна знаходзілася ў будынку Першай Грамадскай габрэйскай гімназіі (вул. Лістоўскага, 12).

Пасля 1932 г. былая Кравецкая школа набыла статус дзяржаўнага жаночага Рамеснага вучылішча (швейны і гаспадарчы факультэты) і яе наведвалі 172 вучаніцы. На ўтрыманні Польскай мацежы засталося мужчынскае рамеснае вучылішча з інтэрнатам (сталярны і слясарны факультэты), у якім вучылася 11 вучняў. Аплата складала 40-60 зл./месяц. Таксама ў веданні Мацежы знаходзіліся Гандлёвая 3-класная школа змешанага тыпу на 132 вучняў з жаночым інтэрнатам на 34 месцы і Гандлёвыя курсы пры гэтай школе. Замест курсаў і школы Маркуса паўстала Гандлёвая 3-класная школа Ісаака Саса на 31 вучня[91].

У 1933 г. адзначаецца наяўнасць аднаго дзяржаўнага рамеснага вучылішча (жаночага Рамеснага) і пяці прыватных (Школа рамёстваў мужчынская і 3-класная змешаная Гандлёвая школа Польскай мацежы, 3-класная змешаная Гандлёвая школа І. Саса, мужчынскае Рамеснае вучылішча ім. Е. Брэгмана пры габрэйскай гміне і жаночае Рамеснае вучылішча Таварыства пашырэння прафесіянальных ведаў сярод габрэяў)[92]. У 1937 г. у Гандлёвай школе Польскай мацежы вучылася 73 чалавек, а ў Школе рамёстваў – 92 вучні[93].

Школьная рэформа 1932 г. сістэматызавала асвету, і ўсе рамесныя вучылішчы падзяліла на ніжэйшыя, сярэднія і ліцэйскія, а па профілю на прамысловыя, купецкія, аграрныя, гаспадарчыя і інш. У ніжэйшыя прамысловыя прымаліся асобы пасля навучання ў школе “паўшэхнай” I ступені ва ўзросце 14-17 год, і курс навукі працягваўся 3 гады. Такіх школ у Гродне на 1937 г. было дзве – Прыватная мужчынская габрэйская Рамесная школа імя Е. Брэгмана (слясарна-механічны і сталярны факультэты) з мовай выкладання ідыш і гадавой аплатай у памеры 30-120 зл. (вул. Перэца, 4а) і Прыватная жаночая школа Кравецтва Таварыства пашырэння прафесійных ведаў сярод габрэяў (кравецкі і шыцця бялізны факультэты) з мовай выкладання ідыш і гадавой аплатай у памеры 50 зл. (вул. Маставая, 4).

У гаспадарчыя прымаліся выпускнікі асобы пасля навучання ў “паўшэхнай” школы любой ступені ва ўзросце да 18 гадоў. Такая школа

ў Гродне была адна. Дзяржаўная 1-гадовая школа сямейнага гаспадарства (вул. Маставая, 9) рыхтавала спецыялістаў па вядзенню ўласнай гаспадаркі. Вучні плацілі 10 зл. пры паступленні і 3-6 зл. за месяц вучобы.

Рамесныя вучылішчы гімназічнага ўзроўню рыхтавалі спецыялістаў з сярэдняй прафесійнай адукацыяй. У іх прымаліся кандыдаты пасля "паўшэхнай школы II ступені або 6 класаў школы III ступені ва ўзросце 14-17 гадоў. Гадавая аплата складала 170 зл. У Гродне ў 1937 г. налічвалася некалькі такіх школ. Дзяржаўная жаночая кравецкая гімназія (вул. Маставая, 9) прапанавала 4-гадовае навучанне з інтэрнатам (30 зл./мес.). Прымаліся дзяўчаты 13-17 гадоў. Аплата за паступленне складала 10 зл., за навучанне – 170 зл./год.

Дзяржаўная змешаная купецкая гімназія (вул. Вітальдовая, 28) таксама прапанавала 4-гадовае навучанне. Прымаліся асобы 13-17 гадоў. Аплата за паступленне складала 10 зл., за навучанне – 170 зл./год. Таксама патрабавалася аплата ўступнага экзамену (5 зл.) і псіхалагічнага абследавання адносна здольнасці да навучання (5 зл.).

Навучанне ў Прыватнай гандлёвай змешанай школе Польскай мацежы школьнай (вул. Лістоўскага, 33) было 3-гадовым. Прымаліся асобы пасля 7 класаў "паўшэхнай" школы. Гадавая аплата складала 250 зл. Такая ж самая працягласць навучання была ў Прыватнай гандлёвай змешанай школе І. Саса (вул. Замкавая, 2). Вучні плацілі 250 зл. за год вучобы. Толькі адзін год працягвалася навучанне ў Прыватнай школе вядзення сямейнай гаспадаркі II ступені (вул. Маставая, 9). Сюды паступалі асобы пасля "паўшэхнай" школы II ступені ва ўзросце да 24 гадоў. Аплата за паступленне складала 10 зл. І столькі ж каштаваў месяц навучання.

Існавалі рамесныя вучылішчы і больш высокага ліцэйскага ўзроўню. Пасля заканчэння такога вучылішча прамысловага профілю выпускнік атрымліваў званне "тэхнік". У Гродне з 1937 г. існавала толькі адна такая ўстанова, а менавіта Гандлёвы прыватны ліцэй Польская мацежы (вул. Лістоўскага, 33) з тэрмінам навучання 3 гады. У яго прымаліся асобы 16-20 гадоў пасля заканчэння гімназіі новага (4 класы) або старага тыпу (мінімум 6 класаў). Гадавая аплата складала 170 зл.[94]

З вышэйшых навучальных устаноў паводле дадзеных 1933 г. у Гродне існаваў толькі філіял Львоўскай кансерваторыі ім. Караля Шыманоўскага[95].

Вучні дзяржаўных сярэдніх рамесных вучылішчаў і настаўніцкіх семінарый насілі ўласную форму. Звычайна, гэта была фуражка або берэт, а з другой паловы 1930-х гг. на рукаве курткі або сукенкі нашывалася эмблема яскрава-чырвонага колеру з літарай "H" (гандлёвая), "P" (прамысловая), "N" (настаўніцкая), "R" (сельскагаспадарчая) і г.д.[96]

## НАСТАЎНІЦКІЯ СЕМІНАРЫІ

Выкладчыкаў для "паўшэхных школ" рыхтавалі дзяржаўныя і прыватныя настаўніцкія семінарыі, а таксама настаўніцкія курсы. У 1920-я гг.

семінарыі былі жаночыя і мужчынскія з 5-гадовым навучаннем. Першыя тры курсы давалі агульную сярэднюю адукацыю, а наступныя два – спецыяльную. Паколькі было шмат кандыдатаў з вёсак, якія мелі слабую школьную падрыхтоўку, як правіла, дадаваўся 1-гадовы "падрыхтоўчы"курс.Палажэнне пра адукацыю 1927 г. вызначала, што ў "паўшэхных" школах могуць выкладаць таксама асобы з сярэдняй адукацыяй (пасля 8-гадовай гімназіі), але яны павінны былі скончыць прынамсі 1 курс педагагічнай семінарыі. Толькі выкладчыкі мастацкіх і тэхнічных прадметаў, а таксама фізкультуры маглі быць выпускнікамі сярэдніх спецыяльных устаноў[97].

Паводле дадзеных 1926 г., у Гродне існавалі дзве дзяржаўныя настаўніцкія семінарыі: мужчынская (вул. Маставая, Барысаглебскі кляштар) і жаночая (вул. Ажэшка, 22) з інтэрнатамі. Дырэктарам мужчынскай быў Юзаф Беганьскі, а жаночай – др Швейкоўская. У абодвух семінарыях курс навучання доўжыўся 6 гадоў (1 год падрыхтоўчы)[98]. Дзейнічалі таксама хрысціянскія і габрэйскія настаўніцкія курсы[99]. Семінарыі мелі ўласныя будынкі і маглі мець зямлю. Напрыклад, жаночая настаўніцкая семінарыя ў1920 г. валодала 7 га зямлі дзяржаўнага маёнтка "Каханова" гміны Верцялішкі[100].

У 1932 г. у Гродне працавалі дзяржаўныя настаўніцкія курсы для асобаў з сярэдняй адукацыяй, мужчынская і жаночая настаўніцкія семінарыі і прыватная габрэйская семінарыя з выкладаннем на іўрыце. Гадавая аплата ў дзяржаўных семінарыях складала 170 зл. Пры ўсіх семінарыях існавалі інтэрнаты, жытло ў якіх каштавала 80 зл. за год, пры гэтым дзяржава плаціла за паліва і святло[101]. Пасля рэформы 1932 г. гродзенская жаночая семінарыя перайшла на ліцэйскі ўзровень. Цяпер у яе маглі паступаць толькі выпускнікі гімназій або тыя, хто здаў экстэрнам "малую матуру"[102]. Рэлігію ў ёй, а таксама у Гандлёвай школе, выкладаў прэфект кс. Тамаш Каліньскі, які быў таксама капеланам харцэрства.

У габрэйскай прыватнай семінарыі абавязковымі прадметамі былі польская мова і літаратура, гісторыя, геаграфія і навука аб сучаснай Польшчы (выкладанне на польскай мове)[103]. Іншых семінарый для нацыянальных меншасцяў у Гродне не было, і іх прадстаўнікі вучыліся ў польскіх семінарыях.

Паводле ўспамінаў Апанаса Цыхуна, які вучыўся ў гродзенскай мужчынскай семінарыі, сярод студэнтаў пераважалі палякі, было некалькі рускіх, як правіла, дзяцей эмігрантаў, а беларусаў было толькі 6 чалавек. А. Цыхун сцвярджаў, што выкладчыкі трактавалі беларусаў з пагардай, асабліва паланістка пані Райсоўна, якая сярод семінарыстаў мела прозвішча "Ляшка". У працах А. Цыхуна пастаянна знаходзіла русіцызмы, хоць ён наогул не ведаў рускай мовы. Аднойчы яна паставіла яму "двойку" за тое, што выказаў сімпатыю да капітана Рыкава ў пісьмовай працы па паэме Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш" на тэму "Мой улюбёны герой"[104].

Паколькі настаўнікі мелі статус дзяржаўных служачых, у семінарыях асаблівая ўвага надавалася "патрыятычнаму і грамадзянскаму выха-

ванню”, што падкрэсліваў у адной са сваіх справаздачаў беластоцкі ваявода[105]. Большасць гродзенскіх выпускнікоў заставаліся патрыётамі Польшчы да канца жыцця. Гэта выразна праявілася падчас вайны і ў пасляваенны час. Сярод удзельнікаў супраціву настаўнікі складалі значны адсотак. У савецкі перыяд адна з выпускніцаў жаночай семінарыі Валерыя Барэвіч была ведама гродзенцам тым, што прысвяціла сябе захаванню памяці “Польшчы, якую яна страціла”[106]. У прыватнасці асабістымі намаганнямі і за ўласны кошт яна захоўвала ад разбурэння помнікі на гродзенскіх бернардынскіх могілках, у тым ліку магілы жаўнероў польска-савецкай вайны і студзеньскага паўстання, даглядала магілу Элізы Ажэшка, святароў ды інш.

## АДУКАЦЫЯ ДЛЯ ДАРОСЛЫХ

Пазашкольная адукацыя ў міжваеннай Польшчы была накіравана на асвету дарослага насельніцтва і ставіла перад сабой некалькі задачаў: ліквідацыю непісьменнасці, адкрыццё магчымасцяў для авалодання прафесіі, павышэнне адукацыйнага ўзроўню розных сацыяльных груп. Вырашаліся гэтыя задачы з дапамогай рознага тыпу вечаровых школ і курсаў, а таксама г.зв. Народных універсітэтаў.

З установаў пачатковай асветы для дарослых у горадзе існавалі Рабочы універсітэт (хрысціянскі), Народны універсітэт (габрэйскі), курсы для непісьменных Польскай мацежы школьнай, габрэйскія курсы для непісьменных, курсы ім. др Мяноўскага[107]. Для стварэння Народнага універсітэта патрэбна было памяшканне і,як мінімум, два выкладчыкі. Навучанне ў ім доўжылася 4 месяцы[108].

Асветніцкая праца вялася таксама ў войску. Гэтым перш за ўсё займалася Таварыства “Польскі Белы Крыж” (*далей – ПБК*), задачай якога была агульная апека над войскам. У 1930-я гг. ПБК ладзіў курсы павышэння адукацыі падафіцэрскага корпусу і курсы, якія маглі быць прыдатнымі салдатам пасля дэмабілізацыі (паляводства, агародніцтва, пчалярства і г.д.). У 1935/1936 г. навучанне для 72 падафіцэраў праводзілі 9 настаўнікаў, а на гаспадарчых курсах займалася 250 слухачоў, якім чыталіся лекцыі не толькі па спецыяльных прадметах, але таксама па гісторыі, літаратуры і краязнаўству. У той час у складзе ўправы Гродзенскага ПБК былі афіцэры і жонкі вядомых у горадзе асобаў. Гэта, у прыватнасці,жонка старасты Алена Чайкоўская, жонка рэдактара газеты Ядвіга Карульская, жонка школьнага інспектара Стэфанія Александроўская, а таксама адвакат Вінцэнт Фюрстэнберг, дырэктар гімназіі кс. Віктар Патшэбскі, пастар Карл Месершмідт ды інш.[109]

Асобнай формай асветы былі вечаровыя школы, якія лічыліся “дапаўняючымі адукацыю” *(dokształcające – пол.)* і іх задачай было павышэнне адукацыйнага і прафесійнага ўзроўню асобаў, занятых на працы.

У 1931/1932 г. у Беластоцкім ваяводстве існавала 7 вечаровых школ для дарослых[110]. Са школ гэтага тыпу ў Гродне ў той час былі толькі публічная мужчынская Рамесная школа і змешаная Гандлёвая рамесная школа ПМШ[111]. Пасля рэформы 1932 г. адзначаецца наяўнасць толькі Публічнай агульнаадукацыйнай вечаровай школы (вул. Урублеўскага, 27)[112]. Падобная трохкласная школа (на 200 вучняў) працавала пры гродзенскай турме (уся турма ў той час была разлічана на 700 вязняў). Школа ўтрымлівалася коштам адміністрацыі, а настаўнікі працавалі ў ёй на кантрактнай аснове[113].

Паводле дадзеных 1931/1932 г., у горадзе дзейнічалі таксама прафесійныя курсы. Так, Прыватныя аднагадовыя змешаныя Гандлёвыя курсы інж. Маркусада 1931 г. месціліся ў будынку Грамадскай габрэйскай гімназіі па вул. Лістоўскага, 12. Прыватныя хрысціянскія Гандлёвыя курсы пры Гандлёвай школе Польскай мацежы – па вул. Лістоўскага, 31[114]. Курсы перапрацоўкі гародніны пры Дзяржаўнай кравецкай гімназіі – па вул. Маставая, 9. Навучанне на курсах працягвалася 1 год, а аплата складала 5-30 зл., у залежнасці ад профілю. Выкладалі тыя ж самыя педагогі, што і ў адпаведных школах, пры якіх яны існавалі. Напрыклад, на габрэйскіх курсах выкладалі арыфметыку – Сас, гандаль – Вейнгартэн, польскую мову – Дэм, стэнаграфію – Новік ды інш. У 1928 г. на габрэйскіх курсах займаліся 32 асобы ва ўзросце старэйшым за 20 гадоў. Заняткі адбываліся 6 дзён на тыдзень па 3 гадзіны[115].

У пазашкольнай адукацыі актыўна ўдзельнічалі розныя грамадскія і рэлігійныя арганізацыі. Адной з іх быў “Стралецкі саюз”, мілітарызаваная арганізацыя патрыятычнага напрамку. Таксама ў Гродзенскім павеце ў 1937/1938 г. існавалі 4 сельскагаспадарчых курса, дзе навучалася 26 чалавек[116]. У 1928 г. пачаў дзейнічаць курс пляцення дываноў і кілімаў пры кляштары сс. Назаратанак. Па ініцыятыве Жаночага саюза грамадскай працы і Польскага чырвонага крыжа ў Гродне час ад часу адбываліся адмысловыя курсы перападрыхтоўкі. Так, у 1938 г. праходзілі трохтыднёвыя курсы гігіены для дзяўчат (30 асоб) з навакольных мястэчак і засценкаў. Курс праводзілі вайсковыя і цывільныя ўрачы[117]. Акрамя таго Жаночы саюз меў пад апекай некалькі святліцаў для заняткаў з дзяцьмі і моладдзю пад кіраўніцтвам Ядвігі Беняш. Гэта між іншым святліца “Прыстань” (вул. Баніфратарская, 36) для беспрацоўнай моладзі (40 чал.) і святліца для дзяцей, якія не наведваюць школу (25 дзяўчынак з бедных сем’яў). Апошняя знаходзілася ў будынку школы № 6[118].

Беларускамоўных навучальных установаў для дарослых не было, але паводле інфармацыі следчых органаў за студзень 1937 г., у Гродзенскім павеце беларусы актыўна скупалі беларускія чытанкі, прывезеныя з Вільні, і патрабавалі адкрыцця беларускамоўных вечаровых курсаў[119].

У заключэнне трэба адзначыць, што ў Гродне міжваеннага перыяду акрамя абавязковай “паўшэхнай”, існавалі таксама іншыя формы адукацыі. Паводле перапісу 1931 г., на фоне ўсяго Беластоцкага ваяводства, дзе

непісьменных было 28%, а тым больш рэшты паўночна-ўсходніх ваяводстваў Польшчы, дзе гэты адсотак даходзіў да 48,4 (напрыклад, Палескае ваяводства), гродзенскія жыхары выглядалі даволі адукаванымі. Чытаць і пісаць не ўмелі толькі 5541 (14,26%), а маглі толькі чытаць 2,3%[120].

Акрамя дзяржаўных навучальных установаў у горадзе існавалі прыватныя, хрысціянскія і габрэйскія, але не было ўвогуле установаў з беларускай мовай навучання. У міжваеннай Польшчы палітыка ў адносінах да г.зв. Усходніх земляў, нягледзячы на пэўныя хістанні, была накіраваная на ўзмацненне іх "польскага характару", а г.зн. на асіміляцыю нацыянальных меншасцяў. Гэта абумовіла барацьбу з усім, што так ці інакш перашкаджала рэалізацыі гэтай задачы. Пад наглядам аказваліся ўсе згуртаванні меншасцяў, але найбольшыя абмежаванні датычылі незадаволеных пастановамі Рыжскага трактату 1920 г., якія да таго ж мелі падтрымку звонку. І хаця Версальская сістэма, якая нарадзіла шэраг шматнацыянальных дзяржаў, прадугледжвала ахову правоў нацыянальных меншасцяў, а Польшча ў рамках Лігі Нацый заключыла пяць такіх дамоваў, у краіне мелі месца іх сур'ёзныя парушэнні. Іх прычыны трэба шукаць не толькі ў палітычнай, але і ў прававой сферы. Падпісаныя дамовы не акрэслівалі дакладна абавязкаў і не прадугледжвалі ні сістэмы кантролю, ні механізмаў пакарання парушальнікаў[121].

---

1 Samorząd Miejski. Warszawa, 1938, Nr 1-2, s. 59.

2 ДАГВ.Ф. 46, воп. 1, адз. зах. 140, арк. 1-7.

3 Тамсама.Ф. 352/S-74. Sprawozdanie Wojewody Białostockiego z działalności administracji i samorządu w 1931-1932 r., s. 111-112.

4 Тамсама.Ф. 46, воп. 1, адз. зах. 282, арк. 17.

5 Тамсама. Адз. зах. 281, арк. 1; адз. зах. 305, арк. 4; адз. зах. 287, арк. 54.

6 Informator miasta Grodna i Grodzieńszczyzny. Grodno, 1926, s. 57.

7 Kronika miasta Grodna/ Pod red. Sawickiego R. Grodno, 1928, zeszyt 2, s. 33.

8 Чарнякевіч А. Мартыралог беларускай школкі ў Гродне // Старонкі гісторыі беларускай Гародні. Рэжым доступу: www.harodnia.com. Дата доступу 12.06.2006.

9 Гл. Paprocka W. Szkolnictwo białoruskie na Kresach Wschodnich w świetle polityki mniejszościowej II RP // Etnografia Polska, t. XLII, 1998, z. 1-2 PL, s. 59.

10 ДАГВ.Ф. 46, воп. 1, адз. зах. 19, арк. 47.

11 Тамсама.Адз. зах. 284, арк. 94.

12 Тамсама.Адз. зах. 304, арк. 24.

13 DziennikUrzędowyMWRiOP.Nr 10 z 1938. Okólniknr 53 z 21.09.1938.

14 Крыстына Ніжынская ва ўзросце 16 гадоў загінула ў Варшаўскім паўстанні, і яе імя нададзена гінекалагічнаму шпіталю ў Варшаве.

15 ДАБВ.Ф. UWB, адз. зах. 97, арк. 21v.

16 Sobolewska A. Moje Grodno // Europa Nieprowincjonalna/ pod red. Jasiewicza K. Warszawa, 1999, s. 594.

17 Гл. Польскі габрэйскі архіў. Рэжым доступу: www.sztetl.org. Дата доступу 10.09.2012.

[18] Гл. Таксама.

[19] Аб гэтым сведчаць вучні з іншых усходніх ваяводстваў.

[20] Можна меркаваць, што гэта была нейкая “лакальная ініцыятыва” спагнання сродкаў за снеданне або за карыстанне падручнікамі, бібліятэкай і г.д.

[21] Sobolewska A. Moje Grodno, s. 594.

[22] Gojdź W. Mój Nowogródek // Europa Nieprowincjonalna, s. 272-274.

[23] Sobolewska A. Moje Grodno, s. 594-595.

[24] Dziennik Urzędowy MWR i OP.Nr 5 z 1937, poz. 45.

[25] ДАГВ.Ф. 352/S-74. Sprawozdanie Wojewody Białostockiego z działalności administracji i samorządu w 1931-1932 r., s. 12.

[26] Тамсама.

[27] Komunikat informacyjny sprawozdawczy oddziału Związku Pracy Obywatelskiej Kobiet. Kwiecień 1936. Nr 12. Grodno, 1936, s. 13.

[28] ДАГВ.Ф. 46, воп. 1, адз. зах. 305, арк. 45.

[29] Dziennik Urzędowy MSW, B I Nr 10 z 17.04.1937, poz. 152.

[30] ДАГВ.Ф. 46, воп. 1, адз. зах. 304, арк. 9.

[31] Komunikat informacyjny sprawozdawczy…, s. 44.

[32] Dziennik Urzędowy KOSW, rozdział III § 15, z 1933, poz. 12.

[33] Wilno i województwo wileńskie. Informator na rok 1939. /Pod red. Krasnopolskiego P., s. 41.

[34] ДАГВ.Ф. 37/Д-33, адз. зах. 838, к. 595.

[35] ДАГВ.Ф. 46, воп. 1, адз. зах. 376, арк. 14.

[36] Dziennik Urzędowy MWR i OP.Nr 4 z 1938, poz. 89.

[37] Kronika miasta Grodna, s. 32-33.

[38] Informator miasta Grodna i Grodzieńszczyzny, s. 57-58.

[39] Żydowskie Grodno. Рэжым доступу:http://www.sztetl.org.pl/pl/article/grodno/11,synagogi-domy-modlitwy-i-inne/27658,szkola-tarbut-przy-ul-kirowa-40/. Дата доступу 3.09.2012.

[40] У гэтым будынку была некалі гімназія Вальдмана, і сам гаспадар працягваў жыць у ім у міжваенны час, калі там ужо распалагаўся “Тарбут”.

[41] Р. Хасід, інтэрв’ю з 2003 г. (У архіве аўтара).

[42] Школьная адукацыя з’яўляецца галоўным апостальскім заданнем сёстраў гэтага закону.

[43] З размовы з Р. Шышкоўскай у 1996 г. у Варшаве. Успаміны с. З. Траяноўскай з 2003 г. (У архіве аўтара).

[44] Kronika miasta Grodna, s. 32-33.

[45] 100-lecie Domu Zwiastowania NMP Zgromadzenia Sióstr Najświętszej Rodziny z Nazaretu w Grodnie (1908-2008). Рэжым доступу: www. nazaretanki.pl. Дата доступу 5.09.2011.

[46] Гл. Рэжым доступу: www.jatajchert.w.interia.pl. Дата доступу 1.08.2012.

[47] Hirschberg A. Zarys historyczno-statystyczny szkolnictwa na ziemiach Północno-Wschodnich 1913-1929. Wilno, 1932, s. 23.

[48] Informator miasta Grodna i Grodzieńszczyzny, s. 56.

[49] Чарнякевіч А. Асобныя аспекты станаўлення структур грамадзянскай супольнасці Горадні1909-1939 гг.; Чарнякевіч А. Мартыралог беларускай школкі ў Гродне // Старонкі гісторыі беларускай Гародні. Рэжым доступу: www.harodnia.com. Дата доступу 12.06.2006

[50] Dziennik Urzędowy MWR i OP.Nr 3 z 1925, poz. 8.

[51] Dziennik Urzędowy KOSW.Nr 86 z 30.10.1933 r., poz. 16.

[52] Sprawozdanie dyrekcji Państwowego gimnazjum męskiego im. A. Mickiewicza w Grodnie za 1927/1928 r. Grodno, 1928, s. 14.
[53] Sprawozdanie z działalności Towarzystwa Polskiej Macierzy Szkolnej w 1936 r. Warszawa, 1937, s. 12.
[54] Dziennik Urzędowy MWR i OP.Nr 6 z 1937 r., poz. 183.
[55] Ibidem.Nr 5 z 1926, poz. 35.
[56] Dziennik Urzędowy MSW. B I.Nr 12 z 14.04.1937, poz. 225.
[57] Успаміны І. Вільчынскай-Шаляўскай з 2011 г. (У архіве аўтара).
[58] Dziennik Urzędowy MWR i OP.Nr 12 z 1937, poz. 249.OkólnikNr 129.
[59] Dziennik Urzędowy RP.Nr 71 z 1936 r., poz. 514.
[60] Загінула ад рук гестапа ў 1943 г.
[61] Siemiński J. Grodno walczące. Wspomnienia harcerza. Białystok, 1922., s. 20-24.
[62] Dziennik Urzędowy MWR i OP.Nr 8 z 1938, poz. 250.OkólnikNr 34.
[63] ДАГВ.Ф. 05/Р-39, адз. зах. 869, арк. 22.
[64] Тамсама.Ф. 46, воп. 1, адз. зах. 313, арк. 71.
[65] Тамсама. Ф. 17с, воп. 1, адз. зах. 880, арк. 76.
[66] Тамсама. Ф. 22, воп. 1, адз. зах. 137, арк. 86.
[67] Тамсама. Ф. UWB, адз.зах. 105, арк. 19.
[68] ОЗН – арганізацыія правага накірунку, створаная ў 1935 г. з ліку былых прадстаўнікоў "санацыі". Праяўляла тэндэнцыіі прафашысцкія і антысеміцкія.
[69] ДАГВ.Ф. 17, воп. 1, адз. зах. 333, арк. 20.
[70] Dziennik Urzędowy MWR i OP.Nr 18 z 21.05.1922, poz. 1878.
[71] Ibidem.Nr 6 z 01.04.1926, poz. 45.
[72] Ibidem.Nr 18 z 21.05.1922, poz. 184.
[73] Dziennik Urzędowy KOSW, rozdział III § 18, z 1933, poz. 12.
[74] Dziennik Urzędowy MWR i OP.Nr 12z5.11.1938, poz. 364.
[75] MatreńczykA. NaszejMadame. Рэжым доступу: www.przegladprawoslawny.pl. Дата доступу 2.06.2012.
[76] Трoньскі Б., размова з аўтарам з кастрычніка 1992 г.(У архіве аўтара).
[77] Dziennik Urzędowy KOSW.Nr 86 z 30.10.1933 r., poz. 16.
[78] Успаміны І. Вільчынскай-Шаляўскай з 2011 г. (У архіве аўтара).
[79] Lipińska G. Jeśli zapomnę o nich… Warszawa, 1990, s. 73, 82.
[80] Dziennik Urzędowy.Nr 72, poz. 501.
[81] Sprawozdanie dyrekcji państwowego gimnazjum męskiego im. A. Mickiewicza w Grodnie za 1927/1928 r. Grodno, 1928, s. 7.
[82] Catalogus ecclesiarum et cleri archidioecesis Vilnensis pro Anno domini 1939, s. 178-180.
[83] ДАБВ.Ф. UWB, адз.зах. 100, арк. 62.
[84] Wiadomości statystyczne GUS.Nr 23. Warszawa, 1926 r., s. 28.
[85] ДАГВ.Ф. 56, воп. 1. адз. зах. 76, арк. 139.
[86] Тамсама.Ф. 336-1П/S-74, адз. зах. 1278, арк. 12; ф. 46, о. 1, адз. зах. 304, арк. 28.
[87] Informator miasta Grodna i Grodzieńszczyzny, s. 56.
[88] ДАГВ.Ф. 336-1П/S-74, адз. зах. 1278.Sprawozdanie rachunkowe Grodzieńskiego samorządu miejskiego za rok 1926, s. 12.
[89] Sprawozdanie z działalności Towarzystwa PMS. Warszawa, 1936 r., s. 12.
[90] ДАБВ.Ф. MDS, адз. зах. 3, арк. 1-7.

[91] Тамсама.Ф. 352/S-74. Sprawozdanie Wojewody Białostockiego z działalności administracji i samorządu w 1931-1932 r., s. 53, 54, 55.

[92] Dziennik Urzędowy KOSW.Nr 86 z 30.10.1933 r., poz. 16.

[93] Sprawozdanie z działalności Towarzystwa Polskiej Macierzy Szkolnej w 1936 r., s. 13.

[94] Informator szkól zawodowych Okręgu Szkolnego Wileńskiego. Wilno, 1937, s. 23-53.

[95] DziennikUrzędowy KOSW.Nr 86 z 30.10.1933 r., poz. 11-12.

[96] Dziennik Urzędowy MWR i OP nr 10 z 1938, poz. 295.

[97] ДАГВ.Ф. 372/U-64, адз. зах. 2224. Ustawa o ustroju szkolnictwa. Warszawa, 1927, s. 33, 47.

[98] Informator miasta Grodna i Grodzieńszczyzny, s. 56.

[99] ДАГВ.Ф. 336-1П/S-74, адз. зах. 1278.Sprawozdanie rachunkowe Grodzieńskiego samorządu miejskiego za rok 1926, s. 12.

[100] Тамсама.Ф. 89, воп. 1, адз. зах. 33, арк. 77.

[101] Тамсама.Ф. 352/S-74, Sprawozdanie Wojewody Białostockiego z działalności administracji i samorządu w 1931-1932 r., s. 51.

[102] Informator szkól zawodowych Okręgu Szkolnego Wileńskiego, s. 56.

[103] Гл. Rozporządzenie z dn. 7.01. 1925 (§ 8).

[104] Cychun A. Moja Kuncewszczyzna // Europa Nieprowincjonalna, s. 496.

[105] ДАГВ.Ф. 352/S-74, Sprawozdanie Wojewody Białostockiego…, s. 51.

[106] З размовы з прадстаўнікамі сям’і В. Барэвіч з 1992 г. (У архіве аўтара).

[107] ДАГВ.Ф. 336-1П/S-74, адз. зах. 1278.Sprawozdanie rachunkowe Grodzieńskiego samorządu miejskiego za rok 1926, s. 12.

[108] Dziennik Urzędowy MWR i OP.Nr 2 z 1939, poz. 44.

[109] Polski Biały Krzyż. Okręg Grodzieński 1935-1936. Sprawozdanie za okres 1.07.1935-1.07.1936. Grodno, 1936, s. 1, 4.

[110] ДАГВ.Ф. 352/S-74. Sprawozdanie Wojewody Białostockiego…, s. 53.

[111] Dziennik Urzędowy KOSW.Nr 86 z 30.10.1933 r., poz. 16.

[112] Informator szkól zawodowych Okręgu Szkolnego Wileńskiego, s. 59.

[113] Informator miasta Grodna i Grodzieńszczyzny, s. 45.

[114] ДАГВ.Ф. 352/S-74, Sprawozdanie Wojewody Białostockiego…, s. 55.

[115] ДАБВ.Ф. MDS, адз. зах. 5, арк. 1.

[116] Sprawozdanie z działalności Związku Strzeleckiego za okres 1.06.1938-31.05.1939, Grodno 1939 r., s. 31.

[117] Nasza Okolica, Nr 7 z 14.01.1938 r.

[118] Komunikat informacyjny sprawozdawczy oddziału Związku Pracy Obywatelskiej Kobiet. Nr 12, Grodno, Kwiecień. 1936 r., s. 9.

[119] ДАБВ.Ф. UWB, адз. зах. 97, арк. 11v.

[120] Drugi powszechny spis ludności Rzeczypospolitej Polskiej z 9.12.1931 r. Mieszkania i gospodarstwa domowe, ludność, stosunki zawodowe. WojewództwoBiałostockie. Warszawa, 1938, s. 68.

[121] Катько Н. Международная защита прав национальных меньшинств: исторический аспект// Белорусский журнал международного права и международных отношений. 2002, № 2

*Таццяна Касатая*
*(Гродна)*

# Прадпрымальніцкая дзейнасць уладальнікаў гродзенскіх кінатэатраў у 1910 – 1930-я гг.

Адным з самых вялікіх і значных вынаходніцтваў мяжы XIX – XX ст. з'явіўся кінематограф. Яго станаўленне і развіццё істотна паўплывала на культурнае, сацыяльна-эканамічнае і палітычнае жыццё грамадства. Стваральнікі кінематографа не маглі прадугледзець усе наступствы свайго вынаходніцтва. Але тое, што ён непасрэдным чынам будзе звязаны з прадпрымальніцкай дзейнасцю было відавочна адразу. Адпаведна, з'явілася група першых кінапрадпрымальнікаў, якія зараблялі грошы на дэманстрацыях "кінастужак" (рухомых малюнкаў). Набыўшы праектар і дзесятка паўтара стужак, яны пераязджалі з горада ў горад і паказвалі іх да поўнага зносу. Паступова такія дэманстрацыі сталі стацыянарнымі.

## УЛАДАЛЬНІКІ ГРОДЗЕНСКІХ КІНАТЭАТРАЎ

У Гродне першыя кінапрадпрымальнікі абсталявалі ў цэнтры горада спецыяльныя залы для дэманстрацыі фільмаў. Якаў Крывапіск і Уладзіслаў Кржэміньскі ў пачатку XX ст. заснавалі электратэатры, адпаведна "Элетра-Біёграф" і "Адэон". У 1910-я гг. у кінапрадпрымальніцкай дзейнасці актыўна ўдзельнічалі прадстаўнікі шляхецкіх родаў. Рамуальд Завістоўскі адкрыў кінатэатры "Люкс" і "Летні". Капітан Сяргей Манастырскі быў уладальнікам кінатэатра "Эдэн". У кінематаграфічнай справе Манастырскія мелі вялікі досвед. Адной з уладальніц кінатэатра "Сатурн" была Сафія Манастырская, жонка Сяргея. А яго малодшы брат Міхаіл меў кінематограф у Вільні. Менавіта яны займаліся ўсімі пытаннямі будаўніцтва і адкрыцця кінатэатра ў Гродне пасля таго,як сам капітан быў накіраваны на фронт.

Сярод уладальнікаў кінатэатра "Сатурн" былі надворны дарадца і ўрач Ігар Вальдэмаравіч Гольмстэйн і яго жонка Вера Святаславаўна, якія жылі на вуліцы Замкавай, 15[1].

У 1920-я гг. змяніўся сацыяльны і нацыянальны склад уладальнікаў сінематографа. Амаль усе кінатэтры ў Гродне належалі габрэям. Кінатэатры "Мадэрн", "Ліра", а потым і "Эдэн" былі ва ўласнасці габрэйскага таварыства, на чале якога стаяў Ісаак Кузніцкі. Папярэднім уладальнікам "Эдэна" (да 1920 г.) было таварыства *Манастырскі і К*[2]. У пачатку 1920-х гг. толькі

“Saturn”, як пісалі мясцовыя газеты быў “хрысціянскім”. Яго ўладальнікам з’яўлялася таварыства *Eljaszew i K*[3].

Нацыянальная прыналежнасць уладальнікаў кінатэатраў вызывала незадаволенасць у пэўнага кола гараджанаў. У газеце “Nowe życie” паведамлялася, што Кузніцкі неаднаразова спрабаваў выкупіць кінатэатр “Saturn”. Калі не атрымалася, то паспрабаваў супрацьдзейнічаць атрыманню дырэкцыяй “Saturna” стужак з Варшавы. Аўтар артыкула сцвярджаў, што Кузніцкі неаднаразова бываў у адміністрацыі горада са скаргамі на дырэкцыю кінатэатра “Saturn”[4]. На старонках мясцовых газет з’яўляліся таксама абразлівыя артыкулы. Вось, напрыклад, як характарызавалася атмасфера ў іншым кінатэатры: “З кінатэатрам “Helios” таксама ўсё зразумела. Запах цыбулі ў зале і які ўсе добра адчувалі, прыводзіць да думкі, што цыбуля... да цыбулі...”[5]Гэтыя вытрымкі з газетных артыкулаў сведчаць пра агульнае стаўленне да габрэяў у міжваеннай Польшчы.

У 1935 г. уладальнікам кінатэатра “Uciecha” з’яўляўся Беньямін Мардэр[6], які пражываў на вул. Дамініканскай, 21. З 1936 г. кінатэатр “Pan” належыў Давіду Фломбергу, які жыў на пл. Тызенгаўза, 6[7].

У 1933 – 1935 гг. кінатэатр “Zosieńka” (вул. Брыгіцкая, 2) належаў Леапольду Мацієўскаму, які займаўся махлярствам. Падчас праверкі квіткоў гэтага кінатэатра фінансавым аддзелам гарадской адміністрацыі былі выяўлены бясплатныя квіткі кінатэатра “Gloria” (з 15 верасня па 15 снежня 1933 г. так называўся кінатэатр “Zosieńka”). Гэтыя квіткі выкарыстоўваліся некалькі разоў да поўнага зносу паперы. На заўвагі камісіі наконт незаконнай дзейнасці ўладальнік “Zosieńki” адказаў, што шматразовае выкарыстанне бясплатных квіткоў “Gloria” выклікана дрэнна наладжанай сістэмай забеспячэння бясплатнымі квіткамі з боку гарадской адміністрацыі. Мацієўскі сябе вінаватым не лічыў і заявіў, што і ў далейшым будзе выкарыстоўваць свой метад распаўсюджвання квіткоў. У 1934 г. той жа Мацієўскі і яго калега І. Лукашэвіч былі абвінавачаныя яшчэ ў адным махлярстве. Падчас дэманстрацыі фільма паліцэйскі спыніў сеанс, запатрабаваўшы вынесці з залі лішнія крэслы і выдаліць выпадковых гледачоў, сярод апошніх былі дзеці ды асобы з сабакамі. У канцы 1930-х гг. кінатэатр “Zosieńka”ужо належаў габрэйскаму таварыству і называўся “Helios”.

У 1930-я г. сярод усіх гродзенскіх кінатэатраў вылучаўся “Maleńkie” (былы кінатэатры “Saturn”)[8]. Ён належаў Міхаілу Кашкевічу. Гэты кінатэатар быў асаблівым не толькі з-за свайго невялікага памеру,але і таму, што ў ім дэманстраваліся нямецкія фільмы. З 1933 г. амаль усе кінатэатры Гродна байкатавалі фільмы нямецкай вытворчасці[9]. Усё часцей на экранах кінатэатраў з’яўляліся польскія стужкі.

## УМОВЫ ДЛЯ ГЛЕДАЧОЎ

Уладальнікі кінатэатраў павінны былі не толькі дбаць пра дэманструемыя фільмы, але і забяспечыць камфортныя ўмовы для наведвальнікаў.

Яны ўключалі знешні выгляд залаў, вентыляцыю, ацяпленне, запасны выхад і г.д. Але ў рэчаіснасці кінапрадпрымальнікаўу першую чаргу цікавіла прыцягненне наведавальнікаў, а не чысціня залаў. “Паўсюдна бруд, шмат смецця на падлозе ў кутах, бачна, што не падмяталі са спрадвечных часоў, абслуга не ветлівая, нават брутальная, не ўлічвае патрэбы наведвальнікаў”[10], – так быў апісаны кінатэатр “Polonja” у 1931 г.Не лепш выглядалі залы ў кінатэатры “Apollo”: брудныя памяшканні, абшарпаныя сцены, вошы, надпісы на расейскай мове[11].

Адсутнасць гігіены і бруд у кінатэатрах былі звязаны не толькі з абыякавасцю кінапрадпрымальнікаў, але таксама з вялікай колькасцю наведвальнікаў і перапоўненасцю залаў. Перапынак паміж сеансамі быў такі маленькі, што немагчыма было паспець ні прыбраць смецце, ні праветрыць зал. Ды і самі гледачы паводзілі сябе не лепшым чынам. Закідвалі зал агрызкамі, і нават спраўлялі свае фізіялагічныя патрэбы[12]. Часта адбываліся бойкі падчас дэманстрацыі фільмаў. Францішак Рышка, які жыў у Гродне з 1933 па 1939 гг., так апісваў наведванне кінатэатра “Uciecha”: “Калі стужка рвалася, то публіка незадаволена крычала, ламала лавы. З кабіны можна было пачуць: “Шура, пускай комедию, публика лавки ломает”[13].

Культура абслугоўвання ў кінатэатрах таксама не мела высокай якасці. У 1932 г. кінаапаратар “Palace”адмовіўся паказваць фільм. Уладальнік кінатэатра паспрабаваў з ім дамовіцца. Але той зачыніў дзверы кабіны на замок і нікога не пускаў. “Дарэмныя былі спробы палюбоўна вырашыць праблему, таму вызвалі паліцыю. Аднак, і на патрабаванні паліцыі “Ад імя права” ўпарты апаратар не адчыніў дзверы. У выніку яны былі выламаныя, апаратара даставілі ў камісарыят”[14]. Трэба адзначыць, што кінатэатр “Palace” (будучы “Uciecha”, вул. Ажэшкі, 15) быў адным з самых непапулярных у Гродне. І гэта было звязана не толькі з яго сумніўнай рэпутацыяй, а таксама з дэманстрацыяй да канца 1930-х гг. нямых фільмаў.

Адным з самых лепшых і сучасных кінатэатраў у Гродне ў міжваенны час быў кінатэатр “Swiatowid” (ранейшыя назвы “Zosieńka”, “Gloria”, “Lux”, “Helios”),які быў урачыста адчынены ў 1931 г. на вуліцы Брыгіцкай, 2. Памяшканні кінатэатра былі “эфектна і эстэтычна ўпарадкаваныя”[15] і адпавядалі сучасным патрабаванням гігіены. Уладальнікам кінатэатра быў Фр. Плануціс (Fr. Planucis). Кінатэатр меў добрую рэпутацыю. На яго адкрыцці прысутнічалі прадстаўнікі гарадскіх уладаў. Рэклама гэтага кінатэатра на старонках газет была самай эфектнай і вялікай. Неаднаразова ў яго памяшканнях таксама праводзіліся лекцыі каталіцкіх святароў на розныя сацыяльныя тэмы[16]. Але нягледзячы нават на папулярнасць, за восем гадоў існавання ў кінатэатры пяць разоў змяняліся ўладальнікі, што адлюстроўвалася ў зменах яго назвы. Частая змена кінаўладальнікаў была характэрна для ўсіх гродзенскіх кінатэатраў. Прычынай гэтага маглі быць банкруцтвы ці неадпаведнасць утрымання кінатэатра агульнапрынятым нормам.

Гэтыя нормы[17] ўключалі дэманстрацыя не менш 10% фільмаў польскай вытворчасці, паказ штотыднёвіка “PAT” (Polska Agencja Telegraficzna), змяшчэнне ў рэкламе інфармацыіі пра ўзрост асобаў, якім дазваляўся прагляд фільма. Апроч таго дэманстрацыя фільмаў павінна была адпавядаць інфармацыі на афішы, а кінасеанс мог працягвацца толькі да 24 гадзін. У нядзелю сеансы павінны пачынацца не раней 14 гадзін. Перапынак паміж сеансамі складаў не больш 15 хвілінаў, а дэманстрацыя рэкламы перад сеансам не магла цягнуцца даўжэй за 10 хвілінаў. Да таго ж уладальнікі кінатэатраў павінны былі загадзя паведамляць гарадскія ўлады аб дэманструемых фільмах з арыгіналам дазволу Міністэрства унутраных спраў, весці Кнігу кантролю фільмаў, мець у кінатэатры план будынка з пазначэннем уваходаў і выхадаў, колькасці месцаў для гледачоў, клапаціцца, каб усе памяшканні адпавядалі патрабаванням тэхнікі бяспекі і гігіены, мець аптэчкі. У праходах не павінна было лішняй мэблі ды іншых прадметаў.

## РЭКЛАМА

Прыбытак кінатэатра, а г.зн. дабрабыт яго ўладальніка залежаў ад колькасці наведвальнікаў. Якасць стужкі не заўсёды ўлічвалася, пра што з абурэннем пісалі мясцовыя газеты: “Гродзенскія кінатэатры ў асобе іх “дырэктараў” адрозніваюцца вялікімі прыбыткамі, а не ўзроўнем культуры”[18].

Арыентацыя на атрыманне прыбытку з’яўлялася натуральным для прадпрымальніцкай дзейнасці. Існавала моцная канкурэнцыя паміж кінатэатрамі. Дырэкцыя выкарыстоўвала розныя маркетынгавыя спосабы для прыцягнення ўвагі гледачоў. Самай дзейснай рэкламай з’яўлялася афіша, якая друкавалася ў мясцовых газетах.

Спачатку ў афішах выкарыстоўвалі толькі эфектную лексіку. У 1930-х гг. на старонках газет з’явіліся кінаафішы з ілюстрацыямі і фотаздымкамі. Асобна друкаваліся кінадзённікі, у якіх змяшчалася падрабязная анатацыя да стужкі.

У 1930-х гг. падчас сеансаў дэманстраваліся штотыднёвікі “Fox” і “Paramount”. Абавязковым для ўсіх кінатэатраў у гэты час быў паказ штотыднёвіка “PAT”, рэпартажы на актуальныя сацыяльна-палітычныя, эканамічныя і культурныя тэмы.

Вялікае значэнне надавалася новым і незвычайным праграмам. Напрыклад, у пачатку траўня 1932 г. у кінатэатры “Polonja” былі арганізаваны начныя сеансы пад назвай “Сентыментальны раманс”[19]. На працягу наступнага года ў “Polonji” і “Apollo”звыш праграмы выступалі артысты тэатра рэвю.

У 1931 г. газета “Ostatnie Wiadomosci Grodzieńskie” праводзіла розыгрыш уваходных квіткоў кінатэатра “Swiatowid”. Калі чытачу трапляўся нумар газеты з памылкай у назве фільма на афішы кінатэатра, то ён мог на працягу двух дзён атрымаць бясплатны квіток на кінасеанс[20].

З мэтай павелічэння колькасці гледачоў і даступнасці наведвання кінатэатраў у 1932 г. былі ўведзены адмысловыя купоны, якія можна было

Dźwiękowiec Dominikan. 26 **Apollo** DZIŚ **Wstęp od 54 gr.**
**Najnowszy wspaniały polski film** p.t.

**Jego Ekscelencja Subjekt**

W r.gl. **M. Ćwiklińska E. Bodo Ina Benita, K. Tom, Bległański**
Udźwięk. filmu: Tobis Klangfilm

Przebojowe piosenki z filmn „Jego Ekscelencja Subjekt": Złociste włoski, Tyle miłości i in.

**Dziś na scenie** **Przebojowa rewja** pt.

**„Piękne Grodnianki"**

w wykonaniu artystów teatrów Warszawskich: **Morskie Oko, Qui Pro Quo**
**Wacia Morawska, J. Karlińska, Z. Żukowska, Mieczysław Mirski, Mikołaj Niksarski, Antoni Tartakowicz, oraz słynny balet Niewęgłowskich i Junosza Lasoty**

Uprasza się Sz. Publiczność o łask. przybywanie na pocz. seansów o g. 6, 8 i 10.15
w sobotę i niedzielę pocz. seansów o g. 2.30

Dźwiękowiec Dominikań. 26 **Apollo** Pocz. 6, 8 i 10 **Wstęp od 49 gr.**
**Dziś długooczekiwany film!**

**Największy przebój sezonu**

**Film jakiego dotychczas nie było**

**Greta Garbo,** jako szpieg i kurtyzana **„MATA HARI"**
**Ramon Nowarro,** jako por. Rozanow, **Lionel Barymore,** jako generał Szubin, **Lewis Stone,** jako szef niemieckiego wywiadu szpiegowskiego w największym przeboju sezonu p.t.

**„MATA HARI"**

*Афіша кінатэатра "Apollo", 1933 г.*




*Афіша кінатэатра “Swiatowid”, 1932 г.*

абмяняць на квіток на любы сеанс. Кошт купона пры гэтым часцяком быў меншы, чым кошт квітка[21].

## ФІНАНСЫ

Кошт білетаў ва ўсіх гродзенскіх кінатэатрах быў амаль аднолькавы. Ніжэй прыведзены кошты квіткоў кінатэатра “Pan” у сакавіку 1936 г.[22]

| | Кошт квітка з улікам гарадскога падатку ад дэманстрацыі фільма | | Аплата на карысць | | Канчатковы кошт квітка | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Злоты | Грош | Польскага Чырвонага Крыжа | Фонду працы | Злоты | Грош |
| Ложа | - | 90 | 05 | 05 | 1 | - |
| Партэр | - | 60 | 05 | 05 | - | 70 |
| Партэр па зніжаным коштам | - | 40 | - | 05 | - | 45 |
| Балкон | - | 25 | - | - | - | 25 |
| Раніцай: партэр | - | - | - | - | - | 25 |
| Раніцай: балкон | - | - | - | - | - | 20 |

Дырэкцыя кінатэатраў абавязана была накіроўваць у магістрат інфармацыю пра фільмы, іх назвы, час дэманстрацыі. Акрамя гэтага дасылалі каштарысы і справаздачы па колькасці прададзеных квіткоў. Інфармацыя не заўсёды адпавядала рэчаіснасці. Уладальніца кінатэатра “Palace” Мілёнбэдзка (Miląbedzka) была аштрафавана за продаж квіткоў па коштам, якія адрозніваліся ад пададзеных у магістрат (замест 50 грошаў самы танны каштаваў 75 грошаў)[23].

Кінапрадпрымальнікі на працягу ўсяго міжваеннага перыяду звярталіся ў магістрат з просьбай зніжэння падаткаў. Падатак плацілі з кожнага фільма. Кінатэатр “Polonja” з 13 па 24 сакавіка 1935 г. меў прыбытак 2878 зл., з якога быў выплачаны падатак у памеры 460 злотых[24]. Акрамя падатку ад прыбытку існавалі абавязковыя выплаты на карысць Чырвонага Крыжа і фонду працы. Уладальнікі кінатэатраў плацілі таксама за рэкламу на шыльдах. Пры гэтым падатак залежаў ад памераў плакатаў і фотаздымкаў.

Для эфектыўнай дзейнасці і своечасовай выплаты падаткаў некаторыя з кінатэатраў аб’ядноўваліся ў кінатаварыствы. У пачатку 1920-х гг. існавала таварыства *Кузніцкі і К* (“Эден”, “Ліра”). У 1930-я гг. згадваецца таварыства

“Peteka”, якое аб’яднала “Apollo”, “Polonja” і “Palace”. Пазней два апошнія ўвайшлі ў таварыства з абмежаванай адказнасцю “Blok”. У 1936 г. было створана кінатэатральнае прадпрыемства “Apollo”, у склад якога ўвайшлі аднайменны кінатэатр, а таксама“Pan” (“Polonja”)[25]. Але нават таварыства не заўсёды магло забяспечыць своечасовую выплату падаткаў. У 1932 г. кінатэатры таварыства “Peteka”мелі запазычанасць перад магістратам звыш 10 тыс.зл. падатку з кінасеансаў і за карыстанне электраэнергіяй.

Кінапрадпрымальніцкая дзейнасць – гэта не толькі ўтрыманне кінатэатраў, пракат кінастужак, але і здымкі фільмаў. У Гродне ў 1921 г. была спроба адкрыць кінастудыю. Пра гэтую значную падзею для горада, а таксама для ўсёй Заходняй Беларусі згадвалася ў газеце “Echo Grodzienskie”[26].

Студыя павінна была адкрыцца пры падтрымцы вайсковых уладаў з мэтай азнаямлення “нашых суайчыннікаў, якія тут жывуць, а таксама тых, хто прыязджае сюды, з багаццем і маляўнічасцю прыроды на Крэсах, іх прыгожымі гістарычнымі помнікамі”. Былі нават падрыхтаваныя сцэнары, набытыя фота- і кінематаграфічныя апараты. Планавалася, што здымкі фільмаў прынясуць вялікія прыбыткі. Мясцовую кінастудыю прапанавалася назваць “Litfilm”. Які лёс нападкаў “Litfilm”, ці быў ён створаны, невядома...

Кінатэатр “Kino O.W.”[27] у гарнізонным Доме салдата на куце вул. Сапёрнай і 3 Мая (сучасныя вул. Дзяржынскага і 1 мая), пры падтрымцы якога павінна была адкрыцца кінастудыя, і дзе планавалася паказваць фільмы мясцовай вытворчасці праіснаваў толькі год[28]. Цалкам верагодна, што кінастудыя “Litfilm” не была адкрытая.

Такім чынам, кінематограф паўплываў не толькі на з’яўленне новага віду мастацтва, якасць і эфектыўнасць перадачы інфармацыі, гарадскую штодзённасць, але і стварыў магчымасці для развіцця прадпрымальніцкай дзейнасці гараджанаў.Уладальнікамі першых кіназалаў, а потым і кінатэатраў былі, як прадстаўнікі шляхты, так і іншых станаў. Былі выпадкі, калі кінапрадпрымальніцкая дзейнасць ператваралася ў сямейную справу (Манастырскія, Гольмстэйны).

Пачынаючы з 1920-х гг. большасць гродзенскіх кінатэатраў належала габрэям. У гэты перыяд з’явіліся і кінатэатральныя аб’яднанні, таварыствы (*Кузніцкі і К* “Peteka”, “Blok”, “Apollo” і іншыя).

Навінкі кінематографа, бліскучая рэклама, найноўшая апаратура не заўсёды забяспечвалі кінапрадпрымальнікаў прыбыткам. Шматлікія падаткі, а таксама несумленная канкурэнцыя былі прычынамі закрыцця і банкруцтва кінатэатраў.

[1] Нацыянальны гістрычны архіў Беларусі ў Гродне. Ф. 8, воп. 2, адз.зах. 2167, арк. 2, 2 адв, 3.

[2] Дзяржаўны архіў Гродзенскай вобласці (ДАГВ). Ф. 46, воп. 1, адз.зах. 142, арк. 60

[3] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, адз.зах. 142, арк. 3

[4] Nowe życie. 1922, 29 stycznia

[5] CzynMłodych, 1938, 2 października, № 3, s. 3;

[6] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, фдз.зах. 327, арк. 83

[7] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, адз.зах. 327, арк. 81

[8] RyszkaF.Pamiętnik inteligenta: dojrzewanie. Warszawa, 1994, s. 84.

[9] У 1933 г. у Гданьску была забаронена польская стужка "Dziesięciu z Pawiaka" (1931), а пасля і ва ўсёй Германні было забаронена дэманстрацыя фільмаў польскай вытворчасці. У адказ на гэта Саюз абароны Заходніх Крэсаў у Польшчы прыняў рашэнне аб забароне нямецкіх стужак.

[10] Ostatnie WiadomożciGrodzienskie. 1931, 12 sierpnia

[11] Ibidem. 1931, 12 sierpnia

[12] RyszkaF. Pamientnik inteligenta…, s. 86.

[13] Ibidem, s. 86.

[14] OstatnieWiadomosciGrodzienskie. 1932, 5lipca

[15] Ibidem. 1931, 24 października

[16] Ibidem. 1931, 1 wrzesieńia

[17] Спіс складзены на аснове дакладных дырэкцый гродзенскіх кінатэатраў, які знаходзяццаў ДАГВ.(Ф. 46, воп. 1, адз.зах. 314, 317, 318, 322, 323, 326, 327), і электроннага рэсурса http://kalinowski.weebly.com/uploads/4/9/1/6/4916495/amatorskie_sceny_teatralne_i_kinematograf_w_rejowcu.pdf

[18] Ostatnie Wiadomożci Grodzienskie. 1931, 18 sierpnia

[19] Ibidem. 1932, 5 maja

[20] Ibidem. 1931, 8 października

[21] Ibidem. 1932, 23 sierpnia

[22] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, адз.зах. 327, арк. 82

[23] Dziennikkresowy. 1926, 5 stycznia

[24] ДАГВ. Ф. 46, воп. 1, адз.зах. 327, арк. 2

[25] Ibidem, адз.зах. 323, арк. 80

[26] Echo Grodzieńskie 1921, 6 lipca

[27] Kino O.W. – Kino Obozu Warownego.

[28] У Доме салдата пасля ліквідацыі "Kino O.W." таксама дэманстраваліся фільмы, але часцей яго памяшканні выкарыстоўваліся для канцэртаў.

*Waldemar Wołkanowski,*
*Doktorant Instytutu Historii (Opole)*

# Sportowe związki Wilna i Grodna w latach 1920 – 1928

Zagadnienia wychowania fizycznego i przysposobienia wojskowego, a także sportu w międzywojennej Polsce, nie mogą ujść uwadze badaczy, ze względu na ważność tej problematyki. Była ona jedną z ważniejszych arterii krwioobiegu życia społecznego.

Dyslokacja jednostek polskiego wojska w latach 1919 – 1920 stworzyła podstawy, sformalizowanych w późniejszym okresie związków Wilna i Grodna na niwie sportowej. Jednostki wojska polskiego przechodziły rozmaite zmiany związane z transformowaniem i dyslokacją. Zagospodarowanie czasu wolnego żołnierzy podczas dłuższych okresów pokoju, było jednym z ważniejszych problemów dowództwa. Skierowanie energii młodych chłopców na rywalizację sportową, którą prowadzono w różnych dyscyplinach sportu. Władze wojskowe z czasem zaczęły sobie uzurpować prawo do odgrywania wiodącej roli w wychowaniu fizycznym młodego państwa.

Pierwsze objawy rodzącego się ruchu sportowego odnotowano w Wilnie, nad którym egidę przejęli wyżsi dowódcy wojskowi z generałem Lucjanem Żeligowskim. Pierwsze decyzje w tej sprawie wychodziły z tzw. Grupy „Bieniakonie", a później dowództwa wojsk Litwy Środkowej. Nieśmiałe próby aktywizacji sportowej podjęto też w dwóch największych miastach regionu Białymstoku i Grodnie.

W 1920 r., kiedy tylko odrzucono nawałę bolszewicką, zaczęły się normować sprawy granic państwa polskiego. Komplikowało ją najpierw istnienie specyficznego „quasi państwa" Litwy Środkowej. Nie było to jednak przeszkodą w nawiązaniu ściślejszych kontaktów Wilna i Grodna na niwie sportowej. To właśnie w Grodnie, rozgrywano mecze piłki nożnej drużyn powstałych prawie w każdym ze stacjonujących tam jednostek. Dowództwo starając się „spacyfikować energię", młodych żołnierzy, których zachowanie poza koszarami było bardzo często przyczyną zadrażnień i konfliktów z ludnością miejscową, popierało „zdrową rywalizację sportową"

21 czerwca 1921 r. w Grodnie miał miejsce mecz piłkarski między reprezentacjami 1 i 5 pułków piechoty, który zakończył się remisem 1:1 (1:0). Kolejną serię meczów rozgrywano w lipcu tego roku. Rywalizowały ze sobą zespoły 5 6 i 9 pułku, drużyna „Zuchowatych" z II i III baonu 3 Dywizji Legionowej, baon „Taborów". Większe znaczenie miały mecze reprezentacji armijnej. W dru-

giej połowie w Lidzie Reprezentacja Dowództwa 2 Armii podejmowała cywilno-wojskowy zespół WKS „Sokół" z Wilna, pokonując go 8:1 (4:1). Prawdziwą „gwiazdą" zespołu z Grodna był doświadczony piłkarz z przedwojennego, pierwszego składu warszawskiej „Polonii" (jeden z najlepszych strzelców w Polsce) kapitan Aleksander Stenzel, który strzelił większość goli. Tydzień później w Wilnie, rozegrano mecz pomiędzy Reprezentacją Wojsk Litwy Środkowej, a Reprezentacją 2 Armii (2 DP Leg.). Zespól 2 Armii, złożony z żołnierzy oddziałów stacjonujących w Grodnie i Lidzie, pokonał wojskowych Litwy Środkowej 4:0 (2:0). Na mecz, mimo powszedniego dnia przyszło dużo ludzi. Sędzia Pronaszko był zmuszony z powodu zapadających ciemności i padającego deszcze przerwać mecz przed czasem. Następnego dnia 2 Armia pokonała w rewanżowym meczu WKS „Sokół" (Wilno) 5:2 (4:2). Aleksander Stenzel znów był strzelcem prawie wszystkich bramek w obydwóch meczach[1].

Organizacja sportu wileńskiego nabrała intensyfikacji wraz z utworzeniem Centralnego Związku Polskich Towarzystw Sportowych Litwy Środkowej. Już w tym czasie zaznaczyła się jednak odrębność życia sportowego w wojsku. Generałowie Lucjan Żeligowski, Daniel Konarzewski i Michał Tokarzewski-Karaszewicz byli protektorami wszelkich rozgrywek wewnątrz wojskowych. Jednostki stacjonujące w Wilnie, Grodnie i Białymstoku oraz innych miejscowościach, dostały zgodę na tworzenie sekcji sportowych. Urządzane były place sportowe na przylegających do koszar terenach. Jednym z najlepiej zorganizowanych był plac 76 Grodzieńskiego Pułku Strzelców, który stał się bazą do budowy największego w Wilnie stadionu. Pułkowe sekcje sportowe, były zaczątkiem powoływanych w następnych latach wielosekcyjnych klubów sportowych.

Olbrzymią rolę na sprawy sportu, odegrały w tym czasie wytyczne marszałka Piłsudskiego o szczególnej roli wychowania fizycznego w odrodzeniu narodu, najpierw realizowane były pod hasłami „odrodzenia fizycznego armii". Oprócz wojska objęły one młode pokolenie z organizacji paramilitarnych Związku Strzeleckiego[2], a później „Sokoła".

W 1921 r. powstał w Wilnie Okręgowy Związek Piłki Nożnej[3], który eksterytorialnie włączony został do PZPN. Pierwsze rozgrywki mające wyłonić mistrza okręgu, prowadziły ze sobą na początku cztery drużyny miejscowe, w tym powstały na wzór warszawskiego odpowiednika Wojskowy Klub Sportowy.

Reorganizacja armii doprowadziła do tego, że poszczególne jednostki, zaczęły tworzyć stabilizujące się garnizony poszczególnych miast. Działające dosyć luźno do tej pory baonowe i pułkowe sekcje sportowe, zaczęto zamieniać w kluby. W Grodnie podobnie, jak w Wilnie powołano też ogólny Wojskowy Klub Sportowy, skupiający sportowców z kilku jednostek. WKS „Grodno" posiadał najsilniejszą w mieście drużynę piłki nożnej, opartej o szeregowców i podoficerów.

Likwidacja Litwy Środkowej i włączenie Wileńszczyzny w granice Polski wiosną 1922 r. doprowadziło do istotnych zmian w organizacji sportu na tych terenach. Polski Związek Piłki Nożnej i Polski Związek Lekkiej Atletyki zadecy-

dowały, że istniejące już wileńskie Związki Okręgowe w tych dyscyplinach obejmować będą swoją strukturą olbrzymie połacie trzech przyszłych województw, w tym nowogródzkiego i białostockiego.

Granice okręgów pokrywały się z zasięgiem III Okręgu Korpusu wytyczonego w 1921 r. Zatem, nie Grodno, gdzie mieściło się dowództwo OK III, ale Wilno największe miasto regionu stało się jednostką nadrzędną dla organizacji sportowych. W ten sposób sportowy związek Wilna i Grodna[4], nabrał charakteru sformalizowanego. W Grodnie powołane zostały podokręgi (w jego składzie był Białystok)[5] posiadające dużą autonomię. Relacje sportowe tych trzech miast, nabrały specjalnego znaczenia, gdy zrodziły się pomysły rozgrywania oficjalnych meczów międzymiastowych.

Jeszcze w czerwcu 1922 r. w rozegranych w Wilnie lekkoatletycznych Mistrzostwach Okręgu wzięli udział sportowcy z III Baonu 76 pułku utworzonego z szóstego harcerskiego pułku z Wilna. Zastosowana podległość, kiedy wszystkie kluby grodzieńskie posiadające sekcje lekkoatletyczne należały do Okręgowego Związku w Wilnie, szybko się jednak rozpadła. Białystok w naturalny sposób został wchłonięty przez Warszawski Okręg Lekkoatletyczny. Na podobny krok zdecydowało się autonomicznie zarządzane Grodno.

Zmiany polityczne spowodowały, że dopiero w maju 1922 r. został opracowany regulamin okręgowych mistrzostw piłkarskich. Pierwszy raz do rywalizacji miała przystąpić tzw. prowincja. Zgłoszone do rozgrywek drużyny podzielono na cztery grupy, tworzące podokręgi (grupy): I - Mołodeczno, II - Wilno, III - Grodno (z Białymstokiem), IV - Lida. Mistrzowie poszczególnych grup rozgrywali na zakończenie sezonu w Wilnie mecze systemem pucharowym. Zwycięzca tego turnieju spotykał się z mistrzem Wilna zespołem WKS. Grupę grodzieńską stanowiły WKS „Grodno" i dwie drużyny z Białegostoku WKS 42 p.p. oraz zespół strażaków BOSO (Białostocka Ochotnicza Straż Ogniowa). Z różnych przyczyn do finałowej rozgrywki klubów prowincjonalnych nie doszło.

Niezależnie od tego w podokręgu grodzieńskim utworzono lokalną Klasę B która rywalizowała w mistrzostwach lokalnych. Weszły do niej WKS „Grodno" oraz nowo powstałe zespoły pułkowe WKS 76 p.p. (Grodno), WKS 81 p.p. (Grodno), WKS 29 p.a.p. (Grodno), a także kluby z organizacji paramilitarnych „Sokół", „Strzelec", „Harcerz" oraz żydowska narodowa drużyna „Makkabi".

Impulsem do powstania zespołów pułkowych w Grodnie, podobnie jak w innych miastach garnizonowych, było zorganizowane od 1921 r. przez dowództwo Wojska Polskiego mistrzostw Armii. Oprócz dyscyplin lekkoatletycznych i wojskowo-sportowych, rywalizację prowadzono też w piłce nożnej (pierwszym mistrzem w 1921 roku był 20 p.p. z Krakowa). Rozgrywki zaczynały się od szczebla mistrzostw dywizyjnych, następnie mistrzostw okręgów (które zwane też były korpuśnymi lub międzydywizyjnymi), a następnie obwodowymi (grupy po trzech mistrzów okręgów), skąd cztery najlepsze zespoły trafiały do finałów. Cykl potraktowano w wojsku wyjątkowo poważnie, do głosu doszły wówczas ambicje

niektórych dowódców. Spółdzielnia Wojskowa w Wilnie ufundowała nagrodę przechodnią dla zwycięzcy rundy Okręgu Korpusu III, oraz obraz z wizerunkiem Marszałka Piłsudskiego.

Na etapie dywizyjnym rozgrywek w 1922 r. mistrzostwo 29 DP zdobył zespół 76 p.p. Grodno, który w mistrzostwach DOK III uległ następnie u siebie mistrzowi 1 DPLeg, zespołowi 1 p.p.Leg Wilno. Drużyna z Wilna przeszła następnie rundę obwodową i zagrała w finałach mistrzostw Armii w Warszawie, zajmując IV miejsce.

Zapowiadająca się dobrze drużyna WKS 76 p.p. z Grodno w październiku przyjechała po raz pierwszy do Wilna, rozgrywając towarzyskie spotkanie z kombinowanym zespołem WKS „Wilno", przegrywając 0:5[6].

Na walnym zgromadzeniu Wileńskiego Okręgowego Związku Piłki Nożnej w styczniu 1923 r., dokonano nowego podziału zgłoszonych drużyn do klas rozgrywek. Klasa A znów złożona była z czterech zespołów (ponownie doszła MKS „Wilia"), natomiast Klasę B rozgrywano w trzech podokręgach (wileńskim, białostockim i grodzieńskim).

Grodno, szykując się do rozgrywek, rozbudowało boisko garnizonowe. Jesienią pierwsza drużyna grodzieńska stanęła przed szansą awansu do Klasy A. Rozgrywki w podokręgu grodzieńskim wygrał WKS „Grodno"[7] i aby awansować, musiał pokonać rezerwy Wileńskiego Klubu Sportowego, który wygrał w wileńskiej grupie Klasy B. Mecz rozegrano 7 października, i WKS „Grodno" pokonał Wilnian 2:1 zostając mistrzem Klasy B i awansując do rozgrywek Klasy A w 1924 r. Był to sukces niezwykły, budzący w Grodnie zrozumiałą radość[8].

W rozgrywkach eliminacyjnych do Mistrzostw Armii na 1923 r. mistrz zespół 1 p.p. Leg. (Wilno) ponownie pokonał zespół 76 p.p z Grodno, a następnie dostał się do finałów Armii, gdzie zajął drugie miejsce.

Kontakty sportowe Wilna i Grodna nawiązane zostały przez organizacje paramilitarne („Strzelec" i ZBK oraz „Sokół" i hufce szkolne), a także przez harcerstwo. W sierpniu 1923 r. w Wilnie rozegrano zawody w pięcioboju sportowo-wojskowym hufców szkolnych, podczas których objawił się po raz pierwszy niezwykły talent Wacława Sidorowicza, który reprezentował zespół Harcerzy z Grodna. Wygrał on w klasyfikacji indywidualnej.

Walne Zgromadzenie Wileńskiego OZPN podjęło na początku 1924 r. uchwałę o zreorganizowaniu rozgrywek. Rozmowy o ostatecznym składzie mistrzowskich potyczek trwały do końca marca. Przy stole obrad zdecydowano w końcu, że w rozgrywkach Klasy A wezmą udział tylko trzy zespoły wileńskie, natomiast w centralnej Klasie B zagra ich osiem, w tym siedem wileńskich i wyjątkowo WKS „Grodno". „Teraz mamy klubów sportowych w Wilnie huk! Trochę nawet za dużo, gdyż kluby Klasy B ledwo dyszą", – komentował redaktor Michał Cis-Bankiewicz[9]. W Grodnie tę decyzję przyjęto z oburzeniem, bowiem cały ubiegłoroczny wysiłek związany z awansem został załatwiony przy „zielonym stoliku".

Rozgrywki pokazały, jak fatalna w skutkach była decyzja wileńskiej centrali. Niektóre z wileńskich klubów B-Klasowych rezygnowały z kosztownych prze-

jazdów na mecze do Grodna. Grodzieński WKS miał jeszcze gorzej, gdyż do Wilna musiał jechać aż na siedem meczów. WKS zadebiutował na własnym boisku 26 kwietnia. Przegrał mecz z rezerwami TS „Wilia” II 0:2. Tydzień później zweryfikowano ten wynik na walkower (0:3) na korzyść dla AZS, gdyż Wydział Gier i Dyscypliny stwierdził, że w barwach WKS grał Artur Krieger, piłkarz zgłoszony wcześniej do C-Klasowego WKS 29 p.a.p.[10]

Towarzyskie spotkania rozgrywały drużyny żydowskie z Wilna i Grodna. W lipcu dwumecz rozegrały ze sobą „Hasmonea” (Grodno) i ŻTGS „Makkabi” (Wilno), będąc na zmianę gospodarzami[11].

Wojskowe kluby piłkarskie narażone były na brak stabilizacji, jeśli chodzi o poziom sportowy. Wiązało się z tym, że zawodnikami zespołów byli żołnierze z poboru, a ci kończąc dwuletnią służbę odchodzili. Siły zespołów zmieniały się czasem z dnia na dzień. W ten sposób obniżył wyjątkowo swój poziom WKS „Grodno”, a na jego miejsce na lidera drużyn grodzieńskich wyrosła drużyna 29 pułku artylerii polowej, popularnie nazywana „papistami”. Wartość tego zespołu ujawniła się w pełni w lipcu 1924 r. w ramach rozgrywek dywizyjnych do Mistrzostw Armii. „Papiści” wygrali wszystkie pięć meczów, zostając mistrzem 29 Dywizji Piechoty. Imponował łączny stosunek bramek 25:2.

Grodnianie zagrali następnie mecz o mistrzostwo OK III z 1 p.p.Leg. z Wilna, która wygrała mistrzostwa 1 DPLeg. W deszczową niedzielę 3 sierpnia, na stadion garnizonowy w Grodnie przyszło zaledwie 400 widzów[12]. Wileńskie „leguny” wygrali mecz 6:0 (2:0). Puchar przechodni, ufundowany w 1922 r., wręczał zwycięzcom szef sztabu OK III pułkownik sztabu generalnego Józef Kordian-Zamorski[13]. Drużyna wileńska była lepsza, i ona przeszła do kolejnej fazy rozgrywek, którą były mistrzostwa armijne (1 Armia).

W tym czasie, gdy WKS 29 p.a.p. odpadał z rozgrywek o mistrzostwo okręgu, w Grodnie powołano do życia cywilny klub „Cresovia” z sekcjami lekkoatletyczną, tenisową, narciarską i pływacką oraz piłki nożnej. Ta ostatnia, zgłoszona i zatwierdzona przez Wileński OZPN, rozpoczęła od razu grę w rozgrywkach Klasy B grodzieńskiego podokręgu[14].

W połowie września 1924 r. Wojskowy Klub Wioślarski „Niemen” (Grodno) zorganizował duże regaty pod nazwą „I Regaty na Niemnie”, zapraszając do udziału wioślarzy z Wilna[15]. To ważna data, gdyż rozpoczęła się wówczas niezwykle owocna i przyjazna współpraca wioślarskich klubów Wilna i Grodna, która przetrwała do wybuchu wojny w 1939 r.

Tymczasem, zespołowi WKS „Grodno”, grającemu w centralnej Klasie B całkowicie się nie wiodło. Za poprawę wizerunku grodzieńskiej piłki zabrała się grupa oficerów z pułkownikiem Kordianem Zamorskim na czele. Pomysł był prosty. Zamorski wydał rozkaz o likwidacji klubu WKS „Grodno” i wstawieniu w trakcie rozgrywek w jego miejsce świetnego zespołu WKS 29 p.a.p. Kilku najlepszych zawodników z rozwiązanego WKS uczyniło „papistów” jeszcze mocniejszymi. Wszystko wskazywało na to, że zespół z Grodna wygra bez trudu

rywalizację w Klasie B i grać będzie w barażach z ostatnią drużyną Klasy A. Sprawę załatwiono jednak w sposób „iście wojskowy”, bez zachowania odpowiedniej procedury urzędowej, jaką powinno było być odpowiednie zgłoszenie do władz Wileńskiego OZPN. Wileńskie zespoły przyjeżdżające do Grodna, zaskoczone dowiadywały się, że kolejne mecze grać mają z WKS 29 p.a.p.

W ciągu kilku tygodni wybuchł skandal, który doprowadził do przesilenia w Okręgowym Związku. Zarząd, w którym główne role grali cywile z prezesem Janem Weyssenhoffem na czele, wykluczył zespół z Grodna z rozgrywek, unieważniając jego wszystkie rozegrano do tej pory mecze. Do akcji natychmiast przystąpili wojskowi, którzy naciskali, aby decyzję zmieniono i zaakceptowano grodzieńską „podmianę”, tłumacząc, że wszystko było załatwione formalnie. Władze piłkarskie nie ustępowały i w coraz bardziej nerwowej atmosferze, zarząd podał się do dymisji. Grodzieńscy i wileńscy wojskowi atakowali nadal. Zarzucono Weyssenhoffowi, że traktuje sprawę osobiście, a do tego chce wykorzystać całą tę sytuację, aby „wyciągnąć swój klub” czyli TS „Wilia” z zagrożonej pozycji[16]. „Wilia zajmowała w tym czasie ostatnie miejsce w Klasie A  co zapowiadało, iż to ona zagra w barażach z niewygodną bardzo mocną drużyną „papistów” z Grodna.

Na dzień 12 września, zwołano w trybie nagłym Nadzwyczajne Zgromadzenie, aby wybrać nowy zarząd Wileńskiego OZPN. Eliminowano wówczas „starych ludzi”, jak pisano. Głosowanie odbywało się w bulwersującym milczeniu. Prezesem został profesor USB Jerzy Aleksandrowicz, a wiceprezesami ksiądz Markowski i major Zdzisław Wenda. Członkiem zarządu reprezentującym WKS 29 p.a.p. (Grodno) został kapitan Jan Hummer (jednocześnie gracz tego zespołu). Nowo ukonstytuowany zarząd podjął natychmiastową uchwałę, zatwierdzającą drużynę z Grodna, łącznie z zaliczeniem jej do punktacji dotychczasowych wyników osiągniętych przez rozwiązany WKS „Grodno”.

Kiedy wydawało się, że sprawa jest definitywnie załatwiona, swoje rozstrzygnięcie wniosła centrala PZPN. Postanowiła ona rozwiązać Wileński OZPN i wprowadzić w jego miejsce komisarza w osobie Jana Weyssenhoffa, a także unieważnić dotychczasowe rozgrywki Klasy A. Uznano wszystkie naruszenia regulaminowe związane z drużyną z Grodna i zatwierdzono decyzję dawnego zarządu o usunięciu Grodnian z rozgrywek. Wszystko odbyło się po myśli byłego prezesa. Werdykt PZPN przyjęto przez niektórych, jako słuszny, gdyż jak pisano w prasie: „Nieróbstwo (wileńskich) dygnitarzy administracyjnych piłkarstwa i lekceważenie przyjętych na siebie obowiązków było zbyt znane i krytykowane, by ktokolwiek wystąpił w ich obronie”. Druga część decyzji, dotycząca anulowania rozgrywek Klasy A  była jednak kontrowersyjna.

Wobec tak radykalnych decyzji centrali, wojskowi z zarządu Wileńskiego OZPN (Wenda i Hummer) zwołali ponownie zebranie nadzwyczajne. Podjęto uchwałę, o nie przyjęciu do wiadomości decyzji PZPN i zdecydowano o kontynuowaniu rozgrywek, zarówno w Klasie A  jak w Klasie B z zatwierdzonym *ad hoc* WKS 29 p.a.p. Mówiono, że jeśli TS „Wilia” z decyzją się nie zgodzi, może

***Алесь Смалянчук,***
***доктар гіст. навук (Гродна-Варшава)***

# Трансфармацыя месцаў памяці постсавецкага Гродна

“Савецкая эпоха” ў гісторыі Беларусі не закончылася разам з развалам СССР. Яна працягвае сваё існаванне ў відавочных спробах улады (пасля выбараў 1994 г.) захаваць старую палітычную мадэль і будаваць нацыянальна-дзяржаўную ідэнтычнасць на падмурку мадэрнізаваных варыянтаў савецкай ідэалогіі. Для фармавання ідэнтычнасці асаблівае значэнне мае феномен памяці і праблема яе трансфармацыі ў постсавецкай публічнай прасторы.

Актуалізацыя праблематыкі памяці ў культурным і палітычным жыцці Беларусі супала з агульнасусветным трэндам. Ужо напрыканцы мінулага стагоддзя стаў відавочным актыўны зварот прадстаўнікоў розных гуманітарных навук да феномена памяці, якая іншым разам (прынамсі ў заявах П’ера Нара) ператваралася ў альтэрнатыву гістарыяграфіі. Адной з прычынаў гэтага звароту стаўся пэўны крызіс нацыянальных наратываў мінулага нацый і дзяржаваў. Навацыі сусветнай гуманітарнай навукі дазваляюць па-новаму паглядзець і на сітуацыю ў нашай краіне.

У дадзеным артыкуле паспрабую паказаць асаблівасці працэсу трансфармацыі памяці жыхароў Гродна за апошнія 20 гадоў. Упэўнены, што ў “гродзенскім выпадку” адлюстравалася спецыфіка трансфармацыі культурнай памяці ўсёй Беларусі.

Тэрмін “культурная памяць” увайшоў у карыстанне гісторыкаў дзякуючы даследаванням нямецкіх навукоўцаў Алеіды і Яна Асманаў (Aleida i Jan Assmann)[1]. Звычайна, пад “культурнай памяццю” разумеюць форму трансляцыі і актуалізацыі культурных сэнсаў. Адначасова гэта абагульняючая назва для ўсіх тых “ведаў”, што кіруюць перажываннямі, дзеяннямі, усёй жыццёвай практыкай людзей у межах іх узаемадзеяння ў сацыяльных групах, якія завучваюцца і паўтараюцца, рэтранслююцца наступным пакаленням. Формы культурнай памяці (“пункты фіксацыі”) – гэта тэксты, выявы, помнікі, рытуалы ды інш.

Іншае паняцце, без якога сёння немагчыма абысціся ў вывучэнні памяці, было прапанаванае французскім гісторыкам П’ерам Нара (Piere Nora). Менавіта ён ініцыяваў шэраг цікавых даследаванняў “месцаў памяці”, напр., у Францыі. Падчас іх адбывалася ўдакладненне ключавога паняцця канцэпцыі П.Нара. Сёння “месца памяці” часцей трактуецца як феномен

матэрыяльнага ці ідэальнага кшталту, які воля людзей або часператварылі ў сімвалічны элемент памяці пэўнай супольнасці[2].

Збольшага гэтыя ды іншыя даследаванні датычаць нацыянальных і дзяржаўных феноменаў. Значна менш увагі даследчыкамі ўдзяляецца такому аб'екту як горад. Магчыма, пэўнае ігнараванне горада абумоўленае тым, што асноўныя канцэпты памяці сфармуляваныя ў Заходняй Еўропе, для якой характэрныя этнічна гомагенныя гарады. Цэнтральна-Усходняя Еўропа (і Беларусь!) з яе шматкультурнымі і шматканфесійнымі гарадамі ўсё яшчэ чакае сваіх даследчыкаў. Да таго ж адсутнічаюць тэарэтычныя падыходы для вывучэння такіх гарадоў як месцаў памяці.

У 2008 г. да гэтай праблемы звярнуўся літоўскі гісторык Альвідас Нікжэнтайціс. Спалучаючы тэарэтычныя канцэпты культуры памяці і нацыяналізму, ён паспрабаваў вызначыць тэматыку і метады даследавання шматкультурнага горада як месца памяці розных народаў на прыкладзе Вільні. Семінар "Вільня як месца памяці многіх народаў", які адбыўся ў Вільні ў траўні 2008 г., быў першай спробай практычнай верыфікацыі прапанаваных падыходаў[3].

У цэнтры ўвагі апынуліся прапанаваныя А.Нікжэнтайцісам паняцці "нацыянальныя сімвалы" і "культурныя знакі". Паводле даследчыка, менавіта існаванне нацыянальных сімвалаў, якія абапіраюцца на веру і эмоцыі, ператварае горад, створаны рознымі народамі, ва ўласнасць адной нацыі ці этнаканфесійнай групы. Адначасова яны ж дапамагаюць выявіць стасунак да шматкультурнага гораду розных групаў.

Нацыянальны сімвал горада блізкі да паняцця "месца памяці". Сэнс, які надаецца пэўнаму месцу, будынку, падзеі і г.д., інтэрпрэтуецца праз нацыянальную прызму. У выніку аб'ект інтэрпрэтацыі становіцца для ўсіх зразумелым. Ён не патрабуе тлумачэння, набывае вусную або пісьмовую традыцыю, трапляе ў фальклор той ці іншай групы. Нацыянальны сімвал таксама з'яўляецца своеасаблівым культавым аб'ектам. Дзякуючы набытаму нацыянальнаму значэнню адбываецца пэўная сакралізацыя сімвала. Ён можа ператварыцца ў свайго роду "святое месца"[4]. Гэты працэс вельмі важны для пошуку нацыянальнага сімвала ў шматкультурным горадзе.

На згаданым семінары ў якасці нацыянальных сімвалаў Вільні найчасцей фігуравалі для літоўцаў – *Aušros vartai* (Вострая Брама), замак Гедыміна і магіла Ёнаса Басанавічуса на Росах, для палякаў – *Wostra Brama*, а таксама пахаванне сэрца Юзафа Пілсудскага ў магіле маці на Росах, для беларусаў – Францішак Скарына, Кастусь Каліноўскі і сімвалічныя магілы братоў Луцкевічаў на Росах, для габрэяў – Панерайскі мемарыяльны комплекс, магіла Гаона (Шніпішкі) і Вялікая Віленская сінагога.

Аднак, вышэй пералічаныя якасці характэрныя для нацыянальнага сімвала толькі ў ідэальным варыянце. У канкрэтна-гістарычных даследаваннях часта ўзнікае праблема адрознення "нацыянальнага сімвала" ад

“культурнага знака”. Паводле А.Нікжэнтайціса, пад апошнім трэба разумець іншую ментальную катэгорыю, якая таксама набывае сімвалічны характар, але ў адрозненні ад “нацыянальнага сімвала” мае слабейшы эмацыянальны зарад[5].

Гродна – шматкультурны і шматканфесійны горад. Тут не складана заўважыць сляды культуры і гісторыі беларусаў, палякаў, габрэяў, рускіх, літоўцаў ды інш. Яны сталі асабліва відавочнымі ў апошняе 20-годдзе. Гэта быў час значных пераменаў у памяці горада і памяці пра горад. Хоць імкненне афіцыйнага Мінску захаваць у публічнай сферы дамінаванне спадчыны савецкага часу, безумоўна, стрымлівала працэс трансфармацыі памяці. У выніку ў сучасным Гродне даволі цяжка выявіць нацыянальныя сімвалы альбо месцы памяці роўныя па значнасці, напр., замку Гедыміна або Вострай Браме ў Вільні. Тым не менш і тут можна вылучыць шэраг месцаў памяці, якія маюць пэўнае сімвалічнае значэнне для розных нацыянальных супольнасцяў горада.

*Якую наогул трансфармацыю перажылі месцы памяці Гродна ў апошняе 20-годдзе? Ці можна казаць пра пэўны нацыянальны падзел гродзенскай мінуўшчыны? Ці спрыяюць перамены разуменню горада як шматкультурнага і шматканфесійнага феномена?*

Асноўнымі крыніцамі інфармацыі для адказу на гэтыя пытанні сталі матэрыялы інтэрнет-рэсурсаў і перыядычнага друку, турыстычныя выданні, а таксама размовы з экскурсаводамі, папулярныя выданні па гісторыі горада і г.д.

Аналіз пералічаных матэрыялаў дазваляе сцвярджаць, што **беларускія месцы** памяці сучаснага Гродна звязаныя пераважна з пачаткамі гісторыі горада (Городен/Горадня/Гародня) і перыядам Вялікага княства Літоўскага, а таксама эпохай нацыяналізмаў і развіцця беларускай культуры ў XX ст.

Невыпадкова ў якасці беларускіх месцаў памяці горада сёння фігуруюць яго гістарычныя варыянты назвы: *Гародня* (больш за 440 тыс. згадак у інтэрнэце), *Горадня* (больш за 160 тыс. згадак[6]). Дарэчы, назва *Горадня* ўпершыню публічна прагучала на старонках газеты “Наша Ніва” ў 1915 г. у артыкуле Вацлава Ластоўскага[7].

Выразныя рысы беларускага месца памяці набыла славутая Каложская ці Барыса-Глебская царква XII ст. На яе прыкладзе можна ўбачыць асноўныя вехі працэсу трансфармацыі месцаў памяці ў постсавецкім горадзе.

У 1948 г. Каложская царква была зачыненая. Храм перадалі Гісторыка-археалагічнаму музею. Побач зрабілі парк для адпачынку, які, аднак, папулярнасці сярод гараджанаў не набыў. У 1977 г. будынак царквы, што паступова руйнаваўся, быў перададзены Беларускаму Дзяржаўнаму музею гісторыі рэлігіі і атэізму. Існавалі планы па адкрыццю ў ім філіяла музея, аднак, гэта не было зроблена. На пачатку 80-х гг. на Каложанскім узвышшы былі праведзеныя археалагічныя даследаванні, а ў храме адбыліся пэўныя рэстаўрацыйныя працы. Нягледзячы на пастаянную закрытасць храма, ён тым не менш актыўна прысутнічаў у памяці жыхароў Гродна. Сюды рэ-

гулярна прыходзілі экскурсіі, у т.л. шматлікіх турыстаў з розных куткоў СССР. У 1991 г. па просьбе тагачаснага Мітрапаліта Мінскага і Гродзенскага Філарэта храм быў вернуты Царкве.

Барыса-Глебская царква даследчыкамі перыяду СССР/БССР адназначна трактавалася як цудоўны "ўзор архітэктуры Старажытнарускай дзяржавы". Менавіта так характарызавалі яе гродзенскі гісторык Якаў Мараш у 1964 г.[8] і доктар архітэктуры Уладзімір Чантурыя ў 1983 г. Праўда, апошні таксама адзначаў існаванне ў Гродне "самастойнай архітэктурна-мастацкай школы"[9].

Афіцыйная трактоўка не давала ніякіх падставаў для ператварэння храма ў беларускае месца памяці. І тым не менш ён ужо тады набываў пэўныя рысы такога месца, дзякуючы літаратарам. Уладзімір Караткевіч у Прадмове да кнігі "Памяць зямлі беларускай" (Мінск, 1979), згадваючы беларускае дойлідства, першым яго помнікам назваў "вясёлку Каложы"... Яшчэ раней у 1967 г. быў апублікаваны ягоны верш "Каложа, туга мая светлая!.." з шчымлівымі радкамі: ...Ўся адзіная, ўся са святла, / *З небам, з Нёманам, з зямлёю злітая, / З сэрцам нашым – Каложа ўзрасла...*

Аднак, толькі ў постсавецкі перыяд Каложа, сапраўды, ператварылася ў беларускае месца памяці. Вельмі важнай падзеяй стала адкрыццё ў 1990 г. каля храма помніка "Пагоня на Грунвальд". Помнік асвяцілі каталіцкі, праваслаўны і грэка-каталіцкі святары, на адкрыцці прысутнічалі ўдзельнікі навуковай канферэнцыі "Вітаўт Вялікі і яго эпоха" – гісторыкі з Беларусі, Літвы і Польшчы. Праз нейкі час экскурсаводы каля гэтага помніка ўжо казалі пра тое, што менавіта тут, каля Каложы праходзілі войскі ВКЛ, якія ішлі на Грунвальдскія пагоркі...

У 90-я гг. Калажанскае ўзвышша разам з помнікам "Пагоні на Грунвальд" сталася месцам святкавання Дня беларускай вайсковай славы, які штогод адзначаецца 8 верасня ў памяць пра пераможную Аршанскую бітву 1514 г. Журналіст Міхась Карневіч у 1998 г. з нагоды гэтага свята пісаў пра некалькі тысяч чалавек, якія прыйшлі да Каложы, да помніка "Пагоні", каб ушанаваць зямлю, дзе "сотні гадоў таму благаслаўлялі воінаў, якія ішлі абараняць нашую Радзіму ад захопнікаў"[10].

У гэты ж час, дзякуючы гродзенскім гісторыкам, пашыраюцца міф пра магілу славутага ваяра Давыда Гарадзенскага каля Барыса-Глебскай царквы. Прафесар Вячаслаў Швед у артыкуле "Гудзяць гарадзенскія трубы" распавёў чытачам пра пахаванне Давыда Гарадзенскага "каля царквы Барыса і Глеба ў высокім кургане, на якім зараз шуміць велізарны клён, а Нёман, што цячэ ў падножжа гары гамоніць з князем Давыдам"[11].

Пазней (2003) паблізу Каложы быў усталяваны вялізны камень з надпісам: "Давыду Гарадзенскаму (каля 1287 – 1326 гг.) – славутаму абаронцу Гродна ад крыжацкай навалы. Ад удзячных нашчадкаў"[12]. Ужо згаданы Міхась Карневіч наступным чынам адрэагаваў на гэта на старонках "Біржы Інфармацыі": "Побач з Каложскай царквой ужо паставілі камень на княжа-

скай магіле... Нагадаю, што князь Давыд Гарадзенскі быў адзін з нямногіх, хто хадзіў з войскам паходамі на крыжакоў. Крыжацкія ваеначальнікі баяліся князя і падкупілі здрадніка, каб ён яго забіў. Так і здарылася. Воіны прынеслі яго цела на руках з Мазураў і пахавалі побач з Каложай"[13]. У выніку большасць цікаўных да гісторыі гродзенцаў сёння дакладна ведаюць, дзе пахаваны славуты беларускі ваяр Давыд Гарадзенскі.



***Давыд Гарадзенскі. Мастак З.Іваноўскі***

Помнік "Пагоня на Грунвальд" каля Каложы таксама стаўся месцам, дзе штогод на Дзень Волі ўскладаюцца кветкі ў памяць тых, хто адстойваў незалежнасць Беларусі.

Пэўнай "беларусізацыі" Каложы моцна паспрыялі намаганні грамадскасці захаваць гістарычную унікальнасць Храма, не дапусціць рэалізацыі навукова не абгрунтаваных планаў свецкай і духоўнай уладаў па "рэканструкцыі" Каложы.

У 1998 г. увагу гродзенцаў прыцягнула эсэ Алеся Краўцэвіча на старонках газеты "Біржа Інфармацыі" "Храм радасці або Божа, уратуй Каложу"[14]. Аўтар прапанаваў пачаць збор сродкаў на рэстаўрацыю Храма і ўмацаванне Калажанскага ўзвышша, што выклікала шматлікія станоўчыя водгукі.

Планы ўладаў па "рэканструкцыі" Барыса-Глебскай царквы былі агу-

чаныя яшчэ ў 2006 г. Першая крытычная рэакцыя на іх з’явілася на сайце “Архітэктура Гродна. Гісторыя і сучаснасць” (http://harodnia.com). Між іншым звярталася ўвага, што прапанаваны праект (аўтар Генадзь Лаўрэцкі), які не прайшоў належнай экспертызы спецыялістаў і не быў абмеркаваны зацікаўленай грамадскасцю горада, ставіць пад пагрозу само існаванне Храма як унікальнага помніка гісторыі і культуры Беларусі[15].

23 верасня 2010 г. адбыліся Першыя грамадскія слуханні “Рэканструкцыя Каложы: за ці супраць?” Публічнае абмеркаванне праекту рэканструкцыі Каложы з удзелам вядомых беларускіх спецыялістаў і аўтара праекту выклікала вялікую зацікаўленасць і мела шырокі розгалас. Стэнаграма абмеркавання была апублікаваная на старонках выпуску V альманаха “Горад святога Губерта” (Рэд. А.Вашкевіч і А.Смалянчук, Мінск: Зміцер Колас, 2011). Гэта быў безумоўны поспех людзей, якія выступалі ў абарону каштоўнасці беларускай гісторыі і культуры. Працы па “рэканструкцыі” Каложы былі адкладзеныя.

Барацьба супраць “рэканструкцыі” спрыяла з’яўленню ў вобразе царквы выразных рысаў “беларускага Храма”. Значную ролю таксама адыгрылі дадатковыя набажэнствы па-беларуску ў першую нядзелю кожнага месяца і дзейнасць “Каложскага брацтва пры Свята-Барыса-Глебскай царкве Гродна” з яго беларускамоўным варыянтам сайта (http://kalozha.by/index.php/be/).

У гэтым працэсе трансфармацыі Каложы ад “узору старажытнарускага дойлідства” да “беларускага Храма” рашаючую роля адыграла актыўнасць грамадскасці, якая адлюстравалася ў дзейнасці згаданага сайта “Архітэктура Гродна. Гісторыя і сучаснасць”, а таксама ў шматлікіх беларускіх грамадскіх і культурных акцыях, якія адбываліся на Калажанскім узвышшы, і ператварылі гэтае месца ў сапраўдны месца беларускай памяці. Да таго ж Барыса-Глебскую царкву беларусам няма з кім дзяліць...

Якасць беларускага месца памяці таксама паступова набывае Стары каралеўскі замак XIV ст. як замак Вялікага князя Вітаўта, які, пачынаючы яшчэ з кніг Міколы Ермаловіча, для многіх стаўся “абаронцам беларускай дзяржаўнасці”. З гэтым жа замкам часоў ужо Вялікага князя Літоўскага і караля Польскага Стэфана Баторыя (канец XVI ст.) звязаная ідэя Гродна – як сталіцы. На гэтую ідэю выразна працуе памяць пра горад як сталіцу ўдзельнага Гарадзенскага княства, рэзідэнцыю князя Вітаўта, горад сеймаў Рэчы Паспалітай у канцы XVII – XVIII ст., а таксама як “сталіцу” Беларускай Народнай рэспублікі ў лістападзе 1918 г. – красавіку 1919 г.

Апошні “сталічны матыў” вельмі часта гучаў на пачатку 90-х гг. XX ст. У прыватнасці, гродзенская газета “Пагоня” (рэдактар С.Астраўцоў), якая пачала выходзіць напрыканцы 1992 г., гэтаму эпізоду айчыннай гісторыі прысвяціла два адмысловыя нумары, што выдаваліся да Дня Волі. У № 2 за 1993 г. публікаваліся дакументы ўраду БНР у Гродне, а праз год (№ 8 за 1994 г.) Вітаўт Руднік падрыхтаваў вялікі матэрыял пад назвай “Рада БНР у Горадні”.

Выразная рамантычная туга пра сталічны статус Гродна надзвычай важная менавіта для беларускай супольнасці горада. Яна не актуальная для мясцовых палякаў і літоўцаў, якія шануюць сучасныя сталіцы Польшчы і Літвы, і выклікае нават абурэнне з боку гродзенцаў прарасійскай і прасавецкай арыентацыі.

Вяртаючыся да Старога замка (як замка Вітаўта), варта прыгадаць кнігі Алеся Краўцэвіча. У прыватнасці, гэта кніга для дзяцей “Гродзенскі замак” (Мінск: Юнацтва, 1993) з ілюстрацыямі Ф.Селязнёва і С.Харэўскага, якая напачатку 90-х карысталася вялікай папулярнасцю не толькі сярод школьнікаў, а таксама пазнейшае выданне “Рыцары і дойліды Гародні” (Гародня-Вроцлаў, 2009). Яго ілюстраваў адзін з лепшых кніжных графікаў Беларусі Пётр Татарнікаў.

Значны патэнцыял беларускага месца памяці ўтрымлівае таксама “Фара Вітаўта” (касцёл Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі), узарваная па загаду гарадскіх уладаў у лістападзе 1961 г. Варта прыгадаць ініцыятыву 90-х гг. наконт яе адбудовы менавіта як беларускага храма. А.Краўцэвіч у тагачасных дыскусіях параўноўваў яго мажлівую адбудову з завяршэннем будаўніцтва касцёла св. Віта ў Празе ў 1920-я гг., якое сталася сапраўдным яднаннем чэшскай нацыі.

У 2002 г. у выпуску I альманаха “Горад святога Губерта” (рэд. А.Смалянчук) былі апублікаваныя вусныя ўспаміны пра знішчэнне касцёла. Яны запісваліся на працягу года вучнямі нядзельнай гісторыка-краязнаўчай школы пры грамадскім аб’яднанні “Ратуша” (кіраўнік А.Мілінкевіч). “Ратуша” адыграла прыкметную ролю ў тых “баях за гісторыю”, якія адбываліся ў горадзе і краіне. На працягу некалькіх гадоў яна з’яўлялася фактычным цэнтрам культурнага жыцця беларускага горада.

Да ідэі аднаўлення Храма грамадскасць вярнулася ўлетку 2007 г. Удзельнікі “круглага стала” “Каму выгодна руйнаванне Горадні?” прапанавалі гарадскім уладам аднавіць “Фару Вітаўта”, а таксама знішчаныя ў пасляваенныя гады фрагменты горадабудаўнічага комплексу вул. Замкавая і Савецкая[16].

Эпоха Рэчы Паспалітай не займае належнага месца ў беларускай нацыянальнай памяці. У Гродне пра яе найбольш нагадвае постаць вядомага рэфарматара каралеўскага старасты Антонія Тызэнгаўза (1733-1785), які сваёй надзвычайнай актыўнасцю надаў другое жыццё гораду, моцна знішчанаму ў войнах XVII і XVIII стст. Варта адзначыць, што асоба Тызэнгаўза не набыла ў памяці гродзенцаў нейкай нацыянальнай афарбоўкі. У аднолькавай меры яго дзейнасцю ганарацца ўсе жыхары, незалежна ад нацыянальнаці і канфесіі. У пэўным сэнсе гэтая постаць яднае гродзенцаў, нагадвае ім пра адзінства гарадской гісторыі і пра штучнасць яе нацыянальнага падзелу.

Помнік Антонію Тызэнгаўзу знаходзіцца ў Фарным касцёле, і не ўсе жыхары горада нават ведаюць пра яго. Аднак, у апошнія гады гісторыя

рэформаў Тызэнгаўза набыла “вулічную актуалізацыю” дзякуючы двум “безназоўным” скульптурам, якія з’явіліся на тэрыторыі парка імя Ж.-Э. Жылібера. Гэта “Грамадзянін XVIII ст.” (скульптар У.Панцелееў) і “Дойлід Гарадніцы” (скульптар А.Анціпенка). Насуперак уладам, якія пабаяліся персаніфікацыі гэтых помнікаў, цікаўныя да ўласнай гісторыі гродзенцы называюць іх імёнамі двух славутых дзеячоў з атачэння А.Тызенгаўза, адпаведна батаніка Жана-Эмануэля Жылібера і дойліда Джузэпе Сака.

Выразнымі беларускімі месцамі памяці Гродна з’яўляюцца постаці Васіля Быкава (1924-2003) і Максіма Багдановіча (1891-1917). Красамоўна выглядае пашыраны ў інтэрнэце слоган: “Гродна – горад Быкава”. У прыватнасці, пад такім загалоўкам у чэрвені 2011 г. на вядомым гродзенскім блогу S13 з’явілася заметка, якая паведамляла, што ў дзень 87-годдзя з дня нараджэння пісьменніка каля будынкаў, дзе ў розныя часы ён жыў у Гродне, з’явіліся імправізаваныя шыльды. Аўтар лічыў гэта “добрым напамінам пра тое, што наш горад назаўжды звязаны лёсам з жыццём і творчасцю класіка сусветнай літаратуры Васіля Уладзіміравіча Быкава” і выказваў надзею, што калісьці па вуліцах Вялікай Траецкай, Парыжскай Камуны і Свярдлова напэўна з’явяцца сапраўдныя памятныя дошкі[17]. Безумоўна, важным чыннікам таксама з’яўляецца стварэнне і існаванне ў горадзе Музея, прысвечанага В.Быкаву.



***Пісьменнік Васіль Быкаў***

Яшчэ больш важную ролю адыграла музеефікацыя памяці пра Максіма Багдановіча. Менавіта стварэнне музея паэта разам з грамадскай і культурнай актыўнасцю яго стваральнікаў (у першую чаргу паэткі Дануты Бічэль) стала рашаючым фактарам ператварэння імя М.Багдановіча ў месца беларускай памяці Гродна.

Музей быў адчынены ў 1982 г., і да 1998 г. (да звальнення Д.Бічэль з пасады дырэктара) ён быў адным з цэнтраў беларускага культурнага жыцця ў горадзе. Данута Бічэль стварала музей, збірала вакол яго людзей і як пазней напісаў Уладзімір Арлоў, “будавала сваю “вёску”, адкрытую для кантактаваньня аднадумцаў”[18]. Мастакі дарылі свае працы, пісьменнікі – кнігі, гісторыкі дзяліліся рарытэтнымі матэрыяламі і распавядалі пра ўласныя даследаванні. У музеі нават узнік дзіцячы гурток “Вянок”. Тут ставілі спектаклі, пісалі вершы, малявалі, стваралі ўласны літаратурны рукапісны альманах. Суполка імя Багдановіча пры музеі выдавала газету “Рэанімова”. Гэтай актыўнасці моцна паспрыяла тое, што ў 1995 г. музей перастаў быць філіяй Абласнога гісторыка-археалагічнага музея і стаўся цалкам самастойным.

Убаку ад “беларусізацыі” памяці пра Гродна пакуль засталася постаць Кастуся Каліноўскага (1838-1864), барацьба якога была непарыўна звязаная з горадам на Нёмане. У 1988 г. тут адбылася даволі прадстаўнічая канферэнцыя, вынікі якой прымусілі гарадскія ўлады прыняць рашэнне пра ўстаноўку ў горадзе помніка “дыктатару Літвы”. Пра гэтае рашэнне потым “забыліся”. Толькі ў траўні 2012 г. з’явіўся невялікі даведнік (буклет) па мясцінах Гродна, што непасрэдна звязаныя з паўстаннем і асобай Каліноўскага[19]. Але гэта адбылося ўжо па ініцыятыве грамадскасці.

Варта адзначыць, што трансфармацыя месцаў памяці постсавецкага горада ў беларускім накірунку толькі на пачатку 90-х гг. мела пэўную падтрымку з боку мясцовых і рэспубліканскіх уладаў. Пасля 1995 г. сітуацыя істотна змянілася. Сёння толькі грамадзянская пазіцыя мясцовай інтэлігенцыі і актыўнасць беларускай моладзі спрыяюць фармаванню беларускіх месцаў памяці. Але нават у гэтых умовах беларускі месцы з’яўляюцца найбольш запатрабаванымі ў горадзе і маюць вялікі патэнцыял для паступовага ператварэння ў сапраўдныя нацыянальныя сімвалы.

У гэтым працэсе вельмі важную ролю адыгрываюць традыцыйныя (з 2005 г.) *Дні святога Губерта*. Менавіта з ім даследчыкі, звычайна, звязваюць выяву аленя з крыжом паміж рагамі на гербе Гродна часоў Магдэбургскага права. *Дні* адзначаюцца на пачатку лістапада шэрагам беларускіх культурніцкіх імпрэзаў з гістарычным ухілам, і карыстаюцца папулярнасцю. Таксама варта згадаць пра альманах “Горад святога Губерта” (рэд. А.Смалянчук), які дае магчымасць публічна выказвацца тым прадстаўнікам мясцовай інтэлігенцыі, якія абараняюць гісторыка-культурную спадчыну горада ад бяздумнай чыноўнай “рэканструкцыі”.



*Вялікі князь Літоўскі і кароль Польскі Стэфан Баторы*

Красамоўным прыкладам з’яўляецца грамадскае ўспрыняцце скульптуры “Пакроў Пресвятой Багародзіцы” каля кафедральнага Пакроўскага сабора (скульптар У.Панцелеў). Амаль адразу пасля яе ўстаноўкі гродзенцы пачалі казаць пра пастаўлены ў горадзе “помнік Еўфрасінні Полацкай”.

**Польскія месцы памяці** Гродна звязаныя пераважна з эпохай Рэчы Паспалітай, развіццём польскай культуры ў найноўшы час і палітычнай гісторыяй XX ст. Сярод найбольш значных, безумоўна, Стары каралеўскі замак як замак караля Стэфана Баторыя (канец XVI ст.).

У гэтым выпадку можна казаць пра пэўнае вяртанне традыцыі. Справа ў тым, што ў міжваенны час кароль Стэфан Баторы быў найбольш папулярнай гістарычнай постаццю для гродзенцаў. Горад часта называлі “gródem Batorego”, а Стары Замак – “Batorowym zamkiem”. Ужо ў 1919 г. цэнтральная плошча атрымала яго імя. У лістападзе 1933 г. у горадзе надзвычай урачыста (з удзелам прэзідэнта Ігнацыя Масціцкага) адзначалі 400-годдзе нараджэння Ст.Баторыя, а праз тры гады – 350-годдзе яго смерці[20].

Таксама да польскіх месцаў памяці можна аднесці Новы каралеўскі замак першай паловы XVIII ст. Менавіта там адбылося гістарычнае паседжанне сейма, якое моўчкі зацвердзіла другі падзел Рэчы Паспалітай. Пазней Замак стаў рэзідэнцыяй вялікага князя Літоўскага і караля Польскага Станіслава Аўгуста Панятоўскага (1795-1797), які прыехаў сюды ўжо з прыстаўкай *экс*. Гэты апошні эпізод у гісторыі Гродна як “каралеўскага горада” таксама вельмі прыцягальны для польскай супольнасці[21]. Сюды падчас паўстання 1794 г. прыязджаў Тадэвуш Касцюшка (1746-1817), што ўшанавана памятнай шыльдай на беларускай мове каля ўваходу ў Новы замак. Дарэчы, тая папулярнасць, якую набыла постаць Тадэвуша Касцюшкі ў беларускай літаратуры, сведчыць пра яе ператварэнне таксама ў беларускае месца памяці. Праўда, у Гродне гэты працэс не выглядае відавочным.

Аналіз польскіх месцаў памяці сведчыць пра тое, што Гродна паступова ўпісваецца ў польскі мартыролаг. Вось, як характарызаваў ягоную ролю напрыканцы XVIII ст. на старонках сайта Саюза палякаў Беларусі Юзаф Пажэцкі: "Найсмутнейшыя падзеі апошніх гадоў Рэчы Паспалітай разыграліся ў Гродне. Менавіта тут Таргавіцкая канфедэрацыя, якая была зброяй у руках імператрыцы Расіі Кацярыны II, адмяніла ўсе рашэнні Вялікага сейма разам з адменай векапомнай Канстытуцыі 3 траўня. Уведзеныя ў краіну пры дапамозе таргавічан расійскія войскі ў ліпені занял Гродна. У кастрычніку таго ж года з Берасця ў Гродна была пераведзеная сядзіба Таргавіцкай канфедэрацыі" і г.д.[22]

Патэнцыял польскіх месцаў памяці ўтрымліваюць гродзенскія касцёлы (Фарны ці Паезуіцкі, Францысканскі, Брыгіцкі і Бернардынскі), збудаваныя ў XVII–XVIII стст. Кожны з іх апроч непасрэдных канфесійных функцый выконвае яшчэ ролю пэўнага памятнага месца, нагадвае вернікам пра славутыя постаці і падзеі польскай гісторыі. Значнае месца ў гэтым "канфесійным" ушанаванні нацыянальнай памяці займаюць падзеі Другой сусветнай вайны. У прыватнасці, у Фарным касцёле прыцягвае ўвагу шыльда памяці забітым харцэрам, якія абаранялі Гродна ў верасні 1939 г. пад камандаваннем Брунона Глябовіча.

Важным месцам польскай памяці Гродна з'яўляюцца старыя каталіцкія могілкі, якія яшчэ называюць *Фарнымі*, заснаваныя ў 1792 г. Пасля Росаў у Вільні і Лычакаўскіх могілак у Львове яны з'яўляюцца трэцяй польскай некраполіяй на ўсходзе былой Рэчы Паспалітай.



***Пісьменніца Эліза Ажэшка***

На гэтых могілках пахаваная славутая польская пісьменніца Эліза Ажэшкі (1841-1910), постаць якой непарыўна звязаная з гісторыяй горада на Нёмане ў апошнія дзесяцігоддзі Расійскай імперыі.“Малодшая сястра Адама Міцкевіча”, “гродзенская самотніца, стражнічка крэсаў”, “духовая маці ўсіх бедных, змеценых у жмені лёсу, усіх прыніжаных і прыгнечаных”,“каралева польскай прозы і пакутлівай праўды” (Ф.Багушэвіч), – так пра яе казалі сучаснікі, а пазней і даследчыкі. Аповесць “Над Нёманам” – адзін з шэдэўраў польскай літаратуры.

У Гродне распачалася яе біяграфія як славутай пісьменніцы. Але вялікая павага і любоў, якой яна была тут аточаная, не ў меншай ступені абумоўленая той яе актыўнай грамадскай дзейнасцю і  дапамогай, якую пісьменніца аказала ў 1885 г. ахвярам жахлівага гродзенскага пажару. Яе пахаванне (18 траўня 1910 г.) ператварылася ў дэманстрацыю любові гродзенцаў.

Адным з першых мэтанакіравана займаўся захаваннем памяці пра Э.Ажэшку заснавальнік Музея ў Гродне Юзаф Ядкоўскі. У артыкуле “Pamiątki po Elizie Orzeszkowej w Grodnie”[23] (1929) ён паспрабаваў аднавіць усе гродзенскія адрасы, звязаныя з яе жыццём і дзейнасцю. У міжваенны час ператварэнню пісьменніцы ў выразнае польскае месца памяці горада спрыяла наданне вуліцы з яе апошнім адрасам імя Элізы Ажэшкі, устаноўка помніка ў парку ў цэнтры горада ў 1929 г. (скульптар Рамуальд Зэрых), а таксама ўвядзенне Літаратурнай прэміі яе імя. У 1936 г. прэмія была ўручаная прафесару Універсітэта Стэфана Баторыя (Вільня) вядомаму літаратуразнаўцу Мар’яну Здзяхоўскаму[24].

Пасля вайны савецкая ўлада не адразу згадзілася на захаванне памяці пра пісьменніцу. Толькі ў 1949 г. дазволілі паўторна ўстанавіць помнік ужо на вуліцы Ажэшкі. У 1958 г. на сцяне яе апошняга дому з’явілася шыльда: “Тут з 1894 па май 1910 г. жыла выдатная польская пісьменніца дэмакратка Эліза Ажэшка”.

Менавіта “дэмакратызм” пісьменніцы актыўна прапагандаваўся ўладамі. Л.Аржаева ў нарысе гісторыі Гродна (1964) характарызавала яе як таленавітую польскую пісьменніцу, якая выступала супраць сацыяльнай несправядлівасці, коснасці і застою, сцвярджала, што творы Ажэшкі “прасякнутыя любоўю да працоўнага народу”, падкрэслівала яе “шматлікія кантакты з рускімі пісьменнікамі” і павагу да рускай культуры[25]. Такі стандартны “савецкі набор” якасцяў вядомага літаратара...

Значна больш увагі і пашаны атрымала пісьменніца ўжо пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі. І не толькі з боку мясцовай польскай супольнасці. У гэты перыяд яе творы часта перакладаліся на беларускую мову, а постаць сталася часткай беларускай гістарычнай тапаграфіі, прычым асаблівая ўвага надавалася кантактам “пані Элізы” з Францішкам Багушэвічам. У 2001 г. у “Доме Ажэшкі”, дзе зараз філіял Абласной бібліятэкі, быў адкрыты мемарыяльны пакой пісьменніцы. Перыядычна гасцей збіраюць “Літаратурныя

чацвяргі” і літаратурны салон “У пані Элізы”. Постаць пісьменніцы сёння таксама мае пэўныя якасці беларускага месца памяці.

Тым не менш увага да пісьменніцы з боку польскай грамадскасці значна больш відавочная. Сёння “Дом Ажэшкі”[1] і яе магіла – абавязковыя пункты наведвання турыстаў з Польшчы.

Пэўным польскім месцам памяці Гродна з’яўляецца ўжо згаданая постаць гісторыка і археолага, стваральніка Музея Юзафа Ядкоўскага (1890-1950). Яго адданасць справе вывучэння мінулага горада і апантанасць у абароне ягоных помнікаў стала ўзорам для многіх даследчыкаў. У міжваенныя гады, напоўненыя нацыянальнымі і палітычнымі канфліктамі, ён імкнуўся захаваць навуковую аб’ектыўнасць. Якраз таму ўвосень 2012 г. па ініцыятыве прадстаўнікоў беларускіх грамадскіх арганізацый была ўведзена Узнагарода імя Юзафа Ядкоўскага за вялікі ўнёсак у вывучэнне і папулярызацыю гісторыі Гродна, дзейнасць па захаванню яго гісторыка-культурнай спадчыны. Першым лаўрэатамі Узнагароды сталі вядомы краязнаўца Алесь Госцеў і гісторык Таццяна Касатая[26].

Відавочна, што і ў выпадку Юзафа Ядкоўскага мы зноў сустракаемся з феноменам пэўнага інтэгральнага месца памяці, дзе нацыянальны чыннік перастае адыгрываць прынцыпова важную ролю, і на першы план выходзіць яго значэнне для агульнай памяці горада.

Вяртаючыся да *Фарных* могілак, трэба заўважыць, што асаблівае значэнне для іх паступовага ператварэння ў польскае месца памяці мела аднаўленне магілаў польскіх салдат перыяду савецка-польскай вайны, а таксама з’яўленне сімвалічнай магілы Тадэвуша Ясіньскага (1939).

Апошняе дазваляе сцвярджаць, што адным з найбольш выразных польскіх знакаў памяці Гродна з’яўляецца абарона горада ад Чырвонай арміі 20-22 верасня 1939 г. і тыя рэпрэсіі супраць гараджанаў, якімі яна закончылася. Гісторыкі згодныя з тым, што ўвосень 1939 г. падчас савецкай агрэсіі толькі пад Гродна Чырвоная арміі сустрэла годны супраціў. У абароне ўдзельнічала цывільнае насельніцтва, у т.л. атрады харцэраў. Менавіта ў гэтых баях загінуў 13-гадовы Тадэвуш Ясіньскі, смерць якога стала гродзенскай легендай. Распавядаюць, што параненага хлопчыка чырвонаармейцы дротам прывязалі (“распялі”) да танка, які пайшоў у бой.

Памяць пра яго жыве не толькі ў Гродне. Нядаўна ў Вроцлаве з’явіўся “бульвар Тадэвуша Ясіньскага”. Постаць хлопчыка паступова набывае якасці сімвала польскага змагання супраць “Саветаў”. Менавіта Тадэвуш Ясіньскі, як і ўся вераснёвая абарона горада ў 1939 г., мае вялікі патэнцыял для ператварэння ў сапраўдны польскі нацыянальны сімвал Гродна.

---

[1] На самой справе аўтэнтычны будынак быў разабраны падчас “рэканструкцыі” ў 1976. Замест яго з сілікатных блокаў была складзеная дакладная копія дома, якую і назіраюць турысты. Як бачым, сучасная практыка “рэканструкцыі па-гродзенскі” ўжо мае пэўныя традыцыі, якія фармаваліся яшчэ ў савецкія часы.

Але ці толькі польскім сімвалам можа стаць гэтая падзея? Увосень 2009 г. грамадскія арганізацыя “Рух за свабоду” пры ўдзеле Саюза палякаў Беларусі і Беларускага гістарычнага таварыства арганізавалі вечарыну памяці пра трагічныя падзеі восені 1939 г. Многія беларускія выступоўцы ацэньвалі гэтую падзею як “савецкую акупацыю” і казалі пра агульную трагедыю гараджанаў, незалежна ад іх нацыянальнасці і канфесіі. Насуперак савецкім міфам ішла гаворка таксама пра ўдзел беларусаў у змаганні супраць савецкай агрэсіі.

Пра трагедыю савецкага панавання ў горадзе таксама нагадвае Катынскі крыж на Вайсковых могілках (вул. Белуша).

Варта заўважыць, што польскія месцы памяці Гродна добра ўпісваюцца ў мартыролаг польскіх гістарычных стратаў, а гэта можа паўплываць на фармаванне своеасаблівай гістарычнай памяці супольнасці “ў аблозе”.

Да **габрэйскіх месцаў памяці** Гродна належыць Харальная сінагога XIX ст., верагодна, збудаваная на месцы самай старажытнай гродзенскай сінагогі XVI ст., і месца старажытных могілак на беразе Гараднічанкі. У будынку Сінагогі ствараецца Музей гродзенскіх габрэяў.

Агучаная гарадскімі ўладамі ідэя пабудовы ў гэтым месцы яшчэ адной транспартнай артэрыі горада як “дублёра вул. Вялікая Траецкая” ў выпадку актывізацыі грамадскага супрацьстаяння праекту, які пагражае існаванню месцаў габрэйскай памяці, можа толькі ўмацаваць значэнне гэтых аб’ектаў як культурных знакаў.

Пачаткі гісторыі габрэйскай абшчыны ў Гродне многія даследчыкі звязваюць з Вялікім князем Вітаўтам, які нібыта выдаў прывілей габрэйскім гандлярам на валоданне зямлёй у цэнтральнай частцы горада. Аднак, вядома, што тэкст прывілея быў сфальсікаваны ў XVII ст. Тым не менш на ўзроўні легенды “прывілей” працягвае сваё існаванне.

Таксама выразным месцам памяці габрэйскага горада з’яўляецца Галакост у Гродне. Сціплы помнік на вул. Замкавай пазначае былы ўваход у гета № 1 а памятная шыльда паведамляе пра забойства нацыстамі ў перыяд нямецкай акупацыі амаль 30 тыс. гродзенскіх габрэяў. Пра гэтую трагедыю нагадвае таксама помнік на месцы перасыльнага лагера ў Калбасіне.

Невыкарыстаны патэнцыял дляператварэння ў выразнае габрэйскае месца памяці горада захоўвае постаць славутага “Доктара Эсперанта” Людвіка Лазара Заменгофа (1859-1917), стваральніка мовы эсперанта, г.зв. *Lingwe Uniwersala*. У Гродне ён працаваў афтальмолагам з 1893 па 1897 г. У 1991 г. на доме па вул.Кірава, 4 дзе ён жыў, была ўстаноўленая памятная шыльда. На пачатку 90-х гг. двойчы ў Гродне праходзілі міжнародныя канферэнцыі эсперантыстаў. У 1996 г. адна з новых вуліцаў горада атрымала яго імя. Але потым пра Л.Заменгофа забыліся, і ў сучасным горадзе гэта напоўзабытая гістарычная постаць.

Толькі назва вуліцы нагадвае пра гродзенскую “прапіску” славутага паэта-лірыка, класіка габрэйскай літаратуры Лейбы Найдуса (1890-1918), які жыў у Гродне з 1911 г. Тут ён пісаў свае кнігі, займаўся рэдакцыйнай працай. На жаль, большасці сучасных жыхароў горада гэтае імя нічога не гаворыць.

Таксама складана сёння адшукаць які-небудзь след рабі Нахума Каплана (Нахума Гроднера), які ў пазамінулым стагоддзі праславіўся сваёй дабрачыннай дзейнасцю, хоць у гродзенскім турыстычным даведніку 1936 г. ягоная постаць знайшла сваё адлюстраванне. Толькі ў 1990 г., калі пачалося аднаўленне габрэйскага жыцця, яго імя вярнулася з нябыту. У горадзе быў адчынены Габрэйскі дабрачынны цэнтр “Хэсед Нохум”.

Габрэйскія месцы памяці слаба заўважальныя ў тапаграфіі памяці горада, бо грамадская актыўнасць па іх стварэнню і папулярызацыі мінімалізаваная.

У падобнай сітуацыі апынуліся і **літоўская спадчына** Гродна. Амаль адзіным літоўскім месцам памяці з’яўляецца Стары замак як замак вялікага князя Вітаўта. Паміж Старым і Новым замкамі ў другой палове 90-х гг. XX ст. быў усталяваны драўляны помнік Вітаўту з надпісам на двух мовах: *Вітаўт Вялікі. 1392. Vytautas Didysis*. Гэты помнік быў зроблены і падараваны Гісторыка-археалагічнаму музею літоўскім скульптарам Робертасам Ушкунасам. Ён з’яўляецца дакладнай копіяй помніка вялікаму князю, які раней быў усталяваны каля замка ў Троках. Падворак Старога замка – гэта традыцыйнае месца прэзентацыі літоўскай культуры і гісторыі падчас Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур, які раз у два гады праходзіць у Гродне.

З іншага можна прыгадаць толькі літоўскі варыянт назвы горада *Gardinas*, спробу балцкай этымалогіі назвы (*gardas* = агароджа), ды яшчэ згадкі літоўскіх гісторыкаў пра тое, што Гродна быў заснаваны на зямлі яцвягаў.

Пра **рускія месцы памяці** складана пісаць, бо яны існуюць пераважна ў форме “імперскіх” знакаў, звязаных або з перыядам Расійскай імперыі, або з эпохай “савецкай імперыі”. Гэта не здзіўляе, бо іншай Расіі ў гісторыі горада не было.

Памяць імперыя Раманавых у Гродне – гэта, у прыватнасці, надзвычай урачыстае святкаванне ў 2001 г. 200-годдзя заснавання Гродзенскай губерні, помнік генералу Сяргею Ланскому (1814) на старых праваслаўных могілках, шыльда памяці Пятра Сталыпіна (2011), які ў 1902-1903 гг. займаў пасаду губернатара, а таксама настальгія некаторых прадстаўнікоў мясцовай інтэлігенцыі, чыноўнікаў і праваслаўнага духавенства на тэму праваслаўнага Сафійскага сабору ў цэнтры горада і мары пра яго адбудову. Пры гэтым цалкам ігнаруецца той факт, што Сафійскі сабор узнік у выніку гвалтоўнай перабудовы каталіцкай “Фары Вітаўта”.

Відавочна, што для многіх прадстаўнікоў мясцовай рускай супольнасці росквіт Гродна звязаны выключна з часам існавання адпаведнай губерні або вобласці БССР.

Вельмі часта канатацыю “рускага” набываюць **савецкія месцы памяці**. У прыватнасці, гэта помнікі вайскоўцам, загінуўшым у Другую сусветную вайну, якая, паводле савецка-расійскага падыходу па-ранейшаму прачытваецца ў тэкстах помнікаў як “Великая Отечественная война”. Ці варта тлумачыць, што такая трактоўка апошняй вайны цалкам супярэчыць тым падзеям, што адбываліся падчас гэтай вайны ў Гродне, як і ва ўсёй Беларусі?

Горад усё яшчэ жыве па-савецкаму календару. Пасля 1995 г. аднавілася савецкая традыцыя мітынгаў падчас святаў Кастрычніцкай рэвалюцыі, 1 траўня, Дня Перамогі. Але не сакрэт, што большасць дарослых удзельнікаў гэтых святочных мітынгаў прыходзяць туды выключна пад ціскам начальства, а школьнікаў на гэтыя “святы” літаральна “прыганяюць”, і яны, звычайна, нават не ведаюць, чаму да помніка Леніна кладуцца кветкі.

Уласна савецкія месцы памяці становяцца нябачнымі, неіснуючымі. Гэта датычыць нават новых савецкіх месцаў памяці, такіх як, напр., помнік савецкім памежнікам (2006). Красамоўна выглядае лёс помніка савецкаму герою Грамадзянскай вайны Васілю Чапаеву (вул. Міхася Васілька). Яго робіць “бачным” толькі тое, што ён ператварыўся ў месца памяці мясцовай чувашскай супольнасці, прадстаўнікі якой ускладаюць кветкі і г.д.

Можна цалкам пагадзіцца з думкай палітолага Андрэя Казакевіча, які, аналізуючы сімволіку Мінска, заўважыў, што многія савецкія месцы памяці сёння апазнаюцца выключна па падзеях постсавецкай гісторыі[27]. Іншая тэндэнцыя звязаная з тым, што некаторыя беларускія і польскія месцы памяці (напр., “Фара Вітаўта”, Катынскі крыж) сёння сталі памяццю пра савецкія рэпрэсіі як у адносінах да жыхароў горада, так і ягонай гісторыі.

На прыкладзе Гродна можна казаць, што ў адносінах да “савецкага” ў Беларусі назіраецца тая ж самая тэндэнцыя, што і ў нашых заходніх суседзяў. Нават дзяржаўная гістарычная палітыка, якая ўяўляе сабой пэўную мяшанку пастулатаў “заходнерусізму”, савецкай прапаганды і праваслаўнага фанатызму, аказалася не здольнай перашкодзіць гэтаму працэсу.

Пасля распаду СССР і абвяшчэння незалежнасці Беларусі выявілася моцная грамадская патрэба развітання з савецкімі міфамі, якія датычылі мінулага горада і краіны, і фармавання памяці, заснаванай не на камуністычнай ідэалогіі, а на нацыянальных дыскурсах. У горадзе пачалі ўзнікаць беларускія месцы памяці, а таксама адраджацца польскія, габрэйскія, літоўскія ды інш. Адпаведна цалкам абгрунтаванай выглядае характарыстыка працэсу трансфармацыі памяці постсавецкага горада як аналіз нацыянальных месцаў яго памяці.

Аднак, неабходна адзначыць з’яўленне і паступовае пашырэнне свайго роду **інтэгральных месцаў памяці**, якія яднаюць мінулае розных народаў горада. Гэта праявілася ў памяці пра постаці князя Вітаўта/Witolda/Vytautasa, старасты Антонія Тызэнгаўза, кіраўніка паўстання Тадэвуша Касцюшкі, пісьменніцы Элізы Ажэшкі. Гэтую ж рысу можна заўважыць у трактоўках

месца і ролі ў гісторыі горада Старога Замка як замка Вітаўта і Стэфана Баторыя, у адносінах да “Фары Вітаўта” і ідэі яе аднаўлення, і нават у стасунку да падзеяў верасня 1939 г. Вялікі патэнцыял такога інтэгральнага месца памяці ўтрымлівае для гродзенцаў асоба Кастуся Каліноўскага.

Інтэгральныя месцы памяці – гэта сведчанне паступовага пашырэння ўспрыняцця гісторыі шматкультурнага і шматканфесійнага горада як працэсу адзінага для ўсіх яно нацый і канфесій. Магчыма, у гэтым адлюстравалася тэндэнцыя пэўнага адыходу ад нацыянальнага дыскурсу ў гістарычных даследаваннях. Нават у Цэнтральна-Усходняй Еўропе нацыя перастае быць элементам змагання. Яна становіцца рэчаіснасцю, і яе легімітызацыю ўсё часцей шукаюць не ў мінулым, а ў будучым. Гэта адкрывае новыя перспектывы нават для навукоўцаў, перакананых у тым, што гістарычная навука мае нацыянальнасць.

---

[1] Гл., напрыклад, Jan Assmann, Das kulturelle Gedächtnis. Schrift, Erinnerung und politische Identität in frühen Hochkulturen, München 1999 (2 Aufl.); Aleida Assmann, Erinnerungsräume. Formen und Wandlungen des kulturellen Gedächtnisses, München 1999; Ассманн Я. Культурная я память. Письмо, память о прошлом и политическая идентичность в высоких культурах древности. М.: Языки славянской культуры, 2004.

[2] Гл., напрыклад, Франция-память / П. Нора, М. Озуф, Ж. де Пюимеж, М. Винок. - СПб.: Изд-во С.-Петерб. ун-та, 1999, с. 17-50.

[3] Матэрыялы семінару склалі раздзел “Вільня ў памяці народаў рэгіёну” ў гадавіку антрапалагічнай гісторыі “Homo Historicus” за 2009 г. (рэд. А.Ф. Смалянчук, Вільня: ЕГУ, 2010).

[4] Нікжэнтайціс А. Нацыянальны сімвал у шматкультурным горадзе // Homo Historicus. 2009 / Пад рэд. А.Ф.Смаленчука. Вільня: ЕГУ, 2010, с. 306-320.

[5] Тамсама. С. 309.

[6] Рэжым доступу 1.09.2012 г.

[7] Ю.В. [В.Ластоўскі]. Горадня // Наша Ніва. 1915. № 19-20.

[8] Гродно. Исторический очерк. Под ред З.Ю. Капысского и Б.М.Фиха. 2-е испр. и доп. издание. – Мн.: Беларусь, 1964. С. 53 (Цікава, што раздзел, тэкст якога пісаў Я.Н.Мараш называўся “Гродно – феодальный белорусский город”).

[9] Чантурия В.А. Архитектурныя памятники Гродно. Минск: Полымя, 1983. С. 10.

[10] Карневіч М. Свята ўдалося // Біржа Інфармацыі. 1998. № 29.

[11] Швед В.В. Госцеў А.П., Дабрыян А.А. Аповеды з гісторыі горада (Х – сярэдзіна XVI ст). Гродна, 1996. С. 31.

[12] Скульптар Уладзімір Панцелеў, аўтар тэксту Алесь Краўцэвіч.

[13] Біржа Інфармацыі. 2003, № 288.

[14] Тамсама. 1998, № 1.

[15] Б.а. У Каложы чарговы перыяд // http://harodnia.com/a15.php. Рэжым доступу 28.10.2012 г.

[16] Горад святога Губерта. Выпуск III /Рэд. А.Смалянчук. Варшава, 2007. С. 5-8.

[17] Гродна – горад Быкава / http://s13.ru/archives/24315. Рэжым доступу 30.10.2012 г.

[18] Арлоў У. Музей Багдановіча, Горадня // Сто адрасаў свабоды / http://www.svaboda.org/content/ transcript/1880795.html. Рэжым доступу 30.10.2012 г.

[19] Аўдзейчык М. З'явіўся пуцяводнік па мясцінам 1863 г. // http://budzma.org/news/zyaviusya-pucyavodnik-pa-myascinax-1863-h.html. Рэжым доступу 15.10.2012 г.

[20] Milewski J. Stefan Batory w tradycji Grodna 1919-1939 // Наш радавод. Кніга 8. / рэд. Дз. Караў. Гродна-Беласток, 2000. С. 462-467.

[21] Гл., напрыклад, Porzecki J. Ostatni pobyt króla Stanisława Augusta Poniatowskiego w Grodnie. Część II / http://www.zpb.org.pl/node/212. Рэжым доступу 30.10.2012

[22] Porzecki J. Ostatni pobyt króla Stanisława Augusta Poniatowskiego w Grodnie. Część I / http://www.zpb.org.pl/node/198. Рэжым доступу 30.10.2012

[23] http://skarb.khoz.ru/pdf/Jodkowski_1929_Pomiatki_po_Elizie_Orzeszkowej_150-OCR-N.pdf. Рэжым доступу 30.10.2012

[24] Мілеўскі Ян Ежы. Заснаванне і прызанне Літаратурнай прэмі імя Элізы Ажэшкі горада Гародні // Гістарычны альманах. 2012. Том 18. С. 198-113.

[25] Гродно. Исторический очерк. Под ред З.Ю. Капысского и Б.М. Фиха. 2-е испр. и доп. издание. – Мн.: Беларусь, 1964. С. 68.

[26] Першыя дыпломы за папулярызацыю гістарычнай Горадні і абарону яе помнікаў атрымалі краязнавец Алесь Госцеў і гісторык Таццяна Касатая 4 лістапада 2012 г. / http://nn.by/?c=ar&i=83060. Рэжым доступу 6.11.2012 г.

[27] Казакевич А. Символика места: забывание и фрагментация "советского" в ландшафте Минска // Неприкосновенный запас. 2011. № 6 (80).

# Крыніцы

*Віталь Галубовіч,*
*кандыдат гіст. навук (Гродна)*

## Да гісторыі скарбашукальніцтва на Беларусі: прывілей Жыгімонта Вазы (1588) на пошук скарбаў у Гародні і яе ваколіцах

Пошук скарбаў заўжды быў справай прыцягальнай для людзей, апантаных жарсцямі, паколькі далёка не кожны будзе прысвячаць свой вольны час і сродкі на такі “ненадзейны” занятак. Але, як паказвае прыклад знакамітага Генрыха Шлімана, пры пэўным фанатызме можна знайсці нават тое, што здавалася толькі фантазіяй старажытных паэтаў.

У беларусаў сама з’ява “скарбу”, як і паляванне за скарбамі, стала важнай часткай нацыянальнай культуры, увайшла ў фальклор[1]. У пантэоне нашых нацыянальных звышнатуральных істотаў асобнае месца займаў Кладнік – дух, які апекаваўся нязлічонымі багаццямі[2]. Можна прыгадаць цэлы шэраг паданняў пра заклятыя скарбы[3]. Калі ж шуканне скарбаў – занятак для авантурнікаў, то і беларусам можна прыпісаць схільнасці да авантураў. Для гэтага былі і свае падставы, бо шукаць нашым продкам было што, і не толькі міфічную папараць-кветку.

Скарбы сустракаюцца на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Сумарна выяўлена больш 1100 скарбаў, ў тым ліку на абшарах Наднёманскага краю каля 140[4]. На тэрыторыі Гарадзеншчыны зафіксаваныя знаходкі антычных манетаў, а значыць скарбы хавалі ўжо з VI ст.[5] Пра гэта ведаюць прафесійныя археолагі, нумізматы і разнастайныя аматары, як блізкія, так і далёкія ад навукі. Натуральна, што пра схаваныя ў зямлі каштоўнасці здагадваліся і нашы далёкія продкі. Магчыма, дзякуючы гэтым людзям сучасная навука не зрабіла многія сенсацыйныя адкрыцці, а нашы музеі згубілі вартыя ўвагі экспанаты. Страчаныя рэчы вярнуць немагчыма, а вось высветліць, хто і калі перайшоў дарогу навуцы часам дазваляюць гістарычныя крыніцы. Адна з іх і сталася падставай для падрыхтоўкі гэтага матэрыялу.

Некалькі гадоў таму, падчас працы з дакументамі дзяржаўнага архіва Вялікага Княства Літоўскага – Метрыкай – нашу ўвагу прыцягнуў адзін прывілей Жыгімонта Вазы, выдадзены ў Кракаве **8 сакавіка 1588 г.**[6] Назва і змест дакумента перакрочвалі за межы традыцыйных метрычных копій, паколькі датычылася вельмі незвычайнага пытання. Сутнасць справы

заключалася ў тым, што манарх дазваляў нейкаму Мікалаю Дуляцкаму здзяйсняць пошук скарбаў. Тапаграфію пошукаў манарх акрэсліў наступным чынам: “*на грунтах нашых некаторых Гарадзенскіх фальваркаў, а таксама і месцкіх*”. Фактычна дазвол азначаў магчымасць праводзіць даследаванні як ў ваколіцах, так і ў самой Гародні.

Вельмі цікава, што з’яўленне гэтага прывілея супала з выданнем у 1588 г. новай рэдакцыі Статута Вялікага Княства Літоўскага. Відавочна, што Жыгімонт Ваза, падпісваючы прывілей Мікалаю Дуляцкаму, абапіраўся на адпаведныя палажэнні закона. Артыкул 30 “***О найденью скарбу захованого в земли або в яком покладженью***” дзевятага раздзела Статута ўтрымліваў наступную норму:

“*Уставуем: коли бы се трафило кому знайти в земли який скарб: грошии, серебро, золото або што иншое яко се притрафляеть находити, тогды если на своем грунте найдеть, маеть скарб быти, чий грунт, а если бы на чыем иншом знашол, тогды половицу маеть тому дати, на чией земли знашол, а половицу собе всяти. Так теж и на заставной земли наполы розделити мають. Ведь же хто бы ся ку такому найденью кладу не знати хотел, а тот, хто бы того искал, бралсе до присеги, тогды тая противная сторона, на ком ищуть, ближшая будеть от того отприсягнутися, же не нашол*”[7].

Як відаць з прыведзенага артыкула, адносна Дуляцкага дзейнічала тая ж формула, г.зн., ён павінен быў аддаць палову знойдзенага, паколькі ў прывілеі размова ідзе пра дзяржаўныя землі, а дакладней, уладанні караля: “*на грунтах фальваркаў нашых*”, што азначала найперш – на землях Гарадзенскай эканоміі і каралеўскіх двароў.

Такім чынам, частку (палову) адшуканых рэчаў “*золата, срэбра, грошай і падобнага, ці перлаў і каштоўных камянёў*” належала аддаць у скарб Вялікага Княства Літоўскага. Пра знаходкі Дуляцкаму трэба было паведаміць падскарбію ВКЛ, эканому двароў гарадзенскага староства і магістрату Гародні. Фактам застаецца таксама тое, што Дуляцкі абавязваўся паінфармаваць пра адшуканае персанальна Фёдара Скуміна Тышкевіча, падскарбія ВКЛ, і Стэфана Бяляўскага, эканома двароў Гарадзенскага староства. Што можа сведчыць пра пэўнае абмежаванне Дуляцкага ў тэрмінах пошуку. Дарэчы, Тышкевіч займаў урад падскарбія толькі да 1590 г.[8] З С. Бяляўскім сітуацыя выглядае больш заблытанай. Памёр Бяляўскі ў 1596 г., але на пасадзе гарадзенскага неваднічага, а вось да якога часу ён выконваў функцыі “***эканома двароў Гарадзенскага староства”*** невядома[9].

З’яўленне гэтага прывілея было выклікана не толькі ініцыятывай Дуляцкага, але і жаданнем манарха любымі шляхамі здабыць грошы. Акурат у пачатку 1588 г. скончылася вайна Жыгімонта Вазы са сваім канкурэнтам на пасаду караля і вялікага князя – Максіміліянам Габсбургам, і пераможнае войска належала ўзнагародзіць, а грошай у Жыгімонта бракавала. Таму спатрэбіліся ўсе магчымыя сродкі, нават кляйноты памерлага Стэфана Баторыя, якія знаходзіліся ў Гародні[10]. Не выпадае сумнявацца, што ў гэтым становішчы самыя экзатычныя

